УДК 808.26-3
ББК 81.2Бел-4
Б90

Аўтар-складальнік:
*Булыка А. М.*, д-р філал. навук, праф.,
чл.-кар. НАН Беларусі

Рэцэнзент:
*Л. П. Баршчэўскі*, канд. філал. навук

Выданне падрыхтавана
пры дапамозе ПВУП «РАДЫЁЛА-плюс»

Булыка А. М.
Б90 Слоўнік іншамоўных слоў. Актуальная лексіка/Аўт.-склад. А. М. Булыка.— Мн.: ТАА «Харвест», 2005.— 336 с.
ISBN 985-13-2635-6.

Слоўнік змяшчае каля 4000 іншамоўных слоў, што сталі актуальнымі ў беларускай мове на працягу 2-х апошніх дзесяцігоддзяў. Аснову яго складаюць новыя лексічныя адзінкі, запазычаныя ў сувязі са зменамі ў грамадска-палітычнай, эканамічнай, культурнай і іншых сферах жыцця. З вядомых раней лексем прыводзяцца толькі тыя, якія набылі дадатковыя, пераважна пераносныя значэнні або шырокае ўжыванне ў сучасных сродках масавай інфармацыі.

Разлічаны на школьнікаў, навучэнцаў, абітурыентаў, студэнтаў, а таксама настаўнікаў і выкладчыкаў, усіх, хто цікавіцца пытаннямі роднай мовы.

УДК 808.26-3
ББК 81.2Бел-4

ISBN 985-13-2635-6

# СТРУКТУРА СЛОЎНІКА

Слоўнік змяшчае каля 4000 іншамоўных слоў, што сталі актуальнымі ў беларускай мове на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў. Аснову яго складаюць новыя лексічныя адзінкі, запазычаныя ў сувязі са зменамі ў грамадска-палітычнай, эканамічнай, культурнай і іншых сферах жыцця. З вядомых раней лексем прыводзяцца толькі тыя, якія набылі дадатковыя, пераважна пераносныя значэнні або шырокае ўжыванне ў сучасных сродках масавай інфармацыі.

Усе гэтыя словы, з'яўляючыся загаловачнымі ў слоўнікавых артыкулах, размешчаны ў алфавітным парадку і надрукаваны тлустымі (чорнымі) літарамі. Націскныя галосныя ў іх, акрамя літары ё, забяспечаны знакам націску. У выпадках, калі слова мае дваякі націск, то фіксуюцца абодва (напр. **СТА́ТУ́Т**).

Калі загаловачнае слова мае два варыянты напісання, то абодва падаюцца праз коску і, акрамя таго, другі варыянт на сваім алфавітным месцы адсылаецца да слоўнікавага артыкула, які пачынаецца з першага варыянта: **КАЙФ, КЕЙФ...; КЕЙФ** гл. ***кайф.***

Загаловачныя словы-амонімы памячаюцца арабскімі лічбамі зверху справа: **ПО́МПА$^1$** і **ПО́МПА$^2$**.

Пасля загаловачных слоў у дужках даецца ўказанне на паходжанне слова (этымалогія). Прыводзіцца звычайна іншамоўная першакрыніца, а калі ёсць дастатковыя навуковыя падставы, то і звесткі аб мовах-пасрэдніках.

Калі змешчанае ў этымалагічнай даведцы іншамоўнае слова супадае ў значэнні з загаловачным, яно не тлумачыцца: **ПРЭ́СА** (*фр.* presse)... Пры розных значэннях загаловачнага слова і іншамоўнага слова, якое паслужыла крыніцай запазычвання, апошняе даецца з тлумачэннем: **СЭ́РВІС** (*англ.* service = служба)...

У лацінскіх і старажытнагрэчаскіх словах, калі аснова іх па назоўным склоне няясная, прыводзіцца побач форма роднага склону, якая выяўляе чыстую аснову слова: **РЭ́ГЕНТ** (*лац.* regens- -ntis = які кіруе)...; **ЭГІ́ДА** (*гр.* aigis, -gidos = шчыт Зеўса ў старажытнагрэчаскай міфалогіі)...

Паміж прыведзенымі ў дужках двума іншамоўнымі адпаведнікамі загаловачнага слова (словам-пасрэднікам і словам-крыніцай), а таксама калі ў этымалагічнай даведцы, акрамя іншамоўнага адпаведніка, прыводзіцца і яго этымон (зыходнае слова) або ёсць толькі этымон загаловачнага слова, звычайна ўжываецца прыназоўнік «ад»: **РЫ́ЗЫКА** (*польск.* ryzyka, ад *іт.* risico)...; **ТРЫ́ЛЕР** (*англ.* thriller, ад thrill = хваляваць)...; **ЭКУМЕНІ́ЗМ** (ад *гр.* oikumene = Сусвет)...

Часам паміж іншамоўнымі адпаведнікамі ставіцца знак <, каб пазбегнуць паўтарэння прыназоўніка «ад»: **ШПІТА́ЛЬ** (*польск.* szpital < *ням.* Spital, ад *лац.* hospitalis = гасцінны, ветлівы)...

Пры складаных словах, утвораных ад двух іншамоўных слоў, падаюцца абодва гэтыя словы са скарочанай назвай мовы і перакладам. Адсутнасць указання на мову перад другім іншамоўным словам сведчыць, што яно паходзіць з той жа крыніцы, што і папярэдняе: **ПСІХАТРЭ́НІНГ** (ад *гр.* psyche = душа + *англ.* training = трэнінг)...; **ФІЛАФАНІ́Я** (ад *гр.* phileo = люблю + phone = = гук)... Гэты ж прынцып захоўваецца і пры падачы складаных іншамоўных адпаведнікаў: **ТРАНСФО́РМЕР** (*англ.* transformer, ад *лац.* trans = праз, за + *англ.* former = складальнік)...; **ХА́Й-РЫНГ** (*англ.* highring, ад high = інтэнсіўны, галоўны + + ring = круг)...

Словы тлумачацца ў даступнай форме, але такім чынам, каб іх сэнс быў раскрыты поўна і дакладна. Розныя значэнні мнагазначных слоў вылучаюцца лічбамі з дужкай. Часта паўната інфармацыі аб слове дасягаецца адсылкай да іншых слоў шляхам выдзялення іх курсівам у тэксце тлумачэння. З гэтай жа мэтай выкарыстоўваюцца і стылістычныя паметы накшталт *геагр., іран., перан., філас., юр.* і інш:

**РЭКАРДСМЕ́Н** (*англ.* recordsman) — 1) спартсмен, які ўстанавіў *рэкорд*; 2) *перан.* чалавек, які дасягнуў найбольшых поспехаў у чым-н.

Калі загаловачнае слова паўтараецца ў тэксце артыкула ў нязменнай форме, то яно абазначаецца першай літарай гэтага слова з кропкай, а калі змяняецца граматычная форма, то назоўнікі ў гэтым выпадку даюцца поўнасцю, а прыметнікі абазначаюцца першай літарай і праз злучок даецца канчатак: прэтэнзія — п. на спадчыну, заявіць прэтэнзію; рэспектабельны — р. выгляд, р-ая фірма.

Пасля тлумачэнняў у неабходных выпадках даюцца ілюстрацыі ў выглядзе кароткіх свабодных або ўстойлівых выразаў, пры гэтым першыя прыводзяцца ў дужках, а другія выдзяляюцца курсівам і тлумачацца:

**САРКАСТЫ́ЧНЫ** (*гр.* sarkastikos) — які выражае *сарказм*, прасякнуты сарказмам (напр. с. тон).

**ФІНТ** (*ням.* Finte, ад *іт.* finta = прытворства, выдумка) — 1) *сп.* падманны рух, фальшывы выпад; 2) *пераи.* хітры выкрутас; *выкінуць фінт* — зрабіць што-н. хітрае, нечаканае.

Па магчымасці звязваюцца паміж сабой тэрміны, якія характарызуць адну і тую ж з'яву з розных бакоў або абазначаюць антанімічныя з'явы. У канцы слоўнікавага артыкула (або значэння) у дужках або пасля кропкі з коскай даецца спасылка на такі тэрмін пры дапамозе памет параўн., проціл.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*анат.* — анатомія
*англ.* — англійскі
*ар.* — арабскі
*архіт.* — архітэктура
*астр.* — астраномія
*афр.* — афрыканскі
*біял.* — біялогія
*ваен.* — ваенная справа
*гал.* — галандскі
*геагр.* — геаграфія
*геал.* — геалогія
*гіст.* — гістарызм
гл. — глядзі
*гр.* — старажытнагрэчаскі
*груз.* — грузінскі
*дыпл.* — дыпламатыя
*жарг.* — жарганізм
*жарт.* — жартаўлівы
і г. д. — і гэтак далей
і інш. — і іншыя
*інд.* — індыйскі
*індз.* — індзейскі
*інф.* — інфарматыка
*іран.* — іранічнае
*ісп.* — іспанскі
*іт.* — італьянскі
*кам.* — камерцыйная справа
*кельц.* — кельцкі
*кіт.* — кітайскі
*лац.* — лацінскі
*лінгв.* — лінгвістыка
літ. — літоўскі
*літ.* — літаратуразнаўства
*літар.* — літаральна
*лог.* — логіка
*манг.* — мангольскі
*мат.* — матэматыка
*мед.* — медыцына
*мет.* — металургія
*метэар.* — метэаралогія
*мн.* — множны лік
*муз.* — музыка
-н. — небудзь
напр. — напрыклад
*нарв.* — нарвежскі
*н.-лац.* — навукова-лацінскі
н. э. — нашай эры
*ням.* — нямецкі
*паліг.* — паліграфія
*палінез.* — палінезійскі
параўн. — параўнай
*парт.* — партугальскі
*паэт.* — паэтыка
*перан.* — пераноснае значэнне
*перс.* — персідскі
*п.-лац.* — познелацінскі
*польск.* — польскі
проціл. — проціледглы
*псіх.* — псіхалогія
*разм.* — размоўнае слова
*рус.* — рускі
*санскр.* — санскрыт
*с.-в.-ням.* — сярэдневерхненямецкі
*с.-лац.* — сярэднелацінскі
*сп.* — спорт
ст., стст. — стагоддзе, стагоддзі
*ст.-яўр.* — старажытнаяўрэйскі
*тур.* — турэцкі
*тыбецк.* — тыбецкі
*тэатр.* — тэатральны
*уст.* — устарэлы
*фіз.* — фізіка
*філас.* — філасофія
*фін.* — фінскі
*фр.* — французскі
*хім.* — хімія
*цюрк.* — цюркскі
*чэш.* — чэшскі
*шв.* — шведскі
*экан.* — эканоміка
*эсп.* — эсперанта
*юр.* — юрыспрудэнцыя
*яп.* — японскі
*яўр.* — яўрэйскі

## БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **А а** | **Ё ё** | **О о** | **Ц ц** |
| **Б б** | **Ж ж** | **П п** | **Ч ч** |
| **В в** | **З з** | **Р р** | **Ш ш** |
| **Г г** | **І і** | **С с** | **Ы ы** |
| **Д д** | **Й й** | **Т т** | **Ь ь** |
| **Дж дж** | **К к** | **У у** | **Э э** |
| **Дз дз** | **Л л** | **Ў ў** | **Ю ю** |
| **Е е** | **М м** | **Ф ф** | **Я я** |
| | **Н н** | **Х х** | |

*Заўвага.* Афрыкаты дж і дз пры размяшчэнні слоў у алфавітным парадку разглядаюцца кожная як дзве літары. Апостраф пад увагу не прымаецца.

# А

**АБА́ЗІЯ** (*н.-лац.* abasia, ад *гр.* a- = не + basis = хада) — *мед.* страта здольнасці хадзіць у выніку захворвання нервовай сістэмы (параўн. *астазія*).

**АБАЛІ́ЦЫЯ** (*лац.* abolitio = знішчэнне, скасаванне) — 1) скасаванне закону, рашэння; 2) *юр.* прыпыненне крымінальный справы на стадыі, калі вінаватасць падследнага яшчэ не даказана.

**АБАЛІЦЫЯНІ́ЗМ** (*англ.* abolitionism, ад *лац.* abolitio = знішчэнне, скасаванне) — 1) грамадскі рух за адмену якога-н. закону; 2) *гіст.* рух за адмену рабства неграў у ЗША ў XVIII—XIX стст.

**АБАНЕМЕ́НТ** (*фр.* abonnement) — 1) права на карыстанне пэўны час чым-н. (напр. тэлефонам, месцам у тэатры, басейнам), а таксама дакумент, які забяспечвае гэта права; 2) аддзел бібліятэкі, дзе кнігі выдаюцца на дом.

**АБАНЕ́НТ** (*ням.* Abonnent, ад *фр.* abonné) — 1) асоба, якая карыстаецца *абанементам* 1; 2) асоба або ўстанова, якія маюць тэлефон (напр. а. не адказвае).

**АБАРЫГЕ́НЫ** (*фр.* aborigène < *лац.* aborigines, ад ab origine = ад пачатку) — 1) карэнныя жыхары якой-н. краіны, мясцовасці ў адрозненне ад пазнейшых перасяленцаў; 2) тое, што і *аўтахтоны* 1.

**АБА́Т** (*лац.* abbas, -atis) — настаяцель каталіцкага мужчынскага манастыра.

**АБАТЫ́СА** (*лац.* abbatissa) — настаяцельніца каталіцкага жаночага манастыра.

**АБДУ́КТАР** (*н.-лац.* abductor, ад *лац.* abducere = адводзіць) — *анат.* адводная мышца (параўн. *аддуктар*).

**АБ'Е́КТ** (*лац.* objectus = прадмет) — 1) *філас.* усё тое, што складае частку знешняга, матэрыяльнага свету, існуе незалежна ад нашай свядомасці; 2) з'ява, прадмет, на якія накіравана пэўная дзейнасць (напр. а. назірання); 3) прадпрыемства, будоўля, асобны ўчастак чаго-н. як месца чалавечай дзейнасці (напр. а. будаўніцтва, ваенны а.).

**АБ'ЕКТЫ́Ў** (*с.-лац.* objectivus = які адносіцца да прадмета) — частка аптычнага прыбора (напр. фотаапарата, тэлескопа), якая скадаецца з лінзы ці сістэмы лінз.

**АБ'ЕКТЫ́ЎНЫ** (*с.-лац.* objectivus = які адносіцца да прадмета) — 1) *філас.* незалежны ад чалавечай свядомасці (напр. а-ая рэальнасць); 2) бесстаронні, непрадузяты (проціл. *суб'ектыўны* 2).

**АБЕРА́ЦЫЯ** (*лац.* aberratio = адхіленне) — 1) *астр.* уяўнае адхіленне нябесных свяціл ад іх сапраўднага месцазнаходжання, якое выклікаецца рухам Зямлі вакол Сонца; 2) *фіз.* скажэнне або недастатковая выразнасць паказанняў аптычных прыбораў (напр. сферычная а., храматычная а.); 3) *біял.* адхіленне ад нормы ў будове арганізма або ў функцыі асобных органаў; 4) *перан.* памылка, адхіленне ад ісціны.

**АБЗА́Ц** (*ням.* Absatz) — 1) водступ управа (чырвоны радок) у пачатку тэксту або яго часткі; 2) адносна закончаная ў сэнсавых адносінах частка тэксту ад аднаго чырвонага радка да наступнага.

**АБІТУРЫЕ́НТ** (*ням.* Abiturient, ад *с.-лац.* abituriens, -ntis = гатовы пайсці, пакінуць) — асоба, якая паступае ў вышэйшую або сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову.

**АБЛІ́ГА** (*іт.* obligo, ад *лац.* obligo = абавязваю) — 1) сума запазычанасці па *вэксалях*; 2) банкаўская кніга асабістых рахункаў, у якой улічваецца запазычанасць па вэксалях.

**АБЛІГА́ТНЫ** (*лац.* obligatus) — абавязковы (напр. а-ая ўмова).

**АБЛІГА́ЦЫЯ** (*лац.* obligatio = абавязацельства) — каштоўная папера, якая дае яе трымальніку даход у выглядзе працэнтаў ад яе намінальнай вартасці або выйгрышу.

**АБО́РТ** (*лац.* abortus = выкінуты) — 1) дачаснае самаадвольнае або наўмыснае спыненне цяжарнасці; 2) *інф.* спыненне работы праграмы на ЭВМ у выніку якіх-н. парушэнняў зададзенага рэжыму.

**АБРАГА́ЦЫЯ** (*лац.* abrogatio) — 1) скасаванне ўстарэлага закону; 2) скасаванне або змена ранейшай дамоўленасці.

**АБРАКАДА́БРА** (*п.-лац.* abracadabra, ад *гр.* abrakos = абазначэнне бажаства + *ст.-яўр.* dabar = слова) — 1) магічная формула, таямнічае слова, якому прыпісваецца цудадзейная сіла; 2) *перан.* бяссэнсавы, незразумелы набор слоў.

**АБРЫ́С** (*ням.* Abriß) — 1) лінія, якая ачэрчвае знешнюю форму прадмета; контур; 2) *перан.* агульная характарыстыка, беглы агляд чаго-н.

**АБРЭВІЯТУ́РА** (*іт.* abbreviatura, ад *лац.* abbreviare = скарачаць) — слова, утворанае з пачатковых частак, пачатковых літар або гукаў некалькіх слоў, напр. *лясгас* (лясная гаспадарка), *ЦУМ* (Цэнтральны універсальны магазін).

**АБРЭЖЭ́** (*фр.* abrégé, ад abréger = скарачаць) — выпіс з твора, скарочаны пераказ.

**АБСАЛЮ́Т** (*лац.* absolutus = неабмежаваны, самастойны) — 1) тое, што ні ад чаго не залежыць; 2) вечная, нязменная першааснова свету (дух, бог, ідэя) у ідэалістычнай філасофіі і рэлігіі.

**АБСАЛЮ́ТНЫ** (*лац.* absolutus = неабмежаваны, самастойны) — 1) безадносны, узяты без параўнання з чым-н. (напр. а. прырост насельніцтва); 2) неабмежаваны, поўны (напр. а-ая цішыня); *а-ая большасць* — амаль усе; *а-ая велічыня* — лік, узяты без знака плюс або мінус; *а-ая ісціна* — вычарпальнае веданне аб'ектыўнай рэальнасці; *а. нуль* — самая нізкая магчымая тэмпература (−273,16°C); *а. слых* — здольнасць дакладна вызначаць на слых любую ноту; *а. чэмпіён* — спартсмен, які набраў найбольшую колькасць ачкоў у мнагабор'і.

**АБСАЛЮТЫ́ЗМ** (*фр.* absolutisme, ад *лац.* absolutus = поўны, неабмежаваны) — форма дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўная ўлада належыць адной асобе; неабмежаваная манархія, самадзяржаўе.

**АБСА́НС** (*фр.* absence = адсутнасць) — раптоўны кароткачасовы несвядомы стан, які ўзнікае пры некаторых формах *эпілепсіі.*

**АБСЕНТЭІ́ЗМ** (*фр.* absentéisme, ад *лац.* absens, -ntis = які адсутнічае) — ухіленне ад выканання грамадскіх абавязкаў, напр. ад удзелу ў выбарах, сходах.

**АБСЕРВАТО́РЫЯ** (*н.-лац.* observatorium, ад *лац.* observare = назіраць) — навуковая ўстанова, у якой з дапамогай спецыяльных прыбораў вядуцца астранамічныя, геафізічныя, метэаралагічныя назіранні.

**АБСЕ́СІІ** (*с.-лац.* obsessio) — міжвольныя думкі, успаміны, сумненні, якія суправаджаюцца ўсведамленнем іх хваравітасці і цяжкім пачуццём неадольнасці.

**АБСКУРАНТЫ́ЗМ** (*ням.* Obskurantismus, ад *лац.* obscurans, -ntis = які зацямняе) — крайне варожыя адносіны да асветы, навукі, прагрэсу, да ўсяго новага і перадавога; цемрашальства.

**АБСТРА́КТНЫ** (*лац.* abstractus) — адцягнены, неканкрэтны (проціл. *канкрэтны*).

**АБСТРА́КЦЫЯ** (*лац.* abstractio) — 1) адцягненне ў думках ад неістотных уласцівасцей, якасцей, сувязей прадметаў ці з'яў з мэтай выдзеліць іх найбольш істотныя прыкметы; 2) адцягненае паняцце, тэарэтычнае абагульненне.

**АБСТРАКЦЫЯНІ́ЗМ** (*фр.* abstractionnisme, ад *лац.* abstractus = адцягнены) — напрамак у выяўленчым мастацтве, прадастаўнікі якога адлюстроўваюць рэальны свет у выглядзе спалучэнняў ліній, мазкоў, плям.

**АБСТРУ́КЦЫЯ** (*лац.* obstructio = перашкода) — метад барацьбы, звычайна парламенцкай, які выражаецца ў наўмысным зацягванні або зрыве пасяджэнняў, непажаданых рашэнняў шляхам выкрыкаў, выступленняў з доўгімі прамовамі і інш.

**АБСТРУКЦЫЯНІ́ЗМ** (*фр.* obstructionnisme, ад *лац.* obstructio = перашкода) — сістэма палітычнай барацьбы шляхам *абструкцый.*

**АБСТЫНЕ́НТ** (*лац.* abstinens, -ntis = які ўстрымліваецца) — асоба, якая ўстрымліваецца ад чаго-н., пераважна ад ужывання спіртных напіткаў.

**АБСУ́РД** (*фр.* absurde, ад *лац.* absurdus = недарэчны) — недарэчнасць, бязглуздзіца.

**АБСЦЭ́С** (*лац.* abscessus) — *мед.* гнойны нарыў; збіранне гною ў органах або тканках, выкліканае запаленчым працэсам (напр. а. лёгкага).

**АБУЛІ́Я** (*гр.* abulia = нерашучасць) — *псіх.* расслабленне або страта волі, выкліканыя нервовым захворваннем або launch ператамленнем; бязволле.

**АБ'ЮРА́ЦЫЯ** (*лац.* abjuratio) — публічнае адрачэнне ад веры або ад сваіх перакананняў.

**АВА́Л** (*фр.* ovale, ад *лац.* ovum = яйцо) — абрыс чаго-н. у выглядзе круга, які нагадвае па форме яйцо ў падоўжаным разрэзе.

**АВА́ЛЬ** (*фр.* aval) — вэксальнае паручыцельства, зробленае трэцяй асобай у выглядзе гарантыйнага запісу.

**АВАНГА́РД** (*фр.* avant-garde, ад avant = наперадзе + garde = ахова) — 1) частка войска (або флоту), якая знаходзіцца наперадзе галоўных сіл у паходзе і пры наступленні (проціл. *ар'ергард*); 2) *перан.* передавая частка якой-н. грамадскай групы, класа.

**АВАНГАРДЫ́ЗМ** (*фр.* avant-gardisme) — 1) імкненне якой-н. грамадскай групы мець вяршэнства ў чым-н.; 2) агульная назва мастацкіх плыней, якім уласцівы разрыў з традыцыяй рэалістычнага мастацкага вобраза, пошукі новых сродкаў выяўлення і фармальнай структуры твора (у сваіх крайніх формах змыкаецца з *дэкадэнцтвам, мадэрнізмам, абстракцыянізмам*).

**АВАНЗА́ЛА** (*фр.* avant-salle, ад avant = наперадзе + salle = зала) — памяшканне перад галоўнай залай у грамадскіх будынках, палацах.

**АВА́НС** (*фр.* avance) — 1) грашовая сума, якая выдаецца папярэдне ў лік будучых плацяжоў; 2) *перан.* абяцанне, якое неабходна пацвердзіць у будучым.

**АВАНСЦЭ́НА** (*фр.* avant-scène, ад avant = наперадзе + scène = сцэна) — *тэатр.* пярэдняя частка *сцэны* 1, паміж заслонай і *рампай* (проціл. *ар'ерсцэна*).

**АВАНТУ́РА** (*фр.* aventure = прыгода) — рызыкоўная падазроная справа, распачатая ў разліку на выпадковы поспех.

**АВАНТЫ́ТУЛ** (ад *фр.* avant = наперадзе + *лац.* titulus = надпіс) — першая старонка кнігі, якая папярэднічае *тытулу* 3.

**АВА́РЫЯ** (*іт.* avaria, ад *ар.* 'avar = пашкоджанне, шкода) — 1) моцнае пашкоджанне якога-н. механізма, машыны ў час работы, руху; 2) *перан.* няўдача, правал якой-н. справы.

**АВА́ЦЫЯ** (*лац.* ovatio = радасць, весялосць) — бурныя, працяглыя *апладысменты*, якія суправаджаюцца радаснымі воклічамі, з выпадку адабрэння чаго-н. або прывітання каго-н.

**АВЕНЮ́** (*фр.* avenue, ад *лац.* advenire = прыязджаць) — шырокая вуліца, абсаджаная з абодвух бакоў дрэвамі (у Францыі, Англіі, ЗША).

**АВЕРБО́Т** (*англ.* overbought) — рэзкае павышэнне рыначных цэн на які-н. тавар у выніку значнага росту попыту на яго (параўн. *аверсолд*).

**АВЕРДРÁФТ** (*англ.* overdraft) — выдзяленне банкам кліенту кароткатэрміновага *крэдыту*, які перавышае сродкі на рахунку кліента.

**АВÉРС** (*фр.* avers, ад *лац.* adversus = павернуты тварам) — правы (галоўны) бок манеты, медаля (параўн. *рэверс* 2).

**АВЕРСÓЛД** (*англ.* oversold) — сітуацыя рэзкага зніжэння цэн на які-н. тавар у выніку паступлення яго ў вялікай колькасці на рынак (параўн. *авербот*).

**АВЕРТÁЙМ** (*англ.* overtime, ад over = звыш + time = час) — *сп.* дадатковы час (у хакеі, футболе), які назначаецца пасля асноўнага часу гульні ў выпадку, калі неабходна выявіць каманду-пераможцу.

**АВÍЗА** (*іт.* avviso) — паведамленне аб зменах ва ўзаемных разліках, аб пераводзе грошай, адпраўцы тавараў, якое пасылаецца адным *контрагентам* другому.

**АВÍСТА** (*іт.* a vista = пасля прад'яўлення) — надпіс на *вэксалі*, які сведчыць, што гэты дакумент можа быць аплачаны пасля прад'яўлення або праз пэўны тэрмін.

**АВІТАМІНÓЗ** (*фр.* avitaminose, ад *гр.* а- = не, без + *лац.* vita = жыццё) — хвароба, якая развіваецца пры адсутнасці або недахопе вітамінаў у ежы.

**АВІЯЦЫЯ** (*фр.* aviation, ад *лац.* avis = птушка) — 1) тэорыя і практыка перамяшчэння ў паветры на лятальных апаратах (самалётах, верталётах, планёрах); 2) сукупнасць ваенных або грамадзянскіх лятальных апаратаў, паветраны флот.

**АВІЯШÓУ** (ад *лац.* avis = птушка + *англ.* show = відовішча, паказ) — святочнае відовішча з удзелам спартыўных самалётаў.

**АВУÁРЫ** (*фр.* avoirs, ад avoir = мець, валодаць) — 1) грашовыя сродкі, *чэкі, вэксалі, акрэдытывы*, якімі правадзяць плацяжы; 2) сродкі банка ў каштоўных паперах і *валюце* на яго рахунках у замежных банках; 3) уклады прыватных асоб і арганізацый у банках.

**АГАНІЗАВÁЦЬ** (*фр.* agoniser, ад *с.-лац.* agonia = агонія < *гр.* agonia = трывога) — быць у стане *агоніі*, канаць.

**АГАРАФÓБІЯ** (ад *гр.* agora = плошча + phobos = страх) — *мед.* паталагічная боязь адкрытай прасторы; страх, які ўзнікае пры пераходзе праз шырокія плошчы, вуліцы.

**АГЕ́НДА** (*англ.* agenda = парадак дня) — пералік пытанняў, якія належыць абмеркаваць на нарадзе, дзелавой сустрэчы.

**АГЕ́НТ** (*ням.* Agent, ад *лац.* agens, -ntis = які дзейнічае) — 1) асоба, упаўнаважаная ўстановай, прадпрыемствам, арганізацыяй для выканання службовых даручэнняў (напр. страхавы а.); 2) чый-н. стаўленік, прыслужнік; 3) супрацоўнік вышукной або разведвальнай службы; 4) прычына, якая выклікае тыя або іншыя з'явы (у прыродзе, арганізме і інш.).

**АГЕНТУ́РА** (*ням.* Agentur, ад *лац.* agens, -ntis = які дзейнічае) — 1) сукупнасць *агентаў* якой-н. установы, прадпрыемства або арганізацыі; 2) сетка агентаў, якая ствараецца разведвальнай службай для збірання сакрэтных звестак і правядзення падрыўной работы.

**АГЕ́НЦТВА** (ад *ням.* Agent < *лац.* agens, -ntis = які дзейнічае) — 1) прадстаўніцтва, аддзяленне якой-н. установы ці прадпрыемства (напр. транспартнае а.); 2) установа інфармацыйнага, пасрэдніцкага характару (напр. а. «Інтэрфакс»).

**АГІТА́ЦЫЯ** (*ням.* Agitation, ад *лац.* agitatio = прывядзенне ў рух) — 1) палітычная дзейнасць, звязаная з уздзеяннем на свядомасць і настрой мас шляхам распаўсюджання (вусна і праз друк) праграмных ідэй, лозунгаў; 2) *перан.* пераконванне ў чым-н., угаворванне з мэтай схіліць да чаго-н.

**АГЛАМЕРА́Т** (*лац.* agglomeratus = назапашаны) — 1) рыхлае скапленне абломкаў горных парод і мінералаў; 2) *мет.* спечаная ў кавалкі дробная або пылападобная руда; 3) гарадская структура, якая ўтварылася ў выніку зліцця некалькіх дробных населеных пунктаў.

**АГЛАМЕРА́ЦЫЯ** (*лац.* agglomeratio = злучэнне) — 1) *мет.* атрыманне вялікіх кавалкаў з рыхлых дробных руд, пылападобных матэрыялаў шляхам спякання; 2) утварэнне скапленняў мікраарганізмаў у вадкасці; 3) зліццё гарадоў і іншых населеных пунктаў у адно гарадское пасяленне.

**АГНАСТЫЦЫ́ЗМ** (*англ.* agnosticism, ад *гр.* agnostos = непазнавальны) — філасофскае вучэнне, якое адмаўляе магчымасць пазнання аб'ектыўнага свету і яго заканамернасцей (параўн. *скептыцызм* 1).

**АГНО́ЗІЯ** (*гр.* agnosia = няведанне) — *мед.* парушэнне працэсаў распазнавання прадметаў, з'яў у выніку паражэння кары галаўнога мозгу.

**АГНО́СТЫК** (*англ.* agnostic, ад *гр.* agnostos = непазнавальны) — паслядоўнік *агнастыцызму*.

**АГО́НІЯ** (*с.-лац.* agonia, ад *гр.* agonia = трывога) — 1) перадсмяротны стан арганізма; перадсмяротныя мукі; 2) *перан.* заняпад, дажыванне чаго-н. (напр. а. злачыннай дыктатуры).

**АГРАБІ́ЗНЕС** (ад *лац.* ager = поле + *англ.* business = бізнес) — сектар рыначнай эканомікі, звязаны з працэсамі сельскагаспадарчай вытворчасці, захоўвання, размеркавання і апрацоўкі яе прадуктаў.

**АГРАВА́ЦЫЯ** (*лац.* aggrovatio = абцяжарванне) — *мед.* перабольшванне хворым сімптомаў захворвання.

**АГРАКУЛЬТУ́РА** (ад *лац.* ager = поле + cultura = культура) — сукупнасць мерапрэмстваў, накіраваных на паляпшэнне культуры земляробства.

**АГРАМА́НТ** (*фр.* agrément = аздоба) — аздабленне штор, мяккай мэблі, зробленае з плеценага шнура.

**АГРАМАТЫ́ЗМ** (ад *гр.* agrammatos = неразборлівы) — парушэнне моўнай дзейнасці ў выніку паражэння пэўных зон кары галаўнога мозгу.

**АГРА́РНЫ** (*лац.* agrarius = зямельны) — 1) звязаны з уладаннем зямлёй і землекарыстаннем (напр. а-ая рэформа); 2) які характарызуецца перавагай сельскагаспадарчай вытворчасці (напр. а. раён).

**АГРА́РЫЙ** (*лац.* agrarius = зямельны) — 1) буйны землеўладальнік; 2) спецыяліст па сельскай гаспадарцы; 3) член аграрнай палітычнай партыі.

**АГРАФІ́РМА** (ад *лац.* ager = поле + *ням.* Firma = фірма) — прадпрыемства па вытворчасці і рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі.

**АГРА́ФІЯ** (ад *гр.* а- = не + grapho = пішу) — *мед.* страта здольнасці пісаць у сувязі з паражэннем пэўных аддзелаў галаўнога мозгу (параўн. *алексія*).

**АГРЭГА́Т** (*фр.* agrégat, ад *лац.* aggregatus = злучаны, сабраны) — 1) спалучэнне securelyрознатыповых машын, апаратаў у адну канструкцыю для сумеснай работы (напр. трубапракатны а.); 2) асобная, вузлавая частка складанай машы-

ны, напр. рухавік аўтамабіля; 3) *геал.* сукупнасць мінералаў, якія складаюць горную пароду.

**АГРЭМА́Н** (*фр.* agrément = згода) — *дыпл.* папярэдняя згода ўрада дзяржавы прыняць асобу, прапанаваную іншай дзяржавай у якасці яе дыпламатычнага прадстаўніка.

**АГРЭ́САР** (*лац.* aggressor) — той, хто ажыццяўляе *агрэсію*; захопнік.

**АГРЭ́СІЯ** (*лац.* aggressio = напад) — 1) узброены напад адной ці некалькіх дзяржаў на іншыя з мэтай захопу іх тэрыторый і гвалтоўнага падпарадкавання сваёй уладзе; 2) актыўныя варожыя паводзіны аднаго чалавека ў адносінах да другіх.

**АДАПТА́ЦЫЯ** (*лац.* adaptatio = прыстасаванне) — 1) прыстасаванне арганізма, органаў пачуццяў да змен у навакольным асяроддзі, напр. прызвычаенне вачэй да цемнаты; 2) спрашчэнне тэксту, часцей за ўсё іншамоўнага, для малападрыхтаваных чытачоў.

**АДА́ПТЭР** (*англ.* adapter, ад *лац.* adaptare = прыстасоўваць) — устройства для ўзнаўлення гукавога запісу праз узмацняльнік; 2) дадатковая *касета* да фотаапарата, якая дае магчымасць выкарыстоўваць нестандартныя святлоадчувальныя матэрыялы.

**АДАРА́НТЫ** (*лац.* odorans, -ntis = пахучы) — пахучыя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца для *адарызацыі.*

**АДАРЫЗА́ЦЫЯ** (ад *лац.* odorare = рабіць пахучым) — 1) дадаванне да газу пахучых рэчываў, якія б сігналізавалі пра яго выцяканне з газаправода або пасудзіны; 2) распыленне ў паветры памяшкання рэчываў з прыемным пахам.

**АДА́Т** (*ар.* adat) — няпісаны закон, звычай у народаў, якія вызнаюць *іслам* (лічыцца дадаткам да *шарыяту*).

**АДВАКА́Т** (*лац.* advocatus) — 1) юрыст, які абараняе на судзе інтарэсы абвінавачанага; абаронца; 2) *перан.* той, хто заступаецца за каго-н.

**АДДУ́КТАР** (*н.-лац.* adductor, ад *лац.* adducere = прыводзіць) — *анат.* прыводная мышца (параўн. *абдуктар*).

**А ДЖО́РНА** (*іт.* a giorno) — штучнае асвятленне, якое імітуе дзённае святло.

**АДЗЮЛЬТЭ́Р** (*фр.* adultère, ад *лац.* adulterium = здрада) — сямейная нявернасць, здрада.

**АДМІНІСТРА́ТАР** (*лац.* administrator = распарадчык, кіраўнік) — 1) службовая асоба, якія кіруе прадпрыемствам, установай, арганізацыяй (напр. а. гасцініцы); 2) адказны распарадчык (напр. а. выстаўкі).

**АДМІНІСТРА́ЦЫЯ** (*лац.* administratio = кіраванне) — 1) кіроўны орган прадпрыемства, установы, арганізацыі, які нясе адказнасць за іх дзейнасць; 2) органы выканаўчай улады дзяржавы; урадавы апарат; 3) адказныя распарадчыкі (напр. а. выстаўкі).

**А́ДРАС** (*фр.* adresse) — 1) месцажыхарства асобы або месцазнаходжанне прадпрыемства, установы, арганізацыі; 2) надпіс на паштовым адпраўленні з указаннем атрымальніка і месца назначэння; 3) пісьмовае прывітанне каму-н. з выпадку юбілею або іншай урачыстай падзеі; 4) код, які вызначае месцазнаходжанне інфармацыі ў памяці *камп'ютэра.*

**АДРАСА́НТ** (*ням.* Adressant, ад *фр.* adresser = пасылаць, накіроўваць) — той, хто пасылае каму-н. паштовае або тэлеграфнае адпраўленне (пісьмо, пасылку, тэлеграму і г. д.); адпраўнік.

**АДРАСА́Т** (*ням.* Adressat, ад *фр.* adresser = пасылаць, накіроўваць) — той, каму адрасавана паштовае або тэлеграфнае адпраўленне (пісьмо, пасылка, тэлеграма і г. д.); атрымальнік.

**АДРЭНАЛІ́Н** (*фр.* adrénaline, ад *лац.* ad = пры + renalis = нырачны) — гармон, які выдзяляецца наднырачнымі залозамі або вырабляецца сінтэтычна; служыць лекавым сродкам.

**АДСТРА́Т** (*лац.* adstratum = напластаванне) — з'явы ў мове карэннага насельніцтва, якія ўзніклі пад уплывам мовы прышэльцаў, а таксама сама мова прышэльцаў (параўн. *субстрат* 2).

**АДУКА́ЦЫЯ** (*лац.* oducatio) — 1) працэс набыцця сістэматызаваных ведаў; навучанне (напр. права на адукацыю); 2) аб'ём ведаў, набытых у выніку навучання (напр. вышэйшая а.).

**АДЫЁЗНЫ** (*лац.* odiosus = ненавісны, агідны) — крайне непрыемны, які выклікае рэзка адмоўныя адносіны да сябе (напр. а-ая асоба).

**АДЫНАМІ́Я** (*гр.* adynamia = бяссілле) — *мед.* амаль поўнае або поўнае спыненне рухальнай актыўнасці чалавека ў выніку галадання, парушэнняў нервовамышачнага апарата; крайні выпадак *гіпадынаміі.*

**АДЫСЕ́Я** (*гр.* Odysseia = героіка-эпічная паэма, аўтарам якой лічаць Гамера) — багатае падзеямі, прыгодамі падарожжа.

**АДЭКВА́ТНЫ** (*лац.* adaequatus = прыраўнаваны) — які поўнасцю супадае, роўны чаму-н. (напр. а-ыя паняцці).

**АДЭ́НДУМ** (*лац.* addendum = тое, што павінна быць дададзена) — дапаўненне да дагавора, якое змяняе або ўдакладняе тыя ці іншыя яго ўмовы.

**АДЭНО́ІДЫ** (ад *гр.* aden = залоза + eidos = выгляд) — *мед.* пухлінападобныя разрастанні лімфатычных утварэнняў насаглоткі.

**АДЭНО́МА** [ад *гр.* aden = залоза + (onk)oma = пухліна] — *мед.* дабраякасная пухліна, якая можа развівацца ў залозістых органах (малочнай, шчытападобнай і іншых залозах).

**АДЭ́ПТ** (*лац.* adeptus = які дасягнуў) — 1) заўзяты паслядоўнік, прыхільнік якога-н. вучэння, ідэі; 2) *уст.* той, хто адкрыў вышэйшыя тайны навукі і мастацтва.

**АД'ЮНКТУ́РА** (*ням.* Adjunktur, ад *лац.* adjunctus = далучаны) — *аспірантура* ў вышэйшых ваенных навучальных установах.

**АЖЫЯТА́Ж** (*фр.* agiotage) — 1) штучна выкліканае хваляванне, узбуджэнне з мэтай прыцягнення ўвагі да чаго-н.; 2) штучнае павышэнне ці паніжэнне курсу біржавых папер або цэн на тавары з мэтай атрымання прыбытку.

**АЗА́РТ** (*фр.* hasard = выпадак, выпадковасць; рызыка, ад *ар.* az-zahr = іральная костка) — моцнае захапленне, заўзятасць, запал (напр. спартыўны а.).

**А́ЗІМУТ** (*фр.* azimut, ад *ар.* as-samt = дарога) — 1) *астр.* вугал паміж плоскасцю мерыдыяна дадзенага пункта і вертыкальнай плоскасцю, якая праходзіць праз гэты пункт і аб'ект назірання; 2) вугал паміж напрамкам руху і напрамкам на поўнач (параўн. *пеленг* 1).

**АЗО́Н** (*гр.* ozon = які пахне) — відазмяненне кіслароду, газ прыемнага паху, які ўтвараецца ў атмасферы пры электрычных разрадах у час навальніцы або пад дзеяннем уль-

трафіялетавых прамянёў (мае моцныя ачышчальныя ўласцівасці).

**АЗО́Т** (*фр.* azote, ад *гр.* a- = не, без + zotikos = які дае жыццё) — газ без колеру і паху, які складае асноўную частку паветра, уваходзіць у склад бялкоў і іншых арганічных рэчываў.

**АЙ-БІ-Э́М** [*англ.* IBM, ад I(nternational) B(usiness) M(ashines) = Міжнародная тэхнічная карпарацыя] — 1) буйная карпарацыя вылічальнай тэхнікі са штаб-кватэрай у ЗША; 2) *камп'ютэр* гэтай карпарацыі.

**АЙКІДО́** (*яп.* ajkido = *літар.* шлях спасціжэння гармоніі) — від усходняга адзінаборства, заснаваны на абарончай тактыцы; самаабарона без зброі.

**АЙКУМЕ́НА** (*гр.* oikumene = уся зямля, ад oikeo = насяляю) — *геагр.* тэрыторыя зямнога шара, населеная людзьмі.

**АЙ-К'Ю́** [*англ.* IQ, ад I(ntelligence) Q(uotient) = каэфіцыент разумовага развіцця] — каэфіцыент разумовага развіцця асобы (вызначаецца шляхам тэсціравання).

**А́ЙСІНГ** (*англ.* icing) — *сп.* пракід шайбы праз усе зоны пры гульні ў *хакей*.

**АЙС-РЭВЮ́** (*англ.* ice revue, ад ice = лёд + revue = відовішча) — балет на лёдзе.

**АКАДЭ́МІК** (*лац.* academicus = акадэмічны) — вучонае званне правадзейнага члена *акадэміі*, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**АКАДЭ́МІЯ** (*лац.* academia, ад *гр.* Akademeia = назва філасофскай школы, заснаванай у IV ст. да н. э. Платонам паблізу Афін) — 1) вышэйшая навуковая або мастацкая ўстанова (напр. Нацыянальная а. навук Беларусі); 2) назва некаторых вышэйшых навучальных устаноў (напр. Ваенна-медыцынская а.).

**АКА́ЗІЯ** (*лац.* occasio = выпадак, падстава) — 1) зручны выпадак для якой-н. справы; 2) непрадбачанае здарэнне.

**АКАМАДА́ЦЫЯ** (*лац.* accomodatio) — прыстасаванне да пэўных умоў, з'яў, абставін (напр. а. вока).

**АКАМПАНЕМЕ́НТ** (*фр.* accompagnement) — 1) музычнае суправаджэнне спеваў, дэкламацыі; 2) *перан.* падзеі, з'явы, якія ствараюць гукавы фон чаму-н. (напр. драмаць пад а. дажджу).

**АКВААЭРО́БІКА** (*англ.* aquaaerobics, ад *лац.* aqua = вада + *гр.* aer = паветра + bios = жыццё) — аздараўленчая рытмічная гімнастыка, якая выконваецца ў вадзе.

**АКВАЛА́НГ** (*англ.* aqualung, ад *лац.* aqua = вада + *англ.* lung = лёгкія) — апарат для дыхання чалавека пад вадой.

**АКВАНА́ЎТ** (ад *лац.* aqua = вада + *гр.* nautes = мараплавец) — даследчык мора, які ў спецыяльным гідракасцюме або ў падводным апараце працуе на глыбінях, недаступных вадалазу.

**АКВА́РЫУМ** (*лац.* aquarium = вадаём) — штучны вадаём або шкляная пасудзіна з вадой для трымання рыб, водных жывёл і раслін.

**АКВАТО́РЫЯ** [*лац.* aquatorium, ад aqua = вада + (terri)torium = тэрыторыя] — участак воднай паверхні мора, вадасховішча або порта ў пэўных межах.

**АКВЕДУ́К** (*лац.* aquaeductus = вадаправод, ад aqua = вада + duco = вяду) — збудаванне ў выглядзе моста для правядзення водаправодных труб цераз глыбокі яр, раку, чыгунку.

**АКІНЕ́ЗІЯ** (*гр.* akinesia = нерухомасць) — *мед.* страта здольнасці да актыўных рухаў у выніку паралічу, болю, пры некаторых псіхічных захворваннях.

**АКЛАМА́ЦЫЯ** (*лац.* acclamatio = крык) — прынядце або адхіленне сходам якой-н. прапановы без падліку галасоў, на падставе рэакцыі ўдзельнікаў сходу, што выяўляецца ў выгуках, розных рэпліках.

**АКЛІМАТЫЗА́ЦЫЯ** [*ням.* Akklimatisation, ад *лац.* ad = да + *гр.* klima, -atos = нахіл (сонечных прамянёў)] — 1) прыстасаванне арганізмаў (раслін, жывёл, чалавека) да жыцця ў новых геаграфічных, пераважна кліматычных, умовах; 2) *перан.* прыстасаванне чалавека да жыцця, працы ў новым асяроддзі.

**А-КО́НТА** (*іт.* a conto = у рахунак) — плацёж, які ажыццяўляецца ў якасці папярэдняга разліку.

**АКО́РД** (*іт.* accordo = згода, сугучнасць) — 1) спалучэнне некалькіх музычнных гукаў рознай вышыні, якое ўспрымаецца як гукавое адзінства; 2) набор струн для смычковага або шчыпковага музычнага інструмента; 3) *перан.* дзеянне, якім што-н. завяршаецца (напр. заключны а.).

**АКРАБА́ТЫКА** (*фр.* acrobatique, ад *гр.* akrobatikos = які лазіць угары) — від спартыўнай або цыркавой гімнастыкі, які ўключае скачкі, стойкі, перавароты, піраміды і іншыя фізічныя практыкаванні.

**АКРЭДЫТА́ЦЫЯ** (*фр.* accréditation, ад *лац.* accredere = даваяраць) — афіцыйнае прызначэнне каго-н. прадстаўніком пры замежным урадзе, пасольстве, прэс-цэнтры або іншай міжнароднай арганізацыі.

**АКРЭДЫТЫ́Ў** (*фр.* accréditif, ад *лац.* accreditivus = даверны) — 1) дакумент на права атрымання кім-н. пэўнай сумы грошай у банку; 2) від банкаўскага рахунку, паводле якога ажыццяўляюцца безнаяўныя разлікі.

**АКСЕЛЕРА́ЦЫЯ** (*лац.* acceleratio = паскарэнне) — 1) паскоранае фарміраванне арганізма або асобных органаў; 2) імклівы рост, паскарэнне якога-н. працэсу (напр. каэфіцыент акселерацыі эканомікі).

**АКСЕСУА́РЫ** (*фр.* accessoires, ад *лац.* accessorium = дабаўленне) — 1) *тэатр.* дробныя рэчы, прадметы сцэнічнага абсталявання; 2) *перан.* прыватнасці, другарадныя дэталі (у жывапісе, скульптуры, літаратуры); 3) дробныя прыналежнасці чаго-н. (напр. а. дамскага туалету).

**АКСІГЕНАТЭРАПІ́Я** (ад *лац.* oxygenum = кісларод + *гр.* therapeia = лячэнне) — штучнае ўвядзенне кіслароду ў арганізм чалавека з лячэбнай мэтай.

**АКСІ́ДЫ** (*фр.* oxydes, ад *гр.* oksys = кіслы) — злучэнні хімічных элементаў з кіслародам; вокіслы.

**АКСІЁМА** (*гр.* aksioma) — 1) палажэнне, якое не патрабуе доказу і прымаецца ў якасці зыходнага прынцыпу якой-н. тэорыі; 2) *перан.* відавочная, агульнавядомая ісціна.

**АКТ** (*лац.* actus) — 1) аднаразовае праяўленне якой-н. дзейнасці, учынак, падзея (напр. тэрарыстычны а.); 2) афіцыйны дакумент, які пацвярджае што-н. (напр. заканадаўчы а., а. экспертызы); 3) закончаная частка драматычнага твора, спектакля (напр. другі а. п'есы).

**АКТА́ВА** (*лац.* octava = восьмая) — 1) *муз.* восьмая ступень *гамы* 1; інтэрвал, які ахоплівае восем ступеней гукарада; 2) *літ.* васьмірадковая страфа, у якой першыя шэсць радкоў аб'яднаны дзвюма перакрыжаванымі рыфмамі, два апошнія — сумежнай рыфмай.

**АКТУА́ЛЬНЫ** (*лац.* actualis) — 1) важны для гэтага моманту, наспелы, надзённы (напр. а-ая тэма); 2) які сапраўды існуе, праяўляецца ў рэчаіснасці (проціл. *патэнцыяльны*).

**АКТЫВІЗА́ЦЫЯ** (*польск.* aktywizacja, ад *лац.* activus = дзейны) — 1) ажыўленне, узмацненне чыёй-н. дзейнасці, актыўнасці; 2) развіццё інтэнсіўных тэктанічных і магматычных працэсаў у стабілізаваных раёнах зямной кары.

**АКТЫ́Ў** (*лац.* activus = дзейны) — 1) найбольш дзейная, ініцыятыўная частка арганізацыі, калектыву; 2) вартасць наяўнай і даўгавой маёмасці, што належыць прадпрыемству (проціл. *пасіў* 2); 3) перавышэнне грашовых даходаў краіны, атрыманых з-за мяжы, над яе замежнымі расходамі (проціл. *пасіў* 3); 4) *перан.* поспехі, дасягненні, перавагі каго-н.

**АКТЫ́ЎНЫ** (*лац.* activus) — 1) дзейны, энергічны (напр а. удзельнік самадзейнасці); 2) які хутка развіваецца (напр. а. працэс у лёгкіх).

**АКУЛЬТУРА́ЦЫЯ** (*англ.* acculturation, ад *лац.* ad = да + cultura = асвета, развіццё) — працэс узаемаўплыву культур, успрымання адным народам культуры іншага народа.

**АКУЛЬТЫ́ЗМ** (*фр.* occultisme, ад *лац.* occultus = тайны, схаваны) — агульная назва містычных вучэнняў, якія прызнаюць існаванне таямнічных, звышнатуральных сіл і магчымасць непасрэдных зносін з імі пры дапамозе *магіі*.

**АКУМУЛЯ́ТАР** (*лац.* accumulator = збіральнік) — прыбор для назапашвання энергіі з мэтай далейшага як выкарыстання (напр. электрычны а., гідраўлічны а.).

**АКУМУЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* accumulatio) — збіранне, назапашванне, канцэнтраванне чаго-н., напр. энергіі, капіталу.

**АКУПА́ЦЫЯ** (*лац.* occupatio) — гвалтоўны захоп войскамі якой-н дзяржавы чужой тэрыторыі.

**АКУПУНКТУ́РА** (*н.-лац.* acupunctura, ад *лац.* acus = іголка + punctura = укол) — метад лячэння іголкаўколваннем; іголкатэрапія.

**АКУ́СТЫКА** (*гр.* akustikos = слыхавы) — 1) раздзел фізікі, які вывучае гукавыя з'явы; 2) чутнасць гукаў (музыкі, гутаркі і інш.) у якім-н. памяшканні (напр. а. канцэртнай залы).

**АКЦЁР** (*фр.* acteur, ад *лац.* actor = выканаўца) — *артыст*, які выконвае ролі ў тэатры і кіно.

**АКЦЫЗ** (*фр.* accise, ад *лац.* accidere = абразаць) — ускосны падатак на тавары шырокага спажывання, які ўключаецца ў іх цану і, такім чынам, перакладаецца на пакупнікоў.

**АКЦЫЯ[1]** (*лац.* actio = дзеянне) — дзеянне, накіраванае на дасягненне якой-н. мэты (напр. дыпламатычная а., палітычная а.).

**АКЦЫЯ[2]** (*фр.* action, ад *лац.* actio = дзеянне) — каштоўная папера, якая сведчыць аб унясенні пэўнага паю ў прадпрыемства і дае права яе ўладальніку на ўдзел у справах і прыбытках гэтага прадпрыемства.

**АКЦЫЯНЕР** (*фр.* actionnaire, ад *лац.* actio = дзеянне) — удзельнік прадпрыемства, заснаванага на *акцыях*[2], уладальнік акцый.

**АКЦЫЯНЕРНЫ** (ад *фр.* actionnaire = акцыянер) — заснаваны на *акцыях*[2] (напр. а-ае таварыства).

**АКЦЭНТ** (*лац.* accentus) — 1) асаблівасці вымаўлення, уласцівыя чалавеку, які гаворыць не на роднай мове; 2) *лінгв.* націск у слове, а таксама знак націску; 3) *перан.* падкрэсліванне асобных думак, слоў пры гаворцы (напр. зрабіць а. на чым-н.).

**АКЦЭПТ** (*лац.* acceptus = прыняты) — 1) *юр.* згода на заключэнне дагавору на прапанаваных умовах; 2) форма безнаяўнага разліку паміж гаспадарчымі арганізацыямі, а таксама згода аплаціць грашовыя дакументы (рахункі, чэкі, вэксалі).

**АКЦЭПТАНТ** (*лац.* acceptans, -ntis = які прымае) — асоба, якая прыняла грашовы дакумент (вэксаль, рахунак, чэк) да аплаты.

**АКЦЭСІЙНЫ** (ад *лац.* accessio = далучэнне) — які далучаецца); *а. дагавор* — дагавор, падпісваючы які, дзяржава далучаецца да дагавору, заключанага раней паміж іншымі дзяржавамі.

**АКЦЭСОРНЫ** (ад *лац.* accessorius = дадатковы, другарадны); *а. дагавор* — дадатковы дагавор, які далучаецца да асноўнага дагавору.

**АЛАГІЗМ** (*фр.* alogisme, ад *гр.* a- = не, без + logos = слова) — 1) што-н. нелагічнае, несумяшчальнае з лагічным мыслен-

нем; бяссэнсіца; 2) філасофскі погляд, які адмаўляе логіку як сродак навуковага пазнання; 3) стылістычны прыём, наўмыснае парушэнне ў мове лагічных сувязей з мэтай надання камізму, іроніі і інш.

**АЛАПА́ТЫЯ** (*гр.* allopatheia, ад allos = іншы + pathos = хвароба) — звычайная (традыцыйная) сістэма лячэння (процілл. *гамеапатыя*).

**АЛАРМІ́ЗМ** (*фр.* alarmisme, ад alarme = трывога) — плынь у заходняй навуцы і грамадскай думцы, прадстаўнікі якой сцвярджаюць пра фатальны, катастрафічны характар уздзеяння чалавека на прыроду, падкрэсліваюць яго асаблівую небяспеку для далейшага развіцця чалавецтва.

**АЛАРМІ́СТ** (*фр.* alarmiste, ад alarme = трывога) — 1) асоба, схільная да панікі, якая распаўсюджвае неправераныя, неабгрунтаваныя чуткі, выклікаючы трывожны настрой; 2) прадстаўнік *алармізму*.

**АЛА́Х** (*ар.* Allah) — назва Бога ў *ісламе*.

**АЛАХТО́НЫ** (ад *гр.* allos = іншы + chthon = зямля) — жывёлы або расліны, якія насяляюць пэўную мясцовасць, але ўзніклі ў працэсе эвалюцыі ў іншым месцы (параўн. *аўтахтоны* 1).

**АЛГАРЫ́ТМ** (*с.-лац.* algorithmus, ад *ар.* al-Chwârizmi = імя матэматыка) — 1) *мат.* сукупнасць правіл, якія дазваляюць чыста механічна рашыць любую задачу з класа аднатыповых задач; 2) *перан.* сукупнасць паслядоўных дзеянняў, якія прыводзяць да пэўнага выніку (напр. а. пошуку).

**АЛГО́Л** [*англ.* algol, ад algo(rithmic) l(anguage) = алгарытмічная мова] — *інф.* адна з моў *праграміравання.*

**АЛЕАТО́РНЫ** (ад *лац.* aleator = гулец у косці) — рызыкоўны, звязаны са здзелкамі, біржавымі аперацыямі, латарэямі.

**АЛЕГО́РЫЯ** (*гр.* allegoria) — 1) іншасказанне (напр. гаварыць алегорыямі); 2) выражэнне адцягненага паняцця пры дапамозе канкрэтнага вобраза ў творы літаратуры ці мастацтва (напр. вясна — маладая жанчына з кветкамі, правасуддзе — жанчына з вагамі).

**АЛЕКСІ́Я** (*н.-лац.* alexia, ад *гр.* а- = не + leksis = слова) — *мед.* страта здольнасці чытаць з прычыны ачаговага паражэння галаўнога мозгу; часта спалучаецца з *аграфіяй* і *афазіяй.*

**АЛЕРГІ́Я** (*н.-лац.* allergia, ад *гр.* allos = іншы + ergon = = дзеянне) — 1) ненармальная, хваравітая рэакцыя арганізма (насмарк, кашаль, астма і інш.) на некаторыя рэчывы; 2) *перан.* адмоўныя адносіны, нецярпімасць да каго-н., чаго-н. (напр. а. да палітыкі).

**АЛЁЯ** (*фр.* allée) — дарога ў парках, садах, абсаджаная з абодвух бакоў дрэвамі, кустамі, кветкамі.

**А́ЛІБІ** (*лац.* alibi = у іншым месцы) — *юр.* доказ невінаватасці абвінавачанага, заснаваны на тым, што ён у момант, калі адбывалася злачынства, знаходзіўся ў іншым месцы.

**АЛІГАКРА́ТЫЯ** (ад *гр.* oligos = нешматлікі, нязначны + + kratos = улада) — улада невялікай групы людзей.

**АЛІГАПО́ЛІЯ** (ад *гр.* oligos = нешматлікі, нязначны + poleo = прадаю) — 1) панаванне некалькіх кампаній (*трэстаў, канцэрнаў*) у некаторых галінах прамысловасці; 2) сітуацыя на рынку, пры якой невялікая колькасць прадаўцоў, што кантралюе цэнаўтварэнне, гандлюе з вялікай колькасцю пакупнікоў.

**АЛІГАПСО́НІЯ** (*англ.* oligopsonia, ад *гр.* oligos = нешматлікі, нязначны + opsonia = закупка прадуктаў) — сітуацыя на рынку, пры якой даволі абмежаванай колькасці пакупнікоў процістаіць вялікая колькасць прадаўцоў (вытворцаў).

**АЛІГА́РХ** (*гр.* oligarches, ад oligos = нямногі + arche = улада) — 1) правіцель *алігархіі* 1; 2) прадстаўнік *алігархіі* 2.

**АЛІГА́РХІЯ** (*гр.* oligarchia = улада нямногіх) — 1) *гіст.* дзяржава, заснаваная на панаванні арыстакратычных вярхоў; 2) палітычнае і эканамічнае панаванне ў краіне невялікай групы прадстаўнікоў буйнога манапалістычнага капіталу; сама гэта група (напр. фінансавая а.).

**АЛІГАФРЭНІ́Я** (*фр.* oligophrénie, ад *гр.* oligos = нешматлікі, нязначны + phren = розум) — *мед.* прыроджанае або набытае ў раннім узросце недаразвіццё разумовых здольнасцей; прыдуркаватасць (параўн. *дэменцыя*).

**АЛІГЕМІ́Я** (ад *гр.* oligos = нешматлікі, нязначны + haima = кроў) — *мед.* змяншэнне агульнай колькасці крыві ў арганізме (пры крывацёках, згусанні крыві і інш.).

**АЛІГУРЫ́Я** (ад *гр.* oligos = нешматлікі, нязначны + uron = = мача) — *мед.* змяншэнне колькасці мачы, што выдзяляецца ныркамі.

**АЛІМПІЯ́ДА** (*фр.* olympiade, ад *гр.* Olympias, -ados) — 1) міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы, якія праводзяцца раз у чатыры гады па ўзору старажытнагрэчаскіх алімпійскіх гульняў; 2) спаборніцтвы ў спартыўным, тэатральным, інтэлектуальным майстэрстве (напр. гарадская спартыўная а., а. калектываў мастацкай самадзейнасці, а. па матэматыцы).

**АЛКАГАЛІ́ЗМ** (*фр.* alcoholisme, ад alcohol < *ар.* al-kuhl = далікатны парашок) — хранічная хвароба, якая ўзнікае ад празмернага і частага ўжывання спіртных напіткаў (*алкаголю* 2).

**АЛКАГО́ЛЬ** (*фр.* alcohol, ад *ар.* al-kuhl = далікатны парашок) — арганічнае злучэнне, у склад малекул якога ўваходзіць група атамаў кіслароду і вадароду; 2) спіртныя напіткі.

**АЛЬБІНІ́ЗМ** (*фр.* albinisme, ад *лац.* albus = белы) — адсутнасць пігментнай афарбоўкі скуры, валасоў, радужнай абалонкі вачэй у чалавека і жывёл.

**АЛЬБІНО́С** (*фр.* albinos, ад *лац.* albus = белы) — чалавек або жывёла з адзнакамі *альбінізму*.

**АЛЬБО́М** (*фр.* album, ад *лац.* albus = белы) — 1) кніга або сшытак для малюнкаў, фотакартак, вершаў (напр. сямейны а.); 2) збор рэпрадукцый, фотакартак, чарцяжоў, выдадзеных у выглядзе кнігі; 3) набор грампласцінак, якія належаць аднаму выканаўцу, калектыву або аб'яднаны тэматычна.

**АЛЬВЕО́ЛА** (*лац.* alveolus = паглыбленне, пузырок) — 1) паглыбленне ў скіўіцы, у якім змяшчаецца корань зуба; 2) маленькі лёгачны пузырок (на канцы кожнай бронхі), куды пранікае паветра пры дыханні.

**А́ЛЬМА-МА́ТЭР** (*лац.* alma mater = *літар.* маці-карміцелька) — студэнцкая назва універсітэта (ужываецца як ласкальная або жартоўная).

**АЛЬМАНА́Х** (*с.-лац.* almanachus, ад *ар.* al-manakh = каляндар) — неперыядычны зборнік літаратурных твораў розных аўтараў.

**АЛЬПА́РЫ** (*іт.* al pari = нароўні) — адпаведнасць біржавага (рыначнага) курсу валюты, каштоўных папер іх намінальнай вартасці.

**АЛЬПІНА́РЫЙ** (*н.-лац.* alpinarium, ад *лац.* alpinus = альпійскі) — участак саду або парку ў выглядзе каменістай горкі, засаджаны высакагорнай раслiннасцю.

**АЛЬПІНІ́ЗМ** (*фр.* alpinisme, ад *лац.* alpinus = альпійскі) — узыходжанне на цяжкадаступныя горныя вяршыні са спартыўнай або пазнавальнай мэтай; высакагорны турызм.

**АЛЬТРУІ́ЗМ** (*фр.* altruisme, ад *лац.* alter = іншы) — бескарыслівае служэнне людзям, гатоўнасць ахвяраваць для іх сваімі асабістымі інтарэсамі (процiл. *эгаізм*).

**АЛЬТРУІ́СТ** (*фр.* altruiste, ад *лац.* alter = іншы) — той, хто ў сваёй дзейнасці кiруецца пачуццямi *альтруізму* (процiл. *эгаіст*).

**АЛЬТЭРНАТЫ́ВА** (*фр.* alternative, ад *лац.* alternare = чаргаваць) — 1) неабходнасць выбару паміж дзвюма або некалькімі магчымасцямі, якія выключаюць адна другую; 2) кожная з такіх магчымасцей.

**А́ЛЬФА** (*гр.* alpha) — першая літара грэчаскага алфавіта; ***а. і амега*** — пачатак і канец, аснова ўсяго.

**АЛЬЯ́НС** (*фр.* alliance) — саюз, аб'яднанне дзяржаў або арганізацый на аснове дагаворных абавязацельстваў (напр. міжнародны кааператыўны а.).

**АЛЮ́ЗІЯ** (*фр.* allusion, ад *лац.* allusio = жарт, намёк) — стылістычны прыём, калі падзея, якая апісваецца або адбываецца, суадносіцца намёкам з вядомым гістарычным, міфалагічным, літаратурным фактам (напр. цяжкія да знясілення, але марныя намаганні каго-н. характарызуюцца выразам «Сізіфава праца»).

**АЛЯФУРШЭ́Т** (*фр.* a la fourchette = з дапамогаю відэльца) — арганізаваны па прынцыпу самаабслугоўвання прыём, на якім ядуць і п'юць стоячы.

**АМАРА́ЛЬНЫ** (*фр.* amoral, ад *гр.* a- = не, без + *лац.* moralis = які датычыць звычаяў) — пазбаўлены *маралі*, несумяшчальны з прынятымі нормамі паводзін.

**АМАРТЫЗА́ЦЫЯ** (*с.-лац.* amortisatio = аслабленне) — 1) паступовае зношванне машын, абсталявання, збудаванняў і перанясенне іх вартасці на прадукцыю; 2) паступовае пагашэнне доўгу асобай або арганізацыяй перыядычнымі ўзносамі; 3) змякчэнне штуршкоў, udараў пры руху ма-

шын, пасадцы самалётаў з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў.

**АМА́ТАР** (*лац.* amator) — чалавек, які ў вольны час займаецца чым-н. не для заробку, а па ахвоце, па схільнасці; любіцель (параўн. *прафесіянал*).

**АМБІ́ЦЫЯ** (*лац.* ambitio) — абвостранае самалюбства, празмернае пачуццё асабістай годнасці.

**АМБУЛАТО́РЫЯ** (*ням.* Ambulatorium, ад *лац.* ambulatorius = рухомы) — лячэбная ўстанова для прыхадных хворых (гл. таксама *паліклініка*).

**АМЕ́ГА** (*гр.* o mega) — апошняя літара грэчаскага алфавіта; *альфа і а.* — пачатак і канец, аснова ўсяго.

**АМІКАШО́НСТВА** (ад *фр.* ami = сябра + cochon = свіння) — бесцырымоннасць, панібрацтва, фамільярнасць.

**АМІМІ́Я** (ад *гр.* a- = не, без + mimos = пераймальны) — аслабленне або поўная адсутнасць *мімікі* ў выніку паражэння нервовай сістэмы.

**АМНЕЗІ́Я** (*гр.* amnesia = бяспамяцтва) — *мед.* парушэнне памяці, пры якім немагчыма ўзнавіць сфарміраваныя раней паняцці, уяўленні; прагал у прыпамінанні (параўн. *парамнезія*).

**АМНІ́СТЫЯ** (*гр.* amnestia = дараванне) — адмена ці змякчэнне судовага пакарання па рашэнню вярхоўнай улады.

**АМО́РФНЫ** (*гр.* amorphos = бясформенны) — 1) які не мае крышталічнай будовы (напр. а-ае рэчыва); 2) *перан.* бясформенны, расплывісты (напр. а-ыя ўражанні).

**АМПЛІТУ́ДА** (*лац.* amplitudo = велічыня) — 1) размах ваганняў, найбольшае адхіленне цела пры ваганні ад стану раўнавагі (напр. а. ваганняў маятніка); 2) розніца межаў, паміж якімі змяняецца якая-н. велічыня (напр. а. гадавой тэмпературы); 3) *перан.* размах, шырыня (напр. а. ацэнак).

**АМПЛУА́** (*фр.* emploi = прымяненне) — 1) блізкае па характару кола роляў, якія адпавядаюць сцэнічным здольнасцям артыста (напр. а. коміка); 2) *перан.* кола заняткаў, інтарэсаў каго-н. (напр. а. кнігалюба).

**А́МПУЛА** (*лац.* ampulla) — 1) герметычна запаяная шкляная пасудзіна невялікіх памераў, у якой у стэрыльным выглядзе захоўваецца пэўная доза лякарства, раствору,

крыві і інш.; 2) *анат.* расшыраная частка полага органа, які мае трубчатую будову (напр. а. слёзнага канала).

**АМПУТА́ЦЫЯ** (*лац.* amputatio = адсячэнне) — адняцце хірургічным шляхам канечнасці або іншай часткі цела.

**АМУЛЕ́Т** (*лац.* amuletum) — невялікі прадмет, што носяць на целе як магічны сродак, нібыта здольны засцерагчы ад няшчасця (параўн. *талісман*).

**АМФІ́БІЯ** (*гр.* amphibion) — 1) земнаводная жывёліна (напр. жаба, трытон), лічынкі якой дыхаюць жабрамі, а дарослыя асобіны лёгкімі; 2) транспартная або баявая машына (аўтамабіль, танк, бронетранспарцёр), здольная рухацца па сушы і па вадзе; 3) самалёт, прыстасаваны для ўзлёту і пасадкі на вадзе.

**АМФІТЭА́ТР** (*гр.* amphitheatron, ад amphi = па абодва бакі + theatron = відовішча) — 1) антычнае збудаванне для масавых відовішчаў, у якім месцы для гледачоў узвышаліся паўкругам; 2) месцы ў глядзельнай зале: у тэатры — за партэрам, у цырку — уступамі.

**АНАБІЁЗ** (*фр.* anabiose, ад *гр.* anabiosis = ажыўленне) — 1) *біял.* прыпыненне жыццёвых працэсаў у арганізме з наступным аднаўленнем іх пры спрыяльных умовах; назіраецца пераважна ў беспазваночных (насякомых, круглых чарвей і інш.); 2) *перан.* запавольванне, прыпыненне сваёй дзейнасці ў якой-н. галіне.

**АНА́ЛАГ** (*гр.* analogos = адпаведны) — тое, што з'яўляецца адпаведнасцю з чым-н., падабенствам чаго-н.

**АНАЛАГІ́ЧНЫ** (*гр.* analogikos) — які ўяўляе сабой *аналогію* з чым-н.; падобны (напр. а. выпадак).

**АНА́ЛІЗ** (*гр.* analysis = раскладанне) — 1) навуковае даследаванне шляхам расчлянення цэлага на састаўныя часткі (параўн. *сінтэз* 1); 2) вызначэнне саставу рэчыва (напр. а. крыві).

**АНАЛІТЫ́ЧНЫ** (*гр.* analytikos) — 1) заснаваны на прымяненні *аналізу* (напр. а. метад даследавання); 2) здольны рабіць аналіз (напр. а. розум); 3) які служыць для аналізу (напр. а-ыя вагі).

**АНАЛО́ГІЯ** (*гр.* analogia = адпаведнасць) — падабенства ў якіх-н. адносінах паміж прадметамі, з'явамі, паняццямі (напр. шукаць аналогію).

**АНА́ЛЫ** (*лац.* annales) — 1) запісы гістарычных падзей у храналагічным парадку; 2) *перан.* наогул запісы.

**АНАМА́ЛІЯ** (*гр.* anomalia = няроўнасць) — адхіленне ад нормы, ад агульнай заканамернасці; няправільнасць (напр. а. развіцця, магнітная а.).

**АНАМА́СТЫКА** (*гр.* onomastikos = звязаны з імем) — 1) сукупнасць уласных імён у мове; 2) раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны.

**АНАМІ́Я** (*фр.* anomie = адсутнасць закону, арганізацыі) — маральна-псіхалагічны стан індывідуальнай і грамадскай свядомасці, які характарызуецца разлажэннем сістэмы маральных, сацыяльных каштоўнасцей і выражаецца ў апатыі, расчараванні ў жыцці, злачыннасці.

**АНАНІ́МНЫ** (*гр.* anonymos = безыменны) — без прозвішча аўтара, без указання імя (напр. а-ая літаратура, а-ае пісьмо).

**АНАРХІ́ЗМ** (*фр.* anarchisme, ад *гр.* anarchia = безуладдзе) — 1) грамадска-палітычная плынь, якая адмаўляе ўсякую дзяржаўную ўладу і прапаведуе неабмежаваную свабоду асобы; 2) *перан.* непрызнанне аўтарытэту, парадку, дысцыпліны.

**АНА́РХІЯ** (*гр.* anarchia = безуладдзе) — 1) адсутнасць кіраўніцтва, безуладдзе; 2) *перан.* адсутнасць арганізаванасці, бясспланавасць, стыхійнасць (напр. а. вытворчасці).

**АНАТАЦЫ́ЗМ** (*гр.* anatokismos) — налічэнне працэнтаў не толькі з пачатковай сумы, але і з працэнтаў, якія набеглі за час укладу.

**АНАТА́ЦЫЯ** (*лац.* annotatio = заўвага) — кароткі выклад зместу кнігі, артыкула з агульнай іх характарыстыкай.

**АНА́ФЕМА** (*гр.* anathema) — 1) адлучэнне ад царквы, праклён як самая суровая кара ў хрысціянстве; 2) *перан.* асуджэнне, звязанае з разрывам адносін.

**АНАХРАНІ́ЗМ** (*гр.* anachronismos, ад ana- = назад, супраць + chronos = час) — 1) парушэнне храналагічнай дакладнасці, якое прыводзіць да неапраўданага ўнясення ў апісанне якой-н. эпохі рыс, характэрных для іншага часу; 2) устарэлы погляд, падыход, звычай; перажытак мінулага.

**АНАША́** (*цюрк.* anaša = каноплі) — асобы від дзікіх канапель, якія змяшчаюць у лісцях, суквеццях і пылку моцны наркотык, а таксама сам гэты наркотык.

**АНГАЖЫ́РАВАНЫ** (*фр.* engagé, ад engager = запрашаць) — які актыўна прытрымліваецца той або іншай палітычнай арыентацыі або звязаны з той ці іншай грамадскай плынню; завербаваны (напр. а-ая прэса).

**АНГАЖЫ́РАВАЦЬ** (*фр.* engager) — 1) *уст.* запрашаць артыстаў для ўдзелу ў спектаклях або канцэртах на пэўны тэрмін; 2) прыцягваць каго-н. да актыўнага ўдзелу ў якой-н. справе.

**АНГІЁМА** [ад *гр.* angeion = сасуд + (onk)oma = пухліна] — *мед.* дабраякасная пухліна, якая складаецца з крывяносных і лімфатычных сасудаў.

**АНГІ́НА** (*лац.* angina, ад angere = душыць) — запаленне слізістай абалонкі зева, міндалін.

**АНГЛІКА́НСТВА** (ад *англ.* Anglican = англіканскі) — дзяржаўная царква ў Англіі, адна з пратэстанцкіх цэркваў, што ўзнікла ў XVI ст. у час *Рэфармацыі.*

**АНДРАГІ́НІЯ** (ад *гр.* androgynos = двухполы) — наяўнасць у асобіны аднаго полу прымет другога полу (прыватны выпадак андрагініі — *гермафрадытызм*).

**АНДРАФО́БІЯ** (ад *гр.* aner, andros = мужчына + phobos = страх) — нянавісць да мужчын, страх перад мужчынамі.

**АНДЭРГРА́УНД** (*англ.* underground = падполле) — 1) афіцыйна не прызнанае мастацтва; 2) нелегальны рух у палітыцы.

**АНДЭРРА́ЙТЫНГ** (*англ.* underwriting) — 1) размяшчэнне каштоўных папер па публічнай падпісцы праз пасрэднікаў, функцыі якіх звычайна выконваюць інвестыцыйныя банкі; 2) падпіска на *акцыі*; 3) прыём нерухомасці на страхаванне.

**АНДЭРРА́ЙТЭР** (*англ.* underwriter) — асоба, якая прымае на сябе абавязацельства па размяшчэнню, рэалізацыі каштоўных папер (*акцый*) на рынку.

**АНЕКДО́Т** (*фр.* anecdote, ад *гр.* anekdotos = нявыдадзены) — кароткае, звычайна выдуманае гумарыстычнае апавяданне з нечаканай развязкай.

**АНЕ́КСІЯ** (*фр.* annexion, ад *лац.* annexio = далучэнне) — гвалтоўнае далучэнне краіны або яе часткі да другой краіны.

**АНЕКСІЯНІ́ЗМ** (*фр.* annexionisme, ад *лац.* annexio = далучэнне) — палітыка *анексіі*, захопніцкая палітыка.

**АНЕМІ́Я** (*гр.* anaimia, ад a- = не, без + haima = кроў) — хваравіты стан, які характарызуецца памяншэннем колькасці эрытрацытаў і гемаглабіну ў крыві; малакроўе.

**АНЕСТЭЗІ́Я** (*гр.* anaisthesia = неадчувальнасць) — *мед.* 1) аслабленне або страта адчувальнасці; 2) абязбольванне пры дапамозе *анестэтыкаў*.

**АНЕСТЭ́ТЫКІ** (ад *гр.* anesthetos = неадчувальны) — сродкі для абязбольвання.

**АНІМІ́ЗМ** (*фр.* animisme, ад *лац.* anima = душа) — уяўленне аб існаванні душы ў кожнай рэчы; надзяленне прадметаў і з'яў прыроды ўласцівасцямі жывых істот.

**АНКАЛО́ГІЯ** (*ням.* Onkologie, ад *гр.* onkos = уздутасць + + logos = навука) — раздзел медыцыны, які вывучае пухліны і распрацоўвае метады іх лячэння.

**АНКЕ́ТА** (*фр.* enquête) — апытальны ліст для атрымання якіх-н. звестак аб тым, хто яго запаўняе, або адказаў на пытанні, складзеныя па пэўнай праграме.

**АНКЛА́Ў** (*фр.* enclave) — тэрыторыя або частка тэрыторыі адной дзяржавы, поўнасцю акружаная тэрыторыяй іншай дзяржавы.

**АНКО́ЛЬ** (*англ.* on call = па патрабаванні) — кароткатэрміновая пазыка, якая павінна пагашацца па першым патрабаванні крэдытора.

**АНО́Д** (*гр.* anodos = пад'ём, узыходжанне) — *фіз.* электрод з дадатным зарадам (проціл. *катод*).

**АНО́НС** (*фр.* annonce) — папярэдняя аб'ява, паведамленне аб чым-н., напр. аб маючых адбыцца гастролях, канцэрце, спектаклі.

**АНСА́МБЛЬ** (*фр.* ensemble = сукупнасць) — 1) стройнае спалучэнне частак у адно цэлае (напр. архітэктурны а.); 2) група выканаўцаў, якія выступаюць як адзіны мастацкі калектыў (напр. а. песні і танца).

**АНТАМБЛЕМЕ́НТ** (*фр.* entablement) — *архіт.* верхняя гарызантальная частка будынка, якая апіраецца на калоны і складаецца з *карніза, фрыза* і *архітрава.*

**АНТАГАНІ́ЗМ** (*фр.* antagonisme, ад *гр.* antagonisma = спрэчка, барацьба) — непрымірымая супярэчнасць, варожасць (напр. сацыяльны а.).

**АНТАЛО́ГІЯ** (*гр.* anthologia = *літар.* букет кветак) — зборнік выбраных мастацкіх твораў розных аўтараў (напр. а. беларускай паэзіі).

**АНТА́РКТЫКА** (*гр.* antarktikos = які знаходзіцца насупраць поўначы) — паўднёвая палярная вобласць зямнога шара (параўн. *Арктыка*).

**АНТРА́КТ** (*фр.* entracte, ад entre = паміж + acte = дзеянне) — 1) кароткі перапынак паміж актамі спектакля або аддзяленнямі канцэрта; 2) *перан.* перапынак у якім-н. дзеянні, працэсе.

**АНТРАПАГЕ́Н** (ад *гр.* anthropos = чалавек + genos = нараджэнне) — *геал.* сучасны перыяд геалагічнай гісторыі Зямлі, які налічвае каля мільёна гадоў і звязаны з узнікненнем чалавека.

**АНТРАПАГЕ́Я** (ад *гр.* anthropos = чалавек + ge = Зямля) — сукупнасць экасістэм, якія ствараюцца ў выніку творчай або разбуральнай дзейнасці чалавека.

**АНТРАПАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* anthropos = чалавек + logos = навука) — навука аб паходжанні і эвалюцыі чалавека і ўтварэнні чалавечых рас.

**АНТРАПАФА́ГІЯ** (*гр.* anthropophagia, ад anthropos = чалавек + phagein = есці, паядаць) — тое, што і *канібалізм* 1.

**АНТРАПАФО́БІЯ** (ад *гр.* anthropos = чалавек + phobos = = страх) — хваравіта-псіхічны стан, які характарызуецца страхам перад людзьмі.

**АНТРАПАЦЭНТРЫ́ЗМ** (*фр.* anthropocentrisme, ад *гр.* anthropos = чалавек + *лац.* centrum < *гр.* kentron = цэнтр) — рэлігійна-ідэалістычны погляд, паводле якога чалавек з'яўляецца цэнтрам і канчатковай мэтай Сусвету.

**АНТРАША́** (*фр.* entrechat) — лёгкі скачок уверх у балетным танцы, у час якога танцор ударае некалькі разоў нагой аб нагу.

**АНТРЭ́** (*фр.* entrée) — 1) клоунскі нумар у цырку; 2) выхад аднаго або некалькіх выканаўцаў у балеце.

**АНТРЭПРЭНЁР** (*фр.* entrepreneur) — 1) *уст.* прадпрымальнік, агент па гандлю; 2) прыватны тэатральны прадпрымальнік.

**АНТРЭСО́ЛЬ** (*фр.* entresol, ад entre = паміж + sol = зямля) — 1) верхні паўпаверх дома; 2) верхні паўярус у струк-

туры зальнага памяшкання, звычайна ў выглядзе галерэі; 3) паліца пад столлю кватэры для розных рэчаў.

**АНТУРА́Ж** (*фр.* entourage) — 1) навакольнае асяроддзе, акружэнне; 2) *перан.* фон (у мастацкім творы, спектаклі).

**АНТЫБІЁТЫКІ** (ад *гр.* anti = супраць + bios = жыццё) — рэчывы біялагічнага паходжання, здольныя падаўляць жыццядзейнасць хваробатворных мікраарганізмаў.

**АНТЫДО́ТЫ** (*гр.* antidoton = проціяддзе) — лекавыя сродкі для лячэння атручванняў; проціяддзі.

**АНТЫКВА́Р** (*лац.* antiquarius) — збіральнік і прадавец прадметаў старадаўняга мастацтва, рэдкіх кніг і інш.

**АНТЫКВАРЫЯ́Т** (*ням.* Antiquariat, ад *лац.* antiquarius = = антыквар) —старадаўнія прадметы (кнігі, карціны, упрыгожанні і інш.), а таксама гандаль такімі прадметамі.

**АНТЫПА́ТЫЯ** (*гр.* antipatheia) — пачуццё непрыязнасці, недружалюбнасці, агіды (проціл. *сімпатыя*).

**АНТЫПО́ДЫ** (*гр.* antipodes = размешчаныя нагамі да ног) — 1) насельнікі двух дыяметральна процілеглых пунктаў зямнога шара; 2) людзі з процілеглымі поглядамі, густамі, рысамі характару.

**АНТЫСЕМІТЫ́ЗМ** (*фр.* antisémitisme) — адна з форм нацыянальнай і рэлігійнай нецярпімасці, якая выражаецца ў варожых адносінах да яўрэяў.

**АНТЫЦЫКЛО́Н** (ад *гр.* anti = супраць + kyklon = які верціцца) — зона з высокім атмасферным ціскам, якая характарызуецца ясным, сонечным надвор'ем (параўн. *цыклон*).

**АНУЛЯВА́ЦЬ** (*лац.* annulare = знішчаць) — аб'яўляць несапраўдным, касаваць які-н. акт, дакумент (напр. а. дагавор).

**АНФА́С** (*фр.* en face) — тварам да таго, хто глядзіць; спераду (напр. сфатаграфавацца а.).

**АНФІЛА́ДА** (*фр.* enfilade) — доўгі рад пакояў з размешчанымі па адной прамой лініі дзвярамі (часта ў палацах, старадаўніх будынках).

**АНШЛА́Г** (*ням.* Anschlag) — 1) аб'ява аб тым, што ўсе білеты (на спектакль, канцэрт і г. д.) прададзены; 2) буйны загаловак у газеце (напр. а. на ўсю паласу).

**АО́РТА** (*н.-лац.* aorta, ад *гр.* aorte) — галоўная артэрыя крывяноснай сістэмы, якая ідзе ад сэрца і забяспечвае ўсе органы цела крывёю.

**АПАГЕ́Й** (*гр.* apogeion, ад apo = ад + ge = Зямля) — 1) *астр.* пункт *арбіты* Месяца або штучнага спадарожніка, найбольш аддалены ад цэнтра Зямлі (проціл. *перыгей*); 2) *перан.* самая высокая ступень развіцця, росквіт чаго-н. (напр. у апагеі славы).

**АПАЗІ́ЦЫЯ** (*лац.* oppositio = супрацьпастаўленне) — 1) супрацьпастаўленне сваіх поглядаў, палітыкі іншым поглядам, палітыцы; 2) група ўнутры дзяржаўнага органа, партыі, арганізацыі, якая выступае супраць большасці.

**АПАЗІЦЫЯНЕ́Р** (*фр.* oppositionnaire, ад *лац.* oppositio = супрацьпастаўленне) — той, хто належыць да *апазіцыі.*

**АПАКА́ЛІПСІС** (*гр.* apokalypsis = адкрыццё) — 1) частка Бібліі, адна з кніг Новага Запавету, якая змяшчае прароцтвы пра канец свету; 2) *перан.* нешта катастрафічнае для свету, для цывілізацыі (напр. а. ядзернай вайны).

**АПАЛАГЕ́Т** (*гр.* apologetes = прыхільнік, абаронца) — актыўны абаронца якой-н. ідэі, вучэння, парадкаў.

**АПАЛІТЫ́ЗМ** (*фр.* apolitisme, ад *гр.* a- = не, без + politismos = удзел у дзяржаўных або грамадскіх справах) — абыякавыя адносіны да *палітыкі*, ухіленне ад удзелу ў грамадска-палітычным жыцці.

**АПАЛО́ГІЯ** (*гр.* apologia) — празмернае ўсхваленне, абарона каго-н. або чаго-н.

**АПАНЕ́НТ** (*лац.* opponens, -ntis = які пярэчыць) — 1) праціўнік у спрэчцы, палеміцы; 2) той, каму даручана ацэнка *дысертацыі* і выступленне на яе публічнай абароне.

**АПАНТА́НЫ** (*польск.* opętany) — ахоплены крайнім душэўным узрушэннем, безразважны, шалёны.

**АПАПЛЕ́КСІЯ** (*гр.* apopleksia) — *мед.* раптоўнае кровазліццё ў які-н. орган (гл. *інсульт*).

**АПАРА́Т** (*лац.* apparatus = падрыхтаваны) — 1) прыбор, прыстасаванне для якой-н. пэўнай работы (напр. тэлефонны а., фатаграфічны а.); 2) сукупнасць органаў, якія выконваюць якую-н. асобную функцыю ў арганізме (напр. зрокавы а., страваваальны а.); 3) органы кіравання (напр. дзяржаўны а.); 4) сукупнасць работнікаў установы, арганізацыі (напр. а. міністэрства, гандлёвы а.); 5) заўвагі, паказальнікі і іншы дапаможны матэрыял для навуковай працы, выдання (напр. даведачны а.).

**АПАРАТЎРА** (*ням.* Apparatur, ад *лац.* apparatus = падрыхтаваны) —сукупнасць апаратаў для якой-н. работы; абсталяванне лабараторыі, цэха (напр. медыцынская а.).

**АП-ÁРТ** [*англ.* op-art, ад op(tical) art = аптычнае мастацтва] — напрамак сучаснага выяўленчага мастацтва, паслядоўнікі якога выкарыстоўваюць аптычныя колеравыя эфекты і ствараюць формы, далёкія ад рэчаіснасці.

**АПАРТАМЕ́НТЫ** (*фр.* appartement = кватэра) — 1) вялікае раскошнае памяшканне, пакоі; 2) *іран.* кватэра, пакой.

**АПАРТУНІ́ЗМ** (*фр.* opportunisme, ад *лац.* opportunus = = зручны) — прыстасавальніцтва, згодніцтва, беспрынцыповасць (напр. а. у дэмакратычным руху).

**АПАРТЭІ́Д** (*англ.* apartheid, ад афрыкаанс apartheid = = раздзельнае пражыванне) — палітыка прымусовага размежавання насельніцтва ў краіне, заснаванай на расавай дыскрымінацыі.

**АПАСТЭРЫЁРЫ** (*лац.* a posteriori = з наступнага) — на падставе вопыту, вопытных дадзеных (проціл. *апрыёры*).

**АПАТРЫ́ДЫ** (*гр.* apatris, -idos = які не мае айчыны) — *юр.* асобы без грамадзянства.

**АПА́ТЫЯ** (*гр.* apatheia) — поўная абыякавасць да ўсяго; раўнадушнасць, вяласць.

**АПАФЕ́ГМА** (*гр.* apophthegma) — *літ.* кароткае дасціпнае павучальнае выслоўе.

**АПАФЕО́З** (*гр.* apotheosis = абагатварэнне) — 1) праслаўленне, узвелічэнне якой-н. асобы, з'явы, падзеі; 2) урачыстая заключная сцэна ў некаторых спектаклях з удзелам усіх выканаўцаў.

**АПЕЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* appellatio) — 1) *юр.* абскарджанне рашэння суда ў больш высокай судовай інстанцыі з мэтай перагляду справы (параўн. *касацыя* 1); 2) зварот з просьбай, з заклікам аб чым-н. (напр. а. да грамадскай думкі).

**АПЕ́НДЫКС** (*лац.* appendix = прыдатак) — *анат.* чэрвепадобны адростак сляпой кішкі.

**АПЕНДЫЦЫ́Т** (*фр.* appendicite, ад *лац.* appendix = прыдатак) — *мед.* запаленне *апендыкса* (параўн. *тыфліт*).

**АПЕПСІ́Я** (ад *гр.* a- = не + pepsis = страваванне) — *мед.* нястраўнасць у сувязі з невыдзяленнем страўнікавага соку.

**АПЕРА́ТАР** (*лац.* operator = выканаўца) — 1) спецыяліст, які кіруе работай якога-н. механізма або ўстаноўкі; 2) тое, што

і *кінаaператар*; 3) *інф.* каманда або група каманд *праграмы* 5, складзенай на якой-н. мове *праграміравання.*

**АПЕРАТЫ́ЎНЫ** (*лац.* operativus = дзейсны) — 1) здольны хутка і правільна выканаць практычныя задачы, дзейсны (напр. а. работнік); 2) звязаны з ажыццяўленнем пэўнай аперацыі (напр. а. прастор, а-ая група).

**АПЕРА́ЦЫЯ** (*лац.* operatio = дзеянне) — 1) лячэнне, звязанае з хірургічным умяшаннем (напр. а. на сэрцы); 2) сукупнасць баявых дзеянняў буйной вайсковай групіроўкі, аб'яднаных адной мэтай (напр. наступальная а.); 3) асобнае дзеянне ў шэрагу іншых падобных дзеянняў, з якіх складаецца работа ўсяго прадпрыемства, установы (напр. паштовыя аперацыі, фінансавая а.); 4) перапрацоўка інфармацыі ЭВМ па адной камандзе.

**АПЕРКО́Т** (*англ.* uppercut, ад upper = верхні + cut = удар) — *сп.* удар знізу ў тулава або падбародак праціўніка пры гульні ў бокс.

**АПЕРЫ́РАВАЦЬ** (*лац.* operre) — 1) рабіць хірургічную аперацыю (напр. а. ныркі); 2) выконваць якія-н. дзеянні, дзейнічаць (напр. а. каштоўнымі паперамі); 3) карыстацца чым-н. (напр. а. лічбамі, а. фактамі).

**АПЕРЫТЫ́Ў** (*фр.* apéritif) — слабы спіртны напітак для ўзбуджэння апетыту.

**АПЕРЭ́ТА** (*іт.* operetta) — 1) жанр музычна-камедыйнага мастацтва, які спалучае інструментальную і вакальную музыку, танец і размоўны дыялог; 2) твор такога жанру.

**АПЕТЫ́Т** (*лац.* appetitus = жаданне) —1) жаданне есці; 2) *перан.* жаданне наогул, імкненне да чаго-н. (напр. уласніцкі а.).

**АПІТЭРАПІ́Я** (ад *лац.* apis = пчала + *гр.* therapeia = лячэнне) — *мед.* выкарыстанне пчалінага яду на лекавыя мэты.

**АПЛАДЫСМЕ́НТЫ** (*фр.* applaudissements) — пляскание ў далоні на знак прывітання ці адабрэння.

**АПЛО́МБ** (*фр.* aplomb = *літар.* раўнавага) — празмерная саманадзейнасць, самаўпэўненасць у паводзінах, у абыходжанні з кім-н. (напр. гаварыць з апломбам).

**АПРАБА́ЦЫЯ** (*лац.* approbatio) — афіцыйнае адабрэнне, вынесенае на падставе праверкі, выпрабавання, шырокага абмеркавання (напр. а. новага метада).

**АПРЫЁРЫ** (*лац.* a priori = з папярэдняга) — незалежна ад вопыту, без уліку фактаў (проціл. *апастэрыёры*).

**АПТА́ЙП** (*англ.* optype) — *палігр.* аўтаматычная машына для фотанабору радкоў, якія аказаліся прапушчанымі наборнапішучай машынай.

**АПТА́НТ** (*лац.* optans, -ntis = які выбірае) — *юр.* асоба, якая мае права выбраць грамадзянства.

**АПТА́ЦЫЯ** (*лац.* optatio = жаданне, выбар) — добраахвотны выбар грамадзянства, які звычайна дазваляецца зрабіць насельніцтву тэрыторыі, што перайшла ад адной дзяржавы да другой.

**АПТЫМА́ЛЬНЫ** (*п.-лац.* optimalis, ад *лац.* optimus = найлепшы) — самы спрыяльны, найбольш адпаведны пэўным умовам і задачам (напр. а. варыянт).

**АПТЫМІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* optimisation, ад *лац.* optimus = найлепшы) — выбар *аптымальнага* варыянта з некалькіх магчымых (напр. а. працэсу кіравання).

**АПТЫМІ́ЗМ** (*фр.* optimisme, ад *лац.* optimus = найлепшы) — бадзёры, жыццярадасны настрой, пры якім чалавек верыць у лепшае будучае, у поспех; схільнасць бачыць ва ўсім светлыя бакі (проціл. *песімізм*).

**АПТЫМІ́СТ** (*фр.* optimiste, ад *лац.* optimus = найлепшы) — чалавек, схільны да *аптымізму* (проціл. *песіміст*).

**АПТЫ́ЧНЫ** (*гр.* optikos) — 1) звязаны з *оптыкай*[2] (напр. а. прыбор, а-ае шкло); 2) светлавы, звязаны з адбіццём і праламленнем прамянёў святла (напр. а-ыя з'явы).

**АПЦЫЁН** (*ням.* Option, ад *лац.* optio, -onis = выбар) — 1) прадастаўленне кампаніямі сваім служачым права купляць акцыі па цвёрдай цане; 2) папярэдняя дамоўленасць аб заключэнні дагавору ў будучым у тэрміны, абумоўленыя бакамі.

**АРА́КУЛ** (*лац.* oraculum = прароцтва) — 1) жрэц у старажытных грэкаў і рымлян, што прарочыў быццам ад бога, а таксама месца такіх прароцтваў; 2) *перан., іран.* асоба, чые меркаванні прызнаюцца бясспрэчнай ісцінай.

**АРАНДА́ТАР** (*с.-лац.* arrendator) — той, хто бярэ што-н. у *арэнду*.

**АРАНЖАРЭ́Я** (*фр.* orangerie, ад orange = апельсін) — цёплае зашклёнае памяшканне для вырошчвання раслін або для несезоннага атрымання пладоў, агародніны і кветак.

**АРА́ТАР** (*лац.* orator) — 1) асоба, якая выступае з прамовай; 2) той, хто валодае майстэрствам слова, красамоўствам.

**АРАТО́РЫЯ** (*іт.* oratorio) — буйны музычны твор для хору, салістаў і аркестра, напісаны на драматычны сюжэт.

**АРБІ́ТА** (*лац.* orbita = каляіна, дарога) — 1) *астр.* шлях, па якім нябеснае цела ці касмічны апарат рухаецца ў прасторы адносна другога нябеснага цела; 2) *перан.* сфера дзеяння, пашырэння чаго-н. (напр. а. ўплыву).

**АРБІ́ТР** (*лац.* arbiter) — 1) пасрэднік у спрэчках несудовага характару, трацейскі суддзя; 2) суддзя ў некаторых відах спартыўных спаборніцтваў (напр. футбольны а.).

**АРБІТРА́Ж** (*фр.* arbitrage) — 1) вырашэнне спрэчных пытанняў *арбітрамі*, трацейскім судом; 2) орган па вырашэнню гаспадарчых спрэчак; 3) камерцыйная дзейнасць, звязаная з выкарыстаннем розніцы цэн аднолькавых біржавых аб'ектаў (каштоўных папер, тавараў) на розных рынках, каб атрымаць прыбытак.

**АРГАНА́ЙЗЕР** (*англ.* organizer) — блакнот-дзённік для дзелавых і асабістых запісаў.

**АРГАНІЗА́ТАР** (*фр.* organisateur) — 1) той, хто арганізуе што-н., з'яўляецца ініцыятарам чаго-н.; 2) той, хто мае здольнасці да арганізацыйнай работы.

**АРГАНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* organisation, ад *с.-лац.* organisatio) — 1) грамадскае аб'яднанне або дзяржаўная ўстанова (напр. прафсаюзная а., рамонтная а.); 2) будова, склад чаго-н. (напр. унутраная а. прадпрыемства); 3) арганізаванасць (напр. дакладная а. у рабоце).

**АРГАНІ́ЗМ** (*фр.* organisme, ад *с.-лац.* organismus) — 1) усякая жывая істота або расліна (напр. жывы а., працейшыя арганізмы); 2) сукупнасць фізічных і духоўных уласцівасцей чалавека (напр. моцны а.); 3) *перан.* тое, што ўяўляе сабой складанае арганізаванае адзінства (напр. дзяржаўны а.).

**АРГАНІ́ЧНЫ** (*гр.* organikos) — 1) які належыць да жывёльнага або расліннага свету (напр. а-ая прырода); 2) які ўтварыўся ў выніку разлажэння жывёльных і раслінных арганізмаў (напр. а-ыя рэчывы); 3) абумоўлены самой сутнасцю чаго-н. (напр. а-ае адзінства тэорыі і практыкі);

4) *перан.* унутрана ўласцівы каму-н. (напр. а-ая патрэбнасць).

**АРГУМЕ́НТ** (*лац.* argumentum = доказ) — 1) факт, які прыводзіцца для пацвярджэння, абгрунтавання чаго-н.; доказ, довад (напр. пераканаўчы а.); 2) *мат.* незалежная пераменная велічыня, ад змянення якой залежыць змяненне другой велічыні (*функцыі* 3).

**АРГУМЕНТА́ЦЫЯ** (*лац.* argumentatio) — 1) прывядзенне доказаў, *аргументаў* (напр. палажэнне патрабуе аргументацыі); 2) сукупнасць аргументаў на карысць чаго-н. (напр. лагічная а.).

**АРДЫНА́РНЫ** (*лац.* ordinarius = звычайны) — 1) які нічым асаблівым не вызначаецца, звычайны (напр. а. выпадак); 2) *уст.* штатны (напр. а. прафесар); параўн. *экстраардынарны* 2.

**АРДЫНАТУ́РА** (ад *лац.* ordinatus = упарадкаваны) — форма павышэння кваліфікацыі ўрачоў у вышэйшых навучальных і навукова-даследчых установах.

**АР'ЕРГА́РД** (*фр.* arriére-garde, ад arriére = задні + garde = ахова) — частка войска (або флоту), якая знаходзіцца ззаду галоўных сіл у паходзе і забяспечвае надзейнасць тылу (проціл. *авангард* 1).

**АР'ЕРСЦЭ́НА** (ад *фр.* arriére = задні + scéne = сцэна) — *тэатр.* задняя частка *сцэны* 1, якая з'яўляецца рэзервовым памяшканнем для ўстанаўлення дэкарацый (проціл. *авансцэна*).

**А́РКА** (*іт.* arco, ад *лац.* arcus = дуга) — 1) перакрыцце ў форме дугі паміж дзвюма апорамі збудавання (напр. а. моста); 2) збудаванне ў выглядзе варот з дугападобным перакрыццем (напр. трыумфальная а.).

**АРКА́ДА** (*фр.* arcade) — рад аднолькавых *арак*, якія складаюць архітэктурнае цэлае.

**АРКЕ́СТР** (*фр.* orchestre, ад *гр.* orchestra = пляцоўка перад сцэнай для хору) — 1) група музыкантаў, аб'яднаных для сумеснага выканання на розных інструментах музычных твораў, а таксама сукупнасць музычных інструментаў для гэтага; 2) месца ў тэатры перад сцэнай, дзе размяшчаюцца музыканты.

**А́РКТЫКА** (*гр.* arktikos = паўночны) — паўночная палярная вобласць зямнога шара (параўн. *Антарктыка*).

**А́РКУШ** (*польск.* arkusz, ад *лац.* arcus = дуга) — 1) стандартны ліст паперы, кардону, фанеры, бляхі; 2) адзінка вымярэння аб'ёму кнігі, роўная шаснаццаці старонкам друкаванага тэксту.

**АРМАГЕДО́Н** (*англ.* Armageddon < *гр.* Armagedon, ад *ст.-яўр.* har Megiddo = гара Мегідо, дзе, паводле Апакаліпсіса, павінна адбыцца заключная бітва паміж сіламі дабра і зла) — 1) усеагульная катастрофа, канец свету; 2) знішчэнне жыцця на Зямлі ў выніку атамнай вайны.

**АРМАТУ́РА** (*лац.* armatura = узбраенне) — 1) сукупнасць прыбораў і прыстасаванняў для якога-н. апарата, машыны; 2) металічная аснова, каркас жалезабетоннага збудавання.

**АРМРЭ́СТЛІНГ** (*англ.* arm-wrestling, ад arm = рука + + wrestling = барацьба) — від барацьбы, пераадоленне намаганняў рукі партнёра сваёй рукой (з апорай локцямі на стол).

**АРНА́МЕНТ** (*лац.* ornamentum = упрыгожанне) — жывапісны ўзор з рытмічна размешчаных геаметрычных, раслінных і жывёльных элементаў.

**АРСЕНА́Л** (*фр.* arsenal, ад *ар.* darassina'ah = майстэрня зброі) — 1) склад зброі і ваеннай амуніцыі; 2) *перан.* вялікі запас якіх-н. сродкаў, магчымасцей (напр. а. ведаў).

**АРТАДАКСА́ЛЬНЫ** (ад *гр.* orthodoksos = прававерны) — які няўхільна прытрымліваецца прынцыпаў пэўнага вучэння, светапогляду; паслядоўны (напр. а-ыя погляды).

**АРТАДО́КС** (*гр.* orthodoksos = прававерны) — той, хто прытрымліваецца *артадаксальных* поглядаў.

**АРТАПЕ́ДЫЯ** (ад *гр.* orthos = прамы, правільны + + paideia = выхаванне) — раздзел медыцыны, які займаецца вывучэннем, лячэннем і прафілактыкай стойкіх дэфармацый пазваночніка і канечнасцей.

**АРТ-ДЫРЭ́КТАР** (*англ.* art-director, ад *лац.* ars, artis = = мастацтва + director = кіраўнік) — мастацкі кіраўнік рэкламнага агенцтва.

**АРТРО́З** (*н.-лац.* arthrosis, ад *гр.* arthron = сустаў) — *мед.* хранічнае захворванне суставаў, звязанае з парушэннем абмену рэчываў.

**АРТ-РО́К** (*англ.* art rock, ад art = мастацтва + rock = гайдацца) — напрамак *рок-музыкі*, які спалучае класічныя

формы музычных твораў з джазавымі меладычнымі акцэнтамі.

**АРТРЫ́Т** (*фр.* arthrite, ад *гр.* arthron = сустаў) — *мед.* запаленне суставаў інфекцыйнага паходжання.

**АРТ-ХА́ЎС** (*англ.* art house) — малабюджэтнае моднае элітарнае кіно.

**АРТ-ШО́У** (*англ.* art show, ад art = мастацтва + show = відовішча, паказ) — яркае артыстычнае прадстаўленне.

**АРТЫ́КУЛ** (*лац.* articulus) — 1) навуковы або публіцыстычны твор невялікага памеру ў часопісе, зборніку, газеце; 2) раздзел, параграф у афіцыйным дакуменце (напр. а. канстытуцыі); 3) тып вырабу, тавару (напр. а. тканіны).

**АРТЫКУЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* articulatio) — *лінгв.* работа органаў маўлення (губ, языка, мяккага паднябення, галасавых звязак) пры вымаўленні гукаў.

**АРТЫ́СТ** (*фр.* artiste, ад *лац.* ars, artis = мастацтва) — 1) прафесійны выканаўца ў галіне сцэнічнага мастацтва, цырка, кіно (акцёр, спявак, музыкант і інш.); 2) *перан.* вялікі ўмелец, віртуоз у якой-н. справе.

**АРТЭ́РЫЯ** (*гр.* arteria) — 1) крывяносны сасуд, які нясе кроў ад сэрца ва ўсе часткі цела (параўн. *вена*); 2) *перан.* важны шлях зносін (напр. водныя артэрыі).

**АРУЭЛІ́ЗМ** (*англ.* orwellizm, ад D.Orwell = прозвішча англійскага пісьменніка, аўтара рамана-утопіі «1984») — маніпуляцыя фактамі або іх скажэнне, падача праўды ў ілжывым святле ў мэтах прапаганды (тэрмін выкарыстоўваецца ў адносінах да грамадства, якое цалкам кантралюецца ўладамі).

**АРФАГРА́ФІЯ** (ад *гр.* orthos = правільны + grapho = пішу) — сістэма правіл напісання слоў пэўнай мовы; правапіс.

**АРФАЭ́ПІЯ** (ад *гр.* orthos = правільны + epos = маўленне) — правілы літаратурнага вымаўлення.

**АРХІЕПІ́СКАП** (*гр.* archiepiskopos) — духоўнае званне ў праваслаўнай царкве, сярэдняе паміж *епіскапам* і *мітрапалітам.*

**АРХІМАНДРЫ́Т** (*гр.* archimandrites, ад archi = галоўны + + mandra = манастыр; загон, стойла) — старшы манах, звычайна *ігумен* праваслаўнага манастыра.

**АРХІРЭЙ** (*гр.* archiereos) — асоба, якая належыць да вышэйшых свяшчэннаслужыцеляў у праваслаўі (*епіскап, архіепіскап, мітрапаліт*).

**АРХІТРАЎ** (*фр.* architrave, ад *гр.* archi = галоўны + + trabs = бэлька) — *архіт.* галоўная бэлька, ніжняя частка *антамблемента*.

**АРХІТЭКТАР** (*п.-лац.* architector, ад *гр.* architekton = будаўнік) — спецыяліст у галіне *архітэктуры*.

**АРХІТЭКТОНІКА** [*гр.* architektonike (techne) = будаўнічае мастацтва] — 1) мастацкае выражэнне структуры, узаемасувязі частак у архітэктуры і мастацтве; 2) агульны малюнак геалагічнай будовы, асаблівасцей залягання горных парод у пэўнай мясцовасці.

**АРХІТЭКТУРА** (*лац.* architectura, ад *гр.* architekton = будаўнік) — 1) мастацтва праектаваць, будаваць і прыгожа афармляць будынкі; 2) характар, стыль будынка (напр. дом гатычнай архітэктуры); 3) *перан.* будова, кампазіцыя чаго-н. (напр. а. рамана).

**АРХІЎ** (*лац.* archivum, ад *гр.* archaios = старажытны) — 1) установа, дзе захоўваюцца і сістэматызуюцца пісьмовыя помнікі мінулага, старыя дакументы; 2) аддзел установы, дзе захоўваюцца старыя дакументы, скончаныя справы і інш.; 3) збор пісем, рукапісаў, фатаграфій, якія маюць адносіны да дзейнасці якой-н. арганізацыі, установы, асобы (напр. а. інстытута, а. Якуба Коласа).

**АРЫГАМІ** (*яп.* origami, ад ori = складваць, згінаць + gami = папера) — майстэрства прыгатавання мастацкіх вырабаў з паперы шляхам складвання яе ў розных напрамках, а таксама мастацкі выраб, атрыманы такім спосабам.

**АРЫГІНАЛ** (*лац.* originalis = першапачатковы) — 1) твор ці дакумент у сваёй сапраўднай, першапачатковай форме (у адрозненне ад перакладу або копіі); 2) *перан.* чалавек са своеасаблівымі схільнасцямі, звычкамі, поглядамі.

**АРЫЕНТАЦЫЯ** (*фр.* orientation, ад *лац.* oriens, -ntis = = усход) — 1) вызначэнне свайго месцазнаходжання (напр. а. на мясцовасці); 2) *перан.* уменне разабрацца ў якіх-н. пытаннях, у навакольнай абстаноўцы (напр. добрая а. у новай літаратуры); 3) *перан.* накіраванасць дзейнасці ў інтарэсах каго-н., чаго-н. (напр. а. на масавага чытача).

**АРЫЕНЦІ́Р** (*ням.* Orientier, ад *лац.* oriens, -ntis = усход) — 1) добра бачны на мясцовасці прадмет або элемент рэльефу, па якім можна вызначыць сваё месцазнаходжанне, знайсці пэўны аб'ект; 2) *перан.* кірунак дзейнасці, мэта, устаноўка (напр. выбраць надзейны а.).

**АРЫСТАКРАТЫ́ЗМ** (*фр.* aristocratisme, ад *гр.* aristokratia = арыстакратыя) — знешняя вытанчанасць паводзін.

**АРЫТМІ́Я** (*гр.* arrhythmia) — *мед.* парушэнне нармальнага рытму сардэчных скарачэнняў.

**А́РЫШТ** (*польск.* areszt, ад *с.-лац.* arrestum) — 1) узяцце пад варту, пазбаўленне волі; 2) забарона судовымі органамі распараджацца якой-н. маёмасцю або грашовымі сродкамі (напр. накласці а. на тавары).

**А́РЫЯ** (*іт.* aria = песня) — *муз.* вакальны твор для аднаго голасу (звычайна частка *оперы, араторыі* ці *кантаты*).

**АРЭА́Л** (*ням.* Areal, ад *лац.* area = месца, прастора) — тэрыторыя распаўсюджання на зямной паверхні якой-н. з'явы, віду жывёл, раслін, карысных выкапняў, моў і г. д. (напр. а. еўрапеоіднай расы, лінгвістычны а.).

**АРЭ́НА** (*лац.* arena = *літар.* пясок) — 1) круглая пляцоўка ў цырку для выступленняў; 2) *перан.* поле дзейнасці (напр. літаратурная а., палітычная а.).

**АРЭ́НДА** (*польск.* arenda, ад *с.-лац.* arrenda) — 1) наём маёмасці (зямлі, памяшкання і інш.) за пэўную плату на пэўны тэрмін; 2) плата за карыстанне такой маёмасцю.

**АРЭО́Л** (*фр.* auréole, ад *лац.* aureolus = пазалочаны) — 1) светлы круг, ззянне вакол ярка асветленага прадмета, а таксама на фатаграфіі такога прадмета; 2) *перан.* атмасфера гонару, павагі, якая акружае каго-н.

**АС** (*фр.* as = майстар сваёй справы) — 1) лётчык, які валодае лётным і баявым майстэрствам; 2) *перан.* дасканалы майстар сваёй справы (напр. хакейны ас).

**АСАМБЛЕ́Я** (*фр.* assemblée = сход) — агульны сход якой-н. міжнароднай арганізацыі дыпламатычнага, палітычнага або навуковага характару.

**АСАРТЫМЕ́НТ** (*фр.* assortiment) — падбор розных відаў тавараў у магазіне або вырабаў на вытворчым прадпрыемстве; падбор аднародных прадметаў розных сартоў (напр. багаты а. тканін, а. ручак).

**АСАРЦІ́** (*фр.* assorti = добра падабраны) — спецыяльна падабраная сумесь чаго-н., пераважна аднароднага (напр. шакаладнае а.).

**АСАЦЫЯ́ЦЫЯ** (*с.-лац.* associatio = злучэнне) — 1) аб'яднанне асоб або ўстаноў, арганізацый аднаго роду дзейнасці (напр. а. медыцынскіх работнікаў, сацыялагічная а.); 2) група, спалучэнне, злучэнне чаго-н. (напр. а. малекул, зорная а.); 3) *псіх.* сувязь паміж асобнымі ўяўленнямі, калі адно ўяўленне выклікае другое (проціл. *дысацыяцыя* 2).

**АСЕ́МБЛЕР** (*англ.* assembler) — *інф.* дапаможная *праграма* 5 для аўтаматычнага пераводу зыходнай праграмы з *аўтакода* на машынную мову.

**АСЕНІЗА́ЦЫЯ** (*ням.* Assänisation, ад *фр.* assainissement = = аздараўленне) — санітарныя мерапрыемствы па ачышчэнню мясцовасці ад нечыстот і адкідаў.

**АСІГНАВА́ЦЬ** (*лац.* assignare = выдзяляць) — выдзяляць пэўныя грашовыя сродкі на якія-н. расходы.

**АСІМІЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* assimilatio) —1) *біял.* утварэнне складаных арганічных рэчываў з больш простых у працэсе жыццядзейнасці раслінных і жывёльных арганізмаў (проціл. *дысіміляцыя* 1); 2) зліццё аднаго народа з другім у выніку засваення ім чужой мовы і культуры і паступовай страты самабытнасці; 3) *лінгв.* прыпадабненне гукаў пры вымаўленні (проціл. *дысіміляцыя* 2).

**АСІСТЭ́НТ** (*лац.* assistens, -ntis = які прысутнічае, дапамагае) — 1) асоба, якая дапамагае спецыялісту пры выкананні асноўнай работы, напр. памочнік урача пры аперацыі, прафесара ў час чытання лекцыі і інш.; 2) асоба, якая займае малодшую выкладчыцкую пасаду ў вышэйшай навучальнай установе.

**АСКЕ́Т** (*гр.* asketes) — 1) рэлігійны падзвіжнік, які знясільвае сябе постам і доўгай малітвай; 2) *перан.* чалавек, які адмаўляецца ад жыццёвых задавальненняў, абмяжоўваецца самым неабходным і вядзе строгі спосаб жыцця.

**АСКЕТЫ́ЗМ** (*фр.* ascétisme, ад *гр.* asketes = аскет) — 1) рэлігійна-філасофскае вучэнне, якое прапаведуе падаўленне пачуццёвых жаданняў для дасягнення маральнай дасканаласці; 2) *перан.* крайняе ўстрыманне, адмаўленне ад жыццёвых даброт.

**АСПЕ́КТ** (*лац.* aspectus = погляд) — пункт гледжання, з якога ацэньваецца прадмет, з'ява, паняцце (напр. навуковы а., практычны а.).

**АСПІРАНТУ́РА** (*ням.* Aspirantur, ад *лац.* aspirans, -ntis = = які імкнецца) — форма падрыхтоўкі кадраў для вышэйшых навучальных і навукова-даследчых устаноў.

**АСТА́ЗІЯ** (*н.-лац.* astasia, ад *гр.* a- = не + stasis = стаянне) — *мед.* страта здольнасці стаяць у выніку захворвання нервовай сістэмы (параўн. *абазія*).

**А́СТМА** (*гр.* asthma) — прыступы задышкі пры захворванні сэрца або лёгкіх (напр. бранхіяльная а.).

**АСТРАКІ́ЗМ** (*гр.* ostrakismos) — 1) *гіст.* выгнанне небяспечных для дзяржавы грамадзян у Старажытнай Грэцыі, якое вырашалася шляхам тайнага галасавання чарапкамі, дзе пісаліся імёны выгнаннікаў; 2) *перан.* выгнанне, ганенне (напр. падвергнуць астракізму).

**АСТРАЛО́ГІЯ** (*гр.* astrologia, ад astron = зорка + logos = = вучэнне) — вучэнне аб сувязі зямных падзей з размяшчэннем нябесных свяціл, а таксама аб магчымасці прадказання на аснове такой сувязі чалавечых лёсаў.

**АСТРА́ЛЬНЫ** (*лац.* astralis) — 1) зорны (напр. а. свет); 2) нематэрыяльны, містычны, які адносіцца да надзорнага свету і адчуваецца толькі *экстрасэнсамі.*

**АСТРАНА́ЎТ** (*англ.* astronaut, ад *гр.* astron = зорка + nautes = мараплавец) — тое, што і *касманаўт.*

**АСТРАНА́ЎТЫКА** (*англ.* astronautics, ад *гр.* astron = зорка + nautike = караблеваджэнне) — тое, што і *касманаўтыка.*

**АСТРАНО́М** (*лац.* astronomus, ад *гр.* astronomos = звязаны з назіраннямі над зоркамі) — спецыяліст у галіне *астраноміі.*

**АСТРАНО́МІЯ** (*гр.* astronomia, ад astron = зорка + nomos = = закон) — навука пра нябесныя целы, пра Сусвет.

**АСТРО́ЛАГ** (*лац.* astrologus, ад *гр.* astron = зорка + logos = = вучэнне) — той, хто займаецца *астралогіяй*, варожыць па зорках.

**АСТЭАХАНДРО́З** (ад *гр.* osteon = косць + chondros = храсток) — хвароба падхрастковага аддзела доўгіх трубчатых касцей шкілета; характарызуецца болямі, абмежаваннем рухаў у суставах.

**АСТЭНІ́Я** (*гр.* astheneia = слабасць) — *мед.* стан агульнай слабасці арганізма; бяссілле.

**АСТЭРО́ІД** (*гр.* asteroeides = зоркападобны) — адна з малых планет, якія кружаць вакол Сонца, галоўным чынам паміж арбітамі Марса і Юпітэра.

**АТАВІ́ЗМ** (*фр.* atavisme, ад *лац.* atavus = продак) — 1) з'яўленне ў асобных арганізмаў прымет, уласцівых іх далёкім продкам, напр. развіццё ў чалавека хваставога прыдатка; 2) *перан.* перажытак наогул, вяртанне да чаго-н. крайне ўстарэлага.

**АТАНІ́Я** (*гр.* atonia = расслабленасць, вяласць) — аслабленне пругкасці і эластычнасці тканак арганізма, вяласць мускулаў.

**АТАШЭ́** (*фр.* attaché) — спецыяліст-кансультант у якой-н. галіне пры пасольстве (напр. ваенны а., гандлёвы а.).

**АТЛЕ́ТЫКА** [*гр.* athletike (techne) = спартыўнае (майстэрства)] — сістэма спартыўных практыкаванняў, якія развіваюць сілу, спрыт, вынослівасць; *лёгкая а.* — бег, хадзьба, скачкі, кіданне кап'я, дыска, штурханне ядра і інш.; *цяжкая а.* — бокс, барацьба, падняцце штангі.

**АТМАСФЕ́РА** (ад *гр.* atmos = дыханне + sphaire = сфера, шар) — 1) газападобная абалонка вакол Зямлі і некаторых іншых планет; 2) *перан.* настрой і ўзаемаадносіны ў калектыве (напр. таварыская а.); 3) *фіз.* адзінка вымярэння ціску газаў (напр. ціск у пяць атмасфер).

**АТРАКЦЫЁН** (*фр.* attraction) — 1) эфектны цыркавы або эстрадны нумар; 2) устройства для забаў у месцах масавых гулянняў (карусель, арэлі і інш.).

**АТРАФІ́Я** (*гр.* atrophia = завяданне) — 1) страта жыццяздольнасці якога-н. органа, часткі арганізма (напр. а. мышцы); 2) *перан.* прытупленне, аслабленне якой-н. уласцівасці, якасці, здольнасці (напр. а. сумлення).

**АТРЫБУ́Т** (*лац.* attributum = уласцівасць, прыналежнасць) — 1) неад'емная, пастаянная прымета, прыналежнасць чаго-н. (напр. атрыбуты ўлады, атрыбуты паляўнічага); 2) *філас.* неабходная, неад'емная ўласцівасць аб'екта (напр. рух — а. матэрыі).

**АТЫ́Т** (ад *гр.* us, otos = вуха) — *мед.* запаленне слізістай абалонкі вуха.

**АТЭЇЗМ** (*фр.* athéisme, ад *гр.* а- = не + theos = бог) — нявер'е ў існаванне Бога, адмаўленне рэлігіі.

**АТЭ́ЛЬ, ГАТЭ́ЛЬ** (*фр.* hôtel, ад hôle = госць) — гасцініца (звычайна ў замежных краінах).

**АТЭЛЬЕ́** (*фр.* atelier) — 1) майстэрня для пашыву адзення, абутку, рамонту бытавой тэхнікі (напр. а. мод, тэлевізійнае а.); 2) майстэрня мастака, скульптара, фатографа.

**АТЭРАСКЛЕРО́З** (ад *гр.* athere = кашка + sklerosis = зацвярджэнне) — захворванне сардэчна-сасудзістай сістэмы, пры якім у артэрыях адкладваецца *халестэрын* і разрастаецца злучальная тканка, што пагаршае забеспячэнне крывёй органаў.

**АТЭСТА́Т** (*ням.* Attestat, ад *лац.* attestari = сведчыць) — 1) афіцыйны дакумент аб заканчэнні сярэдняй навучальный установы, аб прысваенні вучонага звання і інш. (напр. а. сталасці, а. прафесара); 2) дакумент на права атрымання ваеннаслужачым грашовага, харчовага і іншага забеспячэння ў час камандзіровак, пераездаў.

**АТЭСТА́ЦЫЯ** (*лац.* attestatio = сведчанне) — 1) вызначэнне афіцыйнай камісіяй кваліфікацыі, службовай адпаведнасці работніка пасадзе, якую ён займае, якасці прадукцыі і інш.; 2) водгук, характарыстыка, ацэнка, якая даецца каму-н. або чаму-н.

**АЎДЫЕ́НЦЫЯ** (*лац.* audientia = слуханне) — афіцыйны прыём у высокапастаўленай асобы.

**АЎДЫЁАЛЬБО́М** (ад *лац.* audio = слухаю + album = белая табліца) — некалькі песень, музычных кампазіцый, аб'яднаных на храналагічнай або канцэптуальнай аснове і запісаных на пласцінцы, *аўдыёкасеце, кампакт-дыску*.

**АЎДЫЁВІЗУА́ЛЬНЫ** (ад *лац.* audio = слухаю + visualis = = зрокавы) — заснаваны на адначасовым успрыманні слыхам і зрокам (напр. а-ыя сродкі навучання).

**АЎДЫЁКАСЕ́ТА** (ад *лац.* audio = слухаю + *англ.* cassette = касета) — плоская пластыкавая каробка, якая змяшчае магнітную стужку для запісу гуку.

**АЎДЫЁПЛЕ́ЕР** (ад *лац.* audio = слухаю + *англ.* player = = плеер) — кампактны пераносны апарат для ўзнаўлення гуку з магнітнага запісу.

**АЎДЫ́Т** (*англ.* audit, ад *лац.* auditus = слуханне) — праверка фінансавай дзейнасці камерцыйнага прадпрыемства, якая праводзіцца *аўдытарам* 3.

**АЎДЫ́ТАР** (*лац.* auditor = слухач) — 1) вучань у некаторых навучальных установах (напр. у духоўных вучылішчах), прызначаны настаўнікам выслухваць урокі іншых вучняў; 2) *гіст.* член царкоўнага суда ў Вялікім княстве Літоўскім; 3) асоба або фірма, якая правярае стан фінансава-гаспадарчай дзейнасці акцыянернай кампаніі.

**АЎДЫТО́РЫЯ** (*лац.* auditorium) — 1) памяшканне, прызначанае для чытання лекцый; 2) слухачы лекцыі, даклада.

**АЎКЦЫЁН** (*лац.* auctio, -onis = павелічэнне) — публічны продаж маёмасці, пры якім пакупніком становіцца той, хто дае за рэч найбольшую суму.

**А́ЎРА** (*гр.* aura = подых ветру) — 1) асаблівая атмасфера, настрой, клімат, якія ўтвараюцца вакол біялагічных арганізмаў, нібыта выпраменьваючыся імі; 2) стан, які папярэднічае прыпадкам *эпілепсіі, істэрыі, мігрэні.*

**АЎРА́Л** (*англ.* over all = усе наверх) — 1) тэрміновая работа на судне, у якой удзельнічае ўся каманда; 2) *перан.* вельмі спешная работа ўсяго калектыву, выкліканая адсутнасцю планамернасці ў працы.

**АЎТ** (*англ.* out = па-за) — 1) становішча ў спартыўных гульнях, калі мяч або шайба выходзіць за межы гульневага поля, пляцоўкі; 2) каманда суддзі на рынгу, якая азначае, што баксёр у *накаўце.*

**АЎТАБА́Н** (*ням.* Autobahn, ад auto = аўтамабільны + + Bahn = дарога, шлях) — шырокая *магістраль* для скораснага руху аўтамабіляў.

**АЎТАГЕ́ННЫ** (*н.-лац.* autogenus, ад *гр.* autos = сам + genos = род) — які заключаецца ў выкарыстанні самаўнушэння пры рэгуляванні свайго фізічнага і псіхічнага стану (напр. а-ая трэніроўка).

**АЎТАДЫЗА́ЙН** (*англ.* autodesign, ад *гр.* autos = сам + *англ.* design = праектаваць, канструяваць) — мастацкае канструяванне ў галіне машынабудавання.

**АЎТАКЕФА́ЛІЯ** (ад *гр.* autos = сам + kephale = галава) — незалежная, самакіравальная праваслаўная царква.

**АЎТАКО́Д** (ад *гр.* autos = сам + *фр.* code = код) — мова *праграміравання,* арыентаваная на канкрэтную ЭВМ.

**АЎТАКРА́Т** (*гр.* autokrates, ад autos = сам + kratos = улада) — правіцель з неабмежаванай і бескантрольнай вярхоўнай уладай, самадзержац.

**АЎТАКРА́ТЫЯ** (*гр.* autokrateia, ад autos = сам + kratos = улада) — форма кіравання, пры якой адной асобе належыць неабмежаваная ўлада ў дзяржаве; самадзяржаўе.

**АЎТАМАБІЛІ́ЗМ** (*фр.* automobilisme, ад *гр.* autos = сам + + *лац.* mobilis = рухомы) — аўтамабільная справа; аўтамабільны спорт.

**АЎТАМАТРЫ́СА** (*фр.* automotrice, ад *гр.* autos = сам + *фр.* motrice = маторны вагон) — чыгуначны пасажырскі або службовы вагон з уласным рухавіком.

**АЎТАМАТЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* automatisation, ад *гр.* automatos = самарухомы) — прымяненне тэхнічных сродкаў, аўтаматычных сістэм кіравання ў мэтах павышэння эфектыўнасці тэхналагічных працэсаў.

**АЎТАМАТЫ́ЗМ** (*фр.* automatisme, ад *гр.* automatismos = = самачынны) — механічнасць, міжвольнасць дзеянняў або рухаў.

**АЎТАМА́ТЫКА** (*фр.* automatique, ад *гр.* automatos = самарухомы) — 1) сукупнасць механізмаў і прыстасаванняў, якія дзейнічаюць без непасрэднага ўдзелу чалавека; 2) галіна навукі і тэхнікі, якая распрацоўвае метады і сродкі *аўтаматызацыі* вытворчых працэсаў.

**АЎТАМАТЫ́ЧНЫ** (*фр.* automatique, ад *гр.* automatos = самарухомы) — 1) які дзейнічае без непасрэднага ўдзелу чалавека; 2) *перан.* міжвольны, машынальны.

**АЎТАНІ́М** (ад *гр.* autos = сам + onyma = імя) — сапраўднае імя аўтара, які піша пад *псеўданімам.*

**АЎТАНО́МІЯ** (*гр.* autonomia, ад autos = сам + nomos = закон) — 1) права насельніцтва якой-н. часткі дзяржавы самастойна вырашаць справы ўнутранага кіравання; самакіраванне; 2) здольнасць асобы прымаць самастойныя рашэнні.

**АЎТАПІЛО́Т** (*англ.* autopilot, ад *гр.* autos = сам + *фр.* pilote = пілот) — устройства для аўтаматычнага кіравання лятальным апаратам.

**АЎТАПСІ́Я** (ад *гр.* autos = сам + opsis = бачанне) — *мед.* ускрыццё трупа для вызначэння прычыны смерці.

**А́ЎТАР** (*лац.* auctor) — стваральнік літаратурнага або мастацкага твора, навуковай працы, праекта, вынаходства, камп'ютэрнай праграмы і інш.

**АЎТАРАДЭ́О** (*англ.* autorodeo, ад *гр.* autos = сам + *англ.* rodeo = радэо) — тэатралізаванае відовішча, якое складаецца з трукаў, што дэманструюць магчымасці чалавека ў кіраванні аўтамабілем.

**АЎТАРА́ЛІ** (ад *гр.* autos = сам + *англ.* raily = збор) — тое, што і *ралі.*

**АЎТАРКІ́Я** (*гр.* autarkeia = самазадаволенасць) — палітыка эканамічнага адасабленная краіны або асобных рэгіёнаў ад эканомікі іншых дзяржаў ці астатніх рэгіёнаў з мэтай стварэння замкнутай гаспадаркі.

**АЎТАРЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* autorisation = дазвол) — 1) выражэнне аўтарам згоды на пераклад, інсцэніроўку ці экранізацыю свайго твора; 2) выдача дазволу, *ліцэнзіі*; 3) зацвярджэнне асігнаванняў, *інвестыцый.*

**АЎТАРЫТА́РНЫ** (*фр.* autoritaire = уладны, ад *лац.* auctoritas = улада, уплыў) — 1) заснаваны на безагаворачным падпарадкаванні ўладзе, дыктатуры (напр. а. рэжым); 2) які імкнецца навязаць свой аўтарытэт.

**АЎТАРЫТАРЫ́ЗМ** (*фр.* autoritarisme, ад *лац.* auctoritas = = улада, уплыў) — сістэма кіравання, якая заснавана на неабмежаванай асабістай уладзе і абапіраецца на дыктатарскі рэжым (проціл. *дэмакратыя* 1).

**АЎТАРЫТЭ́Т** (*ням.* Autorität, ад *лац.* auctoritas = уплыў, значнасць) — 1) агульнапрызнанае значэнне, уплыў, якімі карыстаецца якая-н. асоба дзякуючы плённай дзейнасці ў пэўнай галіне (у навуцы, мастацтве, палітыцы і г. д.); 2) асоба, якая карыстаецца ўсеагульнай павагай, прызнаннем, мае ўплыў.

**АЎТАРЭФЕРА́Т** (*ням.* Autoreferat, ад Autor = аўтар + Referat = рэферат) — кароткі выклад аўтарам сваёй навуковай працы (напр. а. дысертацыі).

**АЎТАСТРА́ДА** (*іт.* autostrada, ад auto = аўтамабіль + strada = дарога) — дарога для аўтамабільнага руху без папярочных наземных пераездаў.

**АЎТАСЭ́РВІС** (ад *гр.* autos = сам + *англ.* service = служба, паслуга, дапамога) — тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў індывідуальнага карыстання.

**АЎТАТРЭ́НІНГ** (*англ.* autotraining, ад auto = сама- + training = трэніроўка) — *аўтагенная* трэніроўка, комплекс

метадаў уздзеяння на ўласны фізічны і псіхічны стан; саматрэніроўка.

**АЎТАХТО́НЫ** (*фр.* autochtone, ад *гр.* autochthon = мясцовы, карэнны) — 1) жывёлы або расліны, якія жывуць у той жа мясцовасці, у якой узніклі ў працэсе эвалюцыі (параўн. *алахтоны*); 2) тое, што і *абарыгены* 1.

**АЎТО́ГРАФ** (*фр.* autographe, ад *гр.* autos = сам + grapho = = пішу) — 1) уласнаручны, звычайна памятны, надпіс ці подпіс (напр. узяць у пісьменніка а.); 2) аўтарскі рукапісны тэкст (напр. а. верша М.Багдановіча).

**АЎТРА́ЙТ** (*англ.* outright = прамы, поўны) — простая тэрміновая валютная здзелка, якая прадугледжвае плацяжы па форвардным курсе ў строга вызначаны тэрмін.

**АЎТСА́ЙД** (*англ.* outside = знешні бок) — крайні гулец лініі нападзення ў футбольнай і хакейнай камандзе.

**АЎТСА́ЙДЭР** (*англ.* outsider) — 1) каманда або спартсмен, якія займаюць апошняе месца ў спаборніцтве (проціл. *лідэр* 2); 2) дробнае або сярэдняе прадпрыемства, якое не ўваходзіць у манапалістычнае аб'яднанне.

**АЎТЫ́ЗМ** (*н.-лац.* autismus, ад *гр.* autos = сам) — хваравіты стан псіхікі чалавека, які характарызуецца паглыбленнем у асабістыя ўнутраныя перажыванні і поўным адасабленнем ад знешняга свету.

**АЎТЭНТЫ́ЧНЫ** (*гр.* authentikos) — дакладны, сапраўдны, адпаведны арыгіналу (напр. а. тэкст, а. пераклад).

**АФА́ЗІЯ** (*гр.* aphasia) — поўная ці частковая страта мовы ў выніку пашкоджання моўных цэнтраў галаўнога мозгу.

**АФАРЫ́ЗМ** (*гр.* aphorismos) — коратка выказаная глыбокая па зместу думка.

**АФЕ́КТ** (*лац.* affectus = душэўнае хваляванне, страсць) — кароткачасовы стан моцнага нервовага ўзрушэння і запальчывасці (адчаю, лютасці, жаху і г. д.), які суправаджаецца рэзкімі рухамі, крыкам, плачам.

**АФЕКТА́ЦЫЯ** (*лац.* affectatio) — штучная ўзрушанасць, перабольшанае і падкрэсленае выражэнне якога-н. пачуцця, настрою (напр. дэкламаваць з афектацыяй).

**АФЕ́РА** (*фр.* affaire = справа) — нядобрасумленнае, махлярскае прадпрымальніцтва з мэтай нажывы; сумніўная здзелка.

**АФЕ́РТА** (*с.-лац.* offerta = ахвяра) — прапанова адной асобы другой асобе заключыць здзелку з дакладным пералікам усіх яе ўмоў.

**АФЕРЫ́СТ** (*фр.* affairiste) — чалавек, які займаецца *аферамі*, нядобрасумленны дзялок.

**АФЕРЭ́НТ** (*лац.* offerens, -ntis = які ахвяруе) — асоба, якая выступае з *афертай*.

**АФІЛІЯ́ЦЫЯ** (ад *англ.* affiliate = далучацца, устанаўліваць сувязь) — *псіх.* імкненне чалавека быць сярод людзей; павялічваецца ў час небяспекі.

**АФІЦЫЁЗНЫ** (*лац.* officiosus = паслужлівы) — 1) які фармальна не звязаны з урадам, але на справе праводзіць яго погляды (напр. а-ая газета); 2) прасякнуты прапагандай пануючай ідэалогіі (напр. а-ая інфармацыя).

**АФІ́ША** (*фр.* affiche) — аб'ява аб спектаклі, канцэрце, лекцыі, якая вывешваецца на відным месцы.

**АФІШЫ́РАВАЦЬ** (*фр.* afficher) — выстаўляць напаказ, падкрэсліваць што-н. сваімі паводзінамі (напр. а. сваю адзіноту).

**АФСА́ЙД** (*англ.* off side = па-за гульнёй) — становішча па-за гульнёй у футболе, хакеі.

**АФШО́Р** (*англ.* off shore = *літар.* удалечыні ад берага) — *экан.* цэнтр сумеснага прадпрымальніцтва, які прадастаўляе льготны рэжым толькі для фінансава-крэдытных аперацый з замежнымі партнёрамі і ў замежнай валюце.

**АХЛАКРА́ТЫЯ** (*гр.* ochlokratia, ад ochlos = натоўп + kratos = улада) — улада натоўпу.

**АЭРАНА́ЎТЫКА** (ад *гр.* aer = паветра + nautike = караблеваджэнне) — тэорыя і практыка перамяшчэння ў паветры на лятальных апаратах; лётная справа.

**АЭРАПО́НІКА** (ад *гр.* aer = паветра + ponikos = працоўны, працавіты) — вырошчванне раслін без глебы ў вільготным паветры з дапамогай пажыўных раствораў (параўн. *гідрапоніка*).

**АЭРА́РЫЙ** (ад *гр.* aer = паветра) — пляцоўка для прыняцця паветраных ванн, абароненая ад пападання прамых сонечных прамянёў (параўн. *салярый*).

**АЭРО́БІКА** (*англ.* aerobics, ад *гр.* aer = паветра + bios = жыццё) — аздараўленчая рытмічная гімнастыка, якая выконваецца пад музыку ў параўнальна хуткім тэмпе.

# Б

**БАА́** (*фр.* boa, ад *лац.* boa = змяя) — 1) змяя сямейства ўдававых, якая водзіцца ў лясах трапічнай Амерыкі; 2) доўгі і вузкі жаночы шаль з футра або пёраў (напр. страусавае б.).

**БАГА́Ж** (*фр.* bagage) — 1) рэчы пасажыра, якія знаходзяцца пры ім або перавозяцца асобна; 2) *перан.* запас ведаў, вопыту ў каго-н. (напр. навуковы б.).

**БАГЕ́МА** (*фр.* bohéme) — асяроддзе матэрыяльна незабяспечанай інтэлігенцыі (мастакоў, артыстаў, музыкантаў, пісьменнікаў) з іх бязладным, легкадумным спосабам жыцця, а таксама бязладны быт такога асяроддзя.

**БАГЕ́Т** (*фр.* baguette = палачка) — разьбяная, па-мастацку аздобленая або пафарбаваная драўляная планка, з якой робяць рамкі, карнізы.

**БА́ГІ** (*англ.* buggy) — адна- або двухмесны спартыўны аўтамабіль са здымным адкрытым кузавам і цвёрдай рамай, прызначаны для спаборніцтваў на перасечанай мясцовасці.

**БА́ГІНГ** (*англ.* bugging, ад bug = насякомае, жук) — 1) падслухоўванне з дапамогай сучасных электронных сродкаў; 2) устройства мініяцюрных памераў, якое тайна манціруецца ў жыллі або адзенні, «жучок».

**БАДМІНТО́Н** (*англ.* badminton, ад Badminton = назва горада ў Англіі) — спартыўная гульня, у якой з дапамогай ракетак перакідваецца валан цераз сетку ад аднаго гульца да другога.

**БА́ЗА** (*фр.* base, ад *гр.* basis = аснова, фундамент) — 1) *архіт.* апорная частка калоны, збудавання; 2) аснова, тое галоўнае, на чым грунтуецца, ствараецца што-н. (напр. матэрыяльная б., тэарэтычная б.); 3) апорны пункт, месца, дзе засяроджаны якія-н. запасы, ёсць спецыяльныя збудаванні і прыстасаванні для абслугоўвання чаго-н. (напр. ваенная б., турысцкая б.); 4) склад, месца для захоўвання тавараў, матэрыялаў; 5) *інф.* сукупнасць дадзеных, арганізаваных у памяці *камп'ютэра* па пэўных правілах.

**БА́ЗІС** (*гр.* basis) — 1) аснова чаго-н.; 2) эканамічны лад грамадства ў пэўны перыяд яго развіцця.

**БА́ЙК** (*англ.* bike) — *жарг.* матацыкл (звычайна дарагі, замежнай вытворчасці).

**БА́ЙКЕР** (*англ.* biker) — прадстаўнік нефармальнага маладзёжнага руху, удзельнікі якога раз'язджаюць на матацыклах на вялікай хуткасці па гарадскіх вуліцах.

**БАЙКО́Т** [*англ.* boycott, ад C. Boycott = прозвішча адміністратара маёнтка (1832—1897)] — 1) спосаб палітычнай і эканамічнай барацьбы, калі спыняюцца адносіны з якой-н. асобай, арганізацыяй, дзяржавай (напр. аб'явіць б.); 2) *перан.* разрыў адносін з кім-н. як знак незадавальнення яго паводзінамі.

**БАЙК-ШО́У** (ад *англ.* bike = матацыкл + show = відовішча, паказ) — *шоу* з удзелам *байкераў.*

**БАЙНЭ́Т** (*англ.* Bynet, ад By = інтэрнацыянальны сімвал, які абазначае Беларусь + net = сетка) — беларуская частка *Інтэрнэта.*

**БАЙРА́М** (*тур.* bairam) — мусульманскае свята пасля заканчэння саракадзённага посту (*рамазана*).

**БАЙСКА́УТ** (*англ.* boy-scout, ад boy = хлопчык + scout = = разведчык) — хлопчык, член скаўцкай (гл. *скаутызм*) арганізацыі (параўн. *гёрлскаут*).

**БАЙТ** (*англ.* byte) — *інф.* адзінка інфармацыі або памяці ў *камп'ютэры*, роўная 8 *бітам.*

**БАКАЛА́ЎР** (*с.-лац.* baccalaureus) — першая вучоная ступень, якая прысвойваецца выпускнікам вышэйшай навучальнай установы пасля заканчэння *бакалаўрыята*, а таксама асоба, якая мае гэту ступень.

**БАКАЛАЎРЫЯ́Т** (*лац.* baccalaureatus = упрыгожаны лаўрамі) — дадатковая праграма навучання для асоб, якія заканчваюць ВНУ і жадаюць атрымаць ступень *бакалаўра.*

**БАКАЛЕ́Я** (*тур.* bakalie, ад *ар.* bak kal = гандляр харчовымі таварамі) — сухія харчовыя тавары (чай, цукар, кофе, мука, крупы, сушаныя фрукты і інш.).

**БА́КСЫ** (*англ.* bucks) — *разм.* долары.

**БАКТЭ́РЫІ** (*гр.* bakteria = палачка) — мікраскапічныя аднаклетачныя арганізмы, від *мікробаў* (маюць палачкападобную, шарападобную або звілістую форму).

**БАЛ** (*фр.* balle = шар) — 1) адзінка вымярэння сілы або ступені якой-н. прыроднай з'явы напр. ветру, землетрасення; 2) лічбавая ацэнка поспехаў (у школе, у спорце).

**БАЛАГА́Н** (*перс.* balahana = балкон) — 1) часовы будынак з дошак, фанеры, парусіны для выступлення самадзейных артыстаў, кірмашовага гандлю; 2) старадаўні народны вандроўны тэатр; 3) *перан.* што-н. несур'ёзнае, штукарскае, шумнае.

**БАЛА́НС** (*фр.* balance = *літар.* вагі) — 1) суадносіны ўзаемазвязаных паказчыкаў якой-н. дзейнасці, працэсу, напр. вытворчасці і спажывання, увозу і вывазу тавараў, прыходу і расходу вады; 2) параўнальны вынік прыходу і расходу пры завяршэнні разлікаў, а таксама зводная ведамасць разлікаў (напр. квартальны б., падвесці б.).

**БАЛАНСАВА́ЦЬ** (*фр.* balancer) — 1) захоўваць раўнавагу пры дапамозе рухаў цела (напр. б. на канаце); 2) ураўнаважваць суадносіны звязаных паміж сабой бакоў дзейнасці (напр. б. увоз з вывазам); 3) падводзіць бухгалтарскі баланс.

**БАЛА́СТ** (*англ.* ballast) — 1) спецыяльны груз для забеспячэння правільнай асадкі і ўстойлівасці судна, для рэгулявання вышыні палёту аэрастата; 2) шчэбень або пясок, якім засыпаюць чыгуначнае палатно; 3) *перан.* тое, што з'яўляецца лішнім, непатрэбным.

**БАЛАЦІ́РАВАЦЦА** (*ням.* ballotieren < *фр.* balloter, ад ballotte = невялікі шар) — выстаўляць сваю кандыдатуру на выбарах, выступаць у якасці прэтэндэнта на якую-н. выбарную пасаду (напр. б. у дэпутаты).

**БАЛЕРЫ́НА** (*іт.* ballerina) — артыстка *балета*, танцоўшчыца.

**БАЛЕ́Т** (*фр.* ballet < *іт.* balletto, ад ballo = баль) — 1) від тэатральнага мастацтва, змест якога раскрываецца ў танцавальна-музычных вобразах (напр. класічны б.); 2) спектакль з танцаў і мімічных рухаў, якія суправаджаюцца музыкай (напр. б. Чайкоўскага «Лебядзінае возера»).

**БАЛЕТМА́ЙСТАР** (*ням.* Balletmeister) — пастаноўшчык танцаў у *балеце*.

**БАЛКО́Н** (*фр.* balcon) — 1) пляцоўка з парэнчамі на знешнім баку сцяны дома, злучаная дзвярамі з унутраным памяшканнем на ўзроўні другога паверха і вышэй; 2) верхні або сярэдні ярус у тэатры.

**БАЛЫ́К** (*цюрк.* balyk = рыба) — прасоленая і правяленая або правэнджаная хрыбтовая частка асятровых і ласасёвых рыб.

**БАЛЬ** (*фр.* bal) — 1) вялікі танцавальны вечар (напр. выпускны б.); 2) багаты званы абед, застольнае ўрачыстае гулянне (напр. справіць б.).

**БАЛЬЗА́М** (*лац.* balsamum, ад *гр.* balsamon) — 1) густы пахучы сок некаторых раслін, які мае ў сваім складзе смолы і эфірны алей; 2) пахучая настойка на лекавых травах; 3) *перан.* тое, што прыносіць суцяшэнне, заспакаенне.

**БАЛЬЗАМІ́РАВАЦЬ** (*ням.* balsamieren, ад *лац.* balsamum < *гр.* balsamon = бальзам) — насычаць труп спецыяльнымі рэчывамі, каб прадухіліць ад гніення і захаваць на доўгі час.

**БАЛЬНЕАТЭРАПІ́Я** (ад *лац.* balneum = лазня + *гр.* therapeia = лячэнне) —*мед.* лячэнне мінеральнымі водамі і гразямі.

**БАЛЮСТРА́ДА** (*фр.* balustrade) — парэнчы з фігурнымі слупкамі на лесвіцах, тэрасах, балконах.

**БАМО́НД** (*фр.* beau monde) — 1) *уст.* вышэйшы свет, арыстакратычныя колы; 2) *іран.* «выбраныя» колы, фанабэрыстыя «новыя рускія».

**БАНА́ЛЬНЫ** (*фр.* banal) — шаблонны, збіты, пазбаўлены арыгінальнасці ў сувязі з частым ужываннем (напр. б-ая фраза).

**БАНДА́Ж** (*фр.* bandage) — 1) спецыяльны пругкі пояс для падтрымання сценак жывата або іншых частак цела ў патрэбным становішчы; 2) металічны вобад на колах паравозаў, частках машын для павелічэння іх трываласці.

**БАНДАКРА́ТЫЯ** (ад *іт.* banda = атрад + *гр.* kratos = улада) — 1) панаванне ў грамадстве крымінальных, мафіёзных элементаў, якія выкарыстоўваюць уладу ў карыслівых мэтах; 2) мафіёзная група, якая карыстаецца неабмежаванай уладай.

**БАНДЭРО́ЛЬ** (*фр.* banderole) — 1) невялікае паштовае адпраўленне (кнігі, газеты, часопісы і інш.) у папяровай абгортцы; 2) ярлык на тавары, які сведчыць, што пошлінныя зборы за гэты тавар заплачаны.

**БА́НЕР** (*англ.* banner) —графічная рэкламная аб'ява, размешчаная на *сайце* ў *Інтэрнэце*.

**БАНК** (*фр.* banque, ад *іт.* banco = лаўка) — 1) фінансавая ўстанова, дзе ажыццяўляюцца грашовыя аперацыі, апе-

рацыі з золатам, замежнай валютай і іншыя функцыі; 2) сістэматызаваны збор чаго-н. у якім-н цэнтры для даследчых або практычных мэт (напр. б. дадзеных, генны б.); 3) сума грошай, пастаўленая на кон, у картачных гульнях.

**БА́НКА** (*іт.* banco = лаўка) — курс, па якім банк прадае і купляе каштоўныя паперы.

**БАНКАМА́Т** [ад *англ.* bank = банк + *гр.* (auto)matos = самарухомы) — электронны апарат, які выдае па крэдытных магнітных картках наяўныя грошы.

**БАНКЕ́Т** (*фр.* banquet, ад *іт.* banchetto) — публічны ўрачысты абед або вячэра з нагоды чаго-н. або ў гонар чаго-н.

**БАНКЕ́ТКА** (*фр.* banquette) — невялікая лавачка без спінкі з мяккім сядзеннем.

**БА́НКІНГ** (*англ.* banking) — фінансавая аперацыя, якая прыносіць прыбытак *банку* 1.

**БАНКІ́Р** (*фр.* banquier, ад *іт.* banchiere) — буйны *акцыянер* або ўладальнік *банка* 1.

**БАНКНО́ТЫ** (*англ.* banknotes, ад bank = банк + note = запіс) — папяровыя грашовыя знакі, якія выпускаюцца банкам і павінны забяспечвацца золатам і іншымі каштоўнымі металамі.

**БАНКРУ́Т** (*фр.* banqueroute < *іт.* bancarotta, ад banca = = банк + rotta = разбіты) — 1) збяднелы, неплацежаздольны даўжнік (з прычыны разарэння); 2) *перан.* чалавек, які пацярпеў крах у сваёй дзейнасці або поўную няўдачу ў асабістым жыцці.

**БАНСА́Й** (*яп.* bonsaj) — 1) карлікавае дрэва, вырашчанае ў гаршку; 2) майстэрства вырошчваць такія дрэвы (узнікла ў Японіі і пашырылася па ўсім свеце).

**БАПТЫ́ЗМ** (*англ.* baptism, ад *гр.* baptizo = хрышчу) — сектанцкая плынь у хрысціянстве, якая прапаведуе хрышчэнне ў сталым узросце і адмаўляе некаторыя абрады і догматы царквы.

**БАПТЫ́СТ** (*англ.* baptist < *лац.* baptista, ад *гр.* baptistes = хрысціцель) — паслядоўнік *баптызму.*

**БАР** (*англ.* bar) — 1) невялікі рэстаран, дзе наведвальнікаў абслугоўваюць за стойкай; 2) спецыяльнае аддзяленне ў серванце, шафе для він.

**БАРАКÁМЕРА** (ад *гр.* baros = цяжар + *лац.* camera = камера) — герметычная камера, у якой штучна зменьваецца ціск паветра, што дазваляе праводзіць выпрабаванні метэаралагічных прыбораў і правяраць уплыў атмасферных змен на арганізм чалавека.

**БАРАТЭРАПІ́Я** (ад *гр.* baros = цяжар + therapeia = лячэнне) — *мед.* выкарыстанне з лячэбнай мэтай паніжанага і павышанага атмасфернага ціску.

**БАРД** (*фр.* barde, ад *кельц.* bardes = спявак) — 1) паэт-спявак у старажытных кельтаў; 2) паэт і музыкант, выканаўца ўласных песень.

**БАРДЗЮ́Р** (*фр.* bordure, ад bord = край, мяжа) — 1) шляк, які абрамляе край тканіны, шпалераў і інш.; 2) паласа дэкаратыўных раслін узбоч плошчы, пляцоўкі, тратуара.

**БАР'Е́Р** (*фр.* barriére) — 1) невысокая перагародка, якая закрывае свабодны праход куды-н.; 2) перашкода, якую трэба пераадолець пры спаборніцтве ў бегу, скачках і інш.; 3) наогул перашкода для чаго-н. (напр. гукавы б., цеплавы б.); 4) *перан.* тое, што перашкаджае дзейнасці (напр. ведамасны б., псіхалагічны б.).

**БÁРМЕН** (*англ.* barman) — уладальнік ці служачы *бара*, які падае спіртныя напіткі за стойкай.

**БАРÓМЕТР** (ад *гр.* baros = цяжар + metreo = вымяраю) — 1) прыбор для вымярэння атмасфернага ціску, прадказання надвор'я; 2) *перан.* паказчык якіх-н. змен, стану чаго-н. (напр б. грамадскай думкі).

**БÁРТЭР** (*англ.* barter) — натуральны абмен аднаго тавару або паслугі на іншы тавар або паслугу; абменны гандаль.

**БАРЫТÓН** (*іт.* baritone) — 1) мужчынскі голас, сярэдні паміж *басам* і *тэнарам*, а таксама спявак з такім голасам; 2) духавы або струнны музычны інструмент сярэдняга рэгістра і тэмбру.

**БАРЫ́Ш** (*цюрк.* baryš) — 1) пачастунак пасля куплі-продажу, заключэння здзелкі; 2) прыбытак, выгада ад якой-н. гандлёвай здзелкі.

**БÁРЭЛЬ** (*англ.* barrel = *літар.* бочка) — мера ёмістасці і аб'ёму сыпкіх і вадкіх рэчываў у ЗША, Англіі і некаторых іншых краінах, роўная для сыпкіх рэчываў 163,65 л, для вадкіх рэчываў 159 л.

**БАРЭЛЬЕ́Ф** (*фр.* bas-relief = *літар.* нізкі рэльеф) — скульптурны відарыс, які выступае на плоскай паверхні менш чым на палавіну сваёй таўшчыні (параўн. *гарэльеф*).

**БАС** (*іт.* basso) — 1) самы нізкі мужчынскі голас, а таксама спявак з такім голасам; 2) духавы або струнны музычны інструмент нізкага рэгістра і тэмбру.

**БАСЕ́ЙН** (*фр.* bassin) — 1) спецыяльна збудаваны штучны вадаём для плавання, купання; 2) тэрыторыя, якая ахоплівае мора, возера, раку разам з прытокамі (напр. б. Нёмана); 3) месца залягання горных парод (напр. каменнавугольны б.).

**БАСКЕТБО́Л** (*англ.* basket-ball, ад basket = кошык + ball = = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом, які закідваюць рукамі ў падвешанае кольца з сеткай.

**БАСТАВА́ЦЬ** (ад *іт.* basta = даволі) — арганізавана спыняць работу, патрабуючы ад прадпрымальнікаў або ўрада задавальнення эканамічных ці палітычных патрабаванняў.

**БАТАРЭ́Я** (*фр.* batterie) — 1) артылерыйскае падраздзяленне з некалькіх гармат, мінамётаў або ракетных установак; 2) злучэнне некалькіх аднатыпных прыбораў, крыніц энергіі ў адну сістэму (напр. б. паравога ацяплення, сонечная б.).

**БАТУЛІ́ЗМ** (*н.-лац.* botulismus, ад *лац.* botulus = каўбаса) — вострая інфекцыйная хвароба ў выніку атручвання прадуктамі (каўбасой, вяндлінай, рыбай, кансервамі), заражанымі *бактэрыямі*.

**БАТЫСКА́Ф** (*фр.* bathyscaphe, ад *гр.* bathys = глыбокі + + skaphos = судна) — самаходны апарат для глыбакаводных даследаванняў.

**БАТЭРФЛЯ́Й** (*англ.* butterfly = матылёк) — стыль спартыўнага плавання на грудзях, пры якім абедзве рукі адначасова выносяцца на паверхню вады (параўн. *брас, кроль*).

**БАЎ́Л** (*іт.* baule) — прадаўгаваты падарожны куфэрак з выпуклай накрыўкай.

**БА́ФТЫНГ** (*англ.* buffeting) — трасенне самалёта пры аднясенні паветраных віхроў ад крыла на хваставое апярэнне.

**БАЦЫ́ЛЫ** (*лац.* bacillum = палачка) — палачкападобныя *бактэрыі*, сярод якіх большасць з'яўляецца ўзбуджальнікамі інфекцыйных хвароб (напр. туберкулёзныя б.).

**БЕДЛА́М** (*англ.* bedlam, ад Bethlehem = назва лонданскай псіхіятрычнай бальніцы) — неразбярыха, шум, вэрхал.

**БЕЗЭ́** (*фр.* baiser = пацалунак) — піражнае з узбітых яечных бялкоў і цукру.

**БЕЙСБО́Л** (*англ.* baseball, ад base = нізавы + ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом і бітой, якая нагадвае лапту.

**БЕЛЕТРЫ́СТЫКА** (ад *фр.* belles lettres = прыгожая славеснасць) — 1) мастацкая проза; 2) апавядальная літаратура займальнага характару.

**БЕЛЬВЕДЭ́Р** (*іт.* belvedere = *літар.* прыгожы від) — невялікая вежа над будынкам або асобная альтанка на ўзвышаным месцы, адкуль адкрываецца від на ваколіцу.

**БЕЛЬЭТА́Ж** (*фр.* bel-étage, ад bel = прыгожы + + étage = паверх) — 1) другі паверх у дамах-асабняках; 2) ярус у тэатры непасрэдна над *партэрам* або амфітэатрам.

**БЕНЕФІ́С** (*фр.* bénéfice = прыбытак, карысць) — спектакль у гонар або на карысць аднаго з яго ўдзельнікаў.

**БЕНУА́Р** (*фр.* baignoire) — ніжні рад ложаў у тэатры, які размешчаны на ўзроўні *партэра*.

**БЕРМУ́ДЫ** (*англ.* bermudes, ад Bermudes = Бермудскія астравы) — штаны да калена, свабодныя, з загладжанай складкай, звычайна з адваротамі.

**БЕРЭ́ЙТАР** (*ням.* Bereiter) — 1) спецыяліст, які аб'язджае коней, вучыць верхавой яздзе; 2) памочнік дрэсіроўшчыка коней у цырку.

**БЕ́СА** (*фр.* baisse) — *экан.* паніжэнне курсу біржавых папер.

**БЕСТСЕ́ЛЕР** (*англ.* bestseller, ад best = лепшы, большы + + sell = прадавацца) — ходкая, выдадзеная вялікім тыражом кніга на сенсацыйную тэму.

**БІ́БЛІЯ** (*лац.* biblia, ад *гр.* biblion = кніга) — гістарычны помнік пісьменнасці, зборнік твораў іудзейскай і хрысціянскай (Стары і Новы Запаветы) рэлігій, дзе выкладзены асновы веравучэння.

**БІБЛІЯГРА́ФІЯ** (ад *гр.* biblion = кніга + grapho = пішу) — 1) навуковае, сістэматызаванае апісанне кніг і іншых выданняў, зробленае па якой-н. прыкмеце; 2) спіс кніг, артыкулаў па якім-н. пытанні (напр. б. па гісторыі); 3) ад-

дзел у перыядычных выданнях, прысвечаны кароткаму агляду кніг, што выйшлі з друку.

**БІБЛІЯТЭ́КА** (*лац.* bibliotheca < *гр.* bibliotheke, ад biblion = кніга + theke = сховішча) — 1) установа, якая збірае, захоўвае і выдае кнігі чытачам, а таксама будынак, дзе гэта ўстанова знаходзіцца; 2) набор кніг, прызначаных для пэўнай групы чытачоў (напр. б. агранома, б. настаўніка); 3) збор кніг, якія знаходзяцца ў чыім-н. прыватным карыстанні (напр. у яго вялікая б.).

**БІБЛІЯФІ́Л** (ад *гр.* biblion = кніга + phileo = люблю) — аматар, знаўца, збіральнік рэдкіх выданняў кніг.

**БІГ-БІ́ЗНЕС** (*англ.* big business) — вялікая камерцыйная справа, маштабная гандлёвая здзелка, буйное прадпрымальніцтва.

**БІГМА́К** [*англ.* big Mac, ад big = вялікі + Mac(donalds) = назва амерыканскай гастранамічнай фірмы] — фірменны бутэрброд з катлетай і агароднінай.

**БІДЭ́** (*фр.* bidet) — невялікая спецыяльная ракавіна для падмывання.

**БІЕНА́ЛЕ** (*іт.* biennale) — міжнародная культурна-мастацкая выстаўка, якая адбываецца раз у два гады.

**БІЁНІКА** [*англ.* bionics, ад *гр.* bios = жыццё + *англ.* (electr)onics = электроніка] — раздзел *кібернетыкі*, які вывучае структуру і жыццядзейнасць арганізмаў з мэтай выкарыстання атрыманых вынікаў пры рашэнні інжынерных задач.

**БІЖУТЭ́РЫЯ** (*фр.* bijouterie) — жаночыя ўпрыгожанні (брошкі, пацеркі, пярсцёнкі і інш.) з некаштоўных камянёў і металаў (у адрозненне ад ювелірных вырабаў).

**БІ́ЗНЕС** (*англ.* business) — 1) камерцыйная, біржавая або прадпрымальніцкая дзейнасць, накіраваная на атрыманне прыбытку; 2) дзелавое жыццё, эканамічная дзейнасць наогул у адрозненне ад іншых сфер жыццядзейнасці.

**БІ́ЗНЕС-ВУ́МЕН** (*англ.* business woman, ад business = бізнес + woman = жанчына) — жанчына, якая працуе ў сферы *бізнесу*; дзелавая жанчына.

**БІ́ЗНЕС-ЛЭДЗІ** (*англ.* business lady, ад business = бізнес + + lady = лэдзі) — тое, што і *бізнес-вумен.*

**БІЗНЕСМЕ́Н** (*англ.* businessman, ад business = справа + + man = чалавек) — той, хто займаецца *бізнесам*, камерсант, прадпрымальнік.

**БІКІ́НІ** (*англ.* bikini, ад Bikini = назва каралавага вострава ў Ціхім акіяне) — вельмі адкрыты купальны жаночы касцюм.

**БІЛБО́РД** (*англ.* billboard, ад bill = аб'яўляць у афішах + + board = дошка) — рэкламны шчыт (на гарадской вуліцы, на дарозе і інш.).

**БІЛЕ́Т** (*фр.* billet) — 1) дакумент на права праезду, уваходу, карыстання чым-н. (напр. б. у кіно, праязны б.); 2) дакумент, які сведчыць аб прыналежнасці да якой-н. арганізацыі або пра адносіны да якіх-н. абавязкаў (напр. прафсаюзны б., ваенны б.); 3) папяровы грашовы знак (напр. крэдытны б.); 4) картка з пытаннямі на экзаменах.

**БІЛІНГВІ́ЗМ** (*фр.* bilinguisme, ад *лац.* bilinguis = двухмоўны) — *лінгв.* валоданне і папераменнае карыстанне асобай або калектывам дзвюма мовамі.

**БІЛЬ** (*англ.* bill) — законапраект, які ўносіцца на разгляд заканадаўчых органаў у ЗША, Англіі і некаторых іншых краінах.

**БІНА́РНЫ** (*лац.* binarius = двайны) — які складаецца з дзвюх частак, з двух кампанентаў (напр. б-ыя сплавы, б-ная сістэма злічэння).

**БІПАТРЫ́ДЫ** (ад *лац.* bis = двойчы + *гр.* patris, -idos = бацькаўшчына) — асобы, якія адначасова маюць грамадзянства дзвюх або больш дзяржаў.

**БІ́РЖА** (*ням.* Börse, ад *фр.* bourse = кашалёк) — установа, дзе заключаюцца буйныя фінансавыя і камерцыйныя здзелкі (напр. валютная б., таварная б.).

**БІС** (*фр.* bis, ад *лац.* bis = двойчы) — выгук (у тэатры, на канцэрце), якім просяць артыста паўтарыць толькі што выкананы ім нумар праграмы.

**БІСЕКСУАЛІ́ЗМ** (ад *лац.* bis = двойчы + sexualis = палавы) — 1) палавая цяга да асоб як процілеглага, так і свайго полу (параўн. *гетэрасексуалізм, гомасексуалізм*); 2) тое, што і *андрагінія.*

**БІСКВІ́Т** (*фр.* biscuit) — 1) пульхнае салодкае печыва з цеста, у якое пакладзена многа жаўткоў і бялковай пены; 2) не пакрыты палівай фарфор.

**БІСТРО́** (*фр.* bistro, ад *рус.* быстро = хутка) — закусачная, дзе можна хутка паабедаць, звычайна за сталамі-стойкамі.

**БІТ¹** [*англ.* bit, ад bi(nary) (digi)t = дваісты знак] — *інф.* адзінка вымярэння колькасці інфармацыі ў дваічнай сістэме злічэння; адпавядае інфармацыі, якую атрымліваюць пры ажыццяўленні адной з дзвюх роўнаверагодных падзей.

**БІТ²** (*англ.* beat) — *поп-музыка* з рэгулярным строга арганізаваным метрарытмам.

**БІТЛ** (*англ.* beatle, ад beat = рытм) — удзельнік *бітлза.*

**БІТЛЗ** (*англ.* beatles, ад beat = рытм) — англійскі маладзёжны вакальна-інструментальны квартэт 60-х гадоў XX ст., а таксама ўтвораны на яго ўзор ансамбль у Заходняй Еўропе і Амерыцы.

**БІ́ТНІК** (*англ.* beatnik, ад beat = біць, разбіваць) — прадстаўнік заходняга руху моладзі 50—60-х гадоў XX ст., якая выражала пратэст супраць традыцыйнай маралі парушэннем норм супольнага жыцця.

**БІФАКА́ЛЬНЫ** (*англ.* bifocal, ад *лац.* bi = двух + focus = = ачаг) — які мае два фокусы, дазваляе бачыць і далёкія, і блізкія прадметы (напр. б-ыя акуляры, б-ыя лінзы).

**БІ́ЦЭПС** (*лац.* biceps = двухгаловы) — мышца паміж плячом і локцем, якая згінае руку ў локцевым суставе.

**БІЯСФЕ́РА** (ад *гр.* bios = жыццё + sphaira = шар) — вобласць распаўсюджання жыцця на зямным шары, якая ахоплівае верхнюю частку *літасферы, гідрасферу* і *трапасферу.*

**БІЯТЛО́Н** (*англ.* biathlon, ад *лац.* bis = двойчы + *гр.* athlon = змаганне, барацьба) — спартыўнае спаборніцтва, дзе лыжная гонка спалучаецца са стральбой з вінтоўкі на некалькіх агнявых рубяжах.

**БЛАКА́ДА** (*англ.* blockade) — 1) акружэнне войск праціўніка (горада, крэпасці) для знішчэння ці паланення; 2) эканамічная і фінансавая ізаляцыя якой-н. дзяржавы, каб прымусіць яе выканаць пэўныя ўмовы, патрабаванні; 3) выключэнне функцыі якога-н. органа або сістэмы ў арганізме.

**БЛАКНО́Т** (*фр.* bloc-notes = *літар.* блок запісаў) — сшытак з адрыўнымі лістамі для нататак.

**БЛАНК** (*фр.* blanc = белы) — ліст паперы з друкаваным загалоўкам установы, прадпрыемства або з часткова надрукаваным тэкстам, астатняя частка якога запаўняецца пры неабходнасці.

**БЛЕ́ЙЗЕР** (*англ.* blazer, ад blaze = ззяць, блішчаць) — прыталены пінжак спартыўнага крою (звычайна яркай расфарбоўкі).

**БЛЕ́НДЕР** (*англ.* blender) — апарат для змешвання прадуктаў з электрапрыводам у ніжняй частцы корпуса.

**БЛЕФ** (*англ.* bluff) — выдумка, падман з мэтай запалохаць або стварыць перабольшанае ўяўленне аб сваіх магчымасцях.

**БЛІЦ** (*ням.* Blitz = бліскавіца) — 1) лямпа для імгненнай моцнай успышкі святла пры фатаграфаванні; 2) праведзеная ў тэмпе партыя шахматнай гульні.

**БЛІЦТУРНІ́Р** (*ням.* Blitzturnier, ад Blitz = бліскавіца + Turnier = турнір) — шахматны турнір, у якім на кожную партыю даецца максімальна абмежаваны час.

**БЛОК¹** (*англ.* block) — 1) прыстасаванне для пад'ёму грузаў у выглядзе кола з выемкай па акружнасці і перакінутым цераз яго канатам; 2) вузел машыны з некалькіх аднолькавых элементаў; 3) штучна зробленая з бетоннай сумесі будаўнічая пліта; 4) комплекс будынкаў аднолькавага прызначэння, а таксама частка якой-н. пабудовы.

**БЛОК²** (*фр.* bloc) — аб'яднанне дзяржаў, партый, груповак для дасягнення агульнай мэты.

**БЛОКБА́СТЭР** (*англ.* blockbuster, ад block = група, блок + buster = нешта незвычайнае) — фільм, які карыстаецца поспехам у пракаце і атрымлівае вялікія касавыя зборы.

**БЛЮЗ** (*англ.* blues, ад blue delvis = меланхолія, журба) — 1) песня або танец амерыканскіх неграў, якія выконваюцца ў павольным тэмпе; 2) форма джазавай музыкі ў рытме і манеры выканання гэтай песні (танца).

**БОБ** (*англ.* bob) — спартыўныя суцэльнаметалічныя сані з рулявым кіраваннем для скараснога спуску з гор па спецыяльна падрыхтаванай трасе.

**БО́БСЛЕЙ** (*англ.* bobsleigh, ад bob = боб + sleigh = катацца на санях) — *сп.* скарасны спуск з гор па ледзяным жолабе з віражамі на *бобе*.

**БО́ДЗІ** (*англ.* body = цела) — модная жаночая бялізна ў выглядзе майкі з трусамі, што аблягаюць фігуру.

**БО́ДЗІ-А́РТ** (*англ.* body art, ад body = цела + + art = мастацтва) — крайняя плынь авангардызму ў выяўленчым мастацтве, якая характарызуецца выкарыстаннем цела чалавека, у тым ліку і ўласнага, у якасці матэрыялу для стварэння твораў мастацтва, напр. татуіроўкі.

**БОДЗІБІ́ЛДЫНГ** (*англ.* bodybuilding, ад body = цела + building = будова) — тое, што і *культурызм*.

**БО́ІНГ** (*англ.* boeing) — шматмесны пасажырскі або транспартны самалёт амерыканскай самалётабудаўнічай кампаніі «Боінг».

**БО́ЙЛЕР** (*англ.* boiler = кацёл) — устройства для падагравання вады ў сістэме забеспячэння цяплом і гарачай вадой.

**БОЙ-ФРЭ́НД** (*англ.* boy-friend, ад boy = хлопчык + friend = = сябар) — хлопец-сябар, палюбоўнік.

**БОКС** (*англ.* box = *літар.* удар) — від спорту, кулачны бой па асобых правілах у спецыяльных мяккіх пальчатках.

**БО́НЗА** (*яп.* bond-zu = *літар.* добры настаўнік) — 1) будыйскі святар, манах у краінах Азіі; 2) *перан.* надзьмуты, ганарысты чыноўнік.

**БО́НУС** (*лац.* bonus = добры) — 1) дадатковая ўзнагарода, прэмія; 2) дадатковая скідка, якую робіць прадавец пакупніку ў адпаведнасці з умовамі здзелкі.

**БО́НЫ** (*фр.* bon) — 1) крэдытныя дакументы, якія даюць уладальніку права на атрыманне паказанай сумы ў пэўны час ад пэўнай установы; 2) папяровыя грашовыя знакі, што выйшлі з ужытку і сталі прадметам калекцыяніравання.

**БОС** (*англ.* boss) — 1) кіраўнік фірмы, прадпрыемства, установы; 2) асоба, якая ўзначальвае апарат якой-н. партыі, прафсаюза і г. д.

**БО́ЎЛІНГ** (*англ.* bowling) — спартыўная разнавіднасць *кегляў* 1.

**БРА** (*фр.* bras = *літар.* рука) — насценны свяцільнік.

**БРА́ВА** (*іт.* bravo) — вокліч, які выражае захапленне, пахвалу, адабрэнне.

**БРАВА́ДА** (*фр.* bravade) — паказная легкадумная зухаватасць, дзёрзкая бязмэтная выхадка.

**БРАВІ́РАВАЦЬ** (*фр.* braver) — 1) пагарджаць чым-н. дзеля паказной храбрасці; 2) рысавацца, выхваляцца чым-н. (напр. б. сваёй вучонасцю).

**БРАВУ́РНЫ** (*фр.* bravoure = храбрасць) — 1) *муз.* шумны, бадзёры, ажыўлены (напр. б. марш); 2) прасякнуты паказной бадзёрасцю, неабгрунтаваным аптымізмам (напр. б-ая прамова).

**БРА́ВЫ** (*фр.* brave) — мужны з выгляду, удалы, малайцаваты (напр. б. мужчына).

**БРАК** (*польск.* brak, ад *ням.* Brack) — 1) недабраякасны, з заганай выраб, тавар, а таксама сама загана ў вырабе, тавары (напр. дапусціць б.); 2) нястача, недахоп чаго-н. (напр. б. сілы).

**БРАКАВА́ЦЬ** (*польск.* brakować, ад *ням.* Brack = брак) — 1) прызнаваць што-н. непрыгодным, недабраякасным (напр. б. тавар); 2) быць у недастатковай колькасці, не хапаць (напр. б. ведаў).

**БРАКАНЬ'ЕР** (*фр.* braconnier) — той, хто займаецца паляваннем або рыбнай лоўляй у недазволеным месцы, у забароненыя тэрміны ці забароненымі спосабамі.

**БРАКЕРА́Ж** (*англ.* brakerage) — праверка адпаведнасці якасці тавару і яго афармлення ўмовам здзелкі або прынятым стандартам.

**БРАНЗАЛЕ́Т** (*польск.* bransoleta, ад *фр.* bracelet) — упрыгожанне ў выглядзе вялікага кольца з металу, косці, якое носяць на руцэ вышэй кісці.

**БРАНХІ́Т** (*н.-лац.* bronchitis, ад *гр.* bronchos = горла) — запаленне слізістай абалонкі *бронхаў*.

**БРАС** (*фр.* brasse) — стыль спартыўнага плавання на грудзях, пры якім рукі рухаюцца пад вадой (параўн. *батэрфляй, кроль*).

**БРА́ЎЗЕР** (*англ.* browser) — сістэмная камп'ютэрная праграма, якая дазваляе ў групе вызначаных вокнаў праглядзець тэкставую падачу іншых праграм ці дадзеных.

**БРАШУ́РА** (*фр.* brochure) — невялікая кніжка з мяккай вокладкай (не больш за 48 старонак).

**БРО́ЙЛЕР** (*англ.* broiler, ад broil = смажыць, пячы) — кураня ва ўзросце да 70 сутак, якое гадуецца на мяса.

**БРО́КЕР** (*англ.* broker) — пасрэднік пры заключэнні здзелак на біржы, пры куплі-продажы каштоўных папер, тавараў.

**БРО́НХІ** (*гр.* bronchos = горла) — адгалінаванні дыхальнага горла ў лёгкіх.

**БРУ́ТА** (*іт.* brutto = *літар.* грубы) — 1) вага тавару разам з *тарай* (параўн. *нета* 1); 2) цана тавару, даход без выліку скідак, расходаў (параўн. *нета* 2).

**БРУТА́ЛЬНЫ** (*фр.* brutal, ад *лац.* brutalis) — грубы, жорсткі (напр. б-ая выхадка).

**БРЫГА́ДА** (*фр.* brigade, ад *іт.* brigata = таварыства) — 1) вайсковае злучэнне з некалькіх батальёнаў (дывізіёнаў) або палкоў; 2) тактычнае злучэнне з некалькіх аднатыпных ваенных караблёў; 3) асабовы склад, які абслугоўвае поезд; 4) група работнікаў, якая сумесна выконвае вытворчае заданне (напр. б. слесараў, будаўнічая б.).

**БРЫ́ФІНГ** (*англ.* briefing = інструктаж, ад brief = кароткі, сціслы) — кароткая *прэс-канферэнцыя*, на якой паведамляецца пазіцыя ўрада па пэўным пытанні або даецца інфармацыя аб ходзе міжнародных перагавораў.

**БРЭЙК** (*англ.* break) — энергічны танец з элементамі пантамімы і акрабатыкі, які зарадзіўся ў 80-я гады XX ст. у негрыцянскіх кварталах гарадоў ЗША.

**БРЭЙК-ДА́НС** (*англ.* break-dance) — тое, што і *брэйк*.

**БРЭЙН-ДРЭ́ЙН** (*англ.* brain-drain, ад brain = мозг + drain = = уцечка) — адток спецыялістаў, вучоных, інтэлектуалаў з краін, дзе адносна нізкі ўзровень жыцця, у краіны з больш высокім узроўнем.

**БРЭЙН-РЫ́НГ** (*англ.* brain ring, ад brain = мозг + ring = арэна барацьбы) — тэлевізійная барацьба-спаборніцтва, пераможцам у якой становіцца чалавек або каманда, якія выяўляюць больш шырокую эрудыцыю і хуткасць рэакцыі ў адказах на пытанні вядучага.

**БУ́ГІ-ВУ́ГІ** (*англ.* boogie-woogie) — 1) амерыканскі парны танец свабоднай кампазіцыі, які выконваецца ва ўмерана хуткім тэмпе; 2) стыль джазавай музыкі, у якім паўтараецца на фартэпіяна музычная фігура ў басавым ключы.

**БУДЫ́ЗМ** (*англ.* buddhism, ад *санскр.* buddha = прасвятленне) — адна з трох (побач з *хрысціянствам* і *ісламам*) сусветных рэлігій, якая ўзнікла ў VI ст. да н. э. у Індыі і пашырылася ў Кітаі, Японіі, Манголіі, Індакітаі, Бірме.

**БУ́ЕР** (*гал.* boeier) — лёгкая лодка або платформа з парусам, устаноўленая на вузкіх стальных палазках для катання на лёдзе.

**БУКЕ́Т** (*фр.* bouquet) — 1) прыгожа складзеныя ў пучок кветкі (напр. б. цюльпанаў); 2) сукупнасць пахавых і смакавых уласцівасцей чаго-н. (напр. б. чаю, б. віна).

**БУКІНІ́СТ** (*фр.* bouquiniste, ад bouquin = старадаўняя кніга) — спецыяліст кніжнага гандлю, які займаецца купляй і продажам рэдкіх і старых кніг.

**БУКЛЕ́Т** (*фр.* bouclette) — рэкламнае, даведачнае або дзіцячае выданне, надрукаванае на адным аркушы паперы і складзенае ў выглядзе гармоніка.

**БУКМЕ́КЕР** (*англ.* book-maker, ад book = запісваць + maker = агент) — асоба, якая збірае і запісвае грашовыя стаўкі на конных скачках.

**БУКО́ЛІКА** (*гр.* bukolikos = пастухоўскі) — жанр літаратурных твораў (першапачаткова ў антычнай паэзіі), у якіх ідэалізуецца побыт пастухоў і вясковае жыццё на ўлонкі прыроды (гл. таксама *ідылія, пастараль*).

**БУЛЬВА́Р** (*фр.* boulevard) — шырокая *алея* пасярэдзіне гарадской вуліцы або ўздоўж набярэжнай.

**БУЛЬВА́РНЫ** (ад *фр.* boulevard = бульвар) — 1) які мае адносіны да бульвара; 2) *перан.* разлічаны на абывацельскі, мяшчанскі густ; пошлы (напр. б-ая літаратура, б-ая прэса).

**БУЛЬДО́ЗЕР** (*англ.* bulldozer) — трактар з абвалам, прызначаны для зразання, перасоўвання і разраўноўвання грунту.

**БУМ**[1] (*англ.* boom) — 1) кароткачасовы ўздым, рэзкае ажыўленне ў прамысловасці, гандлі і іншых сферах гаспадаркі (напр. біржавы б., кніжны б.); 2) *перан.* штучна ўзнятая шуміха, ажыятаж вакол чаго-н. (напр. газетны б., перадвыбарны б.).

**БУМ**[2] (*шв.* bom = брус) — гімнастычны снарад для практыкаванняў у раўнавазе ў выглядзе гарызантальнага бруса на дзвюх стойках.

**БУНДЭСВЕ́Р** (*ням.* Bundeswehr, ад Bund = саюз + + Wehr = абарона) — узброеныя сілы Германіі.

**БУ́РГЕР** [*англ.* burger, ад (ham)burger = гамбургер] — катлета з мяснога фаршу з дробна нарэзанай зелянінай.

**БУТАФО́РЫЯ** (ад *іт.* buttafuori = памочнік рэжысёра) — 1) абсталяванне для спектакля (мэбля, пасуда, зброя і інш.), а таксама штучныя прадметы, якія выстаўляюцца на вітрынах магазінаў замест сапраўдных; 2) *перан.* падман, фальш, разлічаныя на знешні эфект.

**БУТЭРБРО́Д** (*ням.* Butterbrot = хлеб з маслам) — скібка хлеба з маслам, сырам, каўбасой і інш.

**БЎФАНА́ДА** (*іт.* buffonata) — 1) сцэнічнае прадстаўленне або манера акцёрскай ігры з камічным перабольшаннем; 2) *перан.* недарэчнае, недасціпнае, грубае штукарства.

**БЎФЕР** (*англ.* buffer) — 1) прыстасаванне ў паравозе, вагоне, аўтамабілі і інш. для паслаблення сілы ўдару, штуршка пры сутыкненні; 2) *перан.* тое, што паслабляе сутыкненне, канфлікт паміж процідзейнымі бакамі; 3) *інф.* галіна памяці *камп'ютэра*, прызначаная для часовага захавання дадзеных пры іх перадачы паміж устройствамі з рознай хуткасцю.

**БУФЕ́Т** (*фр.* buffet) — 1) месца для продажу закусак, напіткаў ва ўстановах, у тэатрах, на вакзалах, а таксама асобная стойка ў сталовых, рэстаранах; 2) шафа для пасуды, сталовай бялізны, закусак, напіткаў.

**БУХГА́ЛТАР** (*ням.* Buchhalter, ад Buch = кніга + Halter = = прымальнік) — спецыяліст па грашовых разліках ва ўстанове, на прадпрыемстве.

**БУХГАЛТЭ́РЫЯ** (*ням.* Buchhalterei, ад Buchhalter = бухгалтар) — 1) тэорыя і практыка вядзення ўліку фінансава-гаспадарчай дзейнасці; 2) падліковы аддзел ва ўстанове, на прадпрыемстве.

**БЎЦІК** (*фр.* boutique) — невялікі магазін, у асартыменце якога дарагія модныя тавары (адзенне, абутак, галантарэя).

**БЎЦЫ** (*англ.* boots) — чаравікі з шыпамі на падэшвах для гульні ў футбол (параўн. *кеды*).

**БЎШАЛЬ** (*англ.* bushel) — мера ёмістасці вадкіх і сыпкіх рэчываў у Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах (каля 36 л).

**БЭДЖ** (*англ.* badge) — нагрудны значок з указаннем прозвішча і пасады.

**БЭЙСІК** [*англ.* basic, ад b(eginnes) a(llpurpose) s(ymbolic) i(nstruction) c(ode) = універсальны вучэбны код для тых, хто пачынае] — *інф.* самая простая мова праграміравання, створаная спецыяльна для навучання рабоце на ЭВМ; у пашыранай версіі стала адной з найбольш распаўсюджаных у свеце.

**БЭЙСІК-І́НГЛІШ** (*англ.* basic English = базавая англійская мова) — спрошчаная англійская мова, якая складаецца з 850 слоў, а таксама некалькіх граматычных правіл; была створана для місіянерскіх мэт як міжнародная дапаможная мова.

**БЭК-ВАКА́Л** (*англ.* back vocal, ад back = задні + *фр.* vocal, ад *лац.* vocalis = галасавы) — спевакі, якія падпяваюць салісту.

**БЭКВАРДЭ́ЙШН** (*англ.* backwardation) — сітуацыя, пры якой цэны на наяўны тавар вышэйшыя, чым каціроўкі па здзелках на тэрмін, а цэны на тавар з бліжэйшым тэрмінам пастаўкі вышэйшыя, чым на тавар з аддаленымі тэрмінамі пастаўкі (проціл. *кантанга*).

**БЭ́КХЭНД** (*англ.* back-hand, ад back = ззаду + hand = = рука) — удар злева пры гульні ў *тэніс, бадмінтон.*

**БЮВА́Р** (*фр.* buvard) — папка для захоўвання паштовай паперы, канвертаў, карэспандэнцыі і інш.

**БЮВЕ́Т** (*фр.* buvette) — збудаванне над мінеральнай крыніцай, адкуль непасрэдна бяруць ваду для піцця.

**БЮДЖЭ́Т** (*фр.* budget) — разлік прыходаў і расходаў дзяржавы, прадпрыемства, установы, сям'і на пэўны тэрмін (напр. гадавы б., сямейны б.).

**БЮЛЕТЭ́НЬ** (*фр.* bulletin, ал *іт.* bulletino = запіска, лісток) — 1) кароткае паведамленне ў друку аб якой-н. важнай грамадскай падзеі (напр. б. з'езда); 2) перыядычнае выданне якой-н. установы (напр. Б. ВАКа); 3) лісток для галасавання (напр. выбарчы б.); 4) лісток часовай непрацаздольнасці па хваробе (напр. быць на бюлетэні).

**БЮРАКРА́Т** (*фр.* bureaucrate, ад bureau = бюро + *гр.* kratos = улада) — 1) прадстаўнік *бюракратыі* 2; 2) службовая асоба, якая пры выкананні сваіх абавязкаў асноўнае значэнне надае форме, а не сутнасці справы; фармаліст.

**БЮРАКРАТЫ́ЗМ** (*фр.* bureaucratisme, ад bureau = бюро + + *гр.* kratos = улада) — 1) канцыляршчына, папяровая валакіта, фармальныя адносіны да справы; 2) тое, што і *бюракратыя* 1.

**БЮРАКРА́ТЫЯ** (*фр.* bureaucratie, ад bureau = бюро + *гр.* kratos = улада) — 1) сістэма кіравання, пры якой асноўную ролю выконвае адміністрацыйны апарат, далёкі ад інтарэсаў грамадства; 2) чыноўніцтва.

**БЮРО́** (*фр.* bureau) — 1) кіроўная або распарадчая частка некаторых органаў, устаноў, арганізацый, а таксама пасяджэнне яе складу (напр. б. прэзідыума НАН Беларусі); 2) назва некаторых устаноў, кантор (напр. Б. даведак, Б. надвор'я).

## В

**ВА-БА́НК** (*фр.* va banque) — адкрыта, рызыкуючы ўсім (напр. ісці ва-банк).

**ВАДЭВІ́ЛЬ** (*фр.* vaudeville) — кароткая камічная п'еса, у якой дыялог чаргуецца са спевамі.

**ВА́ЗА** (*фр.* vase, ад *лац.* vas = пасудзіна) — пасудзіна з рознага матэрыялу (керамічная, шкляная, металічная) і рознай формы для кветак, садавіны, цукерак або проста дэкаратыўнага прызначэння.

**ВАЗЕЛІ́Н** [*фр.* vaseline, ад *ням.* Was(ser) = вада + *гр.* elaion = алей] — мазь, якую атрымліваюць з нафтавага масла і вуглевадародаў (выкарыстоўваецца ў медыцыне, касметыцы, тэхніцы).

**ВАЗО́Н** (*польск.* wazon < *іт.* vaso, ад *лац.* vas = пасудзіна) — 1) дэкаратыўная пакаёвая расліна; 2) пасудзіна разам з дэкаратыўнай пакаёвай раслінай.

**ВАКА́ЛЬНЫ** (*лац.* vocalis = галасавы) — які адносіцца да выканання голасам, прызначаны для спеваў; галасавы, пеўчы (напр. в-ае мастацтва).

**ВАКА́НСІЯ** (*фр.* vacance, ад *лац.* vacans = які пустуе, незаняты) — незанятая пасада ва ўстанове.

**ВАКА́НТНЫ** (*фр.* vacant, ад *лац.* vacans, -ntis = які пустуе, незаняты) — свабодны, нікім не заняты (напр. в-ая пасада).

**ВАКЗА́Л** (*англ.* Vauxhall = забаўляльная ўстанова каля Лондана ў XVII ст.) — будынак для пасажыраў і службовага персаналу на чыгуначнай станцыі, на прыстані і інш.

**ВА́КСІНГ** (*англ.* waxing) — пазбаўленне ад валасоў на целе з дапамогай воску.

**ВА́КУУМ** (*лац.* vacuum = пустата) — 1) разрэджаны стан газаў у закрытым прыборы або пасудзіне; пустата; 2) *перан.* поўная адсутнасць, востры недахоп чаго-н. (напр. духоўны в.).

**ВАКХАНА́ЛІЯ** (*лац.* bacchanalia, ад *гр.* Bakchos = Вакх) — 1) свята ў гонар Вакха, бога вінаградарства і вінаробства ў Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме; 2) *перан.* разгульнае баляванне, дзікі разгул.

**ВА̀КЦЫ́НА** (*фр.* vaccine, ад *лац.* vaccines = каровін) — прэпарат для прафілактычных і лячэбных прывівак супраць заразных хвароб (напр. супрацьтыфозная в.).

**ВАЛА́Н** (*фр.* volant) — 1) шарык з апярэннем для гульні ў *бадмінтон*; 2) прышыўная палоска тканіны ў выглядзе брыжоў на сукенцы, спадніцы, блузцы.

**ВАЛАНЦЁР** (*фр.* volontaire) — 1) асоба, якая добраахвотна паступіла на вайсковую службу (у Англіі, Францыі, Італіі і некаторых іншых краінах); 2) той, хто добраахвотна ўдзельнічае ў якой-н. справе (звычайна новай, цяжкай).

**ВАЛАРЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* valorisation) — 1) павышэнне цаны тавару або курсу папяровых грошай пры дапамозе дзяржаўных мерапрыемстваў; 2) тое, што і *рэвальвацыя.*

**ВАЛЕЙБО́Л** (*англ.* volley-ball, ад volley = адбіваць на ляту + ball = мяч) — спартыўная гульня ў мяч, які перакідваецца цераз сетку ад адной каманды да другой.

**ВАЛІДО́Л** (ад *лац.* validus = моцны + oleum = алей) — лекавы прэпарат, здольны расшыраць сасуды; прымяняецца пры болях у сэрцы.

**ВАЛЬВА́ЦЫЯ** (*англ.* valuation) — вызначэнне вартасці іншаземнай валюты ў нацыянальных грашовых адзінках.

**ВАЛЬЕ́РА** (*фр.* volière) — абгароджаная пляцоўка для ўтрыма̀ння птушак або звяроў (у заапарку, запаведніку і інш.).

**ВАЛЮНТАРЫ́ЗМ** (*ням.* Voluntarismus, ад *лац.* voluntarius = валявы) — 1) напрамак у філасофіі, які аб'яўляе волю вышэйшым прынцыпам быцця, першаасновай усяго іншага; 2) суб'ектывісцкія, самавольныя рашэнні без уліку аб'ектыўных умоў грамадскага жыцця.

**ВАЛЮ́ТА** (*іт.* valuta = кошт, цана) — 1) грашовая сістэма дадзенай краіны, а таксама грашовыя адзінкі гэтай сістэмы; 2) грашовыя знакі замежных краін, якімі карыстаюцца ў міжнародных разліках.

**ВАМП** [*англ.* vamp, ад vamp(ir) = вампір] — тып жанчыны дэманічнай прыгажосці, якая спакушае мужчын з карыслівымі мэтамі.

**ВАМПІ́Р** (*фр.* vampire) — 1) казачны пярэварацень, мярцвяк, які нібыта выходзіць ноччу з магілы і смокча кроў жывых; 2) *перан.* жорсткі чалавек, крывасмок; 3) *перан.* чалавек, які жыве за кошт энергіі, жыццёвых сіл іншых людзей.

**ВАНДАЛІ́ЗМ** (*фр.* vandalisme, ад *лац.* vandali = старажытнагерманскія плямёны, якія ў 455 г. разрабавалі Рым) — няшчаднае разбурэнне, знішчэнне помнікаў культуры і мастацтва.

**ВАНДРАВА́ЦЬ** (*польск.* wędrować, ад *ням.* wandern) — 1) часта мяняць месца жыхарства, весці неаседлы спосаб жыцця; 2) падарожнічаць; 3) пераходзіць ад аднаго ўладальніка да другога на працягу доўгага часу (аб прадметах).

**ВАНДЭ́Я** (*фр.* Vandée = дэпартамент у Францыі, які ў час Французскай рэвалюцыі 1789—1794 гг. быў цэнтрам контррэвалюцыі) —сімвал контррэвалюцыі.

**ВА́ННА** (*ням.* Wanne) — 1) вялікая прадаўгаватая пасудзіна для купання; 2) працэс купання ў такой пасудзіне (напр. прыняць ванну); 3) *перан.* лячэбна-прафілактычная працэдура (напр. сонечныя ванны).

**ВАР'ЕТЭ́** (*фр.* variété = *літар.* разнастайнасць) — эстрадны тэатр лёгкага жанру, у якім аб'яднаны забаўляльныя элементы камедыйнага, цыркавога, музычнага мастацтва.

**ВАР'І́РАВАЦЬ** (*фр.* varier, ад *лац.* variare) — відазмяняць, даваць новыя варыянты, перайначваць (напр. в. тэму, в. колер).

**ВА́РТА** (*польск.* warta, ад *ням.* Warte) — 1) ахова, каравул (напр. паставіць варту); 2) вартаванне, абавязкі па ахове чаго-н. (напр. заступіць на варту).

**ВАРЫЯ́НТ** (*фр.* variante, ад *лац.* varians, -ntis = які змяняецца) — 1) відазмяненне, разнавіднасць, адна з магчымых камбінацый (напр. в. праекта); 2) адна з некалькіх рэдакцый твора, афіцыйнага дакумента (напр. новы в. песні).

**ВАРЫЯ́ЦЫЯ** (*лац.* variatio = змяненне) — 1) відазмяненне другарадных элементаў чаго-н. пры захаванні асноўнага; 2) музычны твор, танец, заснаваныя на відазмяненні ў распрацоўцы галоўнай тэмы ў мелодыі, рытме і г. д.

**ВАР'Я́Т** (*польск.* wariat, ад *лац.* variatus = зменены) — 1) псіхічна хворы чалавек; 2) *перан.* той, хто дзейнічае безразважна; дзівак.

**ВАСА́Л** (*фр.* vassal, ад *лац.* vassus = слуга) — 1) *гіст.* феадал у сярэдневяковай Заходняй Еўропе, які залежаў ад *сюзерэна*; 2) *перан.* падпарадкаваная або залежная асоба ці дзяржава.

**ВАТЭРПО́ЛА** (*англ.* water-polo, ад water = вада + polo = пола) — спартыўная камандная гульня ў мяч на вадзе; воднае пола.

**ВА́ЎЧАР** (*англ.* voucher, ад vouch = пацвярджаць) — 1) каштоўная папера, якая дае ўладальніку права на долю ў дзяржаўнай уласнасці; прыватызацыйны чэк; 2) дакумент, які служыць дадаткам да замежнай турыстычнай пуцёўкі і дае права на атрыманне на працягу паездкі пэўных паслуг.

**ВА́ХТА** (*польск.* wachta, ад *ням.* Wacht) — 1) від дзяжурства на караблі, а таксама частка экіпажа, якая нясе гэта дзяжурства; 2) *перан.* самаадданая праца ў гонар важнай падзеі (напр. працоўная в.).

**ВАЦІ́РАВАЦЬ** (*ням.* votieren, ад *с.-лац.* votare) — вырашаць што-н. галасаваннем (у парламенце, на сходзе).

**ВАЯ́Ж** (*фр.* voyage) — *іран.* падарожжа, паездка (звычайна дзелавая, афіцыйная).

**ВЕГЕТАРЫЯ́НСТВА** (*англ.* vegetarian, ад *с.-лац.* vegetarius = раслінны) — сістэма харчавання, якая дапускае ўжыванне толькі расліннай і малочнай ежы (без мяса).

**ВЕ́КТАР** (*лац.* vector = які нясе) — 1) *мат.* прамалінейны адрэзак, які мае пачатковы і канечны пункты і характарызуецца лікавым значэннем і напрамкам; 2) *перан.* асноўны напрамак развіцця якога-н. працэсу, з'явы, дзейнасці (напр. в. развіцця эканомікі).

**ВЕЛАБО́Л** (ад *лац.* velox = хуткі + *англ.* ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом на веласіпедах.

**ВЕЛАДРО́М** (ад *лац.* velox = хуткі + *гр.* dromos = месца для бегу) — спецыяльна абсталяванае збудаванне для трэніровак і спаборніцтваў па веласіпедным спорце.

**ВЕ́НА** (*лац.* vena) — крывяносны сасуд, які нясе кроў ад органаў і тканак да сэрца (параўн. *артэрыя* 1).

**ВЕНЕПЎНКЦЫЯ** (ад *лац.* vena = вена + punctio = укол) — пракол вены полай іголкай для пералівання крыві, увядзення лекавых раствораў і інш. (параўн. *венесекцыя*).

**ВЕНЕРАЛО́ГІЯ** (ад *лац.* Venus, -neris = імя старажытнарымскай багіні кахання + *гр.* logos = вучэнне) — раздзел медыцыны, які займаецца вывучэннем і лячэннем венерычных хвароб.

**ВЕНЕСЕ́КЦЫЯ** (ад *лац.* vena = вена + sectio = рассячэнне) — ускрыццё вены для пералівання крыві, увядзення лекавых раствораў, калі немагчыма зрабіць *венепункцыю.*

**ВЕ́НЗЕЛЬ** (*польск.* węzeł = вузел) — узор, утвораны зграбна пераплеценымі пачатковымі літарамі ўласных імён (імя і прозвішча або імя і імя па бацьку).

**ВЕ́НТЫЛЬ** (*ням.* Ventil) — 1) клапан для рэгулявання расходу вадкасці, пары, газу ў некаторых тэхнічных устройствах, а таксама паветра ў духавых музычных інструментах; 2) электронны прыбор, які забяспечвае працяканне току толькі ў адным напрамку.

**ВЕНТЫЛЯ́ТАР** (*лац.* ventilator = які праветрывае) — устройства для праветрывання памяшканняў, ахаладжэння частак машын і інш.

**ВЕНТЫЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* ventilation = праветрыванне) — 1) паветраабмен у памяшканнях, які рэгулюецца; 2) сістэма ўстройстваў, якія ствараюць такі паветраабмен.

**ВЕ́НЧУРНЫ** (ад *англ.* venture = рызыкаваць) — звязаны з рызыкай, рызыкоўны, асабліва ў гандлі і банкаўскай справе (напр. в. бізнес, в-ая фінансавая аперацыя).

**ВЕРА́НДА** (*англ.* veranda, ад *інд.* varanda) — адкрытая або зашклёная прыбудоўка ўздоўж сцяны дома.

**ВЕРБАВА́ЦЬ** (*польск.* werbować, ад *ням.* werben = шукаць, дамагацца) — набіраць, наймаць на работу, прыцягваць у якую-н. арганізацыю, да якой-н. справы (напр. в. рабочую сілу).

**ВЕРДЫ́КТ** (*англ.* verdict, ад *лац.* vere dictum = *літар.* дакладна сказанае) — рашэнне аб вінаватасці або невінаватасці падсуднага, вынесенае на судовым працэсе прысяжнымі засядацелямі.

**ВЕРНІСА́Ж** (*фр.* vernissage = *літар.* пакрыццё лакам) — 1) урачыстае адкрыццё мастацкай выстаўкі (звычайна з запрашэннем ганаровых гасцей для сустрэчы з аўтарам); 2) выстаўка-продаж мастацкіх вырабаў.

**ВЕ́РСІЯ** (*фр.* version, ад *лац.* vertere = паварочваць, змяняць) — адзін з некалькіх *варыянтаў* выкладу або тлумачэння чаго-н. (напр. апошняя в., следчая в.).

**ВЕРТЫКА́ЛЬ** (*лац.* verticalis = стромы) — 1) *вертыкальная* прамая лінія (проціл. *гарызанталь*); 2) іерархія органаў улады, кіравання.

**ВЕРТЫКА́ЛЬНЫ** (*лац.* verticalis) — адвесны, перпендыкулярны лініі *гарызонта* (проціл. *гарызантальны*).

**ВЕРЫФІКА́ЦЫЯ** (*фр.* vérification, ад *лац.* veris = сапраўдны + facere = рабіць) — 1) праверка сапраўднасці тэарэтычных палажэнняў вопытным шляхам; 2) пацвярджэнне сапраўднасці чаго-н. (напр. в. вынікаў галасавання).

**ВЕСТ** (*ням.* West) — 1) захад, заходні напрамак; 2) заходні вецер.

**ВЕСТЫБЮ́ЛЬ** (*фр.* vestibule, ад *лац.* vestibulum = сені, уваход) — вялікае памяшканне перад уваходам ва ўнутраныя часткі будынка грамадскага прызначэння (палаца, музея, тэатра, клуба і інш.).

**ВЕ́СТЭРН** (*англ.* western = заходні) — прыгодніцкі фільм з жыцця першых пасяленцаў амерыканскага Захаду.

**ВЕ́ТА** (*лац.* veto = забараняю) — забарона, якая накладваецца на якое-н. рашэнне ўпаўнаважаным на гэта дзяржаўным органам або асобай (напр. мець права в., в. у міжнародным праве).

**ВЕТЭРА́Н** (*лац.* veteranus = стары, дасведчаны) — 1) бывалы, вопытны воін; удзельнік вайны ў мінулым (напр. в. палка, в. вайны); 2) стары, заслужаны работнік, дзеяч у якой-н. галіне (напр. в. працы, в. сцэны).

**ВІ-АЙ-ПІ́** [*англ.* VIP, ад v(ery) i(mportant) p(erson) = надта важная асоба] — славутасць; аўтарытэтная, уплывовая і прывілеяваная асоба.

**ВІБРА́ЦЫЯ** (*лац.* vibratio) — 1) механічныя ваганні пругкіх цел, механізмаў, збудаванняў; 2) ваганні вышыні тону якога-н. гуку (голасу, струны і інш.).

**ВІДЭААДА́ПТЭР** (*англ.* videoadapter, ад *лац.* video = бачу + adaptare = прыстасоўваць) — устройства *камп'ютэра*, якое забяспечвае перадачу інфармацыі на *дысплей*.

**ВІДЭАБІ́ЗНЕС** (*англ.* videobusiness, ад *лац.* video = бачу + + *англ.* business = бізнес) — прыватная прадпрымальніцкая дзейнасць, звязаная са стварэннем і пракатам *відэафільмаў*.

**ВІДЭАКАСЕ́ТА** (*англ.* videocassette, ад *лац.* video = бачу + *англ.* cassette = касета) — касета, прызначаная для

запісу і ўзнаўлення *аўдыёвізуальнай* інфармацыі на экране тэлевізара.

**ВІДЭАКЛІ́П** (*англ.* videoclip, ад *лац.* video = бачу + *англ.* clip = стрыгчы, рабіць выразкі) — устаўны нумар у тэлеперадачы, які ўяўляе сабой эстрадную песню на фоне дэкарацый, пейзажаў і інш.

**ВІДЭАМАГНІТАФО́Н** (ад *лац.* video = бачу + *гр.* magnetis = магніт + phone = гук) — апарат для запісу на магнітную стужку візуальнага адлюстравання і яго гукавога суправаджэння з далейшым іх узнаўленнем на тэлеэкране.

**ВІДЭАПЛЕ́ЕР** (*англ.* videoplayer, ад *лац.* video = бачу + + *англ.* player = плеер) — апарат, прызначаны для ўзнаўлення гатовых *відэафільмаў* з *відэакасет.*

**ВІДЭАТЭ́КА** (ад *лац.* video = бачу + theke = сховішча) — збор відэакасет, а таксама месца іх захоўвання.

**ВІДЭАТЭЛЕФО́Н** (ад *лац.* video = бачу + *гр.* tele = далёка + phone = гук) — від сувязі, які дазваляе, размаўляючы па тэлефоне, бачыць субяседніка на экране свайго апарата.

**ВІДЭАФІ́ЛЬМ** (*англ.* videofilm, ад *лац.* video = бачу + *англ.* film = фільм) — фільм, зняты на відэастужку.

**ВІ́ЗА** (*фр.* visa, ад *лац.* visus = прагледжаны) — 1) дазвол на ўезд у краіну, выезд ці праезд праз яе, а таксама паметка ў пашпарце ў знак такога дазволу (напр. атрымаць візу); 2) паметка службовай асобы на дакуменце, якая сведчыць пра яго сапраўднасць або надае яму законную сілу (напр. паставіць візу).

**ВІЗАВІ́** (*фр.* vis-a-vis) — 1) твар у твар, адзін насупраць другога (напр. сядзець в.); 2) той, хто знаходзіцца насупраць (за сталом, пры гульні і г. д.).

**ВІЗАЖЫ́СТ** (*фр.* visagiste, ад visage = твар) — спецыяліст па касметыцы твару.

**ВІЗІ́Т** (*фр.* visite) — наведванне, пераважна афіцыйнае або ўрачыстае (напр. в. ветлівасці, нанесці в.).

**ВІЗЦЁР** (*фр.* visiteur) — асоба, якая робіць *візіт*; наведвальнік.

**ВІЗУА́ЛЬНЫ** (*лац.* visualis = зрокавы) — які праводзіцца простым вокам або пры дапамозе аптычных прылад (напр. в-ыя назіранні).

**ВІКТАРЫ́НА** (ад *лац.* victoria = перамога) — гульня ў адказы на пытанні, звычайна аб'яднаныя агульнай тэмай (напр. літаратурная в.).

**ВІ́ЛА** (*лац.* villa) — багаты загарадны дом з садам, паркам.

**ВІНДСЁРФІНГ** (*англ.* windsurfing, ад wind = вецер + surfing = слізганне па хвалях) — від воднага спорту, звязаны са слізганнем па хвалях, стоячы на коркавай або пенапластавай дошцы з рухомым парусам.

**ВІНДЫКА́ЦЫЯ** (*лац.* vindicatio = абарона, ахова) — *юр.* патрабаванне ўласніка вярнуць яму маёмасць судовым парадкам з чужога незаконнага валодання.

**ВІНЧЭ́СТЭР** (*англ.* winchester, ад Winchester = назва горада ў Англіі) — устройства памяці *камп'ютэра* ў выглядзе цвёрдага магнітнага дыска (параўн. *дыскета*).

**ВІНШАВА́ЦЬ** (*польск.* winszować, ад *ням.* wünschen) — вітаць каго-н. з выпадку чаго-н. прыемнага, радаснага (напр. в. са святам, в. з юбілеем).

**ВІНЬЁТКА** (*фр.* vignette, ад vigne = вінаград) — упрыгожанне ў выглядзе невялікага малюнка ў пачатку або ў канцы кнігі, раздзела, у альбоме, на лістку паштовай паперы і інш.

**ВІ́РА** (*іт.* vira = паварочвай) — каманднае слова са значэннем «падымай уверх!», уласцівае мове партовых грузчыкаў, будаўнікоў (проціл. *майна*).

**ВІРА́Ж** (*фр.* virage) — 1) паварот самалёта з крэнам па крузе або паварот па крывой аўтамабіля, веласіпеда, матацыкла (напр. крутыя віражы); 2) паварот спартыўнай дарожкі з ухілам унутр.

**ВІРТУА́ЛЬНЫ** (*с.-лац.* virtualis) — 1) магчымы; такі, які можа або павінен праявіцца пры пэўных умовах (напр. в-ая тэмпература); 2) *інф.* які ствараецца сродкамі камп'ютэрнай графікі (напр. в-ыя гульні).

**ВІРТУО́З** (*іт.* virtuoso, ад *лац.* virtus = талент) — чалавек, які дасканала валодае тэхнікай свайго мастацтва, сваёй справы (напр. скрыпач-в.).

**ВІ́РУС** (*лац.* virus = яд) — 1) найдрабнейшы мікраарганізм, узбуджальнік інфекцыйных хвароб (напр. в. грыпу); 2) *пераи.* узбуджальнік якіх-н. непажаданых сацыяльных, псіхалагічных і іншых з'яў (напр. в. індывідуалізму); 3) *інф.* праграма, здольная далучацца да іншых праграм *камп'ютэра* і выклікаць збоі ў іх працы.

**ВІ́СКІ** (*англ.* whisky) — моцны алкагольны напітак, які атрымліваюць перагонкай збраджанага сусла, прыгата-

ванага са збожжавай сыравіны; першапачаткова вырабляўся ў Англіі і ЗША.

**ВІТАЛІ́ЗМ** (*фр.* vitalisme, ад *лац.* vitalis = жыццёвы) — плынь у біялогіі, якая дапускае наяўнасць у жывых арганізмах асобай нематэрыяльнай жыццёвай сілы.

**ВІТА́ЛЬНЫ** (*лац.* vitalis) — *біял., мед.* жыццёвы, які мае адносіны да жыццёвых з'яў (проціл *летальны*).

**ВІТАМІ́НЫ** (*фр.* vitamine, ад *лац.* vita = жыццё) — арганічныя рэчывы, неабходныя для нармальнай жыццядзейнасці арганізмаў, а таксама прэпараты, якія ўтрымліваюць такія рэчывы.

**ВІТРА́Ж** (*фр.* vitrage, ад *лац.* vitrum = шкло) — малюнак або ўзор з каляровага шкла ў вокнах, дзвярах.

**ВІТРЫ́НА** (*фр.* vitrine, ад *лац.* vitrum = шкло) —месца за акном магазіна або зашклёная шафа, скрынка для паказу розных прадметаў, тавараў.

**ВІЯДУ́К** (*фр.* viaduc, ад *лац.* via = дарога + duco = вяду) — мост над ярам, цяснінай або цераз дарогу, чыгунку.

**ВО́ДАР** (*лац.* odor = пах) — прыемны пах, духмянасць (напр. в. кветак).

**ВОЛЕ́НС-НО́ЛЕНС** (ад *лац.* volens = які жадае + nolens = які не жадае) — воляй-няволяй, незалежна ад жадання, па неабходнасці.

**ВО́ТУМ** (*лац.* votum = жаданне) — рашэнне, прынятае галасаваннем (напр. в. давер'я, в. недавер'я).

**ВУАЛІ́РАВАЦЬ** (*фр.* voiler) — наўмысна рабіць што-н. не зусім ясным, выразным (напр. в. сапраўдныя намеры).

**ВУЛЬГА́РНЫ** (*лац.* vulgaris = просты, звычайны) — 1) грубы, непрыстойны (напр. в. выраз, в-ыя манеры); 2) спрошчаны да скажэння (напр. в. выклад вучэння).

**ВУЛЬГАРЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* vulgarisation, ад *лац.* vulgaris = = просты, звычайны) — грубае спрашчэнне якога-н. пытання, поглядаў, вучэння, падача яго ў скажоным выглядзе (напр. в. гісторыі).

**ВУНДЭРКІ́НД** (*ням.* Wunderkind = *літар.* цуда-дзіця) — дзіця з надзвычайнымі здольнасцямі (часам іранічна).

**ВЭБ-ДЫЗА́ЙН** (*англ.* web design, ад web = павуціна + design = праектаваць, канструяваць) — мастацкае афармленне *сайтаў* у Інтэрнэце.

**ВЭБ-МА́ЙСТАР** (*англ.* web master, ад web = павуціна + *ням.* Meister, ад *лац.* magister = кіраўнік, настаўнік) — спецыяліст па стварэнню *сайтаў* у Інтэрнэце.

**ВЭ́КСАЛЬ** (*ням.* Wechsel = *літар.* абмен) — пісьмовае абавязацельства заплаціць каму-н. пэўную суму грошай ва ўстаноўлены тэрмін.

**ВЯНО́ЗНЫ** (*лац.* venosus) — які мае адносіны да *вены* або знаходзіцца ў ёй (напр. в-ая кроў).

## Г

**ГАБАРЫ́Т** (*фр.* gabarit) — гранічны знешні абрыс прадмета (збудавання, машыны і інш.), а таксама памер, велічыня чаго-н. (напр. г. вагона, пакой малых габарытаў).

**ГАБЕЛЕ́Н** (*фр.* gobelin, ад G. Gobelin = прозвішча французскага фарбавальшчыка і ткача, які жыў у XVII ст.) — 1) насценны дыван ручной работы з вытканай карцінай, узорам; 2) шчыльная абівачная дэкаратыўная тканіна.

**ГА́ЕР** (*фр.* gaillard = весялун) — 1) *уст.* балаганны шут; 2) *перан.* той, хто крыўляецца, блазнуе на пацеху іншым.

**ГАЗАВА́Т** (*ар.* gazavat) — завешчаная Каранам «свяшчэнная вайна» мусульман супраць іншаверцаў.

**ГАЗЕ́ТА** (*іт.* gazzetta) — перыядычнае, звычайна штодзённае друкаванае выданне ў выглядзе вялікіх лістоў, у якім змяшчаюцца матэрыялы пра бягучыя падзеі.

**ГАЗО́Н** (*фр.* gazon) — пляцоўка ў садзе, скверы, засеяная травой.

**ГА́ЛА́** (*фр.* gala) — урачыстае відовішча з удзелам афіцыйных асоб.

**ГАЛАГРА́МА** (ад *гр.* holos = увесь + grama = літара, запіс) — аб'ёмнае адлюстраванне прадмета, атрыманае метадам *галаграфіі.*

**ГАЛАГРА́ФІЯ** (ад *гр.* holos = увесь + grapho = пішу) — спосаб атрымання аб'ёмнага відарыса прадмета, заснаваны на *інтэрферэнцыі* двух прамянёў святла, адзін з якіх ідзе непасрэдна ад *лазера,* а другі асвятляе прадмет, адбіўшыся ад люстэрка.

**ГА́ЛА́-КАНЦЭ́РТ** (ад *фр.* gala = урачыстасць + *іт.* concerto = = канцэрт) — вялікі святочны канцэрт.

**ГАЛА́КТЫКА** (*гр.* galaktikos = малочны) — зорная сістэма (напр. наша Г.).

**ГАЛАНТАРЭ́Я** (*фр.* galanterie = ветлівасць) — гандлёвая назва дробных прыналежнасцей убору (гальштукі, пальчаткі, стужкі, запінкі, гузікі і інш.).

**ГАЛА́НТНЫ** (*фр.* gallant) — вельмі ветлівы, далікатны, добра выхаваны (напр. г. чалавек).

**ГАЛГО́ФА** (*гр.* Golgotha = узгорак паблізу Іерусаліма, дзе, паводле біблейскіх паданняў, праводзілася пакаранне і дзе быў распяты Хрыстос) — *перан.* месца пакарання, сімвал падзвіжніцтва і маральных пакут.

**ГАЛЕРЫ́СТ** (ад *фр.* galerie = галерэя) — прадпрымальнік, які экспануе і прадае творы мастацтва ў *галерэі* 4.

**ГАЛЕРЭ́Я** (*фр.* galerie) — 1) вузкі крыты праход, які злучае часткі будынка, а таксама доўгі балкон уздоўж сцяны дома; 2) падземны ход у ваенных збудаваннях або шахтах; 3) верхні ярус у тэатры, цырку; 4) спецыяльна прыстасаванае памяшканне для выстаўкі твораў мастацтва (напр. карцінная г.); 5) *перан.* рад, шэраг (напр. г. літаратурных вобразаў).

**ГАЛЕ́ТА** (*фр.* galette) —прэснае пячэнне звычайна слаістай структуры, якое здольна замяняць хлеб і доўга захоўваць свае якасці; выкарыстоўваецца ў паходных умовах.

**ГАЛКІ́ПЕР** (*англ.* goalkeeper, ад goal = гол + keeper = стораж) — варатар у *футболе, хакеі, рэгбі, ватэрпола.*

**ГАЛО́Н** (*англ.* gallon) — мера ёмістасці вадкіх і сыпкіх рэчываў у Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах, роўная 1/8 *бушаля.*

**ГАЛУ́Н** (*фр.* gallon) — тое, што і *пазумент.*

**ГАЛЬВАНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* galvanisation, ад *ім.* I. Galvani = = прозвішча італьянскага фізіка) — выкарыстанне пастаяннага электрычнага току для медыцынскіх або тэхнічных мэт.

**ГА́ЛЬШТУК** (*ням.* Halstuch, ад Hals = шыя + Tuch = хустка) — прадмет убору ў выглядзе палоскі тканіны, якая завязваецца пад каўняром сарочкі вузлом або бантам.

**ГАЛЮЦЫНА́ЦЫЯ** (*лац.* hallucinatio = трызненне) — з'ява падману зроку, слыху або нюху ў выніку псіхічнага расстройства; уяўнае адчуванне таго, чаго ў сапраўднасці няма.

**ГА́МА** (*фр.* gamme, ад *гр.* gamma = трэцяя літара грэчаскага алфавіта) — 1) паслядоўны рад музычных гукаў, які павышаецца або паніжаецца ў межах *актавы* (напр. мажорная г., мінорная г.); 2) *перан.* характар суадносін аднародных, але разнастайных па зменлівасці з'яў, якасцей (напр. г. фарбаў, г. пачуццяў).

**ГАМА́К** (*фр.* hamac, ад *ісп.* hamaca) — падвесная сетка для адпачынку, сну на свежым паветры.

**ГАМБІ́Т** (*фр.* gambit) — пачатак шахматнай або шашачнай партыі, у якой ахвяруюць фігуру ці пешку для забеспячэння пазіцыйнай і тактычный перавагі (параўн. *дэбют²*, *мітэльшпіль, эндшпіль*).

**ГА́МБУРГЕР** (*англ.* hamburger, ад *ням.* Hamburg = назва горада ў Германіі) — разрэзаная папалам мяккая булачка, у сярэдзіну якой укладзена гарачая катлета з прыправамі.

**ГАМЕАПА́ТЫЯ** (ад *гр.* homoios = падобны + pathos = хвароба) — сістэма лячэння хвароб малымі дозамі тых лякарстваў, якія ў вялікіх дозах выклікаюць у здаровага чалавека з'явы, падобныя на сімптомы самой хваробы (проціл. *алапатыя*).

**ГАНАРА́Р** (*лац.* honorarium = узнагароджанне, ганаровы дар) — грашовае ўзнагароджанне, якое па дагавору атрымліваюць аўтары за свае творы.

**ГА́НГСТЭР** (*англ.* gangster, ад gang = банда) — член бандыцкай арганізацыі, які робіць бізнес незаконнымі сродкамі — забойствамі, грабяжом, подкупам, запалохваннем.

**ГА́НДАЛЬ** (*польск.* handel, ад *ням.* Handel) — гаспадарчая дзейнасць па куплі і продажы тавараў (напр. дзяржаўны г., прыватны г.).

**ГАНДБО́Л** (*англ.* handball, ад hand = рука + ball = мяч) — спартыўная камандная гульня, у якой гульцы імкнуцца рукамі закінуць мяч у вароты праціўніка; ручны мяч.

**ГАНДЛЯ́Р** (*польск.* handlarz, ад *ням.* Handler) — 1) той, хто займаецца *гандлем*; 2) *перан.* беспрынцыповы чалавек, які гандлюе сваім сумленнем, талентам, перакананнямі.

**ГАНТЭ́ЛЬ** (*ням.* Hantel) — ручны гімнастычны снарад у выглядзе двух металічных шароў, злучаных кароткай ручкай.

**ГАРА́Ж** (*фр.* garage) — памяшканне для стаянкі і рамонту аўтатранспарту.

**ГАРА́НТ** (*фр.* garant) — дзяржава, арганізацыя або асоба, якая дае *гарантыю* ў чым-н.; паручыцель.

**ГАРА́НТЫЯ** (*фр.* garantie) — 1) парука, запэўненне ў чым-н. (напр. тэлевізар з гарантыяй); 2) умова, якая забяспечвае поспех чаго-н. (напр. загартоўка арганізма — г. здароўя).

**ГАРАСКО́П** (*гр.* horoskopos, ад hora = час + skopeo = гляджу, назіраю) — табліца размяшчэння планет і зорак у пэўны момант часу, якая служыць астролагам для прадказання лёсу чалавека або выніку якой-н. падзеі; само такое прадказанне.

**ГАРДЭРО́Б** (*фр.* garderobe) — 1) памяшканне ў грамадскім будынку для захоўвання верхняга адзення наведвальнікаў; 2) шафа для адзення; 3) увесь набор адзення аднаго чалавека (напр. г. артысткі).

**ГАРЖЭ́ТКА** (*фр.* gargette) — прадмет жаночага туалету ў выглядзе палоскі футра ці цэлай шкуркі звярка, якую носяць замест каўняра.

**ГАРМО́НІЯ** (*лац.* harmonia, ад *гр.* harmonia = сувязь, сугучнасць, зладжанасць) — 1) мілагучнасць, зладжанасць, прыемнасць гучання (напр. г. гукаў); 2) суразмернасць, узаемная адпаведнасць у спалучэнні чаго-н. (напр. г. інтарэсаў, г. формы і зместу).

**ГАРМО́НЫ** (*фр.* hormone, ад *гр.* hormao = рухаю) — біялагічна актыўныя рэчывы, якія выдзяляюць у кроў залозы ўнутранай сакрэцыі; удзельнічаюць у рэгуляцыі функцый арганізма.

**ГАРНІТУ́Р** (*фр.* garniture) — поўны набор, камплект прадметаў пэўнага прызначэння (напр. г. мэблі, спальны г.).

**ГАРСЭ́Т** (*польск.* gorset, ад *фр.* corset) — 1) шырокі пругкі пояс, які носяць пад сукенкай для надання стройнасці фігуры; 2) частка беларускага народнага жаночага касцюма ў выглядзе безрукаўкі; 3) *бандаж*, які носяць на верхняй частцы тулава пры скрыўленні пазваночніка.

**ГАРЫЗАНТА́ЛЬ** (*фр.* horizontale, ад *гр.* horizon, -ntos = які абмяжоўвае) — *гарызантальная* прамая лінія (проціл. *вертыкаль* 1).

**ГАРЫЗАНТА́ЛЬНЫ** (*фр.* horizontal, ад ад *гр.* horizon, -ntos = які абмяжоўвае) — паралельны лініі *гарызонта* (проціл. *вертыкальны*).

**ГАРЫЗО́НТ** (*гр.* horizon, -ntos = які абмяжоўвае) — 1) лінія ўяўнага судакранання неба з зямной або воднай паверхняй, а таксама прастора неба над гэтай лініяй; 2) уся бачная навокал зямная паверхня, далягляд; 3) *перан.* круг магчымасцей, перспектыва (напр. адкрыліся новыя гарызонты ў навуцы); 4) *перан.* сума ведаў, кругагляд чалавека (напр. чалавек з шырокім гарызонтам).

**ГАРЭЛЬЕ́Ф** (*фр.* haut-relief = *літар.* высокі рэльеф) — скульптурны відарыс, які выступае на плоскай паверхні больш чым на палавіну сваёй таўшчыні (параўн. *барэльеф*).

**ГАСТАРБА́ЙТЭР** (*ням.* Gastarbeiter, ад Gast = госць + Arbeiter = рабочы) — наёмны рабочы-эмігрант у краінах Заходняй Еўропы.

**ГАСТРАЛЁР** (ад *ням.* Gastrolle = гастролі) — 1) артыст, які прыехаў на гастролі; 2) *перан.* чалавек, які часта мяняе месца работы.

**ГАСТРАНО́М** (*фр.* gastronome, ад *гр.* gaster, -tros = страўнік + nomos = закон) — 1) прадуктовы магазін; 2) тое, што і *гурман.*

**ГАСТРАНО́МІЯ** (*фр.* gastronomie, ад *гр.* gaster, -tros = = страўнік + nomos = закон) — 1) харчовыя прадукты, пераважна закусачныя; 2) тонкае веданне кулінарнага майстэрства.

**ГАСТРО́ЛІ** (*ням.* Gastrolle, ад Gast = госць + Rolle = роля) — выступленне артыста або мастацкага калектыву (тэатра, ансамбля, аркестра, хору і інш.) у іншым горадзе, краіне.

**ГАСТРЫ́Т** (*н.-лац.* gastritis, ад *гр.* gaster, -tros = страўнік) — запаленне слізістай абалонкі страўніка (напр. востры г., хранічны г.).

**ГАТУ́НАК** (*польск.* gatunek, ад *ням.* Gattung) — 1) разрад, катэгорыя якога-н. тавару па якасці (напр. мука першага гатунку); 2) разнавіднасць якога-н. тавару (напр. цукеркі розных гатункаў).

**ГАТЭ́ЛЬ** гл. *атэль.*

**ГАФРЫРАВА́ЦЬ** (*фр.* gaufrer = выціскаць узор) — рабіць на якім-н. матэрыяле (тканіне, паперы, блясе і інш.) рады паралельных складак.

**ГАФТАВА́ЦЬ** (*польск.* haftować, ад *ням.* heften) — вышываць ажурныя ўзоры на тканіне.

**ГАШЫ́Ш** (*ар.* hašiš) — наркатычны сродак, які атрымліваюць з індыйскіх канапель.

**ГЕАПАЛІ́ТЫКА** [ад *гр.* ge = Зямля + politike (techne) = = уменне кіраваць дзяржавай] — палітычная канцэпцыя, паводле якой палітыка дзяржаў (галоўным чынам знешняя) вызначаецца геаграфічнымі фактарамі (тэрытарыяльным становішчам краіны, прыроднымі рэсурсамі, кліматам і г. д.).

**ГЕАСТРАТЭ́ГІЯ** (ад *гр.* ge = Зямля + strategia = стратэгія) — разгляд значэння прыроднага асяроддзя ў дачыненні да праблемы экалагічнага, эканоміка-палітычныга дабрабыту, пераважна ў міжнародным маштабе.

**ГЕАЭНЕРГЕ́ТЫКА** (ад *гр.* ge = Зямля + energetikos = які датычыць энергіі) — галіна *энергетыкі*, звязаная з выкарыстаннем глыбіннага цяпла зямной кары.

**ГЕГЕМО́НІЯ** (*гр.* hegemonia = кіраўніцтва) — кіроўная роля, першынство якога-н. класа, дзяржавы ў адносінах да іншых класаў, дзяржаў (напр. палітычная г., фінансавая г.).

**ГЕ́ЙМ** (*англ.* game = гульня) — частка партыі ў некаторых спартыўных гульнях, напр. у *тэнісе* (шостая частка *сэта*).

**ГЕ́ЙША** (*яп.* gejsha) — прафесійная танцоўшчыца і спявачка ў Японіі, якая запрашаецца для ўвесялення гасцей на прыёмах, банкетах.

**ГЕЛІЯТЭРАПІ́Я** (ад *гр.* helios = Сонца + therapeia = лячэнне) — лячэнне сонечным апраменьваннем.

**ГЕЛІЯЭНЕРГЕ́ТЫКА** (ад *гр.* helios = Сонца + energetikos = які датычыць энергіі) — галіна *энергетыкі*, якая распрацоўвае метады эксплуатацыі энергіі сонечнага выпраменьвання для прамысловых і бытавых патрэб.

**ГЕЛЬ** (*фр.* gel, ад *лац.* gelare = застываць) — студзяністае рэчыва (напр. жэлацінавы студзень, сталярны клей, некаторыя касметычныя сродкі), здольнае пры высушванні захоўваць трываласць, пластычнасць, пругкасць.

**ГЕМАГЛАБІ́Н** (ад *гр.* haima = кроў + *лац.* globus = шар) — бялковае рэчыва ў саставе крыві, якое надае ёй чырвоны колер і служыць пераносчыкам кіслароду ва ўсе тканкі арганізма.

**ГЕМАТАГЕ́Н** (ад *гр.* haima, -atos = кроў + genes = які нараджае, народжаны) — лякарства ад малакроўя і заняпаду сіл, у склад якога ўваходзіць *гемаглабін*.

**ГЕН** (*гр.* genos = род, паходжанне) — 1) адзінка спадчыннай інфармацыі; 2) *перан.* зародак, зачатак, зараджэнне (напр. г. узаемаразумення).

**ГЕНАТЫ́П** (ад *гр.* genos = род + typos = адбітак, вобраз) — спадчынная канстытуцыя арганізма, сукупнасць усіх яго *генаў*.

**ГЕНАФО́НД** (ад *гр.* genos = род + *лац.* fundus = аснова) — 1) сукупнасць генаў адной папуляцыі арганізмаў; 2) сукупнасць якіх-н. якасцей, уласцівасцей грамадскай групы, грамадства (напр. інтэлектуальны г. нацыі).

**ГЕНАЦЫ́Д** (*фр.* génocide, ад *гр.* genos = род + *лац.* caedere = забіваць) — знішчэнне асобных груп насельніцтва па расавых, нацыянальных або рэлігійных матывах (параўн. *халакост*).

**ГЕ́НДЭРНЫ** (ад *англ.* gender = род, пол) — звязаны з адрозненнямі людзей па полу (напр. г-ая лінгвістыка).

**ГЕНЕАЛО́ГІЯ** (*гр.* genealogia, ад genos = род + logos = слова) — 1) дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае паходжанне і сваяцкія сувязі гістарычных асоб, родаў; 2) гісторыя чыйго-н. роду, радаслоўе (напр. г. сям'і).

**ГЕ́НЕЗІС** (*гр.* genesis) — паходжанне, працэс узнікнення і развіцця якой-н. з'явы.

**ГЕНЕРА́ЛЬНЫ** (*лац.* generalis = агульны, галоўны) — 1) галоўны, асноўны, вядучы (напр. г. план); 2) усеагульны, грунтоўны (напр. г-ая ўборка); 3) які ўзначальвае якую-н. галіну, сістэму ўстаноў, арганізацый (напр. г. дырэктар).

**ГЕНЕРА́ЦЫЯ** (*лац.* generatio = нараджэнне) — 1) члены аднаго роду або аднаго віду жывёл, раслін, аднолькава аддаленых у роднасных адносінах ад агульных продкаў; пакаленне; 2) *перан.* сукупнасць людзей, аб'яднаных агульнай сферай дзейнасці, што ажыццяўляецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу (напр. г. новых палітыкаў).

**ГЕНЕ́ТЫКА** (*англ.* genetics, ад *гр.* genetikos = звязаны з нараджэннем, паходжаннем) — навука аб законах спадчыннасці і зменлівасці арганізмаў.

**ГЕ́НІЙ** (*лац.* genius) — 1) самая высокая ступень творчай адоранасці, таленавітасці чалавека ў якой-н. галіне дзейнасці (напр. паэтычны г. Пушкіна); 2) чалавек, надзелены такой адоранасцю.

**ГЕРАЇН** (*фр.* héroïne) — *наркотык* моцнага дзеяння, які атрымліваюць з опійнага маку; прыгнечвае цэнтральную нервовую сістэму.

**ГЕРА́ЛЬДЫКА** (*фр.* heraldique, ад *с.-лац.* heraldus = вяшчальнік) — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем гербаў; гербазнаўства.

**ГЕРАНТАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* heron, -ntos = стары + logos = вучэнне) — навука, якая займаецца вывучэннем працэсаў старэння арганізмаў.

**ГЕРБ** (*польск.* herb, ад *ням.* Erbe = спадчына) — распазнавальны знак дзяржавы, горада, дваранскага роду, які змяшчаецца на флагах, манетах, пячатках, некаторых дакументах.

**ГЕРБАЛА́ЙФ** (*англ.* herbalife, ад *лац.* herba = трава + *англ.* life = жыццё) — розныя прэпараты замежных фірм, заснаваныя на натуральнай сыравіне, якія служаць для карэкцыі вагі цела і для абароны арганізма ад шкодных уздзеянняў навакольнага асяроддзя.

**ГЕРБІЦЫ́ДЫ** (ад *лац.* herba = трава + caedere = забіваць) — хімічныя рэчывы для барацьбы з пустазеллем.

**ГЕРМАФРАДЫТЫ́ЗМ** (*фр.* hermaphroditisme, ад *гр.* Hermaphroditos = імя сына Гермеса і Афрадыты) — разнавіднасць *андрагініі*, наяўнасць прымет мужчынскага і жаночага полу ў аднаго арганізма; двухполасць.

**ГЕРМЕТЫ́ЧНЫ** (*с.-лац.* hermeticus, ад Hermes = імя легендарнага егіпецкага мудраца, якому прыпісвалі ўменне закрываць пасуду) — які шчыльна закрыты і не прапускае вадкасці і паветра (напр. г-ая пасуда, г-ая печ).

**ГЕТЭРАСЕКСУАЛІ́ЗМ** (ад *гр.* heteros = другі, іншы + *лац.* sexualis = палавы) — палавая цяга да асоб процілеглага полу (параўн. *бісексуалізм, гомасексуалізм*).

**ГЁРЛС** (*англ.* girls = дзяўчаты) — група дзяўчат, якая выступае з танцавальнымі нумарамі на эстрадзе, галоўным чынам у *мюзік-холе, кабарэ.*

**ГЁРЛСКА́УТ** (*англ.* girl-scout, ад girl = дзяўчынка + + scout = разведчык) — дзяўчынка, член скаўцкай (гл. *скаутызм*) арганізацыі (параўн. *байскаут*).

**ГІБРЫ́Д** (*лац.* hibrida, ад *гр.* hybris, -idos = кровазмяшэнне) — жывёліна або расліна, выведзеныя шляхам скрыжавання розных парод, сартоў, відаў.

**ГІГАБА́ЙТ** (*англ.* gigabyte, ад *гр.* gigas = гіганцкі + *англ.* byte = байт) — адзінка вымярэння аб'ёму памяці *камп'ютэра*, роўная $10^9$ *байт*.

**ГІГА́НТ** (*гр.* gigas, -antos = магутны) — 1) істота, расліна або прыродны аб'ект вялізных памераў (напр. слон-г., дуб-г., зорка-г.); 2) вялікае па размаху і значэнню прадпрыемства (напр. завод-г.); 3) *перан.* чалавек, які вызначаецца значнымі дасягненнямі ў якой-н. галіне (напр. г. мастацтва, г. думкі).

**ГІГІЕ́НА** (*гр.* hygieinos = здаровы; лекавы) — 1) раздзел медыцыны, які вывучае ўплыў умоў жыцця і працы на здароўе чалавека і распрацоўвае меры прафілактыкі захворванняў; 2) практычныя мерапрыемствы, якія садзейнічаюць захаванню здароўя (напр. г. працы, асабістая г.).

**ГІД** (*фр.* guide) — экскурсавод-праваднік пры групе турыстаў, які знаёміць іх з выдатнымі мясцінамі горада, краю.

**ГІДРААЭРО́БІКА** (*англ.* hydroaerobics, ад *гр.* hydor = вада + aer = паветра + bios = жыццё) — тое, што і *аквааэробіка*.

**ГІДРАБІЁНІКА** (ад *гр.* hydor = вада + *англ.* bionics = біёніка) — раздзел *біёнікі*, які вывучае асаблівасці жывёл, што жывуць у вадзе, каб ствараць тэхнічныя прыстасаванні для работы ў водным асяроддзі.

**ГІДРАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* hydor = вада + logos = вучэнне) — навука, якая вывучае *гідрасферу* Зямлі, а таксама працэсы, што адбываюцца ў ёй.

**ГІДРАМАСА́Ж** (ад *гр.* hydor = вада + *фр.* massage = масаж) — масаж пад вадой з лячэбнай або прафілактычнай мэтай.

**ГІДРАНА́ЎТ** (ад *гр.* hydor = вада + nautes = мараплавец) — тое, што і *акванаўт*.

**ГІДРАПО́НІКА** (ад *гр.* hydor = вада + ponikos = працоўны, працавіты) — вырошчванне раслін без глебы ў вадзе з дапамогай пажыўных рэчываў (параўн. *аэрапоніка*).

**ГІДРАСФЕ́РА** (ад *гр.* hydor = вада + sphaira = сфера, шар) — водная абалонка зямнога шара, сукупнасць вод Зямлі (акіяны, моры, азёры, рэкі, падземныя воды, леднікі).

**ГІДРАТЭРАПІ́Я** (ад *гр.* hydor = вада + therapeia = лячэнне) — прымяненне вады з лячэбнай мэтай у выглядзе ваннаў, душаў, абліванняў; водалячэнне.

**ГІМН** (*лац.* hymnus, ад *гр.* hymnos) — 1) урачыстая песня як сімвал дзяржавы; 2) увогуле хвалебная песня або музычны твор у гонар каго-н., чаго-н. (напр. г. чалавеку працы, г. жыццю).

**ГІМНА́ЗІЯ** (*польск.* gimnazjum < *лац.* gymnasium, ад *гр.* gymnasion = месца для гімнастчных практыкаванняў) — агульнаадукацыйная сярэдняя навучальная ўстанова з паглыбленым вывучэннем рада прадметаў звычайна гуманітарнага цыклу.

**ГІМНА́СТЫКА** (*гр.* gymnastike) — 1) комплекс фізічных практыкаванняў, якія садзейнічаюць агульнаму развіццю арганізма; 2) від спорту, які ўключае складаныя фізічныя і некаторыя іншыя практыкаванні (напр. спартыўная г., мастацкая г.); 3) від цыркавога мастацтва, дэманстрацыя складаных практыкаванняў на спецыяльных снарадах (напр. паветраная г.).

**ГІПАДЫНАМІ́Я** (ад *гр.* hypo = пад, унізе + dynamis = сіла) — аслабленне мышачнай дзейнасці арганізма, выкліканае малой рухомасцю (параўн. *гіпердынамія*).

**ГІПАТАНІ́Я** (ад *гр.* hypo = пад, унізе + tonos = напружанне) — 1) паніжэнне крывянога ціску (проціл. *гіпертанія* 1); 2) стан чалавека з такім ціскам.

**ГІПЕРДЫНАМІ́Я** (ад *гр.* hyper = над, звыш + dynamis = сіла) — самае высокае напружанне арганізма (параўн. *гіпадынамія*).

**ГІПЕРІНФЛЯ́ЦЫЯ** (*англ.* hyperinflation, ад *гр.* hyper = над, звыш + *англ.* inflation = інфляцыя) — вельмі высокі ўзровень *інфляцыі*, які пагражае эканамічным крахам.

**ГІПЕРМА́РКЕТ** (*англ.* hypermarket, ад *гр.* hyper = над, звыш + *англ.* market = рынак) — буйны магазін па гандлю таварамі паўсядзённага попыту, на гандлёвых плошчах якога таксама размешчана пэўная колькасць вузкаспецыялізаваных магазінаў.

**ГІПЕРТАНІ́Я** (ад *гр.* hyper = над, звыш + tonos = напружанне) — 1) павышэнне крывянога ціску (проціл. *гіпатанія* 1); 2) хвароба, якая выражаецца ў павышэнні крывянога ціску ў артэрыяльных сасудах.

**ГІПНО́З** (*фр.* hypnose, ад *гр.* hypnos = сон) — 1) стан, падобны на сон, які выклікаецца ўнушэннем і суправаджаецца падпарадкаваннем волі спячага таму, хто ўсыпляе; 2) *пе-*

*ран.* сіла ўплыву, уздзеяння, уласцівая каму-н., чаму-н. (напр. паддацца гіпнозу яго таленту).

**ГІПО́ТЭЗА** (*гр.* hypothesis = меркаванне) — 1) навуковае меркаванне, пэўнасць якога яшчэ не даказана доследным шляхам; 2) усякае меркаванне, дапушчэнне, здагадка.

**ГЛАБА́ЛЬНЫ** (*фр.* global, ад *лац.* globus = шар) — 1) які ахоплівае тэрыторыю або насельніцтва ўсяго зямнога шара; сусветны, усеагульны (напр. г-ае тэлебачанне, г-ая камп'ютэрная сетка); 2) усебаковы, усеабдымны (напр. г. аналіз эканамічнай сітуацыі); 3) галоўны, вызначальны (напр. г-ыя праблемы аховы здароўя); 4) выдатны, фундаментальны (напр. г-ае рашэнне).

**ГЛІКЕМІ́Я** (ад *гр.* glykys = салодкі + haima = кроў) — *мед.* наяўнасць цукру ў крыві.

**ГЛІНТВЕ́ЙН** (*ням.* Glihwein, ад glihender Wein = гарачае віно) — гарачы напітак з чырвонага віна з цукрам і вострымі прыправамі.

**ГЛІ́СЕР** (*фр.* glisseur) — пласкадоннае быстраходнае марское судна, якое лёгка слізгаціць па воднай паверхні.

**ГОЛ** (*англ.* goal) — ачко, якое залічваецца камандзе за забітыя ў чужыя вароты мяч або шайбу (у футболе, гандболе, хакеі).

**ГОЛЬФ** (*англ.* golf) — 1) гульня ў мяч, які клюшкамі стараюцца заганяць у ямкі-лункі, пераадольваючы рад штучных перашкод; 2) *мн.* кароткія штаны з манжэтамі, якія зашпіляюцца пад каленам.

**ГОМАСЕКСУАЛІ́ЗМ** (*англ.* homosexualism, ад *гр.* homos = = аднолькавы + *лац.* sexualis = палавы) — палавая цяга да асоб свайго полу (параўн. *бісексуалізм, гетэрасексуалізм*).

**ГО́НАР** (*польск.* honor, ад *лац.* honor) — 1) пачуццё грамадскай або асабістай годнасці, тое, што выклікае ўсеагульную павагу (напр. справа гонару); 2) перавялічанае ўяўленне аб сваёй годнасці; фанабэрыстасць (напр. збіць гонар).

**ГОФМА́КЛЕР** (*ням.* Hofmakler) — галоўны *маклер* на фондавай або таварнай біржы.

**ГРАВІРАВА́ЦЬ** (*ням.* gravieren, ад *фр.* graver = вырэзваць) — рабіць малюнак або надпіс, выразаючы іх на цвёрдым матэрыяле (метале, дрэве, шкле і інш.).

**ГРАВІТА́ЦЫЯ** (*фр.* gravitation, ад *лац.* gravitas, -atis = цяжар) — *фіз.* сусветнае прыцяжэнне; уласцівасць узаемапрыцяжэння цел.

**ГРАВЮ́РА** (*фр.* gravure) — малюнак, выразаны на цвёрдым матэрыяле (метале, дрэве, шкле), а таксама адбітак такога малюнка на паперы.

**ГРАДА́ЦЫЯ** (*лац.* gradation = паступовае павышэнне, узмацненне) — 1) паслядоўнасць, паступовасць пераходу ад аднаго да другога, размеркаванне аднародных прадметаў, паняццяў па ступені якасці або па колькасці; 2) *літ.* стылістычная фігура, якая заключаецца ў размяшчэнні рада слоў у парадку нарастання або аслаблення іх сэнсавага або эмацыянальнага зместу.

**ГРАН** (*лац.* granum = зерне) — 1) адзінка аптэкарскай вагі, роўная 0,062 грама; 2) *перан.* мізэрная велічыня.

**ГРАНД-АТЭ́ЛЬ** (ад *фр.* grand = вялікі + hotel = атэль) — атэль, гасцініца вышэйшага разраду.

**ГРАНДЫЁЗНЫ** (*іт.* grandioso, ад *лац.* grandis = вялікі, важны) — 1) велізарны, велічны (напр. г. палац, г-ае відовішча); 2) незвычайны па сваіх маштабах, размаху (напр. г-ае будаўніцтва, г-ыя задумы).

**ГРАН-ПРЫ́** (*фр.* grand prix = *літар.* вялікі прыз) — самая высокая ўзнагарода на некаторых музычных конкурсах, кінафестывалях, выстаўках.

**ГРАНТ** (*англ.* grant = падарунак, ахвяраванне) — форма дадатковага фінансавання са спецыяльнага фонду для правядзення навуковых, даследчых і іншых работ у залежнасці ад іх актуальнасці ў выглядзе пэўных датацый, субсідый, стыпендый, якія вызначаюцца на конкурснай аснове.

**ГРАТЫФІКА́ЦЫЯ** (*лац.* gratificatio = паслуга) — грашовае ўзнагароджанне, заахвочванне; у гандлёвым абароце стымулюе выкананне агентамі, брокерамі пэўных дзеянняў або ўскладзеных на іх абавязкаў.

**ГРАТЭ́СК** (*фр.* grotesque) — мастацкі прыём, заснаваны на паказе чаго-н. у празмерна фантастычным, пачварна-камічным выглядзе.

**ГРАФА́** (*гр.* graphe = рыса, лінія) — 1) паласа або слупок паміж дзвюма вертыкальнымі лініямі ў табліцах, канторскіх кнігах, класных журналах і інш.; 2) тое, што і *рубрыка* 2.

**ГРАФАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* grapho = пішу + logos = вучэнне) — даследаванне почырку з пункту гледжання адлюстравання ў ім характару і псіхічнага стану таго, хто піша.

**ГРАФАМА́НІЯ** (ад *гр.* grapho = пішу + mania = цяга, захапленне) — цяга да пісання літаратурных твораў у асоб, пазбаўленых таленту.

**ГРА́ФІК** (*гр.* graphikos = начэрчаны) — 1) схема, якая пры дапамозе крывых ліній паказвае стан, развіццё чаго-н. (напр. г. змен атмасфернага ціску); 2) план работ з дакладнымі паказчыкамі норм і тэрмінаў выканання (напр. г. выпуску прадукцыі).

**ГРОГ** (*англ.* grog) — гарачы напітак з рому, каньяку або гарэлкі, змешаных з вадой і цукрам.

**ГРОСМА́ЙСТАР** (*ням.* Großmeister) — вышэйшае спартыўнае званне шахматнага (шашачнага) майстра.

**ГРУНТ** (*польск.* grunt, ад *ням.* Grund) — 1) верхні пласт зямлі, глеба; зямная паверхня наогул (напр. пясчаны г.); 2) дно вадаёма (напр. донны г.); 3) ніжні слой фарбы, які наносіцца на палатно будучай карціны для надання паверхні гладкасці, патрэбнага колеру і інш.; 4) *перан.* тое галоўнае, на чым засноўваецца што-н. (напр. траціць г. пад нагамі).

**ГРЫЛЬ** (*англ.* grill = смажыць) — спецыяльная печка з газавым або электрычным генератарам для засмажвання кавалкаў мяса, птушыных тушак на рашотках або ражнах.

**ГРЫЛЬ-БА́Р** (*англ.* grill = смажыць + bar = бар) — закусачная, у якой мясныя блюды засмажваюцца ў *грылях*.

**ГРЫМА́СА** (*фр.* grimace) — 1) наўмыснае або мімвольнае скрыўленне рыс твару (выклікане якім-н. пачуццём); 2) *перан.* выродлівае праяўленне чаго-н (напр. грымасы жыцця).

**ГРЫН** (*англ.* green = зялёны) — *жарг.* долар.

**ГРЫ́НПІС** (*англ.* Greenpeace, ад green = зялёны + peace = = свет) — арганізацыя абаронцаў навакольнага асяроддзя ў Заходняй Еўропе і Амерыцы, заснаваная ў 1971 г. у Канадзе.

**ГРЫП** (*фр.* grippe) — вострая вірусная хвароба эпідэмічнага характару, галоўнымі рысамі якой з'яўляюцца запаленне дыхальных шляхоў і гарачка.

**ГРЫФ** (*фр.* griffe) — афіцыйны надпіс або штамп на дакуменце, бланку, які вызначае спецыфіку іх выкарыстання (напр. бланк з грыфам установы, дакумент з грыфам «Сакрэтна»).

**ГРЭЙДЭР** (*англ.* grader) — спецыяльная машына для выраўноўвання палатна грунтавых дарог, планіроўкі адхонаў, капання каналаў і інш.

**ГУБЕРНА́ТАР** (*лац.* gubernator = правіцель) — начальнік асноўнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, напр. губерні ў Расіі да 1917 г., штата ў ЗША, вобласці ў Расійскай Федэрацыі.

**ГУДРО́Н** (*фр.* goudron) — чорная смалістая маса, астатак ад перагонкі нафты; выкарыстоўваецца ў будаўніцтве і пры рамонце дарог.

**ГУМАНІ́ЗМ** (*фр.* humanisme, ад *лац.* humanus = чалавечны) — 1) чалавечнасць у грамадскай дзейнасці, у адносінах да людзей; 2) прагрэсіўны рух эпохі Адраджэння ў імя вызвалення асобы чалавека ад ідэйнага застою часоў феадалізму і каталіцызму.

**ГУМАНІТА́РНЫ** (ад *лац.* humanitas = чалавечая прырода, адукаванасць) — 1) які адносіцца да асобы чалавека, да яго правоў і інтарэсаў (напр. г-ая дапамога); 2) звязаны з грамадскімі навукамі, якія вывучаюць культуру і гісторыю чалавецтва, у адрозненне ад прыродазнаўчых і тэхнічных навук (напр. г-ая адукацыя).

**ГУМА́ННЫ** (*лац.* humanus) — чулы, дабрачынны, чалавечны, прасякнуты павагай да людзей (напр. г-ыя адносіны).

**ГУМАНО́ІД** (*англ.* humanoide, ад *лац.* humanus = чалавечы + *гр.* eidos = выгляд) — гіпатэтычная чалавекападобная істота, якая жыве на Зямлі або іншых планетах.

**ГУ́МАР** (*польск.* humor, ад *лац.* humor = вільгаць як адна з арганічных сіл, што паводле даўнейшых уяўленняў вызначае характар, тэмперамент чалавека) — 1) дабрадушна-жартаўлівыя адносіны да чаго-н. (напр. пачуццё гумару); 2) прыём у творах літаратуры і мастацтва, заснаваны на паказе чаго-н. у смешным, камічным выглядзе.

**ГУРМА́Н** (*фр.* gourmand) — аматар і знаток далікатных страў.

**ГУСТ** (*польск.* gust, ад *лац.* gustus) — 1) адчуванне і разуменне прыгожага (напр. мастацкі г., літаратурны г.); 2) манера, стыль (напр. гэта не ў маім гусце).

# Д

**ДАГМАТЫ́ЗМ** (*фр.* dogmatisme, ад *гр.* dogma, -atos = думка, вучэнне) — некрытычнае мысленне, якое апіраецца на *догмы*.

**ДАЗІ́МЕТР** (ад *гр.* dosis = порцыя + metreo = вымяраю) — прыбор для вызначэння *дозы* радыеактыўнага выпрамянення.

**ДА́ЙВІНГ** (*англ.* diving) — *сп.* падводнае плаванне з *аквалангам.*

**ДА́ЙДЖЭСТ** (*англ.* diggest = кароткі выклад) — 1) перыядычнае выданне, якое перадрукоўвае (часта скарочана) матэрыялы з іншых выданняў; 2) выданне, якое змяшчае адаптаваны выклад мастацкага твора; 3) тэле- або радыёперадача, якая паўтарае найбольш цікавыя запісы з агульнай тэматыкай.

**ДАКТРЫ́НА** (*фр.* doctrine, ад *лац.* doctrina = вучэнне) — сістэматызаванае вучэнне (звычайна філасофскае, палітычнае, ідэалагічнае), звязная канцэпцыя, сукупнасць тэарэтычных ці палітычных прынцыпаў (напр. дзяржаўная д., ваенная д.).

**ДАКТРЫНЁР** (*фр.* doctrinaire, ад *лац.* doctrina = вучэнне) — той, хто слепа, некрытычна прытрымліваецца якой-н. *дактрыны*, догмы, завучаных формул і правіл; схаласт, начотчык.

**ДАКТЫЛАГРА́МА** (ад *гр.* daktylos = палец + gramma = запіс) — адбітак, утвораны прыцісканнем пальцаў рук, пакрытых адпаведным рэчывам, да паверхні паперы з мэтай устанаўлення асобы.

**ДАКТЫЛАСКА́ПІЯ** (ад *гр.* daktylos = палец + skopeo = назіраю) — метад устанаўлення асобы па адбітках пальцаў.

**ДАКУМЕ́НТ** (*лац.* dicumentum = доказ, сведчанне) — 1) дзелавая папера, якая пацвярджае права на што-н., служаць доказам чаго-н. (напр. д. аб адукацыі, праязны д.); 2) пасведачанне асобы (пашпарт і інш.); 3) пісьмовы акт, твор, грамата, малюнак, здымак, якія маюць значэнне гістарычнага сведчання (напр. архіўныя дакументы).

**ДАКУМЕНТА́ЦЫЯ** (*ням.* Dokumentation, ад *лац.* dicumentum = доказ, сведчанне) — 1) сукупнасць дакументаў, прысвечаных якому-н. пытанню (напр. тэхнічная д.); 2) аб-

грунтаванне чаго-н. пры дапамозе дакументаў (напр. дакладная д. падзей).

**ДАЛА́Й-ЛА́МА** [*манг.* dalai-lama, ад dalai = мора (мудрасці) + lama = лама < *тыбецк.* blama = вышэйшы] — вярхоўная ўрадавая і духоўная асоба ў Тыбеце (гл. *ламаізм*).

**ДАЛІКА́ТНЫ** (*фр.* délicat) — 1) ветлівы ў абыходжанні з людзьмі, ласкавы, уважлівы (напр. д. чалавек); 2) які патрабуе тактоўных адносін (напр. д-ае пытанне); 3) кволы, выпеставаны (напр. д-ыя пальцы); 4) тонкі, мяккі, прыемны навобмацак (напр. д-ая тканіна); 5) *перан.* прыемны на пах, смак, гучанне (напр. д-ыя духі, д-ыя стравы, д-ая мелодыя).

**ДАЛІКАТЭ́С** (*фр.* délicatesse) — вытанчаная, прыемная на смак, пах страва.

**ДАМІНАВА́ЦЬ** (*лац.* dominari) — 1) пераважаць, панаваць, быць асноўным (напр. у карціне дамінуе чалавечая фігура); 2) узвышацца над навакольнай мясцовасцю (напр. гара дамінавала над горадам).

**ДАМІНА́НТА** (*фр.* dominante, ад *лац.* dominans, -ntis = пануючы) — 1) галоўная ідэя, асноўная прымета або важнейшая састаўная частка чаго-н.; 2) тое, што з'яўляецца найбольш істотным у дадзены момант, у пэўнай сітуацыі (напр. даміnanты грамадскага жыцця).

**ДАМКРА́Т** (*ням.* Daumkraft, ад *гал.* dommekracht) — механізм для пад'ёму грузаў (аўтамабіляў, вагонаў, паравозаў і інш.) на невялікую вышыню.

**ДАМНІФІКА́ЦЫЯ** (ад *лац.* damnum = шкода + facere = рабіць) — пацярпенне шкоды, страта маёмасці.

**ДАМП** (*англ.* dump) — *інф.* дадзеныя, атрыманыя пры разгрузцы памяці *камп'ютэра* або пераведзеныя з аднаго запамінальнага ўстройства ў другое.

**ДА́МПІНГ** (*англ.* dumping = скідванне) — пахаванне адходаў прамысловай вытворчасці.

**ДА́НСІНГ** (*англ.* dancing) — спецыяльнае месца для танцаў у рэстаране або кавярні.

**ДА́НСІНГ-ХОЛ** (*англ.* dancing hall) — танцавальная зала.

**ДАНТЫ́СТ** (*фр.* dentiste, ад *лац.* dens, -ntis = зуб) — зубны ўрач з сярэдняй адукацыяй; зубны тэхнік (параўн. *стаматолаг*).

**ДАРТС** (*англ.* darts) — спартыўная гульня, спаборніцтва па кіданню стрэл рукой у спецыяльную мішэнь.

**ДАСЬЕ́** (*фр.* dossier) — сукупнасць дакументаў, матэрыялаў, якія адносяцца да якой-н. справы, асобы, а таксама папка з такімі дакументамі.

**ДАТА́ЦЫЯ** (*фр.* dotation, ад *с.-лац.* dotatio = дар) — дзяржаўная грашовая дапамога прадпрыемствам, установам для пакрыцця якіх-н. выдаткаў.

**ДАЦЭ́НТ** (*лац.* docens,-ntis = той, хто вучыць) — вучонае званне выкладчыка вышэйшай навучальнай установы (ніжэйшае за прафесара), а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**ДЖАЗ** (*англ.* jazz) — 1) від прафесійнай, пераважна танцавальнай музыкі з характэрнай для яе калектыўнай імправізацыйнасцю, што зарадзіўся на мяжы XIX—XX стст. у ЗША на аснове сінтэзу еўрапейскай і афрыканскай музычных культур; 2) аркестр з духавых, ударных і шумавых інструментаў для выканання такой музыкі.

**ДЖА́З-БА́НД** (*англ.* jazz-band, ад jazz = джаз + band = = група, аркестр) — тое, што і *джаз* 2.

**ДЖАЗМЕ́Н** (*англ.* jazz-man, ад jazz = джаз + man = чалавек) — музыкант, які іграе ў *джазе* 2.

**ДЖАЗ-РО́К** (*англ.* jazz-rock, ад jazz = джаз + rock = рок) — адзін з напрамкаў *джаза*, які вылучыўся ў канцы 1960-х гадоў у выніку спалучэння некаторых форм сучаснага джаза і джазавых аранжыровак рокавай рытмікі і інструментоўкі.

**ДЖАКУ́ЗІ** (*англ.* jacuzzi, ад *іт.* «Jacuzzi» = назва прадпрымальніцкай фірмы) — ванна з гідрамасажам.

**ДЖАНГЛ** (*англ.* jungle) — напрамак у тэхнамузыцы канца XX ст., асноўнымі рысамі якога з'яўляюцца хуткі тэмп і імітаванне галасоў жывёл і чалавека з дапамогай рытму.

**ДЖО́БЕР** (*англ.* jobber) — біржавы *маклер*, які ажыццяўляе аперацыі з іншымі біржавымі пасрэднікамі.

**ДЖО́ГІНГ** (*англ.* jogging) — павольны бег, бег для здароўя.

**ДЖО́ЙСТЫК** (*англ.* joystick, ад joy = задавальненне + stick = палка) — *інф.* устройства для ручнога кіравання рухам *курсора* на экране *дысплея* пры ўводзе дадзеных у *камп'ютэр*.

**ДЖЫНГЛ** (*англ.* jingle = звон) — кароткая музычная ўстаўка, якая аддзяляе адну радыёперадачу ад другой.

**ДЖЫ́НСЫ** (*англ.* jeans) — штаны з моцнай баваўнянай тканіны, прашытыя каляровымі ніткамі.

**ДЖЫП** (*англ.* jeep) — марка легкавых і грузапасажырскіх аўтамабіляў павышанай праходнасці (выпускаюцца ў ЗША з 1963 г.).

**ДЖЫ́У-ДЖЫ́ЦУ** (*яп.* jujutsu, ад ju = мяккі + juts = = майстэрства) — спартыўная барацьба, заснаваная на выкарыстанні розных прыёмаў абароны і нападу без зброі.

**ДЖЫХА́Д** (*ар.* džihad = вайна за веру) — тое, што і *газават.*

**ДЖЭК-ПО́Т** (*англ.* jack-pot, ад jack = валет + pot = сукупнасць ставак) — самы буйны выйгрыш у латарэі за кошт далучэння сумы, не выйгранай у папярэднім тыражы.

**ДЖЭМ-СЭЙШН** (*англ.* jam session, ад jam = лаўка + session = пасяджэнне) — сустрэча джазавых музыкантаў з мэтай сумесных музычных імправізацый.

**ДЖЭНТЛЬМЕ́Н** (*англ.* gentleman, ад gentle = высакародны + man = чалавек) — чалавек, які вызначаецца сваёй выхаванасцю ў паводзінах, ветлівасцю ў адносінах з другімі, далікатнасцю і зграбнасцю адзення.

**ДЗЮДО́** (*яп.* dziudo = майстэрства спрыту) — від спартыўнай барацьбы, заснаванай на мадэрнізацыі прыёмаў *джыу-джыцу.*

**ДО́ГМА** (*гр.* dogma = думка, вучэнне) — палажэнне, якое прымаецца на веру як непахісная ісціна, нязменная пры ўсіх абставінах.

**ДО́ГМАТ** (*гр.* dogma, -atos = думка, вучэнне) — 1) асноўнае палажэнне ў рэлігійным веравучэнні, у пануючай ідэалогіі, якое прымаецца на веру і не падлягае крытыцы; 2) тое, што і *догма.*

**ДО́ЗА** (*фр.* dose, ад *гр.* dosis = порцыя, прыём) — 1) дакладна адмераная колькасць, норма чаго-н. (напр. д. лякарства, д. радыеактыўнага выпрамянення); 2) *перан.* некаторая частка чаго-н. (напр. д. іроніі).

**ДО́ЙЛІД** (літ. dailide) — тое, што і *архітэктар.*

**ДО́КТАР** (*лац.* doctor) — 1) вышэйшая вучоная ступень, а таксама асоба, якая мае гэту ступень (напр. д. філалагічных навук); 2) урач.

**ДО́ЛАР** (*англ.* dollar, ад *ням.* Taler = талер) — грашовая адзінка ЗША, Канады, Аўстраліі і некаторых іншых краін, роўная 100 *цэнтам.*

**ДО́НАР** (*англ.* donor, ад *лац.* donare = дарыць, ахвяраваць) — чалавек, у якога бяруць кроў для пералівання або які-н. орган для перасадкі раненаму, хвораму.

**ДО́ПІНГ** (*англ.* doping, ад dope = даваць наркотыкі) — сродкі, якія штучна ўзбадзёрваюць арганізм, стымулююць на кароткі час фізічную і нервовую дзейнасць (выкарыстоўваюцца ў ветэрынарыі, а часам і ў спорце, што забаронена міжнароднымі спартыўнымі правіламі).

**ДРАЖЭ́** (*фр.* dragée) — 1) дробныя цукеркі круглай формы (напр. шакаладнае д.); 2) лякарства, вітаміны ў форме такіх цукерак.

**ДРА́ІЦЬ** (*гал.* draaien) — чысціць, мыць, націраць да бляску (напр. д. палубу, д. чаравікі).

**ДРАЙВ** (*англ.* drive) — 1) *сп.* моцны і нізкі адбіўны ўдар па мячу пры гульні ў *тэніс*; 2) энергічная манера выканання ў джазе, пры якой дасягаецца эфект нарастаючага паскарэння тэмпу, актыўнай накіраванасці руху; 3) сістэма рэстаранаў, якія абслугоўваюць кліентаў на машынах.

**ДРА́ЙВЕР** (*англ.* driver) — *інф.* праграма, якая кіруе работай перыферыйнага абсталявання *камп'ютэра* (*прынтэра, сканера*).

**ДРА́МА** (*гр.* drama = дзеянне) — 1) адзін з трох родаў мастацкай літаратуры (побач з *лірыкай* і *эпасам*); 2) творы, напісаныя ў дыялагічнай форме без аўтарскай мовы і прызначаныя для выканання акцёрамі на сцэне (напр. беларуская д. XX ст.); 3) літаратурны твор гэтага роду з сур'ёзным, але не гераічным зместам (у адрозненне ад *камедыі* і *трагедыі*); 4) *перан.* цяжкая падзея, перажыванне, якое прыносіць маральныя пакуты (напр. душэўная д.).

**ДРАМАТУРГІ́Я** (*гр.* dramaturgia) — 1) тэорыя пабудовы драматычных твораў (напр. законы драматургіі); 2) сукупнасць драматычных твораў якога-н. пісьменніка, народа, эпохі (напр. д. К. Крапівы, беларуская д. XX ст.).

**ДРАМАТЫ́ЗМ** (*фр.* dramatisme, ад *гр.* drama = дзеянне) — 1) напружанасць дзеяння, вастрыня канфлікту ў літаратурным творы; 2) *перан.* крайняя напружанасць становішча, якой-н. сітуацыі, падзеі.

**ДРАПІРАВА́ЦЬ** (*ням.* drapieren, ад *фр.* draper) — абівацъ, упрыгожваць што-н. тканінай, сабранай у складкі (напр. д. сцены салона).

**ДРУК** (*польск.* druk, ад *ням.* Druck) — 1) друкаванне кніг; выдавецкая справа (напр. кніга яшчэ ў друку, органы друку); 2) знешні выгляд друкаванага тэксту (напр. уборысты д.); 3) сукупнасць друкаваных твораў (напр. перыядычны д.).

**ДРУКА́Р** (*польск.* drukarz, ад *ням.* Druck = друк) — работнік друкарні.

**ДРУКА́РНЯ** (*польск.* drukarnia, ад *ням.* Druck = друк) — прадпрыемства, у якім друкуюцца кнігі, газеты і іншыя выданні.

**ДРЫ́БЛІНГ** (*англ.* dribbling) — *сп.* вядзенне мяча або шайбы гульцом (у *футболе, баскетболе, хакеі*).

**ДРЭНА́Ж** (*англ.* drainage, ад drain = труба) — 1) асушэнне грунту з дапамогай сістэмы каналаў, труб; 2) *мед.* вывядзенне з раны гною, вадкасці з дапамогай спецыяльнай трубкі.

**ДУАЁН** (*фр.* doyen = старшыня) — асоба, якая ўзначальвае дыпламатычны корпус у якой-н. краіне.

**ДУАЛІ́ЗМ** (*фр.* dualisme, ад *лац.* dualis = дваісты) — 1) філасофскае вучэнне, якое лічыць пачаткам быцця дзве незалежныя асновы — матэрыю і дух (параўн. *манізм, плюралізм* 1); 2) дваістасць, раздвоенасць чаго-н. (напр. д. светапогляду, д. улады).

**ДУАПО́ЛІЯ** (ад *лац.* duo = два + *гр.* poleo = прадаю) — эканамічная сітуацыя, пры якой канкурыруюць два пастаўшчыкі пэўнага тавару, не звязаныя паміж сабой пагадненнем аб умовах яго рэалізацыі.

**ДУАПСО́НІЯ** (ад *лац.* duo = два + psonia = пакупка) — эканамічная сітуацыя, пры якой канкурыруюць два пакупнікі аднаго і таго ж тавару.

**ДУБЛЁТ** (*фр.* doublet, ад double = падвойны) — 1) другі экзэмпляр якой-н. рэчы ў калекцыі, музеі, бібліятэцы і г. д.; 2) адначасовы выстрал з абодвух ствалоў дубальтоўкі.

**ДУБЛЁР** (*фр.* doubleur, ад double = падвойны) — 1) той, хто паралельна з кім-н. выконвае аднолькавую работу і ў патрэбны момант можа замяніць яго (напр. артыст-д., д.-касманаўт); 2) другі састаў спартыўнай каманды, які з'яўляецца рэзервам для асноўнага саставу.

**ДУБЛІКА́Т** (*лац.* dublicatus = падвоены) — другі экзэмпляр дакумента, які мае аднолькавую сілу з арыгіналам.

**ДУБЛІ́РАВАЦЬ** (*фр.* doubler) — 1) выконваць паралельна з кім-н. аднолькавую работу (напр. д. касманаўта); 2) замяняць асноўнага выканаўцу ролі (у тэатры, кіно); 3) замяняць мову кінафільма іншай мовай (напр. д. фільм).

**ДУШ** (*фр.* douche) — прыстасаванне для аблівання цела струменьчыкамі вады, а таксама сама працэдура аблівання з душа.

**ДУШМА́Н** (*перс.* dushman = вораг) — тое, што і *маджахед*.

**ДУЭ́ЛЬ** (*фр.* duel, ад *лац.* duellum = вайна) — 1) паядынак з выкарыстаннем зброі паміж дзвюма асобамі па выкліку адной з іх на пэўных умовах як спосаб абароны гонару (прымяняўся ў дваранскім грамадстве); 2) *перан.* спаборніцтва, барацьба двух бакоў (напр. артылерыйская д., славесная д.).

**ДУЭ́Т** (*іт.* duetto, ад *лац.* duo = два) — 1) музычны твор для двух выканаўцаў (спевакоў, музыкантаў, танцораў) з самастойнымі партыямі для кожнага; 2) ансамбль з двух выканаўцаў (напр. вакальны д., д. скрыпачоў); 3) удзельнікі парнага спартыўнага выступлення (напр. д. фігурыстаў).

**ДЫВЕ́РСІЯ** (*ням.* Diversion, ад *лац.* diversio = адхіленне) — 1) вывядзенне са строю аб'ектаў ваеннага, дзяржаўнага значэння ў тыле ворага або ў якой-н. краіне агентамі замежнай дзяржавы, злачыннымі элементамі; 2) *уст.* ваенны манеўр, які мае на мэце адцягнуць увагу і сілы праціўніка ад месца галоўнага ўдару.

**ДЫВЕРТЫСМЕ́НТ** (*фр.* divertissement = *літар.* забава) — 1) невялікі эстрадна-музычны дадатак да спектакля; 2) лёгкая, часам віртуозная музычная п'еса.

**ДЫВІДЭ́НДЫ** (*фр.* dividendes, ад *лац.* dividendum = тое, што належыць падзяліць) — прыбытак, які атрымліваюць *акцыянеры* прапарцыянальна ўкладзенаму капіталу.

**ДЫ́ГЕРЫ** (*англ.* diggers = *літар.* капальнікі) — 1) *гіст.* прадстаўнікі сялянскага руху ў перыяд Англійскай рэвалюцыі XVII ст., якія абвясцілі праграму стварэння баскласавага грамадства; 2) знаўцы падземнай геаграфіі горада, якія арыентуюцца ў сістэме падземных камунікацый.

**ДЫГІТА́ЙЗЕР** (*англ.* digitizer) — *інф.* пераўтваральнік аналагавых сігналаў у лічбавыя (у ЭВМ).

**ДЫДАКТЫ́ЗМ** (*фр.* didactisme, ад *гр.* didaktikos = павучальны) — павучальнасць.

**ДЫДЖЭ́Й** [*англ.* DJ, ад d(isk)-j(ockey) = дыск-жакей] — тое, што і *дыск-жакей.*

**ДЫЁТА** (*лац.* diaeta, ад *гр.* diaita = спосаб жыцця, рэжым) — спецыяльна падабраны па колькасці, хімічным складзе, каларыйнасці і кулінарнай апрацоўцы рацыён харчавання.

**ДЫЗА́ЙН** (*англ.* design = праектаваць, канструяваць) — мастацкае праектаванне эстэтычнага выгляду прамысловых вырабаў, фасадаў будынкаў, інтэр'ераў памяшканняў і інш.

**ДЫЗА́ЙНЕР** (*англ.* designer) — мастак-канструктар, спецыяліст па *дызайну.*

**ДЫЗЕНТЭРЫ́Я** (*ням.* Dysenterie, ад *гр.* dysenteria)— вострае інфекцыйнае захворванне кішэчніка; крывавы панос.

**ДЫКТАВА́ЦЬ** (*польск.* dyktować, ад *лац.* dictare) — 1) павольна вымаўляць, чытаць што-н., каб слухачы маглі запісваць; 2) прапаноўваць што-н. для безагаворачнага выканання (напр. д. умовы).

**ДЫ́КТАР** (*лац.* dictor = які гаворыць) — супрацоўнік радыё або тэлебачання, які чытае тэкст перад мікрафонам для перадачы ў эфір.

**ДЫКТА́Т** (*ням.* Diktat, ад *лац.* dictatum = тое, што прадыктавана) — патрабаванне, якое прадыктавана адным, больш моцным бокам для абавязковага выканання другім, слабейшым бокам (напр. палітыка дыктату).

**ДЫКТА́ТАР** (*лац.* dictator) — 1) правіцель, які карыстаецца неабмежаванай уладай; 2) *перан.* той, хто паводзіць сябе ў адносінах да іншых уладарна і нецярпіма.

**ДЫКТАТУ́РА** (*лац.* dictatura) — 1) нічым не абмежаваная дзяржаўная ўлада; 2) *перан.* панаванне, *дыктат* чаго-н. (напр. д. грошай, д. сумлення).

**ДЫКТАФО́Н** (ад *лац.* dictare = дыктаваць + *гр.* phone = голас) — апарат для запісу на магнітную стужку і ўзнаўлення вуснай мовы.

**ДЫ́КЦЫЯ** (*лац.* dictio) — вымаўленне, ступень выразнасці ў вымаўленні слоў і складоў пры дэкламацыі, спяванні (напр. добрая д.).

**ДЫЛЕ́МА** [*гр.* dilemma, ад di(s) = двойчы + lemma = меркаванне] — 1) *лог.* суджэнне з двума ўзаемавыключальнымі палажэннямі, з якіх неабходна выбраць адно; 2) *перан.* становішча, пры якім выбар аднаго з двух супрацьлеглых рашэнняў аднолькава цяжкі (напр. стаць перад складанай дылемай).

**ДЫ́ЛЕР** (*англ.* dealer) — 1) юрыдычная або фізічная асоба, якая з'яўляецца членам фондавай біржы і выконвае аперацыі з каштоўнымі паперамі за свой кошт; 2) супрацоўнік банка, які займаецца аперацыямі з валютай, дэпазітамі, каштоўнымі паперамі; 3) асоба або фірма, якая перапрадае тавары, часцей за ўсё ад свайго імя.

**ДЫЛЕТА́НТ** (*фр.* dilettante, ад *лац.* dilettare = пацяшаць) — той, хто займаецца навукай або мастацтвам без спецыяльнай падрыхтоўкі, маючы толькі павярхоўнае ўяўленне аб прадметах свайго занятку.

**ДЫ́ЛІНГ** (*англ.* dealing) — памяшканне, у якім супрацоўнікі банка або кампаніі (*дылеры*) ажыццяўляюць здзелкі з *валютай, дэпазітамі*, каштоўнымі паперамі, золатам з дапамогай тэлефонаў, факсаў і іншай тэхнікі.

**ДЫЛО́ГІЯ** [*гр.* dilogia, ад di(s) = двойчы + logos = слова] — два творы аднаго аўтара (у літаратуры, музыцы, кіно), звязаныя адзінствам задумы і пераемнасцю сюжэта (параўн. *трылогія, тэтралогія*).

**ДЫНАМІ́ЗМ** (*фр.* dynamisme, ад *гр.* dynamis = сіла) — насычанасць дзеяннем, багацце *дынамікі* 3 у чым-н. (напр. д. сюжэта).

**ДЫНА́МІКА** (*гр.* dynamikos = моцны) — 1) раздзел *механікі*, які вывучае законы руху цел у залежнасці ад сіл, што дзейнічаюць на іх; 2) ход развіцця якой-н. з'явы (напр. д. падзей); 3) наяўнасць руху, дзеяння ў чым-н. (напр. танец поўны дынамікі).

**ДЫНА́СТЫЯ** (*фр.* dynastie, ад *гр.* dynasteia = панаванне) — 1) рад манархаў з аднаго і таго ж роду, якія паслядоўна змянялі адзін аднаго на троне; 2) *перан.* прадстаўнікі некалькіх пакаленняў аднаго роду, якія прысвяцілі сябе пэўнай галіне дзейнасці (напр. д. будаўнікоў).

**ДЫПЛАМА́Т** (*фр.* diplomate, ад *гр.* diploma = *літар.* ліст, складзены ўдвая) — 1) службовая асоба, упаўнаважаная ўрадам для афіцыйных зносін з прадстаўнікамі замежных

дзяржаў; 2) *перан.* чалавек, які дабіваецца сваёй мэты тонкімі і ўмелымі адносінамі з людзьмі.

**ДЫПЛАМА́ТЫЯ** (*фр.* diplomatie, ад *гр.* diploma = *літар.* ліст, складзены ўдвая) — 1) дзейнасць урада па ажыццяўленню міжнароднай палітыкі; 2) *перан.* тонкі разлік, умельства і спрыт у дзеяннях, накіраваных на дасягненне якой-н. мэты.

**ДЫПЛО́М** (*фр.* diplome, ад *гр.* diploma = *літар.* ліст, складзены ўдвая) — 1) дакумент аб заканчэнні вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, а таксама аб прысуджэнні вучонай ступені; 2) пасведчанне, якое выдаецца за дасягненні, поспехі ў чым-н. (напр. д. першай ступені, д. конкурсу скрыпачоў).

**ДЫРЫЖО́Р** (*фр.* diriger = кіраваць) — асоба са спецыяльнай музычнай адукацыяй, якая кіруе хорам, аркестрам.

**ДЫРЭ́КТАР** (*лац.* director) — кіраўнік прадпрыемства, установы.

**ДЫРЭКТЫ́ВА** (*фр.* directive, ад *с.-лац.* directives = накіраваны) — распараджэнне, кіроўнае ўказанне вышэйшага органа ніжэйшаму.

**ДЫРЭКТО́РЫЯ** (*англ.* directory) — *інф.* даведнік *файлаў* са спасылкамі на размяшчэнне для іх пошуку аперацыйнай сістэмай *камп'ютэра*; каталог.

**ДЫРЭ́КЦЫЯ** (*лац.* directio = напрамак) — кіроўны орган прадпрыемства, установы на чале з *дырэктарам*.

**ДЫСАНА́НС** (*фр.* dossonance, ад *лац.* dissonans = які паразнаму гучыць) — 1) *муз.* спалучэнне тонаў рэзкага, няўзгодненага гучання (проціл. *кансананс*); 2) *перан.* адсутнасць у чым-н. гармоніі, разлад, няўзгодненасць (напр. д. у працы).

**ДЫСАЦЫЯ́ЦЫЯ** (*лац.* dissociatio = раз'яднанне, раздзяленне) — 1) *хім.* распад малекул на некалькі больш простых элементаў (атамы, радыкалы, іоны); 2) *псіх.* парушэнне звязнасці псіхічных працэсаў (проціл. *асацыяцыя* 3).

**ДЫСГАРМО́НІЯ** (ад *гр.* dys = раз-, не- + harmonia = сувязь, сугучнасць) — 1) парушэнне гармоніі, адсутнасць сугучнасці, немілагучнасць; 2) разлад, няўзгодненасць, парушэнне адпаведнасці чаго-н. чаму-н. (напр. д. колераў у пейзажы)

**ДЫСЕРТА́НТ** (*лац.* dissertans, -ntis = які разглядае, даследуе) — той, хто рыхтуе і публічна абараняе *дысертацыю.*

**ДЫСЕРТА́ЦЫЯ** (*лац.* dissertation = разважанне, даследаванне) — навуковая праца, якая публічна абараняецца аўтарам для атрымання вучонай ступені.

**ДЫСІДЭ́НТ** (*лац.* dissidens, -ntis = нязгодны) — 1) той, хто адступае ад пануючага ў краіне веравызнання; вераадступнік; 2) палітычны іншадумец.

**ДЫСІМІЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* dissimilatio) — 1) *біял.* распад складаных арганічных рэчываў у працэсе жыццядзейнасці раслінных і жывёльных арганізмаў (проціл. *асіміляцыя* 1); 2) *лінгв.* распадабненне гукаў пры вымаўленні (проціл. *асіміляцыя* 3).

**ДЫСК** (*фр.* disque, ад *гр.* diskos) — 1) плоскі круглы прадмет, напр. дэталь якой-н. машыны, апарата або спартыўны снарад; 2) бачны з Зямлі абрыс Сонца, Месяца; 3) магазін ручнога кулямёта, аўтамата; 4) грамафонная пласцінка; 5) *інф.* носьбіт інфармацыі ў *камп'ютэры* (гл. *вінчэстэр, дыскета*).

**ДЫ́СКА** (*англ.* disco) — музычны стыль з дакладным рытмам (пераважна танцавальна-песеннага характару).

**ДЫСКАМФО́РТ** (*англ.* discomfort) — адсутнасць умоў, неабходных для нармальнай жыццядзейнасці людзей, выканання пэўнай работы.

**ДЫСКАТЭ́КА** (*англ.* discotheque, ад *гр.* diskos = дыск + theke = сховішча) — 1) збор грамафонных пласцінак (*дыскаў*); 2) маладзёжны танцавальна-забаўляльны клуб, дзе музыка і танцы суправаджаюцца, як правіла, каментарыямі *дыск-жакея.*

**ДЫСКА́УНТЭР** (*англ.* discounter) — магазін у прамыслова развітых краінах, які гандлюе таварамі працяглага карыстання (халадзільнікамі, тэлевізарамі, відэатэхнікай і інш.) па зніжаных цэнах без прадастаўлення якіх-н. дадатковых паслуг.

**ДЫСКВАЛІФІКА́ЦЫЯ** (ад *гр.* dys- = раз-, не- + *с.-лац.* qualificatio = кваліфікацыя) — пазбаўленне кваліфікацыі, права займаць якую-н. пасаду, выконваць абавязкі, удзельнічаць у спартыўных спаборніцтвах і г. д. з-за неадпаведнасці прафесійным умовам або правілам.

**ДЫСКЕ́ТА** (*англ.* diskette) — *інф.* малафарматны гнуткі магнітны дыск, які выкарыстоўваецца ў *камп'ютэрах* для захоўвання інфармацыі (параўн. *вінчэстэр*).

**ДЫСК-ЖАКЕ́Й** (*англ.* disk-jockey) — асоба, якая вядзе праграму ў *дыскатэцы* 2.

**ДЫСКО́НТ** (*англ.* discount) — 1) працэнт, які атрымлівае банк пры ўліку вэксаляў; 2) скідка з цаны тавару, курсу валюты ў біржавых і валютных здзелках.

**ДЫСКРЫМІНА́ЦЫЯ** (*лац.* discriminatio = адрозненне) — абмежаванне ў правах, пазбаўленне раўнапраўнага становішча якой-н. дзяржавы або групы насельніцтва (напр. эканамічная д., расавая д.).

**ДЫСКРЭДЫТА́ЦЫЯ** (*фр.* discréditation) — падрыў давер'я да каго-н., чаго-н., прыніжэнне чыйго-н. аўтарытэту.

**ДЫСКРЭ́ЦЫЯ** (*лац.* discretio = адрозненне) — вырашэнне службовай асобай або дзяржаўным органам якога-н. пытання паводле ўласнага меркавання.

**ДЫСКУРСІ́ЎНЫ** (*фр.* discursif, ад *лац.* discursus = меркаванне) — які робіцца шляхам лагічных вывадаў, разумовы (проціл. *інтуітыўны*).

**ДЫСКУ́СІЯ** (*фр.* discussion, ад *лац.* discussio = даследаванне, абмеркаванне) — абмеркаванне якой-н. праблемы, спрэчнага пытання на сходзе, у друку, у прыватнай размове.

**ДЫСПАНЕ́НТ** (*лац.* disponens, -ntis = які размяшчае, размяркоўвае) — 1) упаўнаважаны ў справах фірмы; 2) асоба, якая мае свабодныя сумы на рахунках у *камісіянераў* або *карэспандэнтаў* банка.

**ДЫСПАНСЕ́Р** (*фр.* dispensaire, ад *лац.* dispensare = размяркоўваць) — лячэбна-прафілактычная ўстанова, якая займаецца ранні́м выяўленнем і лячэннем хворых, ажыццяўленнем санітарна-аздараўленчых мерапрыемстваў (напр. процітуберкулёзны д.).

**ДЫСПЕ́ТЧАР** (*англ.* dispatcher) — работнік, які рэгулюе рух транспарту або ход работы прадпрыемства з аднаго цэнтральнага пункта пры дапамозе сродкаў сувязі.

**ДЫСПЛЕ́Й** (*англ.* display = паказваць, узнаўляць) — тое, што і *манітор* 2.

**ДЫСПРАПО́РЦЫЯ** (*фр.* disproportion, ад *лац.* dis- = раз-, не- + proportio = прапорцыя) — адсутнасць прапарцыя-

нальнасці, суразмернасці, неадпаведнасць паміж часткамі цэлага.

**ДЫСПУТ** (*фр.* dispute, ад *лац.* disputare = разважаць, спрачацца) — публічныя спрэчкі на навуковую або важную ў грамадскіх адносінах тэму.

**ДЫСТАНЦЫЯ** (*лац.* distantia) — 1) адлегласць, прамежак паміж чым-н. (напр. д. паміж танкамі на маршы, бег на кароткія дыстанцыі); 2) неадпаведнасць, адрозненне паміж кім-н., чым-н., абумоўленае розным ступенню развіцця, становішча, стану.

**ДЫСТРАФІЯ** (ад *гр.* dys = раз-, не- + trophe = ежа, жыўленне) — *мед.* парушэнне жыўлення тканак, органаў або арганізма ў цэлым, якое прыводзіць да паталагічных змен.

**ДЫСТРЫБ'ЮТАР** (*англ.* distributor) — фірма-пасрэднік або прыватная асоба, якая займаецца аптовымі закупкамі тавараў з мэтай продажу іх розьнічным фірмам і магазінам.

**ДЫСЦЫПЛІНА** (*лац.* disciplina = навучанне) — 1) абавязковае для ўсіх членаў якога-н. калектыву падпарадкаванне ўстаноўленым правілам (напр. воінская д., працоўная д.); 2) асобная галіна якой-н. навукі; вучэбны прадмет (напр. тэхнічныя дысцыпліны).

**ДЫФАМАЦЫЯ** (*лац.* diffamatio = ганьбаванне) — выказванне ў сродках масавай інфармацыі сапраўдных або лжывых звестак, якія ганьбяць гонар і годнасць грамадзяніна або ўстановы, арганізацыі.

**ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ** (*фр.* différentiation, ад *лац.* differentia = розніца, адрозненне) — раздзяленне, расчляненне чаго-н. на асобныя разнародныя часткі, формы і ступені (напр. д. паняццяў, сацыяльная д. грамадства).

**ДЫФІРАМБ** (*гр.* dithyrambos) — 1) урачыстая песня ў гонар бога Дыяніса ў старажытных грэкаў; 2) *перан.* перабольшаная пахвала, непамернае ўсхваленне (напр. спяваць дыфірамбы каму-н.).

**ДЫЯБЕТ** (*гр.* diabetes) — хвароба, якая выклікаецца парушэннем абмену рэчываў і суправаджаецца выдзяленнем вялікай колькасці мачы (напр. цукровы д.).

**ДЫЯГНАЗ** (*гр.* diagnosis = распазнаванне) — вызначэнне хваробы на падставе абследавання хворага.

**ДЫЯГРА́МА** (*гр.* diagramma = малюнак, фігура) — графічны малюнак, які наглядна паказвае суадносіны якіх-н. велічынь (напр. д. росту будаўніцтва).

**ДЫЯ́КАН** (*гр.* diakonos) — ніжэйшае духоўнае званне, памочнік свяшчэнніка пры адпраўленні царкоўнай службы.

**ДЫЯЛЕ́КТ** (*гр.* dialektos) — разнавіднасць агульнанароднай (нацыянальнай) мовы, на якой гаворыць насельніцтва якой-н. мясцовасці (напр. паўднёва-заходні д. беларускай мовы).

**ДЫЯЛЕ́КТЫКА** [*гр.* dialektike (techne) = майстэрства весці размову, спрэчку] — 1) філасофскае вучэнне аб усеагульных законах руху і развіцця прыроды, чалавечага грамадства і мыслення, навуковы метад пазнання з'яў прыроды і грамадства ў іх вечным руху і зменах; 2) працэс руху, развіцця чаго-н. (напр. д. падзей).

**ДЫЯЛО́Г** (*гр.* dialogos) — 1) размова паміж дзвюма або некалькімі асобамі; 2) *перан.* перагаворы, абмен меркаваннямі (напр. у палітыцы).

**ДЫЯМЕТРА́ЛЬНЫ** (*лац.* diametralis, ад *гр.* diametros = папярочнік) — 1) які дзеліць папалам па лініі дыяметра (напр. д-ая плоскасць); 2) *перан.* поўны, крайні (напр. д-ая процілегласць).

**ДЫЯНЕ́ТЫКА** (*англ.* dianetics, ад *гр.* dianoetikos = разважны) — арыгінальная методыка духоўнага вылячэння, заснаваная на спробе ўзнавіць у памяці чалавека ўсе перажытыя ім раней жыцці і падзеі, падвергнуўшы іх пераасэнсаванню.

**ДЫЯПАЗІТЫ́Ў** (*фр.* diapositive, ад *гр.* dia = праз + *лац.* positivus = дадатны) — фатаграфічны здымак на шкле або празрыстай плёнцы для праекцыйнага апарата.

**ДЫЯПАЗО́Н** [*лац.* diapason, ад *гр.* dis pason (chordon) = праз усе (струны)] — 1) гукавы аб'ём (інтэрвал паміж самым нізкім і самым высокім гукамі), даступны якому-н. музычнаму інструменту або пеўчаму голасу (напр. д. скрыпкі, тэнаравы д.); 2) *перан.* аб'ём, ахоп ведаў, інтарэсаў і г. д. (напр. шырокі д. ведаў, творчы д. артыста).

**ДЫЯРА́МА** (ад *гр.* dia = праз + horama = відовішча) — 1) карціна вялікіх памераў з аб'ёмным пярэднім планам — макетамі будынкаў, дрэў, фігур і інш.; 2) карціна, напіса-

ная з абодвух бакоў празрыстага матэрыялу і спецыяльна асветленая для стварэння ўражання аб'ёмнасці.

**ДЫЯ́СПАРА** (*гр.* diaspora = рассейванне) — сукупнасць прадстаўнікоў якога-н. народа, якія жывуць за межамі бацькаўшчыны ў новым раёне пасялення.

**ДЫЯТЭ́З** (*гр.* diathesis) — *мед.* схільнасць арганізма да некаторых захворванняў, напр. да праяўленняў *алергіі.*

**ДЫЯФІ́ЛЬМ** (*англ.* diafilm, ад *гр.* dia = праз + *англ.* film = фільм) — фільм, састаўлены з *дыяпазітываў.*

**ДЫЯФРА́ГМА** (*гр.* diaphragma = перагародка) — 1) мышачная перагародка, якая аддзяляе грудную поласць ад брушной; 2) святлонепранікальная перагародка ў аптычных прыборах з адтулінай для прапускання пучка прамянёў.

**ДЭБА́ТЫ** (*фр.* débats) — спрэчкі, абмен думкамі па якіх-н. пытаннях на сходзе, пасяджэнні.

**ДЭБАШЫ́Р** (*фр.* débaucheur) — той, хто ўчыняе *дэбошы*; буян, скандаліст.

**ДЭБІ́Л** (*н.-лац.* debil, ад *лац.* debilis = слабы) — 1) чалавек з лёгкай формай прыроджанай псіхічнай непаўнацэннасці; 2) *перан., разм.* дурань, тупіца.

**ДЭБІТО́Р** (*лац.* debitor) — даўжнік прадпрыемства, установы, арганізацыі (параўн. *крэдытор*).

**ДЭБО́Ш** (*фр.* débauche) — скандал з шумам і бойкай.

**ДЭБЮ́Т** (*фр.* début) —1) першае выступленне на сцэне або на новай арэне дзейнасці (напр. д. спявачкі, літаратурны д.); 2) пачатак шахматнай або шашачнай партыі (параўн. *гамбіт, мітэльшпіль, эндшпіль*).

**ДЭВАЛЬВА́ЦЫЯ** (*фр.* dévaluation) — 1) паніжэнне залатога забеспячэння грашовай адзінкі краіны або паніжэнне яе курсу ў адносінах да *валют* іншых краін (проціл. *рэвальвацыя*); 2) *перан.* абясцэньванне ў маральным плане (напр. д. сяброўскіх пачуццяў).

**ДЭВІ́З** (*фр.* devise) — 1) кароткая фраза, у якой выражаецца кіроўная ідэя паводзін або дзейнасці (напр. наш д. — клопат аб чалавеку); 2) слова або выраз, якія аўтар ставіць на творы замест свайго імя на закрытым конкурсе.

**ДЭВІ́ЗА** (*фр.* devise) — плацежны сродак (*вэксаль, чэк, акрэдытыў* і г. д.), выражаны ў замежнай валюце для міжнародных разлікаў.

**ДЭГЕНЕРА́Т** (*лац.* degeneratus = які вырадзіўся) — чалавек з адзнакамі фізічнага або псіхічнага выраджэння.

**ДЭГРАДА́ЦЫЯ** (*лац.* degradatio = паніжэнне) — паступовае пагаршэнне, страта ранейшых добрых якасцей; заняпад (напр. д. глебы, д. культуры).

**ДЭГУСТА́ЦЫЯ** (*фр.* dégustation, ад *лац.* degustare = спрабаваць на смак) — вызначэнне якасці якога-н. прадукту (віна, чаю і інш.) пры яго вырабе органамі зроку, нюху, смаку.

**ДЭДУ́КЦЫЯ** (*лац.* deductio = вывядзенне) — спосаб разважання ад агульных палажэнняў да прыватных вывадаў (проціл. *індукцыя*).

**ДЭЗАВУІ́РАВАЦЬ** (*фр.* désavouer) — заяўляць аб нязгодзе з дзеяннямі даверанай асобы або аб пазбаўленні яе права дзейнічаць у далейшым ад імя даверніка, а таксама адмаўляцца ад зробленых раней кім-н. заяў (напр. д. заяву пасла, д. сваю заяву ў прэсе).

**ДЭЗАДАРА́НТ** (ад *фр.* dés- = ад, раз + *лац.* odor = пах) — сродак, які знішчае дрэнны пах і араматызуе паветра ў памяшканні, цела чалавека і інш.

**ДЭЗАКТЫВА́ЦЫЯ** (*фр.* désactivation, ад dés- = ад, раз + activation = актывацыя) — выдаленне радыеактыўных рэчываў з аб'ектаў знешняга асяроддзя (глебы, вады, збудаванняў, адзення, прадуктаў і інш.).

**ДЭЗАРГАНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* désorganisation, ад dés- = ад, раз + + organisation = арганізацыя) — разлад *арганізацыі*, парушэнне парадку, нармальнай дзейнасці, дысцыпліны (напр. д. вытворчасці).

**ДЭЗАРЫЕНТА́ЦЫЯ** (*фр.* désorientation) — 1) страта правільнай *арыентацыі*, правільнага ўяўлення аб часе і прасторы; 2) увядзенне ў зман каго-н. шляхам памылковай, няправільнай інфармацыі.

**ДЭЗЕРЦІ́Р** (*фр.* déserteur) — той, хто уцёк з ваеннай службы або ўхіліўся ад выканання сваіх грамадзянскіх, службовых ці грамадскіх абавязкаў.

**ДЭЗІНФАРМА́ЦЫЯ** (*фр.* désinformation, ад dés- = ад, раз + + *лац.* informatio = паведамленне, азнаямленне) — распаўсюджванне заведама лжывых звестак з мэтай увесці каго-н. у зман.

**ДЭЗІНФЕ́КЦЫЯ** (ад *фр.* dés- = ад, раз + *лац.* infectus = заражаны) — знішчэнне хваробатворных мікробаў пры дапамозе спецыяльных сродкаў; абеззаражванне.

**ДЭЗУРБАНІ́ЗМ** (ад *фр.* dés- = раз- + urbanisme, ад *лац.* urbanus = гарадскі) — напрамак у горадабудаўніцтве, які супрацьпастаўляе буйным гарадам свабоднае рассяленне сярод прыроды.

**ДЭКА́ДА** (*гр.* dekas, -ados = дзесятак) — 1) прамежак часу ў дзесяць сутак; трэцяя частка месяца; 2) дзесяцідзённы прамежак часу, прысвечаны чаму-н. (напр. д. мастацкай самадзейнасці).

**ДЭКАДА́НС** (*фр.* décadence) — 1) заняпад, культурны *рэгрэс*; 2) тое, што і *дэкадэнцтва*.

**ДЭКАДЭ́НЦТВА** (*фр.* décadence = заняпад) — агульная назва нерэалістычных напрамкаў у літаратуры і мастацтве канца XIX—пачатку XX ст., якія характарызуюцца ўпадніцтвам, крайнім індывідуалізмам.

**ДЭКАЛЬТЭ́** (*фр.* décolleté) — глыбокі выраз у верхняй частцы жаночага адзення.

**ДЭКАМПІЛЯ́ЦЫЯ** (ад *лац.* de = з, ад + compilatio = крадзеж, аграбленне) — *інф.* варочанне праграмы, закладзенай у *камп'ютэр*, у пачатковы, зыходны выгляд.

**ДЭКА́Н** (*ням.* Dekan, ад *лац.* decanus = дзесятнік) — 1) кіраўнік *факультэта* ў вышэйшай навучальнай установе; 2) старшы ксёндз, які назірае над некалькімі прыходамі.

**ДЭКАНА́Т** (*ням.* Dekanat, ад *с.-лац.* decanatus) — кіраўніцтва *факультэта* на чале з *дэканам* 1, а таксама памяшканне, дзе яно знаходзіцца.

**ДЭКАРАТЫ́ЎНЫ** (*фр.* décoratif, ад *лац.* decorare = упрыгожваць) — 1) прызначаны для ўпрыгожвання (напр. д-ыя расліны); 2) жывапісны, маляўнічы (напр. д. від); 3) *пера*н. паказны, знешне эфектны.

**ДЭКАРА́ЦЫЯ** (*фр.* décoration, ад *лац.* decorare = упрыгожваць) — 1) мастацкае афармленне сцэны для паказу месца і абставін тэатральнага дзеяння; 2) *перан.* што-н. паказное, штучнае, што служыць для прыкрыцця недахопаў, непрывабнай сутнасці чаго-н.

**ДЭКЛАМА́ЦЫЯ** (*лац.* declamatio) — 1) выразнае чытанне мастацкіх твораў; 2) *перан.* штучна ўзнёслая манера гаварыць.

**ДЭКЛАРА́ЦЫЯ** (*лац.* decloratio = заява, аб'ява) — 1) афіцыйная або ўрачыстая, праграмная заява, а таксама дакумент, у якім яна выкладзена (напр. урадавая д., д. правоў чалавека); 2) заява падаткаплацельшчыка і некаторых катэгорый дзяржаўных служачых пра характар і памер даходаў, маёмаснае становішча; 3) заява асобы, якая перасякае граніцу, пра наяўнасць і колькасць у яе рэчаў, каштоўнасцей, валюты.

**ДЭКЛАРАТЫ́ЎНЫ** (*лац.* declarativus) — 1) які мае форму *дэкларацыі* 1; урачысты (напр. д-ая заява); 2) галаслоўны (напр. д-ыя абяцанні).

**ДЭКЛАСАВА́НЫ** (*фр.* déclassé) — які страціў сувязь са сваім сацыяльным класам, не ўдзельнічае ў грамадскай вытворчасці, апусціўся ў маральных адносінах.

**ДЭКО́ДЭР** (*англ.* decoder, ад *лац.* de = ад, з + codex = кніга) — 1) тое, што і *дэшыфратар*; 2) пераключальнае ўстройства ў каляровых тэлевізарах для пераўтварэння відэасігналаў з адной тэлесістэмы ў другую.

**ДЭКО́Р** (*фр.* décor, ад *лац.* decorare = упрыгожваць) — сукупнасць *дэкаратыўных* элементаў у архітэктуры.

**ДЭКО́РТ** (*ням.* Dekort) — скідка з цаны тавару за датэрміновую яго аплату або за больш нізкую якасць у параўнанні з умовамі здзелкі.

**ДЭКО́РУМ** (*лац.* decorum = прыстойнасць) — знешняя прыстойнасць; адпаведныя займаемай пасадзе абставіны.

**ДЭКРЭ́Т** (*фр.* décret, ад *лац.* decretum) — пастанова вярхоўнай улады, якая мае сілу закона.

**ДЭЛЕГА́Т** (*лац.* delegatus) — прадстаўнік якога-н. калектыву, арганізацыі, дзяржавы, выбраны для ўдзелу ў рабоце з'езду, канферэнцыі, перагаворах і інш.

**ДЭЛЕГА́ЦЫЯ** (*лац.* delegatio) — група *дэлегатаў*, якія прадстаўляюць той ці іншы калектыў, арганізацыю, дзяржаву.

**ДЭЛІ́КТ** (*лац.* delictum) — *юр.* незаконнае дзеянне, праваапарушэнне.

**ДЭЛІМІТА́ЦЫЯ** (*лац.* delimitatio) — вызначэнне дзяржаўнай граніцы з дакладным апісаннем яе праходжання і фіксацыяй на карце ў адпаведнасці з дагаворам, заключаным з суседняй дзяржавай.

**ДЭМАГО́Г** (*гр.* demagogos, ад demos = народ + ago = вяду) — палітык, які для дасягнення сваіх мэт карыстаецца *дэмагогіяй* 1.

**ДЭМАГО́ГІЯ** (*гр.* demagogia, ад demos = народ + ago = вяду) — 1) падман народных мас прывабнымі, але лжывымі абяцаннямі для дасягнення сваіх мэт; 2) пустыя мнагаслоўныя разважанні (напр. разводзіць дэмагогію).

**ДЭМАГРА́ФІЯ** (ад *гр.* demos = народ + grapho = пішу) — навука, якая вывучае склад, колькасць, заканамернасці ўзнаўлення насельніцтва ў іх грамадска-гістарычнай абумоўленасці.

**ДЭМАКРА́Т** (*фр.* démocrate, ад *гр.* demos = народ + kratos = = улада) — 1) прыхільнік *дэмакратыі* 1; 2) член дэмакратычнай партыі; 3) той, хто вядзе просты спосаб жыцця.

**ДЭМАКРАТЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* démocratisation, ад *гр.* demos = = народ + kratos = улада) — укараненне прынцыпаў *дэмакратыі*, перабудова дзяржавы, грамадства на дэмакратычных асновах.

**ДЭМАКРА́ТЫЯ** (*фр.* démocratie, ад *гр.* demos = народ + kratos = улада) — 1) форма дзяржаўнага кіравання, заснаваная на прызнанні народа крыніцай улады (проціл. *аўтарытарызм*); 2) прынцып арганізацыі дзейнасці калектыву, заснаваны на раўнапраўным удзеле ўсіх яго членаў.

**ДЭМАНСТРА́ЦЫЯ** (*лац.* demonstratio = паказванне) — 1) масавае шэсце для выражэння грамадска-палітычных настрояў; 2) публічны, наглядны паказ чаго-н. (напр. д. кінафільма); 3) паводзіны, учынкі, якія падкрэслена выражаюць пратэст, нязгоду з чым-н. (напр. д. непрыязнасці); 4) ваенная аперацыя з мэтай адцягнуць увагу праціўніка ад месца галоўнага ўдару; 5) дзеянні пагрозлівага характару з боку якой-н. дзяржавы з мэтай уздзейнічаць на іншую дзяржаву (напр. д. сілы).

**ДЭМАНТА́Ж** (*фр.* démontage) — разборка машын, станкоў, абсталявання для рамонту або перамяшчэння на новае месца (напр. д. электрастанцыі).

**ДЭМАРАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* démoralisation) — упадак духу, дысцыпліны, а таксама маральнае разлажэнне (напр. д. арміі, д. грамадства).

**ДЭМА́РШ** (*фр.* démarche) — дыпламатычнае выступленне ў форме ноты, заявы, адрасаванае ўраду якой-н. дзяржавы з мэтай выразіць пратэст, перасцярогу, дамагчыся ўступак і інш.

**ДЭМЕ́НЦЫЯ** (*лац.* dementia = шаленства) — *мед.* прыдуркаватасць, якая ўзнікае ў чалавека ў выніку паражэння галаўнога мозгу пры *атэрасклерозе, эпілепсіі* і інш. (параўн. *алігафрэнія*).

**ДЭМІСЕЗО́ННЫ** (*фр.* demisaison = пераходная пара года) — прызначаны для нашэння вясной і восенню (напр. д-ае паліто).

**ДЭ́МПІНГ** (*англ.* dumping = *літар.* скідванне) — продаж тавараў на знешнім рынку па зніжаных цэнах з мэтай выцяснення канкурэнтаў.

**ДЭНАМІНА́ЦЫЯ** (*лац.* denominatio = перайменаванне) — *экан.* змяненне намінальнай вартасці грашовых знакаў для ўпарадкавання грашовага абарачэння і спрашчэння разлікаў.

**ДЭНАНСА́ЦЫЯ** (*фр.* dénonsation) — заява якой-н. дзяржавы аб скасаванні міжнароднага дагавору.

**ДЭПАЗІ́Т** (*лац.* depositum = рэч, аддазеная на зберажэнне) — грошы або каштоўныя паперы, якія ўносяцца ў крэдытную ўстанову для захоўвання.

**ДЭПАЗІ́ТАР** (*лац.* depositor) — 1) уладальнік *дэпазіту*; 2) тое, што і *дэпанент* 2.

**ДЭПАНЕ́НТ** (*лац.* deponens, -ntis = які адкладвае) — 1) тое, што і *дэпазітар* 1; 2) асоба, якой належыць грашовая сума, не атрыманая ёю ва ўстаноўлены тэрмін; 3) рахунак, на які пералічваюцца грошы, не атрыманыя кім-н. своечасова (напр. грошы на дэпаненце).

**ДЭПАРТА́ЦЫЯ** (*лац.* deportatio = вываз) — высылка з дзяржавы або перасяленне на новае месцажыхарства як мера крымінальнага або адміністрацыйнага пакарання.

**ДЭПЕ́ША** (*фр.* dépêche) — 1) спешнае дыпламатычнае паведамленне; 2) *уст.* тое, што і *тэлеграма.*

**ДЭПО́РТ** (*фр.* déport) — *кам.* біржавая здзелка, якая заключаецца ў разліку на паніжэнне курсу каштоўных папер з мэтай атрымання курсавой розніцы.

**ДЭПРЭ́СІЯ** (*лац.* depressio = прыгнечанне) — 1) прыгнечаны псіхічны стан чалавека; 2) застой у гаспадарчым, грамадскім жыцці.

**ДЭПУТА́Т** (*лац.* deputatus = пасланы) — асоба, выбраная членам прадстаўнічага органа ўлады.

**ДЭПУТА́ЦЫЯ** (*с.-лац.* deputatio) — група ўпаўнаважаных або выбраных асоб, што дзейнічае ў якасці прадстаўнікоў якога-н. калектыву, арганізацыі.

**ДЭ́РВІШ** (*перс.* darviš = жабрак) — мусульманскі манах, які вядзе аскетычны спосаб жыцця (параўн. *факір* 1).

**ДЭСЕ́РТ** (*фр.* dessert) — салодкія стравы, цукеркі, фрукты, якія падаюцца ў канцы абеду.

**ДЭ́СПАТ** (*с.-лац.* despotus, ад *гр.* despotes) — 1) жорсткі правіцель з неабмежаванай уладай у старажытных рабаўладальніцкіх дзяржавах Усходу, у балканскіх краінах перыяду сярэдневякоўя; 2) *перан.* жорсткі, бязлітасны чалавек, які не лічыцца з чужымі жаданнямі.

**ДЭСТРУКТЫ́ЎНЫ** (*лац.* destructivus) — які вядзе да разбурэння чаго-н., разбуральны (напр. д. падыход).

**ДЭТА́ЛЬ** (*фр.* détail) — 1) частка машыны, механізма, якая не можа быць разабрана на іншыя, больш дробныя часткі; 2) прыватны факт, драбніца (напр. удакладніць дэталі маршрута).

**ДЭТЭКТЫ́Ў** (*англ.* detective, ад *лац.* detectio = раскрыццё) — 1) агент вышукной паліцыі, які вядзе расследаванне крымінальных спраў; 2) літаратурны твор або кінафільм, у якім расказваецца аб прыгодах сышчыкаў.

**ДЭ-ФА́КТА** (*лац.* de facto) — фактычна, на справе (параўн. *дэ-юрэ*).

**ДЭФАРМА́ЦЫЯ** (*лац.* deformatio) — 1) змяненне формы і памераў цела пад уздзеяннем знешніх сіл (напр. д. тары пры пагрузцы, д. пазваночніка); 2) *перан.* непажаданае змяненне якіх-н уласцівасцей, уяўленняў, паняццяў (напр. д. асноўных прынцыпаў маралі).

**ДЭФЕ́КТ** (*лац.* defectus) — загана, недахоп (напр. тавар з дэфектам, д. вымаўлення).

**ДЭФЕКТАЛО́ГІЯ** (ад *лац.* defectus = дэфект + *гр.* logos = навука) — навука, якая вывучае заканамернасці і асаблівасці развіцця дзяцей з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі і пытанні іх навучання і выхавання.

**ДЭФЕКТЫ́ЎНЫ** (*лац.* defectivus) — які мае фізічныя або псіхічныя недахопы; ненармальны (напр. д-ае дзіця).

**ДЭФІЛІ́РАВАЦЬ** (*фр.* défiler) — 1) урачыста праходзіць (на парадах, дэманстрацыях); 2) хадзіць туды-сюды, прагульвацца.

**ДЭФІНІ́ЦЫЯ** (*лац.* definitio) — кароткае азначэнне якога-н. паняцця з улікам найбольш істотных яго адценняў.

**ДЭФІЦЫ́Т** (*лац.* deficit = нестае) — 1) недахоп чаго-н., нястача (напр. д. тавараў); 2) страта, перавышэнне расходаў над даходамі (напр. бюджэтны д.).

**ДЭФЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* deflatio = здзіманне) — змяншэнне колькасці папяровых грошай, выпушчаных у перыяд *інфляцыі.*

**ДЭФО́ЛТ** (*англ.* default) — 1) невыкананнне банкамі або ўрадам фінансавых плацяжоў; 2) спыненне выплаты працэнтаў па каштоўных паперах у перыяд ліквідацыі кампаніі.

**ДЭШЫФРАВА́ЦЬ** (*фр.* déchiffrer) — 1) разбіраць напісанае *шыфрам,* тайнапісам або невядомым алфавітам (напр. д. дэпешу, д. рукапіс); 2) пераўтвараць сігналы адной інфармацыйнай сістэмы ў сігналы другой сістэмы (напр. д. перфастужку).

**ДЭШЫФРА́ТАР** (ад *фр.* déchiffrer = разбіраць) — электроннае ўстройства для расшыфроўкі паведамленняў, якія перадаюцца ўмоўнымі сігналамі (*кодам, шыфрам*), і пераводу інфармацыі на мову сістэмы, якая прымае.

**ДЭ-Ю́РЭ** (*лац.* de jure) — юрыдычна, фармальна (параўн. *дэ-факта*).

## Е

**ЕВА́НГЕЛЛЕ** (*гр.* euangelion = *літар.* добрая вестка) — частка Біблii, дзе змешчаны апавяданні аб жыцці, дзейнасці і вучэнні Ісуса Хрыста, напісаныя апосталамі Маркам, Матфеем, Лукой і Іаанам.

**ЕЗУІ́Т** (*с.-лац.* jesuita, ад *лац.* Jesus = Ісус) — 1) член манаскага каталіцкага ордэна «Таварыства Ісуса», заснаванага ў 1534 г. для барацьбы з Рэфармацыяй і абароны папства; 2) *перан.* хітры, крывадушны чалавек.

**ЕКЦЕ́ННЯ** (*гр.* ekteneia = стараннасць, руплівасць) — частка праваслаўнага богаслужэння, калі святар ад імя вернікаў звяртаецца з прашэннямі да Бога.

**ЕПА́РХІЯ** (*гр.* eparchia, ад epi = над + arche = улада) — царкоўна-адміністрацыйная тэрытарыяльная адзінка, якой кіруе *епіскап*.

**ЕПІ́СКАП** (*гр.* episkopos, epi = над + skopeo = гляджу, назіраю) — вышэйшае духоўнае званне ў праваслаўнай царкве, якое прысвойваецца звычайна кіраўніку *епархіі*, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**Е́РАСЬ** (*гр.* hairesis) — 1) адступленне ад *догматаў* пануючай рэлігіі; 2) *перан.* адступленне ад агульнапрынятых правіл, поглядаў; 3) *перан.* бязглуздзіца, лухта (напр. несці е.).

**ЕРЭТЫ́К** (*гр.* hairetikos) — 1) адступнік ад догматаў пануючай рэлігіі, паслядоўнік *ерасі* 1; 2) *перан.* той, хто адступае ад агульнапрынятых правіл, поглядаў.

**Е́ЎРА** [*англ.* Euro(pean) = еўрапейскі] — адзіная грашовая адзінка краін Еўропы, што ўваходзяць у Еўрапейскі саюз.

**ЕЎРАПЕО́ІД** (ад *лац.* Europa = Еўропа + *гр.* eidos = выгляд) — прадстаўнік расы, для якой характэрна светлая скура, мяккія валасы, вузкі выступаючы нос, тонкія губы.

**ЕЎХАРЫ́СТЫЯ** (*гр.* eucharistia = падзяка) — хрысціянскі абрад прыняцця просвіры і віна, адно з сямі хрысціянскіх таінстваў; прычашчэнне.

## Ё

**ЁГ** (*англ.* yog, ад *санскр.* yoga = засяроджанне, сузіранне) — паслядоўнік *ёгі*.

**ЁГА** (*англ.* yoga, ад *санскр.* yoga = засяроджанне, сузіранне) — вучэнне аб метадах і прыёмах кіравання псіхікай чалавека на аснове старажытнаіндыйскіх рэлігійна-філасофскіх сістэм; сцвярджае, што шляхам дыхальных, фізічных і маральных трэніровак можна выйсці з-пад улады пачуццяў і законаў прыроды.

**ЁГУРТ** (*англ.* yoghurt, ад *тур.* yogurt = кіслае малако) — кісламалочны прадукт з вітамінамі і фруктовымі дабаўкамі.

**ЁД** (*н.-лац.* iodium, ад *гр.* iodes = фіялетавы) — 1) хімічны элемент, крышталічнае рэчыва цёмна-шэрага колеру, якое здабываецца галоўным чынам з марскіх водарасцей;

2) спіртавы раствор гэтага рэчыва, прызначаны для медыцынскіх мэт.

**ЁДАФО́РМ** (*фр.* iodoforme) — лекавы прэпарат, арганічнае злучэнне *ёду* ў выглядзе крышталічнага жоўтага парашку; выкарыстоўваецца як антысептычны сродак.

## Ж

**ЖАБО́** (*фр.* jabot, ад jabos = птушыны валляк) — аздоба з карункаў або лёгкай тканіны вакол каўняра ці на грудзях мужчынскай сарочкі, жаночай блузкі.

**ЖАКЕ́Й** (*англ.* yockey) — 1) прафесійны яздок на конных скачках; 2) цыркавы артыст, які выконвае акрабатычныя трукі на неасядланым кані.

**ЖАКЕ́Т** (*фр.* jaquette) — кароткая жаночая вопратка, пашытая ў талію.

**ЖАЛЮЗІ́** (*фр.* jalousie) — 1) аконныя шторы з вузкіх драўляных пласцінак на шнурах, якія выкарыстоўваюцца для рэгулявання светлавой і паветранай плыні; 2) металічныя вентыляцыйныя рашоткі, якія ўстанаўліваюцца на пражэктарах, самалётах і інш.

**ЖАНГЛЁР** (*фр.* jongleur) — цыркавы артыст, які спрытна падкідвае і ловіць адначасова некалькі прадметаў.

**ЖАНГЛІ́РАВАЦЬ** (*фр.* jongler) — 1) падкідваць і спрытна лавіць на ляту адначасова некалькі прадметаў; 2) *перан.* спрытна, адвольна абыходзіцца з фактамі, словамі і інш. (напр. ж. цытатамі).

**ЖАНР** (*фр.* genre) — 1) гістарычна выпрацаванае ўнутранае падраздзяленне ва ўсіх відах мастацтва з уласцівымі яму мастацкімі асаблівасцямі, напр. у літаратуры — раман, паэма, камедыя і інш., у музыцы — сімфонія, кантата, песня і інш., у выяўленчым мастацтве — партрэт, пейзаж, нацюрморт і інш.; 2) жывапіс на бытавыя сюжэты.

**ЖАРГО́Н** (*фр.* jargon) — мова якой-н. сацыяльнай групы, насычаная словамі і выразамі, уласцівымі толькі для дадзенай групы і незразумелымі для ўсіх астатніх (напр. акцёрскі ж., ж. маракоў).

**ЖАРДЫНЬЕ́РКА** (*фр.* jardiniére, ад jardin = сад) — прыгожа аформленая карзінка або скрынка для вырошчвання пакаёвых кветак.

**ЖАРТ** (*польск.* żart, ад *ням.* Scherz) — 1) востры дасціпны выраз; кароткае апавяданне са смешным, забаўным зместам; 2) невялікая камічная п'еса, звычайна бытавога характару.

**ЖУРНАЛІ́СТ** (*фр.* journaliste) — прафесійны літаратурны работнік, які займаецца *журналістыкай.*

**ЖУРНАЛІ́СТЫКА** (*фр.* journalistique = газетны, журналісцкі) — 1) від творчай дзейнасці па зборы, апрацоўцы і распаўсюджванні актуальных паведамленняў і звестак праз сродкі масавай інфармацыі; 2) навука аб ролі і месцы сродкаў масавай інфармацыі ў жыцці грамадства, аб формах і метадах журналісцкай дзейнасці.

**ЖУРЫ́** (*фр.* jury) — група спецыялістаў-экспертаў на конкурсе, выстаўцы, спаборніцтве, якая вызначае ступень майстэрства ўдзельнікаў і прысуджае прэміі і ўзнагароды.

**ЖЫРАБА́НК** (ад *іт.* giro = абарот + banco = банк) — банк, які здзяйсняе безнаяўныя разлікі паміж сваімі кліентамі.

**ЖЫРАНДО́ЛЬ** (*фр.* girandole) — 1) *уст.* фігурны падсвечнік для некалькіх свечак; 2) фантан з некалькімі струменямі.

**ЖЫРО́** (*іт.* giro) — 1) від безнаяўных разлікаў праз разліковыя чэкі; 2) тое, што і *індасамент.*

**ЖЭЛАЦІ́Н** (*фр.* gélatine, ад *лац.* gelatus = застылы) — бялковае рэчыва жывёльнага паходжання, раствор якога пры ахаладжэнні пераходзіць у студзяністы стан; выкарыстоўваецца ў кулінарыі, фатаграфіі, тэхніцы.

**ЖЭЛЕ́** (*фр.* gelée) — салодкая студзяністая маса з фруктова-ягадных сокаў, малака і іншых прадуктаў з дабаўленнем *жэлаціну.*

**ЖЭСТ** (*фр.* geste) — 1) рух рукі, галавы для пацвярджэння сказанага, падачы якіх-н. знакаў, сігналаў; 2) *перан.* учынак, зроблены з якой-н. паказной мэтай (напр. ж. ветлівасці).

**ЖЭСТЫКУЛЯ́ЦЫЯ** (*фр.* gesticulation) — суправаджэнне сказанага *жэстамі* 1.

**ЖЭТО́Н** (*фр.* jeton) — 1) металічны значок, які паказвае на прыналежнасць да якой-н. арганізацыі або выдаецца на

памяць аб якой-н. падзеі; 2) металічны або пластмасавы кружок, які дае права на атрыманне чаго-н., замяняе манету (напр. для аплаты праезду ў метро).

## З

**ЗАДЫЯ́К** [*лац.* zodiacus, ад *гр.* zodiakos (kyklos) = звярыны (круг)] — *астр.* пояс неба, па якім Сонца праходзіць свой бачны шлях на працягу года; падзяляецца на 12 знакаў (па ліку сузор'яў, якія названы пераважна імёнамі жывёл (Леў, Рак, Скарпіён і інш.).

**ЗА́ЛА** (*ням.* Saal) — 1) вялікае памяшканне для публічных сходаў і іншых мэт (напр. актавая з., чытальная з.); 2) прасторны пакой у кватэры для прыёму гасцей.

**ЗАНДЗІ́РАВАЦЬ** (*ням.* sondieren, ад *фр.* sonder) — 1) даследаваць пры дапамозе *зонда* (напр. з. рану); 2) *перан.* папярэдне высвятляць якое-н. пытанне; разведваць, распытваць.

**ЗАЯ́ДЛЫ** (*польск.* zajadły) — 1) які надта прыахвоціўся да чаго-н. (напр. з. танцор); 2) які вядзецца, выконваецца з асаблівай упартасцю, напорыстасцю (напр. з-ая барацьба); 3) злосны, задзірысты (напр. з. чалавек).

**ЗЕНІ́Т** [*фр.* zénith, ад *ар.* samt (urrás) = *літар.* дарога (над галавой)] — 1) *астр.* найвышэйшы ўяўны пункт нябеснай сферы, які знаходзіцца над галавой наглядальніка (напр. сонца ў зеніце); 2) *перан.* вышэйшая ступень, вяршыня развіцця чаго-н. (напр. з. славы).

**ЗЕРО́** (*фр.* zero) — нулявое ачко, нуль (пры гульні ў рулетку, фішкі і інш.).

**ЗЕФІ́Р** (*фр.* zéphyr, ад *гр.* zephyros = заходні вецер) — 1) *паэт.* цёплы лёгкі ветрык; 2) тонкая баваўняная тканіна; 3) сорт лёгкай фруктовай пасцілы круглай формы.

**ЗІГЗА́Г** (*фр.* zigzag, ад *ням.* Zickzack) — 1) ломаная лінія (напр. з. маланкі); 2) *перан.* рэзкае адхіленне ад асноўнага напрамку ў палітыцы, дзейнасці, быце (напр. з. лёсу).

**ЗО́МБІ** (*англ.* zombie, ад *афр.* zumbi = фетыш) — 1) мярцвяк у афрыканскай міфалогіі, які выконвае волю таго, хто выклікаў яго дух; 2) *перан.* чалавек, здольны раўнадушна рабіць учынкі пад уздзеяннем чужой, пераважна злой волі.

**ЗО́НА** (*лац.* zona, ад *гр.* zone — пояс) — прастора, раён, тэрыторыя паміж якімі-н. межамі, што характарызуецца якімі-н. агульнымі прыметамі (напр. арктычная з., лясная з., бяз'ядзерная з.).

**ЗОНД** (*фр.* sonde) — 1) медыцынскі інструмент у выглядзе трубачкі, які ўводзіцца ўнутр арганізма з дыягнастычнай ці лячэбнай мэтай; 2) металічны бур для даследавання падглебы; 3) невялікі паветраны шар з самапісным прыстасаваннем для метэаралагічных назіранняў.

**ЗУ́МЕР** (*ням.* Summer) — электрамагнітны прыбор для падачы гукавых сігналаў; выкарыстоўваецца ў радыётэхніцы, тэлефаніі.

**ЗЮЙД** (*гал.* zuiden) — 1) поўдзень, паўднёвы напрамак; 2) паўднёвы вецер.

**ЗЮЙД-ВЕ́СТ** (*гал.* zuid-west) — 1) паўднёвы захад, паўднёва-захо́дні напрамак; 2) паўднёва-заходні вецер.

**ЗЮЙД-О́СТ** (*гал.* zuid-ost) — 1) паўднёвы ўсход, паўднёва-ўсходні напрамак; 2) паўднёва-ўсходні вецер.

## І

**ІГНАРАВА́ЦЬ** (*польск.* ignorować, ад *лац.* ignorare = не ведаць, не прызнаваць) — свядома не звяртаць увагі на каго-н., што-н., пагардліва ставіцца да каго-н., чаго-н. (напр. і. факты).

**ІГНІПУНКТУ́РА** (ал *лац.* ignis = агонь + punctura = укол) — 1) спосаб лячэння барадавак, мазоляў і некаторых пухлін прыпяканнем распаленым металам; 2) метад кітайскай народнай медыцыны, прыпяканне скуры ў пэўных пунктах тлеючымі палачкамі з сухога палыну.

**ІГУ́МЕН** (*гр.* hegoumenos = кіраўнік) — настаяцель праваслаўнага мужчынскага манастыра.

**ІГУ́МЕННЯ** (*гр.* hegoumeni = кіраўніца) — настаяцельніца праваслаўнага жаночага манастыра.

**І́ДАЛ** (*гр.* eidolon = малюнак, падабенства) — 1) фігура, статуя, якой пакланяліся язычнікі як богу; 2) *перан.* прадмет абажання або нізкапаклонства.

**ІДЫЁТ** (*лац.* idiota, ад *гр.* idiotes = невук) — 1) чалавек, хворы на *ідыятыю*; 2) *перан.* дурань, тупіца.

**ІДЫ́ЛІЯ** (*гр.* eidyllion = карцінка) — 1) жанравая разнавіднасць *буколікі*, паэтычны твор, у якім ідэалізавана паказваецца вясковы быт на ўлонні прыроды; 2) *перан., іран.* мірнае, шчаслівае існаванне (напр. сямейная і.).

**ІДЫЯСІНКРАЗІ́Я** (*н.-лац.* idiosyncrasia, ал *гр.* idios = своеасаблівы + synkrasis = злучэнне) — 1) *мед.* павышаная, хваравітая адчувальнасць чалавечага арганізма да некаторых рэчываў, што прыводзіць да захворванняў кішэчна-страўнікавага тракту, органаў дыхання і скуры; 2) *перан.* непрынянце якіх-н. ідэй, паняццяў і інш. (напр. і. да ўсяго новага).

**ІДЫЯТЫ́Я** (*гр.* idioteia) — *мед.* цяжкая форма прыроджанага псіхічнага недаразвіцця (*алігафрэніі*).

**ІДЭА́Л** (*фр.* idéal, ад *гр.* idea = паняцце) — 1) вышэйшая мэта дзейнасці грамадства, асобы, мяжа імкненняў, жаданняў; 2) дасканалы ўзор чаго-н. (напр. і. дабраты).

**ІДЭАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* idéalisation, ад *п.-лац.* idealis = ідэальны, ад *гр.* idea = паняцце) — паказ каго-н., чаго-н. лепшым, чым ёсць у сапраўднасці; надзяленне ідэальнымі якасцямі.

**ІДЭАЛІ́ЗМ** (*фр.* idéalisme, ад *п.-лац.* idealis = ідэальны, ад *гр.* idea = паняцце) — 1) філасофскі напрамак, які асновай усяго існуючага лічыць свядомасць, дух, ідэю, а не матэрыю (проціл. *матэрыялізм*); 2) схільнасць да ідэалізацыі, прыхарошвання рэчаіснасці.

**ІДЭАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* idea = паняцце + logos = вучэнне) — сістэма поглядаў, ідэй, якія характарызуюць якую-н. сацыяльную групу, клас, палітычную партыю, грамадства.

**ІДЭА́ЛЬНЫ** (*п.-лац.* idealis, ад *гр.* idea = паняцце) — 1) які існуе толькі ў свядомасці, у ідэях і ўяўленнях (напр. і. свет); 2) які адпавядае паняццю аб *ідэале*, узвышаны (напр. і-ая любоў); 2) вельмі добры, дасканалы (напр. і-ыя ўмовы).

**ІДЭНТЫФІКА́ЦЫЯ** (*фр.* identification, ад *с.-лац.* identificare = атаясамліваць) — устанаўленне поўнага супадзення, адпаведнасці аднаго прадмета, з'явы, паняцця другому; атаясамліванне.

**ІДЭНТЫ́ЧНЫ** (*с.-лац.* identicus) — такі самы, аднолькавы, раўназначны, цалкам адпаведны чаму-н. (напр. і. тэкст).

**ІДЭО́ЛАГ** (ад *гр.* idea = паняцце + logos = вучэнне) — выразнік, абаронца *ідэалогіі* якога-н. грамадскага класа, групы, напрамку.

**ІДЭФІ́КС** (*фр.* idée fixe) — апантанасць чалавека неадчэпнай, маніякальнай ідэяй.

**ІДЭ́Я** (*гр.* idea = паняцце) — 1) сукупнасць паняццяў, уяўленняў аб рэчаіснасці ў свядомасці чалавека, якая выражае яго адносіны да навакольнага свету; 2) асноўны, істотны прынцып светапогляду; 3) асноўная думка, задума, якая вызначае змест чаго-н. (напр. і. рамана); 4) намер, план (напр. і. эканамічнага развіцця).

**ІЕГАВІ́СТЫ** (*англ.* jegovists, ад *ст.-яўр.* Jahwe = імя бога ў іудаізме) — члены хрысціянскай секты, заснаванай у 1872 г. у ЗША; прызнаюць адзіным богам Іегову, адвяргаюць хрысціянскія догматы.

**ІЕРАДЫЯ́КАН** (*гр.* hierodiakonos, ад heiros = свяшчэнны + diakonos = дыякан) — манах у сане *дыякана.*

**ІЕРА́РХ** (*гр.* hierarches, ад heiros = свяшчэнны + arche = = улада) — царкоўна-афіцыйная назва *епіскапа.*

**ІЕРА́РХІЯ** (*гр.* hierarchia, ад heiros = свяшчэнны + arche = = улада) — паслядоўнае размяшчэнне пасад, званняў, з'яў ад ніжэйшых да вышэйшых у парадку іх падпарадкаванасці (напр. службовая і.).

**ІЕРЭ́Й** (*гр.* hiereus = жрэц) — святар у праваслаўнай царкве.

**ІЗАЛЯ́ТАР** (*фр.* isolateur) — 1) рэчыва, якое не праводзіць электрычнага току, цеплыні або не прапускае гукаў; 2) дэталь з ізаляцыйнага рэчыва для замацавання і раз'яднання частак электрычнага абсталявання; 3) адасобленае памяшканне для хворых або другіх асоб, якія маюць патрэбу ў ізаляцыі.

**ІЗАЛЯ́ЦЫЯ** (*фр.* isolation) — 1) раз'яднанне частак электрычнага абсталявання або іншых праваднікоў пры дапамозе спецыяльнага матэрыялу (рэчыва), а таксама сам гэты матэрыял; 3) адасабленне каго-н. ад іншых людзей (напр. і. заразных хворых, палітычная і.).

**ІКАНАГРА́ФІЯ** (*гр.* eikonographia, ад eikon = выява, вобраз + grapho = пішу) — 1) вывучэнне і апісанне мастацкіх палотнаў, прысвечаных якой-н. тэме або асобе; 2) сукупнасць мастацкіх палотнаў на адну тэму, сюжэт.

**ІКАНАСТА́С** (ад *гр.* eikon = выява, вобраз + stasis = стаянне) — упрыгожаная абразамі сценка ў праваслаўнай царкве, якая аддзяляе алтар.

**ІКАНАТЭКА** (ад *гр.* eikon = выява, вобраз + theke = сховішча) — калекцыя, збор малюнкаў па пэўнай тэматыцы.

**ІКЕБА́НА** (*яп.* ikebana) — майстэрства складаць з кветак, раслін букеты, мастацкія кампазіцыі, часам з сімвалічным значэннем, а таксама сам такі букет, кампазіцыя.

**ІЛЮ́ЗІЯ** (*фр.* illusion, ад *лац.* illusio = падман) — 1) скажонае ўспрыманне рэчаіснасці, прыняцце ўяўнага за сапраўднае (напр. і. цішыні, зрокавая і.); 2) *перан.* надзея, якой не суджана збыцца (напр. цешыць сябе ілюзіямі).

**ІЛЮЗІЯНІ́СТ** (*фр.* illusionniste, ад *лац.* illusio = падман) — эстрадна-цыркавы артыст, які паказвае складаныя фокусы, часта з прымяненнем спецыяльнай апаратуры.

**ІЛЮЗО́РНЫ** (*лац.* illusorius = падманлівы) — заснаваны на *ілюзіях*; уяўны, не сапраўдны (напр. і-ыя надзеі).

**ІЛЮМІНА́ЦЫЯ** (*лац.* illuminatio = асвятленне) — яркае асвятленне вуліц, будынкаў рознакаляровымі агнямі ў сувязі са святам, урачыстасцю.

**ІЛЮСТРА́ЦЫЯ** (*лац.* illustratio = выява, жывое апісанне) — 1) малюнак у кнізе, часопісе, які суправаджае тэкст, тлумачыць змест; 2) *перан.* прыклад, які наглядна паказвае, пацвярджае што-н.

**ІМАНЕ́НТНЫ** (*лац.* immanens, -ntis = уласцівы) — унутрана ўласцівы якому-н. прадмету, з'яве, працэсу, абумоўлены іх сутнасцю (напр. і-ыя прычыны).

**ІМЕ́ЙЛ** [*англ.* e-mail, ад e(lectronic) mail = электронная пошта] — *інф.* спосаб электроннай сувязі,які ажыццяўляецца пры дапамозе *мадэма* і дазваляе перадаваць і прымаць тэкставыя паведамленні з аднаго *камп'ютэра* на другі.

**ІМІГРА́НТ** (*лац.* immigrans, -ntis = які перасяляецца) — 1) іншаземец, які прыехаў у якую-н. краіну на пастаяннае жыхарства (параўн. *мігрант* 1, *эмігрант* 1); 2) жывёла (від, род), якая перасялілася на дадзеную тэрыторыю з іншай, дзе яна ўзнікла і развівалася раней (параўн. *мігрант* 2).

**ІМІГРА́ЦЫЯ** (*п.-лац.* immigratio = перасяленне) — 1) уезд у якую-н. краіну на пастаяннае жыхарства грамадзян іншай дзяржавы (параўн. *міграцыя* 1, *эміграцыя* 1); 2) перася-

ленне жывёл з іх радзімы ў іншую вобласць (параўн. *міграцыя* 2).

**ІМІДЖ** (*англ.* image = вобраз) — мэтанакіравана сфарміраваны (сродкамі масавай інфармацыі, літаратуры і інш.) вобраз якой-н. асобы, з'явы, прадмета, каб аказаць на каго-н. эмацыйна-псіхалагічнае ўздзеянне з мэтай папулярызацыі, рэкламы (напр. і. палітыка).

**ІМІДЖМЕЙКЕР** (*англ.* imagemaker, ад image = вобраз + make = рабіць) — спецыяліст па стварэнню *іміджа* якой-н. асобы, з'явы, прадмета.

**ІМІТАТАР** (*лац.* imitator = пераймальнік) — 1) чалавек, які па-майстэрску пераймае каго-н., што-н. (напр. і. птушыных галасоў); 2) прыбор, які з максімальнай дакладнасцю ўзнаўляе што-н. (напр. і. кабіны касмічнага карабля).

**ІМІТАЦЫЯ** (*лац.* imitatio = перайманне) — 1) майстэрскае перайманне каго-н., чаго-н. (напр. і. воўчага голасу); 2) падробка чаго-н. пад што-н. (напр. і. пад чырвонае дрэва); 3) паўтарэнне музычнага матыву (мелодыі) у другім голасе на інтэрвал вышэй або ніжэй.

**ІМПАЗАНТНЫ** (*фр.* imposant) — велічны, паважны, які робіць ураджанне сваім выглядам (напр. і-ая фігура).

**ІМПАНАВАЦЬ** (*лац.* imponere) — адпавядаць чыім-н. патрабаванням, густам, настроям; падабацца.

**ІМПАРТ** (*англ.* import, ад *лац.* importare = увозіць) — 1) увоз у краіну замежных тавараў для рэалізацыі на ўнутраным рынку (проціл. *экспарт* 1); 2) агульная колькасць або агульны кошт тавараў, дастаўленых у якую-н. краіну з-за мяжы, а таксама сам дастаўлены тавар (проціл. *экспарт* 2).

**ІМПАРЦЁР** (*англ.* importer, ад *лац.* importare = увозіць) — краіна, установа або асоба, якія займаюцца *імпартам* 1 (проціл. *экспарцёр*).

**ІМПАТЭНТ** (*лац.* impotens, -ntis = бяссільны) — чалавек, які пакутуе на *імпатэнцыю* 1.

**ІМПАТЭНЦЫЯ** (*лац.* impotentia = слабасць, бяссілле) — 1) палавое бяссілле; 2) *перан.* няздольнасць да творчай дзейнасці (у навуцы, мастацтве, палітыцы і г. д.).

**ІМПЕРАТЫЎ** (*лац.* imperativus = загадны) — 1) катэгарычнае патрабаванне, загад (напр. маральны і.); 2) *лінгв.* загадны лад дзеяслова.

**ІМПЕРЫЯЛІ́ЗМ** (*фр.* impérialisme, ад *лац.* imperium = улада) — 1) вышэйшая стадыя развіцця капіталізму, якая характарызуецца панаваннем буйных манаполій, барацьбой паміж буйнымі дзяржавамі за крыніцы сыравіны і рынкі збыту; 2) дзяржаўная палітыка, накіраваная на заваяванне тэрыторый, калоній, устанаўленне палітычнага або эканамічнага кантролю над іншымі дзяржавамі.

**ІМПІ́ЧМЕНТ** (*англ.* impeachment = ганьбаванне, абвінавачванне) — працэдура прыцягнення да суда парламента вышэйшых службовых асоб дзяржавы (прэзідэнта, кіраўніка ўрада і інш.) з мэтай пазбаўлення іх паўнамоцтваў.

**ІМПЛАНТА́ЦЫЯ** (*п.-лац.* implantatio, ад *лац.* im = у + plantatio = саджанне) — 1) аперацыя ўжыўлення ў тканку чужых арганізму матэрыялаў, а таксама наогул пластычная аперацыя па перасадцы органаў і тканак; 2) укараненне зародка ў слізістую абалонку маткі.

**ІМЛІЦЫ́ТНЫ** (*фр.* implicite, ад *лац.* implicare = сплятаць) — скрыты, не выказаны яўна, які падразумяваецца (проціл. *эксплiцытны*).

**ІМПРАВІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* improvisation, ад *лац.* improvisus = непрадбачаны) — стварэнне чаго-н. (напр. верша, музыкі) без папярэдняй падрыхтоўкі, на хаду, у час выканання.

**ІМПРЭСА́РЫО** (*іт.* impresario) — асоба, якая арганізуе канцэрты, спектаклі, гастролі, заключае для артыстаў кантракты.

**ІМПРЭ́СІЯ** (*лац.* impressio) — 1) мімалётнае ўражанне, настрой, перажыванне; 2) кароткі літаратурны твор эмацыянальна-суб'ектыўнага характару.

**ІМПРЭСІЯНІ́ЗМ** (*фр.* impressionnisme, ад *лац.* impressio = уражанне) — напрамак у мастацтве і літаратуры канца XIX—пачатку XX ст., прадстаўнікі якога імкнуліся да непасрэднай перадачы суб'ектыўных адчуванняў, мімалётных уражанняў і настрояў.

**І́МПУЛЬС** (*лац.* impulsus = удар, штуршок) — 1) унутранае пабуджэнне, штуршок да дзеяння (напр. і. да творчасці); 2) мера руху і сілы (напр. электрычны і., нервовы і.).

**ІМПЭ́Т** (*польск.* impet, ад *лац.* impetus = парыў, разбег, напор) — 1) разгон, парывістасць, імклівасць (напр. і. ру-

ху); 2) *перан.* запал, напорыстасць (напр. і. да працы, юнацкі і.).

**ІМУНАЛО́ГІЯ** (ад *лац.* immunis = свабодны ад чаго-н., некрануты + *гр.* logos = вучэнне) — навука аб неўспрымальнасці арганізма да інфекцыйных захворванняў і атрутных рэчываў.

**ІМУНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* immunisation, ад *лац.* immunis = свабодны ад чаго-н., некрануты) — стварэнне штучнага *імунітэту* 1 ў чалавека і жывёл супраць заразных хвароб.

**ІМУНІТЭ́Т** (*ням.* Immunität, ад *лац.* immunitas, -atis = вызваленне ад чаго-н.) — 1) непадатлівасць арганізма якім-н. заразным хваробам (напр. прыроджаны і.); 2) выключнае права не падпарадкоўвацца некаторым законам, якое даецца пэўным асобам (напр. дыпламатычны і.); 3) *перан.* здольнасць супрацьстаяць чаму-н., захоўваючы спакой і абыякавасць.

**ІНАВА́ЦЫЯ** (*лац.* innovatio) — 1) наваўвядзенне, абнаўленне (напр. тэхнічная і.); 2) новая з'ява ў мове (напр. лексічная і.).

**ІНАЎГУРА́ЦЫЯ** (*лац.* inauguratio = пачатак) — урачыстая працэдура ўступлення на пасаду кіраўніка дзяржавы.

**ІНВА́ЗІЯ** (*лац.* invasio = напад) — заражэнне чалавека або жывёлы паразітамі жывёльнага паходжання (глістамі, насякомымі і інш.).

**ІНВА́ЙРАНМЕНТ** (*англ.* environment = акружэнне, наваколле) — від сучаснага мастацтва, які спалучае твор і адначасова мастацкае дзеянне, скіраваныя на арганізацыю прасторы, што дае магчымасць гледачу адчуваць сябе арганічна ўключаным у дзею праз аўдыя-візуальныя, кінетычныя і іншыя сродкі ўздзеяння і сувязі; узнік у ЗША і Еўропе ў 1960-я гады як вынік развіцця *поп-арту* і *постканструктывізму*.

**ІНВАЙРАНМЕНТАЛІ́ЗМ** (*англ.* environmentalism, ад environment = акружэнне, наваколле) — плынь у геаграфіі, якая адводзіць геаграфічнаму асяроддзю вырашальную ролю ў развіцці грамадства і грамадскай вытворчасці.

**ІНВАЛІ́Д** (*лац.* invalidus = бяссільны, слабы) — чалавек, які страціў працаздольнасць у выніку ранення, хваробы ці калецтва.

**ІНВЕКТЫ́ВА** [*лац.* invectiva (oratio) = лаянкавая (прамова)] — рэзкае выступленне супраць каго-н., чаго-н.; зневажальная прамова, выпад.

**ІНВЕНТА́Р** (*п.-лац.* inventarium = вопіс) — 1) сукупнасць рэчаў, прылад, якія складаюць маёмасць прадпрыемства, установы, арганізацыі (напр. школьны і., спартыўны і.); 2) дакладны спіс гэтай маёмасці, вопіс, рэестр (напр. скласці і.).

**ІНВЕНТАРЫЗА́ЦЫЯ** (*ням.* Inventarisation, ад *п.-лац.* inventarium = вопіс) — перыядычная праверка наяўнасці і стану маёмасці прадпрыемства, установы, арганізацыі шляхам падліку, вопісу яе.

**ІНВЕ́РСІЯ** (*лац.* inversio = перастаноўка) — 1) *лінгв.* змяненне звычайнага парадку слоў і словазлучэнняў у сказе для надання фразе пэўнай стылістычнай афарбоўкі; 2) *мат.* парушэнне нармальнага парадку двух элементаў у перастаноўцы; 3) *метэар.* павышэнне тэмпературы паветра ў атмасферы з вышынёй замест звычайнага яе паніжэння.

**ІНВЕ́СТАР** (*англ.* investor, ад *лац.* investire = адзяваць) — асоба, арганізацыя або дзяржава, якія ажыццяўляюць *інвестыцыю.*

**ІНВЕСТЫ́ЦЫЯ** (*ням.* Investition, ад *лац.* investire = адзяваць) — доўгатэрміновае ўкладанне капіталу ў якое-н. прадпрыемства, каб атрымаць прыбытак.

**ІНГАЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* inhalatio = удыханне) — лячэнне верхніх дыхальных шляхоў удыханнем лекавых рэчываў, распыленых пры дапамозе спецыяльных апаратаў.

**ІНГРЭДЫЕ́НТ** (*лац.* ingrediens, -ntis = які ўваходзіць) — 1) састаўная частка хімічнага злучэння або сумесі; 2) *перан.* састаўная частка чаго-н. (напр. і. займальнасці ў белетрыстыцы).

**ІНГУМА́ЦЫЯ** (*англ.* inhumation, ад *лац.* inhumare = накрываць зямлёй) — пахаванне нябожчыка паводле абраду трупапалажэння ў грунтавой магіле (параўн. *крэмацыя*).

**ІНДАСАМЕ́НТ** (*ням.* Indossament, ад *лац.* in = на + dorsum = спіна) — перадатачны надпіс на адвароце *вэксаля, чэка* і іншых каштоўных папер, які сведчыць аб пераходзе правоў па гэтых дакументах іншай асобе.

**ІНДАСА́НТ** (*ням.* Indossant, ад *лац.* in = на + dorsum = спіна) — асоба, якая робіць на адвароце *вэксаля, чэка* або

іншай каштоўнай паперы перадатачны надпіс (*індасамент*).

**ІНДАСА́Т** (*ням.* Indossat, ад *лац.* in = на + dorsum = спіна) — асоба, якой перадаецца *вэксаль, чэк* або іншая каштоўная папера праз перадатачны надпіс (*індасамент*).

**ІНДУІ́ЗМ** (*англ.* hinduism, ад *санскр.* hindumata) — рэлігія большасці насельніцтва Індыі, звязаная з культам багоў Вішну і Шывы.

**ІНДУ́КЦЫЯ** (*лац.* inductio = увядзенне) — спосаб разважання ад прыватных фактаў да агульных вывадаў (проціл. *дэдукцыя*).

**ІНДУ́СТРЫ́Я** (*фр.* industrie, ад *лац.* industria = дзейнасць) — фабрычна-заводская прамысловасць з машыннай тэхнікай (напр. цяжкая і., лёгкая і.).

**ІНДУСТРЫЯЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* industrialisation, ад *с.-лац.* industrialis = прамысловы) — працэс стварэння буйной машыннай вытворчасці ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у першую чаргу ў прамысловасці.

**ІНДУСТРЫЯ́ЛЬНЫ** (*с.-лац.* industrialis = прамысловы) — звязаны з *індустрыяй*, яе развіццём; прамысловы (напр. і. раён, і-ыя краіны).

**ІНДЫВІ́Д** гл. *індывідуум.*

**ІНДЫВІДУАЛІ́ЗМ** (*фр.* individualisme, ад *лац.* individuus = непадзельны) — 1) тып светапогляду, у аснове якога ляжыць супрацьпастаўленне асобы (*індывідуума*) грамадству; 2) імкненне да выражэння сваёй асобы, індывідуальнасці ў супрацьпастаўленні сябе калектыву; паводзіны, якія выражаюць такое імкненне.

**ІНДЫВІДУАЛІ́СТ** (*фр.* individualiste, ад *лац.* individuus = непадзельны) — чалавек, які праяўляе *індывідуалізм* у поглядах, паводзінах.

**ІНДЫВІДУА́ЛЬНЫ** (*лац.* individuel, ад *лац.* individuus = непадзельны) — 1) уласцівы толькі адной асобе (*індывідууму*), асабісты (напр. і. густ, і. падыход); 2) які знаходзіцца ў асабістым карыстанні, не калектыўны (напр. і. транспарт); 3) асобны, адзінкавы (напр. і. выпадак).

**ІНДЫВІ́ДУУМ, ІНДЫВІ́Д** (*лац.* individuum) — 1) кожны асобна ўзяты жывы арганізм; 2) асобны чалавек сярод іншых людзей, асоба.

**ІНДЫКА́ТАР** (*лац.* indicator = паказальнік) — 1) прыбор для вымярэння фізічных велічынь (ціску, нагрузкі і інш.), а таксама для адлюстравання ходу працэсаў або стану аб'екта назірання (напр. акустычны і.); 2) рэчыва, якое дазваляе сачыць за станам асяроддзя або хімічным працэсам.

**ІНДЫФЕРЭ́НТНЫ** (*лац.* indifferens, -ntis) — абыякавы, раўнадушны да каго-н., чаго-н. (напр. і. тон, і-ыя адносіны).

**І́НДЭКС** (*лац.* index) — 1) лічбавы паказчык, які выражае змены якой-н. эканамічнай з'явы (напр. і. цэн); 2) лічбавы або літарны паказчык, які змяшчаецца звычайна ўнізе літары, што ўваходзіць у матэматычны выраз; 3) умоўнае абазначэнне ў сістэме якой-н. класіфікацыі (напр. паштовы і.).

**ІНДЭКСА́ЦЫЯ** (*фр.* indexation, ад *лац.* index = указальнік) — 1) абазначэнне чаго-н. з дапамогай сістэмы ўмоўных (лічбавых, літарных або змешаных) знакаў, індэксаў (напр. паштовая і.); 2) характарыстыка якога-н. дасягнутага ўзроўню, якая вызначаецца шляхам разліку велічынь (напр. і. рэальных даходаў); 3) пераразлік велічыні грашовага змяшчэння ўкладаў, каштоўных папер у залежнасці ад узроўню інфляцыі.

**ІНДЭМНІТЭ́Т** (*ням.* Indemnität, ад *лац.* indemnitas, -atis = = пакрыццё страт) — 1) пакрыццё страт, кампенсацыя (звычайна ў міжнародным праве); 2) звальненне дэпутатаў ад адказнасці за парламенцкую дзейнасць (выступленні, гласаванне і інш.).

**ІН'Е́КЦЫЯ** (*лац.* injectio = укідванне) — 1) увядзенне лякарства ў тканкі і поласці арганізма шляхам упырсквання; 2) дадатковыя сродкі, якія ўліваюцца ў пэўную сферу эканамічнага жыцця (інвестыцыі, урадавыя закупкі тавараў і паслуг, экспарт).

**ІНЕ́РТНЫ** (*лац.* iners, -rtis) —1) які знаходзіцца ў стане спакою або руху, не паддаючыся ўздзеянню знешняй сілы (напр. і-ая маса); 2) *перан.* бяздзейны, безыніцыятыўны (напр. і. чалавек).

**ІНЕ́РЦЫЯ** (*лац.* inertia = нерухомасць, бяздзейнасць) — 1) уласцівасць цела захоўваць стан спакою або раўнамернага прамалінейнага руху, пакуль якая-н. знешняя

прычына не выведзе яго з гэтага стану (напр. ляцець па інерцыі); 2) *перан.* вяласць, бяздзейнасць, коснасць (напр. і. мыслення, і. быту).

**ІНЖЫНІ́РЫНГ** (*англ.* engineering, ад *лац.* ingenium = вынаходлівасць, выдумка) — сфера дзейнасці па распрацоўцы аб'ектаў прамысловасці, іх інфраструктуры і інш., перш за ўсё ў форме прадастаўлення на камерцыйнай аснове розных інжынерна-кансультацыйных паслуг.

**ІНІЦЫЯ́ТАР** (*фр.* initiateur, ад *лац.* initiare = пачынаць) — асоба, група асоб або арганізацыя, якім належыць пачын у якой-н. справе.

**ІНІЦЫЯТЫ́ВА** (*фр.* initiative, ад *лац.* initiare = пачынаць) — 1) самастойны пачын у якой-н. справе, абумоўлены ўнутраным пабуджэннем да дзеяння (напр. праявіць ініцыятыву); 2) вядучая роля ў якіх-н. дзеяннях (напр. узяць ініцыятыву ў свае рукі); 3) здольнасць да самастойных актыўных дзеянняў, прадпрымальнасць (напр. выхаванне ініцыятывы).

**ІНКАРПАРА́ЦЫЯ** (*лац.* incorporatio = уключэнне) — 1) далучэнне, уключэнне ў свой склад чаго-н. (напр. і. новых раёнаў); 2) *юр.* сістэматызацыя выдадзеных у розны час законаў па асобных галінах права без унясення змен у іх змест.

**ІНКА́СА** (*іт.* incasso) — аперацыя атрымання банкам грошай па розных дакументах ад імя кліента і залічэння іх на яго банкаўскі рахунак.

**ІНКАСА́ТАР** (ад *іт.* incassare = *літар.* класці ў скрыню) — службовая асоба, якая займаецца прыёмам грошай ад гандлёвых прадпрыемстваў, арганізацый для здачы іх у банк.

**ІНКО́ГНІТА** (*іт.* incognito, ад *лац.* incognitus = непазнаны, невядомы) — 1) таемна, скрытна, хаваючы сваё імя (напр. з'явіцца і.); 2) прабыванне пад выдуманым імем (напр. захоўваць сваё і.); 3) асоба, якая ўтойвае сваё сапраўднае імя (напр. сустрэцца з і.).

**ІНКРУСТА́ЦЫЯ** (*лац.* incrustatio = пакрыццё чым-н.) — узоры, малюнкі на паверхні якога-н. прадмета з урэзаных у яе кавалачкаў дрэва, косці, перламутру і інш.

**ІНКРЫМІНАВА́ЦЬ** (*с.-лац.* incriminare) — прад'яўляць каму-н. абвінавачванне ў чым-н. (напр. і. пакражу).

**ІНСА́ЙД** (*англ.* inside = *літар.* унутры) — гулец у футбольнай або хакейнай камандзе, які займае ў лініі нападу становішча паміж крайнім і цэнтральным гульцамі.

**ІНСА́ЙДЭР** (*англ.* insider) — фізічная асоба, якая мае інфармацыю аб справах (стане, дзейнасці) фірмы, прадпрыемства (дырэктар, менеджэр, бухгалтар і інш.).

**ІНСІНУА́ТАР** (*лац.* insinuator = які тайна пралазіць) — той, хто карыстаецца метадам *інсінуацый*; паклёпнік.

**ІНСІНУА́ЦЫЯ** (*лац.* insinuatio = ліслівасць, падлашчванне) — злосная выдумка, паклёп з мэтай зняславіць каго-н.

**ІНСПЕ́КТАР** (*лац.* inspector = наглядальнік) — службовая асоба, якая ажыццяўляе кантроль за правільнасцю дзейнасці падведамасных органаў і асоб.

**ІНСПЕ́КЦЫЯ** (*лац.* inspectio = нагляд) — 1) кантроль за правільнасцю дзейнасці падведамасных органаў і асоб, за выкананнем якіх-н. правіл (напр. правесці інспекцыю); 2) кантрольны орган, які сочыць за выкананнем устаноўленых правіл (напр. дарожная і., пажарная і.).

**ІНСПІРАВА́ЦЬ** (*лац.* inspirare) — нагаворамі, падбухторваннем выклікаць што-н. (напр. і. пратэст).

**ІНСПІРА́ЦЫЯ** (*лац.* inspiratio) — 1) падгаворванне, падбухторванне; 2) *мед.* удых, удыханне (параўн. *экспірацыя*).

**ІНСТАЛЯ́ЦЫЯ** (*англ.* installation) — твор мастацтва, які ўяўляе сабой аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, канструкцыю з розных прадметаў.

**ІНСТА́НЦЫЯ** (*лац.* instantia = непасрэдная блізкасць) — ступень, звяно ў супадпарадкаванні дзяржаўных, прафсаюзных, судовых і іншых органаў (напр. вышэйшая і., судовая і.).

**ІНСТРУКТАВА́ЦЬ** (*лац.* instruere) — даваць кіроўныя ўказанні, *інструкцыі* адносна вядзення справы або выканання абавязкаў.

**ІНСТРУ́КТАР** (*лац.* instructor = арганізатар) — 1) службовая асоба, якая *інструктуе* падведамасныя ўстановы, грамадскія арганізацыі; 2) спецыяліст, які вучыць каму-н. майстэрству, дапамагае правільна наладзіць якую-н. справу (напр. і. фізкультуры, і. па стральбе).

**ІНСТРУКТЫ́ЎНЫ** (*фр.* instructif, ад *лац.* instruere = настаўляць) — 1) які змяшчае ў сабе кіроўныя ўказанні, *інструкцыі* 1 (напр. і-ая размова); 2) які дае станоўчы вынік, выніковы (напр. і-ая праца).

**ІНСТРУ́КЦЫЯ** (*лац.* instructio = настаўленне, наказ) — 1) кіроўныя ўказанні, падрабязныя настаўленні, як выконваць што-н. (напр. і. па тэхніцы бяспекі); 2) правілы карыстання машынай, прыборам, прамысловым вырабам.

**ІНСТРУМЕ́НТ** (*лац.* instrumentum = прылада) — 1) прылада для выканання якой-н. работы, а таксама сукупнасць такіх прылад (напр. слясарны і., хірургічны і.); 2) устройства для ўтварэння музычных гукаў (напр. духавыя інструменты, струнныя інструменты); 3) *перан.* сродак для дасягнення чаго-н. (напр. і. пазнання).

**ІНСТЫ́НКТ** (*лац.* instinctus = пабуджэнне) — 1) прыроджаная здольнасць жывёльных арганізмаў рабіць бессвядомыя мэтанакіраваныя дзеянні па непасрэднаму пабуджэнню (напр. і. самазахавання); 2) *перан.* неўсвядомленая цяга, пачуццё (напр. мацярынскі і.); 3) *перан.* унутранае чуццё, прадчуванне чаго-н. (напр. і. страху).

**ІНСТЫТУ́Т** (*фр.* institute, ад *лац.* institutum = устанаўленне) — 1) назва некаторых вышэйшых навучальных і навукова-даследчых устаноў (напр. педагагічны і., і. мовазнаўства); 2) сукупнасць норм у якой-н. галіне грамадскіх адносін (напр. і. шлюбу).

**ІНСУ́ЛЬТ** (*лац.* insultus = прыступ, скачок) — *мед. апаплексія* галаўнога мазгу, якая суправаджаецца раптоўнай стратай прытомнасці і паралічамі.

**ІНТАНА́ЦЫЯ** (*фр.* intonation, ад *лац.* intonare = гучна вымаўляць) — 1) рытміка-меладычны лад мовы, чаргаванне павышэнняў і паніжэнняў тону голасу пры вымаўленні (напр. пытальная і.); 2) манера вымаўлення, якая выражае пачуцці таго, хто гаворыць (напр. раздражнёная і.); 3) ступень дакладнасці перадачы вышыні гукаў пры музычным выкананні (напр. чыстая і.).

**ІНТАРЭ́С** (*польск.* interes, ад *с.-лац.* interesse) — 1) цяга да чаго-н., зацікаўленасць чым-н. (напр. і. да літаратуры); 2) карысць, выгада; патрэбнасць (напр. практычны і.).

**ІНТРАВЕ́РТ** (*англ.* introvert, ад *лац.* intro = унутр + vertere = паварочваць) — *псіх.* чалавек, псіхічны склад якога характарызуецца засяроджанасцю на сваім унутраным свеце, замкнутасцю (проціл. *экстраверт*).

**ІНТРАНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* intronisation, ад *лац.* in- = на + + thronus = трон) — урачыстае ўзвядзенне на прастол зноў абранага рымкага *папы* або *патрыярха*.

**ІНТРАСПЕ́КЦЫЯ** (*ням.* Introspektion, ад *лац.* introspectare = глядзець унутр) — метад вывучэння псіхічнага жыцця чалавека саманазіраннем.

**ІНТРЫ́ГА** (*фр.* intrigue, ад *лац.* intricare = заблытваць) — 1) скрытыя непрыстойныя дзеянні з мэтай нашкодзіць каму-н.; нагаворы, падкопы; 2) развіццё дзеяння і спосаб яго арганізацыі ў літаратурным творы пры дапамозе складаных перыпетый.

**ІНТРЫГА́Н** (*фр.* intrigant, ад *лац.* intricare = заблытваць) — той, хто робіць *інтрыгі* 1; нагаворшчык.

**ІНТУІТЫ́ЎНЫ** (*фр.* intuitif, ад *лац.* intuitus = унутраны) — заснаваны на *інтуіцыі* (проціл. *дыскурсіўны*).

**ІНТУ́ІЦЫЯ** (*фр.* intuition, ад *лац.* intuitus = унутраны) — неўсвядомленае чуццё, заснаванае на папярэднім вопыце, якое накіроўвае на правільныя дзеянні; прадбачлівасць, здагадка.

**ІНТЫ́МНЫ** (*фр.* intime, ад *лац.* intimus = самы глыбокі, унутраны) — 1) глыбока асабісты, патаемны, сардэчны (напр. і-ыя перажыванні); 2) блізкі, прыязны, таварыскі, пазбаўлены афіцыйнасці (напр. і-ая абстаноўка).

**ІНТЫФА́ДА** (*ар.* intifada = *літар.* вытрасанне) — рух арабскага супраціўлення на занятых Ізраілем тэрыторыях Палестыны, які ўзнік у канцы 80-х гадоў XX ст.

**ІНТЭГРА́ЦЫЯ** (*лац.* integratio = узнаўленне) — аб'яднанне ў адно цэлае якіх-н. частак, элементаў (напр. эканамічная і.).

**ІНТЭЛЕ́КТ** (*лац.* intellectus = разуменне) — здольнасць чалавека мысліць, разважаць; узровень разумовага развіцця (напр. высокі і.).

**ІНТЭЛЕКТУА́Л** (*лац.* intellectualis = разумовы) — чалавек з высокаразвітым *інтэлектам*; работнік разумовай працы.

**ІНТЭЛІГЕ́НТ** (*лац.* intelligens, -ntis = які разумее, ведае) — асоба, якая належыць да *інтэлігенцыі*, чалавек разумовай працы.

**ІНТЭЛІГЕ́НЦЫЯ** (*лац.* intelligentia = разуменне) — сацыяльны слой людзей, які складаюць работнікі разумовай працы са спецыяльнымі ведамі ў розных галінах навукі, тэхнікі і культуры (вучоныя, настаўнікі, урачы, інжынеры, артысты і інш.).

**ІНТЭЛСА́Т** [*англ.* INTELSAT, ад I(nternational) T(elecommunication) S(atellites) = міжнародныя сувязныя спадарожнікі] — міжнародная арганізацыя па стварэнні і эксплуатацыі глабальнай камерцыйнай спадарожнікавай сувязі.

**ІНТЭНСІ́ЎНЫ** (*п.-лац.* intensivus, ад *лац.* intensio = напружанне) — 1) узмоцнены, напружаны, які дае высокую прадукцыйнасць (напр. і-ая праца, і-ае развіццё жывёлагадоўлі); 2) *перан.* яскравы, насычаны (пра колер).

**ІНТЭНСІФІКА́ЦЫЯ** (*фр.* intensification, ад *лац.* intensio = = напружанне + facere = рабіць) — павелічэнне напружанасці, прадукцыйнасці, узмацненне дзейнасці (напр. і. вытворчасці).

**ІНТЭРВА́Л** (*лац.* intervallum) — 1) прамежак паміж чым-н. у прасторы або ў часе (напр. інтэрвалы паміж радкамі, трохмінутны і.); 2) *муз.* суадносіны двух тонаў па вышыні.

**ІНТЭРВ'Ю́** (*англ.* interview) — прызначаная для друку (радыё, тэлебачання) гутарка карэспандэнта з якой-н. асобай у форме пытанняў і адказаў на актуальныя тэмы (напр. браць і.).

**ІНТЭР'Е́Р** (*фр.* intérieur = унутраны) — 1) унутраная частка будынка, памяшкання, а таксама яго архітэктурнае і мастацкае афармленне (напр. і. музея, і. станцыі метро); 2) унутраная будова органаў і тканак жывёлы (параўн. *экстэр'ер*).

**ІНТЭРНАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** (*п.-лац.* internationalis, ад *лац.* inter = паміж + natio, -onis = народ) — міжнародны (напр. і-ыя сувязі).

**ІНТЭРНІ́РАВАЦЬ** (*ням.* internieren, ад *лац.* internus = = унутраны) — прымусова затрымліваць (уладамі дзяржаў, што ваююць) і пасяляць у спецыяльных месцах грамадзян варожай дзяржавы, а таксама раззбройваць на сваёй тэрыторыі (уладамі нейтральных дзяржаў) вайсковыя часці дзяржаў, якія знаходзяцца ў стане вайны.

**ІНТЭРНЭ́Т** [*англ.* internet, ад inter(national) = = міжнародны + net = сетка] — *інф.* сусветная інфармацыйная камп'ютэрная сетка, якая аб'ядноўвае мноства некамерцыйных камп'ютэрных сетак і *камп'ютэраў*, што абменьваюцца інфармацыяй.

**ІНТЭРПО́Л** (*фр.* interpol, ад Organisation internationale de police criminalle) — міжнародная арганізацыя крымінальнай паліцыі, створаная групай заходніх дзяржаў.

**ІНТЭРПРЭТА́ЦЫЯ** (*лац.* interpretatio = растлумачванне) — 1) тлумачэнне, раскрыццё сэнсу чаго-н. (напр. і. тэксту, і. закона); 2) творчае раскрыццё вобраза або музычнага твора выканаўцам (артыстам, музыкантам і інш.).

**ІНТЭРФЕРЭ́НЦЫЯ** (ад *лац.* inter = паміж + ferens, -ntis = = які нясе, пераносіць) — 1) *фіз.* узаемнае ўзмацненне або аслабленне хваль (светлавых, гукавых, электрамагнітных) пры іх накладванні адна на другую; 2) *біял.* узаемадзеянне *віруса* з клеткамі арганізма, у выніку чаго клеткі пачынаюць выпрацоўваць бялковае рэчыва, што падаўляе развіццё іншых вірусаў; 3) *лінгв.* узаемапранікненне моўных элементаў у выніку кантактавання моў.

**ІНТЭРФЭ́ЙС** (*англ.* interface, ад *лац.* inter = паміж + *англ.* face = твар) — сістэма уніфікаваных сувязей і сігналаў у вылічальнай тэхніцы, праз якія ўстройствы вылічальнай сістэмы злучаюцца паміж сабой.

**ІНФА́ЙТЫНГ** (*англ.* infighting, ад in = унутр + fight = = бой) — бой на блізкай дыстанцыі ў боксе.

**ІНФАНТЫ́ЛЬНЫ** (*лац.* infantilis = дзіцячы) — 1) уласцівы дзіцячаму ўзросту, недаразвіты (напр. і. выгляд); 2) *перан.* бестурботны, легкадумны (напр. і. чалавек).

**ІНФА́РКТ** (*лац.* infarctus = набіты, напоўнены) — амярцвенне тканак якога-н. органа з-за адсутнасці цёку крыві ў артэрыях пры спазме або закупорцы (напр. і. сардэчнай мышцы).

**ІНФАРМА́ЦЫЯ** (*лац.* informatio = паведамленне, растлумачванне) — 1) паведамленне аб становішчы спраў у якой-н. галіне; сукупнасць якіх-н. звестак (напр. газетная і.); 2) звесткі аб навакольным свеце, працэсах, з'явах, падзеях, якія ў ім працякаюць, што ўспрымаюцца чалавекам або спецыяльнымі ўстройствамі.

**ІНФЕ́КЦЫЯ** (*лац.* infectio) — заражэнне арганізма хваробатворнымі мікробамі.

**ІНФЛЯ́ЦЫЯ** (*англ.* inflation, ад *лац.* inflatio = уздуцце) — абясцэньванне папяровых грошай у выніку выпуску іх для абарачэння ў памерах, якія перавышаюць патрэбы тавараздвароту.

**ІНФРАСТРУКТУ́РА** (ад *лац.* infra = пад + structura = будова) — сукупнасць прадпрыемстваў, устаноў, сістэм кіравання, сувязі і інш., якія забяспечваюць дзейнасць грамадства або якой-н. яго сферы (напр. і. грамадства, і. транспарту, і. энергазабеспячэння).

**ІНЦЫДЭ́НТ** (*лац.* incidens, -ntis = які здараецца) — выпадак, здарэнне (звычайна непрыемнае), непаразуменне, сутычка (напр. і. на граніцы, і. вычарпаны).

**ІПАСТА́СЬ** (*гр.* hypostasis = сутнасць) — 1) адна з асоб хрысціянскай тройцы (бог выступае ў трох іпастасях: Бог Бацька, Бог Сын і Бог Дух Святы); 2) *перан.* тое, што цесна далучаецца да каго-н., чаго-н. іншага (напр. журналіст у іпастасі адваката).

**ІПАТЭ́КА** (*гр.* hypotheke = заклад) — 1) заклад нерухомай маёмасці (пераважна зямлі, будынкаў) для атрымання пазыкі, а таксама пазыка пад заклад маёмасці; 2) пазыковае пасведчанне аб закладзе нерухомай маёмасці, якое выдаецца банкам пазычальніку.

**ІПАХО́НДРЫЯ** (*гр.* hypochondria) — стан душэўнай прыгнечанасці, які характарызуецца непамерным страхам за сваё здароўе.

**ІРО́НІЯ** (*лац.* ironia, ад *гр.* eironeia = прытворства) — 1) тонкая, скрытая насмешка; 2) *літ.* стылістычны зварот, фраза, у якіх прытворна з мэтай насмешкі сцвярджаецца супрацьлеглае таму, што думаюць аб асобе або прадмеце.

**ІРЫДАДЫЯГНО́СТЫКА** (ад *гр.* iris, -idos = радуга, радужная абалонка + diagnostikos = здольны распазнаваць) — *мед.* распазнаванне хвароб у чалавека па радужнай абалонцы яго вачэй; «вочная» дыягностыка.

**ІСЛА́М** (*ар.* islam = адданне сябе волі алаха) — адна з трох (побач з *хрысціянствам* і *будызмам*) сусветных рэлігій, якая ўзнікла ў VII ст. у Аравіі і пашырылася ў краінах Сярэдняга і Блізкага Усходу, Паўночнай Афрыкі, Паўднёва-Усходняй і Сярэдняй Азіі.

**ІСТЭ́БЛІШМЭНТ** (*англ.* establishment, ад establish = засноўваць) — кіроўная і элітарная група грамадства, а таксама ўся сістэма ўлады і кіраваня.

**ІСТЭРЫ́Я** (*фр.* hysterie, ад *гр.* hystera = матка) — 1) нервовае захворванне, якое праяўляецца ў прыпадках, павышанай раздражняльнасці, сутаргавым смеху са слязамі;

2) *перан.* нервозная ліхаманкавая дзейнасць (напр. ваенная і.).

**ІУДАЇЗМ** (*п.-лац.* iudaismus, ад *лац.* iudaicus = яўрэйскі) — рэлігія, пашыраная сярод яўрэяў; заснавана на Старым Запавеце і Талмудзе; афіцыйная рэлігія Ізраіля.

**ІЎРЫТ** (*ням.* Ivrit, ад *гр.* hebraios = яўрэй) — сучасная мадыфікацыя старажытнаяўрэйскай мовы, афіцыйная мова Ізраіля.

**ІШЭМІЯ** (ад *гр.* ischo = затрымліваю + haima = кроў) — *мед.* малакроўе органа ці асобнага яго ўчастка з-за абмежаванага прытоку крыві пры закупорцы або спазмах артэрыі, якая яго жывіць.

## К

**КААЛІЦЫЯ** (*с.-лац.* coalitio = аб'яднанне, саюз) — аб'яднанне дзяржаў, партый, грамадскіх груп для дасягнення якой-н. агульнай мэты.

**КААПЕРАЦЫЯ** (*лац.* cooperatio = супрацоўніцтва) — 1) форма арганізацыі працы, пры якой значная колькасць людзей удзельнічае ў адным або розных, але звязаных паміж сабой працэсах працы; 2) калектыўнае вытворчае або гандлёвае аб'яднанне, якое ствараецца на сродкі яго членаў (напр. сельскагаспадарчая к., спажывецкая к.).

**КААПТАЦЫЯ** (*с.-лац.* cooptatio = дадатковае выбранне) — увядзенне ў склад выбарнага органа новых членаў без правядзення дадатковых выбараў.

**КААРДЫНАЦЫЯ** (*с.-лац.* coordinatio) — 1) узгадненне, прывядзенне ў адпаведнасць узаемасувязі паміж якімі-н. дзеяннямі, паняццямі, з'явамі; 2) адпаведнасць, узгодненасць дзеянняў, паняццяў, з'яў (напр. дасканалая к. рухаў).

**КАБАЛА** (*тур.* kabala, ад *ар.* kabal = дагавор аб куплі-продажы) — 1) даўгавое абавязацельства ў Вялікім княстве Літоўскім (XIV—XVII стст.); 2) *перан.* поўная, крайне цяжкая эканамічная залежнасць.

**КАБАРЭ** (*фр.* cabaret) — невялікі рэстаран або начны клуб з эстраднай праграмай.

**КАБАТАЖ** (*фр.* cabotage) — прыбярэжнае суднаходства паміж партамі адной краіны.

**КА́БЕЛЬ** (*ням.* Kabel, *гал.* kabel) — провад з асобай ізаляцыяй для падземнай або падводнай перадачы на адлегласць электраэнергіі, для тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, для трансляцыі тэлеперадач і інш.

**КАБІ́НА** (*фр.* cabine) — невялікае памяшканне спецыяльнага прызначэння (напр. к. для тэлефонных размоў, к. грузавіка).

**КАБІНЕ́Т** (*фр.* cabinet) — 1) службовае памяшканне ва ўстанове, на прадпрыемстве для адказнага работніка; 2) рабочы пакой у кватэры; 3) памяшканне, абсталяванае для заняткаў, працэдур (у навучальных установах, паліклініках і інш.); 4) урад у некаторых краінах (напр. к. міністраў).

**КАБРЫЯЛЕ́Т** (*фр.* cabriolet) — 1) лёгкі двухколы экіпаж з адным сядзеннем без козлаў; 2) кузаў легкавога аўтамабіля з адкідным верхам.

**КА́ВА** (*польск.* kawa, ад *ар.* kahva) — тое, што і *кофе.*

**КАВАЛЕ́Р** (*польск.* kawaler < *фр.* cavalier, ад *іт.* cavaliere) — 1) член рыцарскага ордэна ў перыяд сярэдневякоўя; 2) мужчына, які танцуе ў пары з дамай, суправаджае яе на прагулцы і г. д.; 3) нежанаты малады чалавек; 4) асоба, узнагароджаная ордэнам.

**КАВАЛЬКА́ДА** (*фр.* cavalcade, ад *іт.* cavalcata) — група коннікаў, якія едуць разам.

**КАВАРДА́К** (*цюрк.* kavyrdak = смажанае мяса) — сумятня, неразбярыха.

**КАВЕ́РНА** (*лац.* caverna) — 1) *мед.* поласць, якая ўтвараецца ў органах цела ў выніку разбурэння тканкі хваробай, напр. у лёгкіх, печані, нырках; 2) *геал.* пустата, поласць у горнай пародзе.

**КАВЕ́РЫНГ** (*англ.* covering) — водкуп прададзеных раней каштоўных папер, кантрактаў, тавараў для спынення абавязацельстваў па здзелках на тэрмін, заключаных біржавымі спекулянтамі.

**КАВЯ́РНЯ** (*польск.* kawiarnia, ад kawa < *ар.* kahva) — тое, што і *кафэ.*

**КАГО́РТА** (*лац.* cohors, -rtis) — 1) атрад войска ў Старажытным Рыме, які складаў дзесятую частку *легіёна*; 2) *перан.* моцна згуртаваная група людзей, аб'яднаных агульнай мэтай.

**КАДА́СТР** (*фр.* cadastre, ад *с.-лац.* cadastrum = спіс падаткаплацельшчыкаў) — сістэматычны збор звестак аб чым-н., які з'яўляецца асновай для рашэння пэўных народна-гаспадарчых задач (напр. к. зямельны, к. месцанараджэнняў карысных выкапняў).

**КАДР** (*фр.* cadre = рама) — 1) асобны здымак на фота- або кінаплёнцы; 2) асобная сцэна або эпізод з кінафільма.

**КА́ДРЫ** (*фр.* cadres) — 1) пастаянны састаў войск у мірны час (напр. служыць у кадрах); 2) састаў работнікаў якой-н. галіны дзейнасці (напр. тэхнічныя кадры, аддзел кадраў).

**КАДЫФІКА́ЦЫЯ** (*с.-лац.* codificatio) — 1) звядзенне законаў краіны па асобных галінах права ў пэўную сістэму (напр к. законаў аб працы); 2) прывядзенне ў пэўную сістэму сукупнасці якіх-н. абазначэнняў, правіл, палажэнняў.

**КАЗІНО́** (*фр.* casino, ад *іт.* casino = домік) — ігральны дом з рэстаранам і азартнымі гульнямі (картамі, рулеткай і інш.).

**КАЗНА́** (*цюрк.* xazna) — 1) фінансавыя рэсурсы дзяржавы; грашовыя сродкі якой-н. установы; 2) дзяржава як суб'ект пэўных маёмасных правоў і інтарэсаў.

**КАЗУА́ЛЬНЫ** (*лац.* casualis, ад casus = выпадак) — выпадковы, які не паддаецца абагульненню.

**КАЗУІ́СТЫКА** (*фр.* casuistique, ад *лац.* casus = выпадак) — 1) падвядзенне прыватных выпадкаў пад агульную догму як прыём сярэдневяковай схаластыкі і багаслоўя; 2) *перан.* спрыт пры доказах чаго-н. няпраўдзівага, фальшывага; кручкатворства.

**КА́ЗУС** (*лац.* casus = выпадак) — 1) незвычайны, недарэчны выпадак, здарэнне; 2) *юр.* складаная судовая справа.

**КАЙФ** (*ар.* käyf) — стан задавальнення ад розных пачуццёвых уражанняў; прыемная бяздзейнасць і адпачынак.

**КАКА́ВА** (*ісп.* cacao, ад *індз.* kakauatt) — парашок з зярнят шакаладнага дрэва (расце ў трапічных лясах), а таксама напітак з гэтага парашку.

**КАКАІ́Н** (*ісп.* cocaina, ад *індз.* coca = кока) — наркатычнае рэчыва, якое здабываецца з лісця *докі* і ўжываецца як сродак для суцішэння болю і для ўсыплення.

**КАКАФО́НІЯ** (*гр.* kakophonia, ад kakos = дрэнны + phone = гук) — негарманічнае спалучэнне гукаў, непрыемнае для слыху (у музыцы, вершах).

**КАКТЭ́ЙЛЬ** (*англ.* coctail = *літар.* пеўнеў хвост) — 1) напітак з сумесі розных спіртных вырабаў (віна, лікёру, каньяку) з цукрам і вострымі прыправамі; 2) безалкагольны напітак з сумесі малака, фруктовага соку, марожанага.

**КАЛАМБУ́Р** (*фр.* calembour) — гульня слоў, жарт, заснаваны на камічным абыгрыванні блізкіх па гучанні, але розных па значэнні слоў.

**КАЛАНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* colonisation, ад *лац.* colonia = пасяленне) — 1) гвалтоўнае ператварэнне якой-н. краіны ў *калонію* 1; 2) засяленне незанятых зямель перасяленцамі.

**КАЛА́ПС** (*лац.* collapsus = які страціў прытомнасць) — 1) *мед.* раптоўнае моцнае зніжэнне сардэчнай дзейнасці, якое суправаджаецца слабасцю, часам стратай прытомнасці і пагражае смерцю; 2) *астр.* катастрафічнае сцісканне масіўнай зоркі пад удзеяннем сіл прыцяжэння (напр. гравітацыйны к.); 3) татальнае разбурэнне важных жыццядзейных сувязей і цэласці якога-н. утварэння або сістэмы, грамадства або дзяржавы; катастрофа.

**КАЛАРЫ́Т** (*іт.* colorito, ад *лац.* color = колер) — 1) гарманічнае спалучэнне фарбаў, колераў (у карціне, фрэсцы, мазаіцы), якое стварае пэўнае адзінства зместу і формы (напр. светлы к.); 2) *перан.* сукупнасць характэрных рыс, своеасаблівасць чаго-н. (напр. мясцовы к.).

**КАЛАСА́ЛЬНЫ** (*фр.* colossal) — надта вялікі, велізарны (напр. к-ае збудаванне, к-ыя магчымасці).

**КАЛЕ́ГА** (*лац.* collega) — асоба аднолькавай з кім-н. прафесіі, спецыяльнасці, таварыш па працы або занятках.

**КАЛЕ́ГІЯ** (*лац.* collegium = таварыства, супольнасць) — 1) адміністрацыйны, дарадчы або распарадчы орган (напр. к. міністэрства, рэдакцыйная к.); 2) аб'яднанне асоб некаторых прафесій (напр. к. адвакатаў).

**КАЛЕ́ДЖ** (*англ.* college) — назва некаторых вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў.

**КАЛЕЙДАСКО́П** (ад *гр.* kalos = прыгожы + eidos = выгляд + skopeo = гляджу) — 1) аптычная прылада-цацка, у якой можна наглядаць змену розных каляровых узораў; 2) *перан.* хуткая змена чаго-н. (напр. к. уражанняў).

**КАЛЕ́КТАР** (*с.-лац.* collector = збіральнік) — 1) установа, якая займаецца зборам і размеркаваннем чаго-н. па падведамасных арганізацыях (напр. бібліятэчны к.); 2) шы-

рокі канал або труба для збору і адводу вадкасцей або газаў, што паступаюць з іншых каналаў або труб (напр. каналізацыйны к.); 3) падземная галерэя, якая пракладваецца пад паверхняй вуліц для ўкладкі кабеляў або труб (напр. кабельны к.).

**КАЛЕКТЫВІЗМ** (*фр.* collectivisme, ад *лац.* collectivus = збіральны) — таварыскае супрацоўніцтва, заснаванае на свядомым падпарадкаванні асабістых інтарэсаў грамадскім.

**КАЛЁКВІУМ** (*лац.* colloquium = гутарка) — 1) адна з форм вучэбных заняткаў, гутарка выкладчыка са студэнтамі з мэтай выяўлення іх ведаў; 2) навуковая канферэнцыя з абмеркаваннем дакладаў на пэўную тэму.

**КАЛІБР** (*фр.* calibre, ад *ар.* kālib = форма, выгляд) — 1) дыяметр канала ствала агнястрэльнай зброі; 2) дакладны размер якіх-н. прадметаў вытворчасці (напр. к. цвікоў); 3) *перан.* памер, велічыня, форма чаго-н. (напр. таленты рознага калібру).

**КАЛІЗІЯ** (*лац.* collisio) — 1) вострае сутыкненне супрацьлеглых поглядаў, імкненняў, інтарэсаў (напр. жыццёвая к.); 2) адлюстраванне жыццёвых канфліктаў у мастацкім творы (напр. сюжэтная к.); 3) *юр.* разыходжанне паміж асобнымі законамі адной дзяржавы або супярэчнасць законаў, судовых рашэнняў розных дзяржаў.

**КАЛОНІЯ** (*лац.* colonia = пасяленне) — 1) краіна, якая гвалтоўна захоплена і эксплуатуецца якой-н. дзяржавай; 2) пасяленне перасяленцаў з іншай краіны, вобласці; 3) згуртаванне землякоў у чужым горадзе, чужой краіне; 4) месца жыхарства асоб, паселеных разам з пэўнай мэтай (лячэбнай, выхаваўчай, працоўнай); 5) сукупнасць арганізмаў, якія жывуць злучаныя адзін з адным (напр. к. каралаў).

**КАЛОС** (*гр.* kolossos = вялікая статуя) — 1) статуя, калона велізарных памераў (напр. к. Радоскі); 2) *перан.* значная ў якой-н. галіне дзейнасці асоба (напр. к. навукі); *к. на гліняных нагах* — што-н. велічнае з выгляду, але слабае ўнутры, гатовае разваліцца.

**КАЛУМБАРЫЙ** (*лац.* columbarium) — месца для захоўвання урнаў з прахам пасля *крэмацыі*.

**КАЛУМНІСТ** (*англ.* columnist, ад columna = калонка, слупок) — журналіст, аглядальнік, які вядзе пастаянную калонку ў якім-н. друкаваным выданні, напр. у газеце.

**КАЛЬЁ** (*фр.* collier, ад *лац.* collum = шыя) — шыйнае ўпрыгожанне з каштоўных камянёў з падвескамі.

**КАЛЬКУЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* calculatio) — вылічэнне сабекошту прадукцыі, велічыні выдаткаў і інш.

**КАМБАТА́НТ** (*фр.* combattant) — асоба ў міжнародным праве, якая ў час вайны ўваходзіць у склад узброеных сіл і непасрэдна прымае ўдзел у ваенных дзеяннях.

**КАМБІНА́ЦЫЯ** (*лац.* combinatio = злучэнне) — 1) спалучэнне, узаемазвязанае размяшчэнне чаго-н. (напр. к. лічбаў); 2) *перан.* хітрыкі, загадзя абдуманы манеўр для дасягнення якой-н. мэты (напр. спрытная к.); 3) сукупнасць аб'яднаных адной задумай прыёмаў, дзеянняў (напр. шахматная к.); 4) жаночая сарочка, якую надзяваюць непасрэдна пад суконку.

**КАМЕ́ДЫЯ** (*лац.* comoedia, ад *гр.* komodia) — 1) драматычны твор з вясёлым, гумарыстычным або сатырычным зместам; 2) *перан.* прытворства, крывадушнае разыгрыванне якой-н. ролі з пэўнай мэтай (напр. ламаць камедыю).

**КАМЕНТА́РЫЙ** (*лац.* commentarius) — 1) тлумачэнні, паясненні да якога-н. друкаванага тэксту; 2) тлумачальныя і крытычныя заўвагі з выпадку якой-н. падзеі (гістарычнай, палітычнай, спартыўнай і інш.).

**КАМЕНТА́ТАР** (*лац.* commentator) — 1) аўтар *каментарыя* 1 (напр. к. тэксту); 2) журналіст, які вядзе рэпартаж з месца падзей, асвятляе ў друку, на радыё і тэлебачанні пэўнага кола падзей (напр. к. спартыўных перадач, к. па знешнепалітычных пытаннях).

**КА́МЕРА** (*лац.* camera) — 1) памяшканне асобага, спецыяльнага прызначэння (напр. дэзінфекцыйная к., турэмная к.); 2) закрытая прастора ў якой-н. машыне, прыборы, збудаванні (напр. к. фотаапарата, к. шлюза); 3) унутраная гумавая абалонка пад шынай аўтамабіля, пакрышкай мяча, якая напампоўваецца паветрам.

**КАМЕРСА́НТ** (*фр.* commerçant, ад *лац.* commercium = гандаль) — той, хто займаецца *камерцыяй.*

**КАМЕ́РЦЫЯ** (*лац.* commercium) — гандаль, гандлёвыя аперацыі.

**КАМІКА́ДЗЕ** (*яп.* kamikaze = вецер багоў) — 1) лётчык-смяротнік у японскай арміі ў перыяд другой сусветнай вай-

ны, які ішоў на смерць разам з накіраваным на цэль самалётам; 2) *перан.* тэрарыст-самазабойца.

**КАМІ́Н** (*ням.* Kamin < *лац.* caminus, ад *гр.* kaminos = печ) — 1) пакаёвая печ з шырокай адкрытай топкай; 2) электрычны прыбор для абагрэву пакоя, які знешнім выглядам нагадвае такую печ.

**КАМІСІЯНЕ́Р** (*фр.* commissionnaire, ад *лац.* commissio = даручэнне) —пасрэднік у гандлёвых здзелках, асоба, якая выконвае гандлёвыя даручэнні за пэўную плату.

**КАМІТЭ́НТ** (*лац.* committens, -ntis = які даручае) — асоба, якая даручае *камісіянеру* заключыць гандлёвую здзелку.

**КАМПАКТ-ДЫ́СК** (*англ.* compact disk, ад *лац.* compactus = сціснуты, шчыльны + *гр.* diskos = дыск) — аптычны дыск невялікага дыяметра з інфармацыяй, закадзіраванай у лічбавай форме.

**КАМПА́КТНЫ** (*лац.* compactus) — 1) сціснуты шчыльна, без прамежкаў (напр. к-ая маса); 2) *перан.* кароткі, сціслы (напр. к. выклад).

**КАМПАНАВА́ЦЬ** (*лац.* componere) — складаць цэлае з асобных частак (напр. к. нумар часопіса).

**КАМПА́НІЯ¹** (*польск.* kompania, ад *фр.* compagnie) — 1) група асоб, якія разам праводзяць вольны час; 2) гандлёвае або прамысловае аб'яднанне прадпрыемцаў (напр. акцыянерная к., чыгуначная к.).

**КАМПА́НІЯ²** (*фр.* campagne) — 1) сукупнасць ваенных дзеянняў, абмежаваных месцам, часам (напр. зімняя к.); 2) перыяд знаходжання карабля ў плаванні; 3) мерапрыемствы для ажыццяўлення чарговай важнай грамадска-палітычнай або гаспадарчай задачы (напр. выбарчая к., пасяўная к.).

**КАМПЕНСА́ЦЫЯ** (*лац.* compensatio) — аплата, узнагарода за што-н., пакрыццё выдаткаў, страт (напр. грашовая к., к. за нявыкарыстаны адпачынак).

**КАМПЕТЭ́НЦЫЯ** (*лац.* competentia = адпаведнасць, згоднасць) — 1) дасведчанасць у якой-н. справе, у якіх-н. пытаннях; 2) кола паўнамоцтваў, правоў якой-н. установы, асобы (напр. к. суда).

**КАМПІЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* compilatio = крадзеж, аграбленне) — апрацоўка вынікаў чужых даследаванняў без самастойна-

га вывучэння першакрыніц, а таксама сама работа, зробленая такім спосабам.

**КАМПЛІМЕ́НТ** (*фр.* compliment) — пахвала каму-н., сказаная з мэтай зрабіць прыемнае.

**КАМПРАМЕТАВА́ЦЬ** (*фр.* compromettre) — знеслаўляць каго-н. чым-н., наводзіць цень на яго рэпутацыю.

**КАМПРАМІ́С** (*лац.* compromissum) — пагадненне з кім.н. на аснове ўзаемных уступак (напр. пайсці на к.).

**КАМП'Ю́ТЭР** (*англ.* computer, ад *лац.* computare = лічыць, вылічаць) — электронная вылічальная машына.

**КАМУНІКА́БЕЛЬНЫ** (*фр.* communicable, ад *лац.* communicare = аб'ядноўваць) — такі, з якім лёгка ўстанаўліваць кантакты і дамаўляцца аб чым-н. (напр. к. чалавек).

**КАМУНІКА́ЦЫЯ** (*лац.* communicatio) — 1) шлях транспартных зносін (напр. паветраная к., водная к.); 2) лінія сувязі (напр. падземныя камунікацыі); 3) лінія энерга-, газа-, цепла- або водазабеспячэння; 4) абмен думкамі, перадача інфармацыі пры дапамозе мовы.

**КАМУФЛЕ́Т** (*фр.* camouflet) — 1) падземны разрыў артылерыйскага снарада, міны, авіябомбы; 2) *перан.* нечаканая непрыемнасць, няўдача.

**КАМУФЛЯ́Ж** (*фр.* camouflage) — 1) спосаб маскіроўкі, пры якім прадметы, будынкі, ваенная тэхніка фарбуюцца ў плямы featured рознага колеру; 2) *перан.* падманныя дзеянні, маскіроўка якой-н. дзейнасці, ашуканства; 3) *біял.* здольнасць некаторых жывёл прымаць афарбоўку прадметаў навакольнага асяроддзя.

**КАМФАРТА́БЕЛЬНЫ** (*англ.* comfortable) — утульны, з *камфортам* (напр. к-ая гасцініца).

**КАМФО́РТ** (*англ.* comfort) — сукупнасць бытавых выгод, зручнасцей; утульнасць (напр. жыць з камфортам).

**КАМЮНІКЕ́** (*фр.* communiqué) — афіцыйнае паведамленне, пераважна па пытаннях міжнароднага значэння.

**КАНА́Л** (*іт.* canale, ад *лац.* canalis = труба) — 1) штучнае рэчышча, напоўненае вадой (напр. абвадняльны к.); 2) вузкая поласць у выглядзе трубы, трубкі ўнутры чаго-н. (напр к. ствала гарматы); 3) лінія сувязі, камунікацыі (напр. тэлевізійны к.); 4) *перан.* шлях, сродак для дасягнення чаго-н. (напр. дыпламатычныя каналы).

**КАНАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* canalisation, ад *лац.* canalis = труба) — сістэма труб, падземных каналаў для выдалення нечыстот (напр. гарадская к.).

**КАНАНІЗА́ЦЫЯ** (*с.-лац.* canonizatio, ад *гр.* kanonizo = падпарадкоўваю правілу) — 1) залічэнне каго-н. царквою ў святыя; 2) *перан.* узаконьванне, ператварэнне якога-н. правіла ў абавязковае.

**КАНА́ПА** (*польск.* kanapa, ад *фр.* canapé) — від мяккай мэблі для сядзення і ляжання (са спінкай і падлакотнікамі).

**КАНВЕ́НЦЫЯ** (*лац.* conventio = дагавор) — міжнародны дагавор па якім-н. спецыяльным пытанні (напр. к. аб аўтарскім праве, чыгуначная к.).

**КАНВЕ́РСІЯ** (*лац.* conversio = змяненне) — 1) абмен адной валюты на другую па пэўным валютным курсе; 2) перавод прамысловасці і іншых галін эканомікі з вытворчасці ваеннай прадукцыі на вытворчасць грамадзянскай і наадварот.

**КАНВЕРЦІ́РАВАЦЬ** (*лац.* convertere = змяняць, ператвараць) — ажыццяўляць *канверсію.*

**КАНВУ́ЛЬСІЯ** (*лац.* convulsio) — рэзкае неадвольнае скарачэнне мышц, якое суправаджаецца вострым болем; сутарга.

**КАНГЛАМЕРА́Т** (*лац.* conglomeratus = сабраны) — 1) бессістэмнае, механічнае злучэнне чаго-н. разнароднага (напр. к. поглядаў); 2) форма манапалістычнага аб'яднання фірм, кампаній і прадпрыемстваў розных галін з адзіным фінансавым і арганізацыйным кантролем; 3) *геал.* асадачная горная парода, якая складаецца з разнародных сцэментаваных часцінак.

**КАНГРЭ́С** (*лац.* congressus = сустрэча, сход) — 1) з'езд, нарада (звычайна міжнароднага характару); 2) заканадаўчы орган (парламент) у ЗША і некаторых іншых краінах.

**КАНГРЭСМЕ́Н** (*англ.* congressman) — член *кангрэса* 2.

**КАНДЫДА́Т** (*лац.* candidatus = адзеты ў белае) — 1) асоба, якая намячаецца да выбрання, назначэння або да прыёму куды-н. (напр. к. у дэпутаты); 2) малодшая вучоная ступень, якая прысуджаецца на падставе абароны дысертацыі (напр. к. філалагічных навук).

**КАНДЫ́ЦЫЯ** (*лац.* conditio = умова, патрабаванне) — норма, якасць, якім павінен адпавядаць той ці іншы тавар, матэрыял (напр. пасяўная к. насення).

**КАНДЫЦЫЯНЁР** (*фр.* conditionneur, ад *лац.* conditio = = умова, патрабаванне) — спецыяльная ўстаноўка для забеспячэння патрэбнай тэмпературы, чысціні і вільготнасці паветра ў памяшканні.

**КАНДЭЛЯ́БР** (*фр.* candélabre, ад *лац.* candela = свечка) — падсвечнік з разгалінаваннямі для некалькіх свечак або электрычных лямп у выглядзе свечак.

**КАНДЭНСА́ЦЫЯ** (*лац.* condensatio) — 1) ператварэнне пары, газу ў вадкі стан; 2) назапашванне чаго-н. у вялікай колькасці (напр. к. энергіі).

**КАНІБАЛІ́ЗМ** (*фр.* cannibalisme, ад *ісп.* canibal = канібал < < caribal = караіб) — 1) людаедства; 2) *перан.* лютасць, жорсткасць, варварства (напр. к. нораваў).

**КАНІЦЁЛЬ** (*фр.* cannetille) — 1) вельмі тонкая металічная нітка для вышывання; 2) *перан.* нудная, зацяжная справа, валакіта (напр. разводзіць к.).

**КАНКЛА́Ў** (*лац.* conclave = зачынены пакой) — савет *кардыналаў*, які выбірае рымскага папу.

**КАНКРЭ́ТНЫ** (*лац.* concretus = згушчаны, ушчыльнены) — які рэальна існуе, дакладны, пэўны (проціл. *абстрактны*).

**КАНКУРЭ́НЦЫЯ** (*с.-лац.* concurrentia) — саперніцтва, барацьба за дасягненне найбольшых выгад, пераваг (напр. гандлёвая к.).

**КАНО́Н** (*гр.* kanon = норма, правіла) — 1) асноўнае правіла, палажэнне якога-н. напрамку, вучэння (напр. царкоўныя каноны, каноны класіцызму); 2) тое, што з'яўляецца традыцыйнай, абавязковай нормай (напр. тэхнічныя каноны).

**КАНО́Э** (*англ.* canoe, ад *ісп.* canoa, з *індз.*) — 1) выдзеўбаны човен паўночнаамерыканскіх індзейцаў; 2) лёгкая спартыўная лодка для аднаго або двух чалавек, у якой грабуць адналопасцевым вяслом, стоячы на адным калене.

**КАНСАЛІДА́ЦЫЯ** (*лац.* consolidatio) —1) аб'яднанне асобных людзей, груп, арганізацый, грамадскіх сіл для барацьбы за агульныя мэты; 2) ператварэнне кароткатэрміновых даўгавых абавязацельстваў у доўгатэрміновыя (напр. к. пазык).

**КАНТЭ́КСТ** (*лац.* contextus = злучэнне, сувязь) — закончаная ў сэнсавых адносінах частка тэксту, якая дазваляе ўдакладніць значэнне кожнага слова, што ў яго ўваходзіць.

**КАНТЭСТА́ЦЫЯ** (*фр.* contestation) — 1) дыскусія, спрэчка па грамадскіх і мастацкіх праблемах; 2) выражэнне пратэсту, асабліва ў палітычным руху, творчасці, рэлігіі; 3) саперніцтва, конкурс.

**КАНФАРМІ́ЗМ** (*фр.* conformisme, ад *лац.* conformis = падобны) — прыстасавальніцтва, пасіўнае прыняцце існуючага парадку і пануючых поглядаў, беспрынцыповае прытрымліванне таго, што насаджаецца сілай аўтарытэту.

**КАНФЕДЭРА́ЦЫЯ** (*лац.* confoederatio) — аб'яднанне, саюз якіх-н. грамадскіх арганізацый або дзяржаў.

**КАНФЕРАНСЬЕ́** (*фр.* conférencier = дакладчык, лектар) — артыст, які вядзе канцэртна-эстраднае прадстаўленне, аб'яўляючы нумары праграмы і займаючы гледачоў у перапынках паміж нумарамі.

**КАНФЕРЭ́НЦЫЯ** (*лац.* conferentia) — нарада прадстаўнікоў якіх-н. дзяржаў, арганізацый.

**КАНФЕ́СІЯ** (*лац.* confessio) — разнавіднасць якога-н. веравучэння ў спалучэнні з уласцівай яму абраднасцю; веравызнанне.

**КАНФІГУРАТЫ́ЎНЫ** [*англ.* configurative (art) = абстрактнае мастацтва] — які адхіляе адлюстраванне навакольнага свету ў формах самой рэчаіснасці, абстрактны (напр. к-ае мастацтва).

**КАНФІДЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (*фр.* confidentiel, ад confidence = = давер) — які не падлягае агалашэнню, даверны, сакрэтны (напр. к-ая размова, к. тон).

**КАНФІСКА́ЦЫЯ** (*лац.* confiscatio) — прымусовае бязвыплатнае адабранне маёмасці, грошай на карысць дзяржавы.

**КАНФЛІ́КТ** (*лац.* conflictus = сутыкненне) — 1) рэзкае сутыкненне процілеглых поглядаў, імкненняў, сіл у прыродзе і грамадстве (напр. сацыяльныя канфлікты, пагранічны к.); 2) супярэчнасць як прынцып узаемаадносін паміж персанажамі літаратурнага твора (напр. драматургічны к.).

**КАНФРАНТА́ЦЫЯ** (*фр.* confrontation, ад *лац.* con = з, разам + frons, -ntis = лоб, фронт) — процiборства, супрацьпастаўленне палітычных прынцыпаў, сацыяльных сістэм.

**КАНФУ́З** (*лац.* confusus) — няёмкае становішча; стан няёмкасці, збянтэжанасці, сораму.

**КАНЦЭ́ПЦЫЯ** (*лац.* conceptio) — 1) сістэма поглядаў, спосаб разумення якіх-н. з'яў (напр. к. вучонага); 2) агульная думка, галоўная ідэя якога-н. твора, навуковай працы (напр. к. артыкула).

**КАНЦЭРАГЕ́ННЫ** (ад *лац.* cancer = рак + *гр.* genos = паходжанне) — здольны выклікаць злаякасныя пухліны (напр. к-ае рэчыва).

**КАНЦЭ́РН** (*англ.* concern, ад *лац.* concernere = змешваць) — адна з складаных форм манапалістычных аб'яднанняў, якая ўключае прадпрыемствы прамысловасці, транспарту, гандлю і банкаўскай сферы.

**КАНЦЭ́СІЯ** (*лац.* concessio) — 1) дагавор аб перадачы замежнай фірме ў эксплуатацыю на пэўны тэрмін прыродных багаццяў, прадпрыемстваў і іншых гаспадарчых аб'ектаў, якія належаць дзяржаве; 2) прадпрыемства, якое арганізавана на аснове такога дагавору.

**КАН'ЮНКТУ́РА** (*с.-лац.* conjunctura) — 1) сукупнасць умоў, становішча, абставіны, якія склаліся ў той ці іншай галіне дзейнасці, напр. у палітыцы, эканоміцы, гандлі, уплываюць на ход якіх-н. падзей, спраў (напр. спрыяльная к.); 2) сукупнасць прымет, якія характарызуюць стан эканомікі, фінансавых адносін за пэўны перыяд развіцця дзяржавы (напр. к. рынку).

**КАПЕЛЬМА́ЙСТАР** (*ням.* Kapelmeister) — кіраўнік тэатральнага, ваеннага, сімфанічнага аркестра.

**КАПІРА́ЙТ** (*англ.* copyright, ад copy = капіраваць + right = = права) — забеспячэнне аўтарскага права на рукапіс, артыкул, кнігу і г. д., а таксама само гэта аўтарскае права.

**КАПІТА́Л** (*ням.* Kapital, ад *лац.* capitalis = галоўны) — 1) сукупнасць сродкаў (маёмасць, грошы), якая прыносіць прыбытак; 2) вялікая сума грошай; 3) *перан.* тое, што ўяўляе сабой вялікую каштоўнасць, важны здабытак (напр. навуковы к., маральны к.).

**КАПІТАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* capitalisation, ад *лац.* capitalis = галоўны) — 1) ператварэнне прыбавачнай вартасці ў *капітал*; 2) вызначэнне каштоўнасці маёмасці па атрыманаму прыбытку; 3) з'яўленне прымет *капіталізму* (у эканоміцы, дзяржаўным ладзе).

**КАПІТАЛІ́ЗМ** (*фр.* capitalisme, ад *лац.* capitalis = галоўны) — грамадскі лад, пры якім асноўныя сродкі вытворчасці належаць класу капіталістаў.

**КАПІТА́ЛЬНЫ** (*лац.* capitalis = галоўны) — грунтоўны, карэнны; вельмі важны (напр. к. рамонт, к-ае даследаванне).

**КАПІТУЛЯ́НТ** (*с.-лац.* capitulans, -ntis) — той, хто адступае перад цяжкасцямі, адмаўляецца ад цвёрдай лініі ў чым-н.

**КАПІТУЛЯ́ЦЫЯ** (*с.-лац.* capitulatio) — 1) спыненне ваенных дзеянняў і здача пераможцу на прадыктаваных ім умовах;; 2) *перан.* адказ ад працягу барацьбы, ад прынцыповай абароны сваіх поглядаў, прызнанне свайго бяссілля ў чым-н. (напр. к. перад цяжкасцямі).

**КАПРЫ́З** (*фр.* caprice, ад *лац.* capra = каза) — 1) беспадстаўнае, але настойлівае патрабаванне, недарэчнае жаданне (напр. жаночы к.); 2) *перан.* што-н. нечаканае, выпадковае (напр. к. моды, к. надвор'я).

**КА́ПСУЛА** (*лац.* capsula = каробачка) — 1) аддзяляльная частка касмічнага лятальнага апарата, якая дасягае паверхні нябеснага цела; 2) абалонка для вадкіх або парашкападобных лякарстваў, якая прыгатаўляецца з крухмалу, жэлаціну і лёгка раствараецца ў арганізме.

**КАПЭ́ЛА** (*польск.* kapela, ад *с.-лац.* capella = капліца) — 1) хор у спалучэнні з аркестрам (напр. дзяржаўная харавая к.); 2) каталіцкая ці англіканская капліца.

**КАРА́Н** (*ар.* qor'ān = чытанне, кніга) — свяшчэнная кніга *ісламу*, у якой змяшчаюцца догматы і палажэнні мусульманскай рэлігіі.

**КАРАНЦІ́Н** (*фр.* quarantaine) — 1) часовая ізаляцыя хворых і асоб, якія мелі з імі зносіны, каб папярэдзіць распаўсюджванне інфекцыі; 2) санітарны пункт для агляду людзей і грузаў, што прыбылі з мясцовасці, дзе ёсць эпідэмія.

**КАРАО́КЕ** (*яп.* karaoke) — запазычаны з Японіі від забавы — непрафесійныя спевы пад музычную фанаграму.

**КАРАТЭ́** (*яп.* karate = *літар.* голымі рукамі) — спартыўная барацьба, якая выкарыстоўвае прыёмы японскай сістэмы самаабароны без зброі, што заснаваны на ўдарах рукамі і нагамі па найбольш уразлівых месцах цела саперніка.

**КАРБЮРÁТАР** (*фр.* carburateur) — прыбор у рухавіку ўнутранага згарання для ўтварэння гаручай сумесі з вадкага паліва і паветра.

**КАРДЫНÁЛ** (*польск.* kardynał, ад *лац.* cardinalis = галоўны) — 1) вышэйшы (пасля папы) духоўны сан у каталіцкай царкве, а таксама асоба, якая мае гэты сан; 2) пеўчая птушка сямейства аўсянкавых з ярка-чырвоным пер'ем, якая водзіцца ў Амерыцы.

**КАРДЫНÁЛЬНЫ** (*лац.* cardinalis = галоўны) — самы важны, асноўны, істотны (напр. к-ыя змены).

**КАРДЫЯГРÁМА** (ад *гр.* kardia = сэрца + gramma = запіс) — графічны паказ на паперы работы сэрца.

**КАРДЫЯЛÓГІЯ** (ад *гр.* kardia = сэрца + logos = вучэнне) — раздзел медыцыны, які вывучае будову, функцыі, хваробы сардэчна-сасудзістай сістэмы і распрацоўвае метады іх лячэння.

**КАРДЭБАЛÉТ** (*фр.* corps de ballet) — калектыў артыстаў балета, які выконвае групавыя танцы.

**КÁРДЭР** (*англ.* carder) — падробшчык крэдытных картак, які выкарыстоўвае іх для набыцця тавараў і паслуг у Інтэрнэт-магазінах.

**КАР'ÉРА** (*іт.* carriera = бег, жыццёвы шлях) — 1) паспяховае прасоўванне наперад у службовай, навуковай або якой-н. іншай дзейнасці; 2) род заняткаў, прафесія (напр. ваенная к.).

**КÁРМА** (*англ.* karma < *санскр.* karma = дзеянне) — 1) адно з асноўных паняццяў індыйскай рэлігійна-філасофскай сістэмы, якое абазначае суму ўчынкаў усякай жывой істоты, што вызначае характар наступных нараджэнняў і пераўвасабленняў; 2) лёс, прадвызначэнне.

**КАРНАВÁЛ** (*фр.* carnaval, ад *іт.* carnavale) — масавае народнае гулянне з вулічнымі шэсцямі, тэатралізаванымі гульнямі, танцамі, маскарадамі (напр. навагодні к.).

**КАРНÍЗ** (*ням.* Karnies) — 1) *архіт.* гарызантальны выступ, які завяршае сцяну будынка або робіцца над вокнамі, дзвярамі; 2) папярочка над акном, дзвярамі для штор, парцьер; 3) вузкі ўступ уздоўж абрывістага схілу гары.

**КАРПАРÁЦЫЯ** (*англ.* corporation, ад *с.-лац.* corporatio = = аб'яднанне) — 1) група асоб, аб'яднаных агульнымі прафесійнымі або саслоўнымі інтарэсамі (напр. радыё-

вяшчальная к.); 2) адна з форм манапалістычнага аб'яднання; акцыянернае таварыства (напр. фінансавая к.).

**КАРТ** (*англ.* cart) — гоначны малалітражны аўтамабіль з матацыклетным рухавіком і без кузава.

**КА́РТА** (*польск.* karta < *лац.* charta, ад *гр.* chartes) — 1) чарцёж зямной паверхні або зорнага неба (напр. геаграфічная к.); 2) ліст паперы, бланк, які трэба запоўніць спецыяльнымі звесткамі (напр. санаторная к.); 3) цвёрды папяровы лісток з умоўнай фігурай, які ў сукупнасці з іншымі лісткамі складае калоду для гульні.

**КАРТАТЭ́КА** (ад *гр.* chartes = ліст паперы + theke = сховішча) — збор картак з якімі-н. даведачнымі матэрыяламі, размешчаных у пэўным парадку, напр. па алфавіту, тэмах, тэрмінах.

**КАРТ-БЛА́НШ** (*фр.* carte blanche = чысты бланк) — 1) чысты бланк, падпісаны асобай, якая дае іншай асобе права запоўніць яго; 2) *перан.* поўная свабода дзеянняў, неабмежаванае паўнамоцтва.

**КА́РТРЫДЖ** (*англ.* cartrige) — 1) кантэйнер для размяшчэння фарбавальнай стужкі і фарбавальнага рэчыва ў капіравальнай тэхніцы; 2) блок, які ўстанаўліваецца ў камп'ютэрнае ўстройства і змяшчае ў памяці пэўныя дадзеныя і праграмы.

**КА́РТЫНГ** (*англ.* carting) — спартыўныя гонкі на аўтамабілях тыпу *карт*, а таксама пляц для такіх гонак.

**КАРТЭ́Ж** (*фр.* cortège) — урачыстае шэсце, выезд (напр. вясельны к.).

**КАРТЭ́ЛЬ** (*фр.* cartel, ад *іт.* cartello) — аб'яднанне буйных прадпрыемстваў якой-н. галіны прамысловасці з мэтай забяспечыць панаванне на рынках збыту (напр. нафтавы к.).

**КАРУ́ПЦЫЯ** (*лац.* corruptio) — подкуп, прадажнасць службовых асоб, палітычных дзеячаў.

**КА́РЫЕС** (*лац.* caries = гніенне) — запаленчы працэс у цвёрдай тканцы зуба, які суправаджаецца гніеннем.

**КАРЫКАТУ́РА** (*іт.* caricatura, ад *лац.* caricare = перагружаць, перабольшваць) — 1) сатырычны паказ з'яў рэчаіснасці ў мастацкай літаратуры, кіно, тэатры, на эстрадзе, а таксама малюнак каго-н., чаго-н. у падкрэслена смешным выглядзе; 2) *перан.* смешнае, вартае жалю падабенства да чаго-н.

**КАРЫФЕ́Й** (*фр.* coryphée, ад *гр.* koryphaios = правадыр) — 1) кіраўнік хору ў старажытнагрэчаскай трагедыі; 2) *перан.* выдатны дзеяч у якой-н. галіне дзейнасці (напр. к. навукі, к. сусветнай літаратуры).

**КАРЭ́КТНЫ** (*лац.* correctus = папраўлены) — 1) ветлівы, тактоўны (напр. к-ая заўвага, к-ыя паводзіны); 2) правільны, дакладны (напр. к. пераклад).

**КАРЭКТЫ́Ў** (*фр.* correctif, ад *лац.* correctus = папраўлены) — частковае змяненне чаго-н., папраўка (напр. унесці карэктывы ў план).

**КАРЭСПАНДЭ́НТ** (*фр.* correspondant, ад *с.-лац.* correspondens, -ntis = які адказвае) — 1) супрацоўнік газеты, часопіса, радыё, тэлебачання, які дасылае ім звесткі пра бягучыя падзеі; 2) асоба, якая вядзе з кім-н. перапіску; 3) асоба або ўстанова (фірма, банк), якая выконвае фінансавыя, камерцыйныя даручэнні для другой асобы або ўстановы.

**КАРЭСПАНДЭ́НЦЫЯ** (*фр.* correspondance, ад *с.-лац.* correspondentia) — 1) паведамленне, допіс, дасланыя ў газету, часопіс; 2) пісьмы, паштова-тэлеграфныя адпраўленні; 3) перапіска паміж асобамі, установамі.

**КАСА́ЦЫЯ** (*лац.* cassatio = адмена, знішчэнне) — 1) перагляд, адмена вышэйшай судовай інстанцыяй прыгавору ніжэйшай (параўн. *апеляцыя* 1); 2) прызнанне выбараў несапраўднымі і адмена іх.

**КАСЕ́ТА** (*англ.* cassette, *фр.* cassette, ад *іт.* cassetta) — 1) святлонепранікальны футляр для захавання святлоадчувальных матэрыялаў (фота- і кінастужак); 2) плоская каробка для магнітафоннай стужкі; 3) прыстасаванне, якое забяспечвае аптымальныя ўмовы для захавання і транспарціроўкі розных прыбораў і матэрыялаў.

**КАСКА́Д** (*фр.* cascade, ад *іт.* cascata) — 1) вадаспад, які падае ўступамі; 2) *перан.* імклівая плынь чаго-н. (напр. к. слоў); 3) цыркавы прыём, які імітуе падзенне з каня, турніка, веласіпеда і інш.; 4) хуткі танец, які суправаджаецца спевамі, у аперэце.

**КАСКАДЗЁР** (*фр.* cascadeur) — 1) выканаўца цыркавога прыёму падзення (*каскаду*); 2) дублёр артыста кіно, які выконвае тэхнічна цяжкія і небяспечныя трукі (бег па стрэхах вагонаў, саскокванне на хаду з каня і інш.).

**КАСМАНА́ЎТ** (ад *гр.* kosmos = Сусвет + nautes = мараплавец) — удзельнік палёту ў *космас.*

**КАСМАНА́ЎТЫКА** (ад *гр.* kosmos = Сусвет + nautike = караблеваджэнне) — тэорыя і практыка палётаў у *космас.*

**КАСМАПАЛІТЫ́ЗМ** (*фр.* cosmopolitisme, ад *гр.* kosmopolites = грамадзянін свету) — ідэалогія, якая прапагандуе адмаўленне ад нацыянальнага суверэнітэту, абыякавыя адносіны да радзімы і нацыянальнай культуры.

**КА́СТА** (*парт.* casta = род, пакаленне, ад *лац.* castus = чысты) — 1) грамадская група ў некаторых краінах Усходу, адасобленая паходжаннем, родам заняткаў і прававым становішчам сваіх членаў (напр. к. жрацоў); 2) *перан.* замкнутая грамадская групоўка, якая ахоўвае свае інтарэсы і адасобленасць (напр. акцёрская к.).

**КА́СТЫНГ** (*англ.* casting) — конкурсны адбор прэтэндэнтаў для ўдзелу ў якім-н. мерапрыемстве, напр. у. здымках фільма, конкурсе прыгажосці.

**КАТАКЛІ́ЗМ** (*гр.* kataklysmos = паводка, патоп) — раптоўны разбуральны пераварот у прыродзе або грамадстве (напр. вулканічныя катаклізмы, рэвалюцыйны к.).

**КАТАЛІЦЫ́ЗМ** (*с.-лац.* catholicismus, ад *гр.* katholikos = галоўны, усеагульны) — адзін з трох найбольш пашыраных напрамкаў у *хрысціянстве* (побач з праваслаўем і *пратэстантызмам*), які ўзначальвае рымскі папа.

**КАТАЛО́Г** (*лац.* catalogus, ад *гр.* katalogos = спіс, пералік) — спіс якіх-н. прадметаў (кніг,' карцін, музейных экспанатаў, тавараў і інш.), складзены ў пэўным парадку (напр. алфавітны к., бібліятэчны к.).

**КАТАСТРО́ФА** (*гр.* katastrophe = пераварот, знішчэнне) — раптоўнае бедства, стыхійная падзея з трагічнымі вынікамі (для чалавека, грамадства, прыроды).

**КАТО́Д** (*гр.* kathodos = шлях уніз, спуск) — *фіз.* электрод з адмоўным зарадам (проціл. *анод*).

**КАТЭГАРЫ́ЧНЫ** (*лац.* categoricus, ад *гр.* kategorikos = які сцвярджае) — рашучы, які не дапускае пярэчанняў (напр. к. загад, к-ае патрабаванне).

**КАТЭГО́РЫЯ** (*лац.* categoria, ад *гр.* kategoria = выказванне, суджэнне) — 1) навуковае паняцце, якое выражае найбольш агульныя і істотныя сувязі з'яў рэчаіснасці (напр. к. прычыннасці); 2) група з'яў, прадметаў або асоб, аб'яднаных агульнымі прыметамі (напр. узроставая к.).

**КАТЭ́ДЖ** (*англ.* cottage) — невялікі жылы дом у прыгарадзе, звычайна з мансардай і зямельным участкам.

**КАТЭХІ́ЗІС** (*гр.* katechesis = вуснае настаўленне) — рэлігійная кніга, якая змяшчае кароткі выклад хрысціянскага веравучэння ў пытаннях і адказах.

**КАУЗА́ЛЬНЫ** (*лац.* causalis) — прычынны, абумоўлены прычыннай сувяззю (напр. к-ыя адносіны).

**КАЎБО́Й** (*англ.* cowboy, ад cow — карова + boy = хлопец) — конны пастух у стэпах заходніх штатаў ЗША.

**КА́ФЕДРА** (*гр.* kathedra = сядзенне) — 1) аб'яднанне выкладчыкаў вучэбных дысцыплін, якія адносяцца да адной галіны навукі, у вышэйшай навучальнай установе; 2) спецыяльнае ўзвышанае месца для прамоўцы, лектара, выкладчыка; 3) узвышэнне, з якога гаворацца пропаведзі ў хрысціянскай царкве.

**КАФЭ́** (*фр.* café) — невялікі рэстаран, дзе прадаюць кофе, чай, закускі, прахаладжальныя напіткі.

**КАФЭТЭ́РЫЙ** (*фр.* cafeterie) — *кафэ* з самаабслугоўваннем.

**КАФЭШАНТА́Н** (*фр.* café chantant = *літар.* кафэ са спевамі) — *кафэ* з эстрадай, дзе выступаюць артысты з песнямі і танцамі лёгкага, часам непрыстойнага характару.

**КАЦІ́РАВАЦЦА** (*фр.* se coter) — 1) быць у абароце на біржы, мець тую або іншую цану (аб каштоўных паперах, таварах, валюце); 2) *перан.* мець тую або іншую ацэнку ў вачах грамадства.

**КАШМА́Р** (*фр.* cauchemar) — 1) цяжкі, жудасны сон з прывідамі; 2) *перан.* што-н. жахлівае, цяжкае, агіднае (напр. кашмары вайны).

**КАШНЭ́** (*фр.* cache-nez, ад cacher = хаваць + nez = нос) — шыйная хустка або шалік.

**КАШПО́** (*фр.* cache-pot, ад cacher = хаваць + pot = гаршчок) — дэкаратыўная ваза, звычайна керамічная, у якую ставяць кветкавы гаршчок.

**КАШТАРЫ́С** (*польск.* kosztorys, ад koszt = кошт) — фінансавы дакумент, дзе вызначаецца план прыбыткаў і выдаткаў.

**КВА́ДРА** (*польск.* kwadra, ад *лац.* quadrum = чатырохвугольнік) — 1) кожная з чатырох фаз Месяца (маладзік, сход, поўня, ветах); 2) *перан.* стадыя, фаза, перыяд (напр. к. жыцця).

**КВАЗА́Р** [*англ.* quasar, ад quasi(stellar) r(adiosource) = квазізоркавая радыекрыніца] — *астр.* зоркападобная крыніца касмічнага выпрамянення, якая сілай святла ў многа разоў пераўзыходзіць Сонца.

**КВАЛІФІКА́ЦЫЯ** (*с.-лац.* qualificatio, ад *лац.* qualitas = = якасць + facio = раблю) — 1) ступень падрыхтаванасці чалавека да якой-н. працы (напр. спецыяліст высокай кваліфікацыі); 2) рабочая прафесія, спецыяльнасць (напр. к. механіка); 3) характарыстыка якасці, ацэнка чаго-н. (напр. к. тавараў масавага ўжытку).

**КВАРТА́Л** (*ням.* Quartal, ад *лац.* quartus = чацвёрты) — 1) чацвёртая частка года (тры месяцы); 2) частка горада, абмежаваная з чатырох бакоў вуліцамі; 3) адзін з участкаў, на якія разбіваецца лес.

**КВІНТЭСЕ́НЦЫЯ** (*лац.* quinta essentia = пятая сутнасць) — аснова, сама сутнасць чаго-н. (напр. к. мастацтва, к. падзеі).

**КВО́РУМ** [*лац.* quorum (praesentia sufficit) = якіх прысутнасць дастатковая] — колькасць прысутных на якім-н. сходзе, пасяджэнні, неабходная для прызнання яго рашэнняў правамоцнымі.

**КВО́ТА** (*с.-лац.* quota, ад *лац.* qout = колькі) — доля, норма чаго-н. дапушчальнага (у сістэме падаткаў, вытворчасці, збыту і інш.).

**КЕ́ГЛІ** (*ням.* Kegel = *літар.* конус) — 1) гульня, якая заключаецца ў збіванні шарам драўляных або пластмасавых слупкоў, расстаўленых на спецыяльным памосце; 2) драўляныя або пластмасавыя слупкі (кеглі) для гэтай гульні.

**КЕ́ДЫ** (*англ.* Kads = уласная імя) — лёгкі спартыўны абутак з прарызіненай тканіны на мяккіх рабрыстых гумавых падэшвах (параўн. *буцы*).

**КЕЙС** (*англ.* case) — плоскі чамаданчык для нашэння дакументаў.

**КЕКС** (*англ.* cakes = піражныя) — кандытарскі выраб са здобнага цеста з разынкамі або карынкай.

**КЕ́ЛЬНЕР** (*ням.* Kellner) — афіцыянт рэстарана, піўной, кавярні ў заходнееўрапейскіх краінах.

**КЕ́ПМІНГ** (*англ.* camping) — спецыяльна абсталяваны лагер для аўтатурыстаў.

**КЕРА́МІКА** [*гр.* keramike (techne) = ганчарнае майстэрства] — 1) вырабы з абпаленай гліны (напр. мастацкая к.); 2) ганчарная вытворчасць.

**КЕТЧ** (*англ.* catch = лавіць) — прафесійная спартыўная барацьба, у якой дазволены любыя сілавыя прыёмы.

**КЕ́ТЧУП** (*англ.* ketchup) — востры таматны соус са спецыямі.

**КЁРЛІНГ** (*англ.* curling, ад curl = круціць) — спартыўная гульня, мэта якой трапіць пушчанай па лёдзе бітой у намаляваную на ім мішэнь.

**КІ́БАРГ** [*англ.* cyb(ernetical) org(a̍nism) = кібернетычная істота] — фантастычны паўчалавек-паўробат.

**КІБЕРНЕ́ТЫКА** (*англ.* cybernetics, ад *гр.* kybernetike = майстэрства кіраваць) — навука аб агульных заканамернасцях працэсаў кіравання і перадачы інфармацыі ў машынах, жывых арганізмах і грамадстве.

**КІДНЭ́ПІНГ** (*англ.* kidnapping, ад kid = дзіця + nap = = красці) — выкраданне людзей (часцей дзяцей), каб атрымаць выкуп.

**КІЁСК** (*фр.* kiosque, ад *перс.* kuszk = павільён) — невялікі лёгкі будынак для дробнага гандлю (напр. газетны к.).

**КІКБО́КСІНГ** (*англ.* kickboxing, ад kick = ударыць нагой + boxing = баксіраванне) — разнавіднасць *бокса*, у якой дапускаюцца ўдары па корпусе праціўніка не толькі рукамі, але і нагамі.

**КІ́ЛЕР** (*англ.* killer) — наёмны забойца.

**КІМАНО́** (*яп.* kimono) — 1) японскае мужчынскае і жаночае адзенне ў выглядзе халата з вельмі шырокімі рукавамі; 2) асобы крой рукава ў жаночым адзенні.

**КІНААПЕРА́ТАР** (ад *гр.* kineo = рухаю + *лац.* operator = = выканаўца) — спецыяліст, які выконвае кіназдымку.

**КІНДЭРСЮРПРЫ́З** (*ням.* Kindersurprise, ад Kinder = дзеці + *англ.* surprise = сюрпрыз) — шакаладка ў форме яйца, унутры якога змяшчаецца пластмасавы кантэйнер з маленькай цацкай ці дэталямі для збору яе.

**КІНЕСКО́П** ад *гр.* kinesis = рух + skopeo = назіраю) — прыёмная электронна-прамянёвая трубка тэлевізара, якая ператварае электрычныя сігналы ў адлюстраванне.

**КІЧ** (*ням.* Kitsch = халтура) — безгустоўны фільм або літаратурны твор, разлічаны на знешні эфект.

**КЛА́КА** (*фр.* claque) — група гледачоў, нанятая для таго, каб гучна апладзіраваць або свістаць і тым самым ствараць ураджанне поспеху або правалу артыста, спектакля.

**КЛАКЁР** (*фр.* claquer) — асоба, якая ўваходзіць у састаў *клакі*.

**КЛАН** (*англ.* clan, ад *кельц.* clann) — 1) радавая абшчына, род (першапачаткова ў кельцкіх народаў); 2) *перан.* замкнутая група людзей, звязаных якімі-н. агульнымі інтарэсамі (эканамічнымі, дзелавымі і інш.).

**КЛАНДА́ЙК** (*англ.* klondike, ад Klondike = назва залатаноснага раёна на паўночным захадзе Канады) — невычэрпная крыніца даходаў, прыбыткаў.

**КЛАНІ́РАВАЦЬ** (*англ.* clone, ад *гр.* klon = парастак) — *мед.*, *біял.* размнажаць клеткі або арганізмы бясполым, вегетатыўным шляхам, атрымліваючы цалкам падобныя экзэмпляры ад агульнага продка.

**КЛАСІФІКА́ЦЫЯ** (*фр.* classification, ад *лац.* classis = разрад + facere = рабіць) — размеркаванне якіх-н. прадметаў, з'яў, паняццяў па класах, групах, разрадах на падставе пэўных агульных прымет (напр. к. моў, к. раслін).

**КЛАЎСТРАФО́БІЯ** (*фр.* claustrophobie, ад *лац.* claustrum = = закрытае памяшканне + phobos = страх) — назойлівае пачуццё страху, боязь закрытай прасторы як від псіхічнага расстройства.

**КЛЕПТАМА́НІЯ** (ад *гр.* klepto = краду + mania = захапленне, цяга) — неадольнае хваравітае імкненне да крадзяжу, якое выклікаецца некаторымі псіхічнымі захворваннямі.

**КЛЕРЫКАЛІ́ЗМ** (*фр.* cléricalisme, ад *с.-лац.* clericalis = царкоўны) — ідэалагічная і палітычная плынь, якая імкнецца ўзмацніць уплыў царквы на грамадска-палітычнае і культурнае жыццё краіны.

**КЛІЕ́НТ** (*лац.* cliens, -ntis) — 1) пастаянны наведвальнік, пакупнік, заказчык; 2) асоба, якая карыстаецца паслугамі адваката, натарыуса і г. д.

**КЛІК** (*англ.* click) — *інф.* пстрычка па мышы (пры працы на *камп'ютэры*).

**КЛІ́КА** (*фр.* clique = банда) — група людзей, якія імкнуцца любымі сродкамі дасягнуць якіх-н. карыслівых мэт (напр. прыдворная к.).

**КЛІ́МАТ** (*гр.* klima, -atos = нахіл) — 1) шматгадовы рэжым надвор'я, уласцівы пэўнай мясцовасці ў залежнасці ад геаграфічных абставін (напр. вільготны к., умераны к.); 2) *перан.* абстаноўка, умовы існавання каго-н., чаго-н. (напр. у аддзеле склаўся нездаровы к.).

**КЛІ́НІКА** (*гр.* klinike = лячэнне) — стацыянарная лячэбная ўстанова, дзе лячэнне хворых спалучаецца з навукова-даследчай і вучэбнай работай.

**КЛІНЧ** (*англ.* clinch = заціск) — узаемнае захопліванне баксёраў у працэсе бою, што з'яўляецца парушэннем правіл.

**КЛІП** (*англ.* clip = стрыгчы, рабіць выразкі) — тое, што і *відэакліп*.

**КЛІПМЕ́ЙКЕР** (*англ.* clipmaker, ад clip = стрыгчы, рабіць выразкі + maker = стваральнік) — спецыяліст па вытворчасці *відэакліпаў*.

**КЛІ́РЫНГ** (*англ.* clearing, ад clear = ачышчаць, уносіць яснасць) — сістэма безнаяўных разлікаў паміж банкамі, заснаваная на заліку ўзаемных патрабаванняў і абавязкаў.

**КЛІШЭ́** (*фр.* cliché) — рэльефны малюнак, чарцёж на металічнай, драўлянай або лінолеумавай пласцінцы, зробленыя для паліграфічнага ўзнаўлення ў друку.

**КЛО́УН** (*англ.* clown) — цыркавы артыст-комік.

**КЛУ́МБА** (*англ.* clump = група дрэў) — невялікая фігурная града для кветак, прыўзнятая над узроўнем дарожак і газонаў.

**КЛЯ́СЕР** (*фр.* classeur) — спецыяльны альбом для захоўвання калекцыйных марак.

**КОД** (*фр.* code, ад *лац.* codex = спіс) — сістэма ўмоўных абазначэнняў або сігналаў для перадачы (па каналу сувязі), апрацоўкі або захавання якой-н. інфармацыі (напр. лічбавы к., тэлеграфны к.).

**КО́ДЭКС** (*лац.* codex = кніга) — 1) звод законаў якой-н. галіны права (напр. грамадзянскі к., крымінальны к.); 2) *перан.* сукупнасць правіл паводзін, поглядаў (напр. маральны к.).

**КО́КА** (*ісп.* coca, з *індз.*) — кустовая расліна сямейства какаінавых, пашыраная ў тропіках Паўднёвай Амерыкі; дае *какаін* і іншыя алкалоіды.

**КО́КА-КО́ЛА** (*англ.* coca cola) — безалкагольны газіраваны напітак з дабаўкай экстракту з лісця *кокі* і пладоў *колы.*

**КО́ЛА** (*н.-лац.* cola, ад *афр.* kola) — вечназялёнае дрэва, пашыранае ў тропіках Афрыкі, плады якога выкарыстоўваюцца ў медыцыне і харчовай прамысловасці, напр. для вырабу *кока-колы.*

**КО́МА** (*н.-лац.* coma, ад *гр.* koma = глыбокі сон) — *мед.* выключна цяжкі паталагічны стан арганізма са стратай прытомнасці, парушэннем кровазвароту, дыхання, працэсу абмену.

**КОМІВАЯЖО́Р** (*фр.* commis voyageur) — прадстаўнік фірмы, які раз'язджае з узорамі тавараў і збірае заказы, заключае гандлёвыя здзелкі.

**КО́МІКС** (*англ.* comics) — серыя малюнкаў з кароткімі суправаджальнымі тэкстамі, што ўтвараюць закончанае апавяданне, звычайна прыгодніцкага зместу.

**КО́МПЛЕКС** (*лац.* complexus = сувязь, ахоп) — сукупнасць паняццяў, з'яў,.прадметаў, дзеянняў, якая ўспрымаецца як адно цэлае (напр. архітэктурны к., к. гімнастычных практыкаванняў).

**КО́НКУРС** (*лац.* concursus = сутыкненне) — спаборніцтва з мэтай выявіць лепшых яго ўдзельнікаў (напр. міжнародны к., к. піяністаў).

**КО́НКУРС-ШО́У** (ад *лац.* concursus = сутыкненне + *англ.* show = відовішча, паказ) — сцэнічнае відовішча, заснаванае на спаборніцтве і выбары пераможцы.

**КО́НСУЛ** (*лац.* consul) — 1) службовая асоба, прызначаная ў якасці пастаяннага прадстаўніка ў якім-н. горадзе іншай дзяржавы для абароны інтарэсаў сваёй дзяржавы і грамадзян; 2) адна з дзвюх вышэйшых службовых асоб у Старажытным Рыме, якая ажыццяўляла ваенную і грамадзянскую ўладу.

**КО́НТА** (*іт.* conto) — рахунак (у банку).

**КОНТАКАРЭ́НТ** (*іт.* conto corrente) — бягучы рахунак, які адкрываецца банкамі, фірмамі сваім пастаянным кліентам для ўзаемнага разліку паміж імі.

**КОНТРАГЕ́НТ** (*лац.* contrahens, -ntis = які дамаўляецца) — кожны з двух бакоў (асоба або ўстанова) у дагаворы ў адносінах адзін да другога.

**КОРТ** (*англ.* court) — пляцоўка для гульні ў *тэніс.*

**КО́СМАС** (*гр.* kosmos = Сусвет) — сусветная прастора, Сусвет, а таксама бліжэйшая прастора за межамі зямной атмасферы.

**КО́ФЕ** (*англ.* coffee, *гал.* kaffie, ад *ар.* kahva) — зярняты або парашок з зярнят кафейнага дрэва, а таксама напітак з гэтага парашку.

**КОФР** (*фр.* coffre) — вялікая дарожная сумка з некалькімі аддзяленнямі.

**КОШТ** (*польск.* koszt, ад *с.-в.-ням.* kost) — выражаная ў грашах вартасць чаго-н. (напр. к. працы, к. тавараў).

**КРА́КЕР** (ад *англ.* crack = расколваць) — *жарг.* праграміст або карыстальнік, які атрымлівае матэрыяльную выгаду ад пераадолення абароны дадзеных камп'ютэрных сетак, праграм.

**КРАКЕ́Т** (*англ.* croquet, *фр.* croquet) — гульня спартыўнага тыпу, у якой шар ударамі драўлянага малатка праводзіцца праз размешчаныя ў пэўным парадку драцяныя вароты, а таксама набор прылад для такой гульні.

**КРАЎЧ** (*англ.* crouch = схіляцца, прысядаць) — 1) стойка ў сагнутым становішчы ў боксе; 2) нізкая стойка пры спусках у лыжным спорце.

**КРАХ** (*ням.* Krach) — 1) банкруцтва, разарэнне (напр. біржавы к.); 2) *перан.* поўны правал, няўдача (напр. к. знешняй палітыкі).

**КРОЛЬ** (*англ.* crawl) — стыль спартыўнага плавання на грудзях, пры якім рукі папераменна выносяцца на паверхню вады (параўн. *батэрфляй, брас*).

**КРОС** (*англ.* cross) — 1) спартыўны бег або гонкі па перасечанай мясцовасці (напр. веласіпедны к., лыжны к.); 2) сустрэчны ўдар у боксе, які перасякае шлях рукі праціўніка; 3) шчыт пераключэнняў на тэлефоннай станцыі.

**КРО́СІНГ** (*англ.* crossing, ад cross = перасякаць) — 1) вентыляцыйны праход у шахце для раздзялення перасякальных струменяў паветра; 2) *сп.* забаронены прыём у забегу, заездзе, калі адразу пасля абгону рэзка перасякаецца шлях саперніку.

**КРУАСА́Н** (*фр.* croissant) — булка са слаёнага цеста з салодкай начынкай, выпечаная ў форме маўмесяца.

**КРУ́ІЗ** (*англ.* cruise) — марское турыстычнае падарожжа (звычайна па замкнутым маршруце).

**КРУП'Ё** (*фр.* croupier) — распарадачык гульні і банкаўшчык у іргальным доме.

**КРЫЗ** (*фр.* crise = прыступ) — *мед.* раптоўнае рэзкае абвастрэнне хваробы (напр. гіпертанічны к.).

**КРЫ́ЗІС** (*гр.* krisis = рашэнне, пераломны пункт) — 1) рэзкі, круты пералом у чым-н. (напр. ўрадавы к., к. хваробы); 2) абумоўлены супярэчнасцямі ў развіцці грамадства разлад эканамічнага жыцця (напр. фінансавы к.); 3) востры недахоп чаго-н. (напр. жыллёвы к.).

**КРЫМІНАГЕ́ННЫ** (ад *лац.* crimen, -minis = злачынства + + *гр.* genos = паходжанне) — які садзейнічае злачыннасці, ставарае крымінальную абстаноўку (напр. к-ая сітуацыя, к-ае асяроддзе).

**КРЫМІНА́ЛЬНЫ** (*лац.* criminalis) — звязаны са злачынствам, злачынны (напр. к. выпадак).

**КРЫ́ТЫКА** [*фр.* critique, ад *гр.* kritike (techne) = майстэрства разбіраць] — 1) разбор, абмеркаванне чаго-н. з мэтай выявіць недахопы, даць ацэнку; 2) літаратурны жанр, задачай якога з'яўляецца ацэнка твораў літаратуры, навукі, мастацтва.

**КРЫТЭ́РЫЙ** (*фр.* critérium, ад *гр.* kriterion = сродак для меркавання) — мерка, з якой падыходзяць да ацэнкі чаго-н. (напр. практыка — к. ісціны).

**КРЭАТУ́РА** (*лац.* creatura = тварэнне) — стаўленік уплывовай асобы, паслухмяны выканаўца яе волі.

**КРЭАТЫ́ЎНЫ** (*англ.* creative, ал *лац.* creatio = тварэнне) — творчы, стваральны.

**КРЭ́ДА** (*лац.* credo = веру) — 1) сімвал веры ў каталіцкай царкве; 2) *перан.* чые-н. цвёрдыя пераканання, погляды, асновы светапогляду (напр. жыццёвае к., навуковае к.).

**КРЭДЫ́Т** (*ням.* Kredit, ад *лац.* creditum = доўг) — 1) выдача ў доўг грошай або тавараў з растэрміноўкай выплаты (напр. доўгатэрміновы к.); 2) грашовая сума, выдзеленая дзяржавай для пэўнай мэты (напр. к. на жыллёвае будаўніцтва).

**КРЭДЫТО́Р** (*лац.* creditor) — асоба або ўстанова, якія даюць у *крэдыт* грошы або тавары (параўн. *дэбітор*).

**КРЭК** (*англ.* crack) — 1) наркотык, атрыманы сінтэтычным шляхам; 2) скура, якая прайшла спецыяльную тэрмаапрацоўку і мае зярністую структуру.

**КРЭ́КЕР** (*англ.* cracker) — 1) сухое пячэнне, здольнае доўга захоўваць свае якасці; разнавіднасць *галеты*; 2) тонкія лустачкі, высушаныя скрылёчкі бульбы.

**КРЭ́КІНГ** (*англ.* cracking) — перапрацоўка нафты для атрымання маторнага паліва і сыравіны для хімічнай прамысловасці.

**КРЭМАТО́РЫЙ** (*н.-лац.* crematorium) — будынак са спецыяльным абсталяваннем для *крэмацыі.*

**КРЭМА́ЦЫЯ** (*лац.* crematio = спальванне) — спальванне цела нябожчыка ў спецыяльнай печы (параўн. *інгумацыя*).

**КРЭЦІ́Н** (*фр.* crétin) — фізічна і разумова недаразвіты чалавек у сувязі з парушэннем функцый шчытападобнай залозы.

**КСЕНАФО́БІЯ** (ад *гр.* ksenos = чужы + phobos = страх) — 1) *мед.* неадчэпны страх перад незнаёмымі асобамі; 2) нецярпімасць да ўсяго чужога, незнаёмага, замежнага.

**КСЕРАГРА́ФІЯ** (*ням.* Xerographie, ад *гр.* kseros = сухі + + grapho = пішу) — спосаб фатаграфічнага атрымання адлюстравання, заснаваны на пераўтварэнні прамянёвай энергіі ў электрычную.

**КСЕ́РАКС** (*англ.* xerox, ад *гр.* kseros = сухі) — 1) тое, што і *ксераграфія*; 2) размнажальны апарат з выкарыстаннем магнітнага сухога друку.

**КСЁНДЗ** (*польск.* ksiądz) — каталіцкі святар у Польшчы, Беларусі і Украіне.

**КУБАТУ́РА** (*фр.* cubature, ад *лац.* cubus = куб) — аб'ём чаго-н., выражаны ў кубічных адзінках (напр. к. пакоя).

**КУЛ-ГЁЛ** (*англ.* cool girl, ад cool = узорны + girl = дзяўчына) — дзяўчына, якая па сваіх знешніх дадзеных адпавядае пэўным стандартам; фотамадэль.

**КУЛІСЬЕ́** (*фр.* coulissier) — неафіцыйны біржавы пасрэднік, які без удзелу афіцыйных *маклераў* заключае біржавыя здзелкі.

**КУЛУА́РЫ** (*фр.* couloirs = *літар.* калідоры) — бакавыя залы, калідоры ў тэатры, парламенце, якія служаць для адпачынку, а таксама неафіцыйных сустрэч, абмену думкамі (напр. гутаркі ў кулуарах).

**КУЛЬБІ́Т** (*фр.* culbite) — 1) акрабатычны пераварот-перакат наперад з апорай на рукі; 2) *перан.* дзіўны ўчынак, нечаканая выхадка (напр. палітычны к.).

**КУЛЬМІНА́ЦЫЯ** (*фр.* culmination, ад *лац.* culmen, minis = вяршыня) — момант найвышэйшага напружання, уздыму ў развіцці чаго-н. (напр. к. падзей, к. драмы).

**КУЛЬТ** (*лац.* cultus) — 1) пакланенне бажаству і выкананне звязаных з гэтым рэлігійных абрадаў; 2) *перан.* непамернае ўзвелічэнне каго-н., чаго-н. (напр. к. асобы).

**КУЛЬТУ́РА** (*лац.* cultura) — 1) сукупнасць дасягненняў чалавецтва ў вытворчай, грамадскай і разумовай дзейнасці (напр. матэрыяльная к., духоўная к.); *масавая к.* — разнавіднасць сучаснай камерцыйнай культуры, якая характарызуецца прымітывізмам, серыйнасцю і атрымлівае пашырэнне праз тэлебачанне, ілюстраваныя часопісы, відэа- і аўдыякасеты; 2) узровень развіцця якой-н. галіны гаспадарчага або духоўнага жыцця (напр. к. вытворчасці, к. мовы); 3) ступень адукаванасці, выхаванасці каго-н. (напр. чалавек высокай культуры); 4) вырошчванне якой-н. расліны, а таксама сама расліна, якая вырошчваецца (напр. к. лёну, кармавыя культуры).

**КУЛЬТУРЫ́ЗМ** (*фр.* culturisme, ад *лац.* cultura = развіццё, выхаванне) — сістэма фізічных практыкаванняў, пераважна сілавых, якія павінны развіваць мускулатуру, садзейнічаць фарміраванню прыгожай фігуры і паставы, а таксама занятак такімі практыкаваннямі.

**КУНГФУ́** (*кіт.* kung fu) — сістэма кітайскай аздараўленчай гімнастыкі і спартыўнай барацьбы; спосаб самаабароны без зброі, заснаваны на рэзкіх ударах нагой або рукой па болевых пунктах цела праціўніка.

**КУПО́Н** (*фр.* coupon) — адразны талон у каштоўных паперах на атрыманне працэнтаў або *дывідэндаў*.

**КУПЮ́РА** (*фр.* coupure) — 1) скарачэнне, пропуск у літаратурным або музычным творы; 2) каштоўная папера, грашовы знак (напр. сторублёвая к.).

**КУРА́ТАР** (*лац.* curator = апякун) — асоба, якой даручана кіраўніцтва, нагляд за кім-н., чым-н. (напр. к. групы).

**КУР'ЁЗ** (*фр.* curieux, ад *лац.* curiosum = цікавая рэч) — незвычайны, недарэчны выпадак, смешнае здарэнне.

**КУРСО́Р** (*англ.* cursos, ад *лац.* cursorius = які хутка бяжыць) — *інф.* рухомы знак на экране *дысплея* камп'ютэра, які ўказвае месца работы карыстальніка.

**КУРТА́Ж** (*фр.* courtage) — камісійны працэнт *маклеру* або іншым пасрэднікам у камерцыйных здзелках.

**КУЦЮР'Е́** (*фр.* couturier = кравец) — *мадэльер* адзення, якое адпавядае патрабаванням сучаснай моды.

**КУШ** (*фр.* couche = стаўка ў гульні) — вялікая сума грошай; вялікі хабар (напр. сарваць добры к.).

**КЭШ** (*англ.* cache) — памяць ЭВМ, прызначаная для захоўвання прамежкавых вынікаў, а таксама часта ўжывальных дадзеных і каманд.

## Л

**ЛАБАРАТО́РЫЯ** (*с.-лац.* laboratorium, ад *лац.* laborare = = працаваць) — 1) спецыяльна абсталяванае памяшканне для навуковых даследаванняў, вучэбных заняткаў; 2) *перан.* унутраная, творчая дзейнасць каго-н. (напр. творчая л. пісьменніка).

**ЛАВІ́РАВАЦЬ** (*ням.* lavieren) — 1) плысці на парусным судне супраць ветру па ломанай лініі; рухацца зігзагамі, каб абмінуць перашкоды; 2) *перан.* спрытна прыстасоўвацца да абставін, ухіляцца ад прамых дзеянняў.

**ЛАГАПА́ТЫЯ** (ад *гр.* logos = слова + pathos = боль, пакута) — недахопы маўлення (картавасць, шапялявасць, заіканне і інш.).

**ЛА́ГЕР** (*ням.* Lager) — 1) часовая стаянка, часта пад адкрытым небам, у палатках (напр. ваенны л., турысцкі л.); 2) месца ўтрымання ваеннапалонных ці зняволеных (напр. канцэнтрацыйны л.); 3) *перан.* групоўка людзей, аб'яднаных адзінствам поглядаў.

**ЛАГІ́ЧНЫ** (*гр.* logikos) — 1) заснаваны на законах логікі, выяўлены з яе дапамогай (напр. л. вывад, л. метад); 2) абумоўлены ўнутранай заканамернасцю чаго-н., непазбежны, неабходны (напр. л-ае развіццё падзей).

**ЛА́ЗЕР** [*англ.* laser, ад l(ight) a(mplification) by s(timulated) of (r(adiation) = узмацненне святла ў выніку вымушанага выпрамянення] — 1) прыбор для атрымання інтэнсіўных,

канцэнтраваных светлавых пучкоў; 2) прамень, атрыманы пры дапамозе такога прыбора.

**ЛА́ЙКРА** (*англ.* Lycra = назва гандлёвай маркі) — матэрыял, які дабаўляецца ў капронавае валакно для надання дадатковай трываласці і здольнасці расцягвацца.

**ЛА́ЙНЕР** (*англ.* liner) — буйное марское пасажырскае судна або шматмесны самалёт, якія робяць рэгулярныя рэйсы па пэўным маршруце.

**ЛАЙНСМЕ́Н** (*англ.* linesman, ад line = лінія + man = чалавек) — памочнік суддзі ў спартыўных гульнях (футболе, тэнісе і інш.), які сігналізуе яму пра становішча мяча і гульцоў.

**ЛАКАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* localisation, ад *лац.* localis = мясцовы) — абмежаванне якога-н. дзеяння або з'явы пэўнай прасторай (напр. л. пажару).

**ЛАКА́ЛЬНЫ** (*лац.* localis) — мясцовы, які не выходзіць за пэўныя межы (напр. л-ая вайна, л-ая з'ява).

**ЛАКАМАТЫ́Ў** (*фр.* locomotive, ад *лац.* locus = месца + motio = рух) — цягавая машына (паравоз, цеплавоз, электравоз), прызначаная для перамяшчэння па рэйках чыгуначных саставаў або асобных вагонаў.

**ЛАКАНІ́ЗМ** (*фр.* laconisme, ад *гр.* lakonismos) — кароткасць і дакладнасць у выражэнні думкі, ідэі, задумы.

**ЛАКА́ТАР** (*англ.* locator, ад *лац.* locare = размяшчаць) — спецыяльная ўстаноўка для вызначэння месцазнаходжання аб'екта з дапамогай адбітых ад яго гукавых ці электрамагнітных хваль або па яго асабістым выпрамяненні (напр. гукавы л., лазерны л.).

**ЛАКА́УТ** (*англ.* lock-out = *літар.* зачыняць дзверы перад кім-н.) — закрыццё прадпрыемства і масавае звальненне рабочых як сродак барацьбы супраць забастовак.

**ЛАКЕ́Й** (*фр.* laquais) — 1) слуга; 2) *перан.* асоба, якая падхалімнічае, выслужваецца перад кім-н.

**ЛАКІРАВА́ЦЬ** (*ням.* lackieren) — 1) пакрываць лакам (напр. л. мэблю); 2) *перан.* прыхарошваць, хаваючы недахопы (напр. л. рэчаіснасць).

**ЛА́МА** (*манг.* lama, ад *тыбецк.* blama = вышэйшы) — будыйскі манах у краінах, дзе пашыраны *ламаізм.*

**ЛАМАЇЗМ** (*фр.* lamaïsme, ад *тыбецк.* blama = вышэйшы) — форма *будызму*, якая ўзнікла ў VII ст. у Тыбеце і ў XVI—XVIII стст. пашыралася сярод мангольскіх народаў.

**ЛАМБА́РД** (*фр.* lombard, ад *іт.* Lombardia = вобласць у Італіі) — крэдытная ўстанова, якая выдае грашовую пазыку за пэўны працэнт пад заклад рэчаў або маёмасці.

**ЛА́МЕР** (ад *англ.* lame = кульгавы; непераканаўчы) — нявопытны карыстальнік, які лічыць сябе дастатковым знаўцам *камп'ютэраў*.

**ЛАНЧ** гл. *ленч.*

**ЛАПТО́П, ЛЕПТО́П** (*англ.* laptop, ад lap = калені +top = = верх) — партатыўны персанальны *камп'ютэр* з плоскім дысплеем на вадкіх крышталях і параўнальна невялікім аб'ёмам памяці; змяшчаецца на каленях карыстальніка.

**ЛАСО́** (*фр.* lasso, ад *ісп.* lazo) — аркан з рухомай пятлёй на канцы для лоўлі жывёл.

**ЛАСТ-БО́Л** (*англ.* last ball = *літар.* апошні мяч) — становішча пры гульні ў *тэніс*, калі аднаму з бакоў не хапае толькі аднаго мяча да выйгрышу партыі або матча.

**ЛАСЬЁН** (*фр.* lotion, ад *лац.* lotio = мыццё) — касметычны гігіенічны сродак для догляду скуры твару.

**ЛАТАРЭ́Я** (*іт.* lotteria) — розыгрыш рэчаў і грашовых сум па білетах.

**ЛАТЭ́НТНЫ** (*лац.* latens, -ntis = скрыты, нябачны) — які знешне не праяўляецца, скрыты (напр. л. перыяд хваробы, л-ая злачыннасць).

**ЛАЎРЭА́Т** (*лац.* laureatus = увенчаны лаўрамі) — званне, якое прысуджаецца за выдатныя заслугі ў галіне навукі, тэхнікі, мастацтва, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**ЛАЯ́ЛЬНЫ** (*фр.* loyal = *літар.* верны) — які фармальна трымаецца ў межах законнасці, прытрымліваецца добразычліва-нейтральных адносін да каго-н., чаго-н.

**ЛЕВІТА́ЦЫЯ** (*англ.* levitation, ад *лац.* levitas, -atis = лёгкасць) — магічны спосаб пераадолення зямнога прыцяжэння (напр. падыманне ўласнага цела намаганнем волі, палёты ў сне і г. д.).

**ЛЕГАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* légalisation, ад *лац.* legalis = законны) — 1) наданне законнай сілы якому-н. акту або дзеянню; 2) у міжнародным праве — засведчанне подпісаў на дакументах, прызначаных для дзеяння ў замежных дзяржавах.

**ЛЕГА́ЛЬНЫ** (*лац.* legalis) — прызнаны, дазволены законам (напр. л. друк).

**ЛЕГІЁН** (*лац.* legio, -onis) — 1) асноўная арганізацыйная адзінка старажытнарымскага войска, у якую ўваходзіла 10 *кагорт*; 2) асобнае вайсковае фарміраванне ў некаторых краінах; 3) *перан.* вялікая колькасць, мноства каго-н., чаго-н. (напр. л. зорак).

**ЛЁГІНСЫ** (*англ.* leggins) — жаночыя трыкатажныя штаны, якія шчыльна аблягаюць нагу.

**ЛЕГІТЫ́МНЫ** (*лац.* legitimus) — законны, правамерны (напр. л-ыя дзеянні).

**ЛЕГІЯНЁР** (*фр.* lйgionnaire, ад *лац.* legionarius = які належыць да легіёна) — 1) воін, садлат *легіёна*; 2) спартсмен, які выступае ў замежных клубах, камандах па кантракце.

**ЛЕЙБЛ** (*англ.* label) — фірменны знак, этыкетка на адзенні (від таваранага знака, які мае таксама дэкаратыўнае значэнне).

**ЛЕЙКЕМІ́Я** (*н.-лац.* leucaemia, ад *гр.* leukos = белы + haima = кроў) — *мед.* захворванне крыві і крывятворных органаў, якое выражаецца ў рэзкім павелічэнні колькасці лейкацытаў; белакроўе.

**ЛЕЙТМАТЫ́Ў** (*ням.* Leitmotiv = *літар.* вядучы матыў) — 1) асноўны матыў, які паўтараецца на працягу ўсяго музычнага твора (напр. л. оперы); 2) *перан.* асноўная думка, якая неаднаразова паўтараецца і падкрэсліваецца (напр. л. рамана, л. выступлення прэзідэнта).

**ЛЁКЦЫЯ** (*лац.* lectio = чытанне) — 1) вусны выклад вучэбнага прадмета ў вышэйшай навучальнай установе; 2) публічнае выступленне на якую-н. тэму.

**ЛЕНД-А́РТ** (*англ.* land art = мастацтва зямлі) — напрамак сучаснага мастацтва, які імкнецца шляхам пераўтварэння наблізіць рэальны ландшафт да жывапіснага пейзажу, да ўзнаўлення страчанай сувязі чалавека з прыродай.

**ЛЕНД-ЛІ́З** (*англ.* lend-lease, ад lend = пазычаць + lease = здаваць у арэнду) — сістэма перадачы ЗША ў пазыку або арэнду зброі, боепрыпасаў, сыравіны, харчавання краінам антыгітлераўскай кааліцыі ў час другой сусветнай вайны.

**ЛЕНДРО́ВЕР** (*англ.* land-rover) — легкавы аўтамабіль павышанай праходнасці з пярэднім і заднім прывадамі.

**ЛЕНЧ, ЛАНЧ** (*англ.* lunch) — другое сняданне або лёгкая закуска ў іншыя часы дня ў Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах.

**ЛЕПТО́П** гл. *лаптоп.*

**ЛЕСБІЯ́НСТВА** (ад *гр.* Lesbos = назва вострава ў Эгейскім моры) — жаночы *гомасексуалізм.*

**ЛЕТАРГІ́Я** (*гр.* lethargia, ад lethe = забыццё + argia = бяздзеянне) — хваравіты стан, падобны на працяглы сон, пры якім пульс і дыханне амаль не адчуваюцца.

**ЛЁС** (*польск.* los, ад *с.-в.-ням.* lôz) — 1) незалежны ад волі чалавека ход падзей, збег абставін; 2) далейшае існаванне, будучыня (напр. л. чалавецтва); 3) доля, становішча ў жыцці (напр. жаночы л.).

**ЛІБЕРА́Л** (*фр.* liberal, ад *лац.* liberalis = свабодны) — 1) прыхільнік *лібералізму*; член ліберальнай партыі (параўн. *радыкал* 1); 2) *перан.* той, хто займаецца залішнім патураннем.

**ЛІБЕРАЛІ́ЗАЦЫЯ** (*фр.* libéralisation, ад *лац.* liberalis = свабодны) — даванне большай свабоды, магчымасцей у ажыццяўленні чаго-н.; *л. цэн* — зняцце абмежаванняў, лімітаў і меж аптовых і рознічных цэн на тавары і прадукты (найчасцей гэта азначае павышэнне цэн).

**ЛІБЕРАЛІ́ЗМ** (*фр.* libéralisme, ад *лац.* liberalis = свабодны) — 1) палітычная плынь, якая аб'ядноўвае прыхільнікаў дэмакратычных свабод і свабоды прадпрымальніцтва; 2) *уст.* вальнадумства; 3) *перан.* залішняя паблажлівасць, шкоднае патуранне.

**ЛІБЕРА́ЛЬНЫ** (*лац.* liberalis = свабодны) — 1) які мае адносіны да *лібералізму* 1 (напр. л-ая палітыка); 2) *перан.* які дапускае *лібералізм* 3 (напр. л-ая ацэнка ведаў).

**ЛІ́ГА** (*польск.* liga, ад *с.-лац.* liga) — 1) саюз, аб'яднанне асоб, арганізацый, дзяржаў; 2) *сп.* рад каманд, аб'яднаных у адну групу для правядзення спаборніцтваў паміж сабой (напр. гуляць у вышэйшай лізе).

**ЛІ́ДЭР** (*англ.* leader) — 1) кіраўнік партыі, грамадска-палітычнай арганізацыі, якога-н. калектыву (напр. прафсаюзны л.); 2) каманда або спартсмен, якія займаюць першае месца ў спаборніцтве (проціл. *аўтсайдэр* 1); 3) вядучы карабель у караване суднаў.

**ЛІ́ЗІНГ** (*англ.* leasing, ад *гр.* lysis = растварэнне) — форма гаспадарчых сувязей, заснаваная на перадачы ў арэнду машын, абсталявання і іншых каштоўнасцей.

**ЛІКВІДА́ЦЫЯ** (*фр.* liquidation, ад *с.-лац.* liquidus = вольны ад даўгоў) — спыненне існавання, дзейнасці чаго-н. (напр. л. трэста).

**ЛІКВІ́ДНЫ** (*с.-лац.* liquidus = вольны ад даўгоў) — *кам.* які лёгка рэалізуецца, ператвараецца ў наяўныя грошы (напр. л-ыя акцыі, л-ыя матэрыялы).

**ЛІМІ́Т** (*фр.* limite, ад *лац.* limes, -mitis = мяжа, граніца) — 1) норма, у межах якой дазволена карыстацца чым-н., расходаваць што-н. (напр. л. на будаўнічыя матэрыялы); 2) *перан.* крайняя мяжа чаго-н. (напр. л. часу).

**ЛІ́МІТЭД** (*англ.* limited = абмежаванне) — абмежаваная адказнасць кампаніі па абавязацельствах (у межах уласнай маёмасці).

**ЛІМУЗІ́Н** (*фр.* limousine) — вялікі прадстаўнічы легкавы аўтамабіль з закрытым кузавам, забяспечаным шкляной перагародкай.

**ЛІНАТЫ́П** (*англ.* linotype, ад *лац.* linea = лінія + *гр.* typos = адбітак) — друкарская наборная машына, якая адлівае набор цэлымі радкамі.

**ЛІНГАФО́Н** (*англ.* linguaphone, ад *лац.* lingua = мова + *гр.* phone = гук) — апарат з наборам пласцінак для самастойнай работы па вывучэнню замежнай мовы.

**ЛІ́НКАС** [ад *лац.* lin(gua) cos(mica) = касмічная мова] — штучная мова для магчымай сувязі з іншапланетнымі цывілізацыямі.

**ЛІРЫ́ЗМ** (*гр.* lyrismos = ігра на ліры) — 1) эмацыянальнасць, паэтычная ўсхваляванасць, сардэчнасць у творах мастацтва; 2) лірычны настрой.

**ЛІ́РЫКА** (*фр.* lyrique < *лац.* lyrica, ад *гр.* lyrikos = пачуццёвы) — 1) адзін з трох асноўных родаў мастацкай літаратуры (побач з *драмай* і *эпасам*); паэзія, якая адлюстроўвае жыццё праз вобраз-перажыванне, а таксама сукупнасць твораў гэтага віду паэзіі (напр. беларуская л., л. Багдановіча); 2) *перан.* чуллівасць, перажыванні (напр. упасці ў лірыку).

**ЛІ́СТЫНГ** (*англ.* listing, ад list = спіс) — 1) папяровая раздрукоўка інфармацыйных дадзеных, атрыманых на ЭВМ; 2) рэгламентаваная фондавай біржай працэдура адбору і допуску каштоўных папер у продаж.

**ЛІТАРА́ЛЬНЫ** (*польск.* literalny, ад *лац.* litteralis) — 1) дакладны, даслоўны (напр. л. пераклад); 2) прамы, не пераносны (напр. л. сэнс).

**ЛІТАСФЕ́РА** (ад *гр.* lithos = камень + sphaira = шар) — верхняя цвёрдая абалонка зямнога шара, якая ўключае зямную кару і верхні слой мантыі.

**ЛІТУРГІ́Я** (*гр.* leiturgia) — галоўнае хрысціянскае богаслужэнне (у праваслаўных — абедня, у католікаў — *меса* 1).

**ЛІФТ** (*англ.* lift) — машына з кабінай для вертыкальнага перамяшчэння людзей, грузаў у шматпавярховых дамах, шахтах і інш.

**ЛІ́ФТЫНГ** (*англ.* lifting) — падцяжка скуры на твары, касметычная або хірургічная.

**ЛІЦЭ́Й** (*лац.* lyceum, ад *гр.* Lykeion = школа ў Афінах, дзе вучыў Арыстоцель) — сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная ўстанова ў некаторых краінах Заходняй Еўропы, Расіі, Беларусі.

**ЛІЦЭ́НЗІЯ** (*лац.* licentia = права, дазвол) — 1) дазвол кампетэнтнага дзяржаўнага органа на прывоз тавараў або іх вываз за граніцу; 2) дазвол на выраб якой-н. прадукцыі, выкарыстанне вынаходніцтва, арганізацыю якога-н. віду дзейнасці.

**ЛО́БІ** (*англ.* lobby = кулуары) — група прадстаўнікоў эканамічна моцных структур, якія аказваюць уплыў на палітыку дзяржавы (напр. нафтавае л. у парламенце).

**ЛО́ДЖЫЯ** (*іт.* loggia) — 1) адкрытая галерэя, якая прымыкае да будынка; 2) балкон жылога дома ў выглядзе нішы.

**ЛО́ЖА** (*фр.* loge) — 1) месца ў тэатральнай зале вышэй за *партэр*, аддзеленае для некалькіх асоб; 2) аддзяленне масонскай арганізацыі.

**ЛО́ЗУНГ** (*ням.* Losung) — зварот, які ў лаканічнай форме выражае кіроўную ідэю, палітычнае патрабаванне, а таксама плакат з такім зваротам.

**ЛОТ** (*англ.* lot) — партыя тавару, выстаўленая на *аўцыёне* або на *біржы* для продажу.

**ЛУНАЦІ́ЗМ** (*н.-лац.* lunatismus, ад *лац.* luna = Месяц) — тое, што і *самнамбулізм.*

**ЛЮКС** (*фр.* luxe, ад *лац.* luxus = раскоша) — нешта асабліва раскошнае, лепшае па абсталяванні, па ўзроўні абслугоўвання (аб магазінах, гасцініцах, атэлье і інш.).

**ЛЮ́МПЕН** (*ням.* Lumpen = лахманы) — асоба, якая належыць да дэкласаванага слою грамадства; басяк, жабрак, крымінальны элемент.

**ЛЯ́ПСУС** (*лац.* lapsus = падзенне, няправільны крок) — грубая, недарэчная памылка.

**ЛЯТА́ЛЬНЫ** (*лац.* letalis) — *мед.* які прыводзіць да смерці, смяротны (проціл. *вітальны*).

## М

**МАБІ́ЛЬНЫ** (*фр.* mobile, ад *лац.* mobilis = рухомы) — рухомы, здольны хутка перамяшчацца, неадкладна дзейнічаць (напр. м. атрад).

**МАГІ́СТР** (*лац.* magister = начальнік, настаўнік) — 1) тытул некаторых асоб у Старажытным Рыме (напр. м. конніцы); 2) кіраўнік сярэдневяковага духоўна-рыцарскага каталіцкага ордэна; 3) першая вучоная ступень у некаторых краінах.

**МАГІСТРА́ЛЬ** (*фр.* magistral, ад *лац.* magistralis = галоўны) — 1) асноўная, галоўная лінія ў чыгуначных, водных, паветраных, аўтамабільных і іншых шляхах зносін; 2) шырокая і прамая вуліца горада; 3) галоўная лінія ў сістэме водаправоднай, электрычнай, тэлефоннай ці іншай сеткі.

**МА́ГІЯ** (*лац.* magia, ад *гр.* mageia) — 1) сукупнасць прыёмаў і абрадаў, якія, па ўяўленню забабонных людзей, маюць цудадзейную сілу; чарадзейства, знахарства; *чорная м.* — чараўніцтва з дапамогай пякельных сіл; *белая м.* — чараўніцтва з дапамогай нябесных сіл; 2) *перан.* вялікая сіла ўздзеяння на каго-н. (напр. м. мастацкага слова, м. музыкі).

**МАГНА́Т** (*польск.* magnat, ад *с.-лац.* magnatus = знатны чалавек, вяльможа) — 1) буйны землеўладальнік у феадальным грамадстве; 2) прадстаўнік буйнога прамысловага або банкаўскага капіталу (напр. нафтавы м.).

**МАГНІТАФО́Н** (*фр.* magnétophone, ад *гр.* magnetis = магніт + phone = гук) — апарат для запісу і ўзнаўлення гукаў электрамагнітным шляхам.

**МАДЖАХЕ́Д** (*перс.* modžachäd = змагар за веру) — удзельнік сацыяльных, нацыянальна-вызваленчых, рэлігійных рухаў у мусульманскіх краінах.

**МАДО́ННА** (*іт.* madonna) — 1) старадаўні зварот да жанчыны ў Італіі; 2) божая маці, багародзіца ў каталікаў і яе выява ў скульптуры і жывапісе; 3) *перан.* жанчына, якая ўяўляецца ўвасабленнем прыгажосці і нявіннасці.

**МАДРЫГА́Л** (*фр.* madrigal, ад *іт.* madrigale) — невялікі лірычны верш, які прысвечаны жанчыне і змяшчае пахвалу ёй.

**МАДЫФІКА́ЦЫЯ** (*фр.* modifacation, ад *лац.* modificatio = = устанаўленне меры) — відазмяненне чаго-н. (напр. камп'ютэры любых мадыфікацый).

**МАДЭ́ЛЬ** (*фр.* modéle, ад *лац.* modulus = мера, узор) — 1) узор якога-н. вырабу, узорны экзэмпляр для серыйнай вытворчасці (напр. новыя мадэлі абутку); 2) схема, макет чаго-н., звычайна ў зменшаным выглядзе (напр. м. ракеты); 3) тып, марка канструкцыі (напр. новая м. аўтамабіля).

**МАДЭЛЬЕ́Р** (*фр.* modeleur) — спецыяліст па канструяванню новых відаў (*мадэлей* 1) адзення, абутку.

**МАДЭ́М** [*англ.* modem, ад mod(ulator) = мадулятар + dem(odulator) = дэмадулятар] — *інф.* устройства для сувязі сродкаў апрацоўкі інфармацыі (камп'ютэраў, тэлефаксаў і інш.) з тэлефоннымі лініямі.

**МАДЭ́РН** (*фр.* moderne = навейшы, сучасны) — 1) стылявы напрамак у еўрапейскім мастацтве канца XIX—пачатку XX ст., які супрацьпастаўляў сябе мастацтву мінулага; 2) што-н. сучаснае, моднае (напр. мэбля м., танцы м.).

**МАДЭРНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* modernisation, ад moderne = навейшы, сучасны) — змяненне чаго-н. у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі, густамі (напр. м. вытворчасці, м. ідэалогіі).

**МАДЭРНІ́ЗМ** (*фр.* modernisme, ад moderne = навейшы, сучасны) — агульная назва напрамкаў у мастацтве і літаратуры XX ст., для якіх характэрны адыход ад рэалізму, адмаўленне ад старых форм і пошук новых эстэтычных прынцыпаў.

**МАЖАРЫТА́РНЫ** (*фр.* majoritaire, ад majorite = большасць) — заснаваны на большасці (напр. м-ая сістэма выбараў).

**МАЖО́РНЫ** (*іт.* maggiore) — 1) *муз.* які мае радасную, бадзёрую афарбоўку (напр. м-ая мелодыя); 2) *перан.* бадзёры, вясёлы (напр. м. настрой).

**МАЗА́ІКА** (*фр.* mosaïque, ад *іт.* mosaico) — 1) узор або малюнак з рознакаляровых кавалачкаў шкла, каменьчыкаў, керамічных плітак, шчыльна падагнаных адзін да аднаго; 2) майстэрства рабіць такія ўзоры і малюнкі (напр. майстар мазаікі); 3) *перан.* злучэнне разнародных элементаў, стракатая сумесь (напр. м. жыцця).

**МА́ЙНА** (*іт.* maina = апускай) — каманднае слова са значэннем «апускай уніз!», уласцівае мове партовых грузчыкаў, будаўнікоў (проціл. *віра*).

**МАКІЯ́Ж** (*фр.* maquillage) — 1) комплекс касметычных працэдур, звязаных з упрыгожаннем твару памадай, пудрай, ласьёнам і інш.; 2) майстэрства дэкаратыўнай касметыкі; 3) *перан.* тое, што з'яўляецца сродкам маскіроўкі якіх-н. фактаў, падзей (напр. палітычны м.).

**МА́КЛЕР** (*ням.* Makler) — пасрэднік пры заключэнні гандлёвых здзелак.

**МАКРАКЛІ́МАТ** (ад *гр.* makros = вялікі + klima, -atos = нахіл) — клімат буйных геаграфічных зон, кантынентаў (параўн. *мікраклімат* 1).

**МАКРАКО́СМАС** (ад *гр.* makros = вялікі + kosmos = Сусвет) — свет вялікіх адлегласцей і цел (планет, зорак, галактык), Сусвет (параўн. *мікракосмас*).

**МАКРАМАРКЕ́ТЫНГ** (ад *гр.* makros = вялікі + *англ.* marketing = маркетынг) — сістэма кіравання дзейнасцю прадпрыемстваў і арганізацый, заснаваная на прынцыпах *маркетынгу*.

**МАКРАРАЁН** (ад *гр.* makros = вялікі + *фр.* rayon = раён) — найбольшая тэрытарыяльная адзінка, у якую пры раяніраванні можна аб'яднаць па якіх-н. прыкметах розныя мясцовасці (параўн. *мікрараён*).

**МА́КСІ** (*англ.* maxi, ад *лац.* maximus = найбольшы) — жаночае адзенне (спадніца, сукенка, паліто) максімальнай даўжыні (параўн. *мідзі, міні*).

**МАКСІМАЛІ́ЗМ** (*фр.* maximalisme, ад *с.-лац.* maximalis = = найбольшы) — празмернасць, крайнасць у якіх-н. патрабаваннях, поглядах (параўн. *мінімалізм*).

**МАКСІМА́ЛЬНЫ** (*с.-лац.* maximalis) — самы вялікі, найбольшы (напр. м-ая глыбіня, м-ая тэмпература); параўн. *мінімальны*.

**МА́КСІМУМ** (*лац.* maximum = найбольшае) — найбольшая велічыня, найбольшая колькасць, найвышэйшая ступень чаго-н. (напр. м. ападкаў, м. увагі); параўн. *мінімум*.

**МАНАГРА́ФІЯ** (ад *гр.* monos = адзін + grapho = пішу) — навуковая праца, прысвечаная ўсебаковаму даследаванню адной тэмы, праблемы.

**МАНАПО́ЛІЯ** (*гр.* monopolia, ад monos = адзін + poleo = прадаю) — 1) выключнае права на выраб, продаж або выкарыстанне чаго-н. (напр. м. знешняга гандлю); 2) буйное аб'яднанне, якое ўзнікла на аснове канцэнтрацыі вытворчасці і капіталу з мэтай устанаўлення панавання над якой-н. галіной гаспадаркі і атрымання найбольшых прыбыткаў.

**МАНА́РХ** (*гр.* monarchos, ад monos = адзін + archos = правіцель) — асоба, якая ўзначальвае *манархію* (цар, кароль, шах, султан і інш.).

**МАНА́РХІЯ** (*гр.* monarchia, ад monos = адзін + arche = улада) — форма кіравання, пры якой вярхоўная ўлада належыць адной асобе (*манарху*), а таксама дзяржава з такой формай кіравання.

**МАНАТО́ННЫ** (*гр.* monotonos = які мае аднолькавае гучанне) — 1) аднастайны па тону, інтанацыі (напр. м. спеў); 2) *перан.* надакучлівы, нудны (напр. м-ае жыццё).

**МАНДА́Т** (*лац.* mandatum = даручэнне) — дакумент, які пацвярджае паўнамоцтвы каго-н, права на што-н. (напр. дэпутацкі м.).

**МАНЕ́Ж** (*фр.* manège) — 1) спецыяльны будынак або абгароджанае месца для верхавой язды і трэніроўкі коней; 2) арэна цырка; 3) памяшканне для заняткаў па лёгкай атлетыцы, спартыўных гульняў і інш.; 4) невялікая пераносная пляцоўка з агароджай для дзяцей, якія пачынаюць хадзіць.

**МАНЕКЕ́Н** (*фр.* mannequin) — фігура ў выглядзе чалавечага тулава для прымеркі і паказу адзення (у атэлье, вітрынах магазінаў і г. д.).

**МАНЕ́РА** (*польск.* maniera, ад *фр.* maniére) — 1) спосаб што-н. рабіць, прыём, прывычка (напр. м. размаўляць); 2) знешняя форма паводзін (напр. м. трымацца); 3) адметныя рысы якога-н. твора мастацтва, чыйго-н. выканання мастацкіх твораў.

**МАНЕТАРЫ́ЗМ** (*фр.* monétarisme, ад *лац.* moneta = манета) — эканамічная палітыка, накіраваная на стрымліванне росту грашовай масы і памяншэнне інфляцыі.

**МАНЕТА́РНЫ** (*фр.* monétaire, ад *лац.* moneta = манета) — грашовы, валютны (напр. м-ая палітыка ўрада).

**МАНЕ́ЎР** (*фр.* manoeuvre) — 1) перамяшчэнне войск або флоту з мэтай нанесці ўдар праціўніку (напр. абходны м.); 2) *мн.* тактычныя вучэнні вялікіх груп войск у абстаноўцы, блізкай да баявой (напр. летнія манеўры); 3) *перан.* спрытнае дзеянне, падманны прыём з мэтай перахітрыць каго-н.; 4) перамяшчэнне паравоза і вагонаў па станцыйных пуцях пры састаўленні поезда.

**МАНІ́ЗМ** (*фр.* monisme, ад *гр.* monos = адзін, адзіны) — філасофскае вучэнне, якое лічыць асновай быцця адзін пачатак — матэрыю або дух (параўн. *дуалізм, плюралізм* 1).

**МАНІПУЛЯ́ЦЫЯ** (*фр.* manipulation, ад *лац.* manipulus = пучок) — 1) складаны прыём у ручной рабоце, якая патрабуе вялікай дакладнасці, а таксама пры дэманстраванні фокусаў; 2) *перан.* спрытная махінацыя.

**МАНІТО́Р** (*англ.* monitor, ад *лац.* monitor = перасцерагальны) — 1) кантраліруючае ўстройства з экранам для назірання (напр. тэлевізійны м.); 2) устройства камп'ютэра, прызначанае для вываду на экран тэкставай і графічнай інфармацыі.

**МАНІТО́РЫНГ** (*англ.* monitoring, ад *лац.* monitor = перасцерагальны) — 1) назіранне, ацэнка і прагноз стану навакольнага асяроддзя ў сувязі з гаспадарчай дзейнасцю чалавека; 2) сістэматычнае назіранне за якім-н. працэсам з мэтай выяўлення яго адпаведнасці пажаданаму выніку або першапачатковым меркаванням.

**МАНІФЕ́СТ** (*фр.* manifeste, ад *лац.* manifestus = яўны) — 1) урачысты пісьмовы зварот урада да насельніцтва з выпадку важнай падзеі; 2) пісьмовая адозва з выкладам якіх-н. палажэнняў праграмнага характару (напр. літаратурны м.).

**МАНІФЕСТА́ЦЫЯ** (*фр.* manifestation, ад *лац.* manifestare = рабіць яўным, паказваць) — 1) масавае вулічнае шэсце для выражэння салідарнасці або пратэсту; 2) *разм.* дзеянне каго-н., якое выяўляе яго адносіны да каго-н., чаго-н.

**МА́НІЯ** (*гр.* mania = шаленства, захапленне, цяга) — 1) псіхічна хваравіты стан, пры якім свядомасць і пачуцці сканцэнтроўваюцца на адной якой-н. ідэі (напр. м. вялікасці); 2) *перан.* моцная цяга да чаго-н. (напр. м. пісаць вершы).

**МАНІЯКА́ЛЬНЫ** (*фр.* maniacal, ад *гр.* mania = шаленства, захапленне, цяга) — звязаны з *маніяй* (напр. м. стан, м-ая ідэя).

**МАНКІ́РАВАЦЬ** (*фр.* manquer) — нядбайна адносіцца да чаго-н., пагарджаць чым-н. (напр. м. заняткамі).

**МАНУА́ЛЬНЫ** (*лац.* manualis = ручны) — *мед.* які ажыццяўляецца рукамі, уздзеяннем рук (напр. м-ая тэрапія).

**МАНУМЕНТА́ЛЬНЫ** (*лац.* monumentalis) — 1) велічны, грандыёзны, які ўражвае сваёй велічынёй, магутнасцю (напр. м-ае збудаванне); 2) *перан.* грунтоўны, глыбокі па зместу (напр. м-ае даследаванне).

**МАНУСКРЫ́ПТ** (*с.-лац.* manuscriptum, ад *лац.* manus = рука + scribere = пісаць) — рукапіс, пераважна старажытны (на папірусе, пергаменце, паперы).

**МАНЬЯ́К** (*фр.* maniaque, ад *гр.* mania = шаленства, захапленне, цяга) — чалавек, ахоплены адной неадчэпнай ідэяй.

**МАРА́ЗМ** (*гр.* marasmos = знясіленне) — 1) стан поўнага ўпадку псіхафізічнай дзейнасці (напр. старэчы м.); 2) *перан.* маральны ўпадак, разлажэнне (упасці ў м.).

**МАРАЛІЗАВА́ЦЬ** (*фр.* moraliser, ад *лац.* moralis = які датычыць звычаяў) — прапаведаваць строгую мараль, павучаць.

**МАРА́ЛЬ** (*фр.* morale, ад *лац.* moralis = які датычыць звычаяў) — 1) сукупнасць прынцыпаў і норм паводзін людзей у грамадстве (напр. м. узаемаадносін); 2) павучальны вывад з чаго-н. (напр. м. байкі); 3) *перан.* павучанне, настаўленне (напр. чытаць м.).

**МАРА́ЛЬНЫ** (*лац.* moralis = які датычыць звычаяў) —1) які мае адносіны да *маралі*, адпавядае правілам паводзін у грамадстве (напр. м. ўчынак); 2) звязаны з духоўнымі перажываннямі чалавека (напр. м-ая падтрымка).

**МАРАТО́РЫЙ** (*лац.* moratorius = які замаруджвае) — адтэрміноўка якіх-н. дзеянняў, выканання абавязацельстваў, якая ўстанаўліваецца дзяржавай на пэўны тэрмін або да заканчэння якіх-н. надзвычайных абставін (напр. м. на ядзерныя выпрабаванні).

**МАРАФЕ́Т** (*тур.* marafet = майстэрства, спрыт) — лоск, бляск; *наводзіць м.* — прыводзіць у парадак свой знешні выгляд, прыбіраць кватэру, горад і г. д.

**МАРГІНА́Л** (*фр.* marginal, ад *лац.* marginalis = пабочны, крайні) — чалавек, які страціў ранейшыя грамадскія сувязі і не прыстасаваўся да новых умоў жыцця (люмпен, басяк і інш.).

**МА́РЖА́** (*фр.* marge = край, мяжа) — *кам.* розніца паміж пакупной і прадажнай цаной тавараў, паміж курсамі каштоўных папер у дзень заключэння і ў дзень выканання здзелкі.

**МАРЖЫНА́ЛЬНЫ** (*фр.* marginal, ад *лац.* marginalis = пабочны, крайні) — *экан.* блізкі да мяжы, амаль стратны.

**МА́РКА** (*ням.* Marke) — 1) знак аплаты паштовых збораў; 2) кляймо на тавары з абазначэннем месца вырабу; 3) гатунак, тып вырабу, тавару (напр. м. сталі); 4) *разм.* рэпутацыя, прэстыж (напр. трымаць марку).

**МА́РКЕР** (*англ.* marker) — 1) фламастэр з тоўстым стрыжнем для выдзялення частак тэксту; 2) метка на магнітнай стужцы; 3) ружжо для гульні ў *пейнтбол*.

**МАРКЕ́ТЫНГ** (*англ.* marketing, ад market = рынак) — арганізацыя вытворчасці і збыту прадуктаў на аснове вынікаў інтэнсіўнага вывучэння і прагназіравання попыту, цэн, шырокага выкарыстання рэкламы і стымулявання вытворчасці, прымянення сучасных спосабаў захавання і транспарціроўкі тавараў, тэхнічнага і іншага абслугоўвання спажыўцоў.

**МАРКЁР** (*фр.* markueur) — асоба, якая абслугоўвае більярд і вядзе падлік ачкоў пры більярднай гульні.

**МАРЦІРАЛО́Г** (*с.-лац.* martirologium, ад *гр.* martys, -yros = = мучанік + logos = слова) — 1) зборнік сярэдневяковых аповесцей пра хрысціянскіх мучанікаў; 2) *перан.* спіс ахвяр, без віны замучаных, а таксама пералік перанесеных кім-н. пакут.

**МАРЦЫПА́Н** (*ням.* Marzipan, ад *іт.* marzapane) — 1) цестападобная маса, прыгатаваная з працёртага міндалю або арэхаў з цукрам, а таксама кандытарскі выраб з гэтай масы; 2) *перан.* што-н. вельмі смачнае, адмыслова прыгатаванае.

**МАРШРУ́Т** (*ням.* Marschrute, ад *фр.* marche = хадзьба + route = шлях, дарога) — загадзя вызначаны шлях руху (людзей, войск, паяздоў, самалётаў і г. д.).

**МА́РЫНЕР** (*англ.* mariner = *літар.* марак) — серыя амерыканскіх аўтаматычных міжпланетных станцый для даследавання планет Сонечнай сістэмы і касмічнай прасторы, а таксама праграма іх распрацоўкі і запускаў.

**МАРЫХУА́НА** (*ісп.* marihuana, з *індз.*) — *наркотык*, які здабываецца з індыйскіх канапель.

**МАРЫЯНЕ́ТКА** (*фр.* marionnette) — 1) тэатральная лялька, якая прыводзіцца ў рух пры дапамозе нітак або металічнага прута; 2) *перан.* чалавек, палітычны дзеяч, які слепа дзейнічае па ўказцы іншых, з'яўляецца паслухмянай прыладай у чужых руках.

**МАСА́Ж** (*фр.* massage) — расціранне цела з лячэбнай мэтай.

**МА́СКА** (*фр.* masque < *іт.* maschara, ад *ар.* maschara = насмешка) — 1) накладка на твар у форме звярынай морды ці чалавечага аблічча, якую надзяваюць у час спектакляў, маскарадаў, або проста накладка з прарэзамі для вачэй, каб не быць пазнаным; 2) засцерагальнае прыстасаванне для твару (напр. м. процівагаза); 3) слой накладзенага на твар лекавага саставу, крэму і інш.; 4) *перан.* прытворства, якім спрабуюць скрыць што-н.(напр. м. абыякавасці).

**МАСКАРА́Д** (*фр.* mascarade, ад *іт.* mascherata) — 1) баль, вечар, на які прыходзяць у масках і спецыяльных касцюмах (напр. навагодні м.); 2) *перан.* прытворства, ашуканства, якое скрывае сутнасць справы (напр. м. выбараў).

**МАСКІРАВА́ЦЬ** (*ням.* maskieren, ад *фр.* masquer) — 1) закрываць, прыкрываць што-н., робячы непрыкметным, нябачным (напр. м. ваенную тэхніку); 2) *перан.* скрываць учынкі, пачуцці чым-н. паказным, штучным (напр. м. свой намер).

**МАС-МЕ́ДЫЯ** (*англ.* mass-media, ад *лац.* mass = масавы + medium = цэнтр) — сродкі масавай інфармацыі (прэса, тэлебачанне, радыё, Інтэрнэт, кіно).

**МАСО́Н** (*фр.* maçon = *літар.* муляр) — член рэлігійна-этычнага таварыства з містычнымі абрадамі, якое ўзнікла ў XVIII ст. у Англіі і пашырылася ў многіх іншых краінах.

**МАТРЫМАНІЯ́ЛЬНЫ** (*лац.* matrimonialis, ад matrimonium = шлюб) — які мае адносіны да шлюбу; шлюбны.

**МАТЧ** (*англ.* match) — спартыўнае спаборніцтва паміж дзвюма камандамі або двума праціўнікамі.

**МАТЫВА́ЦЫЯ** (*англ.* motivation, ад *лац.* motivus = = рухомы) — сістэма довадаў, аргументаў на карысць чаго-н.

**МАТЭ́ЛЬ** [*англ.* motel, ад mot(orist's) (hot)el = гасцініца для аўтамабілістаў] — гасцініца для аўтатурыстаў са станцыяй тэхнічнага абслугоўвання, гаражамі, стаянкамі і іншымі відамі паслуг.

**МАТЭ́РЫЯ** (*лац.* materia) — 1) аб'ектыўная рэальнасць, якая існуе паміма і незалежна ад свядомасці чалавека; 2) рэчыва, з якога складаюцца фізічныя целы (напр. будова матэрыі); 3) тканіна (напр. сінтэтычная м.); 4) *перан.* прадмет размовы (напр. гаварыць аб высокіх матэрыях).

**МАТЭРЫЯЛІ́ЗМ** (*фр.* matérialisme, ад *лац.* materialis = рэчыўны) — 1) філасофскі напрамак, які асновай усяго існуючага лічыць матэрыю і сцвярджае незалежнасць матэрыяльнага свету ад свядомасці людзей, яго пазнавальнасць (проціл. *ідэалізм*); 2) *перан.* адносіны да рэчаіснасці з пункту гледжання выгады для сябе; карыслівасць.

**МАТЭРЫЯ́ЛЬНЫ** (*лац.* materialis = рэчыўны) — 1) рэчыўны, рэальны, які існуе незалежна ад нашай свядомасці (напр. м. свет); 2) звязаны з маёмасцю, сродкамі для існавання (напр. м-ая зацікаўленасць).

**МАФІЁЗІ** (*іт.* mafiosi) — член *мафіі.*

**МА́ФІЯ** (*іт.* mafia) — 1) тайная злачынная арганізацыя, якая мае пэўную структуру і характарызуецца сістэмай жорсткага падначалення яе верхаводу; 2) група асоб, якая карыстаецца любымі сродкамі і метадамі для дасягнення ўласных, карыслівых інтарэсаў (напр. гандлёвая м.).

**МАХІНА́ЦЫЯ** (*лац.* machinatio = хітрыкі) — несумленны спосаб дасягнення чаго-н.; хітры прыём, жульніцтва.

**МАХЛЯВА́ЦЬ** (*польск.* machlować, ад *ням.* makeln) — жульнічаць, ашукваць з мэтай нажывы.

**МАЦЫЁН** (*ням.* Motion, ад *лац.* motio, -onis = рух) — прагулка з мэтай умацавання здароўя або для адпачынку (напр. вячэрні м.).

**МАШЫНА́ЛЬНЫ** (*фр.* machinal, ад *лац.* machina = механізм) — міжвольны, аўтаматычны (напр. м. адказ, м. жэст).

**МАЭ́СТРА** (*іт.* maestro = настаўнік, майстар) — 1) ганаровая назва буйных дзеячаў у розных галінах мастацтва (кампазітараў, дырыжораў, жывапісцаў); 2) званне, якое прысвойваецца выдатным шахматыстам.

**МЕГАБА́ЙТ** (*англ.* megabyte) — адзінка вымярэння аб'ёму памяці *камп'ютэра*, роўная $2^{20}$ ($10^6$) *байт.*

**МЕГАФО́Н** (ад *гр.* megas = вялікі + phone = гук) — *рупар* для ўзмацнення голасу.

**МЕГЕ́РА** (*гр.* Megaira = імя адной з трох багінь помсты ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) — *перан.* злая, сварлівая жанчына.

**МЕДАЛЬЁН** (*фр.* médaillon) — ювелірны выраб у форме авальнага ці круглага футлярчыка з ланцужком, каб насіць на шыі; служыць для захавання фотаздымка або якога-н. талісмана.

**МЕДЫТА́ЦЫЯ** (*лац.* meditatio) — роздум, самапаглыбленне (напр. аддавацца медытацыі).

**МЕ́ДЫУМ** (*лац.* medium = сярэдзіна) — паводле ўяўленняў спірытаў (гл. *спірытызм*), пасрэднік паміж людзьмі і «духамі».

**МЕЗАЛЬЯ́НС** (*фр.* mésalliance) — шлюб з асобай ніжэйшага сацыяльнага становішча або з вялікай розніцай ва ўзросце; няроўны шлюб.

**МЕЗАНІ́Н** (*іт.* mezzanino) —няпоўны паверх, пабудаваны над цэнтральнай часткай жылога (звычайна невялікага) дома.

**МЕЛАДРА́МА** (*фр.* mélodrame, ад *гр.* melos = песня + drama = драма) — 1) драма з вострай інтрыгай, перабольшанай эмацыянальнасцю і рэзкім проціпастаўленнем дабра і зла; 2) *перан.* ненатуральнае, перабольшанае выражэнне пачуццяў.

**МЕЛАМА́Н** (*фр.* mélomane, ад *гр.* melos = песня + mania = = шаленства, захапленне, цяга) — той, хто вельмі любіць музыку і спевы.

**МЕЛА́НЖ-АКТ** (ад *фр.* mélange = сумесь + acte = дзеянне) — цыркавы нумар, які складаецца з разнастайных трукаў.

**МЕЛАНХО́ЛІЯ** (*гр.* melancholia, ад melas, -anos = чорны + + chole = жоўць) — хваравіта-прыгнечаны стан, туга, хандра.

**МЕМАРА́НДУМ** (*лац.* memorandum = тое, што трэба помніць) — 1) дыпламатычны дакумент, у якім выкладзены погляды ўрада на якое-н. пытанне; 2) *кам.* пісьмо з напамінаннем аб чым-н., напр. аб запазычанасці.

**МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫ** (*лац.* memorialis = памятны) — які служыць для ўвекавечвання памяці якой-н. асобы або падзеі (напр. м-ая дошка, м. комплекс).

**МЕМУА́РЫ** (*фр.* mémoires, ад *лац.* memoria = памяць) — літаратурны твор у форме ўспамінаў аб людзях і падзеях, сучаснікам або ўдзельнікам якіх быў аўтар.

**МЕ́НЕДЖМЕНТ** (*англ.* management, ад manage = кіраваць) — сукупнасць метадаў, форм і сродкаў кіравання вытворчасцю, якія прымяняюцца з мэтай павышэння эфектыўнасці вытворчасці і павелічэння прыбытку.

**МЕ́НЕДЖЭР** (*англ.* manager, ад manage = кіраваць) — 1) спецыяліст па арганізацыі і кіраванню ў сферах вытворчасці, збыту і абслугоўвання, які валодае пэўнай арганізацыйна-гаспадарчай самастойнасцю; 2) асоба, якая арганізуе публічныя выступленні артыстаў, спартсменаў.

**МЕНЕДЖЭРЫ́ЗМ** (*англ.* managerism, ад manage = кіраваць) — сучасная тэорыя кіравання ў сферах вытворчасці, збыту і абслугоўвання, заснаваная на ўліку навейшых навукова-тэхнічных дасягненняў.

**МЕНТАЛІТЭ́Т** (*ням.* Mentalität, ад *лац.* mens, -ntis = розум, мысленне) — сукупнасць псіхічных, інтэлектуальных, ідэалагічных, рэлігійных, эстэтычных асаблівасцей мыслення народа, сацыяльнай групы або індывіда, якая выяўляецца ў культуры, мове, паводзінах і г. д.; светаўспрыманне, настрой думак.

**МЕНТА́ЛЬНЫ** (*лац.* mentalis = разумовы, духоўны) — які датычыць спосабу мыслення, духоўнасці.

**МЕНЮ́** (*фр.* menu) — 1) набор страў і напіткаў для абеду, снедання, вячэры, а таксама лісток у сталовай, кафэ, рэстаране з іх пералікам; 2) *інф.* спіс, пералік рэжымаў, каманд, аперацый, які выводзіцца на экран *дысплея* і прапануецца карыстальніку для выбару (напр. выбраць у м. патрэбны файл).

**МЕРКАВА́ЦЬ** (*польск.* miarkować, ад *ням.* merken) — 1) разважаць, думаць; рабіць дапушчэнні; 2) мець намер, план.

**МЕРКАНТЫ́ЛЬНЫ** (*фр.* mercantile, ад *іт.* mercante = гандляр, купец) — 1) гандлёвы, камерцыйны; 2) *перан.* да дробязі ашчадны.

**МЕРЧЭНДА́ЙЗІНГ** (*англ.* merchandising) — комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб стварыць спрыяльную сітуацыю для пакупніка, забяспечыць максімальную верагоднасць куплі тавару.

**МЕ́СА** (*фр.* messe, ад *лац.* missa) — 1) галоўнае каталіцкае богаслужэнне (гл. *літургія*); 2) многагалосы харавы музычны твор на тэкст каталіцкага набажэнства, звычайна з суправаджэннем аргана або аркестра.

**МЕСІ́Я** (*лац.* messias, ад *ст.-яўр.* māšiāh = памазанік) — 1) паводле іудзейскага і хрысціянскага веравучэнняў, пасланец Бога, які павінен прыйсці на Зямлю, каб выратаваць род чалавечы ад зла і ўстанавіць царства нябеснае; 2) *перан.* выратавальнік.

**МЕТАГАЛА́КТЫКА** (ад *гр.* meta = пасля, за + galaktikos = = малочны) — *астр.* сукупнасць зорных сістэм, даступная сучасным астранамічным метадам даследавання.

**МЕ́ТАД** (*фр.* méthode, ад *гр.* methodos) — 1) спосаб пазнання, тэарэтычнага даследавання з'яў прыроды і грамадскага жыцця (напр. эксперыментальны м.); 2) прыём, сістэма прыёмаў у якой-н. дзейнасці (напр. м. навучання, мастацкі м.).

**МЕТАДАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* methodos = метад + logos = навука) — 1) вучэнне аб навуковым метадзе пазнання; 2) сукупнасць прыёмаў, якія прымяняюцца ў асобных навуках і практычнай дзейнасці (напр. м. моваазнаўчага даследавання).

**МЕТАЛАРО́К** (ад *ням.* Metall = метал + *англ.* rock = рок) — разнавіднасць музычнага стылю *рок*, для якой характэрны інтэнсіўнае гучанне гітар, хуткі тэмп ударных інструментаў і інш.

**МЕТАМАРФО́ЗА** (*лац.* metamorphosis, ад *гр.* metamorphosis = пераўтварэнне) — 1) *біял.* пераход адной формы развіцця ў другую са змяненнем знешняга выгляду і функцый (напр. м. вусеня ў матыля); 2) значная перамена, істотнае змяненне.

**МЕТАСТА́З** (*фр.* métastase, ад *гр.* metastasis = перамяшчэнне) — 1) перамяшчэнне крывёю або лімфай узбуджальніка хваробы ў арганізме з аднаго месца на другое; 2) месца захворвання, якое ўзнікла ў выніку перамяшчэння такога ўзбуджальніка.

**МЕТАФІ́ЗІКА** (*лац.* metaphysica, ал *гр.* meta ta physika = пасля фізікі) — 1) філасофскае вучэнне, якое сцвярджае нязменнасць раз назаўсёды дадзеных пачаткаў свету; 2) спосаб мыслення, які разглядае з'явы без уліку іх узаемнай сувязі і развіцця; 3) *перан.* што-н. малазразумелае, туманнае.

**МЕТРАПАЛІТЭ́Н** (*фр.* métropolitain, ад *гр.* metropolis = = галоўны горад, сталіца) — гарадская падземная электрычная чыгунка.

**МЕТРАПО́ЛІЯ** (*гр.* metropolis, ад meter = маці + polis = горад) — дзяржава ў адносінах да калоній, якімі яна валодае.

**МЕТРДАТЭ́ЛЬ** (*фр.* maître d'hôtel = гаспадар гасцініцы) — распарадчык у рэстаране, які кіруе працай афіцыянтаў.

**МЕТРО́** (*фр.* métro, ад métropolitain = метрапалітэн) — тое, што і *метрапалітэн.*

**МЕТЫ́С** (*фр.* métis, ад *лац.* mixtus = змешаны) — нашчадак ад шлюбу прадстаўнікоў розных рас.

**МЕТЭО́Р** (*гр.* meteoros = які лунае ў паветры) — 1) *астр.* з'ява кароткай успышкі невялікага нябеснага цела, якое з вялікай хуткасцю ўлятае ў зямную атмасферу з міжпланетнай прасторы, а таксама само такое цела; 2) *перан.* што-н. нечаканае, яркае, але хуткацечнае, недаўгавечнае.

**МЕХА́НІКА** [*лац.* mechanica, ад *гр.* mechanike (techne) = = навука аб машынах] — 1) раздзел фізікі, які вывучае рух цел у прасторы і сілы, што выклікаюць гэты рух; 2) *перан.* складаная сутнасць, будова чаго-н. (напр. м. гаспадаркі).

**МЕЦЭНА́Т** (*іт.* mecenate, ад *лац.* Mecenas, -atis = імя старажытнарымскага палітычнага дзеяча, які праславіўся

апякунствам мастакоў і паэтаў) — багаты апякун навук і мастацтваў.

**МІГРА́НТ** (*лац.* migrans, -ntis = які перамяшчаецца) — 1) асоба, якая выконвае *міграцыю* 1 (параўн. *імігрант* 1, *эмігрант* 1); 2) жывёла, якая выконвае *міграцыю* 2 (параўн. *імігрант* 2).

**МІГРА́ЦЫЯ** (*лац.* migratio = перамяшчэнне) — 1) перамяшчэнне насельніцтва ўнутры краіны або за яе межы (параўн. *іміграцыя* 1, *эміграцыя* 1); 2) перамяшчэнне жывёл у сувязі са змяненнем умоў існавання, порамі года, цыкламі развіцця і інш. (параўн. *іміграцыя* 2).

**МІГРЭ́НЬ** (*фр.* migraine, ад *гр.* hemikrania = галаўны боль, які ахоплівае палавіну галавы) — хвароба, якая суправаджаецца прыступамі галаўнога болю, звычайна ў адной палавіне галавы.

**МІ́ДЗІ** (*англ.* midi) — жаночае адзенне (спадніца, сукенка, паліто) сярэдняй даўжыні (параўн. *максі, міні*).

**МІЗАГІНІ́СТ** (ад *гр.* miseo = ненавіджу + gyne = жанчына) — жанчынаненавіснік.

**МІЗАНТРО́П** *фр.* misanthrope, ад *гр.* misanthropos) — чалавеканенавіснік.

**МІЗЭ́РНЫ** (*польск.* mizerny, ад *лац.* miser = бедны) — 1) маленькі, зусім нязначны (напр. м-ая плата); 2) нікчэмны (напр. м-ыя інтарэсы).

**МІКРАІНСУ́ЛЬТ** (ад *гр.* mikros = малы + *лац.* insultus = = прыступ, скачок) — *мед.* непрацяглы *інсульт.*

**МІКРАІНФА́РКТ** (ад *гр.* mikros = малы + *лац.* infarctus = = набіты, напоўнены) — *мед.* дробнаачаговы *інфаркт.*

**МІКРАКЛІ́МАТ** (ад *гр.* mikros = малы + klima, -atos = нахіл) — 1) клімат невялікага ўчастка пэўнага геаграфічнага ландшафту, абумоўлены асаблівасцямі мясцовасці (параўн. *макраклімат*); 2) *перан.* узаемаадносіны, умовы працы ў невялікім калектыве, у сям'і.

**МІКРАКАМП'ЮТЭР** (*англ.* microcomputer, ад *гр.* mikros = малы + *англ.* copmuter = камп'ютэр) — *камп'ютэр* на базе *мікрапрацэсара.*

**МІКРАКО́СМАС** (ад *гр.* mikros = малы + kosmos = Сусвет) — свет малых велічынь (атамаў, малекул) у адрозненне ад свету велічынь планетарнага і зорнага характару (параўн. *макракосмас*).

**МІКРАПРАЦЭ́САР** (*англ.* microprocessor, ад *гр.* mikros = = малы + *англ.* processor = працэсар) — *інф.* устройства для апрацоўкі інфармацыі, якое праграмна кіруецца і прымяняецца ў камп'ютэрах.

**МІКРАРАЁН** (ад *гр.* mikros = малы + *фр.* rayon = раён) — структурная адзінка сучаснай забудовы горада, дзе, акрамя жылых будынкаў, размешчаны гандлёвыя пункты, установы культурна-бытавога абслугоўвання насельніцтва і інш. (параўн. *макрараён*).

**МІКРАСКА́НЕР** (*англ.* microscanner, ад *гр.* mikros = малы + *англ.* scanner = сканер) — партатыўны апарат для чытання мікрафатаграфічнага здымка тэксту і ілюстрацый кнігі, брашуры.

**МІКРАФО́Н** (*фр.* microphone, ад *гр.* mikros = малы + phone = гук) — прыбор, які пераўтварае гукавыя ваганні ў электрычныя і служыць для перадачы гукаў на адлегласць або для ўзмацнення іх.

**МІКРО́БЫ** (ад *гр.* mikros = малы + bios = жыццё) — найдрабнейшыя, пераважна аднаклетачныя арганізмы, бачныя толькі пад мікраскопам.

**МІКСБО́РДЭР** (*англ.* mixborder, ад mix = змешваць + border = край) — шматрадковая пасадка кветкава-дэкаратыўных раслін, падбор якіх забяспечвае бесперапыннае цвіценне ад ранняй вясны да позняй восені.

**МІ́КСЕР** (*англ.* mixer) — механічны або электрычны апарат для хуткага змешвання, збівання чаго-н. (крэмаў, кактэйляў, мусаў і інш.).

**МІКСТУ́РА** (*лац.* mixtura = сумесь) — вадкае лякарства з сумесі некалькіх рэчываў (напр. м. ад кашлю).

**МІЛІТАРЫ́ЗМ** (*фр.* militarisme, ад *лац.* militaris = ваенны) — палітыка нарошчвання ваеннай магутнасці дзяржавы з мэтай падрыхтоўкі да вайны.

**МІМЕ́ЗІС** (*гр.* mimesis) — перайманне рэчаіснасці ў мастацтве.

**МІ́МІКА** [*с.-лац.* (ars) mimica = мастацтва жэстаў, ад *гр.* mimikos = пераймальны] — рухі мышцаў на твары, якія выражаюць пачуцці, настрой.

**МІНАРЭ́Т** (*ар.* minārat = маяк, вежа) — вежа пры *мячэці,* з якой *муэдзін* заклікае мусульман на малітву.

**МІ́НІ** (*англ.* mini, ад *лац.* minimus = найменшы) — жаночае адзенне (спадніца, сукенка, паліто) мінімальнай даўжыні (параўн. *максі, мідзі*).

**МІНІВЭ́Н** (*англ.* minivan, ад *лац.* mini = малы + *англ.* van = = фургон) — мікрааўтобус.

**МІНІКАМП'Ю́ТЭР** (*англ.* minicomputer, ад *лац.* mini = малы + *англ.* computer = камп'ютэр) — электронна-вылічальная машына, якая забяспечвае работу з большай, чым *мікракамп'ютэр*, колькасцю знешніх устройстваў.

**МІНІМАЛІ́ЗМ** (*фр.* minimalisme, ад *с.-лац.* minimalis = = найменшы) — зніжэнне патрабаванняў да мінімуму (параўн. *максімалізм*).

**МІНІМА́ЛЬНЫ** (*с.-лац.* minimalis = найменшы) — самы малы, найменшы (напр. м-ая затрата часу, м-ая хуткасць); параўн. *максімальны.*

**МІ́НІМУМ** (*лац.* minimum = найменшае) — найменшая велічыня, найменшая колькасць, самая нізкая ступень чаго-н. (напр. м. ападкаў, м. намаганняў; параўн. *максімум.*

**МІНО́РНЫ** (*іт.* minoire) — 1) *муз.* які мае сумную, тужлівую афарбоўку (напр. м-ая мелодыя); 2) *перан.* сумны, журботны (напр. м. настрой).

**МІРА́Ж** (*фр.* mirage) — 1) аптычная з'ява ў атмасферы, пры якой на гарызонце ўзнікаюць адлюстраванні далёкіх наземных прадметаў (назіраецца ў пустынях, стэпах, на моры); 2) *перан.* нешта падманлівае, уяўнае.

**МІ́СІЯ** (*лац.* missio = адпраўленне, пасылка) — 1) адказнае заданне, даручэнне (напр. сакрэтная м.); 2) адказная роля, высокае прызначэнне каго-н., чаго-н. (напр. высокая м. літаратуры); 3) пастаяннае дыпламатычнае прадстаўніцтва адной дзяржавы ў другой на чале з пасланнікам; 4) дэлегацыя, накіраваная ў іншую краіну са спецыяльнай мэтай (напр. ваенная м.).

**МІ́СТЫКА** (*гр.* mystika = таямнічасць) — 1) вера ў таямнічыя, звышнатуральныя сілы і магчымасць зносін з імі чалавека; 2) *перан.* нешта загадкавае, чаго нельга растлумачыць.

**МІСТЫФІКА́ЦЫЯ** (*фр.* mystification, ад *гр.* mystes = які ведае таінства + *лац.* facere = рабіць) — наўмыснае ўвядзенне каго-н. у зман (напр. жартоўная м.).

**МІТРАПАЛІ́Т** (*гр.* metropolites) — вышэйшае ганаровае званне епіскапа, а таксама епіскап, якому нададзена гэта званне.

**МІ́ТЫНГ** (*англ.* meeting) — мнагалюдны сход для абмеркавання палітычных або іншых надзённых пытанняў.

**МІ́ТЭЛЬШПІЛЬ** (*ням.* Mittelspiel) — сярэдняя стадыя шахматнай або шашачнай партыі, паміж *дэбютам* і *эндшпілем*.

**МІФАМА́НІЯ** (ад *гр.* mythos = паданне + mania = шаленства, захапленне, цяга) — анамальная схільнасць да выдумак, фантазіравання, апавядання неверагодных гісторый.

**МІШУРА́** (*ар.* mozavvir = падробка) — 1) пазалочаныя або пасярэбраныя металічныя ніткі, з якіх вырабляюць парчу, галуны, ёлачныя ўпрыгожанні і інш.; 2) *перан.* знешні бляск, паказная раскоша.

**МНЕМО́НІКА** (*гр.* mnemonika = майстэрства запамінання) — сукупнасць правіл і прыёмаў, якія маюць на мэце аблягчыць запамінанне як мага большай колькасці звестак і фактаў.

**МО́ДА** (*фр.* mode, ад *лац.* modus = спосаб) — 1) непрацяглае панаванне пэўнага густу ў якой-н. сферы жыцця або культуры (напр. апошняя м., выйсці з моды); 2) узор адзення, туалету, які прапануецца на пэўны час (напр. часопіс мод); 3) звычка, спосаб паводзін (напр. узяў моду спрачацца).

**МОНСТР** (*фр.* monstre, ад *лац.* monstrum = пачвара) — 1) пачвара, страшыдла; 2) *перан.* тое, што здзіўляе сваёй незвычайнасцю, памерамі, пачварнасцю (напр. архітэктурны м.).

**МОТАРО́ЛЕР** (*ням.* Motoroller, ад Motor = матор + Roller = самака́т) — від матацыкла з коламі малога дыяметра, з рухавіком, размешчаным ззаду седака або пад ім.

**МУ́ЗА** (*польск.* muza < *лац.* musa, ад *гр.* musa) — 1) кожная з дзевяці багінь, заступніц навук і мастацтваў, у старажытнагрэчаскай міфалогіі (напр. Мельпамена — м. трагедыі, Тэрпсіхора — м. танцаў); 2) *перан.* крыніца паэтычнага натхнення, а таксама само натхненне, творчасць (напр. м. Купалы).

**МУЗЕ́Й** (*лац.* museum, ад *гр.* museion = храм муз) — установа, якая збірае, вывучае і выстаўляе для паказу помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры, а таксама прыродазнаўчыя калекцыі (напр. краязнаўчы м.).

**МУ́ЗЫКА** [*польск.* muzyka < *лац.* musica, ад *гр.* musike (techne) = музычнае мастацтва] — 1) мастацтва, якое адлюстроўвае рэчаіснасць у гукавых вобразах, а таксама творы гэтага мастацтва; 2) выкананне твораў гэтага мастацтва (напр. м. і спевы); 3) *перан.* прыемнае для слыху гучанне чаго-н. (напр. м. размовы, м. ручая).

**МУЗЫ́КА** (*польск.* muzyk < *лац.* musicus, ад *гр.* musikos = музычны) — музыкант-выканаўца; той, хто іграе на музычным інструменце.

**МУЛЬТЫВІ́ЗА** (ад *лац.* multum = многа + visa, ад visus = = прагледжаны) — *віза*, якая дае права на шматразовы ўезд у якую-н. краіну; шматразовая віза.

**МУЛЬТЫМЕ́ДЫЯ** (*англ.* multimedia, ад *лац.* multum = = многа + medium = цэнтр) — *інф.* тэхналогія, якая прадугледжвае выкарыстанне розных сродкаў вытворчасці, захоўвання і перадачы інфармацыі (акустычных, візуальных, тэкставых, графічных), а таксама сукупнасць праграм і інфармацыйных сістэм, якія рэалізуюць гэту тэхналогію.

**МУЛЬТЫПЛІКА́ЦЫЯ** (*лац.* multiplicatio = памнажэнне) — кіназдымка паслядоўных фаз рухаў маляваных ці аб'ёмных фігур, што ствараюць ілюзію руху жывых персанажаў, а таксама фільм, створаны пры дапамозе такой кіназдымкі.

**МУЛЯ́Ж** (*фр.* moulage = ліццё) — злепак прадмета ў натуральную велічыню (з гіпсу, воску, парафіну), які выкарыстоўваецца ў якасці нагляднага дапаможніка пры выкладанні, а таксама для афармлення вітрын, у музейных экспазіцыях і інш.

**МУНІЦЫПАЛІТЭ́Т** (*ням.* Munizipalität, ад *лац.* municipalis = гарадскі) — орган гарадскога або сельскага самакіравання ў некаторых краінах.

**МУСІ́РАВАЦЬ** (*фр.* mousser = пеніцца) — 1) узбіваць пену; 2) *перан.* перавялічваць значэнне чаго-н. (напр. м. асцярогу, м. чуткі).

**МУСУЛЬМА́НІН** (*цюрк.* musulman, ад *ар.* muslim = які вызнае іслам) — той, хто вызнае *іслам.*

**МУТА́НТ** (*лац.* mutans, -ntis = які змяняе) — 1) асобіна жывёл або раслін, якая ўзнікае ў выніку *мутацыі* 1; 2) *пе-*

*ран.* чалавек, які жыве па скажоных маральных прынцыпах.

**МУТА́ЦЫЯ** (*лац.* mutatio = змяненне, змена) — 1) рэзкае змяненне спадчынных уласцівасцей арганізма; 2) ломка голасу ў падлеткаў з наступленнем палавой спеласці.

**МУ́ФТЫЙ** (*ар.* mufti = які вызначае) — вышэйшая духоўная асоба ў *мусульман*, якая надзелена правам выносіць рашэнні па рэлігійна-юрыдычных пытаннях, даваць растлумачэнні па выкарыстанню *шарыяту*.

**МУЭДЗІ́Н** (*ар.* mu'addin) — служыцель пры *мячэці*, які з высокай вежы (*мінарэта*) заклікае мусульман на малітву.

**МЭЙНСТРЫ́М** (*англ.* main stream) — найбольш тыповыя з'явы літаратуры і музыкі, распаўсюджаныя ў дадзеным грамадстве ў пэўную эпоху і запатрабаваныя ім.

**МЭР** (*фр.* maire, ад *лац.* major = старшы) — кіраўнік гарадской адміністрацыі.

**МЭ́РЫЯ** (*фр.* mairie, ад *лац.* major = старшы) — орган гарадской выканаўчай улады, а таксама будынак, дзе ён размешчаны.

**МЭ́ТА** (*лац.* meta) — тое, да чаго імкнуцца людзі і што хочуць ажыццявіць.

**МЮ́ЗІКЛ** (*англ.* musical = музычны) — 1) музычна-сцэнічны твор, пераважна камедыйнага характару, пабудаваны на выкарыстанні элементаў аперэты, балета, оперы і эстрады; 2) кінафільм такога характару.

**МЮЗІК-ХО́Л** (*англ.* music-holl = канцэртная зала) — від эстраднага тэатра, у праграме якога чаргуюцца эстрадныя, цыркавыя, балетныя, музычныя нумары.

**МЮ́СЛІ** (*ням.* Musli, ад *фр.* musse = мус) — 1) камякі з розных злакаў з раздробленымі дабаўкамі (фруктамі, арэхамі і інш.); 2) салодкая ежа з размочаных (у малацэ, соку, вадзе) камякоў.

**МЯЧЭ́ЦЬ** (*ар.* masdžid) — мусульманскі храм.

## Н

**НААСФЕ́РА** (ад *гр.* noos = розум + sphaira = сфера, шар) — новы эвалюцыйны стан *біясферы*, пры якім істотным

фактарам яе развіцця становіцца разумная дзейнасць чалавека.

**НАВАТАР** (*лац.* novator = абнавіцель) — той, хто выкарыстоўвае новыя, прагрэсіўныя метады і прыёмы ў сваёй дзейнасці.

**НАВАЦЫЯ** (*лац.* novatio = абнаўленне, змяненне) — 1) нававувядзенне; 2) спыненне раней прынятых абавязацельстваў з прыняццем новых (напр. н. дагавору).

**НАВЕЛА** (*іт.* novella, ад *лац.* novus = новы) — 1) невялікі празаічны твор са строгай кампазіцыяй, адсутнасцю апісальнасці і нечаканым фіналам; 2) *юр.* змена, якую новы закон уносіць у дзеючае заканадаўства.

**НАКАЎТ** (*англ.* knock-out, ад knock = ударыць + out = = вон) — стан баксёра, калі ён, збіты ўдарам праціўніка, не можа падняцца на ногі на працягу 10 секунд і лічыцца пераможаным (параўн. *накдаўн*).

**НАКДАЎН** (*англ.* knock-down, ад knock = ударыць + down = = уніз) — стан баксёра, калі ён, збіты ўдарам праціўніка, можа на працягу 10 секунд падняцца на ногі і працягваць бой (параўн. *накаўт*).

**НАКЦЮРН** (*фр.* nocturne = начны) — 1) невялікі музычны твор лірычнага характару; 2) мастацкі твор, у якім апяваецца ноч, начны настрой.

**НАМАЗ** (*перс.* namaz) — мусульманскі рэлігійны абрад, пры якім малітва суправаджаецца мыццём рук і рытуальнымі рухамі.

**НАМБЭ ТУ** (*англ.* number two = нумар два) — *жарг.* двойка, нездавальняючая адзнака.

**НАМЕНКЛАТУРА** (*лац.* nomenclatura = пералік, спіс імён) — 1) сукупнасць або пералік назваў, тэрмінаў, якія ўжываюцца ў якой-н. галіне навукі, тэхнікі, вытворчасці (напр. н. лекавых сродкаў, н. вырабаў); 2) сукупнасць работнікаў, якія персанальна прызначаюцца вышэйшай інстанцыяй (напр. н. урада).

**НАМІНАЛЬНЫ** (*лац.* nominalis = імянны) — 1) выражаны грашовай вартасцю, якая ўказана на чым-н. (напр. н-ая цана тавару); 2) які толькі называецца, але не выконвае сваіх функцый (напр. н. кіраўнік).

**НАМІНАЦЫЯ** (*лац.* nominatio) — 1) называнне чаго-н. (напр. н. новых рэалій); 2) катэгорыя асоб або твораў, з

ліку якіх эксперты ў той або іншай галіне літаратуры, мастацтва вылучаюць лепшых.

**НАПА́ЛМ** [*англ.* napalm, ад na(phthenic acid) = нафтэнавая кіслата + palm(itic acid) = пальміцінавая кіслата] — гаручая сумесь для бомб, агнямётаў (напр. паліць напалмам).

**НАРКАБІ́ЗНЕС** (ад *гр.* narke = аняменне + *англ.* business = = бізнес) — *бізнес*, які прыносіць даход ад незаконнага гандлю *наркотыкамі*.

**НАРКАМА́НІЯ** (*н.-лац.* narcomania, ад *гр.* narke = аняменне + mania = шаленства, захапленне, цяга) — хваравітая цяга да *наркотыкаў*.

**НАРКАМА́ФІЯ** (ад *гр.* narke = аняменне + *іт.* mafia = мафія) — злачынная арганізацыя, якая спецыялізуецца на вырабе і збыце *наркотыкаў*.

**НАРКО́З** (*фр.* narcose, ад *гр.* narke = аняменне) — штучна выкліканы стан з поўнай або частковай стратай прытомнасці і болевай адчувальнасці.

**НАРКО́ТЫК** (*н.-лац.* narcoticus, ад *гр.* narkotikos = які ашаламляе) — рэчыва, якое ўжываецца ў медыцыне як сродак абязбольвання або ўсыплення, а пры бескантрольным ужыванні прыводзіць да *наркаманіі*.

**НАРМАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* normalisation, ад *лац.* normalis = = урэгуляваны) — прывядзенне да *нормы*, падпарадкаванне норме (напр. н. міжнародных адносін, н. правапісу).

**НАРМА́ЛЬНЫ** (*лац.* normalis = урэгуляваны) — 1) які адпавядае *нормам*, звычайны, натуральны (напр. н-ая тэмпература, н. колер скуры); 2) псіхічна здаровы (напр. н. чалавек).

**НАРМАТЫ́ЎНЫ** (*фр.* normatif, ад *лац.* norma = норма) — які вызначае, устанаўлівае *норму* (напр. н-ая граматыка).

**НАРЦЫСІ́ЗМ** (*н.-лац.* narcissismus, ад *гр.* Narkissos = імя міфічнага юнака, які закахаўся ў сваё адлюстраванне ў вадзе, памёр ад кахання і быў ператвораны багамі ў кветку) — паталагічная самаўлюблёнасць, самалюбаванне.

**НАСТАЛЬГІ́Я** (*н.-лац.* nostalgia, ад *гр.* nostos = вяртанне + algos = боль) — 1) туга па радзіме; 2) туга па мінулым, страчаным.

**НАСТРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *лац.* noster = наш + facere = рабіць) — прывядзенне ў адпаведнасць дыпломаў, выдадзеных замежнымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, з дыпломамі айчынных навучальных устаноў.

**НАТА́РЫУС** (*п.-лац.* notarius) — службовая асоба, якая засведчвае і афармляе розныя юрыдычныя дакументы.

**НАТА́ЦЫЯ** (*лац.* notatio = заўвага) — 1) вымова, настаўленне (напр. прачытаць каму-н. натацыю); 2) сістэма ўмоўных памет, якія прыняты ў пэўнай галіне дзейнасці (напр. шахматная н.).

**НАТУ́РА** (*лац.* natura = прырода) — 1) рэальныя аб'екты рэчаіснасці, якія мастак назірае ў працэсе іх адлюстравання (напр. маляваць з натуры); 2) характар чалавека, тэмперамент (напр. уражлівая н., шырокая н.); 3) тавары, прадукты як сродак аплаты замест грошай (напр. разлічвацца натурай).

**НАТУРАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* naturalisation, ад *лац.* naturalis = прыродны) — 1) наданне правоў грамадзянства або падданства іншаземцам; 2) поўнае асваенне арганізмамі новых умоў жыцця пры *акліматызацыі*.

**НАТУРАЛІ́ЗМ** (*фр.* naturalisme, ад *лац.* naturalis = прыродны) — напрамак у літаратуры і мастацтве, які імкнецца толькі да знешняга капіравання рэчаіснасці без ідэйнага асэнсавання.

**НАТУРА́ЛЬНЫ** (*лац.* naturalis = прыродны) — 1) уласцівы прыродзе, адпаведны рэальнасці (напр. н-ыя ўмовы); 2) абумоўлены законамі прыроды (напр. н. прырост насельніцтва); 3) сапраўдны, не штучны (напр. н. шоўк); 4) непрытворны, шчыры (напр. н. смех); 5) які аплачваецца натурай (таварамі, прадуктамі), а не грашыма (напр. н-ая гаспадарка, н. падатак).

**НА́ЦЫЯ** (*лац.* natio = племя, народ) — устойлівая супольнасць людзей, якая ўзнікла гістарычна на аснове агульнасці мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця, культуры і асаблівасцей характару.

**НАЦЫЯНАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* nationalisation, ад *лац.* natio = = племя, народ) — перадача прыватнай уласнасці (зямель, прадпрыемстваў, банкаў, жылых будынкаў) ва ўласнасць дзяржавы.

**НЕАФІ́Т** (*фр.* néophyte, ад *гр.* neophytos) — 1) той, хто нядаўна прыняў якое-н. веравызнанне; 2) новы прыхільнік якога-н. вучэння або грамадскага руху.

**НЕАФО́БІЯ** (ад *гр.* neos = новы + phobos = страх) — паталагічны страх перад усім новым, перад зменамі ў прывычнай абстаноўцы.

**НЕГАТЫВІ́ЗМ** (*н.-лац.* negativismus, ад *лац.* negativus = = адмоўны) — 1) *мед.* сімптом расстройства вышэйшай нервовай дзейнасці, які праяўляецца ў супраціўленні знешнім уздзеянням; 2) нематываванае імкненне дзейнічаць насуперак; 3) адмаўленне чаго-н.

**НЕГАТЫ́Ў** (*лац.* negativus = адмоўны) — адбітак на фатаграфічнай пласцінцы або плёнцы, дзе асветленыя месцы атрымаліся цёмнымі, а цёмныя светлымі, а такса́ма сама пласцінка або плёнка з такім адбіткам (параўн. *пазітыў*).

**НЕГАТЫ́ЎНЫ** (*лац.* negativus = адмоўны) — 1) які адносіцца да *негатыва* (напр. н-ая плёнка); 2) адмоўны (напр. н-ая ацэнка); проціл. *пазітыўны* 2.

**НЕГАЦЫЯ́НТ** (*лац.* negotians, -ntis = які гандлюе) — камерсант, які вядзе аптовы гандаль пераважна за межамі сваёй краіны.

**НЕЙТРАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* neutralisation, ад *лац.* neutralis = які не належыць ні таму, ні другому) — 1) аслабленне ўплыву каго-н., чаго-н. (напр. н. дзеянняў працаўніка); 2) учыненне каго-н., чаго-н. нейтральным (напр. н. дзяржавы).

**НЕЙТРАЛІТЭ́Т** (*ням.* Neutralität, ад *лац.* neutralis = які не належыць ні таму, ні другому) — 1) неўмяшанне ў вайну паміж іншымі дзяржавамі, а ў мірны час адмаўленне ад удзелу ў ваенных блоках; 2) неўмяшанне ў чужыя спрэчкі, канфлікты.

**НЕЙТРА́ЛЬНЫ** (*лац.* neutralis = які не належыць ні таму, ні другому) — 1) які не прымыкае ні да аднаго з дзеючых бакоў (напр. н-ая дзяржава); 2) які не мае выразных адзнак, не аказвае ні карыснага, ні шкоднага ўздзеяння (напр. н. пах, н. раствор).

**НЕКРАЛО́Г** (*н.-лац.* necrologium, ад *гр.* nekros = мёртвы + logos = слова) — артыкул, прысвечаны нябожчыку, са звесткамі пра яго жыццё і дзейнасць.

**НЕКРО́ПАЛЬ** (*гр.* nekcropolis, ад *гр.* nekros = мёртвы + polis = горад) — 1) вялікі могільнік у краінах Старажытнага Усходу і антычным свеце; 2) месца, дзе пахаваны славутыя людзі.

**НЕКРАФІЛІ́Я** (ад *гр.* nekros = мёртвы + phileo = люблю) — палавая ненармальнасць, сексуальная цяга да трупаў.

**НЕКРАФО́БІЯ** (*н.-лац.* necrophobia, ад *гр.* nekros = мёртвы + phobos = страх) — неадольная боязь трупаў і пахавальных рэчаў.

**НЕ́ТА** (*іт.* netto = *літар.* чысты) — 1) вага тавару без упакоўкі (параўн. *брута* 1); 2) цана тавару, даход з вылікам скідак, расходаў (параўн. *брута* 2).

**НЕЎРАЛГІ́Я** (ад *гр.* neuron = нерв + algos = боль) — прыступ болю, які развіваецца пры запаленні якога-н. нерва.

**НЕЎРАСТЭНІ́Я** (ад *гр.* neuron = нерв + asteneia = слабасць) — функцыянальнае расстройства нервовай сістэмы, якое выклікаецца галоўным чынам launched пператамленнем.

**НЕЎРО́З** (*н.-лац.* neurosis, ад *гр.* neuron = нерв) — функцыянальнае нервова-псіхічнае захворванне, якое развіваецца пад уплывам цяжкіх перажыванняў, стрэсаў, псіхічнага перанапружання і інш.

**НІВЕЛІ́РАВАЦЬ** (*ням.* nivellieren, ад *фр.* niveler) — 1) вызначаць вышыню пунктаў зямной паверхні над узроўнем мора або адносна пэўнай вышыні; 2) *перан.* згладжваць розніцу паміж чым-н. (напр. н. супярэчнасці).

**НІГІЛІ́ЗМ** (*фр.* nihilisme, ад *лац.* nuhil = нішто, нічога) — поўнае адмаўленне прынятых норм, прынцыпаў, маральных каштоўнасцей.

**НІК** (*англ.* nick) — імя карыстальніка Інтэрнэтам, напр. пры размовах у *чаце*.

**НІКАЦІ́Н** (*фр.* nicotine, ад J.Nicot = прозвішча французскага дыпламата, які ў 1560 г. завёз у Францыю тытунь) — ядавітае наркатычнае рэчыва, якое ўтрымліваецца ў тытуні.

**НІКТАФО́БІЯ** (ад *гр.* nyks, -ktos = ноч + phobos = страх) — неадольная боязь цемры, сімптом псіхічнага расстройства.

**НІМБ** (*лац.* nimbus = *літар.* воблака) — 1) выява ззяння ў выглядзе круга вакол галавы як сімвал святасці на іконах, карцінах рэлігійнага зместу; 2) *перан.* атмасфера поспеху вакол каго-н. (напр. н. славы).

**НІМФАМА́НІЯ** (ад *гр.* nymphe = жанчына + mania = шаленства, захапленне, цяга) — хваравіта-павышаная палавая цяга ў жанчын.

**НІРВА́НА** (*санскр.* nirvana = знікненне, згасанне) — стан спакою і шчасця, які, паводле *будызму*, дасягаецца адмаўленнем ад жыццёвых клопатаў і імкненняў.

**НІТРА́ТЫ** (ад *гр.* nitron = салетра) — солі азотнай кіслаты, якія шырока выкарыстоўваюцца як угнаенне.

**НОНКАНФАРМІ́ЗМ** (*англ.* nonconformism, ад *лац.* non = = не + conformus = падобны) — 1) тэістычная плынь у Англіі, якая не прызнае вучэння і абрадаў дзяржаўнай англіканскай царквы; 2) іншадумства, нязгода з існуючай ідэалогіяй або маральнай дактрынай.

**НОН-СТО́П** (*англ.* non-stop, ад *лац.* non = не + stop = прыпынак) — бесперапынна (аб музыцы, дэманстрацыі кінафільмаў і інш.).

**НО́НСЭНС** (*англ.* nonsense, ад *лац.* non = не + sensus = = сэнс) — бяссэнсіца, недарэчнасць.

**НОН-ФІ́КШН** (*англ.* non fiction) — біяграфічны, публіцыстычны твор, дакументальная літаратура.

**НОРД** (*гал.* noord) — 1) поўнач, паўночны напрамак; 2) паўночны вецер.

**НОРД-ВЕ́СТ** (*гал.* noordwest) — 1) паўночны захад, паўночна-заходні напрамак; 2) паўночна-заходні вецер.

**НОРД-О́СТ** (*гал.* noordost) — 1) паўночны ўсход, паўночна-ўсходні напрамак; 2) паўночна-ўсходні вецер.

**НО́РМА** (*лац.* norma) — 1) агульнапрыняты, абавязковы ў пэўным асяроддзі парадак, лад чаго-н. (напр. нормы паводзін, этычныя нормы); 2) устаноўленая мера, сярэдняя велічыня чаго-н. (напр. н. выпрацоўкі, н. выпадзення ападкаў).

**НО́СТРА-КО́НТА** (*іт.* nostro conto = наш рахунак) — рахунак, які банк мае ў іншым банку (партнёры па дагавору) для ўнясення бягучых сум.

**НО́ТА**[1] (*лац.* nota = знак, заўвага) — 1) умоўны графічны знак для абазначэння музычнага гуку, а таксама сам гэты гук; 2) *мн.* музычны твор у нотным запісе (напр. папка з нотамі); 3) *перан.* тон гаворкі, у якім выражаецца пэўнае пачуццё (напр. н. незадавальнення).

**НО́ТА**[2] (*лац.* nota = знак, заўвага) — афіцыйны дыпламатычны зварот урада адной дзяржавы да ўрада другой (напр. н. пратэсту).

**НОТАБЕ́НЕ** (*лац.* nota bene = заўваж добра) — памета NB на палях кнігі, рукапісу, дакумента каля слоў, на якія трэба звярнуць асаблівую ўвагу.

**НО́Ў́ТБУК** (*англ.* notebook = запісная кніжка) — плоскі партатыўны персанальны *камп'ютэр* з вадкакрышталічным *дысплеем*.

**НОЎ́-ХА́У** (*англ.* know-how, ад know = ведаць + how = як) — 1) сукупнасць тэхнічных ведаў і вопыту, неабходных для ажыццяўлення якога-н. вытворчага працэсу; кампетэнцыя, набытая працяглым вопытам; 2) камерцыйная, тэхнічная, тэхналагічная інфармацыя ў выглядзе спецыяльнай тэхнічнай дакументацыі, вытворчага вопыту.

**НУВАРЫ́Ш** (*фр.* nouverau riche = новы багач) — асоба, якая спрытна і лоўка абагацілася на спекуляцыях.

**НУДЫ́ЗМ** (*фр.* nudisme, ад *лац.* nudus = голы) — прапаганда культу аголенага цела.

**НУ́НЦЫЙ** (*лац.* nuntius) — пастаянны дыпламатычны прадстаўнік рымскага папы пры ўрадзе якой-н. дзяржавы.

**НЬЮСМЕ́ЙКЕР** (*англ.* newsmaker, ад news = навіны + make = рабіць) — чалавек (палітычны дзеяч, артыст, спартсмен і г. д.), які ў той ці іншы момант становіцца аб'ектам увагі журналістаў як асоба, што цікавіць чытачоў і гледачоў.

**НЬЮС-РЭ́ЛІС** (*фр.* news-relise) — тэхнічныя дадзеныя аб тавары, аб самой кампаніі, якія дазваляюць спажыўцу атрымаць шырокую інфармацыю аб прадмеце размовы.

**НЬЮСРУ́М** (*англ.* newsroom, ад news = навіны + room = = пакой) — аддзел навін ва ўстановах сродкаў масавай інфармацыі (на тэлебачанні, радыё, у рэдакцыі газеты).

**НЭТЭТЫКЕ́Т** (*англ.* netetiquette, ад net = сетка + *фр.* etiquette = этыкет) — правілы паводзін у камп'ютэрных сетках.

**НЮ** (*фр.* nu = голы) — адлюстраванне аголенага чалавечага цела ў выяўленчым мастацтве.

**НЮА́НС** (*фр.* nuance) — адценне, ледзь прыкметнае адрозненне ў чым-н. (у гуках, колерах, меркаваннях і г. д.).

## О

**О́ДА** (*гр.* oda = песня) — урачысты верш, прысвечаны якой-н. значнай падзеі або асобе.

**ОН-ЛА́ЙН** (*англ.* on line = на лініі) — рэжым непасрэднай сувязі з сістэмай *камп'ютэра*.

**ÓПЕРА** (*іт.* opera, ад *лац.* opera = твор) — 1) жанр музычна-драматычнага мастацтва, які спалучае інструментальную музыку з вакальнай; 2) твор такога жанру; 3) тэатр, дзе ставяцца і выконваюцца такія творы.

**ÓПІУМ** (*лац.* opium, ад *гр.* opion = макавы сок) — 1) высушаны млечны сок з няспелых галовак маку, які ўжываецца як наркатычны і болесуцішальны сродак; 2) *перан.* тое, што атупляе розум, свядомасць, перашкаджае правільнаму ўспрыманню рэчаіснасці.

**ÓПТЫКА** (*гр.* optike) — 1) раздзел фізікі, які вывучае з'явы і ўласцівасці святла; 2) прыборы і інструменты, дзеянне якіх заснавана на законах гэтай навукі.

**ÓРГАН** (*лац.* organum, ад *гр.* organon = прылада, інструмент) — 1) частка арганізма, якая мае пэўную будову і выконвае пэўную функцыю; 2) установа, якая выконвае пэўныя задачы ў той ці іншай галіне грамадскага жыцця (напр. органы народнай адукацыі); 3) друкаванае выданне, якое належыць якой-н. установе або арганізацыі (напр. акадэмічны о.).

**ÓРДЭН** (*ням.* Orden, ад *лац.* ordo, -dinis = рад, разрад) — 1) знак узнагароды за якія-н. заслугі; 2) каталіцкая манаская або (у сярэднія вякі) рыцарская арганізацыя з пэўным статутам (напр. о. езуітаў, о. мечаносцаў).

**ÓРДЭР** (*ням.* Order, ад *фр.* ordre = парадак, загад) — 1) пісьмовы загад, распараджэнне, дакумент на выдачу або атрыманне чаго-н. (напр. о. на кватэру, расходны о.); 2) від архітэктурнай кампазіцыі, якая складаецца з вертыкальных і гарызантальных частак.

**ОСТ** (*гал.* oost) — 1) усход, усходні напрамак; 2) усходні вецер.

**ÓФІС** (*англ.* office, ад *лац.* officium = абавязак, служба) — кантора, канцылярыя, служба якой-н. фірмы, арганізацыі.

# П

**ПАБ** (*англ.* pub, ад public house = грамадскі дом) — піўная (галоўным чынам у англамоўных краінах).

**ПАБЛІСІЦІ** (*англ.* publicity) — 1) вядомасць, папулярнасць, якая дасягаецца публічнымі выступленнямі; 2) рэкламаванне сродкамі масавай інфармацыі.

**ПАВІЛЬЁН** (*фр.* pavillon, ад *лац.* papilio = шацёр) — 1) невялікі лёгкі будынак у парках і іншых людных месцах (напр. гандлёвы п., кветкавы п.); 2) будынак для размяшчэння экспанатаў якой-н. выстаўкі, для правядзення кінаі фотаздымак.

**ПАГАДА** (*парт.* pagode, ад *санскр.* bhagode = святая) — будыйскі або індуісцкі храм у выглядзе шмат'яруснай вежы ва Усходняй і Паўднёва-Усходняй Азіі.

**ПАГАМЕНТ** (*іт.* pagamento) — плата наяўнымі грашыма.

**ПАЗЁР** (*фр.* poseur) — чалавек, які клапоціцца аб знешнім эфекце сваіх паводзін, прымае *позу* 2, рысуецца.

**ПАЗІРАВАЦЬ** (*фр.* poser) — 1) быць натурай для фатографа або мастака; 2) *перан.* прымаць *позу* 2, рысавацца.

**ПАЗІТЫЎ** (*лац.* positivus = дадатны) — адбітак з *негатыва*, на якім светлыя і цёмныя часткі адпавядаюць іх сапраўднаму размеркаванню ў рэчаіснасці, а таксама фота- або кінаплёнка з такімі адбіткамі.

**ПАЗІТЫЎНЫ** (*лац.* positivus = дадатны) — 1) які адносіцца да *пазітыва* (напр. п-ая плёнка); 2) станоўчы (напр. п-ае рашэнне); проціл. *негатыўны* 2.

**ПАЗІЦЫЯ** (*лац.* positio) — 1) становішча, размяшчэнне чаго-н. (напр. шахматная п., мінамётная п.); 2) раён ваенных дзеянняў (напр. адправіцца на пазіцыі); 3) *перан.* пункт гледжання, думка ў якім-н. пытанні (напр. адстойваць сваю пазіцыю).

**ПАЗЛ** (*англ.* puzzle) — малюнак-галаваломка, сабраны з дэталей (кавалачкаў).

**ПАЗУМЕНТ** (*ням.* Posament, ад *фр.* passement) — шытая золатам або серабром тасьма для ўпрыгожвання адзення, мэблі.

**ПАЙ** (*цюрк.* pay = частка) — доля, якая ўносіцца ў агульную справу асобным яе ўдзельнікам або прыходзіцца на каго-н. (напр. кааператыўны п.).

**ПАКТ** (*лац.* pactum = дагавор) — міжнародны дагавор, звычайна вялікага палітычнага значэння.

**ПАЛА́ТА** (*лац.* palatium = палац) — 1) *уст.* вялікае, пышна аздобленае памяшканне ў палацы; 2) асобны пакой для хворых у бальніцы; 3) састаўная частка заканадаўчага органа або парламента; 4) назва некаторых дзяржаўных устаноў (напр. гандлёвая п., кніжная п.).

**ПАЛЕМІЗАВА́ЦЬ** (*фр.* polémiser, ад *гр.* polemizo = ваюю) — весці *палеміку*, спрачацца, пярэчыць.

**ПАЛЕ́МІКА** (*фр.* polémique, ад *гр.* polemikos = ваяўнічы, варожы) — спрэчкі пры абмеркаванні навуковых, літаратурных або палітычных пытанняў.

**ПАЛЕМІ́СТ** (*фр.* polémiste, ад *гр.* polemistes = ваяўнік) — той, хто ўмее або любіць *палемізаваць.*

**ПАЛІГЛО́Т** (*гр.* polyglottos, ад poly = многа + glotta = мова) — чалавек, які ведае многа моў.

**ПАЛІКЛІ́НІКА** (*ням.* Poliklinik, ад *гр.* poly = многа + klinike = лячэнне) — лячэбна-прафілактычная ўстанова, дзе ўрачы многіх спецыяльнасцей аказваюць насельніцтву небальнічную медыцынскую дапамогу.

**ПАЛІМЕ́РЫ** (*гр.* polymeres, ад polys = шматлікі + meros = = частка) — высокамалекулярныя хімічныя злучэнні, якія складаюцца з аднародных, што паўтараюцца, груп атамаў і шырока прымяняюцца ў тэхніцы.

**ПАЛІНДРО́М** (*гр.* palindromos = які вяртаецца) — слова або словазлучэнне, якое аднолькава чытаецца злева направа і справа налева (напр. казак, дом мод).

**ПАЛІРАВА́ЦЬ** (*ням.* polieren, ад *лац.* polire = рабіць гладкім) — надаваць прадмету гладкі, люстраны выгляд шляхам націрання (напр. п. мэблю).

**ПАЛІ́ТЫК** (*гр.* politikos = палітычны) — 1) палітычны дзеяч; 2) *перан.* той, хто выяўляе такт і ўменне ў адносінах з людзьмі.

**ПАЛІ́ТЫКА** [*гр.* politike (techne) = уменне кіраваць дзяржавай] — 1) дзейнасць органаў дзяржаўнай улады, партый, грамадскіх груп у галіне ўнутрыдзяржаўнага кіравання і міжнародных адносін, адпаведная іх інтарэсам і мэтам (напр. п. мірнага суіснавання); 2) сукупнасць пытанняў і падзей унутранага і міжнароднага грамадскага жыцця; 3) характар чыіх-н. паводзін, накіраваны на дасягненне пэўнай мэты (напр. мне твая п. вядома).

**ПАЛІЯТЫЎ** (*фр.* palliatif, ад *лац.* palliatus = прыкрыты) — 1) лякарства або іншы сродак, які дае часовую палёгку хвораму, але не вылечвае хваробу; 2) *перан.* сродак, які дае часовы выхад з цяжкага становішча; паўмера.

**ПАЛТЭРГЕЙСТ** (*ням.* Poltergeist, ад Polter = шум + Geist = = дух) — 1) містычны дух, нябачная істота, якой прыпісваюць розныя непрыемныя з'явы ў доме, што звычайна суправаджаюцца шумам; 2) з'явы перамяшчэння або знікнення прадметаў, якія адбываюцца дома і тлумачацца выхадкамі дамавіка, духа.

**ПАЛЬПАЦЫЯ** (*лац.* palpatio = абмацванне) — *мед.* метад абследавання органаў хворага шляхам абмацвання пальцамі або далонямі рук.

**ПАЛЯРНЫ** (*с.-лац.* polaris) — 1) які знаходзіцца на *полюсе* або ў раёне полюса (напр. п-ая станцыя, п. дзень); 2) *перан.* супрацьлеглы (напр. п-ыя погляды).

**ПАМПЕЗНЫ** (*фр.* pompeux, pompeuse, ад *лац.* pompa = урачыстае шэсце) — разлічаны на знешні эфект, пышны, урачысты (напр. п-ая сустрэча, п-ыя прамовы).

**ПАМПЕРС** (*англ.* pumpers) — дзіцячы падгузак з вельмі мяккага матэрыялу, які добра ўсмоктвае вільгаць.

**ПАМФЛЕТ** (*англ.* pamphlet) — мастацка-публіцыстычны твор сатырычнага характару, накіраваны супраць якой-н. асобы, палітычнай з'явы, грамадскага ладу.

**ПАНАЦЭЯ** (*лац.* panacea, ад *гр.* Panakeia = імя старажытнагрэчаскай багіні-лекаркі) — уяўны сродак, які быццам бы можа выратаваць ва ўсіх выпадках жыцця.

**ПАНДЭМІЯ** (*гр.* pandemia = увесь народ) — больш шырокае, чым пры *эпідэміі*, распаўсюджванне якой-н. інфекцыйнай хваробы, якая ахоплівае цэлыя краіны, нават мацерыкі.

**ПАНЕГІРЫК** [*гр.* panegyrikos (logos) = урачыстая прамова] — празмернае ўсхваленне каго-н., чаго-н. (у прамове, літаратурным творы і г. д.).

**ПАНІКА** (*фр.* panique, ад *гр.* panikos = раптоўны) — раптоўны непараадольны страх, які ахоплівае аднаго чалавека або многіх людзей.

**ПАНІХІДА** (*гр.* pannychida = усяночная) — хрысціянская царкоўная служба па нябожчыку.

**ПАНК** (*англ.* punk) — малады чалавек з вольнай манерай паводзін, у стракатым, крыклівым адзенні, які адрозніваецца ад іншых стылізаванай прычоскай.

**ПАНК-РО́К** (*англ.* punk rock) — стыль *рок-музыкі*, які вызначаецца агрэсіўнай манерай выканання, хуткім тэмпам (заснаваны на светаўспрыманні *панкаў*).

**ПАНО́** (*фр.* panneau) — 1) аздобленая арнаментам частка сцяны або столі з малюнкам або скульптурнай выявай; 2) мазаічная, ляпная або іншая кампазіцыя, прызначаная для запаўнення такой часткі сцяны або столі.

**ПАНО́ПТЫКУМ** (ад *гр.* pan = усё + optikos = зрокавы) — выстаўка (музей) васковых фігур або іншых незвычайных экспанатаў.

**ПАНСЛАВІ́ЗМ** (ад *гр.* pan = усё + *с.-лац.* slavus = славянін) — палітычная плынь, якая імкнецца да аб'яднання ўсіх славянскіх народаў на чале з Расіяй.

**ПАНТАМІ́МА** (*гр.* pantomimos = які ўсё пераймае) — тэатральны спектакль, у якім змест сцэн перадаецца не словамі, а жэстамі, мімікай, пластычнымі рухамі.

**ПАНТЭО́Н** (*гр.* pantheion, ад pan = усё + theos = бог) — 1) храм, прысвечаны ўсім багам, у старажытных грэкаў і рымлян; 2) манументальны будынак, прызначаны для пахавання выдатных дзеячаў.

**ПАНЭ́ЛЬ** (*ням.* Paneel) — 1) плоская пліта завадскога вырабу як частка сцяны будынка; 2) драўляная абшыўка або афарбоўка ніжняй часткі сцяны ў памяшканні; 3) частка электрычнага шчыта, пульта кіравання, прыбора, на якой размешчана сігнальная, кантрольная, вымяральная і іншая апаратура; 4) тое, што і *тратуар*.

**ПА́ПА** (*лац.* papa, ад *гр.* pappas = бацька) — галава каталіцкай царквы і дзяржавы Ватыкан.

**ПАПАРА́ЦЫ** (*іт.* paparazzo) — фотарэпарцёр, які імкнецца пранікнуць у прыватнае жыццё славутасцей з мэтай зрабіць сенсацыйныя здымкі.

**ПАПКО́РН** (*англ.* popcorn, ад pop = лопаць з трэскам + + corn = кукуруза) — пражаная паветраная кукуруза.

**ПАПУЛІ́ЗМ** (*фр.* populisme, ад *лац.* populus = народ) — паддобрыванне да народных мас, заснаванае на легкаважных абяцаннях, дэмагагічных лозунгах.

**ПАПУЛІСТ** (*англ.* populist, *фр.* populiste, ад *лац.* populus = народ) — палітычны лідэр, які робіць стаўку на падтрымку шырокіх народных мас і дабіваецца папулярнасці за кошт абяцанняў, у далейшым малаажыццявімых.

**ПАПУЛЯРНЫ** (*лац.* popularis = народны) — 1) агульнадаступны, зразумелы па прастаце, яснасці выкладу (напр. п-ая брашура, п-ая музыка); 2) шырока вядомы, прызнаны; распаўсюджаны (напр. п. кінаартыст, п-ая песня).

**ПАПУРЫ** (*фр.* pot-pourri = *літар.* мешаная страва) — 1) музычная п'еса, якая складаецца з урыўкаў розных агульнавядомых мелодый; 2) *перан.* мешаніна, сумесь розных рэчаў.

**ПАРАГРАФ** (*лац.* paragraphus, ад *гр.* paragraphos) — частка тэксту ўнутры раздзела, пазначаная знакам §, а таксама сам гэты знак.

**ПАРАДОКС** (*гр.* paradoksos = нечаканы, дзіўны) — 1) своеасаблівая думка, меркаванне, якое разыходзіцца з агульнапрынятымі поглядамі, супярэчыць разумнаму сэнсу; 2) з'ява, якая здаецца неверагоднай і нечаканай.

**ПАРАЗІТ** (*гр.* parasitos = нахлебнік, дармаед) — 1) расліна або жывёла, якая жыве на паверхні ці ўнутры іншага арганізма і корміцца за яго кошт; 2) *перан.* той, хто жыве з чужой працы.

**ПАРАКСІЗМ** (*гр.* paroksysmos = узбуджэнне, раздражненне) — 1) моцны прыступ хваробы; 2) *перан.* вострае перажыванне, прыступ душэўнага ўзбуджэння.

**ПАРАЛЕЛЬ** (*гр.* parallelos = які праходзіць побач) — 1) *мат.* кожная з прамых ліній, *паралельных* дадзенай; 2) *геагр.* уяўная лінія, праведзеная паралельна *экватару* па зямной паверхні; 3) *перан.* з'ява, якая можа параўноўвацца з іншай падобнай з'явай (напр. гістарычныя паралелі).

**ПАРАЛЕЛЬНЫ** (*гр.* parallelos) — 1) *мат.* які знаходзіцца на ўсім працягу на аднолькавай адлегласці ад якой-н. лініі; 2) *перан.* які дубліруе, паўтарае што-н.; аднолькавы, падобны (напр. п-ая праца, п-ыя з'явы).

**ПАРАЛІЧ** (ад *гр.* paralysis = расслабленне) — 1) хвароба, якая пазбаўляе той ці іншы орган цела здольнасці рухацца, дзейнічаць (напр. п. ног); 2) *перан.* стан бяздзейнасці,

страта здольнасці выконваць свае функцыі (напр. п. эканомікі).

**ПАРАМЕТР** (*гр.* parametron = які адмервае) — 1) *мат.* велічыня, якая ўваходзіць у якую-н. формулу і захоўвае пастаяннае значэнне толькі для дадзенага выпадку; 2) велічыня, якая характарызуе пэўную ўласцівасць устройства, сістэмы або з'явы, працэсу (напр. тэхнічныя параметры).

**ПАРАМНЕЗІЯ** (ад *гр.* para = каля, пры + mnesis = успамін) — *мед.* парушэнне памяці, пры якім падзеі, што адбываюцца ў дадзены момант, здаюцца ўжо некалі перажытымі (параўн. *амнезія*).

**ПАРАНОЙЯ** (*гр.* paranoia = вар'яцтва) — хранічнае псіхічнае захворванне, якое характарызуецца стойкім трызненнем пры захаванні ў астатнім лагічнасці мыслення.

**ПАРАНАРМАЛЬНЫ** (ад *гр.* para = каля + *лац.* normalis = = урэгуляваны) — які мае незвычайныя, не растлумачаныя сучаснай навукай, праяўленні.

**ПАРАПСІХАЛОГІЯ** (ад *гр.* para = каля + psyche = душа + logos = слова) — 1) галіна псіхалогіі, якая вывучае незвычайныя здольнасці чалавечага арганізма (яснабачанне, тэлепатыю і інш.); 2) тэлепатычныя здольнасці чалавека.

**ПАРАФІРАВАЦЬ** (*фр.* parapher) — падпісваць міжнародны дагавор ініцыяламі ўпаўнаважаных асоб кожнага з дагаворных бакоў для пацвярджэння папярэдняй дамоўленасці, да афіцыйнага падпісання.

**ПАРАФІЯ** (*польск.* parafia, ад *лац.* parochia) — 1) касцельная акруга, якая падпарадкоўваецца аднаму ксяндзу; 2) *перан.* тэрыторыя, якая знаходзіцца пад чыім-н. кіраўніцтвам.

**ПАРВЕНЮ** (*фр.* parvenu) — асоба, якая хутка дасягнула высокага службовага становішча або прабілася ў вышэйшыя слаі грамадства; выскачка.

**ПАРКЕР** (*англ.* Parker = назва фірмы) — аўтаручка (звычайна чарнільная, з залатым пяром) фірмы «Паркер».

**ПАРКІНГ** (*англ.* parking) — спецыяльна абсталяванае месца для часовай стаянкі аўтатранспарту.

**ПАРЛАМЕНТ** (*англ.* parliament) — вышэйшы заканадаўчы орган з выбарных прадстаўнікоў у многіх краінах.

**ПАРЛАМЕНТАРЫЙ** (*англ.* parliamentarian) — член *парламента.*

**ПАРЛАМЕНЦЁР** (*фр.* parlementaire, ад parler = гаварыць) — асоба, якая пасылаецца адным з ваюючых бакоў для перагавораў з праціўнікам.

**ПАРНАГРА́ФІЯ** (*фр.* pornographie, ад *гр.* pornos = распуснік + grapho = пішу) — груба натуралістычнае адлюстраванне палавога жыцця ў літаратуры, выяўленчым мастацтве, тэатры, кіно, фатаграфіі, а таксама творы з такім зместам.

**ПАРО́ДЫЯ** (*гр.* parodia = спевы наадварот) — 1) твор, сатырычна або камічна падроблены пад іншы твор; 2) *перан.* няўдалае, часта знешняе перайманне чаго-н., скажонае падабенства да чаго-н.

**ПАРО́ЛЬ** (*фр.* parole = слова) — сакрэтнае ўмоўнае слова або фраза для апазнання сваіх у канспіратыўных арганізацыях і на вайсковай службе.

**ПАРТАТЫ́ЎНЫ** (*фр.* portatif, ад *лац.* portare = насіць) — зручны для пераноскі, невялікіх памераў (напр. п. магнітафон).

**ПАРТНЁР** (*фр.* partenaire) — 1) удзельнік гульні з кім-н. (на сцэне, у спорце і г. д.), а таксама наогул удзельнік якой-н. сумеснай дзейнасці; 2) краіна — удзельнік якога-н. саюза, блока, пагаднення.

**ПАРТЭ́Р** (*фр.* parterre) — ніжні паверх глядзельнай залы з месцамі для публікі.

**ПАРЦЬЕ́** (*фр.* portier, ад porte = дзверы) — служачы, які выдае ключы, прымае пошту ў вестыбюлі гасцініцы.

**ПАРЫ́РАВАЦЬ** (*ням.* parieren, ад *фр.* parer = адбіваць) — 1) адбіваць удар праціўніка (пры фехтаванні); 2) *перан.* абвяргаць нападкі або довады праціўніка ў спрэчцы, палеміцы (напр. п. абвінавачанні).

**ПАРЫТЭ́Т** (*ням.* Parität, ад *лац.* paritas, -atis = роўнасць) — 1) раўнапраўе бакоў пры разборы канфліктаў (напр. у міжнароднай нарадзе); 2) *экан.* адносіны паміж валютамі розных краін у золаце.

**ПАСА́Ж** (*фр.* passage) — 1) крытая галерэя з гандлёвымі памяшканнямі па баках; 2) частка музычнага твора, звычайна віртуознага характару.

**ПАСІ́Ў** (*лац.* passivus = нядзейны) — 1) менш дзейная, менш ініцыятыўная частка арганізацыі, калектыву; 2) сукупнасць даўгоў і абавязацельстваў прадпрыемства (проціл. *актыў* 2); 3) перавышэнне грашовых замежных

расходаў краіны над яе даходамі, атрыманымі з-за мяжы (проціл. *актыў* 3); 4) тое, што складае адмоўны бок якой-н. з'явы, справы.

**ПАСІЎНЫ** (*лац.* passivus) — які не праяўляе дзейнасці, неэнергічны, абыякавы да ўсяго (напр. п. чалавек).

**ПАСКВІЛЬ** (*іт.* pasquillo, ад Pasquino = імя рымскага башмачніка XV ст., які пісаў з'едлівыя эпіграмы на высокапастаўленых асоб) — твор паклёпніцкага, зневажальнага характару.

**ПАСТАРАЛЬ** (*фр.* pastorale, ад *лац.* pastoralis = пастухоўскі) — 1) жанравая разнавіднасць *буколікі*, драматычны твор у заходнееўрапейскай літаратуры XIV—XVII стст., у якім ідылічна паказваецца жыццё пастухоў і пастушак на ўлонні прыроды; 2) невялікая опера, балет, пантаміма на ідылічны вясковы сюжэт.

**ПАСТСКРЫПТУМ** (*лац.* post scriptum = пасля напісанага) — прыпіска ў канцы пісьма пасля подпісу (абазначаецца літарамі P.S.).

**ПАСТУЛАТ** (*лац.* postulatum) — зыходнае палажэнне, якое прымаецца без доказаў.

**ПАСТФАКТУМ** (*лац.* post factum = пасля зробленага) — пасля таго, як што-н. ужо зроблена, адбылося (напр. паведаміць п.).

**ПАСТФОРМІНГ** (*англ.* posrforming, ад *лац.* post = пасля + + *англ.* forming = наданне формы) — матэрыял, абабіты ахоўна-дэкаратыўным слоем пластыку, устойлівы да зносу, светлавога і цеплавога ўздзеяння.

**ПАСТЭЛЬ** (*фр.* pastel, ад *іт.* pastello) — мяккія каляровыя алоўкі для жывапісу, а таксама малюнкі, выкананыя такімі алоўкамі.

**ПАТАГЕННЫ** (ад *гр.* pathos = боль, пакута + genos = род) — *мед.* хваробатворны (напр. п-ыя мікробы).

**ПАТАЛОГІЯ** (ад *гр.* pathos = боль, пакута + logos = вучэнне) — 1) навука аб хваробных працэсах, адхіленнях ад нормы ў арганізме, а таксама самі такія адхіленні; 2) *перан.* адхіленне ад нормы ў чым-н. (напр. п. паводзін, п. развіцця грамадства).

**ПАТРЫМАНІЯЛЬНЫ** (*лац.* patrimonialis) — спадчынны, родавы.

**ПАТРЫЯ́РХ** (*гр.* patriarches = родапачынальнік) — 1) кіраўнік роду ў родавым грамадстве; 2) вышэйшая духоўная асоба, кіраўнік праваслаўнай царквы; 3) *перан.* стары і вельмі паважаны чалавек у якім-н. калектыве.

**ПАТЭ́НТ** (*лац.* patens, -ntis = адкрыты, яўны) — 1) дакумент, у якім засведчана права вынаходніка на яго вынаходства; 2) пасведчанне на права займацца пэўнай дзейнасцю (напр. гандлем, промыслам).

**ПАТЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ** (*с.-лац.* potentialis) — які існуе ў скрытым выглядзе і можа праявіцца ў пэўных умовах; магчымы (проціл. *актуальны* 2).

**ПАТЭРНАЛІ́ЗМ** (*англ.* paternalism, ад *лац.* paternus = бацькоўскі) — 1) від дабрачыннасці, які выяўляецца ў клопаце кіраўніцтва ўстановы або прадпрыемства аб бытавых і культурных умовах падначаленых; 2) апека буйных дзяржаў над больш слабымі краінамі, калоніямі, тэрыторыямі.

**ПАТЭ́ТЫКА** (*гр.* pathetikos = хвалюючы) — усхваляваны тон размовы, літаратурнага твора, музыкі, кіно, тэатральнай пастаноўкі.

**ПА́ЎЗА** (*лац.* pausa, ад *гр.* pausis = спыненне) — кароткі перапынак у гутарцы, гучанні музычнага твора, працы і інш.

**ПА́ЎПЕР** (*лац.* pauper = бедны) — чалавек, пазбаўлены сродкаў для існавання.

**ПАЎПЕРЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* pauperisation, ад *лац.* pauper, -eris = бедны) — працэс масавага збяднення працоўных.

**ПАЎЭРЛІ́ФТЫНГ** (*англ.* powerlifting, ад power = сіла + + lifting = падыманне) — атлетычнае сілавое трохбор'е, куды ўваходзіць прысяданне са штангай, жым штангі лежачы на спіне і падыманне штангі ад падлогі.

**ПА́ФАС** (*гр.* pathos = пачуццё, страсць) — уздым, запал, энтузіязм (напр. гаварыць з пафасам, п. творчасці).

**ПАЦЫЁНТ** (*лац.* patiens, -ntis = які пакутуе) — хворы ў адносінах да ўрача, у якога ён лечыцца.

**ПАЦЫФІ́ЗМ** (*фр.* pacifisme, ад *лац.* pacificus = прымірэнчы) — палітычная плынь і светапогляд, якія асуджаюць любыя войны.

**ПАЦЫФІ́СТ** (*фр.* pacifiste, ад *лац.* pacificus = міратворчы) — прыхільнік *пацыфізму*.

**ПА́ШПАРТ** (*польск.* paszport < *фр.* passeport, ад passe = праход + port = гавань) — 1) афіцыйны дакумент устаноўленага ўзору, які засведчвае асобу яго ўладальніка; 2) пасведчанне з асноўнымі звесткамі аб якой-н. машыне, абсталяванні (напр. тэхнічны п. аўтамабіля).

**ПАШТА́МТ** (*ням.* Postamt) — галоўная паштовая ўстанова горада, якая ажыццяўляе ўсе віды паштовай, тэлеграфнай і тэлефоннай сувязі, а таксама будынак, дзе знаходзіцца гэта ўстанова.

**ПАЭ́ЗІЯ** (*гр.* poiesis = творчасць) — 1) адзін з асноўных жанраў літаратуры, славесная мастацкая творчасць (звычайна ў вершаванай форме), а таксама творы, напісаныя вершамі (проціл. *проза*); 2) сукупнасць вершаваных твораў якога-н. народа, паэта, часу; 3) *перан.* што-н. прыгожае, узвышанае.

**ПАЭ́МА** (*лац.* poema, ад *гр.* poiema = творчасць) — вялікі вершаваны твор з апавядальным або лірычным сюжэтам.

**ПАЯ́Ц** (*іт.* pagliaccio, ад paglia = салома) — 1) камічны персанаж старадаўняга народнага італьянскага тэатра; 2) *уст.* клоун у цырку, балагане; 3) *перан.* чалавек, які крыўляецца, паводзіць сябе як клоун.

**ПЕДА́НТ** (*фр.* pédant, ад *іт.* pedante = *літар.* настаўнік, педагог) — той, хто залішне строга прытрымліваецца дробязных, фармальных патрабаванняў у чым-н.

**ПЕДАНТЫ́ЗМ** (*фр.* pédantisme, ад pédant < *іт.* pedante = = *літар.* настаўнік, педагог) — празмерны *фармалізм,* дробязная дакладанасць у чым-н.

**ПЕДЫКЮ́Р** (*фр.* pédicure, ад *лац.* pes, pedis = нага + cura = догляд) — гігіенічная апрацоўка ступняў ног (чыстка і паліраванне ногцяў, выдаленне мазалёў і інш.).

**ПЕЙНТБО́Л** (*англ.* paintball) — спартыўная камандная гульня са спецыяльнымі ружжамі (*маркерамі*), якія страляюць фарбамі.

**ПЕ́ЛЕНГ** (*гал.* peiling = вызначэнне ўзроўню) — 1) вугал паміж стрэлкай компаса і напрамкам, па якім відаць даны прадмет або чуваць даны гук (параўн. *азімут* 2); 2) разнавіднасць строю ваенных караблёў і самалётаў (у караблёў — размяшчэнне адзін за другім па прамой, якая праходзіць пад вуглом да напрамку руху, у самалётаў — размяшчэнне адзін за другім уступамі).

**ПЕНАЛЬЦІ** (*англ.* penalty) —штрафны ўдар па варотах праціўніка з адлегласці 11 метраў пры гульні ў *футбол*.

**ПЕНАТЫ** (*лац.* penates = дамашнія багі; родны дом) — родны дом, родны кут.

**ПЕНІТЭНЦЫЯРНЫ** (*фр.* pénitentiaire, ад *с.-лац.* poenitentiarius = папраўчы) — *юр.* звязаны з асабліва жорсткімі формамі крымінальнага пакарання.

**ПЕН-КЛУБ** [*англ.* PEN, ад p(oets), e(ssayists), n(ovelists) = = паэты, эсэісты, раманісты + club = клуб] — міжнароднае аб'яднанне пісьменнікаў, якое ставіць перад сабой гуманныя і праваабарончыя мэты.

**ПЕНСІЯ** (*лац.* pensio = плацеж) — рэгулярнае грашовае забеспячэнне за выслугу гадоў, па інваліднасці і інш.

**ПЕНТАГОН** (*гр.* pentagonon, ад pente = пяць + gonia = = круг) — 1) *мат.* пяцівугольнік; 2) міністэрства абароны ЗША (размешчана ў будынку пяцівугольнай формы).

**ПЕНЧЫНГБОЛ** (*англ.* punchingball, ад punch = біць кулаком + ball = мяч) — мяч для трэніроўкі баксёраў, прымацаваны на пружыне да столі і падлогі.

**ПЕНЯ** (*лац.* poena = пакаранне) — штраф за невыкананне ў тэрмін устаноўленых законам або дагаворам абавязацельстваў.

**ПЕПСІ-КОЛА** (*англ.* pepsi-cola, ад *гр.* pepsis = страваванне + *н.-лац.* cola = кола) — безалкагольны танізуючы прахаладжальны напітак.

**ПЕРВЕРСІЯ** (*лац.* perversio) — палавая ненармальнасць.

**ПЕРЛЮСТРАЦЫЯ** (*фр.* perlustration, ад *лац.* perlustrare = праглядваць) — тайнае распячатванне і прагляд дзяржаўнымі органамі паштовай карэспандэнцыі з мэтай цэнзуры.

**ПЕРМАНЕНТНЫ** (*лац.* permanens, -ntis) — бесперапынны, пастаянны (напр. п-ае развіццё).

**ПЕРОН** (*фр.* perron) — пасажырская платформа на чыгуначнай станцыі.

**ПЕРСАНАЖ** (*фр.* personnage, ад *лац.* persona = асоба) — дзеючая асоба ў мастацкім творы, у жанравым жывапісе.

**ПЕРСАНАЛ** (*лац.* personalis = асабовы) — склад супрацоўнікаў якой-н. установы, прадпрыемства, а таксама група работнікаў адной прафесіі, аднаго полу (напр. п. лабараторыі, медыцынскі п., жаночы п.).

**ПЕРСАНА́ЛЬНЫ** (*лац.* personalis = асабовы) — які датычыцца толькі пэўнай асобы або ажыццяўляецца пэўнай асобай (напр. п-ае запрашэнне, п-ая адказнасць).

**ПЕРСО́НА** (*лац.* persona) — 1) *іран.* асоба (напр. важная п., уласнай персонай — сам, асабіста); 2) асоба пры разліках абслугоўвання, пераважна за сталом (напр. накрыць стол на шэсць персон).

**ПЕРСО́НА ГРА́ТА** (*лац.* persona grata = пажаданая асоба) — 1) *дыпл.* асоба, чыя кандыдатура на дыпламатычны пост адобрана ўрадам той краіны, куды яна накіравана; 2) *перан.* асоба, да якой ставяцца прыхільна.

**ПЕРСО́НА НОН ГРА́ТА** (*лац.* persona non grata = непажаданая асоба) — 1) дыпламатычны прадстаўнік, які не карыстаецца давер'ем з боку ўрада дзяржавы, куды ён прызначаны; 2) *перан.* асоба, якая не карыстаецца прыхільнасцю.

**ПЕРСПЕКТЫ́ВА** (*фр.* perspective, ад *лац.* perspicere = уважліва разглядаць) — 1) від удалячынь з якога-н. месца; 2) спосаб перадачы аб'ёмных прадметаў на плоскасці з улікам уяўных змяненняў іх велічыні, абрысаў, выразнасці ў залежнасці ад ступені аддаленасці ад наглядальніка (напр. законы перспектывы); 3) *перан.* планы на будучае (напр. перспектывы развіцця навукі).

**ПЕРТУРБА́ЦЫЯ** (*лац.* perturbatio = расстройства) — 1) *астр.* адхіленне нябесных цел ад сваёй арбіты пад уздзеяннем сілы прыцяжэння іншых нябесных цел; 2) раптоўнае парушэнне звычайнага, нармальнага ходу чаго-н.

**ПЕРФАКА́РТА** (ад *лац.* perforare = свідраваць + charta = = ліст паперы) — картка стандартнай формы з прабітымі на ёй у пэўным парадку адтулінамі, што ўтрымліваюць закадзіраваную інфармацыю.

**ПЕРФАРМА́НС** (*фр.* performance, ад *лац.* performans = які ствапае) — бурны поспех.

**ПЕРФО́РМАНС** (*англ.* performance, ад *лац.* performans = які стварае) — тэатральнае прадстаўленне; кароткі паказ, сцэнка.

**ПЕРФО́РМЕР** (*англ.* performer) — спецыяліст па арганізацыі *перфармансаў.*

**ПЕРЦЭ́ПЦЫЯ** (*лац.* perceptio = разуменне, пазнаванне) — *псіх.* успрыманне, непасрэднае адлюстраванне аб'ектыўнай рэальнасці органамі пачуццяў.

**ПЕ́РШЫНГ** (*англ.* Persing) — ракета сярэдняй далёкасці з ядзернай боегалоўкай (вытворчасці ЗША).

**ПЕРЫГЕ́Й** (*н.-лац.* perigaeum, ад *гр.* peri = вакол + ge = = Зямля) — *астр.* бліжэйшы ад цэнтра Зямлі пункт арбіты Месяца або штучнага спадарожніка (проціл. *апагей* 1).

**ПЕРЫПЕТЫ́Я** (*гр.* peripeteia) — раптоўная змена, нечаканы паварот у якой-н. падзеі, у жыцці (напр. перыпетыі лёсу).

**ПЕРЫФЕРЫ́Я** (*гр.* periphereia = акружнасць) — 1) аддаленая ад цэнтра мясцовасць, а таксама мясцовыя ўстановы ў адрозненне ад цэнтральных (напр. працаваць на перыферыі); 2) аддаленая ад цэнтра частка чаго-н. (напр. нервовая п.); 3) *інф.* абсталяванне і прыстасаванні, якія адносяцца да камп'ютэра.

**ПЕРЫ́ЯД** (*гр.* periodos = абход, пэўнае кола часу) — 1) адрэзак часу, які ахоплівае пэўны закончаны працэс (напр. п. росквіту); 2) этап грамадскага развіцця (напр. гістарычны п.); 3) адрэзак часу, на працягу якога завяршаецца які-н. паўторны працэс (напр. п. абарачэння Зямлі вакол Сонца); 4) *мат.* група лічбаў, якія нязменна паўтараюцца ў адной і той жа паслядоўнасці; 5) *лінгв.* складаны сказ з дзвюма інтанацыйна процілеглымі часткамі.

**ПЕРЫЯДЫ́ЧНЫ** (*гр.* periodikos) — 1) які паўтараецца праз пэўныя прамежкі часу (напр. п-ыя дажджы); 2) які выдаецца праз пэўныя прамежкі часу (напр. п. друк).

**П'Е́СА** (*фр.* pièce) — 1) драматычны твор, прызначаны для пастаноўкі на сцэне; 2) невялікі музычны твор (напр. інструментальная п.).

**ПЕСІМІ́ЗМ** (*фр.* pessimisme, ад *лац.* pessimus = найгоршы) — светаадчуванне, прасякнутае безнадзейнасцю, нявер'ем у лепшае будучае; схільнасць бачыць ва ўсім толькі дрэннае (проціл. *аптымізм*).

**ПЕСІМІ́СТ** (*фр.* pessimiste, ад *лац.* pessimus = найгоршы) — чалавек, схільны да *песімізму* (проціл. *аптыміст*).

**ПЕСТЫЦЫ́ДЫ** (ад *лац.* pestis = зараза + caedere = забіваць) — хімічныя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца для барацьбы са шкоднікамі раслін, паразітамі дамашніх жывёл, пераносчыкамі захворванняў.

**ПЕТА́РДА** (*фр.* pétard) — папяровы піратэхнічны (гл. *піратэхніка*) снарад, напоўнены порахам, які дае частыя выбухі.

**ПЕТЫ́ЦЫЯ** (*лац.* petitio) — калектыўная пісьмовая просьба, накіраваная органам улады.

**ПІА́Р** [*англ.* PR, ад p(ublic) r(elations) = грамадскія сувязі] — сістэма інфармацыйных сувязей прадстаўнікоў улады з грамадскасцю, якая ажыццяўляецца *прэс-сакратарамі* або спецыяльнымі служачымі пэўных уладных структур.

**ПІГМЕ́Й** (*гр.* pigmaios = велічынёй з кулак) — 1) прадстаўнік нізкарослых плямён у Цэнтральнай Афрыцы і Паўднёва-Усходняй Азіі; 2) *перан.* чалавек надта малога росту; 3) *перан.* нікчэмны, абмежаваны чалавек.

**ПІГМЕ́НТ** (*лац.* pigmentum = фарба, мазь) — 1) рэчыва ў арганізме чалавека, жывёл і раслін, якое надае афарбоўку скуры, валасам, кветкам і інш.; 2) хімічнае злучэнне, якое ў выглядзе парашкоў прымяняецца для фарбавання пластмас, гумы і інш.

**ПІГМЕНТА́ЦЫЯ** (*фр.* pigmentation, ад *лац.* pigmentum = = фарба, мазь) — афарбоўка тканак жывых арганізмаў, абумоўленая наяўнасцю *пігмента* 1 (напр. п. скуры).

**ПІЕТЭ́Т** (*ням.* Pietät, ад *лац.* pietas, -atis = набожнасць) — глыбокая павага, пачцівыя адносіны да каго-н., чаго-н.

**ПІК** (*фр.* pic) — 1) вострая вяршыня гары; 2) *перан.* кароткатэрміновы рэзкі пад'ём у развіцці чаго-н. (напр п. атмасфернага ціску); *гадзіна п.* — час найбольшага напружання ў рабоце транспарту.

**ПІКА́НТНЫ** (*фр.* piquant, ад piquer = калоць) — 1) востры на смак (напр. п. соус); 2) *перан.* які выклікае востры інтарэс, цікавасць (напр. п. выпадак); 3) *перан.* прываблівы, спакуслівы (напр. п-ая знешнасць).

**ПІКЕ́Т** (*фр.* piquet) — 1) невялікі ваенны вартавы атрад, застава (напр. конны п.); 2) група асоб, якія стаяць дзе-н. з мэтай дэманстрацыі грамадскага пратэсту (напр. пікеты каля будынка парламента).

**ПІКІ́РАВАЦЦА** (*фр.* se piquer) — абменьвацца з'едлівымі, колкімі заўвагамі.

**ПІКНІ́К** (*англ.* picnic) — загарадная прагулка кампаніяй з закускай на свежым паветры.

**ПІЛІГРЫ́М** (*с.-лац.* pelegrinus, ад *лац.* peregrinus = чужаземны) — 1) вындроўны багамолец, паломнік; 2) *перан.* вандроўнік, падарожны.

**ПІ́ЛІНГ** (*англ.* peeling) — касметычны сродак для ачышчэння скуры.

**ПІ́ЛЬНЫ** (*польск.* pilny) — 1) праніклівы, зоркі (напр. п. погляд); 2) уважлівы, неаслабны (напр. п-ая праверка); 3) тэрміновы, неадкладны (напр. п-ая патрэба).

**ПІЛЮ́ЛЯ** (*лац.* pilula) — 1) лякарства ў выглядзе цвёрдага шарыка (напр. прыпісаць пілюлі); 2) *перан.* што-н. крыўднае, абразлівае (напр. паднесці пілюлю).

**ПІНГ-ПО́НГ** (*англ.* ping-pong) — настольны тэніс.

**ПІП-ШО́У** (*англ.* peep show, ад peep = падглядваць + + show = відовішча, паказ) — эратычнае відовішча, якое ўяўляе сабой дэманстрацыю спецыяльна натрэніраванай жанчынай свайго цела ў закрытым памяшканні перад нябачнымі ёю гледачамі, што назіраюць за ёю праз асобыя вокны ў сценах гэтага памяшкання.

**ПІРАТЭ́ХНІКА** (ад *гр.* pyr = агонь + techne = майстэрства) — галіна тэхнікі, звязаная з вырабам гаручых сумесей, сігнальных агнёў, ракет і інш.

**ПІ́РСІНГ** (*англ.* piercing) — праколванне розных частак цела (ноздраў, языка і інш.) і замацаванне ў праколах пярсцёнкаў, ланцужкоў і іншых упрыгожанняў, пашыранае ў маладзёжным і артыстакратычным асяроддзі.

**ПІРУЭ́Т** (*фр.* pirouette) — 1) поўны кругавы паварот усім целам на наску адной нагі ў танцы; 2) хуткае вярчэнне цела вакол вертыкальнай восі ў фігурным катанні на каньках; 3) паварот каня на задніх нагах пры верхавой яздзе.

**ПІ́ЦА** (*іт.* pizza) — страва ў выглядзе праснака з запечанымі ў ім з таматным соусам кавалачкамі мяса, сыру, гародніны, грыбоў.

**ПІЦЭ́РЫЯ** (*іт.* pizzeria, ад *іт.* pizza = піца) — закусачная, дзе гандлююць *піцай.*

**ПЛАГІЯ́Т** (*фр.* plagiat, ад *лац.* plagiatus = выкрадзены) — прысваенне аўтарства на чужы твор літаратуры, навукі, мастацтва або выкарыстанне ў сваёй працы чужога твора без спасылкі на аўтара.

**ПЛА́ЗМА** (*н.-лац.* plasma, ад *гр.* plasma = утварэнне) — 1) вадкая частка крыві; 2) *фіз.* стан рэчыва, у які яно пераходзіць, пачынаючы з тэмператур у некалькі тысяч градусаў.

**ПЛАКА́Т** (*ням.* Plakat) — вялікі каляровы малюнак з агітацыйным або рэкламным тэкстам.

**ПЛАКЕ́ТКА** (*фр.* plaquette) — 1) твор медальернага мастацтва, медаль прамавугольнай ці блізкай да прамавугольнай формы; 2) пласцінка з рэльефным адбіткам, якая ўжываецца для ўпрыгожвання мэблі.

**ПЛАМБАВА́ЦЬ** (*польск.* plombować, ад *фр.* plomber) — 1) запячатваць што-н. *пломбай* 1 (напр. п. вагон); 2) класці *пломбу* 2 (напр. п. зуб).

**ПЛАН** (*лац.* planum = плоскасць) — 1) чарцёж якой-н. мясцовасці, будынка, прадмета (напр. тапаграфічны п., п. горада, п. школы); 2) загадзя намечаная праграма мерапрыемстваў, выканання пэўнай работы (напр. вытворчы п.); 3) задума, праект, асноўныя рысы якой-н. работы (напр. п. даклада); 4) размяшчэнне чаго-н. у перспектыве (напр. пярэдні п.); 5) спосаб разгляду чаго-н., пункт гледжання (напр. у тэарэтычным плане).

**ПЛАСТМА́СА** (ад *гр.* plastikos = пластычны + *лац.* massa = кавалак, камяк) — матэрыял, створаны на аснове прыродных і сінтэтычных высокамалекулярных злучэнняў, якія лёгка фармуецца пры награванні, а потым устойліва захоўвае нададзеную яму форму.

**ПЛА́СТЫК** (*англ.* plastic, ад *гр.* plastikos = пластычны) — тое, што і *пластмаса.*

**ПЛА́СТЫКА** (*н.-лац.* plastica, ад *гр.* plastike = скульптура) — 1) мастацтва, якое стварае вобразы шляхам лепкі, разьбярства і інш.; 2) эстэтычная выразнасць аб'ёмнай фігуры, гарманічнасць і грацыёзнасць рухаў цела.

**ПЛАСТЫ́ЧНЫ** (*гр.* plastikos) — 1) які адносіцца да *пластыкі*, вызначаецца гарманічнасцю, грацыёзнасцю (напр. п-ае мастацтва, п-ыя рухі); 2) здольны пад ціскам змяняць сваю форму, не ломкі (напр. п-ыя матэрыялы); 3) звязаны з перасадкай скуры (напр. п-ая аперацыя).

**ПЛАТАНІ́ЧНЫ** (*гр.* platonikos, ад Platon = імя старажытнагрэчаскага філосафа) — чыста духоўны, пазбаўлены практычных мэт (напр. п-ыя мары).

**ПЛАТФО́РМА** (*фр.* plate-forme = плоская форма) — 1) пляцоўка на чыгуначнай станцыі для пасадкі людзей у вагоны, пагрузкі; 2) таварны вагон без даху з нізкімі бартамі; 3) праграма дзейнняў якой-н. партыі, групы, арганізацыі.

**ПЛЕБІСЦЫ́Т** (*лац.* plebiscitum = рашэнне народа) — тое, што і *рэферэндум.*

**ПЛЕД** (*англ.* plaid) — прамавугольны кавалак шарсцяной або паўшарсцяной тканіны, які выкарыстоўваецца ў якасці пакрывала, хусткі.

**ПЛЕ́ЕР** (*англ.* player, ад play = іграць) — кампактны магнітофон з навушнікамі, які выкарыстоўваецца толькі для ўзнаўлення музычных запісаў.

**ПЛЕЙБО́Й** (*англ.* playboy, ад play = гульня + boy = хлопец) — багаты малады чалавек, які шукае лёгкіх прыгод; аматар павесяліцца.

**ПЛЕЙ-О́Ф** (*англ.* play-off, ад play = гульня + off = па-за) — *сп.* рашаючая сустрэча; паўторная сустрэча пасля нічыёй.

**ПЛЕНА́РНЫ** (*с.-лац.* plenarius, ад *лац.* plenus = поўны) — які адбываецца пры ўдзеле ўсіх членаў пэўнага выбарнага органа, пэўнай арганізацыі (напр. п-ае пасяджэнне, п. даклад).

**ПЛЕ́НУМ** (*лац.* plenum = поўнае) — пасяджэнне выбарнага кіроўнага органа якой-н. арганізацыі ў поўным складзе.

**ПЛЕНЭ́Р** (*фр.* plein air = вольнае паветра) — 1) жывапіс на адкрытым паветры (у процілегласць жывапісу ў майстэрні); 2) перадача паветранага асяроддзя і натуральнага асвятлення ў творы жывапісу.

**ПЛЕЯ́ДА** (*гр.* Pleias, -ados = назва групы з сямі старажытнагрэчаскіх паэтаў-трагікаў) — група выдатных дзеячаў навукі, культуры адной эпохі, аднаго напрамку (напр. п. пачынальнікаў беларускай літаратуры).

**ПЛО́МБА** (*польск.* plomba < *фр.* plomb, ад *лац.* plumbum = = свінец) — 1) кавалачак свінцу ці іншага матэрыялу з выціснутай на ім пячаткай, які прывешваецца да замкнутых дзвярэй, прыбораў, апаратаў і інш.; 2) рэчыва, якім запаўняюць карыезнае дупло ў зубе.

**ПЛО́ТЭР** (*англ.* plotter = нанясенне на паперу дыяграм) — *інф.* друкавальнае ўстройства ЭВМ для вываду графічнай інфармацыі, графічны *прынтэр.*

**ПЛУТАКРА́Т** (ад *гр.* plutos = багацце + kratos = улада) — прадстаўнік найбольш багатай і ўплывовай часткі пануючага класа.

**ПЛУТАКРА́ТЫЯ** (*гр.* plutokratia, ад plutos = багацце + kratos = улада) — палітычны лад, у якім дзяржаўная ўлада

належыць кучцы самых багатых прадстаўнікоў пануючага класа.

**ПЛЮРАЛІЗМ** (*фр.* pluralisme, ад *лац.* pluralis = множны) — 1) філасофскае вучэнне, паводле якога ў аснове свету ляжыць мноства незалежных духоўных сутнасцей (параўн. *дуалізм, манізм*); 2) прызнанне права на існаванне множнасці метадаў, падыходаў, партый, напрамкаў (напр. п. думак).

**ПНЕЎМАНІЯ** (*н.-лац.* pneumonia, ад *гр.* pneumon — лёгкае) — *мед.* запаленне лёгкіх.

**ПОДЫУМ** (*лац.* podium, ад *гр.* podion = памост, узвышэнне) — 1) высокая платформа, на якой будаваліся храмы ў Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме; 2) узвышэнне ў старажытнарымскім цырку з крэсламі для імператара, сенатараў і іншых высокапастаўленых асоб; 3) узвышэнне на эстрадзе, у зале, у выставачным комплексе для артыстаў, манекеншчыц.

**ПОЗА** (*фр.* pose) — 1) становішча цела (напр. ляжаць у нязручнай позе); 2) *перан.* прытворства, няшчырыя паводзіны (напр. фальшывая п.).

**ПОКЕТБУК** (*англ.* pocket-book, ад pocket = кішэня + book = = кніга) — кніга невялікага фармату.

**ПОЛІВІТАМІНЫ** (ад *гр.* poly = многа + *фр.* vitamine, ад *лац.* vita = жыццё) — лекавы прэпарат, які змяшчае комплекс *вітамінаў*.

**ПОЛІС[1]** (*фр.* police, ад *іт.* polizza = распіска, квітанцыя) — дакумент аб страхаванні жыцця, маёмасці (напр. страхавы п.).

**ПОЛІС[2]** (*гр.* polis) — горад-дзяржава як асобая форма сацыяльна-эканамічнай і палітычнай арганізацыі, тыповая для Старажытнай Грэцыі.

**ПОЛЮС** (*лац.* polus, ад *гр.* polos = вось) — 1) адзін з двух пунктаў перасячэння ўяўнай восі вярчэння Зямлі з зямной паверхняй (напр. паўночны п., паўднёвы п.); 2) адзін з двух процілеглых канцоў электрычнага ланцуга або магніта (напр. дадатны п., адмоўны п.); 3) *перан.* што-н. зусім процілеглае іншаму (напр. гэтыя характары — два полюсы).

**ПОМПА[1]** (*фр.* pompe) — прыстасаванне для падачы куды-н. або адкачвання вадкасці, газаў (напр. пажарная п.).

**ПО́МПА²** (*лац.* pompa = урачыстае шэсце) — знешняя, паказная пышнасць (напр. прыняць каго-н. з помпай).

**ПОП-А́РТ** [*англ.* pop art, ад pop(ular) art = агульнадаступнае мастацтва] — фармалістычная мастацкая плынь, якая ўзнікла ў другой палавіне XX ст. у ЗША і Англіі; прадстаўнікі гэтай плыні выкарыстоўваюць стыль *рэкламы* і *коміксаў.*

**ПОП-МЎЗЫКА** (*англ.* pop music = папулярная музыка) — назва розных стыляў і напрамкаў лёгкай эстраднай музыкі з выразным рытмам, арыентаванай на камерцыйны поспех.

**ПО́СТЭР** (*англ.* poster) — каляровы плакат, які рэкламуе выступленні якой-н. музычнай групы і звычайна ўяўляе сабой вялікі фотаздымак усяго складу артыстаў гэтай групы.

**ПО́ШТА** (*іт.* posta, ад *лац.* postus = пастаўлены) — 1) установа, якая займаецца перасылкай пісем, пасылак, грошай і інш., а таксама памяшканне, дзе яна знаходзіцца; 2) перасылка, дастаўка чаго-н. з дапамогай гэтай установы (напр. адправіць пасылку поштай); *электронная п.* — сеткавая служба, якая дазваляе перасылаць тэкст электронным паведамленнем праз *Інтэрнэт*; 3) тое, што дастаўлена гэтай установай (пісьмы, пасылкі і інш.).

**ПРАБЛЕ́МА** (*гр.* problema = задача, заданне) — 1) тэарэтычнае або практычнае пытанне, задача, якія патрабуюць вырашэння, даследавання (напр. п. асваення космасу, п. выхавання); 2) нешта цяжка вырашальнае (напр. дамашняя п.).

**ПРАБЛЕМА́ТЫКА** (*гр.* problematikos = які датычыць пытанняў) — сукупнасць *праблем* 1.

**ПРАБЛЕМАТЫ́ЧНЫ** (*гр.* problematikos = які датычыць пытанняў) — магчымы, але не даказаны; няпэўны (напр. п-ае меркаванне).

**ПРАВА́ЙДЭР** (*англ.* provider) — арганізацыя, фірма, якая забяспечвае карыстальнікам доступ да электронна-інфармацыйных сістэм, напр. да *Інтэрнэта.*

**ПРАВАКА́ТАР** (*лац.* provocator = які кідае выклік) — 1) тайны агент, які дзейнічае шляхам *правакацыі*; 2) асоба, якая падбухторвае да чаго-н. са здрадніцкімі мэтамі.

**ПРАВАКА́ЦЫЯ** (*лац.* provocatio = выклік) — 1) здрадніцкае падбухторванне каго-н. да дзеянняў, якія могуць прывесці да цяжкіх вынікаў; 2) агрэсіўнае дзеянне з мэтай выклікаць ваенны канфлікт; 3) *мед.* штучнае выкліканне якіх-н. праяў хваробы.

**ПРАВІЗО́РНЫ** (*ням.* provisorisch, ад *лац.* provisor = які прадбачыць) — 1) папярэдні, не канчатковы (напр. п-ае рашэнне); 2) часовы (напр. п-ыя меры).

**ПРАГМАТЫ́ЗМ** (*англ.* pragmatism, ад *гр.* pragma, -atos = = дзеянне, практыка) — 1) напрамак у філасофіі, які адмаўляе неабходнасць пазнання аб'ектыўных законаў і прызнае ісцінай толькі тое, што дае карысныя вынікі; 2) паводзіны, дзейнасць, прасякнутыя цвярозым, дакладным разлікам.

**ПРАГМА́ТЫК** (*гр.* pragmatikos = дзелавы) — 1) паслядоўнік *прагматызму* як філасофскай сістэмы; 2) вельмі практычны чалавек.

**ПРАГНАЗІ́РАВАЦЬ** (*ням.* prognosieren, ад *гр.* prognosis = = прадбачанне) — састаўляць *прагноз* будучага стану розных з'яў (прыродных, грамадскіх і інш.).

**ПРАГНО́З** (*гр.* prognosis) — прадбачанне, прадказанне аб будучым развіцці і выніках якіх-н. падзей на аснове пэўных дадзеных (напр. п. надвор'я).

**ПРАГРА́МА** (*гр.* programma = аб'ява, распараджэнне) — 1) план прадстаячай дзейнасці, работ, мерапрыемстваў; 2) дакумент, у якім выкладзены асноўныя задачы і мэты дзейнасці палітычнай партыі, арганізацыі, асобнага дзеяча; 3) план правядзення свята, канцэрта, схода, а таксама пералік нумароў, якія выконваюцца; 4) кароткі змест курса таго ці іншага прадмета, які вывучаецца ў навучальнай установе; 5) апісанне алгарытма рашэння задачы для ЭВМ.

**ПРАГРАМІ́РАВАЦЬ** (*ням.* programmieren, ад *гр.* programma = аб'ява, распараджэнне) — складаць *праграмы* 5 для ЭВМ.

**ПРАГРЭ́С** (*лац.* progressus) — паступальны рух наперад, пераход на больш высокую ступень у развіцці (напр. п. навукі, тэхнічны п.); проціл. *рэгрэс*.

**ПРАДЗЮ́САР** (*англ.* producer, ад *лац.* producere = вырабляць) — даveраная асоба кінакампаніі, якая ажыццяўляе

ідэйна-мастацкі і арганізацыйна-фінансавы кантроль над пастаноўкай фільмаў.

**ПРАДУКТЫ́ЎНЫ** (*лац.* productivus) — 1) плённы, здольны стварацць нешта каштоўнае (напр. п-ая праца); 2) які разводзіцца для атрымання прадуктаў (напр. п-ая жывёлагадоўля); 3) *лінгв.* здольны ўтвараць новыя словы або формы (напр. п. суфікс).

**ПРАДУЦЭ́НТ** (*лац.* producens, -ntis = які вырабляе) — краіна, якая вырабляе пэўны тавар.

**ПРАЕ́КТ** (*лац.* projectus = кінуты наперад) — 1) распрацаваны план стварэння, пабудовы чаго-н. (напр. п. гідратурбіны, п. дома); 2) папярэдні тэкст якога-н. дакумента (напр. п. закона); 3) задума, план.

**ПРАЖЭ́КТ** (*фр.* project, ад *лац.* projectus = кінуты наперад) — нездзяйсняльны, надуманы *праект* (напр. строіць пражэкты).

**ПРАЖЭКЦЁР** (*фр.* projecteur, ад *лац.* projectus = кінуты наперад) — той, хто займаецца складаннем нязбытных, неабгрунтаваных *праектаў*.

**ПРА́ЙВЕСІ** (*англ.* privacy) — недатыкальнасць асобы і прыватнага жыцця, якія ў ЗША культывуюцца ў грамадстве і ахоўваюцца дзяржавай.

**ПРАЙМ-ТА́ЙМ** (*англ.* prime time, ад prime = першы, асноўны + time = час) — найбольш выгадны час для размяшчэння тэлерэкламы, калі тэлеперадачы глядзіць максімальная колькасць людзей.

**ПРАЙС-ЛІ́СТ** (*англ.* price list, ад price = цана + list = спіс) — тое, што і *прэйскурант*.

**ПРА́КТЫК** (*гр.* praktikos = дзейны, актыўны) — 1) той, хто добра вывучыў сваю справу на практыцы; 2) практычны, дзелавы чалавек.

**ПРА́КТЫКА** (*лац.* practica, ад *гр.* praktikos = дзейны, актыўны) — 1) дзейнасць людзей, якая накіравана на пераўтварэнне матэрыяльнага свету; 2) жыццё, рэчаіснасць як галіна праверкі вывадаў тэорыі; 3) замацаванне тэарэтычных ведаў на вытворчасці (напр. педагагічная п. студэнтаў); 4) набыты вопыт у якой-н. галіне дзейнасці (напр. п. выхавання дзяцей); 5) дзейнасць урача або юрыста (напр. адвакат са шматгадовай практыкай).

**ПРА́КТЫКУМ** (*лац.* practicum, ад *гр.* praktikos = дзейны, актыўны) — від практычных заняткаў па якому-н. ву-

чэбнаму прадмету звычайна ў вышэйшых навучальных установах, а таксама вучэбны дапаможнік для правядзення такіх заняткаў.

**ПРАКТЫЦЫ́ЗМ** (*ням.* Praktizismus, ад *гр.* praktikos = дзейны, актыўны) — 1) залішняе захапленне практычнай дзейнасцю пры недаацэнцы тэорыі; 2) дзелавы падыход да справы; уменне ўладкоўваць справы так, каб атрымаць асабістую выгаду.

**ПРАКУРАТУ́РА** (ад *лац.* procurare = клапаціцца, кіраваць) — дзяржаўны орган, які сочыць за выкананнем законаў і прыцягвае да адказнасці парушальнікаў іх.

**ПРАКУРО́Р** (*фр.* procureur, ад *лац.* procurare = клапаціцца, кіраваць) — асоба, якая сочыць за выкананнем і правільным прымяненнем законаў, выступае ў якасці абвінаваўцы ў судовым працэсе.

**ПРАЛАНГА́ЦЫЯ** (*фр.* prolongation, ад *лац.* prolongare = = прадаўжаць) — *юр.* прадаўжэнне тэрміну дзеяння дагавора, умовы, вэксаля і інш.

**ПРАМО́ЎТЭР** (*англ.* promoter) — асоба, якая садзейнічае арганізацыі якога-н. мерапрыемства (спартыўных спаборніцтваў, здымак фільма і г. д.) шляхам прыцягнення *інвестараў, спонсараў*.

**ПРАМО́ЎШН** (*англ.* promotion) — 1) рэкламна-прапагандысцкая дзейнасць па прасоўванню тавару, паслугі на рынак; 2) садзейнічанне ажыццяўленню ідэі, правядзенню культурна-масавага мерапрыемства і інш.

**ПРАМО́ЦЫЯ** (*лац.* promotio = прасоўванне) — прысуджэнне больш высокай вучонай ступені або ганаровага звання.

**ПРАМУЛЬГА́ЦЫЯ** (*лац.* promulgatio = публічнае аб'яўленне) — афіцыйная публікацыя, абнародаванне якога-н. дзяржаўнага акта, закона.

**ПРАПАГА́НДА** (*лац.* propaganda) — распаўсюджванне ідэй, поглядаў, ведаў шляхам пастаяннага растлумачэння іх шырокім масам, а таксама ідэйнае ўздзейнічанне на шырокія народныя масы.

**ПРАПАНАВА́ЦЬ** (*польск.* proponować, ад *лац.* proponere) — 1) заявіць аб гатоўнасці памагчы, даць у чыё-н. распараджэнне што-н. (напр. п. свае паслугі); 2) унесці прапанову, параіць, парэкамендаваць (напр. п. новы план заняткаў);

3) папрасіць выканаць што-н. (напр. п. з'явіцца на пасяджэнне).

**ПРАСПЕ́РЫЦІ** (*англ.* prosperity = *літар.* працвітанне) — эканамічнае працвітанне (часам абмежаванае ў часе).

**ПРАСТРА́ЦЫЯ** (*лац.* prostratio) — стан прыгнечанасці, знямогі, заняпаду псіхічнай актыўнасці, выкліканы нервовым расстройствам.

**ПРАСТЫТУ́ЦЫЯ** (*лац.* prostitutio = абняслаўленне) — 1) продаж жанчынай свайго цела з мэтай набыць грашовыя сродкі; 2) *перан.* прадажнасць, беспрынцыповасць (напр. палітычная п.).

**ПРАТАКО́Л** (*с.-лац.* protocollum, ад *гр.* protokollon = першы ліст, прыклеены да скрутка) — 1) дакумент, у якім запісана ўсё, што гаварылася і вырашалася на сходзе, пасяджэнні; 2) дакумент, які сведчыць аб якім-н. факце, выпадку, здарэнні; 3) акт міжнароднага пагаднення.

**ПРАТЭЖЭ́** (*фр.* protégé) — асоба, якой спрыяюць, аказваюць *пратэкцыю* ў службовых і іншых справах.

**ПРАТЭКТАРА́Т** (*ням.* Protektorat, ад *лац.* protector = які прыкрывае, абараняе) — 1) форма залежнасці, пры якой больш слабая дзяржава, фармальна захоўваючы сваю дзяржаўную структуру, фактычна падначалена мацнейшай дзяржаве; 2) дзяржава, якая знаходзіцца ў такой залежнасці.

**ПРАТЭ́КЦЫЯ** (*лац.* protectio = прыкрыццё) — заступніцтва, падтрымка з боку ўплывовых асоб ва ўладкаванні на працу, у прасоўванні па службе і г. д.

**ПРАТЭКЦЫЯНІ́ЗМ** (*фр.* protectionnisme, ад *лац.* protectio, -onis = прыкрыццё) — 1) эканамічная палітыка дзяржавы, накіраваная на засцярогу сваёй гаспадаркі ад канкурэнцыі з боку іншых краін; 2) падбор людзей на службу не па дзелавых якасцях, а па знаёмству, па *пратэкцыі.*

**ПРАТЭ́СТ** (*ням.* Protest, ад *лац.* protestari = публічна заяўляць) — 1) рашучае пярэчанне супраць чаго-н. (напр. выказаць п.); 2) заява аб нязгодзе з якім-н. рашэннем (напр. п. пракурора).

**ПРАТЭСТАНТЫ́ЗМ** (*ням.* Protestantismus, ад *лац.* protestans, -ntis — які пратэстуе) — адзін з трох найбольш пашыраных напрамкаў у хрысціянстве (побач з *каталіцызмам* і праваслаўем), назва розных веравучэнняў (каль-

вінізму, лютэранства і інш.), якія адкалоліся ў ходзе Рэфармацыі XVI ст. ад каталіцызму.

**ПРАФА́Н** (*лац.* profanus = неазнаёмлены) — недасведчаны ў якой-н. галіне чалавек (напр. п. у навуцы).

**ПРАФАНА́ЦЫЯ** (*лац.* profanatio) — апашленне чаго-н., непачцівыя адносіны да таго, што карыстаецца ўсеагульнай пашанай (напр. п. ідэі, п. навукі).

**ПРАФЕ́САР** (*лац.* professor = настаўнік) — вышэйшае вучонае званне выкладчыка вышэйшых навучальных устаноў, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**ПРАФЕ́СІЯ** (*польск.* profesja, ад *лац.* professio = спецыяльнасць) — асноўны від працоўнай дзейнасці, які патрабуе пэўнай падрыхтоўкі і з'яўляецца галоўнай крыніцай існавання.

**ПРАФЕСІЯНА́Л** (*с.-лац.* professionalis = прафесійны, ад *лац.* professio = спецыяльнасць) — добры спецыяліст, знаўца сваёй справы (параўн. *аматар*).

**ПРАФІЛА́КТЫКА** (*гр.* prophylaktikos = ахоўны, засцерагальны) — сукупнасць папераджальных мерапрыемстваў супраць чаго-н. непажаданага (у медыцыне, тэхніцы і г. д.).

**ПРАФО́РМА** (*лац.* pro forma = для формы) — знешняя фармальнасць, выгляд; што-н. паказное (напр. гаварыць для праформы).

**ПРАЦЭДУ́РА** (*фр.* procédure, ад *лац.* procedere = рухацца наперад) — 1) устаноўлены парадак дзеянняў для ажыццяўлення чаго-н. (напр. п. галасавання); 2) лячэбнае мерапрыемства, якое рэкамендуецца ўрачом (напр. водныя працэдуры).

**ПРАЦЭ́С** (*лац.* processus = цячэнне, ход) — 1) паслядоўная змена з'яў, стану ў развіцці чаго-н. (напр. п. развіцця мовы); 2) сукупнасць паслядоўных дзеянняў для дасягнення пэўных вынікаў (напр. вытворчы п.); 3) разбор судовай справы (напр. грамадзянскі п.).

**ПРАЦЭ́СІЯ** (*польск.* procesja, ад *лац.* processio = прасоўванне наперад) — урачыстае мнагалюднае шэсце (напр. пахавальная п., святочная п.).

**ПРО́БА** (*ням.* Probe) — 1) праверка, выпрабаванне (напр. п. сіл); 2) невялікая частка чаго-н., узятая для вызначэння якасці, саставу (напр. узяць пробу); 3) колькасць вагавых

частак высакароднага металу (золата, серабра і г. д.), якая змяшчаецца ў пэўнай колькасці вагавых долей сплаву, а таксама кляймо з абазначэннем гэтай колькасці (напр. золата нізкай пробы).

**ПРО́ЗА** [*лац.* prosa (oratio) = простая мова] — 1) невершаваная мова, невершаваная літаратура (проціл. *паэзія*); 2) сукупнасць празаічных твораў якога-н. народа, пісьменніка, часу; 3) *перан.* будзённасць, звычайнасць, аднастайнасць (напр. п. жыцця).

**ПРО́ФІ** (*ням.* Profi, ад Professional = прафесіянал) — прафесіянал, не аматар (аб спартсменах, музыкантах).

**ПРО́ФІЛЬ** (*фр.* profil) — 1) від збоку (твару, прадмета); 2) від, форма чаго-н. у разрэзе (напр. п. дарогі); 3) сукупнасць рыс і асаблівасцей якой-н. спецыяльнасці, прадпрыемства або навучальнай установы (напр. спецыяліст шырокага профілю, раён мае сельскагаспадарчы п.).

**ПРЫВА́ТНЫ** (*польск.* prywatny, ад *лац.* privatus) — 1) асабісты, не грамадскі, не калектыўны (напр. п-ая ўласнасць); 2) не агульны, не тыповы (напр. п. выпадак); 3) які датычыць каго-н. асабіста (напр. п-ая перапіска).

**ПРЫВАТЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* privatisation, ад *лац.* privatus = = прыватны) — перадача (продаж) дзяржаўных прадпрыемстваў, сродкаў транспарту, жылых будынкаў і г. д. у прыватную ўласнасць.

**ПРЫВІЛЁЯ** (*польск.* przywilej, ад *лац.* privilegium) — перавага, дадатковае права, ільгота (напр. карыстацца прывілеямі).

**ПРЫЗ** (*фр.* prix = вартасць, цана) — узнагарода пераможцу ў спаборніцтве, конкурсе (спартсмену, артысту, фільму і г. д.).

**ПРЫЗЁР** (*фр.* priseur) — удзельнік спаборніцтва, які атрымаў *прыз.*

**ПРЫ́МА-БАЛЕРЫ́НА** (*іт.* prima ballerina) — балерына, якая выконвае першыя ролі ў балеце.

**ПРЫМАДО́ННА** (*іт.* primadonna = *літар.* першая дама) — спявачка, якая выконвае першыя партыі ў оперы, аперэце.

**ПРЫМА́Т** (*лац.* primatus) — перавага, першаснасць, асноўнае значэнне (напр. п. розуму над пачуццем).

**ПРЫМІТЫ́ЎНЫ** (*лац.* primitivus) — 1) просты, не складаны па будове, выкананню (напр. п. механізм); 2) недастаткова глыбокі, надта спрошчаны (напр. п. твор); 3) неразвіты (напр. п-ая асоба).

**ПРЫ́НТЭР** (*англ.* printer) — устройства для вываду інфармацыі з *камп'ютэра* ў друк.

**ПРЫ́НЦЫП** (*лац.* principium = аснова, пачатак) — 1) асноўнае, зыходнае палажэнне якой-н. навукі, тэорыі (напр. дэмакратычны п. кіраўніцтва); 2) перакананне, пункт гледжання (напр. трымацца цвёрдых прынцыпаў); 3) асноўная асаблівасць будовы якога-н. механізма (напр. п. дзеяння машыны).

**ПРЫЯРЫТЭ́Т** (*ням.* Priorität, ад *лац.* prior = першы) — 1) першынство, першае месца па часе ў адкрыцці, вынаходніцтве, фармуліроўцы якой-н. ідэі (напр. агульнапрызнаны п.); 2) пераважаючае значэнне чаго-н. (напр. п. эканомікі).

**ПРЭА́МБУЛА** (*фр.* préambule, ад *лац.* praeàmbulus = які наперадзе) — 1) уступная растлумачальная частка якога-н. міжнароднага дакумента (напр. п. дагавора); 2) *перан.* уступ да размовы (напр. жартаўлівая п.).

**ПРЭВАЛІ́РАВАЦЬ** (*ням.* prävalieren, ад *лац.* praevalere = пераважаць, перавышаць) — мець перавагу, пераважаць (напр. павінны п. інтарэсы справы).

**ПРЭВЕНТЫ́ЎНЫ** (*фр.* préventif, ад *лац.* preventivus) — які папярэджвае што-н., засцерагальны (напр. п-ыя меры, п-ая вайна).

**ПРЭЗЕ́НТ** (*фр.* présent, ад *лац.* praesentare = дарыць) — падарунак, гасцінец.

**ПРЭЗЕНТА́БЕЛЬНЫ** (*фр.* présentable, ад *лац.* praesentare = = прадстаўляць) — відны, паважны (напр. п. выгляд).

**ПРЭЗЕНТА́ЦЫЯ** (*лац.* praesentatio) — 1) падача, прад'яўленне для аплаты грашовага дакумента; 2) публічнае прадстаўленне чаго-н. толькі што створанага (фільма, друкаванага выдання і інш.).

**ПРЭЗІ́ДЫУМ** (*лац.* praesidium) — 1) выбарны орган, які кіруе сходам, нарадай, канферэнцыяй; 2) кіроўны орган некаторых арганізацый і ўстаноў, а таксама асобы, якія ўваходзяць у такі орган.

**ПРЭЗІДЭ́НТ** (*ням.* President, ад *лац.* praesidens, -ntis = = *літар.* які сядзіць наперадзе) — 1) выбарны кіраўнік дзяржавы ў большасці краін з рэспубліканскай формай праўлення; 2) кіраўнік буйной навукова-даследчай установы, таварыства, фірмы.

**ПРЭЗУ́МПЦЫЯ** (*лац.* praesumptio = меркаванне) — *юр.* меркаванне, якое лічыцца правільным, пакуль не даказана адваротнае (напр. п. невінаватасці).

**ПРЭЙСКУРА́НТ** (*ням.* Preiskurant < *фр.* prixcourant, ад prix = цана + courant = цяперашні) — даведнік цэн па відах і гатунках тавараў і па відах паслуг.

**ПРЭЛА́Т** (*лац.* praelatus = пастаўлены над кім-н.) — вышэйшая духоўная асоба ў каталіцкай і англіканскай царкве.

**ПРЭЛЮ́ДЫЯ** (*н.-лац.* praeludium, ад *лац.* prae = перад + ludus = ігра) — 1) уступная частка музычнага твора, а таксама невялікі музычны твор без строгай формы для фартэпіяна; 2) *перан.* уступ да чаго-н. (напр. п. сваркі).

**ПРЭМ'ЕР** (*фр.* premier = першы) — 1) тое, што і *прэм'ер-міністр*; 2) акцёр, які выконвае першыя, галоўныя ролі.

**ПРЭМ'Е́РА** (*фр.* première = *літар.* першая) — першы паказ спектакля, фільма і г. д.

**ПРЭМ'ЕР-МІНІ́СТР** (*фр.* premier ministre) — кіраўнік урада, кабінета міністраў.

**ПРЭ́МІЯ** (*лац.* praemium = узнагарода) — грашовае або іншае матэрыяльнае заахвочванне як узнагарода за што-н.

**ПРЭПАРА́Т** (*лац.* praeparatus = прыгатаваны) — 1) частка жывёльнага ці расліннага арганізма, прыгатаваная для даследавання; 2) прадукт лабараторнага або фабрычнага вырабу лячэбнага ці іншага прызначэння (напр. хімічны п., медыцынскі п.).

**ПРЭРАГАТЫ́ВА** (*лац.* praerogativa) — выключнае права, якое належыць пэўнаму дзяржаўнаму органу або адказнай асобе (напр. п. улады, п. прэзідэнта).

**ПРЭ́СА** (*фр.* presse) — 1) перыядычны друк (газеты, часопісы і інш.); 2) работнікі перыядычных выданняў.

**ПРЭС-АТАШЭ́** (*фр.* presse-attaché) — супрацоўнік дыпламатычнага прадстаўніцтва (пасольства, місіі і інш.) па пытаннях друку і інфармацыі.

**ПРЭС-БЮРО́** (*англ.* press-bureau) — 1) аддзел інфармацыйнага абслугоўвання журналістаў, які арганізуецца на час з'ездаў, нарад, спартыўных спаборніцтваў і інш.; 2) пастаянны інфармацыйны аддзел пры пасольствах, рэдакцыях буйных газет, агенцтвах друку і інш.

**ПРЭ́СІНГ** (*англ.* pressing, ад press = ціснуць) — 1) актыўная абарона ў спартыўных гульнях (*футболе, баскетболе,*

*хакеі*), якая абмяжоўвае дзеянні саперніка; 2) *пераи.* ціск (псіхалагічны, эканамічны, палітычны) на каго-н.

**ПРЭС-КАНФЕРЭ́НЦЫЯ** (*англ.* press-conference) — сустрэча дзяржаўных, палітычных, грамадскіх, навуковых дзеячаў з прадстаўнікамі прэсы для інфарміравання грамадзян па актуальных пытаннях.

**ПРЭС-РЭЛІ́З** (*англ.* press-release = выпуск для прэсы) — спецыяльны бюлетэнь з актуальнай інфармацыяй, які выпускаецца ўрадавымі ўстановамі, прэс-бюро для работнікаў *прэсы.*

**ПРЭС-САКРАТА́Р** (*англ.* press-secretary) — асоба, упаўнаважаная тлумачыць пазіцыю якога-н. афіцыйнага органа, дзяржаўнага дзеяча сродкам масавай інфармацыі.

**ПРЭСТЫ́Ж** (*фр.* prestige, ад *лац.* praestigium = ашуканства) — аўтарытэт, уплыў, якім карыстаецца хто-н., што-н. (напр. п. кіраўніка, падтрымліваць свой п.).

**ПРЭТЭНДЭ́НТ** (*фр.* prétendant, ад *лац.* praetendens, -ntis = які дамагаецца) — асоба, якая дамагаецца права на што-н. (напр. п. на вакантную пасаду).

**ПРЭТЭ́НЗІЯ** (*с.-лац.* praetensio) — 1) прад'яўленне сваіх правоў на валоданне чым-н. (напр. п. на спадчыну); 2) скарга, выражэнне незадаволенасці з выпадку чаго-н. (напр. заявіць прэтэнзію); 3) імкненне прыпісаць сабе якасці, якіх звычайна няма (напр. прэтэнзіі на культурнасць).

**ПРЭТЭНЦЫЁЗНЫ** (*фр.* prétentieux = патрабавальны, ад *лац.* praetendere = дамагацца) — 1) надуманы, манерны (напр. п-ая архітэктура); 2) які прэтэндуе на значнасць, арыгінальнасць (напр. п-ыя паводзіны).

**ПРЭФЕ́КТ** (*лац.* praefectus = начальнік) — 1) асоба, якая займала вайсковую, адміністрацыйную, судовую або гаспадарчую пасаду ў Старажытным Рыме; 2) прадстаўнік цэнтральнага ўрада ў правінцыях, дэпартаментах, *прэфектурах* некаторых краін; 3) начальнік паліцыі ў некаторых краінах.

**ПРЭФЕКТУ́РА** (*лац.* praefectura) — 1) адміністрацыйная адзінка ў старажытнарымскай імперыі; 2) адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў некаторых краінах, напр. у Японіі; 3) орган кіравання адміністрацыйна-тэрытарыяль-

нымі адзінкамі ў некаторых краінах, напр. у Францыі, на чале з *прэфектам.*

**ПРЭЦЭДЭ́НТ** (*фр.* précédent, ад *лац.* praecedens, -ntis = папярэдні) — 1) выпадак ці ўчынак, які адбыўся ў мінулым і служыць прыкладам ці апраўданнем такіх жа выпадкаў ці ўчынкаў у будучым; 2) *юр.* рашэнне суда, вынесенае па канкрэтнай справе, якое прымаецца за ўзор пры рашэнні аналагічных спраў у будучым.

**ПСЕЎДАНІ́М** (*гр.* pseudonymos, ад pseudos = выдумка, хлусня + onyma = імя) — выдуманае прозвішча, якім часам карыстаюцца пісьменнікі, мастакі, артысты і інш.

**ПСІХААНА́ЛІЗ** (*ням.* Psychoanalyse, ад *гр.* psyche = душа + analysis = аналіз) — метад даследавання і лячэння нервовых і псіхічных захворванняў, які заключаецца ў выяўленні падсвядомых слядоў афектыўных перажыванняў; прапанаваны ў канцы XIX ст. аўстрыйскім псіхіятрам З.Фрэйдам.

**ПСІХАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* psyche = душа + logos = навука) — 1) навука, якая вывучае працэсы і заканамернасці псіхічнай дзейнасці; 2) сукупнасць псіхічных працэсаў, што абумоўліваюць пэўны род дзейнасці (напр. п. творчасці); 3) асаблівасці характару, духоўны склад (напр. п. селяніна, п. дзіцяці).

**ПСІХАПА́Т** (ад *гр.* psyche = душа + pathos = боль, пакута) — 1) чалавек, які хварэе на *псіхапатыю*; 2) *перан.* узбаламучаны, неўраўнаважаны чалавек; *псіх.*

**ПСІХАПА́ТЫЯ** (ад *гр.* psyche = душа + pathos = боль, пакута) — прыроджаная неўраўнаважнасць псіхікі, якая выяўляецца ў неадэкватных паводзінах і недастатковай сацыяльнай адаптацыі пры захаванні інтэлекту.

**ПСІХАТРО́ПНЫ** (ад *гр.* psyche = душа + tropos = напрамак) — які аказвае ўплыў на псіхічныя працэсы (напр. п-ыя сродкі).

**ПСІХАТРЭ́НІНГ** (ад *гр.* psyche = душа + *англ.* training = = трэнінг) — трэніроўка, мэтай якой з'яўляецца дасягненне пэўнага псіхічнага стану каго-н.

**ПСІХАТЭРАПІ́Я** (ад *гр.* psyche = душа + therapeia = лячэнне) — метад лячэння хвароб псіхічнымі ўздзеяннямі на хворага, напр. *гіпнозам.*

**ПСІ́ХІКА** (*гр.* psychikos = душэўны) — сукупнасць душэўных перажыванняў як адлюстраванне ў свядомасці аб'ек-

**СЕМЕ́СТР** (*лац.* semestris = шасцімесячны) — навучальнае паўгоддзе ў вышэйшых або сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

**СЕМІНА́Р** (*лац.* seminarium) — 1) практычныя заняткі, арганізаваныя ў вышэйшай навучальнай установе па групах; абмеркаванне студэнцкіх або аспіранцкіх дакладаў, самастойных работ; 2) групавыя заняткі, арганізаваныя для спецыяльнай падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі або палітычнай адукацыі (напр. с. настаўнікаў).

**СЕМІНА́РЫЯ** (*лац.* seminarium = рассаднік) — 1) сярэдняя духоўная навучальная ўстанова; 2) сярэдняя навучальная ўстанова для падрыхтоўкі настаўнікаў у царскай Расіі і некаторых іншых краінах.

**СЕНА́Т** (*лац.* senatus) — 1) вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Старажытным Рыме рэспубліканскага перыяду; 2) вышэйшая судова-адміністрацыйная ўстанова ў царскай Расіі; 3) верхняя заканадаўчая палата парламента ў ЗША, Францыі і некаторых іншых краінах.

**СЕНІ́ЛЬНЫ** (*лац.* senilis) — *мед.* старэчы (напр. с. псіхоз).

**СЕНСА́ЦЫЯ** (*фр.* sensation, ад *лац.* sensus = пачуццё, адчуванне) — 1) моцнае ўражанне ад якой-н. падзеі, паведамлення; 2) з'ява, паведамленне, якое выклікае ўсеагульную цікавасць, узбуджэнне.

**СЕНТЭ́НЦЫЯ** (*лац.* sententia = думка, меркаванне) — выслоўе павучальнага характару (напр. выслухваць сентэнцыі).

**СЕПАРА́ТНЫ** (*лац.* separatus = аддзелены) — 1) асобны, адасоблены (напр. с-ая група); 2) які вядзецца, заключаецца без ведама і згоды саюзнікаў (напр. с. мір).

**СЕПАРАТЫ́ЗМ** (*фр.* séparatisme, ад *лац.* separatus = аддзелены) — імкненне да аддзялення, адасаблення (напр. палітычны с.); проціл. *уніянізм.*

**СЕ́РВЕР** (*англ.* server) — 1) *камп'ютэр*, які выконвае функцыі абслугоўвання карыстальнікаў і кіруе размеркаваннем інфармацыйных рэсурсаў у вылічальных сетках; 2) праграма, якая забяспечвае доступ да інфармацыйных рэсурсаў у вылічальных сістэмах.

**СЕРВІ́З** (*фр.* service, ад servir = накрываць на стол) — поўны набор сталовай ці чайнай пасуды з агульным мастацкім афармленнем на пэўную колькасць асоб.

**СЕРВІЛІ́ЗМ** (*фр.* servilisme, ад *лац.* servilis = рабскі) — рабалепства, прыслужніцтва, рабская ўгодлівасць.

**СЕРВІ́ЛЬНЫ** (*лац.* servilis = рабскі) — рабалепны, угодлівы (напр. с-ыя манеры).

**СЕРВІРАВА́ЦЬ** (*фр.* server, ад *лац.* servire = служыць) — расстаўляць па пэўных правілах пасуду, стравы, рыхтуючы стол да абеду.

**СЕРТЫФІКА́Т** (*фр.* certificat, ад *лац.* certus = верны + facere = рабіць) — 1) пазыковае фінансавае абавязацельства дзяржавы, а таксама назва аблігацый спецыяльных дзяржаўных пазык; 2) дакумент са звесткамі пра асартымент, колькасць, якасць тавару, які экспартуецца.

**СЕРЫЯ́Л** (*англ.* serial, ад *лац.* serias = рад) — тэлевізійны фільм, які налічвае многа *серый.*

**СЕ́СІЯ** (*лац.* sessio = пасяджэнне) — 1) пасяджэнне прадстаўнічага органа, суда, навуковай або грамадскай арганізацыі; 2) перыяд здачы экзаменаў у ВНУ і тэхнікумах.

**СЁРФІНГ** (*англ.* surfing) — від воднага спорту, які заключаецца ў тым, што спартсмен, стоячы на спецыяльнай дошцы, слізгаціць па прыбойных хвалях.

**СІБАРЫ́Т** (*гр.* sybarites = жыхар старажытнагрэчаскай калоніі Сібарыс) — распешчаны, раздураны раскошаю чалавек, багаты спешчаны гультай.

**СІДЗІРО́М** [*англ.* CD-ROM, ад c(ompact) d(isk) = кампактдыск + r(ead) o(nly) m(emory) = чытае толькі памяць] — дыск, які выкарыстоўваецца для пастаяннага захоўвання дадзеных, знешніх у адносінах да *камп'ютэра.*

**СІ́КВЭЛ** (*англ.* sequel) — фільм, зняты як працяг раней існуючай стужкі.

**СІЛАГІ́ЗМ** (*гр.* syllogismos) — розумазаключэнне, атрыманае на аснове двух суджэнняў.

**СІ́МВАЛ** (*гр.* symbolon) — 1) прадмет або яго малюнак, а таксама графічны знак, якія выражаюць пэўную з'яву, ідэю; 2) умоўнае абазначэнне якой-н. велічыні, паняцця (напр. сімвалы хімічных элементаў); 3) мастацкі вобраз, які ўмоўна перадае якую-н. думку, перажыванне; 4) знак, які нясе пэўную інфармацыю (у інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы).

**СІМПА́ТЫЯ** (*гр.* sympatheia = спачуванне) — цяга, прыхільнасць да каго-н. або чаго-н. (проціл. *антыпатыя*).

**СІМПО́ЗІУМ** (*лац.* symposium, ад *гр.* symposion = *літар.* баляванне) — нарада па якім-н. навуковым пытанні (напр. с. па праблемах ядзернай энергетыкі).

**СІМПТО́М** (*гр.* symptoma = супадзенне, прыкмета) — 1) знешняе праяўленне хваробы; 2) *перан.* знешняя прымета якой-н. з'явы (напр. сімптомы набліжэння крызісу).

**СІМУЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* simulatio) — прытворства, стварэнне ілжывага ўяўлення аб чым-н. з мэтай увесці ў зман (напр. с. хваробы).

**СІНАГО́ГА** (*гр.* synagoge = сход) — яўрэйскі малітоўны дом.

**СІНГЛ** (*англ.* single = адзін, адзіны) — 1) гульня ў *тэніс*, калі кожны бок прадстаўлены адным гульцом; 2) дыск з запісам песень аднаго аўтара або выканаўцы.

**СІНДРО́М** (*гр.* syndromos = які разам бяжыць) — 1) комплекс *сімптомаў*, характэрных для якога-н. захворвання; 2) *перан.* сукупнасць прымет якой-н. грамадскай з'явы, падзеі, што мае звычайна негатыўныя вынікі (напр. чарнобыльскі с.).

**СІНДЫКА́Т** (*фр.* syndicat, ад *гр.* syndikas = які дзейнічае сумесна) — 1) манапалістычнае аб'яднанне прадпрыемстваў з мэтай абмежавання канкурэнцыі і забеспячэння панавання на рынках; 2) назва прафсаюзаў у Францыі і некаторых іншых краінах.

**СІНЕКУ́РА** (*лац.* sine cura = без клопату) — пасада, якая добра аплачваецца і не патрабуе асаблівых намаганняў.

**СІНКРЭТЫ́ЗМ** (*гр.* synkretismos = злучэнне) — 1) злітнасць, нерасчлянёнасць, якія характарызуюць першапачатковы, неразвіты стан якой-н. з'явы (напр. с. першабытнага мастацтва); 2) *філас.* разнавіднасць *эклектызму*, неарганічнае спалучэнне разнародных элементаў — філасофскіх поглядаў, рэлігійных сістэм і інш.

**СІ́НТЭЗ** (*гр.* synthesis = злучэнне, спалучэнне) — 1) даследаванне з'яў у іх адзінстве і ўзаемнай сувязі частак, абагульненне, звядзенне дадзеных у адзінае цэлае (параўн. *аналіз* 1); 2) атрыманне складаных хімічных злучэнняў з больш простых (напр. с. бялкоў).

**СІНТЭЗА́ТАР** (ад *гр.* synthesis = злучэнне, спалучэнне) — клавішны электрамузычны інструмент, здольны ствараць, сінтэзаваць гукі, падобныя на гучанне музычных інструментаў.

**СІНХРО́ННЫ** (*гр.* synchronos, ад syn = разам + chronos = = час) — які адбываецца адначасова, супадае ў часе (напр. с-ае вярчэнне матораў, с. пераклад).

**СІСТЭ́МА** (*гр.* systema = злучэнне, складзенае з частак) — 1) сукупнасць заканамерна звязаных паміж сабой элементаў (прадметаў, з'яў, поглядаў, ведаў і г. д.), якія складаюць пэўнае цэласнае ўтварэнне, адзінства; 2) пэўны парадак у размяшчэнні і сувязі частак чаго-н. (напр. с. механізмаў); 3) форма арганізацыі чаго-н. (напр. выбарчая с.); 4) сукупнасць прынцыпаў, якія служаць асновай якога-н. вучэння (напр. філасофская с. Гегеля); 5) форма грамадскага ладу (напр. дзяржаўная с.); 6) сукупнасць органаў, якія маюць агульную функцыю (напр. нервовая с.); 7) канструкцыя (напр. с. самалёта).

**СІСТЭМАТЫЗА́ЦЫЯ** (*фр.* systematisation, ад *гр.* systema = злучэнне, складзенае з частак) — размяшчэнне чаго-н. у вызначаным парадку і сувязі частак, прывядзенне ў *сістэму*.

**СІТУА́ЦЫЯ** (*фр.* situation, ад *п.-лац.* situatio = становішча) — сукупнасць абставін, якія ствараюць тое або іншае становішча (напр. міжнародная с.).

**СІЯНІ́ЗМ** (*ням.* Sionizm, ад *ст.-яўр.* Sion = назва гары ў Іерусаліме) — яўрэйскі нацыянальны рух, які прапагандуе аб'яднанне яўрэяў розных краін на аснове агульнасці іх гістарычнай радзімы.

**СКАБРО́ЗНЫ** (*фр.* scabreux, -use, ад *лац.* scabrosus = грубы) — непрыстойны (напр. с. анекдот).

**СКАНДА́Л** (*фр.* scandale) — 1) ганебнае здарэнне, выпадак, які ставіць яго ўдзельнікаў у няёмкае становішча (напр. палітычны с.); 2) сварка з крыкам, лаянкай, бойкай (напр. учыніць с.).

**СКАНДЗІ́РАВАЦЬ** (*ням.* skandieren, ад *лац.* scandere) — выразна, па складах вымаўляць словы (напр. с. верш).

**СКА́НЕР** (*англ.* scanner) — *інф.* устройства для аптычнага ўводу інфармацыі (тэкстаў, графікаў і інш.) у памяць *камп'ютэра*.

**СКАНІ́РАВАЦЬ** (*англ.* scan = уважліва разглядаць) — *інф.* уводзіць пры дапамозе *сканера* інфармацыю (тэкст, графік і інш.) у памяць *камп'ютэра*.

**СКА́УТ** (*англ.* scout = разведчык) — член скауцкай (гл. *скаутызм*) арганізацыі.

**СКАУТЫ́ЗМ** (ад *англ.* scout = разведчык) — адна з форм дзіцячага і юнацкага руху, якая ўзнікла ў Англіі ў 1907 г. з мэтай выхавання моладзі ў духу патрыятызму і рэлігійнасці; у розных краінах набыла розныя формы; аб'ядноўвае *бойскаутаў* і *гёрлскаутаў*.

**СКВОШ** (*англ.* squash) — спартыўная гульня з мячом і ракеткамі на спецыяльным *корце*, у якой два гульцы па чарзе адбіваюць удары мяча, які адскоквае ад сцяны.

**СКЕЙТБО́РД** (*англ.* skateboard, ад skate = катацца + board = = дошка) — *сп.* катанне на спецыяльнай дошцы з ролікамі.

**СКЕ́ЙТЭР** (*англ.* skater) — той, хто займаецца *скейтбордам*.

**СКЕ́ПСІС** (*гр.* skepsis = разбор, сумненне) — сумненне, недавер да чаго-н.

**СКЕ́ПТЫК** (*гр.* skeptikos = які разглядае, крытыкуе) — 1) прыхільнік *скептыцызму* 1; 2) недаверлівы чалавек, які сумняваецца ва ўсім.

**СКЕПТЫЦЫ́ЗМ** (*фр.* scepticisme, ад *гр.* skeptikos = які разглядае, крытыкуе) — 1) філасофскі напрамак, які падвяргае сумненню магчымасць пазнання аб'ектыўнай рэчаіснасці (параўн. *агнастыцызм*); 2) крытычны недавер, крайняе сумненне ў чым-н.

**СКЕТЧ** (*англ.* sketch = эскіз) — невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага зместу.

**СКІНХЭ́Д** (*англ.* skinhead, ад skin = скура + head = галава) — член маладзёжнай групоўкі, агрэсіўна настроенай па адносінах да людзей іншых рас і нацыянальнасцей; знешне адрозніваецца паголенай галавой.

**СКЛЕРО́З** (*гр.* sklerosis = зацвярдзенне) — зацвярдзенне тканак або органа, выкліканае старэннем і адміраннем дзейных клетак і заменай іх злучальнай тканкай (напр. с. сасудаў, с. мозгу).

**СКОТЧ** (*англ.* scotch = надрэз) — клейкая празрыстая стужка для канцылярскіх, гаспадарчых патрэб.

**СКРАБ** (*англ.* scrub) — касметычны сродак для глыбокага ачышчэння скуры.

**СКРУПУЛЁЗНЫ** (*лац.* scrupulosus) — вельмі акуратны, дакладны да дробязей (напр. с-ае даследаванне).

**СКУ́ТЭР** (*англ.* scooter, ад scoot = бегчы) — аднамесная пласкадонная спартыўная лодка з падвесным маторам.

**СЛАЙД** (*англ.* slide) — 1) фатаграфічны здымак на шкле або празрыстай плёнцы для праекцыйнага ліхтара; 2) рухомае сядзенне для грабца ў гоначнай лодцы.

**СЛА́КСЫ** (*англ.* slacks) — шырокія штаны з лёгкай тканіны.

**СЛА́ЛАМ** (*нарв.* slalom) — скарасны спуск з гор на лыжах па вельмі звілістай дарожцы як від горналыжнага спорту.

**СЛЕНГ** (*англ.* slang = жаргон) — сукупнасць слоў і выразаў, якія складаюць слой размоўнай лексікі людзей пэўных узроставых груп, прафесій, сацыяльных праслоек і г. д. (напр. маладзёжны с., с. мастакоў).

**СЛІ́ПЕР** (ад *англ.* sleep = спаць) — той, каго прыводзяць у гіпнатычны стан з мэтай унушыць яму пэўныя адчуванні, выклікаць гатоўнасць да пэўных дзеянняў.

**СЛО́ГАН** (*англ.* slogan) — 1) кароткі лозунг, які выражае пэўны погляд або рэкламуе тавар; 2) сціслая, лёгкаўспрымальная фармуліроўка рэкламнай ідэі.

**СМОГ** [*англ.* smog, ад smo(ke) = дым + (fo)g = туман] — сумесь дыму і пылу з туманам, якая ўтварае завесу над буйнымі прамысловамі гарадамі.

**СМО́КІНГ** [*англ.* smoking (jacket) = *літар.* пінжак, у якім курацъ] — пінжак з чорнага сукна з адкрытай грудзінай і доўгімі абшытымі шоўкам адваротамі.

**СМЭШ** (*англ.* smech = удар) — удар па тэнісным мячы, які ляціць вышэй галавы, з мэтай накіраваць яго ўніз на поле праціўніка.

**СНАБІ́ЗМ** (*англ.* snobbism) — манеры, паводзіны, уласцівыя *снобу*.

**СНА́ЙПІНГ** (*англ.* sniping, ад snipe = страляць з укрыцця) — звышметкая снайперская стральба.

**СНІ́КЕРС** (*англ.* snickers) — шакаладны батончык імпартнага паходжання.

**СНОБ** (*англ.* snob) — чалавек, які беспадстаўна прэтэндуе на вытанчаны густ, манеры, асобую інтэлектуальнасць.

**СНОЎБО́РДЫНГ** (*англ.* snowboarding) — від горналыжнага спорту, скорасны спуск на пластыкавай дошцы.

**СО́ЛА** (*іт.* solo, ад *лац.* solus = толькі адзін) — музычны твор або яго частка, прызначаныя для выканання адным

музыкантам, спеваком, танцорам, а таксама выкананне такога твора адным чалавекам (напр. с. для скрыпкі).

**СОРТ** (*фр.* sorte, ад *лац.* sors, -rtis = частка, разнавіднасць) — 1) тое, што і *гатунак* 1; 2) разнавіднасць якой-н. культурнай расліны, якая адрозніваецца ад іншых раслін гэтага ж віду каштоўнымі якасцямі (напр. высокаўраджайны с. пшаніцы).

**СО́УЛ** (*англ.* soul) — стыль рок-музыкі.

**СО́ЦЫУМ** (*лац.* socium = агульнае, сумеснае) — *філас.* калектыў людзей, які характарызуецца агульнасцю сацыяльнага, эканамічнага і культурнага жыцця.

**СПАГЕ́ЦЦІ** (*іт.* spaghetti) — выраб з пшанічнай мукі ў выглядзе доўгіх ніцей, якія адварваюцца цалкам.

**СПА́ЗМА** (*гр.* spasma) — сутаргавае скарачэнне мышцаў (напр. с. сціснула горла).

**СПАНТА́ННЫ** (*лац.* spontaneus = адвольны) — выкліканы ўнутранымі прычынамі, без знешніх уздзеянняў (напр. с-ае развіццё, с. працэс).

**СПАРАДЫ́ЧНЫ** (*лац.* sporadicus, ад *гр.* sporadikos) — адзінкавы, не рэгулярны, выпадковы (напр. с-ая з'ява).

**СПА́РЫНГ** (*англ.* sparring) — трэніровачны бой баксёраў перад спаборніцтвам; вольны бой.

**СПЕКТА́КЛЬ** (*фр.* spectacle, ад *лац.* spectaculum = відовішча) — 1) тэатральная пастаноўка (напр. вячэрні с.); 2) *перан.* якое-н. незвычайнае відовішча, здарэнне (напр. устроіць с.).

**СПЕКУЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* speculatio = высочванне, назіранне) — 1) гандаль з мэтай нажывы, скупка і перапродаж тавараў і прадуктаў па больш высокіх цэнах; 2) *перан.* выкарыстанне чаго-н. з карыслівымі мэтамі (напр. с. на сяброўскіх пачуццях); 3) *філас.* абстрактныя разважанні, адарваныя ад вопыту і практыкі (напр. псеўданавуковыя спекуляцыі).

**СПЕЦЫ́ФІКА** (*лац.* specificus = асаблівы) — тое, што ўласціва толькі дадзенаму прадмету ці з'яве, іх асаблівасць.

**СПЕЦЫЯЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* spécialisation, ад *лац.* specialis = асаблівы) — 1) набыццё спецыяльных ведаў у якой-н. галіне; 2) абмежаванне вытворчай дзейнасці якой-н. спецыяльнай галіной; 3) падзел працы на асобныя аперацыі.

**СПЕЦЫЯЛІ́СТ** (*фр.* spécialiste, ад *лац.* specialis = асаблівы) — асоба, якая валодае прафесійна спецыяльнымі ведамі і навыкамі ў якой-н. галіне навукі, тэхнікі, вытворчасці, мастацтва; майстар сваёй справы.

**СПЕЦЫЯ́ЛЬНЫ** (*лац.* specialis) — 1) асобы, прызначаны толькі для чаго-н. (напр. с. рэйс); 2) звязаны з асобнай галіной навукі, тэхнікі, вытворчасці, мастацтва (напр. с-ая адукацыя).

**СПІДВЕ́Й** (*англ.* speedway, ад speed = хуткасць + way = шлях, дарога) — мотагонкі на гаравым, травяным або ледзяным трэку.

**СПІ́КЕР** (*англ.* speaker, ад speak = гаварыць) — старшыня парламента або (у парламентах некаторых краін) яго ніжняй палаты.

**СПІРЫТЫ́ЗМ** (*фр.* spiritisme, ад *лац.* spiritus = душа, дух) — містычная вера ў замагільнае жыццё душ памерлых і ў магчымасць зносін з імі, а таксама ўяўныя зносіны з душамі памерлых пры дапамозе розных прыёмаў (вярчэння сталоў, сподачкаў і г. д.).

**СПІЧ** (*англ.* speech) — кароткая прывітальная застольная прамова.

**СПІЧРА́ЙТЭР** (*англ.* speechwriter, ад speech = прамова + + writer = які піша) — той, хто піша тэксты прамоў для высокапастаўленых асоб дзяржавы.

**СПЛІН** (*англ.* spleen, ад *гр.* splen = селязёнка) — сумны настрой, апатыя, хандра.

**СПО́ЙЛЕР** (*англ.* spoiler) — засцерагальная дэталь на кузаве аўтамабіля.

**СПО́НСАР** (*англ.* sponsor) — асоба або арганізацыя, якія фінансуюць пэўнае мерапрыемства як з мэтай яго падтрымкі, так і для рэкламы ўласнай дзейнасці.

**СПО́РТЫНГ** (*англ.* sporting) — від стралковага спорту, стральба з гладкаствольных ружжаў па рухомых мішэнях.

**СПОТ** (*англ.* spot) — біржавая здзелка на наяўны тавар з неадкладнай аплатай.

**СПО́ЎКСМЕН** (*англ.* spokesman, ад speak = гаварыць + + man = чалавек) — прадстаўнік якой-н. афіцыйнай асобы, які публічна выражае яе пазіцыю па тых ці іншых пытаннях.

**СПРЫНТ** (*англ.* sprint) — спаборніцтва на кароткія дыстанцыі ў лёгкаатлетычным бегу, катанні на каньках, у веласіпедным спорце, плаванні і інш.

**СПРЫ́НТЭР** (*англ.* sprinter) — спартсмен, які спецыялізуецца ў *спрынце* (параўн. *стаер* 1).

**СПУ́НІНГ** (*англ.* spooning) — вучэбная грабная аднамесная лодка.

**СПУРТ** (*англ.* spurt = рывок) — рэзкі, імклівы рывок перад фінішам у час бегу, плавання, катання на коньках, веласіпедных гонак і інш.

**СТАБІЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* stabilisation, ад *лац.* stabilis = устойлівы) — прывядзенне чаго-н. ва ўстойлівае становішча, замацаванне на пэўным узроўні (напр. с. напружання, с. эканомікі).

**СТАБІ́ЛЬНЫ** (*лац.* stabilis = устойлівы) — устойлівы, нязменны, пастаянны (напр. с-ае напружанне, с-ыя цэны).

**СТАГНА́ЦЫЯ** (*англ.* stagnation, ад *лац.* stagnare = рабіць нерухомым) — застой у эканоміцы, вытворчасці, грамадскім жыцці.

**СТАГФЛЯ́ЦЫЯ** [*англ.* stagflation, ад stag(nation) = стагнацыя + (inf)lation = інфляцыя] — форма *інфляцыі*, якая характарызуецца праяўленнямі *стагнацыі* эканомікі і адначасовым ростам дарагавізны.

**СТАДЫЁН** (*гр.* stadion = месца для спаборніцтваў) — комплекснае спартыўнае збудаванне з футбольным полем, бегавымі дарожкамі, пляцоўкамі для спаборніцтваў і трэніровак, трыбунамі для гледачоў.

**СТА́ЕР** (*англ.* stayer = *літар.* вынослівы чалавек) — 1) спартсмен, які спецыялізуецца ў бегу ці гонках на доўгія дыстанцыі (параўн. *спрынтэр*); 2) конь, які дасягнуў на скачках найбольшай хуткасці на доўгіх дыстанцыях (параўн. *фляер*).

**СТАЖ** (*фр.* stage) — тэрмін, на працягу якога чалавек працуе або набывае спецыялізацыю (напр. працоўны с., вытрабавальны с.).

**СТА́ЛКЕР** (*англ.* stalker, ад stalk = падкрадвацца) — 1) першапраходзец, першаадкрывальнік (звычайна ў небяспечных для жыцця месцах); 2) той, хто рызыкуе жыццём, падвяргае яго вялікай небяспецы для дасягнення якой-н. мэты.

**СТАМАТО́ЛАГ** (ад *гр.* stoma, -atos = рот + logos = слова, вучэнне) — спецыяліст, які вывучае захворванні органаў поласці рота (зубоў, сківіц і інш.); параўн. *дантыст*.

**СТАНДА́РТ** (*англ.* standard = норма, узор, мерка) — 1) узор, мадэль, эталон, якім павінна адпавядаць што-н. сваім памерам, формай, якасцю і г. д. (напр. с. вырабаў); 2) *перан.* нешта шаблоннае, што не мае ў сабе нічога арыгінальнага, творчага (напр. дзейнічаць па стандарту).

**СТАРТ** (*англ.* start) — 1) момант пачатку спартыўных спаборніцтваў (па бегу, плаванні і г. д.) або ўзлёту лятальнага апарата (ракеты, касмічнага карабля); 2) месца, з якога пачынаюцца спаборніцтвы па хадзьбе, бегу, яздзе, плаванні (напр. выйсці на с.); 3) *перан.* пачатак, зыходны пункт пры адліку якой-н. падзеі.

**СТА́ТУС** (*лац.* status) — прававое становішча, стан (напр. дыпламатычны с., с. незалежнай дзяржавы).

**СТА́ТУС-КВО́** (*лац.* status quo) — становішча, якое існавала або існуе ў пэўны момант.

**СТА́ТУ́Т** (*польск.* statut, ад *лац.* statutum) — 1) звод палажэнняў, якія вызначаюць структуру, прынцыпы і парадак дзейнасці якой-н. арганізацыі, установы (напр. С. Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі); 2) звод правіл, якія рэгулююць парадак выканання ці прымянення чаго-н. (напр. вайсковы с.); 3) звод законаў у некаторых краінах Еўропы XIV—XVIII стст. (напр. С. Вялікага княства Літоўскага).

**СТАТЫ́СТ** (*іт.* statista, ад *гр.* statos = які стаіць) — 1) акцёр, які выконвае на сцэне другарадныя ролі без слоў; 2) *перан.* пасіўны назіральнік.

**СТАТЫ́СТЫКА** (*ням.* Statistik, ад *лац.* status = стан) — 1) навука аб колькасных зменах у развіцці грамадства і народнай гаспадаркі (напр. эканамічная с.); 2) навуковы метад колькасных даследаванняў у некаторых галінах ведаў (напр. матэматычная с.).

**СТАТЫ́ЧНЫ** (*гр.* statikos = які ўтрымлівае раўнавагу) — нерухомы, які знаходзіцца ў стане спакою, раўнавагі (напр. с-ая поза).

**СТАФА́Ж** (*ням.* Staffage) — 1) невялікія фігуры людзей і жывёл, намаляваныя на пейзажнай карціне для яе ажыўлення; 2) *перан.* малазначныя, несамастойныя фігуры ў палітыцы, прызначаныя адцягнуць увагу апанентаў.

**СТАЦЫЯНА́Р** (*лац.* stationarius = нерухомы) — 1) установа з пастаянным месцам знаходжання (напр. бібліятэка-с.);

2) лячэбная ўстанова, якая мае пастаянныя ложкі для хворых; 3) дзённае аддзяленне ў ВНУ ў адрозненне ад вячэрняга і завочнага (напр. вучыцца на стацыянары).

**СТРАТАСФЁРА** (ад *лац.* stratum = слой + sphaira = шар) — слой зямной *атмасферы*, размешчаны над *трапасферай*, на вышыні ад 8—16 да 55 км.

**СТРАТАЦЫ́Д** (ад *лац.* stratum = слой + caedere = забіваць) — знішчэнне насельніцтва па прымеце прыналежнасці да пэўнага слою грамадства (кулацтва, купецтва, дваранства, інтэлігенцыі і г. д.).

**СТРАТЭ́ГІЯ** (*гр.* strategia, ад stratos = войска + ago = вяду) — 1) навука аб вядзенні вайны, майстэрства вядзення вайны (параўн. *тактыка* 1); 2) *перан.* майстэрства кіраўніцтва, заснаванае на доўгатэрміновых прагнозах.

**СТРУКТУ́РА** (*лац.* structura) — 1) узаемаразмяшчэнне і сувязь састаўных частак чаго-н.; будова (напр. с. глебы, с. слова); 2) устройства, арганізацыя (напр. с. кіравання).

**СТРЫ́НГЕР** (*англ.* stringer) — карэспандэнт, які працуе ў небяспечных умовах.

**СТРЫПТЫ́З** (*англ.* striptease, ад strip = знімаць + tease = = дражніць) — эратычнае танцавальнае выступленне з паступовым распрананнем танцоўшчыцы ці танцоўшчыка.

**СТРЫПТЫ́З-БІ́ЗНЕС** (ад *англ.* striptease = стрыптыз + business = бізнес) — бізнес, звязаны з арганізацыяй і дэманстрацыяй стрыптызу і іншых эстрадна-эратычнах шоу.

**СТРЭС** (*англ.* stress) — стан напружання арганізма, які ўзнікае пад уплывам моцных уздзеянняў (холаду, голаду, псіхічных і фізічных траўм).

**СТРЭ́ТЧЫНГ** (*англ.* stretching = расцягванне) — комплекс фізічных практыкаванняў для расцягвання пэўных частак цела, пры якім чаргуюцца напружанне і расслабленне розных мышц.

**СТУ́ДЫЯ** (*іт.* studio = стараннe, вывучэнне) — 1) майстэрня мастака або скульптара; 2) школа для падрыхтоўкі мастакоў або артыстаў; 3) спецыяльна абсталяванае памяшканне для вядзення радыё- і тэлеперадач, для фота- і кіназдымак.

**СТЫ́КЕР** (*англ.* sticker, ад stick = наклейваць) — этыкетка, ярлык, якія наклейваюцца на тавар.

**СТЫЛІ́СТ** (*фр.* styliste, ад *гр.* stylos = палачка для пісьма) — чалавек, які валодае майстэрствам літаратурнага стылю, піша добрым стылем.

**СТЫЛЬ** (*фр.* style, ад *гр.* stylos = палачка для пісьма) — 1) сукупнасць характэрных прымет мастацкага афармлення пэўнага часу або пэўнага напрамку (напр. гатычны с.); 2) прыём, спосаб, метад работы або паводзін (напр. с. кіраўніцтва); 3) сукупнасць моўных прыёмаў пісьменніка або літаратурнага твора, жанру (напр. публіцыстычны с.); 4) спосаб летазлічэння (напр. стары с., новы с.).

**СТЫ́МУЛ** (*лац.* stimulus = *літар.* востраканцовы кій, якім паганялі жывёл) — прычына, якая заахвочвае да работы, да дзейнасці (напр. матэрыяльныя стымулы).

**СТЫМУЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* stimulatio) — паскарэнне або ўзмацненне развіцця, актывізацыя дзейнасці чаго-н. (напр. с. росту раслін, с. дзейнасці сардэчнай мышцы).

**СТЫПЕ́НДЫЯ** (*лац.* stipendium = плата) — штомесячная грашовая дапамога студэнтам, аспірантам і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

**СТЫХІ́Я** (*гр.* stoicheion) — 1) адзін з асноўных элементаў прыроды (вада, зямля, паветра, агонь) у антычнай філасофіі; 2) з'явы прыроды, якія праяўляюцца як магутная разбуральная сіла (напр. марская с.); 3) *перан.* неарганізаваная сіла, якая дзейнічае ў сацыяльным асяроддзі (напр. с. інфляцыі); 4) *перан.* прывычнае асяроддзе (напр. свая с.).

**СТЭ́ЛА** (*лац.* stela, ад *гр.* stele = слуп) — вертыкальна пастаўленая каменная або металічная пліта (мемарыяльная, надмагільная) з надпісам або рэльефнымі выявамі.

**СТЭНАГРА́МА** (ад *гр.* stenos = вузкі, цесны + gramma = = знак, рыса) — запіс вуснай мовы (прамовы, лекцыі і інш.) пры дапамозе асобай сістэмы знакаў і скарочаных слоў і спалучэнняў.

**СТЭРЫЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* sterilisation, ад *лац.* sterilis = бясплодны) — 1) знішчэнне мікраарганізмаў пры дапамозе высокай тэмпературы ці хімічных рэчываў; 2) штучнае абясплоджванне.

**СТЭРЭАСКАПІ́Я** (ад *гр.* stereos = прасторавы + skopeo = гляджу) — метад атрымання адлюстраванняў, што ствараюць ураджанне аб'ёмнасці прадметаў і іх прасторавага размяшчэння.

**СТЭРЭАТЫ́П** (ад *гр.* stereos = прасторавы + typos = адбітак) — 1) *палігр.* металічная пласціна, на якой дакладна перадаецца друкарскі набор і якая служыць для друкавання шматтыражных выданняў; 2) *перан.* нязменны ўзор, шаблон (напр. дзейнічаць па стэрэатыпу).

**СУБАРДЫНА́ЦЫЯ** (ад *лац.* sub = пад + ordinatio = прывядзенне ў парадак) — сістэма строгага падпарадкавання малодшых службовых асоб старшым.

**СУБВЕ́НЦЫЯ** (*лац.* subventio = дапамога) — від дзяржаўнай грашовай дапамогі асобным галінам гаспадаркі, якая, у адрозненне ад *датацыі*, павінна быць выкарыстана на канкрэтныя мэты.

**СУБ'Е́КТ** (*лац.* subjectum) — 1) *філас.* чалавек, які пазнае знешні свет (*аб'ект*) і ўздзейнічае на яго; 2) асоба або арганізацыя, якія валодаюць пэўнымі правамі і абавязкамі (напр. с. права); 3) чалавек, звычайна з адмоўнымі рысамі характару; 4) прадмет суджэння ў логіцы; 5) *лінгв.* дзейнік.

**СУБ'ЕКТЫ́ЎНЫ** (*лац.* subjectivus = які далучаецца) — 1) уласцівы толькі дадзенай асобе, асабісты (напр. с-ыя перажыванні); 2) небесстаронні, прадузяты (проціл. *аб'ектыўны* 2).

**СУБЛІМА́ЦЫЯ** (*лац.* sublimatio = падніманне) — 1) пераход рэчыва пры награванні з цвёрдага стану непасрэдна ў газападобны, абмінаючы вадкі; 2) пераключэнне ніжэйшых, пераважна сексуальных пабуджэнняў на высокія, інтэлектуальна і сацыяльна карысныя мэты.

**СУБСІ́ДЫЯ** (*лац.* subsidium) — дапамога ў грашовай або натуральнай форме каму-н.

**СУБСТРА́Т** (*лац.* substratum = аснова, падкладка) — 1) *філас.* агульная аснова ўсіх працэсаў і з'яў; 2) элементы мовы папярэдняга насельніцтва дадзенай тэрыторыі, якія захаваліся ў мове прышэльцаў (параўн. *адстрат*).

**СУБТЫ́ЛЬНЫ** (*лац.* subtilis) — 1) кволы, слабы; 2) далікатны (аб чалавеку).

**СУБЦІ́ТР** (*фр.* subtitre, ад *лац.* sub = пад + *фр.* titre = надпіс) — надпіс на ніжняй частцы кадра іншаземнага фільма з перакладам іншамоўнага тэксту на мову, зразумелую гледачам.

**СУВЕНІ́Р** (*фр.* souvenir) — памятны падарунак або пакупка як памяць аб наведванні краіны, горада і г. д.

**СУВЕРЭНІТЭТ** (*ням.* Souveränität, ад *фр.* souverainité) — поўная незалежнасць дзяржавы ў знешняй і ўнутранай палітыцы.

**СУВЕРЭННЫ** (*фр.* souverain) — 1) незалежны, самастойны (напр. с-ая дзяржава); 2) які ажыццяўляе вярхоўную ўладу (напр. с. правіцель).

**СУІНГ** (*англ.* swing = рытм) — стыль джазавай музыкі, характэрнай асаблівасцю якой з'яўляецца сольная імправізацыя, складаны акампанемент, вялікая колькасць выканаўцаў.

**СУІЦЫД** (*фр.* suicide, ад *лац.* sui = сябе + caedere = забіваць) — *юр., мед.* самазабойства.

**СУПЕРВАЙЗЕР** (*англ.* supervisor) — арганізатар работ, якія патрабуюць дзеянняў па пэўнай адзінай праграме.

**СУПЕРМАРКЕТ** (*англ.* supermarket, ад *лац.* super = над, звыш + *англ.* market = рынак) — буйны магазін самаабслугоўвання па гандлю таварамі паўсядзённага попыту, пераважна спажывецкага.

**СУПЕРМЭН** (*англ.* superman, ад *лац.* super = над, звыш + + *англ.* man = чалавек) — 1) герой дэтэктываў, коміксаў, кінабаевікоў, надзелены нязвыклымі якасцямі, якія робяць яго непераможным, абаяльным; 2) *іран.* чалавек, упэўнены ў сваёй перавазе над іншымі.

**СУПЕРШОЎ** (*англ.* supershow, ад *лац.* super = над + *англ.* show = шоу) — прадстаўленне, у якім выкарыстоўваюцца спецыяльныя сродкі, прыёмы для стварэння моцнага ўражання ў гледачоў.

**СУРАГАТ** (*лац.* surrogatus = пастаўлены замест іншага) — 1) непаўнацэнны замяняльнік чаго-н.; 2) *перан.* падробка, фальсіфікацыя.

**СУРВЭТКА** (*фр.* serviette) — 1) невялікі абрус; 2) невялікі кавалак тканіны або паперы ў выглядзе хустачкі для выцірання губ пасля яды, засцеражэння вопраткі ў цырульні і інш.

**СУТЭНЁР** (*фр.* souteneur) — маральна паўшы чалавек, які жыве на сродкі прастытуткі.

**СУФЛЁР** (*фр.* souffleur) — 1) работнік тэатра, які падказвае акцёрам словы ролі ў час спектакля; 2) *перан.* падказчык.

**СФЁРА** (*лац.* sphaera, ад *гр.* sphaira = шар) — 1) шар або яго ўнутраная паверхня (напр. зямная с., нябесная с.); 2) вобласць распаўсюджання чаго-н. (напр. с. прыцягнення планеты, с. уплыву); 3) галіна якой-н. дзейнасці, праяўлення якіх-н. інтарэсаў (напр. с. вытворчасці, с. абслугоўвання); 4) грамадскае асяроддзе, кола асоб, аб'яднаных агульнасцю сацыяльнага становішча або заняткаў (напр. навуковая с., дзелавая с.).

**СХАЛА́СТЫКА** (*гр.* scholastikos = школьны) — 1) сярэдневяковая рэлігійна-ідэалістычная філасофія, якая вызначалася абстрактнымі разважаннямі і фармальнымі лагічнымі мудрагельствамі; 2) *перан.* фармальныя веды, адарваныя ад жыцця.

**СХЕМАТЫ́ЗМ** (*гр.* schematismos = абрысы, форма) — спрошчанасць, трафарэтнасць у мысленні, у адлюстраванні чаго-н.

**СЦЭ́НА** (*лац.* scaena, ад *гр.* skene) — 1) спецыяльная пляцоўка, на якой адбываюцца спектаклі, прадстаўленні; 2) тэатр, тэатральная дзейнасць (напр. майстры сцэны); 3) частка дзеяння, эпізод у п'есе, літаратурным творы, карціне мастака, кінафільме; 4) рэзкая, вострая размова (напр. сямейная с.); 5) *перан.* арэна дзейнасці (напр. сысці са сцэны).

**СЦЮАРДЭ́СА** (*англ.* stewardess) — бортправадніца на самалёце.

**СЭЙШН** (*англ.* session) — музычная вечарынка, неафіцыйны канцэрт *рок-* або *поп-музыкі*, часцей для вузкага кола аб'яднаных агульнымі інтарэсамі людзей.

**СЭ́КАНД-ХЭ́НД** (*англ.* second-hand, ад second = другі + + hand = рука) — 1) былыя ва ўжыванні, патрыманыя, не новыя рэчы (звычайна адзенне); 2) магазін, які гандлюе паношаным адзеннем.

**СЭНС** (*польск.* sens, ад *лац.* sensus) — 1) значэнне, унутраны змест (напр. с. артыкула); 2) мэта, разумная падстава; карысць, толк (напр. ёсць с. асвоіць стэнаграфію, чакаць няма сэнсу).

**СЭ́РВІС** (*англ.* service = служба) — арганізаванае абслугоўванне насельніцтва ў сферы быту.

**СЭТ** (*англ.* set) — партыя гульні ў *тэніс*, у якой неабходна выйграць мінімум шэсць яе частак (*геймаў*), каб мець двайную перавагу (параўн. *тайм*).

**СЮЗЕРЭ́Н** (*фр.* suzerain) — 1) *гіст.* буйны феадал у сярэдневяковай Заходняй Еўропе, які быў гаспадаром у адносінах да залежных ад яго *васалаў*; 2) *перан.* дзяржава, у адносінах да якой іншая дзяржава знаходзіцца ў васальнай залежнасці.

**СЮРПРЫ́З** (*фр.* surprise) — 1) прыемнае нечаканае здарэнне, нечаканасць; 2) нечаканы падарунак.

## Т

**ТА́БЕЛЬ** (*ням.* Tabelle, ад *лац.* tabella = дошчачка) — спіс, кніга або спецыяльная дошка для ўліку чаго-н. (напр. т. паспяховасці).

**ТАБЛЕ́ТКА** (*фр.* tablette) — невялікі сплюшчаны шарык з прасаванага лекавага парашку.

**ТАБЛІ́ЦА** (*польск.* tablica, ад *лац.* tabula = дошка) — пералік звестак, лічбавых дадзеных, прыведзеных у пэўную сістэму і размешчаных па графах (напр. т. множання, турнірная т.).

**ТАБЛО́** (*фр.* tableau, ад *лац.* tabula = дошка) — шчыт, на якім пры дапамозе светлавога сігналу перадаецца якая-н. інфармацыя (рэкламная, спартыўная, біржавая і інш.).

**ТАБЛО́ІД** (*англ.* tabloid) — малафарматная газета з кароткім тэкстам і вялікай колькасцю ілюстрацый.

**ТАБУ́** (*фр.* tabou, ад *палінез.* tapu) — 1) рэлігійная забарона ў першабытных народаў на якое-н. дзеянне, прадмет; 2) *перан.* наогул якая-н. забарона.

**ТАЙБО́КСІНГ** (*англ.* tieboxing, ад tie = сувязь + boxing = = бокс) — разнавіднасць усходняй барацьбы, заснаваная на нанясенні ўдараў без баксёрскіх пальчатак.

**ТАЙ-БРЭ́ЙК** (*англ.* tie-break) — прадастаўленне абмежаванага часу пры роўным ліку ў каманд, гульцоў у некаторых відах спорту (напр. шахматны т.).

**ТАЙМ** (*англ.* time = час) — перыяд гульні ў *футболе, баскетболе, хакеі* і іншых спартыўных гульнях з мячом (параўн. *сэт*).

**ТАЙМ-А́ЎТ** (*англ.* time out = па-за часам) — прадугледжаны правіламі перапынак у спартыўнай гульні (напр. у *баскетболе*) па просьбе каманды або яе трэнера.

**ТА́ЙМЕР** (*англ.* timer, ад time = час) — прыбор, які аўтаматычна ўстанаўлівае час пачатку і канца пэўнага працэсу, дзеяння або асобных яго этапаў (напр. кухонны т.).

**ТАЙФУ́Н** (*англ.* typhoon, ад *кіт.* taj fung = вялікі вецер) — трапічны цыклон вялікай разбуральнай сілы.

**ТА́КСА** (*с.-лац.* taxa, ад *лац.* taxare = ацэньваць) — афіцыйна ўстаноўленая расцэнка тавараў або норма аплаты чаго-н. (напр. паштовая т.).

**ТАКСАФО́Н** (ад *гр.* taksis = парадак + phone = гук) — тэлефон-аўтамат.

**ТАКСІ́** (*фр.* taxi) — аўтамабіль для перавозкі пасажыраў і грузаў з аплатай па *таксометру* (напр. маршрутнае т., грузавое т.).

**ТАКСІКО́З** (*гр.* toksikos = атрутны) — нездаровы стан арганізма, які ўзнікае ў выніку дзеянняў на аго ядаў і ядавітых рэчываў (*таксінаў*).

**ТАКСІ́НЫ** (ад *гр.* toksikon = яд) — ядавітыя рэчывы расліннага і жывёльнага паходжання (ёсць у ядах змей, павукоў, скарпіёнаў); прымяняюцца для вырабу антыбіётыкаў.

**ТАКСІ́ЧНЫ** (*гр.* toksikos = атрутны) — 1) ядавіты, атручвальны (напр. т-ае рэчыва); 2) які выклікаецца дзеяннем *таксінаў* (напр. т. грып).

**ТАКСО́МЕТР** (ад *с.-лац.* taxa = расцэнка + *гр.* metreo = вымяраю) — лічыльнік у *таксі*, які паказвае плату за праезд.

**ТАКТ** (*фр.* tact, ад *лац.* tactus = дотык, адчуванне) — 1) кожная з роўных па працягласці доляў, на якія дзеліцца музычны твор па ліку метрычных націскаў у ім; 2) рытм якога-н. руху, дзеяння (напр. адбіваць т. нагой); 3) *перан.* пачуццё меры, уменне весці сябе належным чынам (напр. педагагічны т.).

**ТА́КТЫКА** [*гр.* taktike (techne) = уменне строіць войска] — 1) тэорыя і практыка падрыхтоўкі і вядзення бою (параўн. *стратэгія* 1); 2) *перан.* сукупнасць прыёмаў грамадскай і палітычнай барацьбы, спосабаў дасягнення мэты; лінія паводзін каго-н.

**ТА́ЛЕНТ** (*лац.* talentum, ад *гр.* talanton = вага, вагі) — 1) надзвычайныя прыродныя здольнасці (напр. паэтычны т.); 2) асоба, надзеленая надзвычайнымі здольнасцямі (напр. шукаць маладыя таленты).

**ТАЛЕРА́НТНЫ** (*лац.* tolerans, -ntis = які церпіць) — 1) *мед.* здольны пераносіць неспрыяльны ўплыў якіх-н. фактараў; 2) цярпімы да чужых меркаванняў, паводзін і інш.

**ТАЛІСМА́Н** (*фр.* talisman, ад *ар.* tilisman) — прадмет, які, на думку забабонных людзей, здольны прыносіць яго ўладальніку шчасце, удачу (параўн. *амулет*).

**ТАЛМУ́Д** (*ст.-яўр.* talmud = вучэнне) — звод рэлігійных, бытавых, прававых прадпісанняў *іудаізму*, заснаваны на схаластычным тлумачэнні кніг Старога запавету.

**ТАЛО́Н** (*фр.* talon, ад *лац.* talus = пята) — 1) кантрольны лісток, які дае права атрымаць што-н., карыстацца чым-н.; 2) частка дакумента, якая аддзяляецца ад яго.

**ТА́МБУР** (*фр.* tambour) — 1) закрытая пляцоўка пасажырскага чыгуначнага вагона; 2) прыбудова каля ўваходных дзвярэй, якая засцерагае асноўнае памяшканне ад холаду.

**ТАМПО́Н** (*фр.* tampon) — кавалачак стэрыльнага бінта, які ўводзіцца ў рану для спынення крывацёку або выдалення гною.

**ТАНА́Ж** (*фр.* tonnage, ад tonne = тона) — 1) водазмяшчэнне судна ў тонах; 2) грузапад'ёмнасць транспарту ў тонах.

**ТА́РА** (*іт.* tara, ад *ар.* tarĥa = вылічэнне) — упакоўка для тавараў, грузаў (мяшкі, скрынкі, бочкі і інш.).

**ТАРШЭ́Р** (*фр.* torchère, ад torche = факел) — свяцільня на высокай падстаўцы, з абажурам, якая ставіцца на падлогу.

**ТАРЫ́Ф** (*фр.* tarif, ад *ар.* ta'rif = вызначэнне) — норма збораў, аплаты за што-н., напр. за перавоз пасажыраў, грузаў, паштовыя паслугі, карыстанне электраэнергіяй, газам і інш. (напр. чыгуначны т., таможны т.).

**ТАРЫФІКА́ЦЫЯ** (*фр.* tarification, ад tarif < *ар.* ta'rif = вызначэнне) — вызначэнне *тарыфу* на аснове якой-н. класіфікацыі аб'ектаў абкладання або аплаты (напр. т. заработнай платы).

**ТАТАЛІЗА́ТАР** (*фр.* totalisateur, ад totaliser = падсумоўваць) — 1) механічны лічыльнік на скачках, які паказвае суму грашовых ставак на таго ці іншага каня, а таксама бюро, якое прымае такія стаўкі і аддае выйгрыш; 2) гульня на грошы на скачках.

**ТАТАЛІТА́РНЫ** (*фр.* totalitaire, ад *лац.* totus = увесь, цэлы) — заснаваны на поўным панаванні дзяржавы над усімі

бакамі жыцця грамадства, гвалце, знішчэнні дэмакратычных свабод і правоў асобы (напр. т. рэжым).

**ТАТАЛІТАРЫЗМ** (*фр.* totalitarisme, ад *лац.* totus = увесь, цэлы) — *таталітарны* палітычны, дзяржаўны рэжым.

**ТАТА́ЛЬНЫ** (*фр.* total, ад *лац.* totus = увесь, цэлы) — усеабдымны, усеагульны (напр. т-ая мабілізацыя).

**ТАТУА́Ж** (*фр.* tatouage, ад tatouer = татуіраваць) — нанясенне татуіроўкі на цела (распаўсюджана ў якасці моднага захаплення ў маладзёжным і артыстычным асяроддзі).

**ТАЎТАЛО́ГІЯ** (*п.-лац.* tautologia, ад *гр.* tauto = тое самае + + logos = слова) — паўтарэнне таго ж самага іншымі словамі.

**ТОК-ШО́У** (*англ.* talk show, ад talk = размова + show = відовішча, паказ) — тэлевізійнае *інтэрв'ю* з якой-н. вядомай асобай (палітыкам, грамадскім дзеячам, акцёрам і г. д.), з групай такіх асоб.

**ТО́ЛІНГ** (*англ.* tolling) — *кам.* асобы таможны рэжым, які ажыццяўляецца пра ўвозе ў краіну замежнай фірмай прамысловай сыравіны, што апрацоўваецца пры фінансавай падтрымцы гэтай фірмы, а атрыманы прадукт вывозіцца назад, пры гэтым увоз і вываз абкладаецца меншай пошлінай, чым пры звычайным імпарце і экспарце тавару.

**ТО́ЛІНГЕР** (*англ.* tollinger) — *кам.* фірма, якая займаецца ўвозам у краіну прамысловай сыравіны і вывазам атрыманага прадукту ў рэжыме *толінгу.*

**ТО́НІК** (*англ.* tonic, ад *гр.* tonikos = які напружвае, павышае) — 1) танізавальны лекавы сродак; 2) горка-кіслы газіраваны напітак; 3) касметычны сродак для ачышчэння скуры.

**ТО́НУС** (*лац.* tonus, ад *гр.* tonos = напружанне) — 1) працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і мышачных тканак, якое не суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыянаванне органаў; 2) жыццёвая актыўнасць, жыццядзейнасць (напр. павышаны т.).

**ТО́ПЛЕС** (*англ.* topless = які агаляе грудзі) — 1) жаночы купальнік, які не закрывае грудзі; 2) выступленне танцоўшчыцы, распранутай па пояс.

**ТОП** (*англ.* top = верх) — самы папулярны, модны твор (у эстраднай музыцы); спіс такіх твораў.

**ТОП-ХІ́Т** (ад *англ.* top = верх + hit = удача, поспех) — найбольш папулярны шлягер у *хіт-парадзе,*

**ТОСТ** (*англ.* toast, ад *лац.* panis tostus = падсмажаны хлеб) — 1) кароткая застольная прамова, здравіца ў гонар каго-н., чаго-н.; 2) падсмажаная ці падсушаная лустачка хлеба.

**ТО́СЦЕР** (*англ.* toaster, ад toast = падсмажаны хлеб) — электрапрыбор для прыгатвання *тостаў* 2.

**ТРАГЕ́ДЫЯ** (*лац.* tragoedia, ад *гр.* tragodia = казліны спеў) — 1) драматычны твор, які паказвае вострыя жыццёвыя канфлікты, што звычайна вядуць да смерці героя; 2) *перан.* вялікае няшчасце.

**ТРАГІ́ЗМ** (*фр.* tragisme, ад *гр.* tragikos = трагічны) — 1) трагічная аснова мастацкага твора; 2) безвыходнасць, цяжкасць душэўнага стану, што прыводзіць да катастрофы.

**ТРАГІКАМЕ́ДЫЯ** (ад *гр.* tragikos = трагічны + komodia = = камедыя) — 1) драматычны твор, у якім спалучаюцца характэрныя рысы трагедыі і камедыі; 2) *перан.* гісторыя, падзея, становішча, у якіх да сумнага прымешваецца смешнае.

**ТРАГЛАДЫ́Т** (*лац.* troglodyta, ад *гр.* troglodytes = які жыве ў пячоры) — 1) першабытны пячорны чалавек; 2) *перан.* грубіян, некультурны чалавек.

**ТРАДЫ́ЦЫЯ** (*лац.* traditio = перадача) — звычай, парадак; нормы паводзін, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

**ТРАЙБАЛІ́ЗМ** (*англ.* tribalism, ад tribe = племя) — варожыя адносіны адной этнічнай групы да другой.

**ТРА́ЙДЭНТ** (*англ.* trident = трызубец) — міжкантынентальная ракета з ядзернай боегалоўкай, якая размяшчаецца на падводнай лодцы; падводная лодка з такімі ракетамі (у ЗША).

**ТРАКТА́Т** (*лац.* tractatus = абмеркаванне, разгляд) — 1) навуковая праца, у якой раглядаецца асобнае пытанне ці праблема (напр. філасофскі т.); 2) міжнародны дагавор, пагадненне (напр. мірны т.).

**ТРАМПЛІ́Н** (*фр.* tremplin) — 1) спартыўнае збудаванне або прыстасаванне для адштурхоўвання пры скачках (напр. лыжны т.); 2) *перан.* зыходны пункт для якой-н. дзейнасці.

**ТРАНЖЫ́РЫЦЬ** (*фр.* trancher = разразаць) — неразумна, без толку траціць грошы, маёмасць і інш. (напр. т. дзяржаўныя сродкі, т. час).

**ТРАНЗІ́СТАР** [*англ.* transistor, ад tran(sfer) = пераносіць + + (re)sistor = супраціўленне] — 1) паўправадніковы прыбор, які служыць для ўзмацнення і пераўтварэння электрычных сігналаў; 2) невялікі радыёпрыёмнік на паўправадніках.

**ТРАНЗІ́Т** (*лац.* transitus = пераход, праходжанне) — 1) правоз пасажыраў і грузаў з аднаго пункта ў іншы праз прамежкавыя пункты; 2) перавозка грузаў без перагрузкі іх на прамежкавы́х станцыях.

**ТРАНКВІЛІЗА́ТАРЫ** (ад *англ.* tranquilliser = супакойваць) — лекавыя сродкі, якія аказваюць супакойліваe дзеянне на цэнтральную нервовую сістэму і аслабляюць некаторыя сімптомы псіхозаў (трызненне, галюцынацыі, страх, трывогу і інш.).

**ТРАНС** (*фр.* transe) — павышанае нервовае ўзбуджэнне са стратай самакантролю, а таксама зацямненне свядомасці пры *гіпнозе.*

**ТРАНСА́КЦЫЯ** (*лац.* transactio = здзелка) — 1) дагавор (палітычны, юрыдычны), які суправаджаецца ўзаемнымі ўступкамі; 2) банкаўская аперацыя, перавод грашовых сродкаў (у тым ліку за мяжу) для якіх-н. мэт.

**ТРАНСКРЫ́ПЦЫЯ** (*лац.* transcriptio = перапісванне) — 1) дакладная перадача на пісьме ўсіх асаблівасцей жывой гаворкі літарамі алфавіта і некаторымі спецыяльнымі знакамі; 2) *муз.* пералажэнне музычнага твора, напісанага для аднаго музычнага інструмента або голасу, для выканання другім інструментам або галасам.

**ТРАНСЛІТАРА́ЦЫЯ** (ад *лац.* trans = цераз + littera = літара) — перадача тэксту, напісанага адным алфавітам, літарамі іншага алфавіта.

**ТРАНСЛЯ́ЦЫЯ** (*лац.* translatio = перадача) — перадача інфармацыі па радыё і тэлебачанні на адлегласць.

**ТРАНСПАРА́НТ** (*фр.* transparent = *літар.* празрысты) — 1) ліст з чорнымі лініямі, які падкладваецца пад нелінеепую паперу, каб пры пісьме былі роўныя радкі; 2) тканіна з малюнкам або тэкстам, нацягнутая на раму.

**ТРА́НСПАРТ** (ад *лац.* transportare = перамяшчаць) — 1) галіна народнай гаспадаркі, звязаная з перавозкай людзей і грузаў, а таксама сродкі для такой перавозкі (напр. чыгуначны т., аўтамабільны т.); 2) партыя грузаў, што пры-

былі разам (напр. т. хлеба); 3) сукупнасць сродкаў перавозкі спецыяльнага прызначэння (напр. санітарны т.); 4) ваеннае судна для перавозкі грузаў, людзей (напр. мінны т., дэсантны т.).

**ТРАНСПЛАНТА́ЦЫЯ** (*п.-лац.* transplantatio, ад *лац.* transplantare = перасаджваць) — перасадка з наступным прыжыўленнем тканак і органаў у межах аднаго арганізма таго ж віду, другога віду ці нават роду.

**ТРАНССЕКСУА́Л** (ад *лац.* trans = цераз + sexus = пол) — чалавек, які пры дапамозе хірургічнай аперацыі змяніў свой пол на процілеглы.

**ТРАНСФАРМА́ЦЫЯ** (*лац.* transformatio) — 1) пераўтварэнне віду, формы, асаблівасцей чаго-н. (напр. т. паветраных мас, т. мастацкіх вобразаў); 2) эстрадны або цыркавы нумар, заснаваны на хуткім змяненні акцёрам свайго знешняга вобліку.

**ТРАНСФЕ́РТ** (*фр.* transfert, ад *лац.* transferre = пераносіць, пераводзіць) — 1) перавод замежнай валюты або перадача золата з адной краіны ў другую; 2) *юр.* перадача права ўладання імяннымі каштоўнымі паперамі (*акцыямі*) другой асобе; 3) абмен насельніцтвам паміж дзяржавамі на падставе міжнароднага пагаднення, аўтаматычнае змяненне грамадства.

**ТРАНСФО́РМЕР** (*англ.* transformer, ад *лац.* trans = праз, за + *англ.* former = складальнік) — цацка, якая разбіраецца на асобныя часткі.

**ТРАНШ** (*фр.* tranche = серыя, частка) — серыя або частка займа (як правіла, міжнароднага), што прадастаўляецца з разлікам на паляпшэнне рыначнай кан'юнктуры ў будучым.

**ТРАПАСФЕ́РА** (ад *гр.* tropos = паварот + sphaira = шар) — ніжні слой зямной *атмасферы* да *стратасферы.*

**ТРА́СА** (*ням.* Trasse) — 1) напрамак лініі дарогі, канала, трубапровада і інш.; 2) шлях, дарога (напр. аўтамабільная т.); 3) вогненны след, які пакідае за сабой трасіруючая куля або снарад, ракета.

**ТРАТУА́Р** (*фр.* trottoir) — дарожка для пешаходаў (з каменных пліт, асфальту, дошак) па баках вуліцы, плошчы.

**ТРА́ЎМА** (*гр.* trauma = рана) — 1) пашкоджаннне арганізма, выклікавае раненнем, ударам, апёкам і інш.; 2) *перан.* нервовае ўзрушэнне, прыгнечанне (напр. псіхічная т.).

**ТРАФАРЭ́Т** (*іт.* traforetto) — 1) пласцінка з металу, кардону, фанеры, пластмасы, у якой прарэзаны літары або малюнкі, што дазваляе лёгка наносіць іх на плакаты, сцены і г. д.; 2) *перан.* узор, якога слепа прытрымліваюцца (напр. дзейнічаць па трафарэту).

**ТРАХЕ́Я** (*гр.* tracheia) — дыхальнае горла ў чалавека і пазваночных жывёл, размешчанае паміж гартанню і бронхамі.

**ТРУБАДУ́Р** (*фр.* troubadour) — 1) сярэдневяковы паэт-спявак у паўднёвай Францыі, які апяваў радасці жыцця і каханне; 2) *перан.* той, хто што-н. услаўляе, прапагандуе.

**ТРУІ́ЗМ** (*англ.* truism) — агульнавядомая, збітая ісціна (напр. гаварыць труізмы).

**ТРУК** (*фр.* truc) — 1) лоўкі прыём (напр. акрабатычны т.); 2) *перан.* лоўкі ўчынак (напр. дыпламатычны т.).

**ТРУ́ПА** (*ням.* Truppe, ад *фр.* troupe = натоўп) — калектыў артыстаў тэатра, цырка.

**ТРЫБУ́Н** (*лац.* tribunus) — бліскучы прамоўца, публіцыст, грамадскі дзеяч.

**ТРЫБУНА́Л** (*лац.* tribunal = судзілішча) — надзвычайны судовы орган (напр. ваенны т., міжнародны т.).

**ТРЫ́Б'ЮТ** (*англ.* tribute) — прысвячэнне музычнага твора аднаго выканаўцы другому, уласная версія чужой песні.

**ТРЫВІЯ́ЛЬНЫ** (*фр.* trivial, ад *лац.* trivialis = звычайны, просты) — пошлы, збіты, пазбаўлены свежасці і арыгінальнасці (напр. т-ая думка, т. жарт).

**ТРЫЕНА́ЛЕ** (*іт.* triennale, ад *лац.* tres, tria = тры + annus = год) — выстаўка, якая паўтараецца кожныя тры гады.

**ТРЫКАТА́Ж** (*фр.* tricotage) — тканіна машыннай вязкі, а таксама вырабы з яе.

**ТРЫКО́** (*фр.* tricot) — 1) шарсцяная, паўшарсцяная або баваўняная тканіна ўзорнага пляцення для верхняга адзення; 2) трыкатажнае адзенне, якое шчыльна аблягае цела (напр. гімнастычнае т.).

**ТРЫ́КСТЭР** (*англ.* trickster) — падманшчык, ашуканец.

**ТРЫ́ЛЕР** (*англ.* thriller, ад thrill = хваляваць) — кніга або кінафільм, мэта якіх — стварыць эфект моцнага хвалявання ў чытача, гледача.

**ТРЫЛО́ГІЯ** (*гр.* trilogia, ад tri- = трох- + logos = слова) — тры творы аднаго аўтара (у літаратуры, музыцы, кіно), звязаныя адзінствам задумы і пераемнасцю сюжэта (параўн. *дылогія, тэтралогія*).

**ТРЫ́ПЦІХ** (*гр.* triptychos = складзены ўтрая) — 1) твор мастацтва з трох карцін, барэльефаў, малюнкаў, аб'яднаных адной задумай і выкананых у адным стылі; 2) трохстворкавы складзень (складны абраз).

**ТРЫУМВІРА́Т** (*лац.* triumviratus, ад tres, trium = тры + + vir = муж) — 1) саюз трох палітычных дзеячаў у Старажытным Рыме перыяду заняпаду рэспублікі (I ст. да н. э.), якія імкнуўся захапіць вярхоўную ўладу; 2) *перан.* тры асобы, якія аб'ядналіся для сумеснай дзейнасці.

**ТРЫУ́МФ** (*лац.* triumphus) — бліскучы поспех, урачыстасць з выпадку выдатнай перамогі.

**ТРЭ́ЙДЭР** (*англ.* traider) — *кам.* аптовы гандляр спажывецкімі таварамі.

**ТРЭ́ЙЛЕР** (*англ.* trailer, ад trail = цягнуць) — аўтамабільны прычэп для перавозкі цяжкавагавых грузаў.

**ТРЭК** (*англ.* track) — спартыўнае збудаванне з кругавой трасай для трэніровак і спаборніцтваў па вела- і мотаспорце.

**ТРЭКБО́Л** (*англ.* trackball) — дапаможнае ўстройства для ўводу інфармацыі ў партатыўных камп'ютэрах, вярчэннем якога вакол цэнтра кантраліруецца становішча *курсора* на *маніторы*.

**ТРЭНА́Ж** (*фр.* trainage, ад *англ.* train = трэніраваць) — трэніроўка, а таксама комплекс практыкаванняў для трэніроўкі (у спорце, балеце і інш.).

**ТРЭ́НЕР** (*англ.* trainer, ад *англ.* train = трэніраваць) — спецыяліст, які займаецца трэніроўкай спартсменаў.

**ТРЭ́НІНГ** (*англ.* training, ад *англ.* train = трэніраваць) — спецыяльны трэніровачны рэжым (напр. т. баксёра, т. плыўцоў).

**ТРЭСТ** (*англ.* trust) — 1) аб'яднанне прадпрыемстваў, звязаных аднароднасцю прадукцыі або рознымі стадыямі перапрацоўкі сыравіны; 2) манапалістычнае аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў пад адным кіраўніцтвам.

**ТРЭЦІ́РАВАЦЬ** (*ням.* traitieren, ад *фр.* traiter = абыходзіцца) — абыходзіцца з кім-н. пагардліва, звысоку.

**ТУБЕРКУЛЁЗ** (*н.-лац.* tuberculosis, ад *лац.* tuberculum = = бугарок) — інфекцыйная хвароба чалавека і жывёл, выкліканая палачкай Коха; паражае лёгкія, косці, суставы, кішэчнік.

**ТУ́МБА** (*ням.* Tumbe, ад *лац.* tumba = магіла) — 1) невысокі слупок каля дарогі або тратуара; 2) ніжняя частка пісьмовага стала ў выглядзе невялікай шафкі з шуфлядамі; 3) круглае збудаванне для наклейвання аб'яў, афіш.

**ТУ́МБЛЕР** (*англ.* tumbler) — механічны пераключальнік у электра- і радыётэхнічных прыборах.

**ТУНЭ́ЛЬ** (*англ.* tunnel) — скразны праход, праезд, пракапаны пад зямлёй або прабіты ў гарах.

**ТУР** (*фр.* tour, ад *лац.* tornare = кругліць) — 1) адзін круг танца (напр. т. вальса); 2) асобны этап якога-н. спаборніцтва, у якім кожны яго ўдзельнік выступае адзін раз; 3) асобны этап якой-н. падзеі, з'явы.

**ТУРНІКЕ́Т** (*фр.* tourniquet) — прыстасаванне ў выглядзе рухомай крыжавіны, што ўстанаўліваецца ў праходах, каб наведвальнікі маглі праходзіць па адным.

**ТУРНІ́Р** (*ням.* Tirnier, ад *фр.* tourneoi) — 1) *гіст.* спаборніцтва рыцараў у сярэднія вякі; 2) спартыўнае спаборніцтва, у якім усе ўдзельнікі маюць паміж сабой па адной ці дзве сустрэчы (напр. шахматны т.).

**ТУРНЭ́** (*фр.* tournée) — 1) падарожжа па кругавым маршруце (напр. т. вакол Еўропы); 2) паездка артыстаў на гастролі, а таксама спартсменаў на выступленні.

**ТУРЫ́ЗМ** (*фр.* tourisme) — падарожжа ў вольны час па сваёй краіне і ў іншыя краіны, калі адпачынак спалучаецца з элементамі спорту і пазнавальнымі задачамі.

**ТУ́ЦІ** (*іт.* tutti = *літар.* усе) — выкананне музычнага твора ўсім саставам аркестра або хору.

**ТУ́ЦІ-ФРУ́ЦІ** (*іт.* tutti-frutti, ад tutti = усе + frutti = фрукты) — прысмакі для дзяцей, прыгатаваня з фруктовага мармеладу, адлітага ў фігурных формах.

**ТЫНЭЙДЖЭР** (*англ.* teenager = падлетак) — юнак або дзяўчына ва ўзросце ад 13 да 19 гадоў.

**ТЫП** (*фр.* type, ад *гр.* typos = адбітак, вобраз) — 1) узор, мадэль, форма чаго-н. (напр. т. самалёта); 2) *біял.* адзінка

ў сістэматызацыі раслін і жывёл, якая аб'ядноўвае роднасныя класы (напр. т. кветкавых раслін, т. членістаногіх); 3) разрад, катэгорыя людзей з характэрнымі агульнымі знешнімі або ўнутранымі рысамі (напр. славянскі т. твару); 4) абагулены мастацкі вобраз якой-н. групы людзей (напр. літаратурны т.).

**ТЫРА́ДА** (*фр.* tirade, ад *іт.* tirade) — доўгая фраза, урывак прамовы, шматслоўная рэпліка, сказаная ў прыўзнятым тоне.

**ТЫРА́Ж** (*фр.* tirage) — 1) колькасць экзэмпляраў якога-н. друкаванага выдання (напр. т. газеты, т. кнігі); 2) розыгрыш выйгрышаў у пазыцы, латарэі; пагашэнне аблігацый.

**ТЫРА́Н** (*гр.* tyrannos) — 1) правіцель, улада якога заснавана на дэспатызме і гвалце; 2) *пераН.* прыгнятальнік, мучыцель.

**ТЫТА́Н** (*гр.* Titan = імя старажытнагрэчаскага міфалагічнага гіганта, які змагаўся з багамі) — чалавек вялікага таленту, надзвычайнага розуму (напр. т. навукі).

**ТЫ́ТУЛ** (*лац.* titulus = надпіс) — 1) ганаровае радавое або падараванае дваранскае званне (напр. т. графа, т. барона); 2) званне, якое прысвойваецца каму-н. у знак прызнання яго заслуг (напр. т. чэмпіёна); 3) старонка кнігі, на якой надрукаваны загаловак, імя аўтара, год і месца выдання; тытульны ліст.

**ТЫФЛІ́Т** (*фр.* typhlite, ад *гр.* typlos = сляпы) — *мед.* запаленне сляпой кішкі (параўн. *апендыцыт*).

**ТЭАДЫЦЭ́Я** (*фр.* théodicée, ад *гр.* theos = бог + dike = справядлівасць, права) — рэлігійна-філасофскае вучэнне, паводле якога Бог не нясе адказнасці за прысутнасць зла на зямлі.

**ТЭАКРА́ТЫЯ** (*гр.* theokratia, ад theos = бог + kratos = улада) — форма дзяржаўнага кіравання, калі палітычныя ўлада ў краіне належыць духавенству, а таксама дзяржава з такой формай кіравання.

**ТЭАЛО́ГІЯ** (*гр.* theologia, ад theos = бог + logos = вучэнне) — багаслоўе, рэлігійнае вучэнне, якое імкнецца абгрунтаваць рэлігійныя догмы і вераванні.

**ТЭА́ТР** (*фр.* théâtre, ад *гр.* theatron = месца для відовішча) — 1) род мастацтва, спецыфічным сродкам выражэння якога з'яўляецца сцэнічнае дзеянне, ажыццёўленае акцёрамі

перад гледачом; 2) установа, якая мае пэўны састаў артыстаў і ставіць спектаклі, а таксама будынак са сцэнай і залай, дзе адбываецца тэатральны паказ; 3) *перан.* месца, дзе разгортваюцца якія-н. значныя падзеі (напр. т. ваенных дзеянняў).

**ТЭЗА́ЎРУС** (*лац.* thesaurus, ад *гр.* thesauros = скарб) — 1) слоўнік, які найбольш поўна ахоплівае лексіку дадзенай мовы; 2) *інф.* поўны сістэматызаваны набор дадзеных аб якой-н. галіне ведаў, які дазваляе вылічальнай машыне або чалавеку арыентавацца ў гэтай галіне.

**ТЭ́ЗІС** (*гр.* thesis) — палажэнне, якое коратка перадае адну з асноўных думак лекцыі, даклада.

**ТЭІ́ЗМ** (*фр.* théisme, ад *гр.* theos = бог) — рэлігійна-філасофскае вучэнне, якое грунтуецца на разуменні бога як абсалютнай асобы, што стварыла свет і дзейнічае ў ім.

**ТЭКСТ** (*лац.* textum = сувязь, злучэнне) — 1) тое, што напісана або надрукавана (напр. т. пратакола, т. рамана); 2) асноўная частка напісанага або надрукаванага без падрадковых заўваг, спасылак, каментарыяў (напр. зноска пад тэкстам); 3) словы, на якія напісана музыка (напр. т. песні).

**ТЭКСТЫ́ЛЬ** (*лац.* textile, ад texere = ткаць) — агульная назва ткацкіх вырабаў з натуральных і штучных валокнаў, а таксама пража і сыравіна для іх.

**ТЭЛЭВІ́ЗАР** (*англ.* televisor, ад *гр.* tele = далёка + *лац.* visor = які бачыць) — апарат для прыёму зрокавых перадач і іх гукавога суправаджэння.

**ТЭЛЕГРА́МА** (ад *гр.* tele = далёка + gramma = знак, рыса) — тэрміновае паведамленне, перададзенае па *тэлеграфе*, а таксама бланк з такім паведамленнем.

**ТЭЛЕГРА́Ф** (ад *гр.* tele = далёка + grapho = пішу) — 1) сістэма сувязі, якая забяспечвае хуткую перадачу паведамленняў на адлегласць пры дапамозе электрычных сігналаў па правадах; 2) установа, дзе прымаюцца і адпраўляюцца такія паведамленні.

**ТЭЛЕКІНЭ́З** (ад *гр.* tele = далёка + kinesis = рух, перамяшчэнне) — перамяшчэнне матэрыяльнах прадметаў без дакранання да іх, толькі напружаннем волі чалавека.

**ТЭ́ЛЕКС** [*англ.* telex, ад tel(egraph) = тэлеграф + ex(change) = абмен] — 1) міжнародная сетка абаненцкага тэлеграфа-

вання, абсталяваная аўтаматычнымі тэлеграфнымі станцыямі; 2) апарат для такога тэлеграфавання; 3) паведамленне, атрыманае па такім апараце (напр. атрымаць т.).

**ТЭЛЕПА́ТЫЯ** (ад *гр.* tele = далёка + pathos = пачуццё) — здольнасць некаторых людзей перадаваць думкі і пачуцці на адлегласць.

**ТЭЛЕТА́ЙП** (*англ.* teletype, ад *гр.* tele = далёка + *англ.* type = адбітак) — літарадрукавальны апарат для прыёму і перадачы тэкстаў па тэлеграфных каналах сувязі.

**ТЭЛЕФА́КС** (ад *гр.* tele = далёка + *лац.* fac simile = рабі падобнае) — тое, што і *факс.*

**ТЭЛЕШО́У** (*англ.* teleshow, ад *гр.* tele = далёка + *англ.* show = відовішча) — яркае сцэнічнае відовішча з удзелам зорак эстрады, цырка, балета, якое транслiруецца па тэлебачанні.

**ТЭ́МА** (*гр.* thema) — 1) прадмет апісання, адлюстравання, даследавання, размовы (напр. т. рамана, т. даклада); 2) асноўны матыў музычнага твора (напр. т. з варыяцыямі).

**ТЭМП** (*іт.* tempo, ад *лац.* tempus = час) — 1) хуткасць выканання музычнага твора (напр. т. песні); 2) ступень хуткасці ў ажыццяўленні чаго-н. (напр. т. будаўніцтва).

**ТЭМПЕРА́МЕНТ** (*лац.* temperamentum = суразмернасць, належныя суадносіны частак) — 1) сукупнасць псіхічных рыс асобы, якія залежаць ад фізіялагічных асаблівасцей арганізма і складаюць пэўны псіхалагічны тып (напр. флегматычны т., халерычны т.); 2) жыццёвая энергія, здольнасць да ўнутранага ўздыму, страснасць (напр. чалавек з тэмпераментам).

**ТЭ́НАР** (*іт.* tenore) — 1) самы высокі мужчынскі голас, а таксама спявак з такім голасам; 2) духавы музычны інструмент, які ўваходзіць у склад духавых аркестраў.

**ТЭНДЭ́НЦЫЯ** (*с.-лац.* tendentia, ад *лац.* tendere = накіроўваць, імкнуцца) — 1) напрамак развіцця чаго-н. (грамадства, эканомікі, культуры і інш.), імкненне, свядомы намер (напр. т. да прагрэсу, дэмакратычныя тэндэнцыі); 2) асноўная думка, ідэя, накіраванасць мастацкага, навуковага твора (напр. т. рамана); 3) прадузятая думка, якую імкнуцца навязаць чытачу, гледачу, слухачу (напр. п'еса з тэндэнцыяй).

**ТЭ́НДЭР** (*англ.* tender) — форма выдачы заказаў на пастаўку тавараў або падрадаў на выкананне пэўных работ на падставе прапаноў некалькіх пастаўшчыкоў або падрадчыкаў з мэтай забеспячэння найбольш выгадных камерцыйных або іншых умоў здзелкі для арганізатараў гандлю.

**ТЭ́НІС** (*англ.* tennis) — спартыўная гульня ў мячык, які перакідваецца ўдарамі ракетак ад аднаго гульца да другога праз нізкую сетку, што раздзяляе *корт*.

**ТЭО́РЫЯ** (*гр.* theoria = разгляд, даследаванне) — 1) сістэма навуковых поглядаў, ідэй, якія абагульняюць практычны вопыт і адлюстроўваюць заканамернасці прыроды, грамадства; 2) сукупнасць палажэнняў якой-н. галіны ведаў (напр. т. ваеннай навукі, т. шахматнай гульні); 3) уласныя меркаванні, погляды на што-н. (напр. мець сваю тэорыю).

**ТЭРАПІ́Я** (*гр.* therapeia = лячэнне) — 1) раздзел медыцыны, які вывучае ўнутраныя хваробы, іх прафілактыку і лячэнне; 2) лячэнне ўнутраных хвароб лекавымі сродкамі і іншымі нехірургічнымі спосабамі.

**ТЭРАРЫ́ЗМ** (*фр.* terrorisme, ад *лац.* terror = страх, жах) — палітыка і практыка *тэрору* 1.

**ТЭРАРЫ́СТ** (*фр.* terroriste, ад *лац.* terror = страх, жах) — прыхільнік і ўдзельнік *тэрору* 1.

**ТЭ́РМІН** (*лац.* terminus = мяжа, граніца) — 1) пэўны прамежак часу, адведзены для чаго-н. (напр. двухмесячны т.); 2) вызначаная дата, да наступлення якой што-н. павінна адбыцца, закончыцца (напр. прыехаць у т.); 3) *лінгв.* слова, якое дакладна абазначае пэўнае паняцце якой-н галіны навукі, тэхнікі, мастацтва.

**ТЭРМІНА́Л** (*англ.* terminal, ад *лац.* terminalis = заключны, канчатковы) — 1) *інф.* устройства ў ЭВМ, прызначанае для ўводу інфармацыі і вываду яе пасля апрацоўкі; 2) частка порта, дзе апрацоўваюцца кантэйнерныя і пакетаваныя грузы.

**ТЭРО́Р** (*лац.* terror = страх, жах) — 1) гвалт, які даходзіць да фізічнага знішчэння праціўнікаў; 2) празмерная жорсткасць у адносінах да каго-н., запалохванне (напр. палітычны т.).

**ТЭРЫТО́РЫЯ** (*лац.* territorium, ад terra = зямля) — 1) зямельная прастора з пэўнымі межамі (напр. т. раёна, т. горада); 2) вобласць распаўсюджання якіх-н. з'яў (напр. моўная т.).

**ТЭСТ** (*англ.* test = выпрабаванне, даследаванне) — 1) стандартнае заданне для выяўлення разумовых здольнасцей, схільнасцей, валявых якасцей чалавека; 2) апытальнік для сацыялагічнага абследавання.

**ТЭТРАЛО́ГІЯ** (*гр.* tetralogia, ад tetra = чатыры + logos = слова) — чатыры творы аднаго аўтара (у літаратуры, музыцы, кіно), звязаныя адзінствам задумы і пераемнасцю сюжэта (параўн. *дылогія, трылогія*).

**ТЭХНАКРА́Т** (ад *гр.* techne = майстэрства + kratos = улада) — прадстаўнік *тэхнакратыі.*

**ТЭХНАКРА́ТЫЯ** (ад *гр.* techne = майстэрства + kratos = улада) — напрамак у грамадскай думцы, які лічыць, што грамадства можа рэгулявацца рацыянальнымі прынцыпамі, што выпрацавалі вучоныя, інжынеры, тэхнікі (*тэхнакраты*).

**ТЭХНАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* techne = майстэрства + logos = навука, вучэнне) — 1) сукупнасць метадаў апрацоўкі матэрыялаў у працэсе вытворчасці і іх навуковае апісанне (напр. т. зваркі); 2) *перан.* сукупнасць прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца ў якой-н. справе, майстэрстве (напр. т. творчасці).

**ТЭХНАПО́ЛІС** (ад *гр.* techne = майстэрства + polis = горад) — буйны прамысловы, навуковы цэнтр, горад.

**ТЭХНАТРО́НІКА** (*англ.* technotronic) — тэхніка з выкарыстаннем электронікі, якая ўплывае на развіццё грамадства.

**ТЭХНАФО́БІЯ** (ад *гр.* techne = майстэрства + phobos = = страх) — непрыняцце, боязь тэхнічных устройстваў, электроннага абсталявання.

**ТЭ́ХНІКА** (*гр.* technikos = дасведчаны, майстэрскі) — 1) сукупнасць сродкаў, якія ствараюцца для ажыццяўлення працэсаў вытворчасці і абслугоўвання невытворчых патрэб грамадства (напр. будаўнічая т., ваенная т.); 2) сукупнасць прыёмаў у якой-н. галіне дзейнасці, а таксама валоданне гэтымі прыёмамі (напр. музычная т., спартыўная т.).

# У

**УЗУРПА́ТАР** (*лац.* usurpator) — асоба, якая незаконна захапіла ўладу або прысвоіла чужыя правы на што-н.

**ЎЗУС** (*лац.* usus) — тое, што прынята, што стала звычайным; звычка.

**УІК-Э́НД** (*англ.* week-end, ад week = тыдзень + end = канец) — час адпачынку і забаў ад суботы да панядзелка; загарадная паездка з мэтай адпачынку ў гэты час.

**УЛЬТЫМА́ТУМ** (*с.-лац.* ultimatum, ад *лац.* ultimus = самы апошні) — катэгарычнае патрабаванне чаго-н. з пагрозай прымянення мер уздзеяння ў выпадку адмовы (напр. заявіць у.).

**ЎЛЬТРА** (*фр.* ultra, ад *лац.* ultra = больш, звыш) — член крайне радыкальных палітычных арганізацый у некаторых краінах.

**УНІВЕРСА́Л** (*лац.* universalis = усеагульны) — чалавек, які валодае разнастайнымі спецыяльнасцямі ў межах сваёй прафесіі.

**УНІВЕРСА́ЛЬНЫ** (*лац.* universalis) — 1) рознабаковы, усеабдымны (напр. у-ыя здольнасці, у. спецыяліст); 2) прыгодны для многіх мэт, з разнастайным прызначэннем (напр. у. станок, у. магазін).

**УНІКА́ЛЬНЫ** (ад *лац.* unicus = адзіны ў сваім родзе) — вельмі рэдкі, адзіны ў сваім родзе, выключны (напр. у. рукапіс, у-ае збудаванне).

**ЎНІКУМ** (*лац.* unicum = адзінае ў сваім родзе, незвычайнае) — 1) вельмі рэдкі прадмет, вялікая рэдкасць; 2) *перан.* выключная ў якіх-н. адносінах асоба.

**УНІСО́Н** (*іт.* unisono, ад *лац.* unus = адзін + sonus = гук) — 1) *муз.* сугучча з двух або некалькіх гукаў аднолькавай вышыні (напр. спяваць ва ў.); 2) *перан.* зладжанасць якіх-н. учынкаў (напр. дзейнічаць ва ў.).

**УНІТА́РНЫ** (*фр.* unitaire, ад *лац.* unitas = адзінства) — аб'яднаны, адзіны, які ўтварае адно цэлае (напр. у-ая дзяржава).

**УНІФІКА́ЦЫЯ** (*ням.* Unifikation, ад *лац.* unus = адзін + facere = рабіць) — звядзенне чаго-н. да адзінай формы, да адзінай нормы (напр. у. арфаграфіі).

**УНІФО́РМА** (*фр.* uniforme, ад *лац.* unus = адзін + forma = = форма) — форменнае адзенне, аднолькавае для ўсіх людзей якой-н. групы.

**У́НІЯ** (*лац.* unio = аб'яднанне, адзінства) — 1) аб'яднанне дзвюх дзяржаў пад уладай аднаго манарха; 2) аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай царквы пад уладай папы рымскага; 3) назва розных адміністрацыйных міжнародных саюзаў.

**УНІЯНІ́ЗМ** (*фр.* unionisme, ад *лац.* unio = аб'яднанне, адзінства) — імкненне да аб'яднання, зліцця (напр. палітычны у.); процiл. ***сепаратызм***.

**УРБАНІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* urbanisation, ад *лац.* urbanus = гарадскі) — 1) працэс канцэнтрацыі насельніцтва і эканамічнага жыцця ў буйных гарадах; 2) распаўсюджанне гарадскога спосабу жыцця ў сельскай мясцовасці.

**УРБАНІ́ЗМ** (*фр.* urbanisme, ад *лац.* urbanus = гарадскі) — 1) напрамак у літаратуры і мастацтве, аб'ектам якога з'яўляецца паказ гарадскога жыцця; 2) напрамак у архітэктуры, паводле якога гарады павінны развівацца без тэрытарыяльных абмежаванняў і шчыльна забудоўвацца вялікімі будынкамі.

**УТО́ПІЯ** (*англ.* utopia, ад *гр.* u = не + topos = месца) — 1) пазбаўленае навуковага абгрунтавання вучэнне аб ідэальным грамадскім ладзе, а таксама літаратурны твор з паказам ідэальнага грамадскага ладу будучага; 2) нерэальны, неажыццявімы на практыцы план; фантазія, мара, якая не можа быць здзейснена.

**УТРЫ́РАВАЦЬ** (*фр.* outrer) — падаваць у перабольшаным выглядзе, скажаць з'яву залішнім падкрэсліваннем аднаго якога-н. боку, рысы.

**УТЫЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* utilisation, ад *лац.* utilis = карысны) — выкарыстанне чаго-н. з карысцю, напр. адходаў у якасці сыравіны, паліва, угнаення і інш.

**УТЫЛІ́ТА** (*англ.* utility) — сэрвісная праграма, якая аблягчае карыстанне іншымі праграмамі, працу з *камп'ютэрам*.

**УТЫЛІТА́РНЫ** (*фр.* utilitaire, ад *лац.* utilitas = карысць) — 1) прасякнуты імкненнем да матэрыяльнай выгады, карысці (напр. у. падыход да справы); 2) прыкладны, вузкапрактычны (напр. у-ыя веды).

**УТЫЛІТАРЫ́ЗМ** (*фр.* utilitarisme, ад *лац.* utilitas = карысць) — 1) напрамак у *этыцы*, які лічыць карысць асновай маральнасці і крытэрыем чалавечых паводзін; 2) *перан.* імкненне з усяго мець выгаду, карысць; дробязны практыцызм.

**УТЫЛІТАРЫ́СТ** (*фр.* utilitariste, ад *лац.* utilitas = карысць) — 1) паслядоўнік *утылітарызму* 1; 2) чалавек, які імкнецца з усяго мець выгаду, карысць, расцэньвае ўсё з вузкапрактычнага пункту гледжання.

**УТЫ́ЛЬ** (*лац.* utilis = карысны) — рэчы, якія ўжо не прыгодны для карыстання, але могуць быць сыравінай для вырабу іншых рэчаў (металалом, папера, анучы і інш.).

**УФАЛО́ГІЯ** [*англ.* ugology, ад UFO < U(nknown) F(lying) O(bject) = непазнаны лятаючы аб'ект + *гр.* logos = навука] — збор, сістэматызацыя матэрыялаў аб неапазнаных лятаючых аб'ектах.

**УШЎ** (*кіт.* wushu) — традыцыйная кітайская аздараўленчая і спартыўная гімнастыка.

# Ф

**ФА́БРЫКА** (*лац.* fabrica = майстэрня) — 1) прамысловае прадпрыемства, заснаванае на прымяненні сістэмы машын (напр. абутковая ф., швейная ф.); 2) *перан.* месца, дзе што-н. ствараецца ў вялікай колькасці (напр. ф. хлусні).

**ФАБРЫКАВА́ЦЬ** (*лац.* fabricare) — 1) *уст.* рабіць што-н. фабрычным спосабам; 2) ствараць што-н. дрэнна і ў вялікай колькасці (напр. ф. вершы); 3) *перан.* рабіць і распаўсюджваць што-н. ілжывае, фальшывае (напр. ф. плёткі).

**ФАВАРЫ́Т** (*іт.* favorito, ад *лац.* favor = прыхільнасць) — 1) любімец уплывовай асобы, які карыстаецца яе заступніцтвам; любімец наогул; 2) конь, коннік або каманда ў скачках, што мае найбольшыя шансы на першынство.

**ФАВО́Р** (*лац.* favor = прыхільнасць) — прыхільныя адносіны, заступніцтва ўплывовай асобы.

**ФАЁ** (*фр.* foyer = *літар.* ачаг) — памяшканне ў тэатры, кіно, філармоніі для адпачынку гледачоў перад пачаткам спектакля, фільма, канцэрта або ў час антракта.

**ФА́ЗА** (*гр.* phasis = з'яўленне) — 1) момант, асобная стадыя ў развіцці якой-н. з'явы або працэсу ў прыродзе ці грамадстве, у змене формы ці стану чаго-н. (напр. ф. цвіцення расліны, другая ф. месяца); 2) *фіз.* велічыня, якая характарызуе стан вагальнага працэсу ў кожны момант часу (напр. газападобная ф. рэчыва); 3) адзін з электрычных ланцугоў у мнагафазавай сістэме пераменнага току.

**ФАЗЭ́НДА** (*парт.* fazenda) — 1) буйны маёнтак у Бразіліі; 2) *перан., жарт.* загарадны ўчастак, дача.

**ФАЙЛ** (*англ.* file) — *інф.* пайменаванае месца памяці *камп'ютэра*, у якім захоўваюцца праграмы і дадзеныя (напр. запісаць імя файла, загрузіць ф.).

**ФАКІ́Р** (*ар.* faqir = жабрак) — 1) мусульманскі вандроўны манах, які займаецца жабраваннем (параўн. *дэрвіш*); 2) вандроўны фокуснік.

**ФАКС** (*лац.* fac simile = рабі падобнае) — 1) сістэма тэлеграфнай факсімільнай сувязі для перадачы графічнай інфармацыі (напр. перадаць паведамленне па факсу); 2) апарат, які перадае або прымае такую інфармацыю (напр. уключыць ф.); 3) паведамленне, перададзенае або прынятае гэтым апаратам (напр. атрымаць ф.).

**ФАКСІ́МІЛЕ** (*лац.* fac simile = рабі падобнае) — дакладная копія рукапісу, дакумента, малюнка, чыйго-н. подпісу пры дапамозе фотамеханічнай рэпрадукцыі.

**ФАКТ** (*лац.* factum = зробленае) — 1) сапраўдны, нявыдуманы выпадак, з'ява, здарэнне; 2) рэальнасць, рэчаіснасць, наяўнасць чаго-н.

**ФА́КТАР** (*лац.* factor = які робіць, ствараe) — рухальная сіла, прычына якога-н. працэсу, якая вызначае яго характар або асобныя рысы (напр. ф. нечаканасці, ф. часу).

**ФАКТО́РЫНГ** (*англ.* factoring) — разнавіднасць пасрэдніцкай дзейнасці, пры якой кампанія-пасрэднік за пэўную плату атрымлівае ад прадпрыемства права сыскаць ад пакупнікоў і залічыць на свой рахунак належную яму суму грошай.

**ФАКТУ́РА** (*лац.* factura = апрацоўка, будова) — 1) характар апрацоўкі, які вызначае знешні выгляд тканіны, скуры і іншых матэрыялаў (напр. ф. мармуру, ф. шкла); 2) своеасаблівасць мастацкай тэхнікі ў творах мастацтва (напр. ф. верша, ф. жывапісу); 3) *кам.* рахунак з вопісам адпраўленага тавару.

**ФАКУЛЬТАТЫЎНЫ** (*лац.* facultativus = магчымы) — неабавязковы, дадатковы (напр. ф. курс лекцый).

**ФАКУЛЬТЭТ** (*ням.* Fakultät, ад *лац.* facultas, -atis = здольнасць, магчымасць) — аддзяленне вышэйшай навучальнай установы, дзе выкладаецца курс навуковых дысцыплін па пэўнай спецыяльнасці.

**ФАЛІЯНТ** (*ням.* Foliant, ад *лац.* folium = ліст) — 1) кніга фарматам у палавіну папяровага аркуша; 2) тоўстая кніга вялікага фармату.

**ФАЛЬСІФІКАЦЫЯ** (*с.-лац.* falsification, ад *лац.* falsificare = падрабляць) — 1) падробліванне, скажэнне, падмена чаго-н. з мэтай выдаць за сапраўднае (напр. ф. дакументаў); 2) падробленая рэч, якая выдаецца за сапраўдную; падробка.

**ФАЛЬСТАРТ** (*англ.* false start = няправільны старт) — *сп.* старт, узяты кім-н. з удзельнікаў спаборніцтва раней, чым патрэбна.

**ФАЛЬШ** (*польск.* falsz < *ням.* Falsch, ад *лац.* falsus = памылковы) — 1) абман, няпраўда, хлусня; няшчырасць, крывадушнасць; 2) недакладна ўзятая (выкананая) нота ў спевах, падчас ігры на музычным інструменце.

**ФАМІЛЬЯРНЫ** (*лац.* familliaris = сямейны, дамашні) — бесцырымонны, развязны (аб чалавеку, яго паводзінах).

**ФАНАБЭРЫЯ** (*польск.* fanaberia, ад *яўр.-ням.* faine = тонкі, зграбны + berie = чалавек) — пыхлівасць, зазнайства, ганарыстасць (напр. фанабэрыі хоць адбаўляй).

**ФАНАТ** (ад *лац.* fanaticus = раз'юшаны; непрытомны) — 1) апантаны балельшчык, прыхільнік якога-н. спартсмена, спартыўнай каманды, артыста і г. д.; 2) тое, што і *фанатык* 2.

**ФАНАТЫЗМ** (*фр.* fanatisme, ад *лац.* fanaticus = раз'юшаны; непрытомны) — сляпая адданасць сваім вераванням або перакананням, злучаная з крайняй нецярпімасцю да чужых поглядаў і імкненняў.

**ФАНАТЫК** (*лац.* fanaticus = раз'юшаны; непрытомны) — 1) чалавек, які вызначаецца апантанай рэлігійнасцю, крайняй нецярпімасцю да іншых вераванняў; 2) чалавек, які страсна аддаецца якой-н. справе, поглядам, ідэям.

**ФАНК** (*англ.* funk) — стыль джазавай музыкі, спалучэнне *блюза* і *рэпа* з падкрэсленым рытмічным малюнкам.

**ФАНТАСМАГО́РЫЯ** (ад *гр.* phantasma = прывід + agoreuo = = гавару) — прывіды, вычварныя фантастычныя малюнкі, што бачацца чалавеку ў хваравітым стане.

**ФАНТА́СТЫКА** (*гр.* phantastike = уяўляць) — 1) штосьці неверагоднае, нерэальнае, заснаванае на творчым уяўленні, на фантазіі; 2) літаратурныя творы, у якіх апісваюцца выдуманыя, не існуючыя ў рэчаіснасці падзеі.

**ФАНТО́М** (*фр.* fantôme, ад *гр.* phantasma = прывід) — прывід, здань.

**ФАНФАРО́Н** (*фр.* fanfaron < *ісп.* fanfarron, ад *ар.* farfar = = легкаважны) — хвалько, выхваляка.

**ФАРВА́ТЭР** (*гал.* vaarwater, ад vaar = чысты + water = вада) — 1) водны шлях для бяспечнага праходу суднаў, звычайна вызначаны сігнальнымі знакамі (бакенамі, вехамі, буямі); 2) *перан.* сфера якога-н. уплыву, асноўная лінія, кірунак дзейнасці, творчасці.

**ФАРМАЛІ́ЗМ** (*фр.* formalisme, ад *лац.* formalis = які датычыцца формы) — 1) фармальнае стаўленне да чаго-н. на шкоду справе (напр. ф. у кіраўніцтве); 2) напрамак у эстэтыцы, мастацтве, літаратуры, філасофіі, які надае асноўнае значэнне форме, яе знешняму выражэнню.

**ФАРМАЛІ́СТ** (*фр.* formaliste, ад *лац.* formalis = які датычыцца формы) — 1) той, хто фармальна ставіцца да чаго-н. са шкодай для справы; 2) паслядоўнік *фармалізму* 2.

**ФАРМА́ЛЬНЫ** (*лац.* formalis) — 1) звязаны з формай, уласцівы форме (напр. ф-ае значэнне слоў); 2) афіцыйны, законны, зроблены па форме (напр. ф-ае абвінавачанне); 3) зроблены для прыліку, такі, дзе захавана толькі знешняя форма (напр. ф. падыход да справы).

**ФАРМА́Т** (*фр.* format, ад *лац.* formatus = сфармаваны) — памер (вышыня і даўжыня) кнігі, папяровага аркуша, карткі і г. д.

**ФАРМА́ЦЫЯ** (*лац.* formatio = утварэнне, від) — 1) пэўная стадыя ў развіцці грамадства, а таксама структура грамадства на гэтай стадыі з уласцівым толькі ёй спосабам вытворчасці; 2) сістэма поглядаў, унутраны склад (напр. чалавек новай фармацыі); 3) *геал.* комплекс генетычна звязаных горных парод аднаго часу і спосабу ўтварэння.

**ФАРМАЦЭ́ЎТ** (*гр.* pharmakeutes = які робіць лякарства) — аптэчны работнік з вышэйшай або сярэдняй фармацэўтычнай (гл. *фармацэўтыка*) адукацыяй.

**ФАРМАЦЭЎТЫКА** (*гр.* pharmakeutike) — комплекс дысцыплін, якія вывучаюць пытанні здабычы, апрацоўкі, вырабу, захоўвання і водпуску лекавых сродкаў.

**ФАРМІРАВАЦЬ** (*ням.* formieren, ад *лац.* formare) — 1) арганізоўваць, ствараць, састаўляць (напр. ф. дывізію, ф. урад, ф. таварны састаў); 2) выпрацоўваць у каго-н. адпаведныя рысы характару, светапогляд і інш.

**ФАРМУЛЯВАЦЬ** (*польск.* formulować, ад *лац.* formula = = форма, правіла, палажэнне) — каратка і дакладна выражаць якую-н. думку, рашэнне (напр. ф. вынікі назіранняў).

**ФАРМУЛЯР** (*ням.* Formular, ад *лац.* formula = форма, правіла, палажэнне) — 1) асобная кніга або бланк, куды заносяцца асноўныя звесткі аб стане, эксплуатацыі якога-н. механізма, збудавання; 2) бібліятэчная ўліковая картка.

**ФАРПОСТ** (*ням.* Vorposten) — 1) вартавы пост, які выстаўляецца наперадзе войск, калі яны знаходзяцца недалёка ад праціўніка; 2) *перан.* перадавы пункт, апора чаго-н. (напр. ф. навукі).

**ФАРС** (*фр.* farce, ад *лац.* farsus = набіты) — 1) лёгкая камедыя-вадэвіль з чыста знешнімі жартаўлівымі прыёмамі; 2) *перан.* грубы, цынічны жарт; 3) *перан.* ганебнае відовішча (напр. судовы ф.).

**ФАРСІРАВАЦЬ** (*фр.* forcer) — 1) узмацняць, паскараць што-н. (напр. ф. развіццё прамысловасці); 2) *ваен.* пераадольваць водную перашкоду пад агнём праціўніка.

**ФАРТУНА** (*лац.* fortuna, ад Fortuna = імя багіні шчасця, лёсу, удачы ў старажытнарымскай міфалогіі) — лёс, удача, шчаслівы выпадак (напр. кола фартуны).

**ФАРФЕЙТЫНГ** (*англ.* forfeiting) — прадастаўленне банкам у часовае карыстанне часткі ўласнага або прыцягненага капіталу.

**ФАРЦОЎШЧЫК** (ад *англ.* for saite = для продажу) — той, хто займаецца купляй або абменам валюты і рэчаў у іншаземцаў і спекуляцыяй імі.

**ФАРШМАК** (*ням.* Vorschmack) — страва са здробленага селядца ці мяса, запечаных з бульбай, цыбуляй.

**ФАРЫСЕЙ** (*гр.* pharisaios, ад *ст.-яўр.* paruchim = адшчапенец) — 1) член рэлігійна-палітычнай секты ў Старажытнай Іудзеі, што абараняла інтарэсы заможных слаёў на-

сельніцтва і вызначалася фанатызмам і крывадушнасцю; 2) *перан.* ханжа, крывадушнік.

**ФАС** (*фр.* face, ад *лац.* facies = твар) — выгляд спераду, з твару (напр. фатаграфавацца ў фас).

**ФАСАВА́ЦЬ** (*польск.* fasować, ад *ням.* fassen) — раскладваць, разважваць тавар на пэўныя часткі і запакоўваць іх, рыхтуючы да продажу.

**ФАСА́Д** (*фр.* façade, ад *іт.* facciata) — *архіт.* пярэдняя частка будынка, што выходзіць на вуліцу.

**ФАСІЛІТА́ТАР** (ад *англ.* facilitate = садзейнічаць) — чалавек, які садзейнічае правядзенню семінараў, круглых сталоў і інш.

**ФАСО́Н** (*фр.* façon) — 1) крой, мадэль, форма якога-н. адзення, абутку (напр. сукенка новага фасону); 2) *перан.* пэўны спосаб, манера (напр. трымаць ф.).

**ФАСТ-ФУ́Д** (*англ.* fast food) — сістэма хуткага харчавання.

**ФАСФА́ТЫ** (*фр.* phosphate, ад *гр.* phos = святло) — солі фосфарнай кіслаты, якія выкарыстоўваюцца як угнаенне, а таксама ў тэхніцы і медыцыне.

**ФАТ** (*фр.* fat, ад *лац.* fatuus = дурны) — самазадаволены *франт*, пусты, пошлы чалавек.

**ФАТАЛІ́ЗМ** (*фр.* fatalisme, ад *лац.* fatalis = наканаваны) — вера ў непазбежнасць лёсу, у тое, што ўсё прадвызначана нейкай таямнічай сілай.

**ФАТАЛІ́СТ** (*фр.* fataliste, ад *лац.* fatalis = наканаваны) — чалавек, які верыць у непазбежнасць лёсу.

**ФАТА́ЛЬНЫ** (*лац.* fatalis) — непазбежны, наканаваны лёсам (напр. ф. збег акалічнасцей).

**ФА́УНА** (*н.-лац.* fauna, ад *лац.* Fauna = імя багіні палёў і лясоў, апякункі статкаў у старажытнарымскай міфалогіі) — сукупнасць усіх відаў жывёл якой-н. мясцовасці або геалагічнага перыяду (параўн. *флора*).

**ФАШЫ́ЗМ** (*іт.* fascismo, ад *лац.* fascis = вязка прутоў, пучок) — ідэалагічная форма адкрытай ваяўнічай тэрарыстычнай дыктатуры, якая ажыццяўляе палітыку шавінізму, расізму, агрэсіі.

**ФЕДЭРА́ЦЫЯ** (*фр.* fédération, ад *лац.* foederato = саюз, аб'яднанне) — 1) форма дзяржаўнага ўладкавання, пры якой некалькі дзяржаўных утварэнняў, якія валодаюць пэўнай

юрыдычнай і палітычнай самастойнасцю, утвараюць адну саюзную дзяржаву, а таксама сама дзяржава, арганізаваная на такіх пачатках; 2) саюз свабодных таварыстваў, арганізацый (напр. шахматная ф.).

**ФЕЕРВЕ́РК** (*ням.* Feuerwerk, ад Feuer = агонь + Werk = работа) — 1) каляровыя агні, рознакаляровыя асвятляльныя ракеты, якія запускаюцца ў час свят, урачыстасцей; 2) *перан.* імклівы паток чаго-н. (напр. ф. слоў).

**ФЕЕ́РЫЯ** (*фр.* féerie, ад fée, = фея, чараўніца) — 1) тэатральны спектакль або цыркавое прадстаўленне з казачным сюжэтам і выкарыстаннем розных сцэнічных эфектаў; 2) *перан.* чароўнае, казачнае відовішча.

**ФЕЛЬЕТО́Н** (*фр.* feuilleton, ад feuille = ліст, аркуш) — кароткі газетны або часопісны артыкул гумарыстычнага ці сатырычнага зместу на надзённую тэму.

**ФЕМІ́ДА** (*гр.* Themis, -idos = імя багіні правасуддзя ў старажытнарымскай міфалогіі) — *перан.* правасуддзе.

**ФЕМІНІ́ЗМ** (*фр.* féminisme, ад *лац.* femina = жанчына) — грамадскі рух за ўраўноўванне ў правах жанчын з мужчынамі.

**ФЕМІНІ́СТ** (*фр.* féministe, ад *лац.* femina = жанчына) — прыхільнік *фемінізму.*

**ФЕНАМЕНА́ЛЬНЫ** (*фр.* phénoménal, ад *гр.* phainomenon = = якое з'яўляецца) — выключны, незвычайны, выдатны па сваіх якасцях (напр. ф-ыя здольнасці)

**ФЕНО́МЕН** (*фр.* phénomène, ад *гр.* phainomenon = тое, што з'яўляецца) — 1) выключная, рэдкая, незвычайная з'ява (напр. ф. прыроды); 2) выключны ў якіх-н. адносінах чалавек (напр. ён сапраўдны ф. розуму).

**ФЕ́РМА[1]** (*англ.* farm) — 1) прыватнае сельскагаспадарчае прадпрыемства на ўласнай або арандаванай зямлі; 2) дзяржаўнае або кааператыўнае прадпрыемства, занятае жывёлагадоўляй (напр. малочная ф.).

**ФЕ́РМА[2]** (*фр.* ferme) — канструкцыя са злучаных паміж сабой металічных, жалезабетонных ці драўляных брусоў (напр. ф. маста).

**ФЕРМЕ́НТЫ** (*лац.* fermentum = закваска) — арганічныя бялковыя рэчывы, якія выпрацоўваюцца ў жывых клетках і рэгулююць абмен рэчываў у арганізме.

**ФЕ́РМЕР** (*англ.* farmer) — уладальнік або арандатар *фермы*[1] 1.

**ФЕСТЫВА́ЛЬ** (*фр.* festival, ад *лац.* festivus = святочны) — масавае свята з паказам лепшых твораў музычнага, тэатральнага, эстраднага, цыркавога або іншага віду мастацтва (напр. ф. мастацкіх фільмаў).

**ФЕТЫ́Ш** (*фр.* fétiche, ад *парт.* feitiço = чары) — 1) прадмет, які, паводле ўяўленняў вернікаў, надзелены звышнатуральнай сілай і служыць аб'ектам рэлігійнага культу; 2) *перан.* аб'ект сляпога пакланення.

**ФЕТЫШЫ́ЗМ** (*фр.* fétichisme, ад *парт.* feitiço = чары) — 1) рэлігійнае пакланенне матэрыяльным прадметам (*фетышам*); 2) *перан.* сляпое пакланенне чаму-н.

**ФЕХТАВА́ЦЬ** (*ням.* fechten) — займацца адзінаборствам на шпагах, рапірах і інш.

**ФЕШЭНЕ́БЕЛЬНЫ** (*англ.* fashionable, ад fashion = фасон, мода) — элегантны, вытанчана-прыгожы, які адпавядае патрабаванням высокага густу і моды (напр. ф-ая гасцініца).

**ФЕ́Я** (*фр.* fée, ад *лац.* fatum = лёс) — 1) істота жаночага полу, здольная рабіць цуды, чараўніца ў заходнееўрапейскай міфалогіі; 2) *перан.* чароўная жанчына.

**ФІГЛЯ́Р** (*польск.* figlarz = жартаўнік) — 1) *уст.* фокуснік, штукар, акрабат; 2) *перан.* штукар, крыўляка.

**ФІГУ́РА** (*лац.* figura = вобраз, выгляд) — 1) форма, абрысы чаго-н.; 2) знешнія абрысы чалавечага цела (напр. стройная ф.); 3) *перан.* чалавек як носьбіт якіх-н. уласцівасцей (напр. палітычная ф.); 4) *перан.* важная, значная асоба (напр. буйная ф. у навуцы); 5) становішча цела, прадмета (у танцы, пры палёце) (напр. ф. вальса, ф. вышэйшага пілатажу); 6) гральная фішка (напр. шахматная ф.); 7) *мат.* сукупнасць пунктаў на плоскасці або ў прасторы (напр. геаметрычная ф.); 8) моўны зварот, які надае мове асаблівую выразнасць (напр. стылістычная ф.).

**ФІГУРАВА́ЦЬ** (*лац.* figurare = рабіць выгляд, уяўляць) — 1) прысутнічаць, знаходзіцца дзе-н., прымаючы ў чым-н. удзел (напр. ф. на мітынгу); 2) называцца, упамінацца (напр. ф. у фельетоне).

**ФІГУРА́ЛЬНЫ** (ад *лац.* figura = вобраз, выгляд) — вобразны, іншасказальны (напр. ф. выраз).

**ФІГУРА́НТ** (*фр.* figurant, ад *лац.* figurans, -ntis = які прадстаўляе) — 1) танцоўшчык, які выступае ў *кардэбалеце*;

2) драматычны акцёр, які іграе ролі без слоў, статыст; 3) *перан.* крыўляка, пазёр.

**ФІЗІ́ЧНЫ** (*гр.* physikos) — 1) які мае адносіны да фізікі, уласцівы галіне з'яў, якімі займаецца фізіка (напр. ф-ыя законы, ф-ыя працэсы); 2) прызначаны для вывучэння фізікі (напр. ф-ая лабараторыя); 3) звязаны са станам чалавечага арганізма, працай мышцаў (напр. ф-ае выхаванне); 4) звязаны з уздзеяннем на цела, арганізм (напр. ф-ае пакаранне).

**ФІЗІЯНАМІ́СТ** (*фр.* physionomiste, ад *гр.* physis = прырода + gnomon = які ведае) — той, хто па мініцы твару ўмее распазнаваць унутраны стан чалавека.

**ФІЗІЯНО́МІЯ** (*фр.* physionomie, ад *гр.* physis = прырода + + gnomon = які ведае) — 1) твар чалавека, выраз твару, грымаса (напр. кіслая ф.); 2) *перан.* індывідуальны выгляд, адметныя рысы каго-н., чаго-н. (напр. ф. навакольных з'яў).

**ФІЗІЯТЭРАПІ́Я** (ад *гр.* physis = прырода + therapeia = лячэнне) — раздзел медыцыны, які вывучае ўздзеянне на арганізм розных фізічных фактараў, прыродных (вада, паветра, сонечнае святло і цеплыня) і штучных (электрычны ток, магнітнае поле), а таксама распрацоўвае метады лячэння хвароб фізічнымі сродкамі.

**ФІКСАВА́ЦЬ** (*фр.* fixer, ад *лац.* fixus = цвёрды, нязменны, моцны) — 1) адзначаць на паперы або замацоўваць у свядомасці (напр. ф. у памяці); 2) канчаткова ўстанаўліваць, замацоўваць, вызначаць (напр. ф. заработную плату, ф. тэрмін); 3) засяроджваць, накіроўваць (напр. ф. погляд на чым-н.); 4) замацоўваць у пэўным становішчы (напр. ф. рэйку); 5) апрацоўваць фіксажам праяўлены адбітак на негатыве або пазітыве (напр. ф. фотаплёнку).

**ФІКТЫ́ЎНЫ** (*фр.* fictif, ад *лац.* fictio = выдумка) — выдуманы, несапраўдны; падроблены, фальшывы (напр. ф. шлюб, ф-ыя дакументы).

**ФІ́КЦЫЯ** (*лац.* fictio) — нешта несапраўднае, наўмысна выдуманае з пэўнымі мэтамі.

**ФІЛАЛО́ГІЯ** (*гр.* philologia, ад phileo = люблю + logos = слова) — сукупнасць навук, якія вывучаюць мову і літаратуру якога-н. народа або групы народаў (напр. класічная ф., славянская ф., беларуская ф.).

**ФІЛАНТРО́П** (*гр.* philanthropos, ад phileo = люблю + anthropos = чалавек) — той, хто займаецца *філантропіяй*, дабрачынец.

**ФІЛАНТРО́ПІЯ** (*гр.* philanthropia, ад phileo = люблю + anthropos = чалавек) — дапамога бедным, дабрачыннасць.

**ФІЛАРМО́НІЯ** (*фр.* philharmonie, ад *гр.* phileo = люблю + + harmonia = гармонія) — установа, якая займаецца арганізацыяй канцэртаў і прапагандай музычнай культуры, а таксама будынак, дзе яна размяшчаецца.

**ФІЛАСО́ФІЯ** (*гр.* philosophia, ад phileo = люблю + sophia = = мудрасць) — 1) навука аб найбольш агульных законах развіцця прыроды, грамадства і мыслення; 2) метадалагічныя прынцыпы якой-н. навукі (напр. ф. права, ф. мовазнаўства); 3) *перан.* абстрактныя разважанні (напр. разводзіць філасофію).

**ФІЛАТЭЛІ́Я** (*фр.* philatélie, ад *гр.* phileo = люблю + ateleia = = вызваленне ад аплаты) — калекцыяніраванне і вывучэнне паштовых і гербавых марак, канвертаў і паштовак з маркамі і штэмпелямі.

**ФІЛАФАНІ́Я** (ад *гр.* phileo = люблю + phone = гук) — калекцыяніраванне гукавых, у асноўным музычных запісаў.

**ФІЛІ́СТЭР** (*ням.* Philister) — чалавек з абывацельскім, мяшчанскім кругаглядам і ханжаскімі паводзінамі.

**ФІЛІЯ́Л** (*ням.* Filial, ад *лац.* filialis = сыноўні) — самастойнае аддзяленне буйной установы ці арганізацыі (напр. ф. музея, ф. трэста).

**ФІЛЬМАТА́ЙП** (ад *англ.* film = плёнка + type = адбітак) — фотанаборная машына з ручной устаноўкай шрыфтавога шаблону і фотаматэрыялу.

**ФІЛЬМПА́К** (*англ.* filmpack, ад film = плёнка + pack = пакет) — святлонепранікальная каробка з негатыўнай фотаплёнкай.

**ФІМІЯ́М** (*гр.* thymiama) — 1) духмянае рэчыва для курэння ў час рэлігійных абрадаў, а таксама пахучы дым, які ўзнікае пры гарэнні гэтага рэчыва; 2) *перан.* ліслівая ўзнёслая пахвала; *курыць фіміям* — празмерна ўсхваляць каго-н.

**ФІНА́Л** (*іт.* finale, ад *лац.* finalis = канечны, канцавы) — 1) заключная частка, завяршэнне чаго-н. (напр. ф. п'есы, ф. оперы); 2) заключная частка спартыўных спаборніцт-

ваў, у якой выяўляюцца пераможцы (напр. каманда выйшла ў ф.).

**ФІНА́НСЫ** (*фр.* finances, ад *с.-лац.* finantia = даход) — 1) грашовыя сродкі, якія маюцца ў распараджэнні дзяржавы, а таксама сістэма іх фарміравання і выкарыстання (напр. дзяржаўныя ф.); 2) *разм.* грошы, грашовыя справы (напр. з фінансамі цяжка).

**ФІ́НІШ** (*англ.* finish) — 1) заключная частка спартыўных спаборніцтваў на хуткасць (напр. ф. забегу на 1000 м); 2) канечны пункт спартыўнага бегу на хуткасць (напр. дасягнуць фінішу); 3) некаторая адлегласць на дыстанцыі перад канечным пунктам (напр. сабраць усе сілы на фінішы)

**ФІНТ** (*ням.* Finte, ад *іт.* finta = прытворства, выдумка) — 1) *сп.* падманны рух, фальшывы выпад; 2) *перан.* хітры выкрутас; *выкінуць фінт* — зрабіць што-н. хітрае, нечаканае.

**ФІ́РМА** (*іт.* firma) — 1) гандлёвае ці прамысловае прадпрыемства, вытворчае аб'яднанне (напр. замежная фірма); 2) *перан.* знешні выгляд, прыкрыцце чаго-н. (напр. пад фірмай добразычлівасці).

**ФІСКА́ЛЬНЫ** (*лац.* fiscalis = казённы) — які мае адносіны да дзяржаўнай казны (напр. ф-ыя органы).

**ФІТАДЫЗА́ЙН** (ад *гр.* phyton = расліна + *англ.* design = = дызайн) — *дызайн*, звязаны з выкарыстаннем раслін у якасці мастацка-эстэтычнага элемента.

**ФІТАДЫЗА́ЙНЕР** (ад *гр.* phyton = расліна + *англ.* designer = дызайнер) — спецыяліст па афармленню інтэр'ераў з дапамогай раслін (жывых і штучных).

**ФІТАТЭРАПІ́Я** (ад *гр.* phyton = расліна + therapeia = лячэнне) — лячэнне лекавымі раслінамі.

**ФІ́ТНЭС** (*англ.* fitness) — здаровы лад жыцця, прыметамі якога з'яўляюцца фізічная актыўнасць, збалансаванае харчаванне, адмаўленне ад курэння і алкаголю, дастатковы сон.

**ФІ́ШБУРГЕР** [*англ.* fishburger, ад fish = рыба + (ham)burger = гамбургер] — 1) разрэзаная напалам круглая булачка з начынкай з рыбы; 2) катлета з рыбнага фаршу з начынкай.

**ФІ́ШКА** (*фр.* fiche) — кружок або кубік, які служыць для падліку ачкоў у розных гульнях, перасоўвання па клетках і інш.

**ФІЯ́СКА** (*іт.* fiasco) — поўны правал, няўдача (напр. пацярпець ф.).

**ФЛА́ЕРС** (*англ.* flyers, ад fly = лятаць) — рэкламны лісток, які пры прад'яўленні дае права на памяншэнне платы за ўваход або на бясплатнае наведванне якога-н. мерапрыемства або ўстановы (выстаўкі, рэчавага рынку і г. д.).

**ФЛАМА́СТЭР** (*англ.* flowmaster, ад flow = цячы + master = = мастак) — карандаш, у якім пішучым элементам з'яўляецца порысты стрыжань, насычаны фарбавальнікам.

**ФЛЕГМА́ТЫК** (*гр.* phlegmatikos) — чалавек, які па сваім тэмпераменце характарызуецца марудлівасцю, спакоем, слабым праяўленнем пачуццяў.

**ФЛІРТ** (*англ.* flirt) — какецтва, лёгкае заляцанне.

**ФЛО́ПІ-ДЫСК** (*англ.* floppy disk) — тое, што і *дыскета*.

**ФЛО́РА** (*н.-лац.* flora, ад *лац.* Flora = імя багіні кветак і вясны ў старажытнарымскай міфалогіі) — сукупнасць усіх відаў раслін якой-н. мясцовасці або геалагічнага перыяду (параўн. *фауна*).

**ФЛЮІ́ДЫ** (*лац.* fluidus = цякучы) — 1) вадкі або газападобны кампанент магмы; 2) знешне незаўважныя токі, якія вылучаюцца кім-н. або чым-н. (напр. ф. дабра).

**ФЛЯ́ЕР** (*англ.* flayer = *літар.* які лятае) — конь, які дасягнуў на скачках найбольшай хуткасці на кароткіх дыстанцыях (параўн. *стаер* 2).

**ФО́КУС¹** (*лац.* focus = ачаг) — 1) пункт перасячэння адбітых або праломленых прамянёў, якія падаюць на аптычную сістэму паралельным пучком; 2) пункт, у якім прадмет, што фатаграфуецца або разглядаецца пры дапамозе аптычнага прыбора, мае найлепшую рэзкасць, выразнасць; 3) *перан.* цэнтр якіх-н. з'яў, уласцівасцей, падзей.

**ФО́КУС²** (*ням.* Hokuspokus) — 1) лоўкі прыём, заснаваны на падмане зроку, увагі пры дапамозе хуткага і ўмелага руху, спрыту (напр. картачны ф.); 2) *мн.* хітрыкі, выкрутасы; капрызы, прычуды (напр. выкідваць фокусы).

**ФОЛК-РО́К** (*англ.* folk-rock) — напрамак у *рок-музыцы*, заснаваны на апрацоўцы народных мелодый.

**ФОН**[1] (*фр.* fond, ад *лац.* fondus = аснова) — 1) асноўны колер карціны (напр. светлы ф.); 2) задні план карціны або таго, што мы бачым (напр. дом на фоне мора); 3) *перан.* агульныя ўмовы, абставіны, у якіх што-н. адбываецца (напр. агульны ф. падзей).

**ФОН**[2] (*гр.* phone = гук) — пабочны шум, трэск, якім часам суправаджаецца радыёперадача, дэманстрацыя кінафільма, тэлефонная размова і інш.

**ФОНД** (*фр.* fond, ад *лац.* fondus = аснова) — 1) рэсурсы, запасы, рэзервы чаго-н. (напр. зямельны ф., насенны ф., жыллёвы ф.); 2) грашовыя сродкі, прызначаныя для якой-н. мэты (напр. ф. заработнай платы, ф. матэрыяльнага заахвочвання).

**ФО́РА** (*іт.* fuora) — 1) выгук усхвалявання ў італьянскім тэатры, якім просяць паўтарыць нумар праграмы; 2) перавага, ільгота, якая даецца больш слабому ўдзельніку спаборніцтва; *даць фору* — пераўзысці, апярэдзіць каго-н. у чым-н.

**ФО́РВАРД** (*англ.* forward = *літар.* пярэдні) — гулец нападзення ў *футболе, хакеі* і некаторых іншых спартыўных гульнях.

**ФОРД** [*англ.* ford, ад H.Ford = прозвішча амерыканскага аўтамабільнага прамыслоўца (1863—1947)] — марка легкавых і грузавых аўтамабіляў, якія выпускаюць заводы амерыканскага канцэрна «Форд Моторс».

**ФО́РЗАЦ** (*ням.* Vorsatz) — *палігр.* падвойны ліст шчыльнай паперы, які злучае вокладку і кніжны блок.

**ФОРС** (*фр.* force = сіла, вага, значэнне) — самахвальства, франтаватасць, імкненне здзівіць прысутных раскошай, манерамі і інш.

**ФО́РСІНГ** (*англ.* forcing, ад force = нагнятаць) — фарсіраваны бой у боксе, які характарызуецца безупыннымі атакамі.

**ФО́РТЭЛЬ** (*польск.* fortel, ад *ням.* Vorteil) — выхадка, выбрык.

**ФО́РУМ** (*лац.* forum = плошча) — масавы прадстаўнічы сход, з'езд (напр. ф. вучоных).

**ФОТАГЕНІ́ЧНЫ** (ад *гр.* phos, -otos = святло + genos = род, паходжанне) — які мае выразныя рысы, што добра перадаюцца на фотаздымку, кінаплёнцы (напр. ф. твар).

**ФРАГМЕ́НТ** (*лац.* fragmentum = абломак, кавалак) — частка твора мастацтва (карціны, скульптуры), урывак тэксту, музычнага твора (напр. ф. антычнай скульптуры, ф. рамана, ф. балета).

**ФРА́ЕР** (*ням.* Freier = жаніх) — *разм.* франтаваты, пусты чалавек.

**ФРА́ЗА** (*гр.* phrasis = выраз, моўны зварот) — 1) інтанацыйна аформленае спалучэнне слоў, якое выражае думку (напр. вымавіць фразу); 2) *перан.* напышлівы, беззместоўны выраз (напр. пустая ф.); 3) *муз.* невялікая і адносна закончаная частка мелодыі (напр. музычная ф.).

**ФРАЗЁР** (*фр.* phraseur, ад *гр.* phrasis = гаварыць) — чалавек, які любіць гаварыць напышлівыя, але беззместоўныя фразы; балбатун, пустаслоў.

**ФРА́КЦЫЯ** (*фр.* fraction, ад *лац.* fractio = разломванне) — 1) група членаў якой-н. партыі ў парламенце, грамадскай арганізацыі або адасобленая групоўка ўнутры палітычнай партыі; 2) частка сыпкага або кускавога цвёрдага рэчыва, выдзеленага дробнай перагонкай з вадкасці, раствору (напр. ф. нафты).

**ФРАНДЗІ́РАВАЦЬ** (*фр.* fronder) — выражаць незадаволенасць з-за жадання супярэчыць.

**ФРАНТ** (*польск.* frant < *чэш.* frant, ад František = імя уласнае) — чалавек, які любіць модна апранацца; моднік.

**ФРАНТА́ЛЬНЫ** (*фр.* frontal, ад *лац.* frontalis) — 1) накіраваны ў бок фронта, лабавы (напр. ф-ая атака, ф. удар); 2) размешчаны ў пярэдняй частцы чаго-н. (напр. ф-ая сцяна); 3) звернуты тварам да гледача (у выяўленчым, тэатральным мастацтве); 3) *перан.* агульны, адначасовы для ўсіх.

**ФРАНЧА́ЙЗЕР** (*англ.* franchiser) — фірма, якая прадастаўляе *франчайзінг*.

**ФРАНЧА́ЙЗІНГ** (*англ.* franchising = прывілея) — прадастаўленне эканамічнага спрыяння, прывілей з боку якой-н. фірмы сваім кліентам, якія пачынаюць новую справу.

**ФРАПІ́РАВАЦЬ** (*фр.* frapper = *літар.* біць, ударацць) — непрыемна паражаць, здзіўляць.

**ФРЫ** (*фр.* frit = смажаны) — засмажаны ў вялікай колькасці тлушчу да ўтварэння румянай скарыначкі (напр. бульба фры, рыба фры).

**ФРЫВО́ЛЬНЫ** (*фр.* frivole, ад *лац.* frivolus = дурны, пусты) — легкадумны, блізкі да непрыстойнага (напр. ф-ыя размовы).

**ФРЫЗ** (*фр.* frise) — 1) *архіт.* сярэдняя частка *антаблемента* паміж *архітравам* і *карнізам* 1; 2) аблямовачная арнаментальная паласа дывана, падлогі ці прадмета прыкладнога мастацтва.

**ФРЫСТА́ЙЛ** (*англ.* freestyle, ад free = вольны + style = = стыль) — від горналыжнага спорту, які спалучае ў сабе скорасны спуск на лыжах з элементамі акрабатыкі ці балета.

**ФРЫЦЮ́Р** (*фр.* friture) — глыбокі слой алею або жывёльнага тлушчу, у якім смажаць кулінарныя вырабы.

**ФУЖЭ́Р** (*фр.* fougére) — вялікі бакал на высокай ножцы.

**ФУНДА́МЕНТ** (*лац.* fundamentum = аснова) — 1) падмурак, аснова якога-н. збудавання, машыны і інш. (напр. цагляны ф.); 2) *перан.* база, аснова ведаў, пачуццяў, дзеянняў (напр. навуковы ф. эканомікі).

**ФУНДАМЕНТА́ЛЬНЫ** (*лац.* fundamentalis) — 1) вялікі, трывалы, моцны (напр. ф. будынак); 2) асноўны, галоўны (напр. ф-ыя законы фізікі); 3) грунтоўны, салідны (напр. ф-ыя веды, ф. твор).

**ФУНДА́ТАР** (*лац.* findator) — той, хто засноўвае што-н. або дае грошы на заснаванне.

**ФУНІКУЛЁР** (*фр.* funiculaire, ад *лац.* finiculus = канат, вяроўка) — горная канатная дарога для перавозкі пасажыраў на крутых пад'ёмах на невялікую адлегласць.

**ФЎНКЦЫЯ** (*лац.* functio = выкананне) — 1) прызначэнне, роля, задача аб'екта ў пэўнай сістэме адносін (напр. ф. матора); 2) абавязак, кола дзейнасці, работа (напр. службовыя функцыі); 3) *мат.* залежная пераменная велічыня, якая змяняецца ўслед за змяненнем другой велічыні (*аргумента* 2); 4) *фізіял.* спецыфічная дзейнасць органа або арганізма (напр. ф. сэрца).

**ФУНКЦЫЯНЕ́Р** (*ням.* Funktionär, ад *лац.* functio, -onis = = выкананне) — работнік адміністрацыйнага або партыйнага апарата, чыноўнік.

**ФУРНІТЎРА** (*фр.* fourniture, ад fournir = забяспечваць) — дапаможныя матэрыялы ў якой-н. вытворчасці, напр. гузікі, кнопкі, кручкі ў кравецкай справе.

**ФУРО́Р** (*лац.* furor = апантанасць) — шумны публічны поспех (напр. выклікаць ф.).

**ФУРШЭ́Т** (*фр.* fourchette) — банкет, дзе госці ядуць і п'юць, сточы ля сталоў, і дзе падаюць, як правіла, халодныя парцыйныя закускі, якія можна есці без нажа і лыжкі, захопліваючы відэльцам.

**ФУ́РЫЯ** (*лац.* Furia = імя кожнай з трох багінь помсты ў старажытнарымскай міфалогіі) — *перан.* злосная, сварлівая жанчына.

**ФУТБО́Л** (*англ.* football, ад foot = ступня + ball = мяч) — спартыўная камандная гульня з мячом на спецыяльнай пляцоўцы (полі) з варотамі, у якой кожная з каманд імкнецца ўдарамі ног (ці галавы) забіць мяч у вароты праціўніка.

**ФУ́ТЫНГ** (*англ.* footing, ад foot = ісці пешшу) — трэніровачны або аздараўленчы бег у хуткім тэмпе; хуткая хадзьба.

**ФУТУРАЛО́ГІЯ** (ад *лац.* futurum = будучыня + *гр.* logos = = вучэнне) — галіна навуковых ведаў, якая займаецца прагназіраваннем сацыяльных працэсаў.

**ФЭЙС-КАНТРО́ЛЬ** (*англ.* face control, ад face = твар + *фр.* contrôle = кантроль) — праверка адпаведнасці знешняга выгляду правілам і ўстанаўленням для наведвальнікаў рэстаранаў, начных клубаў.

**ФЭН** (*англ.* fan) — тое, што і *фанат* 1.

**ФЭ́НТЭЗІ** (*англ.* fantasy) — жанр літаратуры і мастацтва, блізкі да навуковай фантастыкі, які ў больш свабоднай манеры выкарыстоўвае матывы перамяшчэння ў прасторы і часе, тэмы іншапланетных светаў, штучных арганізмаў, міфалогію старажытных цывілізацый.

**Ф'Ю́ЧЭРС** (*англ.* futures, ад *лац.* futurum = будучыня) — від біржавых аперацый па куплі-продажу з агаворкай аб пастаўках на наступны тэрмін (звычайна ад тыдня да некалькіх гадоў) па курсу на момант заключэння кантракта.

# Х

**ХА́БАР** (*цюрк.* chabar, ад *ар.* habar = паведамленне) — грошы або рэчы, што даюцца службовай асобе як подкуп з мэтай атрымання якой-н. выгады.

**ХАДЖ** (*ар.* chadj) — паломніцтва да мусульманскай святыні Кааба ў Мекку або да гроба Мухамеда ў Медыну.

**ХАДЖЫ́** (*ар.* chadji) — ганаровы тытул мусульманіна, які выканаў *хадж* (звычайна ставіцца перад імем).

**ХАЙВЭ́Й** (*англ.* highway, ад high = інтэнсіўны, галоўны + + way = шлях, дарога) — скарасная *аўтастрада* з аднабаковым рухам.

**ХАЙДЖЭ́КЕР** (*англ.* hijacker) — згоншчык самалёта, паветраны пірат.

**ХА́ЙРЫНГ** (*англ.* highring, ад high = інтэнсіўны, галоўны + ring = круг) — адна з форм сярэднетэрміновага крэдытавання экспарту без перадачы права ўласнасці на тавар арандатару.

**ХАКЕ́Й** (*англ.* hockey) — спартыўная камандная гульня з клюшкамі і шайбай на лёдзе або з мячом на траве.

**ХА́КЕР** (*англ.* hacker) — камп'ютэрны хуліган, які пранікае ў чужыя інфармацыйныя сістэмы з мэтай забавы або для атрымання сакрэтных звестак, увядзення ілжывых дадзеных і г. д.

**ХА́КІ** (*інд.* khaki = колер гразі, ад *перс.* khak = зямля, гразь) — 1) шаравата-зялёны колер (напр. гімнасцёрка колеру хакі); 2) тканіна шаравата-зялёнага колеру і форменнае адзенне з яе (напр. быць апранутым у хакі).

**ХА́КІНГ** (*англ.* hacking) — узломванне камп'ютэрных кодаў з мэтай счытвання закрытай інфармацыі.

**ХАЛАКО́СТ** (*англ.* holocaust, ад *гр.* holos = цалкам + kaustos = спалены) — масавае знішчэнне людзей спальваннем (параўн. *генацыд*).

**ХАЛЕ́РЫК** (*лац.* cholericus < *гр.* cholerikos, ад chole = = жоўць) — чалавек, энергічны па тэмпераменце, які лёгка ўзбуджаецца пад уздзеяннем якіх-н. уражанняў.

**ХАЛЕСТЭРЫ́Н** (ад *гр.* chole = жоўць + stereos = цвёрды) — арганічнае тлушчападобнае рэчыва з групы стэрынаў, якое змяшчаецца ў нервовай і тлушчавай тканках, печані

жывёл і чалавека і выконвае важную ролю ў жыццядзейнасці арганізма.

**ХÁЛІ-ГÁЛІ** (*англ.* hully-gully) — групавы амерыканскі бальны танец, які мае шматлікія варыянты кампазіцый, а таксама музыка да гэтага танца.

**ХАЛÍФ** (*ар.* chalifa = пераемнік) — тытул вярхоўнага правіцеля ў радзе краін мусульманскага Усходу, які аб'ядноўваў у сваіх руках духоўную і свецкую ўладу.

**ХАМЕЛЕÓН** (*лац.* chamaeleon, ад *гр.* chamaileon) — 1) паўзун атрада яшчарак, здольны мяняць афарбоўку скуры пры раздражненні, перамене колеру навакольнага асяроддзя; 2) *перан.* чалавек, які лёгка мяняе свае погляды ў залежнасці ад абставін.

**ХАНДРÁ** [ад *гр.* (hypo)chondria = жывот, вантробы] — маркотны, сумны настрой; туга.

**ХАНЖÁ** (*тур.* chadžy, ад *ар.* hadji = паломнік) — прытворна набожны або прытворна дабрадушны чалавек, крывадушнік.

**ХАÓС** (*гр.* chaos) — 1) бязмерная прастора, бязмежная першабытная маса, з якой, паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, утварылася пасля ўсё існуючае; 2) *перан.* беспарадак, неразбярыха.

**ХАРАКÍРЫ** (*яп.* hara-kiri, ад hara = жывот + kiri = рэзаць) — самазабойства шляхам успорвання жывата, прынятае ў японскіх самураяў.

**ХАРÁКТАР** (*гр.* charakter = адрознівальная рыса, асаблівасць) — 1) сукупнасць псіхічных асаблівасцей чалавека, якія выяўляюцца ў паводзінах (напр. мяккі х.); 2) цвёрдая воля, настойлівасць у дасягненні чаго-н. (напр. чалавек з характарам); 3) уласцівасць чаго-н., якая-н. якасць (напр. артыкул крытычнага характару); 4) мастацкі вобраз, які абагульняе тыповыя рысы пэўнай групы людзей (напр. намаляваць х.).

**ХАРАКТАРЫ́СТЫКА** (*гр.* charakteristikos = які адрозніваецца) — 1) апісанне, вызначэнне істотных, адметных рыс, асаблівасцей каго-н. або чаго-н. (напр. трапная х.); 2) апісанне характару, учынкаў якога-н. персанажа ў мастацкім творы; 3) афіцыйны дакумент з водзывам аб службовай, грамадскай дзейнасці каго-н. (напр. х. з месца работы); 4) *мат.* цэлая частка дзесятковага лагарыфма.

**ХАРДКО́Р** (*англ.* hard core) — разнавіднасць цяжкай музыкі, якая ўзнікла ў канцы 90-х гадоў XX ст. на аснове альтэрнатыўнай музыкі.

**ХА́РДЛАЙНЕР** (*англ.* hard-liner, ад hard = цвёрды + line = лінія) — прыхільнік жорсткага курсу ў палітыцы, праціўнік кампрамісаў.

**ХАРД-РО́К** (*англ.* hard rock, ад hard = цвёрды + rock = гайдацца) — гучная, энергічная музыка, якая ўяўляе сабой далейшае развіццё *рок-н-рола*.

**ХАРД-РО́КЕР** (*англ.* hardrocker) — музыкант, які выконвае музыку *хард-рок*.

**ХА́РТЫЯ** (*гр.* chartion, ад chartes = папера, грамата) — 1) старадаўні рукапіс, а таксама матэрыял (папірус або пергамент), на якім ён напісаны; 2) дакумент важнага грамадска-палітычнага значэння.

**ХАРЫ́ЗМА** (*гр.* charisma = міласць, боскі дар) — 1) выключная адоранасць (аб святых); 2) высокі аўтарытэт, заснаваны на ўменні падначальваць іншых сваёй волі.

**ХАЎБЕ́К** (*англ.* half-back, ад half = напалавіну + back = = абаронца) — паўабаронца ў *футболе* і *хакеі*.

**ХАЎТА́ЙМ** (*англ.* half-time, ад half = напалавіну + time = = час) — палавіна гульні ў *футбол* і *хакей* (45 мінут).

**ХЕДЖ** (*англ.* hedge = перашкода) — *экан.* тэрміновая здзелка, заключаная для страхоўкі ад магчымага змянення цэн.

**ХЕ́ДЖЭР** (*англ.* hedger, ад hedge = агароджваць) — *экан.* прадпрыемства, банк, фермер або іншы гаспадарчы суб'ект, які ажыццяўляе *хедж*.

**ХЕТ-ТРЫ́К** (*англ.* hat trick) — 1) тры галы, забітыя адным гульцом у адным матчы (у футболе, хакеі); 2) тры перамогі запар у спартыўных спаборніцтвах.

**ХЕШ** (*англ.* hash) — *жарг.* гашыш; наркотык.

**ХІ́ЛЕР** (*англ.* healer = лекар) — лекар, які лечыць біятокамі, малітвамі, замовамі, а таксама аперацыямі без хірургічных інструментаў (параўн. *экстрасэнс*).

**ХІМЕ́РА** (*лац.* chimaera, ад *гр.* Chimaira = агнядышная пачвара з ільвінай галавой, казліным тулавам і хвастом дракона) — *перан.* неажыццявімая мара, нездзяйсняльная фантазія.

**ХІ́НТЭРЛАНД** (*ням.* Hinterland, ад hinter = за, ззаду + + Land = краіна) — раён, які прылягае да прамысловага, гандлёвага цэнтра, порта і г. д.

**ХІ́ПІ** (*англ.* hippie, ад hip = маркота, туга) — 1) групы моладзі ў некаторых краінах, якія адмаўляюць існуючыя маральныя асновы, грамадскія нормы паводзін і вядуць валацужніцкае жыццё; 2) *перан.* чалавек, які паводзіць сябе экстравагантна, знарок неахайна і прэтэнцыёзна апранаецца.

**ХІП-ХО́П** (*англ.* hip hop, ад hip = ура + hop = скачок) — музычны стыль эстраднай музыкі з дынамічнай танцавальнай мелодыяй.

**ХІРАМА́НТЫЯ** (*п.-лац.* chiromantia, ад *гр.* cheir = рука + + manteia = варажба) — прадказанне будучага і вызначэнне характару чалавека па выразных лініях і бугарках на далонях рук.

**ХІРАТО́НІЯ** (*гр.* cheirotonia, ад heir = рука + teino = цягнуць) — пасвячэнне асоб духоўнага звання ў сан епіскапа, свяшчэнніка, дыякана (у праваслаўнай царкве).

**ХІРУРГІ́Я** (*лац.* chirurgia, ад *гр.* cheir = рука + ergon = праца) — галіна *медыцыны*, якая вывучае аперацыйныя метады лячэння хвароб.

**ХІТ** (*англ.* hit = удача, поспех) — модная песня, спектакль, кніга і г. д., якія маюць поспех.

**ХІТ-ПАРА́Д** (*англ.* hit parade, ад hit = удача, поспех + parade = паказ, парад) — спіс найбольш папулярных музычных твораў (звычайна эстрадных песень) і іх выканаўцаў, які фарміруецца на аснове апытання экспертаў або слухачоў і публікуецца сродкамі масавай інфармацыі.

**ХЛАРАФО́РМ** (*фр.* chloroforme, ад *гр.* chloros = зялёны + + *лац.* formica = мурашка) — арганічнае злучэнне, лятучая вадкасць з прыкрым пахам, якая ўтрымлівае хлор і выкарыстоўваецца для наркозу.

**ХО́БІ** (*англ.* hobby) — захапленне чым-н., любімы занятак у вольны час.

**ХОЛ** (*англ.* hall) — вялікае памяшканне, звычайна ў грамадскіх будынках, прызначанае для адпачынку, чакання (напр. х. кінатэатра, х. гасцініцы).

**ХО́ЛДЫНГ** (*англ.* holding, ад hold = затрымліваць) — кампанія, якая сама не мае вытворчых прадпрыемстваў, а валодае акцыямі іншых кампаній.

**ХО́СПІС** (*англ.* hospice, ад *лац.* hospitium = гасціннасць) — прытулак, багадзельня, спецыяльная клініка для безнадзейна хворых.

**ХО́СТЫНГ** (*англ.* hosting) — размяшчэнне за пэўную плату інфармацыі кліента на *серверы*.

**ХОТ-ДО́Г** (*англ.* hot dog, ад hot = гарачы + dog = сабака) — гарачая сасіска, якая падаецца ў разрэзанай булцы з соусам або гарчыцай.

**ХРАНАЛО́ГІЯ** (*лац.* chronologia, ад *гр.* chronos = час + + logos = вучэнне) — 1) дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая ўстанаўлівае гістарычныя даты, час з'яўлення дакументаў і інш.; 2) пералік падзей у парадку іх паслядоўнасці ў часе; 3) паслядоўнасць з'яўлення чаго-н. у часе (напр. х. выданняў Скарыны).

**ХРО́НІКА** (*гр.* chronoka = летапіс, ад chronos = час) — 1) запіс гістарычных падзей у храналагічнай паслядоўнасці; летапіс; 2) літаратурны твор, у якім паслядоўна выкладаецца гісторыя грамадскіх, палітычных і іншых падзей; 3) кароткае паведамленне аб бягучых падзеях у газеце, па радыё, а таксама дакументальны фільм аб падзеях бягучага жыцця.

**ХРЫСЦІЯ́НСТВА** (*гр.* christianos, ад Christos = *літар.* памазанік) — адна з трох (побач з *будызмам* і *ісламам*) сусветных рэлігій, якая ўзнікла ў пачатку I ст. і стала адной з найбольш пашыраных рэлігій на Зямлі.

**ХУ́НТА** (*ісп.* junta = *літар.* сход, аб'яднанне) — 1) назва розных грамадска-палітычных груповак і аб'яднанняў у Іспаніі і краінах Лацінскай Амерыкі; 2) выканаўчы ўрадавы орган у некаторых лацінаамерыканскіх краінах; 3) група ўдзельнікаў ваеннага перавароту ў краінах Лацінскай Амерыкі.

**ХЭВІ-МЕТА́Л** (*англ.* heavy metall) — узмоцнены, інтэнсіўны *хард-рок*.

**ХЭ́ПЕНІНГ** (*англ.* happening = выпадак, падзея) — 1) від сцэнічнага дзеяння, для якога характэрны парадаксальнасць і намераная бязмэтнасць, разлік на шырокую імправізацыю; 2) здарэнне.

**ХЭ́ПІ-Э́НД** (*англ.* happy end = шчаслівы канец) — удачная развязка, шчаслівы канец (у фільме, рамане і інш.).

# Ц

**ЦНО́ТА** (*польск.* cnota) — маральная чысціня; сціпласць у маральных адносінах.

**ЦО́КАЛЬ** (*іт.* zoccolo) — 1) ніжняя частка вонкавай сцяны будынка, слупа, помніка, якая размешчана непасрэдна на фундаменце і крыху выступае; 2) металічная частка электрычнай лямпачкі, якая служыць для замацавання яе ў патроне.

**ЦУКА́ТЫ** (*польск.* cukaty < *іт.* succade, ад *лац.* succus = = сок) — зацукраваныя фрукты.

**ЦУНА́МІ** (*яп.* tsunami) — гіганцкія ўсёразбуральныя хвалі, якія ўзнікаюць на паверхні акіяна ў час падводных землетрасенняў.

**ЦЫВІЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* civilisation, ад *лац.* civilis = грамадзянскі) — 1) узровень развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры, дасягнуты якой-н. грамадскай фармацыяй (напр. антычная ц.); 2) сучасная сусветная культура, прагрэс, асвета; 3) ступень грамадскага развіцця, наступная пасля варварства.

**ЦЫВІ́ЛЬНЫ** (*польск.* cywilny, ад *лац.* civilis = грамадзянскі) — грамадзянскі, не ваенны (напр. ц. чалавек).

**ЦЫКЛ** (*гр.* kyklos = круг) — 1) сукупнасць узаемазвязаных з'яў, працэсаў, якая складае замкнёны круг развіцця (напр. вытворчы ц., ц. развіцця лічынкі); 2) закончаны рад твораў, лекцый, канцэртаў, аб'яднаных агульнай тэматыкай (напр. ц. вершаў); 3) пэўная група навук, дысцыплін (напр. гістарычны ц., прыродазнаўчы ц.).

**ЦЫКЛО́Н** (*гр.* kyklon = які верціцца) — буйнамаштабны атмасферны віхор з паніжэннем ціску ад перыферыі да цэнтра, які суправаджаецца вялікай воблачнасцю і ападкамі; бура, ураган (параўн. *антыцыклон*).

**ЦЫ́МУС** (*яўр.* cymes) — 1) салодкая ежа, прыгатаваная з морквы; 2) *перан.* самае смачнае, самая сутнасць, самае цікавае.

**ЦЫНІ́ЗМ** (*фр.* cynisme, ад *гр.* kynismos = вучэнне цынікаў) — нахабнасць, бессаромнасць, пагардлівыя адносіны да агульнапрынятых правіл маралі.

**ЦЫРК** (*лац.* circus = *літар.* круг) — від мастацтва, які ўключае акрабатыку, эквілібрыстыку, жангліраванне,

клаунаду, эксцэнтрыку, дрэсіроўку жывёл і інш., а таксама будынак з арэнай і амфітэатрам, дзе адбываюцца цыркавыя прадстаўленні.

**ЦЫРКУЛЯ́Р** (*ням.* Zirkular, ад *лац.* circularis = кругавы) — пісьмовае распараджэнне, якое рассылаецца падведамасным установам або падначаленым службовым асобам.

**ЦЫРКУЛЯ́РНЫ** (*лац.* circularis = кругавы) — кругавы, звязаны з рухам па крузе (напр. ц. душ, ц-ая піла).

**ЦЫРЫМАНІЯ́Л** (*лац.* caeremoniale = кніга абрадавых правіл) — афіцыйна прыняты парадак урачыстых прыёмаў, шэсцяў і інш. (напр. ц. адкрыцця алімпіяды).

**ЦЫРЫМО́НІЯ** (*лац.* caeremonia) — 1) прыняты парадак правядзення якога-н. абраду, урачыстасці (напр. шлюбная ц.); 2) *мн., перан.* умоўнасці ў паводзінах, манернасць (напр. не будзем разводзіць цырымоніі).

**ЦЫТАДЭ́ЛЬ** (*іт.* cittadella = *літар.* маленькі горад) — 1) найбольш умацаваная ўнутраная частка крэпасці, прыстасаваная для самастойнай абароны, а таксама крэпасць наогул; 2) *перан.* апора, цвярдыня (напр. ц. гуманізму).

**ЦЫТА́ТА** (*лац.* citatum, ад citare = заклікаць, называць) — даслоўная вытрымка з якога-н. тэксту.

**ЦЭЙТНО́Т** (*ням.* Zeitnot, ад Zeit = час + Not = неабходнасць) — 1) недахоп часу на абдумванне чарговых хадоў пры гульні ў шахматы, шашкі; 2) *перан.* востры недахоп часу ў якой-н. справе.

**ЦЭЛАФА́Н** (*англ.* cellophane, ад *лац.* cellula = клетка + *гр.* phanos = светлы) — тонкая празрыстая плёнка з *цэлюлозы*, якая выкарыстоўваецца для ўпакоўкі, а таксама ў паліграфіі, агародніцтве і некаторых іншых вытворчасцях.

**ЦЭЛІБА́Т** (*лац.* caelibatus, ад caelebs = нежанаты) — абавязковая бязшлюбнасць, устаноўленая для каталіцкага духавенства.

**ЦЭЛЮЛО́ЗА** (*фр.* cellulose, ад *лац.* cellula = клетка) — рэчыва з хімічна апрацаванай драўніны, якое выкарыстоўваецца для вырабу паперы, штучнага шоўку і інш.

**ЦЭНЗ** (*лац.* census) — умовы, якія абмяжоўваюць карыстанне асобай тымі ці іншымі правамі (напр. узроставы ц., маёмасны ц., адукацыйны ц.).

**ЦЭНЗЎРА** (*лац.* censura) — сістэма дзяржаўнага нагляду за друкам і сродкамі масавай інфармацыі.

**ЦЭНТ** (*англ.* cent, ад *лац.* centum = сто) — разменная манета ЗША, Канады, Аўстраліі і некаторых іншых краін, роўная 1/100 грашовай адзінкі (*долара*, гульдэна).

**ЦЭНТР** (*лац.* centrum, ад *гр.* kentron = вастрыё) — 1) пункт дакладна ў сярэдзіне геаметрычнай фігуры (напр. ц. акружнасці); 2) сярэдзіна, сярэдняя частка чаго-н. (напр. ц. горада); 3) месца сканцэнтравання якой-н. дзейнасці (напр. касмічны ц.); 4) буйны населены пункт, які мае адміністрацыйнае, культурнае значэнне для якой-н. мясцовасці, краіны (напр. раённы ц., прамысловы ц.); 5) вышэйшы орган кіравання якой-н. дзейнасцю (напр. дырэктывы цэнтра).

**ЦЭНТРАЛІЗА́ЦЫЯ** (*фр.* centralisation, ад *лац.* centralis = = які знаходзіцца ў сярэдзіне) — сканцэнтраванне чаго-н. у адным *цэнтры*, аб'ядноўванне ў адным месцы, у адных руках (напр. ц. кіраўніцтва, ц. капіталу).

**ЦЭНТРАЛІ́ЗМ** (*фр.* centralisme, ад *лац.* centralis = які знаходзіцца ў сярэдзіне) — сістэма кіравання, пры якой мясцовыя ўстановы, органы падпарадкаваны цэнтральнай уладзе, цэнтру.

**ЦЮ́НЕР** (*англ.* tuner) — высокачастотны прыбор настройкі радыёпрыёмніка на патрэбную хвалю, які забяспечвае высокую якасць гуку.

**ЦЮ́НІНГ** (*англ.* tuning) — аснашчэнне машыны дадатковымі прыладамі.

# Ч

**ЧАДРА́** (*тур.* čadyr, ад *перс.* čadar) — лёгкае пакрывала, у якое жанчыны-мусульманкі пры выхадзе з дому закутваюцца з галавы да ног, пакідаючы толькі шчыліну для вачэй.

**ЧАЛМА́** (*цюрк.* čalma) — мужчынскі галаўны ўбор у мусульман у выглядзе доўгага кавалка тканіны, абкручанага некалькі разоў вакол галавы.

**ЧАРГА́** (*цюрк.* čarga) — 1) пэўны парадак у следаванні, руху чаго-н.; месца ў парадку следавання (напр. выклікаць па чарзе, заняць чаргу); 2) адзін з участкаў будоўлі, якая ўводзіцца ў строй па частках; 3) група людзей, якія ста-

яць адзін за адным для атрымання чаго-н.; 4) рад выстралаў з кулямёта, аўтамата.

**ЧАРТ** (*англ.* chart) — спіс найбольш папулярных музычных груп, выканаўцаў, складзены на аснове вынікаў продажу іх альбомаў, дыскаў.

**ЧА́РТЭР** (*англ.* charter) — дагавор паміж уладальнікам судна і тым, хто яго фрахтуе, на арэнду ўсяго судна ці яго часткі на пэўны рэйс або тэрмін.

**ЧАТ** (*англ.* chat) — віртуальнае месца сустрэчы ў *Інтэрнэце* для зносін.

**ЧЫ́ЗБУРГЕР** [*англ.* cheeseburger, ад cheese = сыр + + (ham)burger = гамбургер] — булачка круглай формы, разрэзаная папалам, з начынкай, абавязковым кампанентам якой з'яўляецца сыр.

**ЧЫП** (*англ.* chip) — паўправадніковы крышталь з нанесенай на ім інтэгральнай схемай у мікрапрацэсарах *камп'ютэра*.

**ЧЫ́ПСЫ** (*англ.* chips, ад chip = луска) — бульба ў выглядзе хрусткіх лустачак.

**ЧЭК** (*англ.* check) — 1) дакумент, у якім даецца распараджэнне банку выдаць ці пералічыць прад'яўніку пэўную суму грошай з бягучага рахунку асобы, што падпісала гэты дакумент; 2) квітанцыя касы аб прыёме грошай ад пакупніка за тавар.

**ЧЭМПІЁН** (*англ.* champion, *фр.* champion, ад *лац.* campio = = б'юся, змагаюся) — пераможца ў спартыўных спаборніцтвах на першынство.

**ЧЭМПІЯНА́Т** (*фр.* championnat, ад *лац.* campio = б'юся, змагаюся) — спаборніцтва на званне *чэмпіёна* ў якім-н. відзе спорту або ў спартыўных гульнях.

## Ш

**ШАБЛО́Н** (*ням.* Schablone, ад *фр.* échantillon = узор) — 1) узор, форма для вырабу якіх-н. аднолькавых прадметаў; 2) *перан.* збіты ўзор, які слепа пераймаюць (напр. паэтычны ш.).

**ШАВІНІ́ЗМ** (*фр.* chauvinisme, ад N. Chauvin = прозвішча французскага салдата XIX ст., прыхільніка заваявальніц-

кай палітыкі Напалеона) — крайне агрэсіўная форма нацыяналізму, якая прапаведуе выключнасць сваёй нацыі і пагарду да іншых народаў.

**ШАВІНІСТ** (*фр.* chauviniste, ад N. Chauvin = прозвішча французскага салдата XIX ст., прыхільніка заваявальніцкай палітыкі Напалеона) — прыхільнік *шавінізму*.

**ШАЙБА** (*ням.* Scheibe) — 1) круглая металічная пласцінка з адтулінай пасярэдзіне, якая падкладваецца пад гайку ці пад галоўку вінта; 2) спартыўная прылада для гульні ў хакей у выглядзе гумавага ці пластмасавага дыска.

**ШАКІРАВАЦЬ** (*ням.* schokieren, ад *фр.* choquer = зневажаць) — бянтэжыць, ставіць каго-н. у няёмкае становішча сваімі паводзінамі, парушаючы правілы прыстойнасці.

**ШАЛЬМАВАЦЬ** (*ням.* schelmen) — 1) ганьбаваць, знеслаўляць каго-н.; 2) хітрыць, падманваць.

**ШАМПУР** (*груз.* šampuri) — металічны пруток для смажання *шашлыка* на агні.

**ШАНАВАЦЬ** (*польск.* szanować, ад *ням.* schonen) — 1) беражліва адносіцца да каго-н., чаго-н. (напр. ш. сяброў); 2) адносіцца з пашанай, павагай да каго-н., чаго-н. (напр. ш. народныя традыцыі).

**ШАНС** (*фр.* chance) — верагоднасць поспеху, удачы, ажыццяўлення чаго-н.

**ШАНТАЖ** (*фр.* chantage) — запалохванне пагрозай выкрыцця або паведамлення якіх-н. непажаданых звестак з мэтай вымагання чаго-н.

**ШАРАДА** (*фр.* charade) — загадка, у якой загаданае слова падзяляецца на часткі з наданнем ім значэнняў самастойных слоў.

**ШАРЖ** (*фр.* charge) — сатырычная ці гумарыстычная выява (звычайна партрэт), у якой пры захаванні знешняга падабенства зменены і падкрэслены найбольш характэрныя рысы мадэлі.

**ШАРЛАТАН** (*фр.* charlatan, ад *іт.* ciarlatano = шут) — падманшчык, махляр, невук, які выдае сябе за знатака.

**ШАРМ** (*фр.* charme) — чароўнасць, прывабнасць.

**ШАРЫЯТ** (*ар.* šariat) — звод мусульманскіх прававых і рэлігійных норм і правіл, заснаваных на *каране* (параўн. *адат*).

**ШАСІ** (*фр.* châssis) — 1) асноўная частка аўтамабіля і іншых машын, на якой умацаваны рухавік, механізмы, кузаў; 2) узлётна-пасадачнае ўстройства самалёта (верталёта).

**ШАСЭ** (*фр.* chaussée) — аўтамабільная дарога, пакрытая асфальтам, мошчаная шчэбенем або іншым цвёрдым пакрыццём.

**ШАЎРОН** (*фр.* chevron) — галунная нашыўка ў выглядзе вугла на рукаве адзення салдат і малодшых афіцэраў.

**ШАХ** (*перс.* šah = цар, кароль) — 1) тытул манарха ў некаторых краінах Усходу, а таксама асоба, якая носіць гэты тытул; 2) нападзенне якой-н. фігуры на караля праціўніка ў шахматнай гульні.

**ШАШЛЫК** (*цюрк.* šišlik) — страва з кавалачкаў мяса (часцей бараніны), нанізаных на металічны стрыжань (*шампур*) і засмажаных разам з кольцамі цыбулі.

**ШКВАЛ** (*англ.* squall) — 1) нечаканы моцны парыў ветру, часцей за ўсё пры навальніцах; 2) *перан.* што-н. раптоўнае, інтэнсіўнае (напр. ш. агню, ш. авацый).

**ШЛІФАВАЦЬ** (*польск.* szlifować, ад *ням.* schleifen) — 1) апрацоўваць да гладкасці якую-н. паверхню (напр. ш. мармур); 2) *перан.* удасканальваць, паляпшаць што-н. (напр. ш. стыль артыкула).

**ШЛЯГЕР** (*ням.* Schlager) — новая модная, вельмі папулярная ў які-н. перыяд песня, мелодыя.

**ШМУЦТЫТУЛ** (*ням.* Schmutztitel, ад Schmutz = бруд + + Titel = загаловак) — ліст паперы перад пачаткам кнігі або асобнай яе часткай, на якім змяшчаецца загаловак, прысвячэнне, ілюстрацыя і інш.

**ШНУР** (*польск.* sznur, ад *ням.* Schnur) — 1) тонкая вяровачка, звітая з некалькіх кручаных нітак; 2) вяроўка, намазаная мелам або вугалем, якая служыць цеслярам для адбівання прамой лініі на бярвеннях; 3) электрычны провад, які складаецца з некалькіх ізаляваных жыл; 4) вузкая палоска зямлі; 5) *перан.* чарада птушак.

**ШОК** (*фр.* choc = *літар.* удар) — 1) агульнае цяжкае расстройства функцый арганізма ў выніку псіхічнай або фізічнай траўмы; 2) стан крайняй разгубленасці (напр. маральны ш.).

**ШОКІНГ** (*англ.* shoking) — *разм.* 1) стан крайняй разгубленасці; 2) пачуццё збянтэжанасці.

**ШОП** (*англ.* shop) — магазін, устроены па заходнім узоры.

**ШО́ПІНГ** (*англ.* shopping) — наведванне магазінаў з мэтай набыцця пакупак.

**ШОРТ-ТРЭ́К** (*англ.* short track = *літар.* кароткая дарожка) — гонкі на каньках па маленькім крузе, абазначаным на хакейнай пляцоўцы (з 1998 г. — алімпійскі від спорту).

**ШО́РТЫ** (*англ.* shorts, ад short = кароткі) — кароткія летнія штаны.

**ШО́У** (*англ.* show = відовішча, паказ) — 1) пышнае сцэнічнае відовішча з удзелам майстроў эстрады, цырка і інш.; 2) *перан.* што-н. паказное, разлічанае на шумны знешні эфект (напр. палітычнае шоу).

**ШО́У-БІ́ЗНЕС** (*англ.* show business) — арганізацыя і правядзенне на камерцыйнай аснове эстрадных канцэртаў, конкурсаў прыгажосці і інш. з мэтай атрымаць даход.

**ШОУМЭ́Н** (*англ.* showman, ад show = відовішча, паказ + + man = чалавек) — спецыяліст па арганізацыі і правядзенню *шоу* 1.

**ШПА́ГА** (*іт.* spada) — халодная колючая зброя з прамым вузкім і доўгім клінком; *скрыжаваць шпагі* — пачаць паядынак, бой, спрэчку.

**ШПІТА́ЛЬ** (*польск.* szpital < *ням.* Spital, ад *лац.* hospitalis = гасцінны, ветлівы) — вялікая бальніца, звычайна ваенная.

**ШПІЯНА́Ж** (*ням.* Spionage, ад *фр.* espionnage) — выведванне дзяржаўных і ваенных тайн з мэтай перадачы іх іншай дзяржаве.

**ШПРЫЦ** (*ням.* Spritze) — медыцынскі інструмент у выглядзе цыліндра з поршнем і трубчастай іголкай для ўколаў.

**ШРЫФТ** (*ням.* Schrift) — 1) камплект друкарскіх літар і іншых знакаў, неабходных для набору, якія адрозніваюцца памерам і формай, нахілам, насычанасцю (напр. курсіўны ш., светлы ш., газетны ш.); 2) форма, малюнак напісаных ці намаляваных *літар.*

**ШТА́БЕЛЬ** (*ням.* Stabel) — роўна, у пэўным прадку складзены рад ці некалькі радоў чаго-н. (напр. ш. дроў, ш. шпал).

**ШТАМП** (*ням.* Stampfe, ад *іт.* stampa = пячатка) — 1) форма для вырабу вялікай колькасці аднолькавых прадметаў спосабам ціску або чаканкі; 2) прамавугольная пячатка з

назвай і адрасам установы, прадпрыемства, арганізацыі (напр. паставіць ш.); 3) *перан.* збіты выраз (напр. пазбягаць моўных штампаў).

**ШТА́НГА** (*ням.* Stange) — 1) металічны прут як састаўная частка многіх інструментаў, механізмаў (напр. буравая ш.); 2) бакавая стойка (часам і верхняя перакладзіна) футбольных і хакейных варот; 3) спартыўны снарад у выглядзе металічнага прута з дыскамі на абодвух канцах для заняткаў цяжкай атлетыкай.

**ШТАТ**[1] (*ням.* Staat = дзяржава) — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з унутраным самакіраваннем у ЗША, Аўстраліі, Індыі, краінах Лацінскай Амерыкі.

**ШТАТ**[2] (*лац.* status = стан, сновішча) — пастаянны склад супрацоўнікаў якой-н. установы, арганізацыі.

**ШТАТЫ́Ў** (*ням.* Stativ, ад *лац.* stativus = нерухомы) — 1) падстаўка для лабараторных прыбораў (напр. ш. мікраскопа); 2) складаная трынога для фотаапарата, кінакамеры, тэадаліта і іншых геадэзічных або астранамічных прыбораў.

**ШТО́ПАР** (*ням.* Stopper) — 1) прылада ў выглядзе прутка з завостраным вінтападобным канцом для выцягвання коркаў з бутэлек; 2) імклівы рух самалёта ўніз па вінтавой лініі.

**ШТРАФ** (*ням.* Strafe) — грашовае спагнанне як мера ўздзеяння на асоб, вінаватых у парушэнні пэўных правіл.

**ШТРУ́КСЫ** (*польск.* sztruksy, ад *ням.* Struck) — штаны асобага крою з вельвету.

**ШТРЫХ** (*ням.* Strich) — 1) тонкая рыса, лінія (на малюнку, чарцяжы); 2) *перан.* характэрная ўласцівасць чаго-н. (напр. дадаць ш. да характарыстыкі літаратурнага вобраза).

**ШТРЭЙКБРЭ́ХЕР** (*ням.* Streikbrecher, ад Streik = забастоўка + brechen = ламаць) — асоба, якая ідзе на працу ў час забастоўкі і гэтым самым перашкаджае яе правядзенню.

**ШТУДЗІ́РАВАЦЬ** (*ням.* studieren, ад *лац.* studere = вучыцца, старанна займацца) — старанна вывучаць што-н.

**ШТУ́КА** (*польск.* sztuka, ад *с.-в.-ням.* stücke = кавалак) — 1) асобная рэч, прадмет з шэрагу аднародных (напр. некалькі штук яблыкаў); 2) рулон тканіны (напр. ш. палатна); 3) *перан.* выхадка, выбрык, незвычайны ўчынак (напр. устроіць штуку).

**ШТУРМ** (*ням.* Sturm) — 1) рашучая атака крэпасці, горада, апорнага пункта або ўмацаванай пазіцыі праціўніка; 2) *перан.* рашучыя дзеянні, накіраваныя на дасягненне чаго-н. (напр. ш. космасу, ш. навукі).

**ШТЭ́КЕР** (*ням.* Stecker) — металічны кантактны стрыжань, які служыць аднаполюснай вілкай штэпсельнага (гл. *штэпсель*) злучэння.

**ШТЭ́МПЕЛЬ** (*ням.* Stempel) — пячатка з выпуклым адваротным надпісам або малюнкам, а таксама адбітак, зроблены такой пячаткай.

**ШТЭ́ПСЕЛЬ** (*ням.* Stöpsel) — прыстасаванне ў выглядзе металічнай вілкі ў пластмасавым корпусе для падключэння ў электрычную сетку прыбораў.

**ШЫК** (*фр.* chic) — паказная раскоша, франтаватасць, форс.

**ШЫКА́РНЫ** (*фр.* chicard) — 1) раскошны, багаты, пышны (напр. ш-ае ўбранне); 2) вельмі прыгожы, цудоўны (напр. ш. букет).

**ШЫ́ЛЬДА** (*ням.* Schild) — дошка з надпісам назвы ўстановы, прадпрыемства, арганізацыі і інш.

**ШЫ́РМА** (*ням.* Schirm) — 1) перасоўная перагародка з драўляных створак або з абцягнутых тканінай ці паперай рам; 2) *перан.* усё, што служыць для прыкрыцця сапраўдных мэт, спраў.

**ШЫФР** (*фр.* chiffre, ад *ар.* sifr = нуль) — 1) сістэма ўмоўных знакаў для сакрэтнага пісьма; 2) код, які выкарыстоўваецца пры механізаванай апрацоўцы дадзеных на ЭВМ; 3) бібліятэчны рэгістрацыйны знак на кнігах.

**ШЭДЭ́ЎР** (*фр.* chef-d'oeuvre) — узорны, выдатны твор літаратуры, мастацтва, майстэрства.

**ШЭЗЛО́НГ** (*фр.* chaise longue = *літар.* доўгі стол) — лёгкае рассоўнае крэсла з пакатай спінкай і прадаўгаватым сядзеннем, у якім можна адпачываць паўлежачы.

**ШЭ́ЙКЕР** (*англ.* shaker = трэсці, устрэсваць) — спецыяльная пасудзіна для прыгатавання *кактэйляў*.

**ШЭ́ЙПІНГ** (*англ.* shaping, ад shape = надаваць форму) — комплекс фізічных практыкаванняў для мадэліравання фігуры.

**ШЭФ** (*фр.* chef) — 1) кіраўнік, начальнік у адносінах да падначаленых; 2) асоба, прадпрыемства або арганізацыя, якая пастаянна дапамагае каму-н.

# Э

**ЭВАКУА́ЦЫЯ** (*п.-лац.* evacuatio, ад *лац.* evacuare = апаражняць) — вываз насельніцтва, прадпрыемстваў, установў, маёмасці з мясцовасці, якую можа захапіць вораг або якой пагражае стыхійнае бедства, а таксама вываз раненых, хворых і матэрыяльных каштоўнасцей з месца баёў.

**ЭВАЛЬВА́ЦЫЯ** (*фр.* évaluation, ад value = цана, вартасць) — ацэньванне, аблічэнне.

**ЭВАЛЮ́ЦЫЯ** (*лац.* evolutio = разгортванне) — працэс развіцця чаго-н., змянення ад аднаго стану да другога; бесперапынная колькасная змена чаго-н., якая падрыхтоўвае якасную змену (напр. э. жывёльнага свету, э. мастацтва, э. светапогляду).

**ЭВЕНТУА́ЛЬНЫ** (*с.-лац.* eventualis, ад *лац.* eventus = выпадак) — магчымы пры пэўных умовах, акалічнасцях (напр. э-ае супрацоўніцтва).

**ЭГАІ́ЗМ** (*фр.* égoïsme, ад *лац.* ego = я) — сябелюбства, клопат толькі пра свае інтарэсы (проціл. *альтруізм*).

**ЭГАІ́СТ** (*фр.* égoïste, ад *лац.* ego = я) — чалавек, якому ўласцівы *эгаізм*; сябелюб (проціл. *альтруіст*).

**ЭГАЛІТА́РНЫ** (*фр.* égalitaire, ад égalité = роўнасць) — заснаваны на ўраўняльным падзеле прыватнай уласнасці.

**ЭГАТЫ́ЗМ** (*фр.* égotisme, ад *лац.* ego = я) — перабольшаная думка пра сваю асобу, пра свае вартасці і значэнне; самаўлюблёнасць.

**ЭГАЦЭНТРЫ́ЗМ** (*фр.* égocentrisme, ад *лац.* ego = я + centrum = цэнтр) — крайняя форма праяўлення *эгаізму*.

**ЭГІ́ДА** (*гр.* aigis, -gidos = шчыт Зеўса ў старажытнагрэчаскай міфалогіі) —заступніцтва, абарона (напр. знаходзіцца пад эгідай закона).

**ЭДЭ́М** (*ст.-яўр.* eden = асалода) — 1) біблейскі рай; 2) *перан.* прыгожая мясцовасць, дзе можна бесклапотна і шчасліва жыць.

**ЭЗАТЭРЫ́ЧНЫ** (*гр.* esoterikos = унутраны) — тайны, прызначаны толькі для азнаёмленых з містычным, рэлігійным вучэннем (проціл. *экзатэрычны*).

**ЭЙФАРЫ́Я** (*гр.* euphoria, ад eu = добра + phoreo = пераношу) — 1) стан прыўзнятага настрою, бестурботнасці,

здаволення, які не адпавядае аб'ектыўным умовам; 2) *мед.* хваравіты стан раскошы, выкліканы наркатычнымі сродкамі або душэўшным захворваннем.

**ЭКАЛО́ГІЯ** (ад *гр.* oikos = дом, радзіма + logos = навука) — 1) раздзел біялогіі, які вывучае ўзаемадзеянне раслінных і жывёльных арганізмаў паміж сабой і навакольным асяроддзем; 2) стан навакольнага асяроддзя, які склаўся ў выніку безгаспадарчага выкарыстання прыродных рэсурсаў і зараз пагражае існаванню людзей.

**ЭКАНО́МІКА** (*гр.* oikonomike, ад oikos = жыллё + nomos = = закон) — 1) сукупнасць вытворчых адносін на пэўным этапе развіцця грамадства; 2) народная гаспадарка краіны, вобласці, раёна, якой-н. галіны грамадскай дзейнасці (напр. э. Беларусі, э. гандлю); 3) навуковая дысцыпліна, якая вывучае тую ці іншую галіну гаспадаркі (напр. э. бульбаводства).

**ЭКАНО́МІКС** (*англ.* economics, ад *гр.* oikonomike = эканоміка) — галіна эканамічнай навукі, якая раскрывае на макра- і мікраўзроўнях законы бізнесу, метады гаспадарання і інш.

**ЭКАНО́МІЯ** (*гр.* oikonomia = загадванне гаспадаркай) — 1) ашчаднасць, беражлівасць пры расходаванні чаго-н.; 2) *уст.* буйная памешчыцкая гаспадарка; 3) выгада, якая атрымліваецца пры ашчадным расходаванні чаго-н.

**ЭКВАЛА́ЙЗЕР** (*англ.* equaliser) — радыёэлектроннае ўстройства ў высокаякасных стэрэафанічных комплексах, рэгулятар частотных характарыстык гуку, тэмбру.

**ЭКВІВАЛЕ́НТ** (*лац.* aequivalens, -ntis = раўназначны, раўнацэнны) — 1) што-н. раўназначнае чаму-н., здольнае поўнасцю замяніць яго (напр. механічны э. цяпла); 2) тавар, які выражае вартасць іншых тавараў, на якія ён абменьваецца.

**ЭКВІЛІБРЫ́СТ** (ад *лац.* aequilibris = які знаходзіцца ў раўнавазе) — 1) цыркавы артыст, які займаецца *эквілібрыстыкай* 1; 2) *перан.* чалавек, які праяўляе незвычайную спрытнасць, выкрутлівасць у паводзінах, спрэчках.

**ЭКВІЛІБРЫ́СТЫКА** (ад *лац.* aequilibritas = раўнавага) — 1) жанр цыркавога мастацтва, заснаваны на ўменні выканаўцы рабіць складаныя акрабатычныя практыкаванні, захоўваць раўнавагу ў разнастайных становішчах; 2) *пе-*

*ран.* уменне лёгка прыстасоўвацца, лавіраваць у розных абставінах.

**ЭКЗАЛЬТА́ЦЫЯ** (*лац.* exaltatio) — крайне ўзбуджаны стан, хваравітая ўзбуджанасць.

**ЭКЗА́РХ** (*гр.* eksarchos = кіраўнік, галава) — галава царкоўнай акругі ў праваслаўнай царкве.

**ЭКЗАТЭРЫ́ЧНЫ** (*гр.* eksoterikos = знешні) — агульнадаступны, прызначаны для неазнаёмленых з містычным, рэлігійным вучэннем (проціл. *эзатэрычны*).

**Э́КЗІТ-ПОЛ** (*англ.* exit-poll, ад exit = выхад + poll = падлік галасоў) — апытанне асоб, якія прымалі ўдзел у выбарах, аб выніках галасавання пры іх выхадзе з выбарчага ўчастка.

**ЭКЗО́ТЫКА** (*гр.* eksotikos = чужаземны) — 1) сукупнасць характэрных прадметаў, з'яў, рыс, уласцівых далёкім краінам, раёнам (напр. незвычайная прырода, звычаі, мастацтва паўднёвых краін з пункту гледжання жыхароў поўначы); 2) *перан.* нешта вычварнае, незвычайнае.

**ЭКЗЭМПЛЯ́Р** (*лац.* exemplar = узор) — 1) асобны прадмет з шэрагу аднародных прадметаў, асобная адзінка чаго-н. (напр. э. кнігі); 2) *перан.* асоба, якая вызначаецца незвычайнымі або адмоўнымі ўласцівасцямі (напр. загадкавы э.).

**ЭКІВО́К** (*фр.* équivoque, ад *лац.* aequivocus = двухсэнсоўны) — двухсэнсоўнасць, двухсэнсоўны намёк, выкрутас.

**ЭКІПІ́РАВАЦЬ** (*фр.* équiper) — забяспечваць каго-н., што-н. усім неабходным (напр. э. атрад).

**ЭКЛЕКТЫ́ЗМ** (*фр.* éclectisme, ад *гр.* eklektikos = які выбірае) — механічнае аб'яднанне розных, часта нават супрацьлеглых прынцыпаў, поглядаў, мастацкіх элементаў і г. д.

**ЭКЛЕКТЫ́ЧНЫ** (*гр.* eklektikos = які выбірае) — які мае адносіны да *эклектызму*, прасякнуты эклектызмам (напр. э-ыя погляды, э-ая будова).

**ЭКРА́Н** (*фр.* écran) — 1) заслона, якая засцерагае ад уздзеяння шкодных прамянёў, магнітнага поля, гарачыні, святла і інш. (напр. радыяцыйны э.); 2) паверхня для ўзнаўлення светлавых адбіткаў (напр. э. тэлевізара); 3) нацягнутая на раму белая тканіна для дэманстрацыі фільмаў, дыяпазітываў і інш.; 4) *перан.* кінамастацтва (напр. навіны экрана).

**ЭКСГУМА́ЦЫЯ** (*п.-лац.* exhumatio, ад *лац.* ex = з + humus = зямля) — даставанне трупа з месца пахавання для судова-медыцынскага даследавання.

**ЭКСКЛЮЗІ́ЎНЫ** (*англ.* exclusive, ад *лац.* excludere = выключаць) — выключны, прадастаўлены толькі для пэўнай арганізацыі або асобы, напр. права на вытворчасць чаго-н. або на распаўсюджанне інфармацыйных матэрыялаў (напр. э-ыя паўнамоцтвы, э-ае інтэрв'ю).

**Э́КСКУРС** (*лац.* excursus) — адступанне ад галоўнай тэмы выкладання для асвятлення пабочнага або дадатковага пытання (напр. э. у мінулае).

**ЭКСКУ́РСІЯ** (*лац.* excursio = паездка) — калектыўнае наведванне музея, выстаўкі, гістарычнага помніка, выдатных мясцін з вучэбнай або культурна-асветніцкай мэтай, а таксама група ўдзельнікаў такога наведвання.

**ЭКСЛІ́БРЫС** (*лац.* ex libris = з кніг) — па-мастацку аформлены кніжны знак, наклеены або адціснуты на адвароце вокладкі, які ўказвае на прыналежнасць кнігі пэўнаму ўладальніку.

**ЭКСПАЗІ́ЦЫЯ** (*лац.* expositio = выкладанне, паказ) — 1) размяшчэнне выставачнага матэрыялу, экспанатаў для агляду (напр. музейная э.); 2) уступная частка літаратурнага твора, у якой апісваюцца абставіны, што папярэднічаюць пачатку дзеі, развіццю сюжэта; 3) першы раздзел музычнага твора (санаты, фугі), дзе выкладаецца яго асноўная тэма; 4) колькасць асвятлення, якую атрымлівае святлоадчувальны матэрыял у час фатаграфавання або кіназдымкі.

**ЭКСПАНА́Т** (*лац.* exponatus = выстаўлены напаказ) — прадмет, выстаўлены для агляду ў музеі ці на выстаўцы (напр. рэдкі э.).

**ЭКСПАНЕ́НТ** (*лац.* exponens, -ntis = які выстаўлае напаказ) — 1) асоба або арганізацыя, якая выстаўляе на выстаўцы свае *экспанаты*; 2) *мат.* паказчык ступені.

**ЭКСПАНСІ́ЎНЫ** (*фр.* expansif, ад *лац.* expansio = пашырэнне, распаўсюджанне) — нястрыманы, які бурна выражае свае пачуцці.

**ЭКСПА́НСІЯ** (*лац.* expansio = пашырэнне, распаўсюджанне) — 1) распаўсюджанне чаго-н. за першапачатковыя межы; 2) пашырэнне сферы ўплыву дзяржаў, грамадскіх

груп, арганізацый, якое ажыццяўляецца прымусовымі або якімі-н. іншымі сродкамі (напр. эканамічная э.).

**Э́КСПАРТ** (*англ.* export, ад *лац.* exportare = вывозіць) — 1) выбаз тавараў за мяжу для рэалізацыі на знешнім рынку (проціл. *імпарт* 1); 2) агульная колькасць або агульны кошт тавараў, вывезеных якой-н. краінай, а таксама сам вывезены тавар (проціл. *імпарт* 2).

**ЭКСПАРЦЁР** (*фр.* exporteur, ад *лац.* exportare = вывозіць) — краіна, установа або асоба, якія займаюцца *экспартам* 1 (проціл. *імпарцёр*).

**ЭКСПАТРЫЯ́ЦЫЯ** (*с.-лац.* expatriatio, ад *лац.* ex = з + patria = радзіма) — добраахвотнае або прымусовае высяленне каго-н. за межы радзімы, звязанае звычайна з пазбаўленнем грамадзянства.

**ЭКСПЕДЫ́ЦЫЯ** (*лац.* expeditio) — 1) адпраўка і рассылка чаго-н. (карэспандэнцыі, тавараў і інш.); 2) установа або аддзел установы, які займаецца адпраўкай і рассылкай чаго-н. (напр. э. выдавецтва); 3) паездка, паход групы асоб з якім-н. спецыяльным заданнем, а таксама ўдзельнікі гэтай паездкі, паходу (напр. палярная э., дыялекталагічная э.); 4) ваенная аперацыя, якая праводзіцца ўзброенымі сіламі ў аддаленай мясцовасці, а таксама ўзброеныя сілы, прызначаныя для такой аперацыі.

**ЭКСПЕ́РТ** (*фр.* expert, ад *лац.* expertus = вопытны) — спецыяліст, якога запрашаюць для правядзення *экспертызы* па якім-н. спрэчным ці няясным пытанні, напр. у судовай практыцы.

**ЭКСПЕРТЫ́ЗА** (*фр.* expertise, ад *лац.* expertus = вопытны) — вывучэнне спецыялістам (*экспертам*) пытанняў, для вырашэння якіх патрэбны спецыяльныя веды ў галіне навукі, тэхнікі, мастацтва і г. д. (напр. бухгалтарская э., судовая э.).

**ЭКСПЕРЫМЕ́НТ** (*лац.* experimentum = вопыт, практыка) — 1) навукова пастаўлены дослед (напр. правесці э.); 2) спроба ажыццявіць што-н. (напр. смелы э.).

**ЭКСПІРА́ЦЫЯ** (*лац.* expiratio) — *мед.* выдых, выдыханне (параўн. *інспірацыя*).

**ЭКСПЛІКА́ЦЫЯ** (*лац.* explicatio = тлумачэнне) — 1) тлумачэнне ўмоўных абазначэнняў на планах, картах; легенда;

2) кароткае пісьмовае суправаджэнне экспазіцыі музея або выстаўкі.

**ЭКСПЛІЦЫ́ТНЫ** (*фр.* explicite, ад *лац.* explicitus = прыведзены ў парадак) — яўна выражаны, які знешне праяўляецца, відавочны (проціл. *імпліцытны*).

**ЭКСПЛУАТА́ЦЫЯ** (*фр.* exploitation) — 1) прысваенне прадуктаў чужой працы ўласнікамі сродкаў вытворчасці (напр. э. працоўных); 2) выкарыстанне прыродных багаццяў, зямлі, прамысловых прадпрыемстваў, транспарту, будынкаў і г. д.

**ЭКСПО́** [*фр.* expo(sition) = выстаўка] — міжнародная выстаўка, звычайна з лічбай, якая ўказвае год (напр. Экспо-2004).

**ЭКСПРАПРЫЯ́ЦЫЯ** (*фр.* expropriation, ад *лац.* ex = з + proprius = уласны) — прымусовае адабранне маёмасці, сродкаў вытворчасці, якое праводзіцца дзяржаўнымі органамі.

**ЭКСПРО́МТ** (*лац.* expromtus = гатовы) — невялікі верш, музычны твор, кароткая прамова, створаныя адразу, у момант выканання.

**ЭКСПРЭ́С** (*англ.* express, ад *лац.* expressus = узмоцнены) — поезд, судна або аўтобус, якія ідуць з найбольшай скорасцю і робяць прыпынкі толькі на буйных станцыях.

**ЭКСПРЭ́СІЯ** (*лац.* expressio = выражэнне) — выразнасць, сіла выражэння пачуццяў, перажыванняў (напр. э. слова, э. колеру).

**ЭКСТА́З** (*гр.* ekstasis = захапленне, раз'юшанасць) — найвышэйшая ступень захаплення, пры якой чалавек даходзіць да самазабыцця.

**ЭКСТРААРДЫНА́РНЫ** (*лац.* extraordinarius, ад extra = паза + ordinarius = звычайны) — 1) надзвычайны, рэдкі (напр. э-ая сустрэча); 2) *уст.* пазаштатны (напр. э. прафесар); проціл. *ардынарны* 2.

**ЭКСТРАВАГА́НТНЫ** (*фр.* extravagant, ад *лац.* extra = звыш + vagari = распаўсюджвацца) — незвычайны, які разыходзіцца з агульнапрынятымі звычаямі (напр. э. учынак).

**ЭКСТРАВЕ́РТ** (*англ.* extravert, ад *лац.* extra = па-за + vertere = паварочваць) — *псіх.* чалавек, псіхічны склад якога характарызуецца накіраванасцю на знешні свет, на кантакты з людзьмі (проціл. *інтраверт*).

**ЭКСТРАДЫ́ЦЫЯ** (*фр.* extradition, ад *лац.* ex = з + traditio = перадача) — выдача замежнай дзяржаве асобы, якая парушыла законы гэтай дзяржавы.

**ЭКСТРА́КТ** (*лац.* extractus = выцягнуты, здабыты) — 1) лекавы прэпарат, атрыманы выцяжкай з раслінных або жывёльных тканак і растворany ў спірце ці ў вадзе; 2) прадукт, які атрымліваецца шляхам згушчэння сокаў ягад, пладоў (напр. малінавы э.).

**Э́КСТРАННЫ** (ад *лац.* extra = звыш, па-за) — 1) паспешны, тэрміновы (напр. э-ая тэлеграма); 2) надзвычайны, непрадугледжаны (напр. э-ая справа).

**ЭКСТРАПАЛЯ́ЦЫЯ** (*фр.* extrapolation, ад *лац.* extra = па-за, звыш + polire = рабіць гладкім) — пашырэнне вывадаў, атрыманых пры вывучэнні адной часткі з'явы, на іншыя яе часткі.

**ЭКСТРАСЭ́НС** (ад *лац.* extra = звыш + sensus = пачуццё, адчуванне) — чалавек, які валодае асобымі біяэнергетычнымі ўласцівасцямі і звышпачуццёвымі здольнасцямі, якія найчасцей выкарыстоўваюцца для дыягностыкі і лячэння хвароб.

**ЭКСТРЫ́М** (*англ.* extreme, ад *лац.* extremus = крайні) — тое, што выходзіць за межы звычайнага.

**ЭКСТРЭМА́ЛЬНЫ** (*англ.* extremal, ад *лац.* extremus = крайні) — крайні па сваім праяўленні, напр. па складанасці, цяжкасці, небяспецы і г. д. (напр. працаваць у э-ых умовах, э-ая сітуацыя).

**ЭКСТРЭМІ́ЗМ** (*фр.* extrémisme, ад *лац.* extremus = крайні) — схільнасць да крайніх поглядаў і крайніх мер, пераважна ў палітыцы.

**ЭКСТРЭМІ́СТ** (*фр.* extrémiste, ад *лац.* extremus = крайні) — прыхільнік *эстрэмізму*.

**Э́КСТЭЗІ** (*англ.* extasy, ад *гр.* extasis = захапленне, раз'юшанасць) — полісінтэтычны наркотык у выглядзе таблетак, які ўзбуджае нервовую сістэму.

**ЭКСТЭНСІ́ЎНЫ** (*лац.* extensivus = расшыральны, працяглы) — звязаны толькі з колькасным павелічэннем без паляпшэння якасці (напр. э-ае расшырэнне рынкаў).

**ЭКСТЭР'ЕР** (*фр.* extérieur = знешні) — знешні выгляд і склад цела жывёлы (параўн. *інтэр'ер* 2).

**ЭКСЦЭНТРЫ́ЧНЫ** (*фр.* excentrique, ад *лац.* ex = з, паза + centrum = цэнтр) — незвычайны, дзіўны, вельмі своеасаблівы (напр. э. учынак, э-ыя паводзіны).

**ЭКСЦЭ́С** (*лац.* exseccus = выхад, ухіленне) — 1) крайняе праяўленне чаго-н., няўстрыманасць; 2) парушэнне нармальнага ходу чаго-н., напр. грамадскага парадку.

**ЭКУМЕНІ́ЗМ** (ад *гр.* oikumene = Сусвет) — рух за аб'яднанне ўсіх хрысціянскіх цэркваў.

**ЭКШН** (*англ.* action) — фільм у жанры баевіка з пастановачнымі трукамі.

**ЭЛАСТЫ́ЧНЫ** (*н.-лац.* elasticus, ад *гр.* elastikos = пругкі) — 1) пругкі, гнуткі, здольны расцягвацца і вяртацца ў ранейшы стан (напр. э. бінт, э-ыя калготкі); 2) *перан.* мяккі, плаўны, павольны (напр. э-ыя рухі).

**ЭЛЕГА́НТНЫ** (*фр.* élégant, ад *лац.* elegans, -ntis = вытанчаны) — 1) зграбны, прыгожы (напр. э. касцюм); 2) з густам апрануты (напр. э-ая жанчына).

**ЭЛЕКТАРА́Т** (*англ.* electorat, ад *лац.* elector = выбаршчык) — сукупнасць выбаршчыкаў, што галасуюць за якую-н. палітычную партыю або за якога-н. палітычнага дзеяча на парламенцкіх, прэзідэнцкіх або муніцыпальных выбарах.

**ЭЛЕКТРО́Д** (ад *гр.* elektron = янтар + hodos = дарога) — 1) праваднік, якім заканчваецца ўчастак электрычнага ланцуга; 2) састаўная частка гальванічнага элемента, матэрыял якога непасрэдна ўдзельнічае ў электрахімічнай рэакцыі; 3) праваднік у выглядзе сеткі або пласціны, змешчаны ўнутры электроннай лямпы з мэтай стварэння электрычнага поля.

**ЭЛЕКТРО́НІКА** (*англ.* electronics, ад *гр.* elektron = янтар) — 1) раздзел фізікі, які вывучае электронныя працэсы ў вакууме, газах, цвёрдых целах; 2) галіна тэхнікі, якая звязана з вытворчасцю і прымяненнем электронных прыбораў; 3) электронныя прыборы, устройствы, машыны.

**ЭЛЕКТРЫФІКА́ЦЫЯ** (ад *гр.* elektron = янтар + *лац.* facere = рабіць) — шырокае прымяненне электрычнай энергіі ў вытворчасці і быце.

**ЭЛЕМЕ́НТ** (*лац.* elementum = стыхія, першапачатковае рэчыва) — 1) простае рэчыва, якое ўжо нельга раскласці на больш дробныя (напр. перыядычная сістэма элементаў);

2) састаўная частка чаго-н.; дэталь якога-н. механізма; 3) доля чаго-н. у чым-н. (напр. усходнія элементы ў паэзіі); 4) член сацыяльнай групы (напр. прагрэсіўныя элементы грамадства, злачынныя элементы).

**ЭЛЕМЕНТА́РНЫ** (*лац.* elementarius) — 1) зыходны, пачатковы (напр. э-ая матэматыка); 2) прасцейшы, нескладаны (напр. э. схема); 3) асноўны, самы неабходны (напр. э-ыя ўмовы); 4) найменшы з вядомых, з наяўных (напр. э-ыя часціцы).

**ЭЛІКСІ́Р** (*фр.* élixir, ад *ар.* al-iksir = філасофскі камень) — 1) выцяжка з раслін ці моцны настой чаго-н. на спірце, які ўжываецца ў медыцыне і касметыцы (напр. зубны э.); 2) фантастычны напітак, які марна шукалі алхімікі як сродак, што нібыта зможа прадоўжыць чалавечае жыццё.

**ЭЛІ́ТА** (*фр.* élite) — 1) адборныя расліны або жывёлы, пакінутыя для вывядзення сорту ці пароды (напр. э. пшаніцы); 2) лепшыя прадстаўнікі якой-н. часткі грамадства (напр. тэатральная э.); 3) група асоб, якая ажыццяўляе кіроўныя функцыі ў грамадстве (напр. палітычная э.).

**ЭМАНСІПА́ЦЫЯ** (*лац.* emancipatio) — вызваленне ад якой-н. залежнасці, прыгнёту, забабонаў; ураўноўванне ў правах (напр. э. жанчын).

**ЭМБА́РГА** (*ісп.* embargo = накладванне арышту, забарона) — 1) забарона на ўвоз у краіну ці вываз за яе межы золата, пэўных відаў тавараў, зброі і інш.; 2) затрыманне суднаў і грузаў, якія належаць іншай дзяржаве, у сувязі з палітычнымі ўскладненнямі.

**ЭМІГРА́НТ** (*лац.* emigrans, -ntis = які высяляецца, выязджае) — асоба, якая перасялілася са сваёй краіны ў чужую па палітычных, эканамічных, рэлігійных ці іншых прычынах (параўн. *імігрант* 1, *мігрант* 1).

**ЭМІГРА́ЦЫЯ** (*лац.* emigratio = высяленне, выезд) — 1) перасяленне людзей з краіны, дзе яны жылі, у чужую краіну па палітычных, эканамічных і іншых прычынах (параўн. *іміграцыя* 1, *міграцыя* 1); 2) сукупнасць *эмігрантаў*, што пражываюць у якой-н. краіне.

**ЭМІ́Р** (*ар.* amir = уладар) — тытул правіцеля ў некаторых мусульманскіх краінах Усходу і Афрыкі, а таксама асоба, якая мае гэты тытул.

**ЭМІСА́Р** (*лац.* emissarius = пасланец) — асоба, якую пасылаюць у іншую краіну з сакрэтным палітычным даручэннем.

**ЭМІ́СІЯ** (*лац.* emissio = выпуск) — выпуск у абарачэнне папяровых грошай і каштоўных папер.

**ЭМІТЭ́НТ** (*лац.* emittens, -ntis = які выпускае) — банк або ўстанова, якія праводзяць *эмісію.*

**ЭМО́ЦЫІ** (*фр.* émotion, ад *лац.* emovere = хвалявацць) — душэўныя перажыванні, пачуцці, хваляванні (напр. э. радасці, э. страху).

**ЭМПІРЫ́ЗМ** (*фр.* empirisme, ад *гр.* empeiria = вопыт) — філасофскі напрамак, які прызнае пачуццёвае ўспрыманне і вопыт адзінай крыніцай пазнання і прыніжае значэнне лагічнага аналізу і тэарэтычных абагульненняў.

**Э́НДШПІЛЬ** (*ням.* Endspiel) — заключная стадыя шахматнай або шашачнай партыі (параўн. *дэбют* 2, *мітэльшпіль*).

**ЭНЕРГЕ́ТЫКА** (*гр.* energetikos = які датычыць энергіі) — 1) навука, якая вывучае працэсы вытворчасці, пераўтварэння, перадачы і выкарыстання розных відаў энергіі (напр. ядзерная э.); 2) галіна эканомікі, якая займаецца практычным выкарыстаннем гэтых працэсаў.

**ЭНЕ́РГІЯ** (*гр.* energeia = дзеянне, дзейнасць) — 1) мера руху матэрыі і яе здольнасць выконваць работу (напр. сонечная э., ядзерная э.); 2) рашучасць і настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты (напр. працаваць з энергіяй).

**ЭНТРАПІ́Я** (*гр.* entropia, ад en = унутр + trope = паварот, пераўтварэнне) — 1) фізічная велічыня, якая характарызуе цеплавы стан цела або сістэмы цел; 2) *інф.* мера няпэўнасці сітуацыі з канчатковым або цотным лікам зыходаў.

**ЭНТУЗІЯ́ЗМ** (*гр.* enthusiasmos) — высокая ступень натхнення, душэўны ўздым (напр. працоўны э.).

**ЭНТУЗІЯ́СТ** (*гр.* enthusiastes = натхнёны) — чалавек, ахоплены *энтузіязмам*, натхнёны якой-н. ідэяй (напр. э. навукі).

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫ́ЗМ** (*фр.* encyclopédisme, ад *лац.* encyclopaedia < *гр.* enkyklopaedia = круг ведаў) — усебаковая адукаванасць, глыбокая дасведчанасць у розных галінах ведаў.

**ЭНЦЫКЛАПЕ́ДЫЯ** (*фр.* encyclopédie < *лац.* encyclopaedia, ад *гр.* enkyklopaedia = круг ведаў) — навуковае даведачнае выданне ў выглядзе слоўніка, дзе даюцца асноўныя звесткі па ўсіх або па асобных галінах ведаў.

**ЭНЦЫ́КЛІКА** (*н.-лац.* encyclica, ад *гр.* enkyklios = кругавы) — афіцыйнае пасланне папы рымскага да ўсіх католікаў або да вернікаў якой-н. адной краіны па пытаннях рэлігіі, маралі, палітыкі, выхавання і інш.

**ЭПАПЕ́Я** (*гр.* epopoiia) — 1) вялікі твор эпічнага жанру, у якім апісваюцца значныя гістарычныя падзеі; 2) *перан.* шэраг значных падзей, якія ўтвараюць адно цэлае (напр. э. партызанскай барацьбы).

**Э́ПАС** (*гр.* epos = слова, апавяданне) — 1) гераічныя народныя паданні (напр. былінны э.); 2) адзін з трох асноўных родаў мастацкай літаратуры (побач з *драмай* і *лірыкай*); апавядальныя творы (напр. раман — адзін з жанраў эпасу).

**ЭПАТА́Ж** (*фр.* épatage) — скандальная выхадка; паводзіны, якія парушаюць агульнапрынятыя нормы і правілы.

**ЭПАЦІ́РАВАЦЬ** (*фр.* épater) — уражваць, здзіўляць незвычайнымі паводзінамі, скандальнымі ўчынкамі, парушэннем агульнапрынятых норм і правіл.

**ЭПІГО́Н** (*фр.* épigone, ад *гр.* epigonos = нашчадак) — паслядоўнік якога-н. навуковага, палітычнага, мастацкага напрамку, які механічна паўтарае ідэі і метады сваіх папярэднікаў і нічога не ўносіць новага сам.

**ЭПІГРА́МА** (*гр.* epigramma = надпіс) — кароткі сатырычны верш, у якім дасціпна высмейваецца пэўная асоба ці грамадская з'ява.

**ЭПІДЭ́МІЯ** (*гр.* epidemia, ад epi = на, сярод + demos = народ) — 1) шырокае распаўсюджанне якой-н. інфекцыйнай хваробы (напр. э. грыпу); 2) *перан.* хуткае пашырэнне чаго-н. (напр. э. рок-музыкі).

**ЭПІЗО́Д** (*фр.* épisode, ад *гр.* episodion = устаўка, дадатак) — 1) выпадак, здарэнне, адзін з момантаў у ходзе падзей (напр. э. гісторыі, э. бою); 2) адносна закончаная частка мастацкага твора (напр. э. з рамана).

**ЭПІЛЕ́ПСІЯ** (*гр.* epilepsia) — хранічная хвароба галаўнога мозгу, якая выклікае сутаргавыя прыступы са стратай прытомнасці; падучая хвароба.

**ЭПІЛО́Г** (*гр.* epilogos, ад epi = пасля + logos = слова) — 1) заключная частка літаратурнага твора, у якой паведамляецца пра далейшы лёс герояў; 2) заключная сцэна ў оперы; 3) *перан.* завяршэнне, развязка чаго-н.

**ЭПІСТАЛЯ́РНЫ** (*фр.* épestolaire, ад *лац.* epistola < *гр.* epistole = пісьмо) — 1) які датычыць літаратурных твораў, напісаных у форме пісем (напр. э. раман, э. стыль); 2) які з'яўляецца сукупнасцю чыіх-н. пісем (напр. э-ая спадчына Янкі Купалы).

**ЭПІТА́ФІЯ** [*гр.* epitaphios (logos) = надмагільнае слова] — 1) надпіс на надмагільнай пліце; 2) кароткі верш, напісаны з выпадку чыёй-н. смерці.

**ЭПІЦЭ́НТР** (*п.-лац.* epicentrum, ад *гр.* epi = над + kentron = = цэнтр) — 1) вобласць на паверхні Зямлі, размешчаная непасрэдна над ачагом землетрасення або выбуху; 2) *перан.* месца, дзе з найбольшай сілай праяўляецца якая-н. з'ява, падзея (напр. э. пажару, у эпіцэнтры падзей).

**ЭПО́ХА** (*гр.* epoche = прыпынак) — вялікі прамежак часу, які выдзяляецца па характэрных падзеях, з'явах (напр. э. Адраджэння, ледніковая э.).

**ЭРГАНО́МІКА** (*англ.* ergonomics, ад *гр.* ergon = работа + nomos = закон) — галіна ведаў, якая вывучае чалавека і яго дзейнасць ва ўмовах сучаснай вытворчасці з мэтай аптымізацыі прылад, умоў і працэсу працы.

**ЭРЗА́Ц** (*ням.* Ersatz = *літар.* замена) — тое, што і *сурагат* 1.

**ЭРО́ТЫКА** (*гр.* erotikos = любоўны) — 1) пачуццёвасць, цікавасць да аголенага цела, да палавых адносін; 2) адлюстраванне аголенага цела і палавых адносін у літаратуры, жывапісе, кіна- і фотамастацтве, а таксама творы, якія змяшчаюць такое адлюстраванне.

**ЭРУДЫ́Т** (*лац.* eruditus = адукаваны, вучоны) — асоба, якая вылучаецца вялікай *эрудыцыяй*.

**ЭРУДЫ́ЦЫЯ** (*лац.* eruditio = вучонасць, адукаванасць) — начытанасць, глыбокія і ўсебаковыя веды, дасведчанасць у адной ці некалькіх галінах навукі.

**ЭРЫ́СТЫКА** (*гр.* eristikos = які спрачаецца) — майстэрства спрачацца, умельства палемізаваць з праціўнікам, выкарыстоўваючы яго промахі.

**ЭРЭТЫ́ЗМ** (*гр.* erethismos) — *мед.* павышаная нервова-псіхічная ўзбуджальнасць і раздражняльнасць.

**ЭСКАЛА́ТАР** (*англ.* escalator, ад *лац.* scala = лесвіца) — прыстасаванне ў выглядзе рухомай лесвіцы з прыступкамі для пад'ёму і спуску людзей або грузаў на розныя ўзроўні (напр. э. метрапалітэна, э. судна).

**ЭСКАЛА́ЦЫЯ** (*англ.* escalation) — паступовае ўзмацненне, пашырэнне, нарошчванне чаго-н. (напр. э. ваенных дзеянняў, э. агрэсіі).

**ЭСКАПА́ДА** (*фр.* escapade, ад *іт.* scappata) — экстравагантная выхадка, выпад.

**ЭСКАПІ́ЗМ** (*англ.* escapism, ад escape = бегчы, ратавацца) — імкненне адысці ад рэальнага жыцця, ад жыццёвых праблем у свет ілюзій, фантазій.

**ЭСКАПІ́СТ** (*англ.* escapist, ад escape = бегчы, ратавацца) — той, хто прытрымліваецца *эскапізму.*

**ЭСКАРТАВА́ЦЬ** (*фр.* escorter) — суправаджаць каго-н., што-н. у якасці *эскорта.*

**ЭСКІ́З** (*фр.* esquisse) — 1) папярэдні накід малюнка, карціны; накід, план літаратурнага або музычнага твора; 2) малюнак, па якім ствараецца дэкарацыя, тэатральны касцюм і інш.

**ЭСКО́РТ** (*фр.* escorte. ад *іт.* scorta) — 1) канвой, ахова, суправаджэнне каго-н. (напр. ганаровы э., э. матацыклістаў); 2) група ваенных суднаў, прызначаная для аховы транспартных суднаў пры марскім пераходзе.

**ЭСПЕРА́НТА** (*эсп.* esperanto, ад *лац.* sperare = спадзявацца) — штучная міжнародная мова, створаная ў 1887 г. варшаўскім урачом Л. Заменгофам.

**ЭСТАКА́ДА** (*фр.* estacade, ад *іт.* steccata = загарода) — надземнае збудаванне маставога тыпу ў месцы перасячэння шляхоў для пропуску транспарту, пешаходаў, пракладвання інжынерных камунікацый і інш.

**ЭСТА́МП** (*фр.* estampe) — адбітак мастацкага відарыса з друкарскай формы, выкананай мастаком або майстрам-гравёрам.

**ЭСТАФЁТА** (*фр.* estafette < *іт.* stafetta, ад staffa = стрэмя) — спаборніцтва спартыўных каманд па бегу ці плаванню са зменай удзельнікаў на дыстанцыі і перадачай умоўнага прадмета, а таксама прадмет, які перадаецца на такім спаборніцтве.

**ЭСТРА́ДА** (*фр.* estrade, ад *ісп.* estrado = памост) — 1) пляцоўка для канцэртных выступленняў (напр. адкрытая э.); 2) від выканаўчага мастацтва, які ўключае малыя формы драматургіі, вакальнага мастацтва, музыкі, харэаграфіі і г. д.

**ЭСТЭ́Т** (*фр.* esthéte, ад *гр.* aisthetes = які ўспрымае, адчувае) — 1) прыхільнік усяго прыгожага, вытанчанага; 2) чалавек, які больш цэніць у мастацтве форму, чым змест.

**ЭСТЭ́ТЫКА** (*гр.* aisthetikos = які адносіцца да пачуццёвага ўспрымання) — 1) навука аб прыгожым, аб ідэйнай сутнасці і формах прыгожага ў мастацкай творчасці, у прыродзе і ў жыцці; 2) прыгажосць, мастацкасць чаго-н. (напр. э. архітэктуры, э. адзення).

**ЭСЭ́** (*фр.* essai = *літар.* спроба) — нарыс, публіцыстычны *эцюд*, які трактуе літаратурныя, філасофскія, сацыяльныя праблемы ў вольнай форме.

**ЭСЭІ́СТ** (*фр.* essayiste) — пісьменнік, які распрацоўвае жанр *эсэ*.

**ЭТАЛО́Н** (*фр.* étalon) — 1) дакладны ўзор устаноўленай адзінкі вымярэння (напр. э. вагі, э. метра); 2) *перан.* узор, стандарт для параўнання з чым-н. (напр. э. прыстойнасці).

**ЭТА́П** (*фр.* étape) — 1) момант, стадыя ў развіцці якога-н. працэсу (напр. э. будаўніцтва); 2) асобная частка шляху, дыстанцыі ў спартыўных спаборніцтвах (напр. э. велагонкі); 3) прыпынак на шляху руху (войск, арыштантаў).

**ЭТАТЫ́ЗМ** (*фр.* étatisme, ад état = дзяржава) — 1) напрамак палітычнай думкі, які разглядае дзяржаву як вышэйшы вынік і мэту грамадскага развіцця; 2) палітыка актыўнага ўдзелу дзяржавы ў эканамічным жыцці грамадства.

**ЭТАТЫ́СТ** (*фр.* étatiste, ад état = дзяржава) — прыхільнік *этатызму*.

**ЭТНАГРА́ФІЯ** (ад *гр.* ethnos = народ + grapho = пішу) — 1) навука, якая вывучае матэрыяльную і духоўную культуру народаў; 2) сукупнасць асаблівасцей быту, нораваў, звычаяў, культуры якога-н. народа або мясцовасці (напр. э. Палесся).

**Э́ТНАС** (*гр.* ethnos = народ) — устойлівая сацыяльная групоўка людзей, што склалася гістарычна (племя, народнасць, нацыя).

**ЭТНІ́ЧНЫ** (*гр.* ethnikos = народны) — які мае адносіны да пэўнага народа, яго побыту, нораваў, звычаяў, культуры.

**Э́ТЫКА** (*лац.* ethica, ад *гр.* ethikos = звязаны са звычаямі) — 1) вучэнне аб маралі як адна з форм ідэалогіі; 2) нормы паводзін чалавека ў грамадстве, мараль пэўнай грамадскай або прафесійнай групы (напр. спартыўная э., урачэбная э.).

**ЭТЫКЕ́Т** (*фр.* étiquette) — прыняты парадак паводзін чалавека ў якім-н. асяроддзі, у грамадстве (напр. дыпламатычны э., захоўваць э.).

**ЭТЫКЕ́ТКА** (*фр.* étiquette) — ярлык, наклейка на чым-н. (на тавары, упакоўцы, экспанаце і г. д.) з абазначэннем назвы, гатунку, цаны і інш.

**ЭТЫ́ЧНЫ** (*гр.* ethikos) — які адпавядае правілам *этыкі*, нормам паводзін (напр. э-ае выхаванне).

**ЭЎРЫ́СТЫКА** (ад *гр.* heurisko = знаходжу) — 1) сістэма лагічных прыёмаў і правіл тэарэтычнага даследавання; 2) метад навучання пры дапамозе наводных пытанняў.

**ЭЎТАНА́ЗІЯ** (*гр.* euthanasia, ад eu = добра + thanatos = = смерць) — добраахвотная, узгодненая з урачом смерць невылечна хворага з дапамогай спецыяльных абязбольвальных сродкаў.

**ЭЎФЕМІ́ЗМ** (*гр.* euphemismos, ад eu = добра + phemi = гавару) — слова або выраз, якім замяняюць непажаданы, грубы або непрыстойны выраз.

**ЭЎФУІ́ЗМ** (*англ.* euphuism, ад *гр.* euphyes = вытанчаны) — штучны, манерны, напышлівы стыль мовы.

**ЭФЕ́КТ** (*лац.* effectus = дзеянне) — 1) вынік якога-н. дзення (напр. эканамічны э., э. лячэння); 2) моцнае ўражанне ад каго-н., чаго-н. (напр. зрабіць э.); 3) сродак стварэння моцнага ўражання (напр. светлавы э., шумавы э.).

**ЭФЕ́КТНЫ** (*гр.* effectus = дзеянне) — які стварае ўражанне, разлічаны на тое, каб стварыць *эфект* 2 (напр. э-ае відовішча, э. гарнітур).

**ЭФЕКТЫ́ЎНЫ** (*лац.* effectivus) — які прыводзіць да патрэбных вынікаў, дзейсны (напр. э. метад).

**ЭФЕМЕ́РНЫ** (*гр.* ephemeros = аднадзённы) — 1) мімалётны, недаўгавечны (напр. э-ае існаванне); 2) уяўны, невыканальны (напр. э-ая задума, э-ыя надзеі).

**ЭФІ́Р** (*гр.* aither) — 1) *хім.* бясколерная лятучая вадкасць з рэзкім пахам, якая ўтвараецца пры злучэнні спірту з кіслотамі і выкарыстоўваецца ў медыцыне, парфумерыі, прамысловасці (напр. этылавы э.); 2) самы верхні чысты і празрысты слой паветра, дзе, паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, размяшчаюцца багі; 3) вобразная назва асяроддзя, дзе распаўсюджваюцца радыёхвалі; *выйсці ў эфір* — пачаць перадачы па радыё.

**ЭЦЮ́Д** (*фр.* étude) — 1) эскізная замалёўка часткі будучага жывапіснага твора, выкананая з натуры (напр. э. да карціны); 2) вучэбнае маляванне з натуры (напр. пайсці на эцюды); 3) музычны твор віртуознага характару (напр. эцюды Шапэна); 4) невялікі твор літаратурнага, навуковага характару, прысвечаны аднаму пытанню; 5) практыкаванне ў музычнай, тэатральнай, шахматнай тэхніцы (напр. рашыць шахматны э.).

**ЭШАФО́Т** (*фр.* échafaud) — памост для пакарання смерцю; *узысці на эшафот* — прынесці ў ахвяру жыццё.

## Ю

**ЮБІЛЕ́Й** [*лац.* jubilaeus (annus) = юбілейны год, ад *ст.-яўр.* jobel = бараноў рог] — гадавіна якой-н. падзеі, дзейнасці якой-н. асобы, існавання ўстановы, горада, а таксама святкаванне гэтай гадавіны.

**ЮБІЛЯ́Р** [*ням.* Jubilar, ад *лац.* jubilaeus (annus) = юбілейны год, ад *ст.-яўр.* jobel = бараноў рог] — асоба, установа, горад, чый *юбілей* адзначаецца.

**Ю́ЗЕР** (*англ.* user) — *жарг.* карыстальнік персанальным *камп'ютэрам.*

**ЮНІЁР** (*лац.* junior = малодшы) — спартсмен ад 18 да 20 гадоў, які ўдзельнічае ў спаборніцтвах сваёй узроставай групы.

**ЮПІ́ТЭР** (*лац.* Juppiter = імя вярхоўнага бога ў старажытнарымскай міфалогіі) — магутны электрычны асвятляльны прыбор, які выкарыстоўваецца пры кіназдымках.

**ЮРЫДЫ́ЧНЫ** (*лац.* juridicus = судовы) — 1) звязаны з прававымі нормамі і іх практычным прымяненнем (напр. ю-ая дапамога); 2) звязаны з вывучэннем права (напр.

ю-ая адукацыя); 3) які мае адносіны да арганізацыі работы ў галіне права (напр. ю-ая кансультацыя, ю-ыя органы).

**ЮРЫСДЫ́КЦЫЯ** (*лац.* jurisdictio = судаводства) — 1) права праводзіць суд, рашаць прававыя пытанні; 2) круг паўнамоцтваў судовага або адміністрацыйнага органа па прававой ацэнцы канкрэтных фактаў і прымяненню прадугледжаных законам санкцый.

**ЮРЫСКО́НСУЛЬТ** (*лац.* jurisconsultus = правазнавец) — службовая асоба юрыдычнай службы міністэрства, ведамства, прадпрыемства, установы, арганізацыі па практычных пытаннях права і абароны інтарэсаў гэтай арганізацыі ў юрыдычных органах.

**ЮРЫСПРУДЭ́НЦЫЯ** (*лац.* jurisprudentia = веданне права) — 1) сукупнасць навук аб праве; правазнаўства; 2) практычная дзейнасць *юрыстаў*.

**ЮРЫ́СТ** (*ням.* Jurist < *с.-лац.* jurista, ад *лац.* jus, juris = = права) — спецыяліст у галіне *юрыспрудэнцыі*, дзеяч судовых органаў.

**ЮСТЫ́ЦЫЯ** (*лац.* justitia = справядлівасць, законнасць) — 1) правасуддзе, судаводства; 2) сістэма судовых устаноў (напр. міністэрства юстыцыі).

## Я

**ЯКУ́ДЗА** (*яп.* jakudza) — мафія, арганізаваны злачынны свет у Японіі.

**Я́НКІ** (*англ.* yankee) — мянушка амерыканцаў, ураджэнцаў ЗША.

**Я́ПІ** [*англ.* yuppie, ад y(oung) u(rban) p(rofessional) p(erson) = *літар.* малады гарадскі прафесіянальны чалавек] — малады чалавек (пераважна ў ЗША), які арыентуецца на прафесіяналізм, кар'еру і высокі сацыяльны статус, што выражаецца ў манеры паводзін (падкрэсленая выхаванасць), вопратцы (строгі касцюм) і г. д.

**ЯРЛЫ́К** (*цюрк.* jarlyk) — 1) грамата ханаў Залатой Арды і крымскіх ханаў (XII—XV стст.); 2) лісток на чым-н. з назвай рэчы, указаннем нумара, месца вырабу, цаны або іншых звестак (напр. багажны я.); 3) *перан.* уласцівасць,

якасць, якая прыпісваецца каму-н. па традыцыі, звычцы (напр. вешаць я.).

**ЯТРАГЕ́НІЯ** (ад *гр.* iatros = урач + gennao = параджаю) — *мед.* захворванне, якое ўзнікае як рэакцыя на няправільна вытлумачаныя хворым словы або паводзіны ўрача, прачытаную медыцынскую літаратуру.

**Я́ХТА** (*англ.* yacht, ад *гал.* jacht) — невялікае паруснае, маторнае або парусна-маторнае судна, прызначанае для воднага спорту і прагулак.

**ЯХТ-КЛУ́Б** (*англ.* yacht-club) — спартыўная арганізацыя, якая аб'ядноўвае спартсменаў, што займаюцца водным спортам (парусным, вёсельным, маторным), а таксама водная станцыя такой арганізацыі.

**ЯХТСМЕ́Н** (*англ.* yachtsman, ад yacht = яхта + man = чалавек) — спартсмен, які займаецца водным спортам на *яхтах*.

# ЗМЕСТ

